Андрэй Чарнякевіч



# Памяць пра Гродна

*матэрыялы да біяграфічнага слоўніка постацей міжваеннага горада*

## 1919–1939 гг.

Гродна
«ЮрСаПрінт»
2015

УДК 94(476.6 - 25)"1919/1939"(092)(035.5)
ББК 63.3(4Беи)61я2
Ч 21

*Рэцэнзенты:*
доктар
Мілеўскі Я. Е.;
доктар гістарычных навук, прафесар
Швед В.В.;
доктар хабілітаваны гісторыі
Ціхарацкі П.

**Чарнякевіч, А.М.**

Ч 21 **Памяць** пра Гродна. Матэрыялы да біяграфічнага слоўніка постацей міжваеннага горада. 1919-1939 гг. / А.М. Чарнякевіч. – Гродна : ЮрСаПрінт, 2015. – 306 с.

ISBN 978-985-7134-05-2

У кнізе сабраны матэрыялы пра гістарычных асоб і іх радаводы. Біяграфічны даведнік прадстаўляе магчымасць пазнаёміцца з элітай міжваеннага Гродна 1919-1939 гг. Аўтар паспрабаваў як мага шырэй ахапіць паняцце «эліта». У спіс трапілі прадстаўнікі гарадскога самаўрада, адміністрацыі, рэдактары газет, настаўнікі, лекары, працаўнікі суда, буйныя гандляры і прамыслоўцы, прадстаўнікі кліра розных канфесій і непасрэдна актыўныя грамадска-палітычныя дзеячы.

**УДК 94(476.6 - 25)"1919/1939"(092)(035.5)**
**ББК 63.3(4Беи)61я2**

**ISBN 978-985-7134-05-2**

# Цені Гродна

*Oj Grodnienko, oj Grodnienko.*
*Ciebie kocha ktoś tak cienko,*
*że nie minie pokolenie,*
*jak zostaną z ciebie cienie...*

**Ludwik Sawoniewski**[1]

Гісторыя Гродна паміж дзвюма сусветнымі войнамі пакуль усе яшчэ не стала прадметам асобнага даследавання. Аднак, якой бы грунтоўнай і дасканалай ні была б гэта яшчэ не напісаная праца, яна не ў стане замяніць сабою вобраз горада, які ўжо паспеў ператварыцца ў самастойны аб'ект гістарычнай памяці. Ці не адзінае выключэнне складае кніга, пра існаванне якой большасць сённяшніх гарадзенцаў нават не здагадваецца: «Сага пра Гродна» – рыфмаваныя біяграфіі постацей міжваеннага горада, якія пакінуў былы гродзенскі прэфект ксёндз Людвік Саванеўскі[2].

Сам па сабе гэты твор застаецца ўнікальнай з'яваю. Спроба напісаць вершаваны мартыралог, прысвечаны сваім сучаснікам – гэта, перш за ўсе, своеасаблівы асабісты разлік з мінулым, справа маральнага абавязку. Аўтар «Сагі» намагаўся аб'яднаць адразу некалькі стыхій: асабістыя ўспаміны пра падзеі, у якіх яму прыйшлося адыгрываць самыя розныя ролі, спробу стварыць сучасны нацыянальны эпас і рыфмаваны слоўнік, у якім аказалася схаваным у паэтычных вобразах шмат таго, аб чым у іншым выглядзе выказацца было амаль немагчыма.

Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў Гродна жылі дзясяткі тысяч асоб. Калі ў канцы 1919 года колькасць жыхароў Гродна дасягала прыблізна 28 тысяч, то ўжо на верасень 1921 года іх было 34 тысячы, у 1924 годзе – 40 тысяч, а яшчэ праз тры гады – 45 тысяч. На 1939 год лічба жыхароў Гродна складала каля 50-55 тысяч чалавек[3]. І для большасці з іх вайна стала катастрофай, якая знішчыла гэты сусвет. Кніга Л. Саванеўскага фактычна стала нагодай, каб паспрабаваць перайсці гэту нябачную мяжу, што аддзяляе нас ад абшару «чужой» памяці. Біяграфіі людзей,

[1] Leonard i Ludwik Sawoniewscy. Ksiądz Ludwik Sawoniewski / Magazyn Polski. 1995. № 1 (15). S. 24.

[2] L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999.

[3] J.J. Milewski. Grodno – miasto i ludność w okresie międzywojennym // Grodno w XVIII wieku. Miasto i ludność (na tle trendów rozwojowych od średniowiecza do 1939 roku). – pod red. A.Woltanowskiego i J.Urwanowicza. Białystok, 1997. S. 196-198.

што калісьці ўвасаблялі гэты горад, у нейкім сэнсе «цёмная зона», дакрануцца да якой доўгі час падавалася амаль немагчымым. Менавіта «Сага» і падштурхнула скласці слоўнік эліты міжваеннага Гродна.

Але адна справа – развагі адносна міжваеннага горада, а зусім іншая – вызначэнне канкрэтных імёнаў. Тым больш, калі гаворка ідзе пра эліту. Таму першым крокам было вызначэнне асоб, якія павінны скласці аснову працы. Падставай выбару стала іх прафесійна-грамадская актыўнасць. У спіс трапілі прадстаўнікі гарадскога самаўрада, адміністрацыі, рэдактары газет, настаўнікі, лекары, працаўнікі суда, буйныя гандляры і прамыслоўцы, прадстаўнікі кліра розных канфесій і непасрэдна актыўныя грамадска-палітычныя дзеячы. Сярод асноўных крыніц варта адзначыць працы па гісторыі гродзенскіх могілак, спіс падаткаплацельшчыкаў яўрэйскай абшчыны, біяграфічны слоўнік беларускіх дзеячаў, слоўнікі па гісторыі польскай арміі ды польскага тэатра, архіўныя фонды. Аднак найперш «падмуркам» для слоўніка сталі імёны, якія ўзгадваў у сваёй кнізе ксёндз Л. Саванеўскі.

Гродна канчаткова апынуўся ў складзе Польскай дзяржавы з заканчэннем вайны з Савецкай Расіяй, калі горад афіцыйна ўвайшоў у склад Беластоцкага ваяводства. Праўда, пазней неаднаразова паўставала пытанне аб стварэнні асобнага Гродзенскага ваяводства, тым не менш ён так і застаўся цэнтрам павета, што ў значнай ступені вызначыла яго сацыяльна-эканамічнае і культурнае жыццё[4]. На чале мясцовай адміністрацыі ў розны час стаялі: камісар польскага ўрада па Гродзенскім павеце Станіслаў Іваноўскі (1918–1919), **старасты**: Казімір Рагалевіч (1919–1926), Альфонс Розен (1920), Зыгмунт Рабакевіч (1928–1932), Тадэвуш Валіцкі (на 1938–1939).

Амаль да канца 1920-х гадоў Гродна кіравалі магістрат ды гарадская Рада, абраная яшчэ ў час нямецкай акупацыі. Прадстаўнікоў самаўрада ў мясцовай прэсе нездарма называлі «айцамі горада». Праўда, падобны зварот у аднолькавай ступені мог быць як выразам павагі, так і, пры іншых абставінах, праяваю глыбокай самаіроніі. У гэты перыяд у склад магістрата ўваходзілі пяць-шэсць чалавек: прэзідэнт горада, віцэ-прэзідэнт, лаўнікі і сакратар[5]. **Прэзідэнтамі Гродна** на працягу наступных дваццаці год былі: Эдвард Лістоўскі (1919–1922), Эдвард Стэмпнеўскі (1922–1927), Казімір Рагалевіч (1927–1929), Антоні Ранчашак (1929–1930), Маўрыцы О'Брыен дэ Ласі (1930–1933), Казімір Суліструоўскі (1933–1934), Віктар Міскы (1934–1936), Вітольд Ценскі (1936–1939). **Віцэ-прэзідэнтамі**: Стэфан Цыдзік, Раман Савіцкі, Казімір Лашкевіч і інш. Лаўнікамі былі Самуэль Астрынскі, Юзаф Рубінраўт, Аўсей Сухаўлянскі, якія звычайна выконвалі абавязкі кіраўнікоў аддзелаў магістрата.

У **склад гарадской Рады** ў розны час уваходзілі радныя: Абрам Абрамовіч, Леон Абрамскі, Міхаіл Азіевіч, Павел Аляксюк, Шэйма Амдурскі, Ігнацый Астроўскі, Малка Атлас, Ю. Бадаш, Мардэхай Барадыцкі, Антоній Бартноўскі, Ноах Бас, Юзаф Бахмінскі, Юзаф Бяганскі, Зееў Вулф Берман, Х. Біргер, Эдвард Боднар, Усевалад Боеў, Давід Бравер, Хаім-Іцхак Бранервайн, Браўдэ Абрам, Абель Брусцін, Мар'ян Буда, Тэафіл Будзаноўскі, Казімір Бухалі, Алексы Бяляеў,

[4] W. Renik. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy lipiec-październik 2001. Pelplin-Gdańsk, 2001. S. 27.

[5] Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

Навум Ваеман, Лазар Вайсман, Валанскі Антоній, Ян Вашчук, Юзаф Вявюрскі, Мозес Гальпнер, Зыгмунт Гарбачэўскі, Казімір Гедройц, Абрам Гельборт, Шэвель Гітлер, Леібел Аарон Голдшміт-Гад, Юзаф Гула, Карл Гутман, Леон Гутоўскі, Альгерд Даніловіч, Рыгор Дулевіч, Юзаф Дэлімата, Часлаў Есман, Леон Завадскі, Абрам Задай, Станіслаў Земак, Юзаф Зімнох, Антоній Іглеўскі, Сымон Кабылка, Юзаф Кавальскі, Антоній Кажанеўскі, Уладыслаў Калянкевіч, Аляксандр Калецкі, Шэпшаль Капелман, Войцех Каркуць, Ехуда Карон, Ян Кеда, Ч. Кімчэ, Казімір Комар, Браніслаў Кузняк, Ян Кшывец, Абрам Ліпнік, Рафал Лобман, Абрам Любіч, Аляксандр Маеўскі, Леон Мазуркевіч, Уладзімір Мантур, Ізраэль Маркус, Мечыслаў Мацкевіч, Аўраам Менес, Аляксандр Мікульскі, Станіслаў Наленч, Віктар Нелубовіч, Стэфанія Ностіц-Яцкоўская, Ян Падвінскі, Ганна Пазняк, Палніцкі Навум, Абрам Памеранц, Міхал Панасюк, Віктар Пачобут, Багуслаў Піндэльскі, Рамуальд Пулян, Рышард Пушкевіч, Вінцэнт Радаш, Ян Ратай, Станіслаў Рашкоўскі, Арон Рубінзон, Арон Рубінштэйн, Меер Рубінштэйн, Ян Ружанскі, Ісаак Рутэн, Віталіс Рэцько, Юзаф Савіцкі, І. Сакалоўскі, Грыгорый Сідарэвіч, Юзаф Сікорскі, Станіслаў Скаўронскі, Юзаф Ставецкі, Эдвард Струпінскі, Юдэль Талкоўскі, Станіслаў Тамічэк, Абба Тарлоўскі, Канстанты Тэрлікоўскі, Абрам Троп-Крынскі, Юзаф Улас, М. Франк, М. Халперн, Аляксандр Ханеўскі-Тамашэўскі, Марк Хвілявіцкі, Зыгмунд Цыбульскі, Стэфан Цыдзік, Сымон Цыловіч, Ежы Цытаржынскі, Ян Шэпсяк, Уладзімір Шэршань, Н. Эпштэйн, Шалома Эпштэйн, Якаў Эфрон, Стэфан Юркевіч, Арон Язерскі, Ян Якімовіч, Саламон Яноўскі, Павел Янушкевіч, Генрык Яраш, Ян Ястшэбскі, А. Яффе.

Цікава, што за ўсе дваццаць год у гарадской Радзе былі толькі чатыры жанчыны: Ядвіга Беняшувна, Эмілія Гутоўская, Адэлія Стэфановіч-Навіцкая і Вікторыя Чапувна[6].

Легітымізацыя польскай прысутнасці ў горадзе, адбывалася, перш за ўсё, праз прававую сістэму ўлады. Гэта галіна грамадскага жыцця была прадстаўлена паліцыяй (**кіраўнікі паліцыі**: Юзаф Радзіеўскі (1924), Станіслаў Міцінскі (1926–1929), Юзаф Якубоўскі, Баруцкі Тэадор (на 1931–1935), падкамісар паліцыі ў Гродна Людвік Лукомскі (на 1926), В. Нагорскі (канец 1930), Ян Ярасінскі); пракуратурай (**гродзенскія пракуроры**: Мікалай Аніхімоўскі, Антоній Астроўскі, Юзаф Возняк, Аскар Дэсін, Аляксандр Здановіч, Уладыслаў Папоў, Эдвард Пшыбыльскі, Ежы Рабчэўскі, Юліян Сакіта, Канстанты Тэрлікоўскі, Міхал Чудзіновіч, Станіслаў Шаняўскі) і судовымі ўстановамі (**суддзі**: Ян Асецімскі, Фелікс Буракевіч, Казімір Бухалі, Леон Бяляўскі, Казімір Гедройц, Мар’ян Грыневіч, Часлаў Дамброўскі, Тадэвуш Зажыцкі, Мар’я Івашкевіч, Людвік Катлубай, Люцыян Лукашэвіч, Адольф Матушэвіч, Эдвард Мерле, Станіслаў Мілкоўскі, Стэфан Мурза-Мурзіч, Іахім Неўбаўэр, Мечыслаў Пацэвіч, Баляслаў Пушко, Ян Пяткевіч, Мечыслаў Скіргела, Дамінік Сташкевіч, Браніслаў Талочка, Казімір Урбановіч, Ігнацый Фабіяні, Пётр Хайноўскі, Люцыян Чапароўскі, Вітальд Шрэер, Юзаф Штахельскі, Рамуальд Шышкоўскі; **адвакаты**: Антоній Бартноўскі, Актавіян Буш, Алексы Бяляеў, Ісаак Гажанскі, Зыгмунт Гарбачэўскі, Маісей Глікфельд, Шымон Гліцэнштэйн, Юзаф Дамброва, Альгерд Даніловіч, Часлаў Есман, Антоні Жабакліцкі, Абрам Задай, Якуб Лайт, Рафал Лобман, Ян Макаль, Стэфан Паўловіч, Рамуальд Пулян, Анатоль Пясецкі, Леанард Радзевіч, Ян Ратай, Ісаак Рутэн, Густаў Рэйнхарт, Канстанцін Самарын, Бярнард Сыгал, Канстанты

[6] ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 107.

Тэрлікоўскі, Вінцэнт Фірстэнберг, Рахела Халезер, Антоні Шафловіч, Аўгустын Штэйнберг, Алена Эпштэйн, Грыгорый Яноўскі).

Яшчэ адным элементам, што адначасова меў глыбокі сімвалічны сэнс, была... гродзенская **турма**. У міжваеннае дваццацігоддзе яе ўзначальвалі: Адам Новак (1919–1922), Я.Слядзеўскі (1922–1923), В. Ляпарскі (1923–1925), Мечыслаў Кабылецкі (1925–1929), Грабоўскі (1929–1932), С. Тэадорчык (1932–1936), Курчык. Сюды ж можна яшчэ дадаць і **гарадскія пажарныя** службы, якія адказвалі за бяспеку ў горадзе (начальнікі Гродзенскай пажарнай каманды: Маўрыкій Валанскі (на 1926), Вінцэнт Карны (1920-я), Тадэвуш Паўлоўскі (1934–1935), Генрых Лушчкевіч (на 1937).

У горадзе знаходзіўся даволі вялікі **вайсковы гарнізон**, які налічваў некалькі тысяч салдат і афіцэраў. Камендантамі Гродзенскай крэпасці ў розны час былі: Войцех Фалевіч, Стэфан Макжэцкі, Францішак Маеўскі, Генрых Вейс, Юзаф Люберадзкі. Акрамя таго, у Гродна знаходзілася камандаванне акругай ІІІ-га корпуса (Адам Макжэцкі, Уладыслаў Франкоўскі, Юліуш Тарнава-Мальчэўскі, Леон Бярбецкі, Казімеж Дзержаноўскі, Аляксандр Літвіновіч, Міхал Карашэвіч-Такаржэўскі, Юзаф Альшына-Вільчынскі); камандаванне 29 пяхотнай дывізіі (Станіслаў Кваснеўскі, Францішак Клеберг, Вацлаў Пякарскі); 76-га Лідскага пяхотнага палка (Кардыян Заморскі і інш.); 81-га Гродзенскага пяхотнага палка імя караля Стэфана Баторыя (Уладыслаў Вайткевіч, Станіслаў Мачэк, Банашак Эдвард); 29-ы полк лёгкай артылерыі, 2-і дывізіён супрацьпаветранай артылерыі, 3-і дывізіён жандармерыі (адным з яго кіраўнікоў быў Ян Гажахоўскі), Корпус памежнай аховы.

У выніку, цэлы **шэраг вайскоўцаў** адзначыўся ў грамадска-палітычным і эканамічным жыцці горада. У тым ліку: Браніслаў Адамовіч, Ігнацы Азіевіч, Леапольд Акуліцкі, Уладзімір Арваніці, Ігнацы Баброўскі, Браніслаў Багатырэвіч, Францішак Віславух, Яўгеній Гадзіеўскі, Антоні Гурскі, Стэфан Елента, Антоній Іглеўскі, Казімір Йобель, Станіслаў Качынскі, Клімкоўскі, Станіслаў Кульчыцкі, Тадэвуш Лояк, Уладыслаў Міхальскі, Валяр'ян Млынец, Мар'ян Навіцкі, Міхал Нядзвецкі, Адольф Панчакевіч, Станіслаў Пшыбыльскі, Эдвард Пярковіч, Эдвард Раманоўскі, Ян Ружанскі, Казімір Савіцкі, Сакалоўскі, Бенядыкт Серафін, Юзаф Скварніцкі, Слаcкі, Юзаф Слешынскі, Канстанты Снітко, Мікалай Сулеўскі, Густаў Трускаласкі, Юзаф Уейскі, Освальд Франк, Мікола Фрэўнд-Красіцкі, Хадакоўскі, Рамуальд Харашоўскі, Хафбаўэр, Тадевуш Шалы, Вацлаў Шрэдэрс, Станіслаў Шыманоўскі-Шыманскі, Ян Шыманскі, Люцыян Янішэўскі, Станіслаў Ярэцкі.

Разам з новай уладаю змяніўся і эканамічны вектар мясцовага жыцця. Да **найбуйнейшых прадпрыемстваў** у горадзе адносіліся: прадпрыемства керамічнай вытворчасці; ліцейня сельскагаспадарчых прыладаў; фабрыка ігральных карт Лапіна (адна з найбуйнейшых у краі); фабрыка мазуту Браўна; піўныя заводы Слуцкага, Марголіса і Велера; фабрыка запалак «Marjos»; фабрыка веласіпедаў і матацыклаў Старавольскага і інш. Акрамя таго, польскі ўрад выкупіў усе тытунёвыя фабрыкі ў горадзе, у тым ліку вядомую фабрыку Шарашэўскіх. У выніку паўстае адзіная Дзяржаўная фабрыка тытунёвых вырабаў[7].

У Гродна дзейнічаў цэлы шэраг **прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў**: Вільгельм і Мечыслаў Альбрэхты, Аскар Аркін, Ігнацый Астроўскі, Станіслаў Багдановіч, Бадылкес, Пётр Бароўскі, Вацлаў Барсукевіч, Берэль Бурдэ, Ян Валіцкі,

[7] J. J. Milewski Grodno – miasto i ludność... S. 201.

Мікалай Васілевіч, Ян Васілеўскі, Беньямін Велер, Раман Данілеўскі, Андрэй Дэршэнь, Бярнард Закхейм, Эльяш Іберскі, Саламон Каган, Казлоўскі, Ашэр Касоўскі, Юзаф-Напалеон Катоўскі, Міхал Кашкевіч, Абрам Кравец, Ксаверы Крамкоўскі, Ісаак Кузніцкі, Францішак Кунц, Вацлаў Куявінскі, Максімільян Ландштэйн, Давід Лапідус, Аляксандр Лапін, Мар'ян Лаўрэ, Станіслаў Левандовіч, Міхал Левандоўскі, Давід Левін, Лазар Мейлаховіч, Гірш Прудоўскі, Генрых Свяхоўскі, Казімір Сташэўскі, Лазар і Нахім Старавольскія, Станіслаў Тамічэк, Канстанцін Тарасевіч, Уладыслаў Унукоўскі, Нісан Феін, Давід Фромберг, Навум Фрэйдовіч, Зыгмунт Хамлінг, Алозей Хейко, Хероўскі, Ёсель Шарашэўскі, Станіслаў Шыманоўскі-Шыманскі, Ян Шыманскі, Іеранім Шыманскі, Леанард Шыпоўскі, Стэфан Юркевіч, Арон Язерскі.

У гарадскім **гандлі** па-ранейшаму дамінавалі мясцовыя яўрэі[8]. Яўрэйскія крамкі былі раскіданы па ўсім Гродна і працавалі літаральна з ранку да вечара, а побач траплялiся кавярні і гандлёвыя фірмы польскіх гаспадароў: Мозеса Адзіна, Мечыслава Альшэўскага, Грыгорыя Ашкеназі, Вулфа Бермана, Іцхака Бранервайна, Леона Гжымiслаўскага, Шэвеля Гітлера, Самуіла Дражніна, Тоб'і Замкова, Гдалы Каплана, Абрама Крэлмана, Ю. Ліўшыца, Гілера Нахбі, Антонія Невадзі, Маісея Саламона, Ізраэля Ступеля, Маісея Шпіндлера, Елы Шувы, Уладзіміра Шэршаня, Якава Эфрона.

Паступова ў Гродна фарміруецца адразу некалькі культурных асяродкаў: **гістарычны музей** на чале з Ю. Ядкоўскім (якога пазней замянілі Мар'ян Мяшчынскі-Крышпін і Браніслаў Шушкевіч); **музей прыроды** Станіслава Жыўны; дзяржаўны архіў, які, дзякуючы яго нязменнаму кіраўніку Яніне Студніцкай, меў ранг трэцяга гістарычнага архіва на тэрыторыі Польшчы, **гарадская публічная бібліятэка** (яе кіраўнікамі былі Соф'я Эпштэйн, Марыя Гадлеўская, Тадэвуш Янкоўскі); **заалагічны парк**, закладзены выкладчыкам гімназіі Янам Каханоўскім (першым дырэктарам заапарка стаў палкоўнік запасу Браніслаў Адамовіч). Аматары кіно маглі наведаць гродзенскія кінатэатры «Аполло», «Пан», «Уцеха» і «Люкс»[9].

Вялікую ролю ў грамадскім жыцці Гродна адыгрывала **творчая інтэлігенцыя**. На старонках мясцовых перыядычных выданняў друкавалі свае творы Часлаў Валейка, Юліуш Вірскі, Раман Данілеўскі, Станіслаў Земак, Адам Кавальскі, Ядвіга Карульская, Тэрэза Кастшэўская-Пржаноўская, Ганна Керсноўская-Міхальская, Рафал Кімбар, Яніна Кірцікліс, П.Крачкевіч, Надзея О'Брыен дэ Ласі (Друцкая), Стэфанія Ностіц-Яцкоўская, Стэфан Сасноўскі, Тэадозія Скварніцкая, Клаўдзія Станская-Атовіч, Шылінг. Акрамя таго, у горадзе жыла вядомая польская пісьменніца Зоф'я Налкоўская, працавала перакладчыца Вільгельміна Зындрам-Касцялкоўская.

Разам з тым істотна сталі ўплываць на гарадское жыццё мясцовыя **землеўладальнікі**: Генрых Адляніцкі-Пачобут, Ян Біспінг, Мар'ян Блаўдзевіч, Ежы Боландз, сям'я дэ Вірыёнаў, Ян Друцкі-Любецкі, Міхал Красінскі, Маўрыцы О'Брыен дэ Ласі, Люцыян Разенблюм, Станіслаў Эйнаровіч.

Аднак сапраўдным цэнтрам культурнага жыцця ў Гродна заставаўся **тэатр**. Са згоды мясцовага тэатральнага таварыства «Муза» была падпісана дамова з

---

8 J.J. Milewski. Grodno – Miasto i ludność w okresie międzywojennym... S. 200-202; W. Renik. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym ... S. 15-16.

9 W. Renik. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym ... S. 26.

Б. Скомпскім аб прызначэнні яго дырэктарам тэатра. Ён кіраваў ім амаль дзесяць год[10]. У 1930-я гады тэатрам кіравалі Казімір Апалінскі, Юзаф Кракоўскі і Юзаф Гродніцкі. Апошнім рэжысёрам–дырэктарам гродзенскага тэатра быў Уладыслаў Чэнгеры. Тут працаваў шэраг тэатральных дзеячаў: сцэнограф Фелікс Красоўскі, адміністрацыйны дырэктар Артур Хорвац і інш.

У горадзе быў закладзены вайсковы гарнізонны тэатр (кіраўнікі – Адам Кавальскі, Рамуальд Харашоўскі і інш.), некаторы час дзейнічаў тэатр «Рэдута». Акрамя гэтага, на аматарскай сцэне спектаклі ставілі яўрэйскія, беларускія, расійскія і нават украінскія самадзейныя трупы. Танцы і выступленні артыстаў адбываліся таксама ў гарадскіх кафэ і рэстаранах «Раяль», «Еўрапейскі», «Гандлёвы», «Славянскі» і інш.

У розны час на гарадзенскіх тэатральных падмостках выступалі **акцёры**: Аляксандр Алексы, Аляксандр Алендзкі, Баляслаў Арлінскі, Пётр Арлоўскі, Мар'я Банькоўская, Ганна Брахоцкая, Адам Быстрынскі, Мар'ян Бялецкі, Ханна Бярнацкая, Ігнацый Валейка, Яўгеній Вальтэр, Антон Взарчыкоўскі, Уладзімір Дабжанскі, Адольф Далінскі, Віктар Даманскі, Войцех Дамброўскі, Станіслаў Дамброўскі, Аляксандар Дзванкоўскі, Яўгеній Дзевульскі, Яніна Драчэўская, Вацлаў Забельскі, Стэфан Збароўскі, Людаслаў Казлоўскі, Караль Карлінскі, Эдварда Карноўская, Ежы Касоўскі, Тэрэза Кастшэўская-Пржаноўская, Марыя Кенпінская, Баляслаў Кенпінскі, Кідаўская, Тадэвуш Кротке, Альфрэд Ладзінскі, Алена Лапушанская, Леон Лентоўскі, Ганна Лібіцкая, Браніслаў Ліпскі, Вацлаў Маліноўскі, Іда Міхароўская, Мар'я Мравінская, Зоф'я Мюлер, Войцех Няцецкі, Мар'ян Пелінскі, Уладзімір Прэйс, Станіслаў Пуржыцкі, Алена Пухнеўская, Мечыслаў Пятроўскі, Мечыслаў Роман, Баляслаў Рослан, Ежы Рыгер, Францішак Рыхлоўскі, Ванда Скаржынская, Тадэвуш Скаржынскі, Олаф Слупскі, Старынкевіч, Зыгмунт Такарскі, Тумоўская, Марыя Хмуркоўска-Фішэр, Фелікс Хмуркоўскі, Эдвард Чэрманскі, Аляксандр Шакоўскі, Ірэна Шнебелін, Вікторыя Элерт, Эдвард Яленскі.

Не менш важнай часткай жыцця міжваеннага Гродна стаў **спорт**. Вядучымі гродзенскімі камандамі былі WKS (вайсковы спартыўны клуб) «Grodno», вайсковы спартыўны клуб «Cresovia», яўрэйскія «Kraft», «Makkabi» і «Jutrznia». З Гродна былі звязаны **спартсмены**: Яўгеній Адамчык, Юзаф Балёсік, Кузьма Бяклемішаў, Станіслаў Гаеўскі, Вітольд Герута, Ежы Дыяс, Вацлаў Зянько, Аляксандр Іочыс, Расціслаў Казлоўскі, Ірына Кешкевіч, Аляксандр Лупачык, Малярчык, Анатоль Марцінкевіч, Канстанцін Мельнікаў, Е. Мысоўскі, Пётр Наўмюк, Перагуд, Антоні Пясецкі, Вацлаў Сідаровіч, Якаў Скідальскі, Леанід Федарук, Канстанцін Халішка, Ежы Хасельбуш, Шалер Мар'ян.

Сюды ж трэба дадаць асоб, якія прычыніліся да **развіцця спорту**. Сярод іх кіраўнік інстытута фізічнага выхавання Ігнацы Баброўскі, старшыня павятовага Камітэта фізічнага выхавання Генрых Бянкевіч, Вацлаў Класінскі і Эдмунд Кунда, старшыня спартыўнага клуба «Cresovia» Станіслаў Дамашэўскі і Ян Хігеры, віцэ-старшыня «Cresovia» Бартноўскі Станіслаў, кіраўнік футбольнага клуба WKS «Grodno» Браніслаў Даўгяла, кіраўнік моладзевай секцыі пры WKS «Grodno» Марчэўскі, прэзідэнт гродзенскага шахматнага клуба Генрых Мініх, арганізатар і кіраўнік спартыўнага таварыства «Sokół» Уладыслаў Дэканскі, старшыня яўрэйскай спартыўнай арганізацыі «Makkabi» Тоб'я Замкоў, трэнер гродзенскіх каманд веласіпедыстаў Ян Ружанскі, старшыня спартыўнага клуба вайсковай

[10] Teatr miejski w Grodnie // Kronika m. Grodna. Zeszyt 1. 1928. S. 22.

сям'і А. Савіцкая, Хафбаўэр, старшыня праўлення вайсковага вяслярнага клуба «Нёман» Вацлаў Шрэдэрс.

Паступова Гродна набывае рысы тыповага «крэсовага» горада. Адносна новай з'явай стала комплекснае будаўніцтва жылых кварталаў па сацыяльна-прафесійнай прыкмеце. За дастаткова кароткі час паўстаюць раёны для вайскоўцаў, чыноўнікаў, настаўнікаў і нават беспрацоўных! Будуюцца школы, банк, Дом стральца, пракладаецца наднёманскі бульвар, гарадская каналізацыя, а ў праекце – будаўніцтва электрастанцыі, басейна, некалькіх прадпрыемстваў. На гарадскіх вуліцах з'яўляецца плітка-брукаванка. І ўсе гэта дзякуючы **архітэктарам**: П. Бараноўскаму, Я. Брэйху, Л. Бяліцкаму, В. Выганоўскаму, С. Грахоўскаму, Я. Захажэўскаму, П. Казінскаму, Ю. Клімашэўскаму, Г. Левулісу, В. Ленштэрну, М. Раманаву, І. Савельеву, М. Смазановічу, Танскаму.

У сярэдзіне 1920-х гадоў у Гродна працавала адразу некалькі шпіталяў: гарадскі, псіхіятрычны, інфекцыйны, вайсковы, яўрэйскі, шпіталь для невылечна хворых. Працавала таксама некалькі паліклінік. У 1925 годзе адкрыўся пункт маці і дзіцяці. Нагляд за хворымі ажыццяўлялі Таварыства Чырвонага Крыжа і іншыя мясцовыя дабрачынныя арганізацыі. Пад канец 1930-х гадоў у горадзе налічвалася каля васьмідзесяці **лекараў**, значная частка якіх мела прыватную практыку і прымала хворых проста дома: Станіслаў Абранбоўскі, Грыгорый Алшыбая, Станіслаў Байкоўскі, Саламон Біргер, Хаім-Мордка Блюмштэйн, Герман Брызман, Лейзер Бутэнскі, Лейзар Бык, Самуэл Бык, Мікалай Бяклемішаў, Канстанцін Бялецкі, Юліян Бянецкі, Антоній Валанскі, Казімір Валейка, Гершон Варашыльскі, Нахман Варашыльскі, Ян Вашчук, Захарый Вейсбрэм, Мікалай Вераксо, Ч. Врачынскі, Рахель Гершуні, Зянон Гжэгажэўскі, Юзаф Гула, Антоні Доха, Генрых Замкоўскі, Казімір Казакевіч, Уладыслаў Калянкевіч, Аляксандр Калецкі, Ільдэфонс Карвоўскі, кіраўнік яўрэйскага шпіталя Рафаэль Квінт, Васілій Кошалеў, дырэктар шпіталя ў Гродна Леапольд Краўзэ (1925–1933), Крачкоўскі, Дыянісій Крэховіч, Ежы Кшывец, Багуміл Лада, Юзаф Лазоўскі, Файга Лайт, Эдмунд Лакінскі, Міхаіл Ленартовіч, Абрам Ліпнік, Юда Ліпнік, Рудольф Лотыш, Эдвард Мараўскі, Казімір Мацяеўскі, Станіслаў Мысткоўскі, Юзаф Навумаў, Несанел Нейман, Ян Нечыпарук, Шэйна Орліс, Ян Падвінскі, Антоній Палаш, Марыя Панцэжынская, Вацлаў Панцэжынскі, Рышард Пушкевіч, Ян Руп, Леў Рывкінд, Ян Савіцкі, Самуэль Сает, Сара Салавейчык, Атон Самайловіч-Саламановіч, Юзаф Сапачынскі, Сарасек, Марыя Сасноўская, Шлома Сейненскі, Юзаф Слешынскі, Іахім Собаль, Клаўдзія Станьская-Атовіч, Аўсей Сухаўлянскі, Уладыслаў Сямашка, Аляксандр Тальгейм, Стэфан Тарасевіч-Тарасюк, Генрых Трускоўскі, Маісей Фінкель, Эстэр Фінкель-Явароўская, Самуэль Хазан, Альфрэд Хершон, Аркадзь і Ян Хігеры, Хаім Шапіра, Яцкель Шафранскі, Стэфан Шумкоўскі, Ян Шышкоўскі, Тадэвуш Эйсмант, Маісей Эпштэйн, Конрад Юроўскі і інш.

Трошкі асобна стаялі **ветэрынарныя лекары**: Міхал Вайтатовіч, Вінцэнты Леановіч, Сласкі і інш. Сярод найбольш вядомых у горадзе **фармацэўтаў** былі: Баляслаў Атовіч, Ян Маліноўскі, Вацлаў Паўлоўскі, Алена Рашкоўская, Эдвард Ройшык, Станіслаў Слешынскі, Эдвард і Збігнеў Стэмпнеўскія, Абрам Троп-Крынскі, Генрых Юдэйка.

Адным з уплывовых грамадскіх інстытутаў заставалася **школьніцтва**. Узамен старой расійскай сістэмы ў горадзе быў закладзены моцны падмурак польскай школы. На чале гарадской асветы стаяў павятовы школьны інспектарат.

У розны час пасаду **гродзенскага школьнага інспектара** займалі: Рафал Вазнякоўскі (1919–1920; 1921–1923(?)), Генрых Лукашэўскі (1920–1921), Тадэвуш Касікоўскі (1927), Камандэр (на 1930), Юзаф Мрачкоўскі (з 1933), Гдаля Стучынскі, Юльян Стэфановіч, Баляслаў Сулеўскі. Пачатковай адукацыяй займаліся шэсць дзяржаўных пачатковых і восем прыватных яўрэйскіх школ (дырэктарам сямігадовай публічнай бернардынскай школы № 3 быў Антоній Курыловіч, сярэдняй школы № 7 – Мар'ян Буда, агульнай школы № 8 – Юзаф Вявюрскі, школы № 10 – Юльян Лінк)[11]. Дзейнічала некалькі **гімназій**: мужчынская імя А. Міцкевіча, дырэктарамі якой былі Багуслаў Піндэльскі (1919), Фрыдрых Дамброўскі (1922–1928), Віктар Патршэбскі (з 1935); жаночая імя Э. Плятэр, пасаду дырэктара займалі Ян Гжэндзельскі (з 1922), Багуміл Вілкашэўскі (з 1925), Яніна Нядзвецкая; гімназія Польскай Мацежы Школьнай імя Г.Сянкевіча, яе ўзначальвалі Рамуальд Пулян, Вацлаў Мысліцкі (1930–1939); змешаная (коэдукацыйная) і яўрэйская гімназія «Тарбут», дырэктарамі з'яўляліся Ізраэль Сас і Давід Бравер. Дзейнічалі дзве **дзяржаўныя настаўніцкія семінарыі** (дырэктарам мужчынскай настаўніцкай семінарыі быў Юзаф Бяганскі, дырэктарам жаночай – Вікторыя Чапув), дзве **рамесныя школы, сярэдняя гандлёвая школа, музычная школа** А. Урублеўскай і інш. Кіраўніком Дзяржаўнага педагагічнага ліцэя быў Станіслаў Плоха (1938–1939), гандлёвай школы Польскай Мацежы Школьнай – Станіслаў Маркевіч (1922) і Радзеваноўскі (на 1925–1926), яўрэйскай рамеснай школы – Міхаіл Гажанскі, мужчынскага рамеснага вучылішча – З. Карчэўскі, дырэктарам яўрэйскай жаночай школы – Мозес Гальпнер, Дзяржаўнай купецкай гімназіі – Алена Лапіна, жаночай кравецкай школы – Станіслава Масціцкая і Гражына Ліпінская[12].

Нічога дзіўнага, што сярод мясцовай эліты адну з найбольш колькасных груп складалі менавіта **гродзенскія настаўнікі**: Юзэфа-Мар'яна Адамска, Генрык Адлер, Тэадор Акжынскі, Стэфанія Александроўская, Юлій Александроўскі, Малання Алюшкава, Зоф'я Аляхновіч, Браніслава Амельяновіч, Мікалай Андрушэвіч, Самуіл Анзельгейм, Галіна Антановіч, Ян Антонаў, Сяргей Апон, Аляксандр Асецкі, Юзэфа Ачасальская, Станіслаў Ашчакевіч, Пётр Багуцкі, Шмерэл Бадылкес, Вацлаў Баер, Людміла Байдзінская, Адам Байцар, Раман Бакун, Стэфан Баламут, Самуіл Баран, Сільвестра Бахенак, Леон Лех Бейнер, Маісей Беладворскі, Ядвіга Беняш, Станіслаў Біалас, Абрахам Блох, Эдвард Боднар, Леакадзія Браніцкая, Баляслаў Брановіч, Люцыян Брыльскі, Тэафіл Будзаноўскі, Алена Буднік, Яніна Будрэвіч, Станіслава Буйло, Ірына Булава, Ян Булава, Адэс Буткоўская, Наталля Бяклемішава, Цві Бялко, Тытус Бянецкі, Лемель Вайнгартэн, Юзаф Ванатоўскі, Хаім Велічкер, Эдыта Вербланская-Плускалоўская, Вігдаровіч Рувін, Галіна Відаўская-Венжык, Казімір Відаўскі, Марта Вільмус, Станіслаў Вішнеўскі, Возняк, Алена Войніч, Стэфанія Вронская, Зінаіда Вялепская, Аляксандра Гажкоўская, Антаніна Гальская, Марыя Гальская, Хаім Гарбер, Малка Гарбульская, Міхал Гасперскі, Анастасія Гаўрылюк, Ежы Гахе, Браніслава Глеб-Кашанская, Брунон Глябовіч, Берта Голдберг, Шлома Голдберг, Часлаў Госіеўскі, Ізраэль Гроб, Аляксандр Грыкоўскі, Феліцыя Грыневіч,

[11] J.J. Milewski. Grodno – Miasto i ludność w okresie międzywojennym... S. 204.

[12] W. Renik. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym ... S. 23; Глядзі так сама: I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo ojczyste. 2008. № 3, 4, 5, 6, 7; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст.  Гродна, 2013. Ст. 321-345.

Ганна Гурніцкая, Галіна Дамброўская, Ядвіга Дамброўская, Сара Даневіч, Францішак Данько, Лукаш Дзекуць-Малей, Шмуэль Дзівак, Лазар Дражнін, Марк Дудко, Стэфанія Дудко, Станіслаў Дымчак, Уладыслаў Дэканскі, Людвік Дэм, Эстэра Дэмова, Вольф Екель, Вольф Ерэль, Арон Ерузалімскі, Роза Жоўтая, Саламон Жукоўскі, Алена Жураўская, Зажыцкая Таццяна, Арон Зандман, Сафія Здраеўская, Альберт Зеіке, Кацярына Зук, Зінаіда Зяленская, Сара Зяльвянская, Марта Іванова, Вера Іваноўская, Міхал Калінскі, Міхал Камінскі, Апалонія Канапацкая, Вацлаў Кантрым, Шэпшаль Капелман, Шабсай Каплан, Міхаіл Кап, Алена Кардас, Яніна Касінская, Якаў Каспшак, Ян Каханоўскі, Калман Кац, Яніна Качароўская, Станіслаў Качынскі, Тамара Келер, Мар'ян Кендзерскі, Ганна Керсноўская-Міхальская, Серафіма Кішко, Уладыслаў Клачкоўскі, Станіслава Клімашэўская, Зоф'я Колб-Сяміцкая, Станіслаў Комар, Яніна Кравец, Люцыян Краеўскі, Беньямін Крайновіч, Лея Кронік, Гірш Кру, Ванда Крупянка, Юзаф Куза, Эдмунд Кунда, Ганна Кухарчук, Марыя Кухарчук-Андрушэвіч, Людвік Кучэўскі, Элеанора Кшываносова, Казімір Кшывец, Лазар Лабондз, Юзэфа Лазоўская, Ізраэль Ландэ, Марыя Лаўранчук, Казімір Лашкевіч, Соня Лев, Хая Ліпнік, Абрам Ліўшыц, Маісей Ліўшыц, Аляксандр Лукас, Шмуэль Любоўскі, Лясневіч, Зоф'я Мадзялеўская, Леон Маласінскі, Міхаліна Мараўская, Эдвард Мараўскі, Рэвека Мардэр-Эпштэйн, Вера Маслоўская-Матэйчук, Браніслаў Мацкевіч, Казімір Мацюкевіч, Хаім-Ізраэль Меламед, Ісак Мельцэр, Анеля Міхальская, Зыгмунт Мразоўскі, Людвіка Мысліцкая-Рыбакоўна, Юля Немчыновіч, Ян Новік, Рыўка Палачэк, Шэйна Палачэк, Юзаф Палкоўскі, Эміль Панек, Эдгар Пашке, Аліна Печыніс, Адольф Пламш, Зоф'я Прушынская, Тэафілія Пташынская, Зундэль Пудлес, Мар'ян Пянчальскі, Пётр Пяруцкі, Ганна Пяткевіч, Клеменціна Райс, Табіян Ратшэнберг, Вольга Рубанава-Мінгіновіч, Хала Рубашава, Моўша Рубін, Абрам Рубінзон, Міна Рубіновна, Юзаф Рубінраўт, Тадевуш Рубчак, Міхал Рудзінскі, Віктар Румель, Яніна Русецкая, Ванда Рухлевіч, Ян Рэй, Юда Рэйскінд, Марыя Рэйскінд, Сяргей Самайловіч, Надзея Самчук, Саповіч, Алена Сарасек, Алена Сімоні, Юліян Сімоні, Зоф'я Скіндэр, Станіслаў Смялоўскі, Хая Спакойная, Зоф'я Ставецкая, Марыя Станкевіч-Каліноўская, Норберт Сычэўсік, Іван Тарасевіч, Адам Трыпуза, Мечыслаў Трэгер, Яўгенія Удот, Міхал Файнсод, Уладзімір Федарук, Малка Фенстэр, Антоній Ферэнц, Л. Фідэльман, Мацей Філ, Соф'я Філ, Шмуэль Фінк, Марк Фішэр, Аўсей Фрухтэрман, Зыгмунт Харбовы, Аляксандр Хемберг, Хішберг, Антаніна Хмялюўна, Антаніна Целені, Стэфанія Цывінская, Марыя Чапліцкая, Ірына Чырнянская, Марта Шварц, Аківа Швейскі, Фаня Шкловер, Бланка Шор, Якаў Шохаль, Фрыда і Гдэля Шчучынскія, Браніслаў Шушкевіч, Йаанна Шыманская, Ян Шымачык, Лейб Шыфрэс, Міхаіл Шышко, Шэйна Элізаровіч, Хая Эпштэйн, Казіміра Яворская, Людвіка Яленская, Аляксандра Янаў, Мікалай Ярмаловіч, Ян Ярушэвіч, Яўхім Яўровер.

Сама трансфармацыя Гродна праходзіла ў цеснай сувязі з пераглядам прынцыпаў функцыянавання Польскай дзяржавы – ад дэмакратыі ў бок аўтарытарнага кіравання, што ў сваю чаргу вяло да змен асноўных грамадска-палітычных інстытутаў, якія існавалі ў горадзе. Перш за ўсё гэта тычылася магчымасці ўзаемнай камунікацыі і асноўных прынцыпаў свабоды слова і друку. У міжваенны час у горадзе выдавалася больш за некалькі дзясяткаў розных **газет**: «Зорка» (рэдактар – Аўгіння Аляксюк), «Dziennik Ludowy» (Дзмітрый Анішчык), «Беларуская думка» (Аляксандр Аршун), «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (Леон

Банькоўскі-Кіркор), «Grodner Moment» (Давід Беразоўскі), «Беларуская доля» (А. Брушко), «Przegląd Kresowy» (Юзаф Станіслаў Бурштын), «Kurier Nadniemeński: Express Poranny Ziemi Grodzieńskiej» (Атон Буткевіч), «Echo grodzieńskie» (Леон Бяляўскі, Тадэвуш Жмудзінскі, Казімір Лашкевіч, Стэфанія Ностіц-Яцкоўская), «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej»//«Głos Ziemi Grodzieńskiej» (Ян Валеўскі і Станіслаў Калецкі), «Chwila Gospodarcza» (Сымхе Вольберг), «Grodner Lebn» (Хаім Гарбер), «Гудок» (Міхаіл Гарошка), «Grodner Sztymic» (Шмуэль Гурвіч), «Nasza Okolica» (Філіп Дайрынгер), «Czyn młodych» і «Dziennik Popularny. 5 Groszy» (Вацлаў Залеўскі), «Głos Polski» (Станіслаў Земак), «Głos Grodzieński» і «Głos Nadniemeński» (Марыя Земак), «Grodner Sztyme» (Леў Ізраэль), «Reduta» (Адам Кавальскі), «Nasza Ziemia» (Міхаіл Кап), «Nowy Dziennik Kresowy» і «Gazeta Grodzieńska» (Ядвіга і Тадэвуш Карульскія), «Dziennik Kresowy» (Карун), «Nowe Życie» (Зыгмунт Качынскі і Людвік Саванеўскі), «Młoda Myśl» (Вітольд Клукоўскі), «Postęp» (Ядвіга Красінская), «Dziennik Grodzieński» (Антоні Любкевіч), «Nadniemeński Kurier Polski» і «Nowy Dziennik Kresowy» (Антоні Малабендзкі), «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (Вацлаў Меер), «Наше утро» (Лазар Мейлаховіч), «Беларускі шлях» (Яўген Міткевіч), «Wieczorny kurier Grodzieński» (Міцкевіч), «Kurier Grodzieński» (Стэфанія Ностіц-Яцкоўская), «Grodzieński Kurier Codzienny. 5 Groszy» (Ян Пабіян), «Unser Wort» (Элізер Палніцкі), «Ondyna Druskiennickich Źródeł», «Gazeta Polskia Ziemi Grodzieńskiej», «Kurier Nadniemeński» (Антоні Патла), «Nasza Ziemia» і «Kresy Wschodnie» (Вітольд Пуслоўскі), «Gospodarz Grodzieński» (Леон Пшыбыльскі), «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej», «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej», «Głos Ziemi Grodzieńskiej» (Вацлаў Пятроўскі), «Grodner Shtimme» (Мойша Рубінштэйн), «Grodzieński kurier codzienny», «Nowy Grodzieński Kurier Codzienny 5 gr.» (Міхал Рудзінскі), «Селянская гутарка» (Антон Савіцкі), «Вясковы пралетары» (Эдвард Сакалоўскі-Арлоўскі), «Unser Leben» (Іцхак Салавейчык), «Postęp» (Юзаф Слусарчык і Станіслаў Скаўронскі), «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (Тэадозія Скварніцкая), «Nasza Ziemia» (Антоні Сурмач), «Dziennik Grodzieński», «Dziennik Kresowy», «Nowy Dziennik Kresowy» (Юзаф Уейскі), «Echo Grodzieńskie» і «Kurier Grodzieński» (Аляксандр Філцэр), часопіс кола паланістаў «Nad Poziomy» (Мар'ян Ханус), «Беларускае слова» (Уладзімір Шалешка), «Grodner Leben» (Гарбе Шмуэль), «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (Ян Янкоўскі).

Уласна «польскасць», як асноўная дзяржаўная ідэалогія, ахоплівала самы шырокі спектр грамадскіх установў, пачынаючы ад вайсковай падрыхтоўкі моладзі і заканчваючы захаваннем гістарычнай спадчыны. У Гродна дзейнічалі Саюз стральцоў, Саюз асаднікаў, Саюз польскіх бойскаўтаў, Саюз польскіх землеўласнікаў, Польская Мацеж Школьна, Камітэт дапамогі моладзі, Сельскагаспадарчае таварыства, Саюз польскіх купцоў, Таварыства сяброў мастацтва і літаратуры, Польскае гістарычнае таварыства, Польскае краязнаўчае таварыства, тэатральнае таварыства «Муза», Таварыства аматараў Гродна і гэтак далей[13].

Сярод **польскіх грамадска-палітычных дзеячаў** у Гродна адзначыліся: кіраўнік мясцовага прадстаўніцтва ТСК Леон Бяляўскі, сябры ППС Юзаф Андэрман, Міхал Ганерка, Зыгмунт Гарбачэўскі, Ян Кеда, Казімір Красінскі, Леон Мазуркевіч, Стэфан Паўлікоўскі, Адам Прухнік, Адам Пушкевіч, Станіслаў Рашкоўскі, Міхал Рудзінскі, Раман Савіцкі, Станіслаў Скаўронскі, Юзаф Улас, старшыня арганізацыйнага камітэта Хрысціянскага дэмакратычнага саюза

[13] W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym ... – S. 23;

Юзаф Арцішэўскі, старшыня акруговага праўлення гэтай партыі (PSChD) Антоній Валанскі, старшыня Каталіцкага таварыства грамадзян Аляксандр Возняк, Станіслаў Барташэўскі, Адольф Басель, камендант павятовага Саюза стральцоў Густав Бенкен, старшыня мясцовага аддзялення Нацыянальнага таварыства (Stronnictwo Narodowe) Альгерд Даніловіч, старшыня мясцовай хрысціянска-дэмакратычнай арганізацыі Уладыслаў Калянкевіч, арганізатар і кіраўнік прадстаўніцтва Народнага таварыства (PSL Piast) у Гродзенскім павеце Юльян Квяцінскі, Казімір Лашкевіч, Актавіян Буш, Зоф'я Бярбецкая, Антаніна Гальская, Брунон Глябовіч, Юзаф Дражанскі, Антоні Жабакліцкі, кс. Леон Жаброўскі, Станіслаў Земак, Ядвіга Карульская, кс. Зыгмунт Качынскі, Казімір-Яўгеній Квіек, Баляслаў Козан, Соф'я Краўзэ, Ян Кшывец, Кшыштань, Пётр Лейнштэрн, Гражына Ліпінская, кіраўнік т.зв. «людоўцаў» (Stronnictwo Ludowe) у павеце Браніслаў Макарэвіч, Ян Маліноўскі, Аляксандр Мікульскі, кіраўнік Гродзенскага аддзялення ТСК Стэфан Мыдляж, Юзэфа Нядзвецкая, Стэфанія Ностіц-Яцкоўская, Казімір Олех, Рамуальд Пулян, Леанард Руткоўскі, Людвік Саванеўскі, Францішак Серадскі, Апалонія Сікорская, Браніслаў Сквара, Яніна Студніцкая-Казлоўская, Францішак Твардоўскі, Канстанты Тэрлікоўскі, Фолтын, Станіслава і Пётр Хайноўскія, Марк Хвілявіцкі, Хельядор Цэтнерскі, Алена Чайкоўская, Ян Якімовіч, Зоф'я Янішэўская.

На гэтым фоне **беларускі грамадска-палітычны рух** выглядае толькі кароткай эпізадычнай з'явай, але і ён пакінуў пасля сябе пэўны адбітак. Цэнтрам беларускага жыцця ў Гродна стаў былы Барысаглебскі манастыр (вуліца Маставая, 9). З 1916 па 1930 год у ім знаходзіліся беларуская школа і канцылярыя Беларускай вучыцельскай рады, сакратарыят Беларускага пасольскага клуба і Беларуская школьна-прытулкавая рада, Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны і рэдакцыя газеты «Селянская гутарка», беларуская кнігарня і Гродзенскае аддзяленне Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

Сярод **беларускіх дзеячаў** Гродна найбольш вядомымі і ўплывовымі былі: Вячаслаў Адамовіч, Мікалай Адамовіч, Аўгіння Аляксюк, Павел Аляксюк, Мікалай Амяльянчык, Мікалай Антанюк, Ян Антонаў, Сяргей Апон, Аркадзій Арцішэўскі, Аляксандр Аршун, Стэфан Балдоўскі, Іосіф Баліцкі, Васіль Банькоўскі, Сяргей Баран, Адольф Басель, Аляксандр Бахановіч, Усевалад Боеў, Станіслава Буйло, Канстанцін Бялецкі, Аляксандр Грыкоўскі, Лукаш Дзекуць-Малей, Рыгор Злоцкі, Ільючык, Піліп Кізевіч, Серафіма Кішко, Юзаф Клімовіч, Дзмітрый Кулакоўскі, Базыль Кулікоўскі, Уладзімір Курбскі-Кузняцоў, Надзея Ламашэвіч, Мікалай Лукашэвіч, Леанід Лукашык, Вера Маслоўская-Матэйчук, Яўген Міткевіч, Янка Натусевіч, Станіслаў Новік, Уладзімір Паддубік, Яўгенія Палуйчык, Вацлаў Пануцэвіч, Аляксандр Парук, Сцяпан Прусак, Вольга Рубанава-Мінгіновіч, Канстанцін Салошык, Міхаіл Сарока, Аляксандр Сініла, Павел Тамашчык, Адам Трыпуза, Уладзімір Улязлоў, У. Фёдараў, Уладзімір Шалешка, Аляксей Шах, Ян Шурпа, Вінцэнт Шушкевіч, Васіль Юрэчка, Пётр Юрэчка, Сямён Якавюк, Мікалай Якімовіч, Ян Ярушэвіч.

У пачатку 1920-х гадоў у Гродна з ліку эмігрантаў пачаў фарміравацца **ўкраінскі асяродак**, які ўзначальвалі дзеячы: Дмытро Дарашкевіч, Пётр Зелянко, К. Каламейц, Аляксандр Мяхеда, Яфім Чапурны, А. Юшко[14].

---

[14] Emilian Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. S. 567, 570-577.

Расійская частка насельніцтва Гродна, якое гвалтоўна ператварылася з тытульнай нацыі ў нацыянальную меншасць, змянілася не толькі вонкава, але і ўнутрана, што прыввяло да стварэння зусім новага, захавальніцкага тыпу расійскіх арганізацый на мясцовай глебе, гэткіх, як створаныя ў сярэдзіне дваццатых гадоў Рускае дабрачыннае таварыства і Рускае народнае аб'яднанне. Да найбольш актыўных **расійскіх дзеячаў** адносіліся: Аляксандр Байрашэўскі, Барыс Гагман, Васілій Кошалеў, П. Крачкевіч, Васіль Лойка, Ніканор Макалінскі, Праскоўя і Мікалай Марозавы, Аляксандр Наўмюк, Ганна Саломка, бацька і сыны Седлярэвічы, Сымон Цыловіч, Мікалай Чарвякоўскі. Разам з далейшай палітыкай па дзяржаўнай асіміляцыі, аднак, ужо ў канцы 1930-х гадоў пачынаецца грамадскі рух т.зв. **праваслаўных палякаў,** сярод арганізатароў якога былі Аляксандр Ананчанка, Соф'я Ананчанка, Аркадзій Арцішэвіч, Іван Марцынкевіч, Барыс Смольскі.

Наадварот, за міжваенныя гады ўплывы яўрэйскіх арганізацый у горадзе толькі пашырыліся, гэтаму ў значнай ступені спрыяла ўнутраная палітыка гарадзенскай яўрэйскай абшчыны. Яна валодала ў горадзе больш як двума дзясяткамі будынкаў, сярод якіх былі некалькі школ, шпіталь, прытулкі і сінагогі (у Гродна, між іншым, налічвалася 36 сінагог і малітоўных дамоў). Пры абшчыне існавалі дзіцячы прытулак, прытулак для старых, пякарня, кухня для бедных, экуменістычная сталоўка, лазня, некалькі кааператываў, культурнае таварыства «Judisz kunst». Крыху пазней узніклі клуб «Makkabi», таварыства яўрэйскай сям'і, дабрачынны саюз яўрэйскіх жанчын «Damen Rezeiw», таварыства дапамогі медыкаментамі для бедных «Linas hacedek», Таварыства яўрэйскіх артыстаў і інш. Пасля Першай сусветнай вайны ў Гродна паўсталі тры вялікія яўрэйскія блокі – сіяністы, артадоксы і бундаўцы[15].

Да найбольш уплывовых **яўрэйскіх дзеячаў** міжваеннага Гродна можна аднесці: Барыса Абрамовіча, Мардэхая Барадыцкага, Ноаха Баса, Вулфа Бермана, Абрахама Блоха, Давіда Бравера, Хаіма Бранервайна, Абрама Браўдэ, Абеля Брусціна, Германа Брызмана, Цві Бялко, Вейштэйна, Беньяміна Велера, Рувіна Вігдаровіча, Ісаака Гажанскага, Лейбу Гельгора, Аарона Голдшміт-Гада, Самуіла Дражніна, Беньяміна Еліна, М. Еффе, Абрама Задая, Абрама Зака, Лейбу Залуцкага, Тоб'я Замкова, Юзафа Зейцэля, Марыю Зіманд-Рэйскінд, Меера Калмановіча, Абрама Кімхе, Бэра Клемпнера, Меера Кобрынскага, Абрама Кравеца, Абрама Ліпніка, Юду Ліпніка, Юду Марголіса, Ізраэль Маркуса, Хаіма Меламеда, Несанеля Неймана, Абрама Памеранца, Аўсея Рас'янскага, Арона Рубінзона, Ісаака Рутэна, Гілеля Станецкага, Аўсея Сухаўлянскага, Аббу Тарлоўскага, Абрама Троп-Крынскага, Арона Шулкеса, Саламона Яноўскага і інш..

Не менш разнастайным было і рэлігійнае аблічча Гродна, якое прадстаўлялі **каталіцкія святары:** Альшанскі, Францішак Грынкевіч, Юзаф Гуз, Эдмунд Дулік, Леон Жаброўскі, Нікадзім Зажэцкі, Томаш Калінскі, Часлаў Кардэл, Уладыслаў Кісель, Міхал Клімчак, Максімільян Кольбе, Людвіка Кроцін, Юзаф Куста, Антоній Курыловіч, Андрыян Ледухоўскі, Францішак Лорэнц, Вацлаў Лукша, Маўрыцы Мазурэк, Юзаф Фардон, айцец Мельхіёр, Эдмунд Новак, Віктар Патршэбскі, Марыя Гажыч (Паўла), Людвік Саванеўскі, Сяргей Самайловіч,

[15] Дзяржаўны Архіў Гродзенскай вобласці Ф. 46. Воп. 1. Спр. 142. Арк. 15, 26; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 81 – 93; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 88, 99; Praca społeczna, dobroczynna i oświatowa w Grodnie w latach wojny // Głosy znad Niemna 1917. Jednodniówka. Grodno, 1918. S. 114-119.

Юстын Скакоўскі, Станіслаў Смялоўскі, Баляслаў Сперскі, Цітус Стшалевіч, Юльян Стэфановіч, Казімір Сухціцкі, Ян Сяклюцкі, Шыпіла Казімір, Віктар Юдыцкі, Альбін Ярашэвіч; **праваслаўныя:** гродзенскія архіепіскапы Уладзімір (да 1922), Алексій (1922–1934), Антоній (1934–1936), Сава (з 1936); Фёдар Валікоўскі, Маісееў Анатолій (а. Генадзій), Лука Голад, Віктар Казлоўскі, Аляксандр Каліновіч, Іван Карчынскі, Леанід Касперскі, Аляксандр Лечыцкі, Андрэй Лявіцкі, Васіль Маісееў, іканапісец Яўгеній Макараў, Філіп Рубан, Ананій Сагайдакоўскі, Мікалай Смольскі, Мікіта Тамчук; **лютэранскія пастары:** Адольф Пламш, Карл Месершміт; **баптысцкія прапаведнікі:** Пётр Крашын, Грыгорый Мельнічук, Мілер; **рабіны:** Давід Разоўскі, Арон Разенберг, Арон Рубінзон, Ізер Унтэрман, Хаім Шапіра, Шымон Шкоп.

У горадзе таксама дзейнічалі **камуністычныя арганізацыі**, якія існавалі нелегальна, за выключэннем тых рэдкіх выпадкаў, калі напярэдадні выбараў паўставалі своеасаблівыя «надбудовы» гэтых партый у выглядзе нанова склікaных арганізацый. Хаця іх колькасны склад быў дастаткова абмежаваным, аднак іх уплывы ў горадзе заўсёды былі даволі адчувальнымі[16]. Найбольш актыўна дзейнічалі Хаім Александровіч, Малка Атлас, Аляксандра Бергман, Міхаіл Гарошка, Абрам Гендлер, Сяргей Ражкоўскі, Эдвард Сакалоўскі-Арлоўскі, Давід Скульчык, Аляксандр Стэфановіч.

Урэшце, пералік гарадской эліты быў бы не поўны, калі не ўзгадаць пра мясцовых маргіналаў – гродзенскіх злачынцаў. Сярод іх найбольш колькаснай і разнастайнай па сваёй спецыялізацыі была група гарадскіх злодзеяў (на канец 1912 года, напрыклад, у Гродна было зарэгістравана 525 прафесійных злодзеяў)[17].

Існаванне **злачыннага паўсвету**, аднак, не было для ўлад сакрэтам. У гродзенскім камісарыяце «чорны спіс» паліцыі на канец 1927 года ўключаў каля паўсотні прозвішчаў найбольш крымінальна небяспечных асоб : Францішак Эмерт (Грандзіцкая, 31), Гарошка Вераніка (Грандзіцкая, 31), Міхаіл Эмерт, Аляксандр Эмерт і Ганна Эмерт (Горная, 19), Павел Альшэўскі (Рэзніцкая, 11), Аляксандр і Уладзімір Сімчукі (Горная, 45), Юлія Галубовіч (Горная, 15), Сора Кункес (Віленская, 18), Сямён Гінзбург (Горная, 43), Шлёма Мацульскі (Грандзіцкая, 10), Элія Кушнер (Рынкавая, 6), Іосіф Клукман (Школьная, 5), Хаім і Хая Лапідусы (Фабрычная, 72), Юдэль Сегал (Фабрычная, 20), Лейба Шнеер (Св. Тройцы, 10), Міхаіл Фёдараў (Рыбацкая, 1), Іосіф і Сяргей Фёдаравы (Рыбацкая, 1), Берка Сідранскі (Школьная, 23), Бурлін (Школьная, 6), Мера Аўнет (Школьная, 4), Канстанцін Юсман (Рыбацкая, 5), Караль Мацкевіч (Крэсовая, 23), Маісей Меламед (Вызвалення, 18), Вольга Юсман (Рыбацкая, 5), Аляксандр Багумяк (Гараднічанская, 7), Мечыслаў Чарняўскі (Гараднічанская, 6), Ян Пушкевіч (Гараднічанская, 19), Ян Аверук (Дамініканская, 23), Сяргей Янчулік (Гувера, 6), Моўша Голдберг (Дамініканская, 2), Вільгельм Субач (Басняцкая, 5), Мечыслаў Навіцкі (Рыдз-Сміглага, 5), Мацей і Мар'я Плаховічы (Пяскова, 14), Эфраім Шапіра (Лістоўскага, 40), Ханна Сядлецкая (Пяскова, 5), Хаім Бромберг (Ажэшка, 50), Канстанцін Русак (Ажэшка, 27), Мечыслаў Міклашэвіч (Ягелонская, 62), Франц і Крыстына Шаўчук (Ягелонская, 62), Уладыслаў Марцінчык (Ягелонская,

---

[16] Очерки истории Гродненской областной партийной организации / М.Жарский, И.Крень, Л.Клецков и др. Мн.: Беларусь, 1990. Стр. 44.

[17] «Gazeta Białostocka». 23.12.1912. – № 6. S. 87.

38), Францішак Дэпта (Ягелонская, 6), Казімір Кажанеўскі (Станіслава, 1), Аляксандр Янушкевіч (Зялёная, 8), Юзаф Сеплявеня (Крэсовая, 23)[18].

Менавіта крымінальны сусвет першым адчуў подых змен і неадкладна даў аб гэтым зразумець. Савецкі аўтар непасрэдна пасля заняцця Гродна Чырвонай Арміяй так лаканічна апісаў увесь эпізод: «...Вышэйшая турэмная адміністрацыя ўцякла і перапужаная ахова была вымушана.... па адным вызваляць палітычных зняволеных. Калі пра гэта даведаліся крымінальныя злачынцы, яны выламалі дзверы сваіх камер, а заадно – і дзверы ў камеры палітзняволеных...»[19]. Гэта быў відавочны знак надыходзячай катастрофы...

Тут варта распавесці гісторыю, якая з эмацыйнага боку, магчыма, больш нагадвае пэўную *«Fata margana»* ці міраж. Аднойчы нам з Андрэем Вашкевічам патрапіў у рукі даволі рэдкі часопіс з матэрыяламі пра эксгумацыю парэшткаў польскіх жаўнераў, расстраляных савецкімі войскамі ў верасні 1939 года ў наваколлі маёнтка Друцк каля Гродна. Не спадзеючыся на шмат, мы, тым не менш, адправіліся шляхам польскіх абаронцаў Гродна ўздоўж Нёмана, паўтараючы іх апошні марш. Пасля гадзіннага блукання ў рэшце рэшт выйшлі на пустэчу каля шумнай аўтастрады. Ніякіх крыжоў, мемарыяльных знакаў ці яшчэ нечага, што нагадвала б тыя падзеі, там, зразумела, не аказалася. Здавалася б, вынікі падарожжа можна было прадказаць загадзя. Калі раптам...

Уявіце сабе: пустэча, побач нейкія гаражы, аўтасэрвіс, некалькі хат, зноў пустэча – марныя пошукі матэрыяльных сведчанняў колішняй трагедыі. Але вось усяго за некалькі крокаў ад месца былога пахавання мы ўбачылі дзяцей. Яны гулялі. Спачатку хлопчыкі падаліся зусім звычайнымі, аднак ужо ў наступнае імгненне нас ахапіла пачуццё, якое цяжка перадаць словамі: нешта накшталт поўнага пагружэння ў іншую, паралельную рэчаіснасць. Справа ў тым, што падлеткі гулялі на пустэчы ў паказальную вайсковую экзекуцыю: некалькі хлопцаў стаяла ў рад, кінуўшы побач школьныя ранцы, калі іх праціўнікі па загаду свайго камандзіра паднялі ўгару ружжы з галінак дрэў і далі залп. Ахвяры паваліліся на траву, быццам і на самой справе аказаліся забітымі. А яшчэ праз хвіліну дзеці падняліся і пабеглі гуляць далей, а мы гэтак і засталіся моўчкі стаяць, быццам бы і сапраўды пабачылі на свае вочы апошнія імгненні з гісторыі міжваеннага Гродна. Менавіта гэты зусім звычайны, на першы погляд, выпадак з часам набыў змястоўнасць, вартую стоса архіўных аркушаў.

«Сёньня слова «Крэсы», – пісаў гродзенскі паэт Юрка Гумянюк, – ужо не ўспрымаецца як геаграфічная назва канкрэтных тэрыторыяў. Гэта чыста мэтафізычнае паняцьце, разгорнутая мэтафара, сымбаль прамінулае эпохі. Усе прыкрыя асацыяцыі, зьвязаныя з тэрмінамі «Kresy Wschodnie» ці «Западная Белоруссия», узьнікаюць у шчырых беларусаў па інэрцыі, бо надта ж цяжка нам далася гістарычная спадчына. Для мяне асабіста Крэсы – гэта прывід мілай сэрцу беларускай правінцыі, нашай ускраіны, гэта згадка пра маленькі сусьвет і ягоную непаўторную атмасфэру, згадка пра далёкія часы, якія ўжо ніколі ня вернуцца, але якія адлюстраваліся на старых фотаздымках, паперах ці застыглі ў мурах даваенных будынкаў»[20].

---

[18] ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 // Пералічаныя тут прозвішчы, аднак, у самім слоўніку не ўзгадваюцца.

[19] П. Лидов. Взятие Гродно // «Свабодная Беларусь». 1940. № 77. Стр. 3.

[20] Гумянюк Ю. Прывід даўніх крэсаў (урыўкі з аповесці) // Горад святога Губерта. Выпуск IV. Горадня-Вільня, 2008. Ст. 52.

Напрыканцы хацелася б узгадаць усіх тых, без каго гэта праца была б немагчымай. Хачу падзякаваць маім сябрам і калегам: Феліксу Варашыльскаму, Андрэю Вашкевічу, Таццяне Казак, Ларысе Міхайлік, Ежы Мілеўскаму, Вандзе Рэнік, Вользе Сабалеўскай, Віктару Саяпіну, Фёдару Ігнатовічу, якія дзяліліся ўласнымі ведамі і архівамі; Генеральнаму консулу Рэспублікі Польшча ў Гродне Анджэю Хадкевічу – за падтрымку і разуменне. Вялікую дапамогу аказала спадарыня Рут Маркус, якая склала дзесяць поўных біяграм прадстаўнікоў яўрэйскай інтэлігенцыі Гродна.

Асобная падзяка майму брату, Ігару Чарнякевічу, за дапамогу з рэдагаваннем тэксту.

# Спіс скарачэнняў

**AAN** – Archiwum Aktów Nowych (Warszawa)
**GKS «Cresovia»** – Grodzieński klub sportowy «Cresovia»
**LCVA** – Lietuvos centrinis valstybes archyvas (Vilnius)
**WKS «Grodno»** – Wojskowy Klub Sportowy «Grodno»
**WKS PP 76** – Wojskowy Klub Sportowy Pułku Piechoty 76
**АЗОН** – Абоз нацыянальнага аб'яднання (Obóz zjednoczenia narodowego, OZN)
**АК** – Армія Краёва
**БВК** – Беларуская вайсковая камісія
**ББСУ** – Беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам (Bezpartyjny Blok Współpracy z rządem, BBWR)
**БДАМЛіМ** – Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (Мінск)
**БНК** – Беларускі нацыянальны камітэт
**БПС-Р** – Беларуская партыя сацыял-рэвалюцыянераў
**БСРГ** – Беларуская сялянска-работніцкая грамада
**БСРПК «Змаганне»** – Беларускі сялянска-работніцкі пасольскі клуб «Змаганне»
**ГАРФ** – Государственный архив Российской Федерации (Москва)
**ДАБВ** – Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (Брэст)
**ДАГВ** – Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (Гродна)
**ДОК III** – Камандаванне вайсковым корпусам III (Dowództwo Okręgu Korpusu III, DOK III)
**КАП** – Корпус аховы памежжа (Korpus Ochrony Pogranicza, KOP)
**КПЗБ** – Камуністычная партыя Заходняй Беларусі
**КПП** – Камуністычная партыя Польшчы (Komunistyczna Partia Polski, KPP)
**КСМЗБ** – Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі
**ЛОПП** – Ліга паветранай абароны дзяржавы (Liga Obrony Powietrznej Państwa, LOPP).
**НАРБ** – Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (Мінск)
**НГАБ у Гродна** – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродна
**НКУС** – Народны камісарыят унутраных спраў
**ПАВ** – Польская арганізацыя вайсковая (Polska Organizacja Wojskowa, POW)
**ПАПЦ** – Польская аўтакефальная праваслаўная царква
**ПЗПР** – Польская аб'яднаная рабочая партыя (Polska Zjednoczona Partia Robotnicza, PZPR)
**ППС** – Польская сацыялістычная партыя (Polska Partia Socjalistyczna, PPS)
**ПСЛ «Вызваленне»** – Польскае народнае аб'яднанне «Вызваленне» (Polskie Stronnictwo Ludowe «Wyzwolenie»)
**РАМ** – Руская арганізацыя моладзі (Русская организация молодежи (РОМ))
**РВА** – Руская вызваленчая армія (Русская освободительная армия (РОА))
**РДТ** – Рускае дабрачыннае таварыства (Русское благотворительное общество, РБО)
**РНА** – Рускае нацыянальнае аб'яднанне (Русское национальное объединение, РНО)
**ТБШ** – Таварыства беларускай школы
**ТОЗ** – Таварыства аховы здароўя яўрэйскага насельніцтва (Towarzystwo ochrony zdrowia ludności żydowskiej w Polsce, TOZ)
**ТСК** – Таварыства стражы крэсовай (Towarzystwo straży kresowej, TSK)



**Абрамовіч Абрам** // Abramowicz Abram (каля 1902–?), купец, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1927–1930; 1934–1939). Прапанаваў выкарыстоўваць у працы магістрата, акрамя польскай мовы, яўрэйскую і беларускую. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта (Ogólno-Żydowski Komitet Wyborczy) (1939). Магчыма, сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай рэлігійнай гміны і праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага Таварыства апекі над яўрэйскімі сіратамі (Grodzieńskie Wojewódzkie Towarzystwo Opieki nad Sierotami Żydowskimi) (1930). Жыў па вул. Lipowa, 19.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 86 зв., 95-95 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; «Przegląd Kresowy». 18.1.1930. № 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Абрамовіч Барыс** // Abramowicz Borys (1895—?), служачы. Магчыма, кіраўнік яўрэйскага прытулка (1922). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага саюза рабочых «Бунд» (Ogólnożydowski związek robotników Bund) (1927). Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай гміны ад сацыялістычнай фракцыі (9.1929–1938). Жыў па вул. Horodniczańska, 3 (1937); Dominikańska, 18.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 1, 61; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123, 125.

**Абрамскі Леон** // Abramski Leon, адвакат, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра партыі «Mizrachi». Прадстаўнік яўрэйскага камітэта ў часовым гарадскім камітэце (1918). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927). Лаўнік магістрата. Сябра камісіі па абароне статусу Гродна як «горада, не выдзеленага з павета» (1927). Старшыня праўлення яўрэйскай гміны Гродна (на 1928). Сябра камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930). Жыў па вул. Napoleona, 18 (1925); Napoleona, 21 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 3. Арк. 64 зв.-65; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 54; «Nowe życie». 1928. № 82. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str.10; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodna. Rok 1928. Zesz. 1. Str. 18; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Абранбоўскі Станіслаў** // Obrębowski Stanisław, акушэр-гінеколаг. Падчас Вялікай выстаўкі па гігіене выступіў з лекцыяй па тэме «Сучасныя метады кармлення немаўлят» (21.2.1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Сябра Таварыства афіцэраў запасу (Związek oficerów rezerwy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Grandzicka, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 18; «Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 2. «Dziennik kresowy». 31.3.1939. № 90. Str. 4.

**Адамовіч Браніслаў** // Adamowicz Bronisław (13.9.1889—9.11.1972), вайсковец. Палкоўнік. Дырэктар заапарка. Камандуючы 86-м пяхотным палком Літоўска-беларускай дывізіі. Закончыў афіцэрскую школу ў Вільні. Служыў у 29-м пяхотным палку. Камендант Гродна (да 1928). Пасля – у адстаўцы. Грамадска-палітычны дзеяч. Газета «Grodzienski kurier codzienny» пісала: «Дзякуючы нястомнай, самаахвярнай і бескарыслівай працы старшыні, палкоўніка Адамовіча, дзякуючы ягонай незвычайнай энергіі, Гродна мае пляцоўку, якая, акрамя вялікай карысці для школьнай моладзі, узнімае значэнне самога горада і залічвае яго да аднаго з найбольш культурных на крэсах» (1935). Старшыня Таварыства сяброў Гродна (Towarzystwo Przyjaciół Grodna) (1939). Сябра камітэта па святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., праўлення Таварыства аматараў прыроды (1931), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937), Таварыства падтрымкі будоўлі агульных школ на тэрыторыі Гродна і павета (Towarzystwo poperania budowy publicznych szkół powszechnych na terenie Grodna i powiatu), камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938) і інш. З пачаткам Другой сусветнай вайны камандуючы тэрыторыяй гродзенскіх умацаванняў (з 12.9.1939). Паводле некаторых крыніц, не вызначаўся арганізацыйнымі талентамі. Згодна з іншымі, гэта па яго загадзе была накіравана карная экспедыцыя ў м. Скідзель на падаўленне антыпольскага выступлення. Трапіў у савецкі палон. Быў зняволены ў лагеры ў Казельску, пасля пераведзены ў лагер у Гразаўцы. Намеснік камандуючага 9-й дывізіяй польскіх узброеных сіл у СССР (Па іншых звестках – камендант лагера 5-й дывізіі). Пазней у арміі Андэрса. Пасля вайны – у эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4; «Nowy dziennik Kresowy». № 330. 28.11.1930. Str. 4; «5 groszy Grodzienski kujer codzienny». 28.4.1935. № 116; «Dziennik Kresowy». 1938. № 254; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296 ; «Dziennik kresowy». 2.4.1939. № 92. Str. 4; K. Grodziska. Polskie groby na cmentarzach Londynu. T. 1. Kraków, 1995. Str. 286; http://officersdatabase.appspot.com/oficer/Adamowicz_Bronisław_1889

**Адамовіч Вячаслаў** // Adamowicz Wiaczysław (1890—?), беларускі нацыянальны дзеяч. Скончыў Ковенскую мужчынскую гімназію, гідратэхнічныя і агранамічныя курсы ў Пецярбургу. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Падпаручнік. Сябра БВК (1920). Паводле У. Курбскага, падчас панавання савецкай улады рыхтаваў у горадзе паўстанне супраць бальшавікоў. Выдавец-рэдактар гродзенскай газеты «Беларускае слова» (1920). Па яго ініцыятыве Гродзенскі БНК выступіў у падтрымку акцыі генерала С. Булак-Балаховіча. У пачатку Другой сусветнай вайны служыў псаломшчыкам у праваслаўнай царкве горада Данцыга.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст.5-7.

**Адамовіч Мікалай** // Adamowicz Mikołaj, беларускі дзеяч. Магчыма, брат В. Адамовіча. Служачы гродзенскага магістрата (на 1928). Старшыня беларуска-польскага таварыства «Еднасць». Адзін з кіраўнікоў Беларускай нацыянальнай радыкальнай партыі (1927). Жыў па вул. Puszkina, 15.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 7.

**Адамска Юзэфа-Мар'яна** // Adamska Józefa-Marjana, настаўніца. Скончыла вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. Выкладала польскую мову ў школе № 8. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Працаўнік вельмі сярэдні, не цікавіцца школай і толькі выкладае ў ёй дзень пры дні заняткі» (1934). Пазней – на пенсіі «па стане здароўя» (з 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 3а. Арк. 3 зв., 5; Там жа. Спр. 65. Арк. 6.

**Адамчык Яўгеній** // Adamczyk Eugeniusz, футбаліст. Нападаючы каманд WKS PP 76 (1932) і WKS «Grodno» (з 1934). Найлепшы «снайпер» у гісторыі клуба WKS «Grodno». Восем разоў разам з камандаю станавіўся чэмпіёнам акругі. Газета «Przegląd sportowy» пісала, што ў Гродна яго называлі «каралём бамбардзіраў»: «Ініцыятар атак, выдатны цэнтральны нападаючы, хуткі, з маланкавай рэакцыяй». Выступаў за зборную каманды Гродна ў сяброўскім матчы супраць чэмпіёна Літвы (6.1939).

*Літ.:* «Przegląd sportowy». 22.06.1939; J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok, 2010. Str. 15, 26, 28.

**Адзін Мозес** // Adin Mozes (каля 1879—?), купец. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowski blok narodowy) (1927). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён, прафесійныя саюзы і рамеснікі (Poalej-Sjon, Związki Zawodowe i Rzemieślnicy) (1939). Жыў па вул. Jezuicka, 1.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Адлер Генрык** // Adler Henryk, дырэктар Гродзенскай мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча (1929–1935). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага таварыства апекі над мастацтвам, культурай і прыроднымі каштоўнасцямі «Лехія» (zarząd oddziału grodzieńskiego wojewódzkiego Towarzystwa opieki nad sztuką, kulturą i zabytkami przyrody «Lechia») (1930). Пазней быў пераведзены на пасаду дырэктара гімназіі ў Хелм.

*Літ.:* «Pzegląd Kresowy». 11.4.1930. № 76; «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 235. Str. 4.

**Адляніцкі-Пачобут Генрых** // Odlanicki-Poczobutt Henryk, землеўласнік. Гаспадар маёнтка. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935).

*Літ.:* J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Азіевіч Ігнацы** // Oziewicz Ignacy (7.5.1887—10.1.1966), палкоўнік. Скончыў віленскую гімназію. Служыў у расійскім войску, магчыма, у Гродна. Пазней у польскай арміі (з 1919). Удзельнік польска-савецкай вайны. Камандуючы 76 Лідскім пяхотным палком, які стаяў у Гродна (1925–1935). Камандуючы 16-й Прыморскай дывізіяй (з 1935), 29-й дывізіяй (1938). Сябра камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Падчас нямецкай акупацыі – у Нацыянальнай вайсковай арганізацыі (Narodowa Organizacja Wojskowa), камендант нацыянальных узброеных сіл (Narodowych Sił Zbrojnych). Быў зняволены немцамі (1943). Пасля вайны – у эміграцыі. Пазней вярнуўся ў Польшчу (1958).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4. L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 87.

**Азіевіч Міхаіл** // Oziewicz Michał, чыноўнік на чыгунцы. Сябра Гродзенскай гарадской Рады, фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) (1934–1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Narbuta, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Акжынскі Тэадор (Акшынскі Фёдар) (Акер)** // Akrzyński Teodor (Aker) (1904—каля 1941), настаўнік. Скончыў сярэднюю школу, універсітэт Яна Казіміра ў Львове. Пэўны час працаваў на радыё ў «Wesołej Lwowskiej Fali». Настаўнік Львоўскай гімназіі імя Г. Сянкевіча (1933–1936). Паланіст Гродзенскай мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча (1936–1939). Арганізатар шматлікіх гурткоў, тэатральных пастановак. Дырэктар пачатковай сярэдняй

школы № 20 (1939–1940). Настаўнік польскай мовы польскай сярэдняй школы № 2 у Гродна (з 15.8.1940). Верагодна, быў расстраляны немцамі разам з групай мясцовай яўрэйскай інтэлігенцыі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 17-17зв.; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 10.

**Акуліцкі Леапольд** // Okulicki Leopold (12.11.1898, Братуціцы—24.12.1946, Масква), вайсковец. Брыгадны генерал. Сын Блажэя і Ганны з Корціл. Наведваў гімназію ў Бохні. Служыў у Польскіх легіёнах (1915); сябра ПАВ у Кракаве (1918). Удзельнік польска-ўкраінскай, польска-савецкай войнаў. Скончыў Вышэйшую вайсковую школу (1925). Служыў пры ДОК III у Гродна: кіраўнік сектара мабілізацыі, выконваючы абавязкі кіраўніка галоўнага аддзела штаба, кіраўнік акруговага ўпраўлення фізічнага выхавання і вайсковай падрыхтоўкі (kierownik okręngowego urzędu PW i WF) (1.11.1925–4.1930). Віцэ-старшыня праўлення вяслярнага клуба «Гродна» (1928). Пасля служыў у 75-м палку, цэнтры абучэння пяхоты, Галоўным штабе. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў польскага падполля ў гады Другой сусветнай вайны. Апошні галоўны камендант АК. Арыштаваны органамі НКУС і вывезены ў Маскву (1945). Загінуў на Лубянцы.

*Літ.:* «Nowe życie». 1928. № 99; «Przegląd Kresowy». 6.3.1930. № 45; A. Przemyski. Ostatni komendant generał Leopold Okulicki. Lublin, 1990; Polskie podziemie na terenach Zachodniej Ukrainy i Zachodniej Białorusi w latach 1939-1941. T. 2. Warszawa-Moskwa, 2001. Str. 1168-1169; J. Kurtyka, J. Pawłowicz. Generał Leopold Okulicki (1898-1946). Warszawa, 2010. Str. 44-45.

**Александровіч Хаім** // Aleksandrowicz Chaim (каля 1900, Гродна—07.03.1948, Вілейка), адзін з кіраўнікоў гродзенскай арганізацыі КПЗБ. Паходзіў з яўрэйскай сям'і. Меў чатырох братоў, таксама актывістаў камуністычнага падполля. Арганізаваў забастоўку ў гарбарні Мардхелевіча (1925). Некалькі разоў трапляў пад суд, у тым ліку ў Гродна (1933). Пасля вызвалення вучыўся ў СССР. Дырэктар Гродзенскага гарбарнага завода (1939–1941). Адзін з арганізатараў мінскага антыфашысцкага падполля. Пазней – у партызанах. Пасля вайны працаваў забеспячэнцам у Вілейцы. Памёр ад ран.

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.9.1933. № 245. Str. 4.

*А. Вашкевіч*

**Александровіч Ян** // Aleksandrowicz Jan (1864—?), натарыус. Паляк, каталік. Бацькі – Іеранім і Аліна з дэ Валдонаў. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1888). Памочнік кіраўніка сакратарыята ў грамадскім касацыйным дэпартаменце пры Сенаце; міравы суддзя ў Астрахані і Вяцку; прысяжны адвакат пры акруговай судовай па-



лаце ў Іркуцку і Вільні (1888–1918). Міравы суддзя ў Варшаве (з 16.8.1917). Міравы суддзя І-й акругі Гродзенскага павета (з 19.5.1919). Натарыус у Гродна (з 2.3.1920). Ганаровы суддзя Гродзенскага акруговага суда (на 1922). Узнагароджаны бронзавым (1938) і сярэбраным (1939) медалямі «За працяглую службу». Магчыма, уваходзіў у склад камісіі магістрата па пошуку ахвяр бальшавіцкага тэрору ў Гродна (10.1920). Быў прадстаўніком французскага таварыства «L'immobiliere de France et des colonies» і Марыі Вяземскай (м. Азёры).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 1. B. 91. L. 3, 5; LCVA F. 127. Ap. 7. B. 36; «Echo grodzieńskie». 2.10.1920. № 157.

**Александроўская Стэфанія** // Aleksandrowska Stefania (26.12.1895, Коўна—?), настаўніца. Жонка Ю. Александроўскага. Скончыла Ковенскую жаночую гімназію. Здала экзамен для некваліфікаваных настаўнікаў (egzamin uzupełniający) (1925). Праслухала курсы беларускай і рускай моў (1940). Працавала ў школе і вучылішчы ў Томску (1915–1922), Сувальскім павеце (1923–1924), школе № 2 у Сувалках (1924–1935). Пасля настаўніцай матэматыкі ў школе № 6 (1935–1940) і сярэдняй польскай школе № 3 (1940) у Гродна. Уваходзіла ў склад праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Белага Крыжа (сярэдзіна 1930-х). Падчас нямецкай акупацыі сябра АК.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 36. Арк. 1-33в.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 17-17 зв.; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV—XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334, 340.

**Александроўскі Юлій (Януш?)** // Aleksandrowski Juliusz (Janusz) (1893—?), настаўнік. Намеснік гродзенскага школьнага інспектара (на 1937). Сябра ЛОПП, рэвізійнай камісіі Гродзескага саюза пажарнай аховы (1934), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937), Камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Настаўнік матэматыкі ў школе № 2 (1940). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno, Allgemeine abeilung) (з 10.7.1941). Быў у ліку заложнікаў, якіх немцы збіраліся расстраляць, аднак здолеў разам з сям'ёй пазбегнуць арышту. Хаваўся ў в. Гудзевічы пад прозвішчам Ян Навіцкі (1943).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 20; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; Там жа Спр. 26. Арк. 3 зв.; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 43, 75.

**Алексій / Грамадскі Аляксандр** // Aleksy / Gromadski Aleksander (1.11.1882, Дакудава—7.5.1943, Смыга, Ровенская вобл.), архіепіскап Гродзенскі (1922–1934). Паходзіў з сям'і праваслаўнага псаломшчыка. Скончыў Холмскае духоўнае вучылішча (1898), Холмскую духоўную семінарыю (1904), Кіеўскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя (6.1908). Рукапалажаны ў сан іерэя (30.7.1908). Быў святаром у г.Холм, працаваў законавучыцелем Холмскай мужчынскай гімназіі (1908–1917), назіральнікам школ Кішынёўскай епархіі ў Бесарабіі (1917–1918). Протаіерэй (1918). Выкладаў у духоўнай семінарыі ў Крамянцы (1918–1921), рэктар той жа семінарыі (1921–1923). Пастрыжаны ў манахі (11.2.1922). Архімандрыт і прыёр манастыра ў Дэрмані. Епіскап Луцкі, вікарый Валынскай епархіі (3.9.1922). Падтрымаў варшаўскага мітрапаліта ў абвяшчэнні аўтакефаліі праваслаўнай царквы ў Польшчы. Прызначаны часовым кіраўніком Гродзенскай епархіі, замест высланага польскай уладай епіскапа Уладзіміра (12.10.1922). Першапачаткова быў вельмі варожа сустрэты вернікамі (прыхаджане нават



разабралі кафедру ў саборы, каб ён не служыў). Епіскап (21.4.1923), пазней – архіепіскап (3.7.1928) Гродзенскі і Навагрудскі. Архіепіскап Валынскі і Крамянецкі (29.3.1934–1939). З усталяваннем савецкай улады быў арыштаваны органамі НКУС, аднак пазней вызвалены (1939) (па іншых звестках – арыштаваны 22.6.1941, аднак пазбегнуў пакарання). Прыняты ў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхата, пакінуты кіраўніком Валынскай епархіі (1940). Мітрапаліт, Экзарх аўтаномнай Украінскай Праваслаўнай Царквы (з 7.1941). Забіты ўкраінскімі партызанамі (па іншых звестках – забойства Мітрапаліта Алексія было спланавана нямецкімі спецслужбамі).

*Літ.:* St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 7. В. Черепица ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX—XX столетій в событіях і ліцах. Гродно, 2003. Стр. 243; А. Горны. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі XX стагоддзе. Гродна, 2014. Ст. 14-15.

**Алексы Аляксандр** // Aleksy Aleksander (16.12.1905, Харкаў—14.11.1977, Люблін), акцёр, рэжысёр, кампазітар. Вучыўся ў Пецярбургу, Вільні і Львове. Прыехаў у Гродна пасля экзаменаў у Саюзе артыстаў польскай сцэны (1925). Выступаў у тэатрах у Калішы і Торуні. Пазней зноў на кароткі час вярнуўся ў Гродна (1928). Арганізаваў уласныя выязныя прадстаўленні. Падчас Другой сусветнай арыштоўваўся гэстапа і НКУС. Пасля вайны выступаў у тэатрах у Калішы, Вроцлаве, Любліне. Удзельнічаў у радыёпастаноўках.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 3-4.

**Алена / Канавалава Вольга** // Alena / Konowałowa Olga (10.7.1867, в. Чаркізава, Маскоўскай губ.— 8.9.1937, Малаяраславец), ігумення. Скончыла Санкт-Пецярбургскую Марыінскую гімназію (1885), Вышэйшыя педагагічныя курсы (1888). Паступіла ў Леснінскі манастыр каля Варшавы, пастрыжана ў манашкі (5.1.1889). Настаяцельніца Краснастоцкага Раства-Багародзічнага жаночага манастыра (з 5.10.1900). Актыўна займалася асветніцкай і дабрачыннай дзейнасцю. Падчас Першай сусветнай вайны ў эвакуацыі ў Кацярынінскай пустыні пад Масквой (1918–1921). Пазней – у Гродна, дзе намагалася аднавіць праваслаўны манастыр (1921–1923). Пасля вярнулася ў Кацярынінскую пустынь ў СССР. У ссылцы ў Казахстане (1931–1934). Пасля вызвалення жыла ў г. Малаяраславец.

*Літ.:* А. Горны. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі XX стагоддзе. Гродна, 2014. Ст. 15-16.

**Алендзкі (Бадзаноўскі) Аляксандр** // Olędzki Aleksander (1.7.1894, Лодзь–8.8.1964, Вроцлаў), акцёр, рэжысёр. Скончыў гандлёвую школу ў Лодзі (1911), вучыўся ў аплікацыйнай школе ў Варшаве (1912). Выступаў у Кіеве, Лодзі, Кельцах, Варшаве, Сасноўцы, Львове, Познані і інш. Акцёр выязнога тэатра ў Гродна (1935–1938). Пазней выступаў у Варшаве. Акцёр і рэжысёр Новага тэатра ў Познані (1946–1948), Дома польскага войска ў Варшаве (1950–1952), драматычнага тэатра ў Вроцлаве (1952–1964). У Гродна жыў pl. Teatralny, 6.

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 501-502.

**Алшыбая Грыгорый** // Ałszybaja Grzegorz, лекар. Грузін. Спецыяліст па ўнутраных і жаночых захворваннях. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Ten słynny Ałszybaja, ten Gruzin bogaty, Iluż on miał w tym Grodnie zamożnych pacjentów, Pacjentek też niemało i portfel bogaty I honory należne dla jego patentów». Жыў па вул. Zielona, 6.

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Альбрэхт Вільгельм**// Albrecht Wilhelm (каля 1862—?), інжынер. Гаспадар будаўнічай фірмы. Быў абраны ў Касу хворых (1926). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую га-

радскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб’яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Быў арыштаваны НКУС (1941). Жыў па вул. Narutowicza/ Pionierska, 12.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 143, 150.

**Альбрэхт Мечыслаў** // Albrecht Mieczysław (1881—20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), інжынер. Сын В. Альбрэхта. Прымаў удзел у Першай сусветнай вайне. Займаўся будаўніцтвам вайсковага аэрадрома ў Беластоку. Разам з сям’ёй быў вывезены савецкімі ўладамі на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Падчас нямецкай акупацыі нейкі час працаваў у гарадскім упраўленні. Магчыма, сябра АК. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 143, 150, 153; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 493.

**Альшанскі Ігнацы** // Olszański Ignacy (1883, засц. Альшаніца, Бельск-Падляскі—1963, Жалудок), настаяцель Фарнага касцёла, гродзенскі дэкан. Паступіў у Віленскую духоўную семінарыю (1903). Скончыў Духоўную акадэмію ў Санкт-Пецярбургу, атрымаў ступень магістра тэалогіі. Быў пасвечаны (1911). Працягваў вучобу ў Фрыбургу і Рыме (1911–1913). Вікарый, пасля – пробашч парафіі Св. Варфаламея ў Вільні. Атрымаў месца дэкана і пробашча парафіі Святога Францішка Ксаверыя ў Гродна (1931). Займаўся актыўнай грамадска-палітычнай працай. Сябра хрысціянска-дэмакратычныя партыі. Старшыня Фарнага прытулка Св. Юзафа для дзяўчат; сінадальны экзаменатар і асістэнт Інстытута Каталіцкай акцыі (Instytutu Akcji Katolickiej) (1931–1936). Асвяціў новы будынак гродскага суда ў Гродна (1933). Сябра павятовага Камітэта ратавання Віленскай базілікі (1933). Дэпутат Сейма (1931–1937). Выехаў з Гродна ў парафію Лантупы (1937), а пасля ў Жалудок. Арыштаваны органамі НКУС (1948). Вызвалены (1955).

*Літ.:* Wieczorny kurier Grodzieński». 16.1.1933. № 15. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 gr» . 2.3.1937. № 61. Str. 4.Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. S. 352. Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921—1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI—XX стст. Минск, 2011. Ст. 452; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI—XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 357.

**Альшына-Вільчынскі Юзаф Канстанцін** // Olszyna-Wilczyński Józef Konstanty (27.11.1890, Кракаў—22.9.1939, Калеты), польскі вайсковец. Вучыўся ў Кракаве і Львове; служыў у аўстрыйскай арміі. Падчас Першай сусветнай змагаўся ў Польскіх легіёнах. Удзельнік польска-ўкраінскай і польска-савецкай войнаў (між іншым, быў камендантам занятага палякамі Кіева). Служыў у Міністэрстве вайсковых спраў і ў КАП; камандуючы 10-й пяхотнай дывізіяй у Лодзі; дырэктар Дзяржаўнага ўпраўлення фізічнага выхавання і вайсковай падтрыхтоўкі (Państwowego Urzędu Wychowania Fizycznego i Przysposobienia Wojskowego). Генерал брыгады (з 1927). Камандуючы ДОК III у Гродна (1938–1939). Займаўся актыўнай грамадска-палітычнай працай. Сябра Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Выступіў з ініцыятываю разбору царквы Аляксандра Неўскага ў Гродна (1938). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów). Трапіў у палон і быў забіты савецкімі жаўнерамі. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Wilczyński był przed wojną dowódcą korpusu, W sercach naszych wyryty złotymi zgłoskami, Był wolnym on człowiekiem i nie znał przymusu, Jednak musiał swe życie oddać pod ciosami».

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II.

Гр., 2005. Стр. 43; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59; W. Jaskulski. Generał brygady Józef Konstanty Olszyna-Wilczyński (1890-1939).Włocławek, 2013. 439 s.

**Альшэўскі Мечыслаў** // Olszewski Mieczysław (каля 1897—?), гандляр. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Віцэ-старшыня праўлення Таварыства польскіх купцоў (zarząd Stowarzyszenia kupców polskich) (на 1938). Магчыма, пісаў вершы. Л. Саванеўскі прысвяціў яму і яго бацьку наступныя радкі: «Precz smutki, bo Olszewski, poeta wzorowy, Który wiele napisał i wydał dwa tomy, Na Olimp wstąpił teraz, na sam szczyt "Paxowy", I przyjemnym wierszykiem unicestwia gromy. Grom wygnał Piaseckiego, lecz pozostał Jerzy, Ten rozkoszny grodnianin, synek kapitana, I nastrój poetycki nadal w Paxie szerzy, Aby burza minęła przez wojnę nawiana. A ojciec jego w Grodnie sędzią był wojskowym, Po wojennej przeprawie znalazł się w Gorzowie Na nowym stanowisku i w mundurze nowym Z adwokackim beretem na poważnej głowie. Tak obaj pożytecznie służą Polsce Nowej, Stare Grodno czasami wspominając sobie». Жыў па вул. Orzeszkowej, 46. Акрамя таго, нейкі Альшэўскі з'яўляўся галоўным механікам гродзенскай электрастанцыі (1939), а сям'я Альшэўскіх была выслана з Гродна пасля вайны (1952).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; «Dziennik Kresowy». 5.10.1938. № 272. Str. 5; R. Olszewski. Jestem młody: wiersze sportowe. Grodno, 1938; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 60; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999, Ст. 335; Polskie podziemie na terenach Zachodniej Ukrainy i Zachodniej Białorusi w latach 1939-1941. T. 1. Warszawa-Moskwa, 2001. Str. 172.

**Алюшкава Малання** // Aluszkowa Melania (1897—?), настаўніца. Скончыла беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. Працавала ў Гродзенскай беларускай прытулкавай школе і падрыхтоўчых класах беларускай гімназіі (1919–1921).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 8.

**Аляксюк Аўгіння, Аляксючанка** // Aleksiuk Augenia, Aleksiuczanka (1899, Гродна (?)—? ), актыўная дзячка беларускага нацыянальнага руху. Сястра П. Алексюка. Сакратар Гродзенскай павятовай рады і клуба «Беларуская хатка», сябра Гродзенскага БНК, бежанскага камітэта, працавала ў канцылярыі Міністэрства беларускіх спраў, была рэдактарам гродзенскай беларускай газеты «Зорка» (1919), пазней – сакратаром варшаўскага БНК, кур'ерам урада БНР. На «працэсе 45-ці» ў Беластоку А. Аляксюк узгадвалася ў якасці кіраўнічкі беларускай партызанкі (1923).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 8-10.

**Аляксюк Павел** // Aleksiuk Paweł (28.11.1892—?), беларускі нацыянальны дзеяч. Адзін з пачынальнікаў беларускага нацыянальнага руху ў Гродна. Заснавальнік Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1909). Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Магчыма, кіраваў Гродзенскім аддзяленнем Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (1915). Пазней – зноў у горадзе (з канца 1918). Разам са сваёй сястрой арганізаваў першыя ў горадзе беларускія мітынгі. Віцэ-старшыня клуба «Беларуская хатка». Сябра Гродзенскага БНК, гаспадарчай камісіі пры часовым Гродзенскім гарадскім камітэце. Сябра Гродзенскай гарадской Рады (1919). Здолеў правесці пастанову, якая надавала беларускай мове правы, роўныя з рускай, польскай і яўрэйскай. Пасля выступіў з пратэстам супраць скасавання гэтага рашэння. Старшыня Цэнтральнай Беларускай рады Гродзеншчыны. Выконваў

абавязкі старшыні Гродзенскай Беларускай школьнай рады. Рэдактар-выдавец гродзенскай газеты «Беларусь». Пазней – у Вільні і Навагрудку. Магчыма, у Гродна жыў па адрасе Якаўпраспект, 10-5 (на 1919).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 10-15; Пашкевіч А., Чарнякевіч А. «Бацька» беларускіх паланафілаў // Гістарычны альманах. 2010. Том 16. Ст. 37-58.

**Аляхновіч Зоф'я** // Olechnowicz Zofia (1888, Яблонна—?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю (1908). У міжваенны час працавала ў гродзенскай агульнай школе № 3. Пасля ўсталявання савецкай улады – у школах № 17 і № 6 (на 1939); настаўніца школы № 3 (на 1944). Жыла па вул. Басняцкай, 22/1 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 39; Br. Kuryłłowicz. Wspomnienie o księdzu kanoniku – Antonim Kuryłłowiczu // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Амдурскі Шэйма** // Amdurski Szejma (каля 1891—1942 (?), Гродна), бухгалтар. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса сіяніскай народна-сацыялістычнай арганізацыі Цэірэй-Цыён (Syjonistycznej ludowo-socjalistycznej organizacji Ceirej-Cijon) (1919–1927) і спіса Паалей-Цыён (Żydowska socjalistyczna partia robotnicza Poalej-Syjon) (1927–1930). Кандыдат на выбарах у Гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён, прафесійныя саюзы і рамеснікі (Poalej-Syjon, Związki Zawodowe i Rzemieślnicy) (1939). Падчас абмеркавання гарадскога бюджэту Рада прыняла яго прапанову, каб азеляненне перш за ўсё датычыла вуліц з найбольш убогім насельніцтвам. Акрамя таго, прапанаваў звольніць кіраўніка пажарнай аховы за разгон турэмнага бунту. Падчас нямецкай акупацыі трапіў у гета. Расстраляны разам са сваёй дачкой. Жыў па вул. Bankowa/Witoldowa, 13; Orzeszkowej, 48a.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 85-85 зв.; Там жа Спр. 4. Арк. 97; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17 зв.; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 493. Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Амельяновіч Браніслава**// Omiljanowicz Bronisława (19.8.1893 – 1974), настаўніца. Жонка Казіміра Амельяновіча – дырэктара гімназіі і педагагічнага ліцэя ў Шчучыне. У Першую сусветную супрацоўнічала з ПОВ. Скончыла настаўніцкі інстытут. Выкладчыца працоўнага навучання (robót ręcznych) у Гродзенскай жаночай гімназіі імя Э. Плятэр. Настаўніца беларускай школы № 3 (1939); дырэктар польскай сярэдняй школы № 10 (1940). Падчас нямецкай акупацыі разам з Я. Русецкай трымала гандлёвы ларок на плошчы Тызенгаўза. Была кіраўнічкай разведкі Вайсковай службы жанчын АК у Гродна (псеўданімы Чарна, Ганча). Арыштавана органамі НКУС (13.1.1945). Згодна з успамінамі дачкі, яе выдала падчас катаванняў на следстве А. Гальская. Была зняволена ў лагерах у Поцьме. Пасля вызвалення выехала ў Польшчу. У Гродна жыла па вул. Listowskiego/Policyjna, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 22; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 7, 38; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV—XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333, 334, 50, 168.

**Амяльянчык Мікалай**// Ameljanczyk Mikołaj (1899—?), беларускі нацыянальны дзеяч. Працаваў электрыкам. Сябра прэзідыума Гродзенскай Грамады беларускай моладзі (кіраўнік яе музычнай секцыі), Гродзенскага БНК (1919), Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства (1924). Самадзейны акцёр. Жыў па вул. Mostowa, 9 (1923).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 16.

**Ананчанка Аляксандр** // Ananczanka Aleksander, грамадскі дзеяч. Працаваў касірам на чыгунцы. Пераехаў у Гродна з Беластока (каля 1936). Старшыня і адзін са стваральнікаў Таварыства праваслаўных палякаў імя караля Стэфана Баторыя ў Гродна, актыўнай



прапагандай якога займаўся сярод мясцовага праваслаўнага насельніцтва. Выступаючы з прамоваю падчас святочнай закладкі каменя пад будучы храм праваслаўных палякаў у горадзе, ён заявіў, што гэты камень з'яўляецца «гранітам польскасці, гранітам нацыянальнага польскага духу, закладзенага ў жыццё праваслаўных» (5.3.1938). Пазней захварэў і быў вымушаны з'ехаць у Вільню, адкуль пераехаў у Брэст (1939). У Гродна жыў па вул. Jagiellońska, 21 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 2; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 28, 45, 46, 84.

**Ананчанка Зоф'я** // Ananczanka Zofia, старшыня кола Дома палякаў праваслаўнага веравызнання імя караля Стэфана Баторыя ў Гродна (Dom polaków wyznania prawosławnego im. króla Stefana Batorego w Grodnie) пры мясцовай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 2-4.

**Андэрман Юзаф** // Anderman Józef (каля 1906—?), працоўны. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад ППС (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Przemysłowa, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11.

**Андрушэвіч Мікалай** // Andruszewicz Mikołaj (2.11.1892, в. Шэрана каля Слоніма—?), настаўнік. З сям'і праваслаўнага святара. Скончыў курсы пры Жыровіцкім духоўным вучылішчы, Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні. Здаў экзамен на настаўніка (1912). Працаваў у Крываконенскім народным вучылішчы. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у 216-м палку пяхоты. Скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні (1919). Выкладчык беларускай школы ў Гродна (школа № 4) (1924–1927). Жанаты з М. Кухарчук (1923). Жыў па вул. Juryzdyka / Fabryczna, 119 (на 1923).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 17.

**Анзельгейм Самуіл** // Anzelgejm Samuel (1902—?), настаўнік. Скончыў гуманітарны факультэт Львоўскага ўніверсітэта, настаўніцкія курсы ў Гродна (1939) і Беластоку (1940). Працаваў у гімназіях у Саноку (1928–1930), Радомску (1930–1932), Астрогу (1936–1937), Гродна (1937–1939). З усталяваннем савецкай улады выкладаў у школе № 13 (1939–1940). Настаўнік польскай мовы ды гісторыі (канстытуцыі) у яўрэйскай поўнай сярэдняй школе № 12 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 32-32 зв.

**Аніхімоўскі Мікалай**// Anichimowski Mikołaj (17.4.1885, Чанстахова – ?), пракурор, суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Пётр і Анастасія Смігельская. Скончыў гімназію ў Калішы (1903), Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй у Яраслаўлі (1910).Стажор суда



ў Судовай палаце ў Варшаве (1910–1912). Здаў экзамен на суддзю (1912). Сакратар пракурора ў Судовай палаце ў Варшаве (1912–1915). Служыў у царскім войску, пазней у Чырвонай Арміі (1919–1920). Працаваў у 153-м эвакуацыйным пункце. Інтэрнаваны савецкімі ўладамі як паляк (4.1920). Памочнік рэферэнта ў прадстаўніцтве Польскага Чырвонага Крыжа ў Маскве (11.3.–1.7.1921). Пазней – у Польшчы (з 1921). Намеснік падпракурора акруговага суда ў Гродна (з 23.12.1921); падпракурор (з 2.7.1922); міравы суддзя акруговага суда ў Гродна (з 14.3.1927); суддзя крымінальнага аддзела акруговага суда ў Гродна (з 19.1.1928). Пазней на пенсіі (з 13.9.1935). Старшыня выбарчай камісіі на выбарах у гарадскую Раду (1927). З усталяваннем савецкай улады прайшоў курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў (1940). Працаваў выкладчыкам рускай мовы ў польскай сярэдняй школе № 2 у г. Гродна (з 12.10.1940). Быў жанаты з Таццянай Шчарбатавай (з 1921). Меў дзяцей: Сяргея (жончын сын) (1917), Рамана (1924). Магчыма, гаспадар дома на рагу вул. Północna і 11 Listopada.

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7. B. 2198; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; Там Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 54-54 зв.; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 252. Str. 4; Г. Моисеев. Мне часто вспоминались страницы далекого гродненского прошлого // Правосланый Гродно. Гродно, 2000. Стр. 179.

**Анішчык Дзмітрый** // Oniszczyk Dymitr, грамадска-палітычны дзеяч. Праваслаўны. Падчас Першай сусветнай – у бежанстве. Сябра ППС. Рэдактар мясцовага партыйнага органа «Dziennik Ludowy» (1938–1939). Быў прыгавораны да паўгадавога арышту з адтэрміноўкай за знявагу каталіцкага касцёла ў артыкуле «Siedliska ciemnoty» (1938).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 8.11.1938. № 306. H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1995. T. 2. Str. 49.

**Антановіч Галіна** // Antonowiczówna Halina, настаўніца. Скончыла вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Вільні. Дырэктар школы № 6. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Працавітая, адказная, інтэлігентная. У якасці кіраўніка школы здольная і клапатлівая» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8.

**Антанюк Мікалай** // Antoniuk Mikołaj (каля 1905—?), беларускі грамадскі дзеяч. Працаваў на лесапільні Аркіна, тытунёвай фабрыцы. Сакратар Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства, сябра праўлення Беларускага прытулка, прафсаюза працаўнікоў дрэваапрацоўчай галіны, КСМЗБ (1924). Неаднаразова арыштоўваўся па падазрэнні ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Адзін з трыццаці «палітычна неблаганадзейных асоб», якіх вызначыў камісарыят дзяржпаліцыі ў Гродна (1928).

*Літ.:* НАРБ Ф. 242-п. Воп. 1. Спр. 109. Арк. 30-31; ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68; Там жа Ф. 622. Воп. 2. Спр. 8. Арк. 608 зв.-610.

**Антонаў Ян** // Antonów Jan, настаўнік. Вярнуўся з бежанства (1918). Дырэктар беларускай школы ў Гродна. Быў адхілены ад працы польскім школьным інспектарам Р. Вазнякоўскім, а пазней арыштаваны польскімі ўладамі. Старшыня Гродзенскай Беларускай настаўніцкай рады і Цэнтральнай Беларускай рады Гродзеншчыны, сябра клуба «Беларуская хатка» (1919),

Гродзенскага БНК (1920). Пасля жыў у Літве. Аўтар кніжкі «Успаміны аб польскай акупацыі Гарадзеншчыны ў 1919–1921 гг. Малюнкі гвалту і здзекаў фацэтных польскіх паноў на Беларусі (Мае перажыванні)».

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст.18-20.

**Антоній / Марчанка Аляксандр** // Antoniusz / Marczenko Aleksandr (12.2.1887, Адэса—18.12.1954), епіскап Гродзенскі (1934–1936). Вучыўся ў Адэскім шасцікласным гарадскім вучылішчы імя Эфрусі. Скончыў Адэскую духоўную семінарыю (1910) і Пецярбургскую духоўную акадэмію (1914). Кандыдат багаслоўя. Прыняў манаства ў Калузе (1912). Служыў у Расійскай духоўнай місіі ва Урміі (Персія) (1914–1915). Працаваў у Стаўрапольскай духоўнай семінарыі (1915–1919). Архімандрыт, ігумен Пінскага брацкага багаяўленскага мужчынскага манастыра (1919). Вайсковы капелан пры Рускай добраахвотніцкай арміі (1919–1920). Пазней эміграваў; прыёр Чычэрскага манастыра Югаславіі (1921–1922). Пасля пераязджае ў Польшчу, дзе становіцца сябрам Варшаўска-Холмскай духоўнай кансісторыі (1922). Епіскап Люблінскі; вікарый Варшаўска-Холмскай дыяцэзіі (2.1923) (магчыма, настаяцель Аляксандра-Неўскага сабора ў Варшаве); прыёр Дэрманскага манастыра (8.1923); рэктар духоўнай семінарыі і прыёр манастыра Св. Троіцы ў Вільні (26.2.1924) (па іншых звестках – віленскага Свята-Духаўскага манастыра, старшыня Віленскай духоўнай кансісторыі). Рэктар духоўнай семінарыі ў Крамянцы і в.а. вікарыя Валанскай дыяцэзіі (26.3.–12.11.1926). Пераведзены ў стан адпачынку (22.2.1928). Прыёр Меліцкага манастыра (30.6.1928). Епіскап Камень-Кашырскі. Вікарый дыяцэзіі Палескай (23.10.1930). Кіраўнік Гродзенска-Навагрудскай дыяцэзіі (з 29.3.1934). Быў абвінавачаны віленскай газетай «Słowo» у гомасексуалізме. Суд гэтыя абвінавачванні абверг. Само распаўсюджванне падобных чутак тлумачылася падтрымкай з боку епіскапа палітыкі польскай дзяржавы ў адносінах да праваслаўнай царквы (1937). Арыштаваны органамі савецкай бяспекі (1951).

*Літ.:* «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 3.10.1937. № 274; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 10; А. Горны. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі XX стагоддзе. Гродна, 2014. Ст. 17-18.

**Апаланчук Аляксандр** // Opolonczuk Aleksander, інжынер. Прыехаў у Гродна з Варшавы. Быў прызначаны мясцовым інжынерам-агароднікам (1930). Павінен быў пасяліцца ў службовым памяшканні, замест былога дырэктара гродзенскага тэатра Б. Скомпскага. Сябра аргкамітэта Таварыства загарадных участкаў (Komitet Organizacyjny T-wa Ogródków Działkowych ) (1930).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 23 зв.

**Апалінскі Казімір** // Opaliński Kazimierz (22.2.1890, Пшэмысль—6.6.1979, Варшава), акцёр, рэжысёр, дырэктар гродзенскага тэатра. Выступаў у Пшэмыслі, Львове, Сасноўцах, Катавіцах, Гданьску. Кіраваў Саюзам артыстаў польскіх сцэн (Zrzeszenie artystów scen polskich) (1925–1926). У Гродна выступаў яшчэ падчас тэатральнага аб'езду (сярэдзіна 1920-х). Рэжысёр і акцёр выязнога самаўрадавага тэатра Беластоцкага ваяводства ў Гродна (Teatr objazdowy samorządów woj. Białostoskiego) (1930–1931). На два наступныя сезоны гродзенскі тэатр быў аддадзены яму і Ю.Кракоўскаму ў арэнду (1931–1934). Пасля выступаў у Лодзі, Варшаве, Кракаве. Здымаўся ў кіно (з 1936). Падчас нямецкай акупацыі працаваў чыноўнікам у магістраце. Пазней – у кракаўскім тэатры «Słowacki» (1945–1950), Народным тэатры ў Лодзі (1951–1952). З перапынкамі працаваў у Нацыянальным тэатры ў Варшаве (з 1953).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 281. Арк. 161; «Nasza scena» 1937. № 2. Str. 7; Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 509-510; www.culture.pl/baza-teatr-pelna-tresc/-/eo_event_asset_publisher/eAN5/content/kazimierz-opalinski.

**Апон Сяргей** // Apon Sergiusz (1906, в. Гольні М.Бераставіцкай гміны—?), беларускі радыкальны дзеяч. Сябра гуртка БСРГ ды КПЗБ у в. Гольня. Стваральнік беларускага кааператыва «Змагар» на станцыі Бераставіца (1929), кіраўнік Гродзенскага павятовага сакратарыята Беларускага сялянска-работніцкага пасольскага клуба. Арыштаваны (1930). Адбываў турэмнае пакаранне ў гродзенскай турме.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 20.

**Арваніці Уладзімір** // Arwaniti Włodzimierz (6.9. 1890, Рава Мазавецка—1940, Харкаў), вайсковец. Палкоўнік. Скончыў Міхайлаўскую артылерыйскую акадэмію (1912). Служыў у царскім войску, І-м польскім корпусе (1918). Пазней – у польскім войску. Удзельнік польска-савецкай вайны. Служыў у Вільні, Торуні, Заазер'і, Беластоку. Камандуючы 29-м палком лёгкай артылерыі ў Гродна (25.11.1935–24.8.1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Трапіў у савецкі палон. Быў расстраляны.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4; P. Zarzycki 29 pułk artylerii lekkiej. Pruszków, 1999. Str. 19.

**Аркін Аскар** // Arkin Oskar, уладальнік цагельні. Быў вымушаны закласці свае прадпрыемствы для выплаты пазыкі гродзенскім фінансістам Халперну, Хазану і Гро-дзенскаму. У сувязі са злоўжываннямі з боку крэдытораў пазней справа разглядалася ў судзе (1935). Яго дваццацічатырохгадовая жонка Ганна скончыла жыццё самагубствам (1932). Жыў па вул. Bazyliańska/Górna, 39 (1937).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 19.7.1932. № 49. Str. 4; «Ostatnie wiadomości Grodzieńskie». 1935. № 36. Str. 6.

**Арлінскі Баляслаў (Пергальскі Ян)** // Orliński Bolesław (15.12.1887—22.5.1956, Беласток), акцёр, рэжысёр. Дэбютаваў на сцэне ў Чанстахове ў трупе Ч. Віснеўскага (1907). Выступаў у тэатрах Кракава, Варшавы, Радома, Любліна, Чанстаховы. Акцёр тэатра ў Гродна (1928–1938). Пасля вайны акцёр тэатра ў Чанстахове і Беластоку.

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 509.

**Арлоўскі Пётр** // Orłowski Piotr, акцёр. Першапачаткова выступаў на сцэнах расійскіх тэатраў: у Іркуцку, Казані, Харкаве, Растове, Маскве, Пецярбургу, Баку, Тыфлісе, Уладзікаўказе, Кіславодску, Ялце, Адэсе. Пазней прыехаў у Варшаву, дзе пачаў выступаць у тэатры Qui Pro Quo (з 1921). Акцёр Гродзенскага гарадскога тэатра (1922–1923; 1931–1934). Выступаў у тэатрах у Варшаве, Плоцку, Вільні, Луцку. Крытыкі адносілі яго да акцёраў «расійскай школы». Памёр падчас Другой сусветнай вайны.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765—1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 510.

**Арцішэўскі Аркадзій** // Arciszewski Arkadiusz (1890, Гродна—?), грамадска-палітычны дзеяч. З сям'і служачых. Скончыў чатырохкласнае прыходскае вучылішча (1901), Віленскую гімназію (1908). Працаваў канцылярскім чыноўнікам ва Упраўленні Палескай чыгункі ў Вільні. Паступіў у Віленскае вайсковае юнкерскае вучылішча (1914). Удзельнік Першай сусветнай вайны; трапіў у палон. Вярнуўся ў Гродна (1918). Працаваў чорнарабочым на гарадской мармеладнай фабрыцы. Служыў у 1-м Гродзенскім беларускім палку (1919). Чыноўнік на чыгунцы, канцылярскі работнік у акцызным упраўленні (1920). Канцылярны служачы пры гродзенскім магістраце (1921–1939). Сябра Гродзенскай Грамады беларускай моладзі, БВК (1920), Таварыства праваслаўных палякаў (1936–

1939) (нядоўгі час быў яго старшынёй). Арыштаваны органамі НКУС (1940). Жыў па вул. Цаглянай, 4 (1940).

*Літ.:* В.Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времён до наших дней). Монография: часть II. Гродно, ГрГу, 2005. Стр. 45, 82-85.

**Арцішэўскі Юзаф** // Arciszewski Józef (каля 1893—?), чыноўнік. Працаваў у акцызным упраўленні. Грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Хрысціянска-нацыянальнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Старшыня арганізацыйнага камітэта Хрысціянскага дэмакратычнага саюза (11.1918) і Саюза гандляроў; намеснік старшыні камітэта з'яднання Усходніх зямель і Рэчы Паспалітай (Komitet Zjednoczenia Ziem Wschodnich z Rzecząpospolitą). Сябра Таварыства добраахвотнай пажарнай аховы (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie) (на 1921), Камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922), Камітэта па ўпарадкаванні гродзенскіх каталіцкіх могілак (1924), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Друкаваўся ў мясцовых выданнях. У артыкуле ў газеце «Nowe życie» галоўнай прычынай эканамічнага заняпаду ён называў яўрэяў. Пасля Другой сусветнай вайны, магчыма, жыў у Кутна. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «I Józef Arciszewski, chociaż sam ubogi, Związek Kupców prowadził na właściwe tory. Choć kupcom poznižano zawysokie progi, Arcy nadal w Kutnowskiem uczy ich pokory...» Жыў па вул. Narutowicza/ Pionierska, 48.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 125; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4; «Nowe życie». 18.12.1918. № 1; «Echo Grodzieńskie». 19.1.1921. № 14. Str. 3; «Nowe życie». 1921. № 36. Str. 284; «Nowe życie». № 37 Str. 288; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Nowe życie». 1924. № 7. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 19; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 335.

**Аршун Аляксандр** // Arszun Aleksander (1892 –?), беларускі грамадска-палітычны дзеяч, настаўнік. Атрымаў вышэйшую (па іншых звестках – няпоўную) адукацыю. Сябра БПС-Р (пачатк 1920-х). Кіраўнік Беларускага



прытулка ў Гродна (1925–1928). Рэдактар гродзенскай газеты «Беларуская думка» (1930–1932). Віцэ-старшыня Цэнтральнага камітэта арганізацыі беларускіх беспартыйных актывістаў, сябра праўлення Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства, дзе кіраваў тэатральнай і культурна-асветніцкай секцыяй (1924), Гродзенскай арганізацыі Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, праўлення таварыства «Еднасць» (1927), Беларускага акруговага выбаркама (1928), віцэ-старшыня Гродзенскага Беларускага нацыянальнага выбарчага камітэта (1930). Падчас святочнага адкрыцця

ў Гродна моста праз Нёман выступіў з прамовай, у якой падкрэсліў, што « ...беларускае насельніцтва наогул не рэагуе на лозунгі... У яго свядомасці зараз адбыўся пералом у адносінах да польскай дзяржаўнасці дзякуючы дзвюм акалічнасцям: упэўненасці, што Ю. Пілсудскі апякуецца патрэбнасцямі беларусаў, і тым, што сам маршалак нарадзіўся на гэтых землях». Пасля ўсталявання савецкай улады працаваў у Гродзенскім рана (1940). З пачаткам нямецкай акупацыі стаў сябрам Гродзенскага БНК (1941). Працаваў у мясцовай беларускай школе. Пазней – настаўнік школы № 6 (1944). Арыштаваны органамі НКУС. Пасля адбыцця пакарання вярнуўся ў Гродна, дзе і памёр. Жыў па вул. Mostowa, 9 (1925); Падольнай, 48 (1941); Прадмейскай, 42 (1944).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 20-22.

**Асецімскі Ян** // Osiecimski Jan (12.6.18883, Выгона—?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Ян і Ванда Маеўская. Скончыў юрыдычны факультэт Казанскага ўніверсітэта (1910). Памочнік прысяжнага адваката С.Троіцкага.Міравы суддзя ў Слоніме (1919). Кіраўнік гродскага суда ў Слоніме (з 1929). Кіраўнік гродскага суда ў Гродна (з 1929). Суддзя акруговага суда ў Пінску (з 1933). Быў адзначаны бронзавым медалём «За працяглую службу» (1938). Жанаты з Вольгай Барадзін (з 1909). Дзеці: Ірэна (1909), Рудольф (1914), Уладыслаў (1920), Алена (1923).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2218; «Wieczorny kurier Grodzieński». 17.9.1932. № 108. Str. 4.

**Асецкі Аляксандр** // Osiecki Aleksander (1897, Бароўка—?), настаўнік. Паляк. Скончыў гімназію і тры курсы політэхнічнага інстытута ў Кіеве, праслухаў курсы для настаўнікаў (1940). Працаваў настаўнікам матэматыкі і фізікі ў сярэдняй рамеснай школе ў Замосці (1923–1930), настаўніцкай семінарыі ў Люблінскім ваяводстве (1925–1926), гімназіі і вячэрняй рамеснай школе (1930–1939) ў Гродна. Настаўнік матэматыкі ў польскай сярэдняй школе № 19, школе № 5 (1940). Падчас акупацыі працаваў на тытунёвай фабрыцы. Настаўнік школы № 2 (на 1944). Жыў па вул. Piaskowa, 85 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 54-54 зв. C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45.

**Астроўскі Антоній (Вінцэнт?)** // Ostrowski Antoni (Wincenty?), следчы ў Ваўкавыску, гродскі суддзя ў Гродна, старшыня суда ў Поразаве і Ваўкавыску (з 1933). Пазней, магчыма, віцэ-пракурор пры Гродзенскім акруговым судзе (на 1937). Аўтар кнігі «Elementarne prawoznawstwo».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 3; «Wieczorny kurier Grodzieński». 12.2.1933. № 42. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 25.7.1938. № 201.

**Астроўскі Ігнацый** // Ostrowski Ignacy (27.7.1897, Вышаград—?), гаспадар абутковага прадпрыемства (zakład obuwia). Сын Юзафа і Юзэфы Кунькі. Скончыў сярэднюю школу ў Варшаве. Удзельнічаў у раззбраенні немцаў (1918). Служыў добраахвотнікам у польскім войску (да 1921). На выставе айчыннай прамысловасці атрымаў ад гродзенскага старасты пахвальны ліст (восень1932). Грамадскі дзеяч. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Хрысціянска-нацыянальнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Адзін з арганізатараў і віцэ-старшыня Таварыства польскіх купцоў. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937), павятовага Таварыства рамеснікаў- хрысціян у Гродна (Powiatowe stowarzyszenie rzemieślników chrześcijan w Grodnie) (1938), віцэ-старшыня Таварыства падафіцэраў запасу (Związek podoficerów rezerwy w Grodnie) (1939), сябра наглядной рады Рамеснага банка, праўлення Касы беспрацэнтнай імя Ю. Кілінскага.

Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Karierę wielką zaczął Ostrowski szewczykiem, Wkrótce spory kapitał do banku zgromadził, Otworzył sklep bogaty z nowoczesnym szykiem, Ale stołka szewskiego i pracy nie zdradził. W społecznej pracy czynny i w Związku Kupieckim, Choć nie żywił zachwytu nigdy do bogaczy, Z miłością sam pracował w zawodzie szewieckim I dał dowód, co słynna szewska pasja znaczy». Жыў па вул. Brygidzka, 11.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 18; «Wieczorny kurier Grodzieński». 10.9.1932. № 101. Str. 4; «Czyn młodych». 1938. № 8. Str. 3; «Dziennik kresowy». 30.3.1939. № 89. Str. 4; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 224; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 82.

**Астроўскі Станіслаў** // Ostrowski Stanisław, інжынер, чыноўнік гарадскога ўпраўлення. Удзельнік польска-савецкай вайны. Сябра Камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа, павятовага аддзялення ЛОПП (на 1937), прэзідыума Агульнапрафсаюзнага антыкамуністычнага камітэта (Międzyzwiązkowego komitetu antykomunistycznego) (на 1938). Магчыма, кіраўнік секцыі па футболе (sekcja piłki nożnej) клуба GKS «Cresovia». Меў шэраг узнагарод (Krzyż Niepodległości, Krzyż Walecznych). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Stanisław, Pan Ostrowski, instruktor LOPP-owy, Dał się mocno we znaki wszystkim nowicjuszom, W komorze nas zamykał na postrach gazowy, Aby hartu napędzić i ciałom, i duszom». Пасля вайны – у Польшчы.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228; «Dziennik kresowy». 9.11.1938. № 307; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 81.

**Астрынскі Самуэль** // Ostryński Samuel (каля 1888—?), грамадскі дзеяч. Прадстаўнік ад Яўрэйскага камітэта ў часовым гарадскім камітэце (1918). Падчас савецкага панавання – лектар (1920). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яднання сацыялістычнага блока Бунд, Паалей-Цыён і аб'яднання С.С. і Я.С. (Zjednoczonego Socjalistycznego bloku Bundu, Poalej Cion i zjednoczonych S.S. i J.S.) (1919–1927). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую раду ад Яўрэйскага беспартыйнага радыкальна-дэмакратычнага аб'яднання (Bezpartyjne żydowskie zjednoczenie radykalno-demokratyczne) (1927). Лаўнік гродзенскага магістрата: кіраўнік санітарна-медыцынскага аддзела (1923), пазней – аддзела здароўя і сацыяльнай апекі (1925). Прапанаваў замест вельмі дарагой будоўлі агульнага шпіталя для псіхічна хворых з усходніх ваяводстваў выкарыстаць плошчы былога акруговага шпіталя ў Гродна, які знаходзіўся ва ўладанні Міністэрства вайсковых спраў (1927). Старшыня праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага Таварыства апекі над яўрэйскімі сіратамі (Grodzieńskie wojewódzkie Towarzystwo opieki nad sierotami żydowskimi) (1930). Сябра камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930). Жыў па вул. Listowskiego / Policyjna, 40 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1 Спр. 3. Арк. 35 зв.; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 4; «Dziennik Kresowy». 2.12.1923. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 18.1.1930. № 4; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928, Zesz. 1. Str. 18; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno,1925. Str. 5, 6, 10; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна... Ст. 354.

**Атлас Малка** // Atłas Małka (каля 1901—?), рабочы. Актыўны дзеяч КПЗБ. Увайшоў у склад Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага блока рабочых (Zjednoczony blok robotniczy), аднак у пасяджэнні Рады не ўдзельнічаў, бо быў адразу арыштаваны польскай паліцыяй (1927). Адзін з трыццаці «палітычна неблаганадзейных асоб», якіх вызначыў камісарыят дзяржпаліцыі ў Гродна (1928).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Атовіч Баляслаў** // Ottowicz Bolesław, уладальнік аптэкі па вул.

Dominikańska, 9. Удзельнік «гродзенскай» літаратурнай серады ў Вільні (1929). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Apteka polska druga – własność Ottowicza, Była dobrą placówką w tej surowej porze, Gdy poty i łzy słone spadały z oblicza, Aby wyżyć z niedoli i wytrwać w honorze».

*Літ.:* «Gazeta Polska ziemi Grodzieńskiej». 14.12.1929 № 46; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź—Białystok, 1999. Str. 49; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 26.

**Аўтухевіч Станіслаў** // Autuchiewicz Stanisław, чыноўнік. Працаваў у гарадскім упраўленні. Сябра рэвізійнай камісіі Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), павятовага праўлення ЛОПП, камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938), сакратар камітэта памяці караля Стэфана Баторыя (Komitetu Uczczenia Króla Stefana Batorego) (1938). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Займаўся фатаграфіяй. Магчыма, гэта яго здымкі з выявамі Гродна і Гродзеншчыны друкаваліся на старонках мясцовага часопіса «Krajoznawstwo. Wiadomości Żydowskiego Towarzystwa Krajoznawczego, oddział w Grodnie». Пасля вайны – у Варшаве. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Stanisław Autuchiewicz w Grodnie był młodzianem, Biegał szczęścia szukając, pracując nad ludem, A teraz jest w Warszawie biegającym Panem, Bowiem tramwaj zapchany ledwo łazi z trudem. A swoją drogą dobrze, że Pan Staś w Warszawie, Bo w syreniej stolicy żyje znakomicie, Pamięta o swym Grodnie, jak o ważnej sprawie, Czeka, kiedy zabłyśnie na polskiej orbicie».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; «Dziennik Kresowy». 27.7.1938. № 203; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 79; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Ачасальская Юзэфа** // Oczesalska Józefa (1898, Петрыкаў—?), настаўніца. Скончыла гімназію ў Пётркаве, вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве (1920), курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы (1939–1940). Пачала працаваць настаўніцай у вясковых школках (1915–1920). Пазней працавала ў першай гуманітарнай коэдукацыйнай гімназіі (1922–1926), васьмікласнай гімназіі (1926–1931) у Палве, агульнаадукацыйнай школе № 8 у Гродна (1931–1939). Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Грамадска актыўная. Любіць спорт. Вынікі працы ў школе здавальняючыя» (1934). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Пасля ўсталявання савецкай улады працавала настаўніцай беларускай мовы ў рускамоўнай сярэдняй школе № 4 і школе № 7 (16.1.1940). Падчас нямецкай акупацыі працавала ў жыллёвым аддзеле. Завуч школы № 8 (на 1944). Пасля вайны – у Эльблонгу. Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «W Elblągu Oczesalska. Gdzież to zabłądziła? W Grodnie znana powszechnie, w sławie wielokrotna, A teraz aż w Elblągu gniazdo założyła, Dyrektorką została i nie jest markotna». У Гродна жыла па вул. Паўночнай, 19 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6; Там жа. Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 45; Там жа Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 36-36 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 18; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 73.

**Ашкеназі Грыгорый** // Aszkienazy Grzegoż (1892—?), купец. Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай гміны ад блока гаспадарчага аб'яднання (1932–1938). Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930). Жыў па вул. Bankowa/Witoldowa, 25 (на 1932).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 16, 61; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123.

**Ашчакевіч Станіслаў** // Oszczakewicz Stanisław (1892—?), настаўнік. Скончыў Кіеўскі політэхнічны інстытут (1917), курсы для дырэктараў (1932), курсы павышэння кваліфікацыі (1940). Настаўнік жаночай гімназіі ў Замосці (1921–1924), дырэктар рамеснага вучылішча ў Гродна (1924–1939). Настаўнік хіміі і фізікі ў сярэдняй школе № 13, школе № 19 у Гродна (1940). Завуч рамеснай школы. Падчас нямецкай акупацыі гандляваў, пазней працаваў тэхнікам у сталярні (1942–1944). Дырэктар школы № 3 (на 1944). Жыў па вул. Пясочнай, 17/1 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 39; Там жа Воп. 2. Спр. 10. Арк. 51-51 зв.; «Nadniemeński kurier polski». 27.3.1925. № 86.



**Баброўскі Ігнацы** // Bobrowski Ignacy, вайсковец. Палкоўнік. Магчыма, кіраваў інжынернай службай пры ДОК III (на 1923). Кіраўнік Гродзенскага інстутыта фізічнага выхавання. Купіў на патрэбы гродзенскага вяслярнага клуба «Нёман» дзве лодкі і даў доўгатэрміновы крэдыт на развіцце арганізацыі. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Яго дачка была замужам за Ю. Ядкоўскім.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5.



**Багатырэвіч Броніслаў** // Bohatyrewicz Bronisław (24.2.1870, Гродна—6.4.1940, Катынь), вайсковец, кіраўнік гродзенскай самаабароны. Сын Казіміра і Марыі Каваліцкай. Скончыў Гродзенскую гімназію (1887), афіцэрскую школу пяхоты ў Вільні (1893). Афіцэр пяхоты расійскай арміі. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Быў ранены, трапіў у нямецкі палон (1914). Адзін з арганізатараў і кіраўнік аддзелаў т.зв. Польскай Самаабароны на акупаванай немцамі тэрыторыі Гродзеншчыны (9-11.1918). Пазней – у Літоўска-Беларускай дывізіі, камандуючы Гродзенскім стралковым палком (12.1919–3.1920), Наднёманскай брыгадай пяхоты; выконваў абавязкі камандуючага 1-й і 2-й Літоўска-Беларускімі дывізіямі, афіцэр штаба Галоўнага камандавання войска Сярэдняй Літвы (1921–1922) і інш. Генерал брыгады (1927). Намеснік старшыні часовага Камітэта былой гродзенскай Самаабароны (1931). Меў двух сыноў: Віктара (1904) і Казіміра (1906). Быў арыштаваны органамі НКУС. Расстраляны ў Катыні.

*Літ.:* P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 82-83; M. Jackiewicz. Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w.–1945. Bydgoszcz, 2010. S. 82.

**Багдановіч Станіслаў** // Bogdanowicz Stanisław (каля 1905–?),

слесар-механік. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Podolna, 45.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5.

**Багуцкі Пётр** // Bogucki Piotr (13.08.1887, Востраў-Беластоцкі–05.01.1941), настаўнік. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Пасля жыў у Польшчы (з 1918). Працаваў выкладчыкам. Ваяваў добраахвотнікам на польска-ўкраінскім і польска-савецкім



франтах. Удзельнік паўстання ў Верхняй Сілезіі. Працаваў настаўнікам сямікласнай агульнай школы ў Шчучыне (з 1921). Пераведзены ў Гродна ў падрыхтоўчую школу пры жаночай настаўніцкай семінарыі імя Э. Ажэшкі (1925). Выконваў абавязкі кіраўніка сямікласнай агульнай школы № 2 (т.зв. «Баторыеўкі») (1926). Пазней па выніках конкурсу стаў яе афіцыйным дырэктарам (1930). Скончыў вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Энергічны і актыўны грамадскі дзеяч. У школе дасягае здавальняючых вынікаў» (1934). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Удзельнічаў у абароне Гродна ад Чырвонай Арміі, арганізаваўшы атрад гімназістаў (20-22.9.1939). Арыштаваны органамі НКУС (22.10.1939). Прыгавораны да расстрэлу (15.10.1940). Яго сям'я была выслана ў Казахстан. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскага пра яго захаваліся наступныя радкі: «W powszechnej szkole zwanej w skrócie Batorówką Piotr Bogucki piastował kierownika władzę. I za to mu zapłatę oddano gwintówką. Niechże jemu przynajmniej dam nagrodę w Sadze...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 139; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 21; M. Bogucka. Ludzie z kresow. Oficyna Naukowa, 2010; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Бадаш Ю.** // Badasz J., сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яднання сацыялістычнага блока Бунд і Паалей-Цыён (Zjednoczonego Socjalistycznego bloku Bundu, Poalej Cion i zjednoczonych S.S. i J.S.) (1919). Працаваў паліцэйскім. Па загаду гродзенскага старaства быў часова адхілены ад пасады (1920).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6. 10.

**Бадылькес** // Badylkies, прадпрымальнік. Выкупіў цагельны завод Станіслававa, стварыўшы з іншымі вытворцамі ў Гродна картэль.

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości Grodzieńskie». 17.2.1935. № 43. Str. 6.

**Бадылькес Шмерэл** // Badylkies Szmerel (24.7.1890, Гродна–7.1941), настаўнік. Сын Файвеля і Рыўкі Лайбінскай. Меў дыплом настаўніка агульнай школы; скончыў некалькі настаўніцкіх курсаў. Дырэктар яўрэйскай рэлігійнай школы «Kinder haim» па вул. Траецкай (1919–1929), пасля – агульнай школы № 5 (szkoły powszechnej) (з 1931). Кіраўнік і выкладчык курсаў яўрэйскай мовы для паліцэйскіх. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра гарадской Рады, дзе з'яўляўся сябрам Камісіі асветы і сацыяльнай апекі. Кандыдат на выба-

рах у гарадскую раду ад спіса Беспартыйнага яўрэйскага блока ў Гродна (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie) (1939). Арганізатар і старшыня Таварыства падтрымкі будавання публічных школ (Tow. pop. bud. publ. szk. powsz.), сябра школьнага нагляду ў Гродна (doz. szkoln. m. Grodno); скарбнік павятовай школьнай рады (skarbn. rady szkolniej powiatowej) (з 1926). Старшыня Яўрэйскай беспрацэнтнай касы (żyd. kasy bezpr.); сябра Саюза польскіх настаўнікаў (członek zw. naucz. pol.), ЛОПП. Выдаваў дзіцячы часопіс «Świt». Адзначаны Крыжам Заслуг (1933). Жанаты з Хаі Бібліон (1914). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай разам з іншымі прадстаўнікамі мясцовай яўрэйскай інтэлігенцыі. Жыў па вул. Listowskiego /Policyjna, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп.1. Д. 29. Арк.16; Там жа. Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 7; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 493; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваннным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Баер Вацлаў** // Baehr Wacław (6.10.1873–17.9.1939), навуковец, прафесар. Кіраўнік кафедры цыталогіі Варшаўскага ўніверсітэта (1922–1937). Сябра Амерыканскага генетычнага таварыства, Таварыства біёлагаў у Парыжы (1927), дзейны сябра Варшаўскага таварыства навук. Яго кандыдатура нават была прадстаўлена да Нобелеўскай прэміі. Пазней жыў у Гродна (канец 1930-х). З пачаткам Другой сусветнай вайны зноў выехаў у Варшаву.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 36.

**Байдзінская Людміла** // Bajdzińska Ludmiła (1884–?), настаўніца. Руская. Скончыла чацвёртую гімназію ў Варшаве, гісторыка-філалагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, Вышэйшыя жаночыя курсы пры тым жа ўніверсітэце, месячныя курсы беларускай мовы (1940). Мела дыплом Віленскай настаўніцкай семінарыі як настаўніца сярэдніх школ. Настаўніца рускай мовы і гісторыі ў прыватнай гімназіі Кеспера (1903–1905), рускай мовы ў прыватнай гімназіі «Школа Мазавецкая» ў Варшаве (1907–1909), рускай мовы, гісторыі і псіхалогіі ў гімназіі Золатавай у Разані (1916–1921). Выкладала гісторыю, філасофію, маляванне ў першай гуманітарнай коэдукацыйнай гімназіі (1922–1929) і агульнаадукацыйныя прадметы ў школе № 8 (1929–1939) у Гродна. Сябра праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Вынікі працы дасягаюць здавальняючых. Інтэлігентная, вельмі самастойная» (1934). Пасля ўсталявання савецкай улады працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў беларускамоўнай сярэдняй школе № 15 (1939–1940) і рускамоўнай поўнай школе № 11 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 1-1 зв.; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Байкоўскі Станіслаў** // Bajkowski Stanisław (каля 1891–?), лекар-хірург. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Удзельнік Вераснёўскай кампаніі (1939). Пасля вяртання ў Гродна быў арыштаваны органамі НКУС. Сядзеў у гродзенскай і мінскай турмах. Пазней служыў у арміі генерала Андэрса. Яго жонка разам з дачкой былі высланы (1940). Пазней выехалі ў Англію. У Гродна жыў па вул. Listowskiego/ Policyjna, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 25; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 26, 32-33.

**Байрашэўскі Аляксандр** // Bajraszewski Aleksander (каля 1893–?), домаўласнік, юрыст. Татарын па паходжанні. Адзін з кіраўнікоў расійскага руху ў Гродна. Сябра РДТ. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Беларуска-Расійскага блока (Białorusko-rosyjskiego bloku) (1927). Жыў па вул. Jagiellońska, 24.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 99. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Байцар Адам** // Bajcar Adam (1896, Львоў–?), настаўнік. Скончыў філасофскі факультэт Львоўскага ўніверсітэта (1921). Працаваў настаўнікам лацінскай і нямецкай моў у мужчынскай гімназіі ў Ломжы (1921–1925). Выкладаў лацінскую мову ў жаночай гімназіі ў Гродна (1925–1939). З усталяваннем савецкай улады выкладаў нямецкую мову ў сярэдняй школе № 18. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у «лясной касе» ў Гродна. Настаўнік школы № 7 (на 1944). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму і настаўніку Данько наступныя радкі: «Tam szkoła była piękna z oświaty filarem, …I żyli tam koledzy; Pan Dańko z Bajcarem, Wszysko zgodne tam było, jak kapela zgrana. …Bajcar, Dańko posnęli z wrogiem w porachunku…» Магчыма, Л. Саванеўскі лічыў, што ён загінуў падчас акупацыі. Жыў па вул. 1-га Мая, 16 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 43 зв.; Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 19-19 зв.; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 12.

**Бакун Раман** // Bakun Roman (15.12.1914, Гродна–?), настаўнік. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Гродна (1934). Працаваў у Малой Бераставіцы, Мастах, пазней –у гродзенскай школе № 7 (з 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 6. Арк. 3 зв.

**Баламут Стэфан** // Bałamut Stefan (1913, в. Пескі–?), настаўнік. Рускі. Скончыў настаўніцкую семінарыю (1913). Працаваў настаўнікам у школе № 1 г. Гродна (1936–1937), у школе ў м. Азёры (1937–1939). Пазней зноў у Гродна выкладчыкам астраноміі ў польскай сярэдняй школе № 2 (з 15.8.1940) . Падчас нямецкай акупацыі працаваў у жыллёвым аддзеле пры гарадскім упраўленні. Настаўнік школы № 2 (1944). Адзін з яго вучняў яшчэ са школы ў м. Азёры ўзгадваў пазней свайго настаўніка: «З выгляду меў каля сарака, даволі строгі ды прынцыповы, аднак, насамрэч, быў чалавекам мяккім і ставіўся да вучняў з разуменнем… Вёў гімнастыку, хор, танцы, а да таго ж меў акцёрскія здольнасці».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37, 75; Там жа Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 32-32 зв.; J. Gubarewicz. Kresowe miasteczko Jeziory. Białystok, 2006. Str. 98.

**Балдоўскі Стэфан** // Bałdowski Stefan, беларускі нацыянальны дзеяч. Магчыма, кіраўнік Беларускага прытулка ў Гродна (1923). Сябра Гродзенскага камітэта БСРГ, Беларускага сялянска-работніцкага саюза на выбарах у Сейм (1928) і ТБШ. Быў выключаны са складу апошняга за грашовыя злоўжыванні. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 26.

**Балёсік Юзаф** // Ballesik Józef (12.9.1911, в. Ставяне–пасля 1941), футбаліст. Працаваў служачым на чыгунцы. Скончыў гімназію г.Гродна. Першапачаткова выступаў за вайсковую каманду «ВКС 76 ПП», затым перайшоў у клуб GKS «Cresovia». Рознабаковы спартсмен, любімец гарадзенскіх заўзятараў. Адзін з найлепшых выканаўцаў вольных і адзінаццаціметровых udараў. У матчы «Cresovia» супраць гродзенскай «Makkabi» быў выдалены з поля, а пазней дыскваліфікаваны на некалькі гульняў. У адказ «Cresovia» заявіла, што адмовіцца ад удзелу ў чэмпіянаце (1930). Пазней выступаў за беластоцкую «Ягелонію», віленскія «Агніска»

і «Сміглы» (1938–1939). Загінуў у гады фашысцскай акупацыі.

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok, 2010. Str. 12; «Gwiazdy Jagiellonii Białystok». Режим доступа: http://www.jagiellonia.neostrada.pl/historia_gwiazdy_na.htm Дата доступа 2013.01.12

**Баліцкі Іосіф** // Balicki Józef (каля 1897, в.Лаша–?), настаўнік, беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Сябра БПС-Р. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Вярнуўся на радзіму з бежанства (1923). Старшыня павятовага камітэта БСРГ і акруговай управы ТБШ (1926). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса аб'яднанага блока рабочых (Zjednoczony blok robotniczy) (1927). Быў асуджаны па «справе 56-і» (1928). Зноў арыштаваны за ўдзел у выданні аднадзёнкі «Пралом» (1929). Жыў па вул. Orzeszkowej, 9 (сярэдзіна 1920-х).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 26-27.

**Банашак Эдвард** // Banaszak Edward (7.1.1892, Самастрэл–1977, Шчэцін), вайсковец. Палкоўнік. Служыў у кайзераўскай арміі. Удзельнічаў у Велькапольскім паўстанні, польска-ўкраінскай і польска-савецкай войнах. Служыў у Бедрыску, Познані, Вжэсне, Лешне і інш. Пераведзены ў КАП (1928). Намеснік камандуючага 79-м пяхотным палком у Слоніме. Камандуючы 81-м Гродзенскім пяхотным палком імя караля Стэфана Баторыя (7.1935–12.9.1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Падчас абарончых баёў трапіў у нямецкі палон (1939). Быў вызвалены толькі ў канцы Другой сусветнай вайны. Пазней вярнуўся ў Польшчу (1947). Працаваў у Шчэціне ў розных гандлёва-прамысловых установах.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4; A. Ochał Słownik oficerów i chorążych Korpusu Ochrony Pogranicza w Suwałkach (1929-1939). Suwałki 2009.

**Банкоўскі Васіль** // Bankowski Wasył, беларускі грамадскі дзеяч. Старшыня Гродзенскага Беларускага



правінцыяльнага камітэта. Сябра мясцовага Беларускага дабрачыннага таварыства (1924). Магчыма, быў арыштаваны польскай паліцыяй (1925).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 27.

**Банькоўская Мар'я** // Bańkowska Marja (14.4.1888, Красне–18.10.1951, Варшава), актрыса гродзенскага тэатра. Сваю тэатральную кар'еру пачала перад Першай сусветнай вайной. Выступала ў Львове, Кракаве, Познані, Кельцах, варшаўскім тэатры «Чорны кот» (1918–1920), люблінскай трупе Ю. Гродніцкага (1924–1925), выязной трупе Т. Новасці (1925) і інш. Пазней іграла невялікія ролі ў варшаўскім Народным музычным тэатры (Ludowy teatr muzyczny) (1949–1951).

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 16.

**Банькоўскі-Кіркор Леон** // Bańkowski-Kirkor Leon (27.10.1894, Віанзоўна–?), вайсковец, выдавец.

Скончыў Варшаўскую гандлёвую школу (szkołę handłową zgromadzenia kupców w Warszawie oraz S.G.G.W.). Прымаў удзел у вучнёўскіх выступленнях, сябра харцэрскага руху. Служыў у Польскіх легіёнах, сябра ПАВ. Вайсковы асаднік у Гродзенскім павеце, гаспадар маёнтка Сулішаў у Скернявіцкім павеце. Саўладальнік фабрыкі па вытворчасці шкла. Рэдактар і выдавец штодзённай газеты «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (1926–1927). Сябра Саюза вайсковых асаднікаў (Związek osadników wojskowych), гаспадарчых суполак (kółka rolnicze), Саюза стральцоў (Związek strzelecki) і інш. Першы камендант акругі Гродзенскай каманды Саюза стральцоў (Grodzieńskiej Komendy Zw. Stzrel.) (1925).

*Літ.:* «Reduta». 1926. № 4. Str. 4; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 32.

**Барадыцкі Мардэхай** // Borodicki Mordechai, доктар. Яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Прадстаўнік ад яўрэйскага камітэта ў Часовым гарадскім камітэце (1918). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскага дэмакратычнага блока (1919). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны (на 1921). Кіраўнік яўрэйскага культурнага таварыства «Yiddishe Kunst».

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodna. Rok 1928. Zesz. 1. Str.18.

**Баран (Баранаў) Сяргей** // Baran Sergiusz (27.09.1892, в. Віцькі Гродзенскага пав.–1937), беларускі нацыянальны дзеяч, пасол на Сейм. Нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і. Бацька працаваў у маёнтку. Скончыў сярэднюю школу ў Гродна. Вучыўся на Вышэйшых навуковых курсах у Кіеве (паводле Е. Глагоўскай – у Гродна ). Служыў пры вайсковай канцылярыі на Паўднёва-Заходнім фронце (1914–1918). Сябра партыі БПС-Р; яму было даручана весці арганізацыйную працу на Гродзеншчыне. Старшыня Гродзенскага БНК. Сябра Рады БНР, старшыня Грамады беларускай моладзі. Кіраваў юрыдычным аддзелам Гродзенскага рэўкама (8.1920). Пазней быў арыштаваны бальшавікамі і вывезены з горада, але па дарозе уцёк. Заснавальнік і выкладчык Гродзенскай беларускай гімназіі (канец 1920). Сябра Гродзенскага прадстаўніцтва Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа (1921), Беларускага выбарчага камітэта ў Гродна (1922). Быў абраны ў польскі Сейм па Гродзенскай акрузе ад блока № 16–нацыянальных меншасцей.Нядоўгі час з'яўляўся віцэ-старшынёй Беларускага пасольскага клуба, уваходзіў у склад дзвюх сеймавых камісій – па грамадскай апецы і інвалідству і камісіі па петыцыях. Актыўная дзейнасць пасла выклікала незадавальненне польскіх улад. Быў арыштаваны і асуджаны Беластоцкім акруговым судом на 6 год турмы па арт. 101 і 102 К.К. за антыдзяржаўную дзейнасць (1923). Быў звольнены загадам Прэзідэнта Польшчы (1926). Пазней нелегальна перайшоў у БССР (1928). Пэўны час працаваў на табачным складзе, пазней – у фабрычнай краме. Паступіў у Вышэйшы педагагічны інстытут у Мінску (1930). Рэпрэсаваны (1933). Пазней расстраляны. Меў жонку Алену і сына Анатоля. Жыў у Гродна па вул. Rzeźnicka, 13 (на 1922).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 28-32.

**Баран Самуіл** // Baran Samuel (1906–?), настаўнік. Скончыў гімназію, настаўніцкія курсы (1939, 1940). Працаваў настаўнікам у школе ў Дукштах (1928–1929), Дуніловічах (1929–1930), Свянцянах (1930–1931; 1937–1938), Ігналіне (1936–1937), Гродна (1938–1939). З усталяваннем савецкай улады завуч, дырэктар сярэдняй школы № 12. Выкладаў там жа яўрэйскую мову і матэматыку.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 33-33 зв.

**Бараноўскі Пётр** // Baranowski Piotr (1911–1990), інжынер, архітэктар. Скончыў будаўнічы аддзел Дзяржаўнай тэхнічнай школы ў Вільні. Працаваў у Гродна (1931–1939). Быў ініцыятарам і кіраўніком будоўлі Дома стральца (Domu Strzelca); кіраваў рэканструкцыяй Старога замка (1937–1939). Служыў у 76-м пяхотным палку. Быў цяжка ранены і трапіў у нямецкі канцлагер у Млаве (1939). Аўтар праекта і кіраўнік рэканструкцыі бернардынскага касцёла і кляштара ў Гродна (1941–1945). Пасля жыў у Польшчы. Працаваў пры адбудове Вроцлава (1945), інжынерам аб'яднання будовы хуты (прамысловага прадпрыемства) у Кракаве (Zjednoczenie przemysłowe budowy huty) (1949–1954). Атрымаў дыплом Варшаўскай палітэхнікі (1957). Працаваў у Міністэрстве будаўніцтва (1958–1980).

*Літ.:* Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 24.

**Бароўскі Пётр** // Borowski Piotr (?–магчыма 7.1943), прадпрымальнік. Гаспадар механічнай майстэрні, якую арганізаваў на месцы былых казённых вінных складоў па вул. Станіславоўскай (1910). Адзін з першых аўтаўладальнікаў у Гродна (1913). Яго фірма займалася чыгунным ліццём, вырабляла ўтулкі для колаў, займалася рамонтам абсталявання для млыноў. Пасля ўсталявання савецкай улады прадпрыемства было нацыяналізавана і атрымала назву «Слясарна-ліцейная майстэрня гарпрамкамбіната», аднак П. Бароўскі заставаўся яе кіраўніком. Падхаружы. Сакратар часовага праўлення вяслярнага клуба «Нёман» (1923) і праўлення акруговай ПАВ (1932). У сваім данясенні на імя нямецкага каменданта прадстаўнік мясцовага БНК абвінавачваў яго ў арганізацыі мясцовай польскай інтэлігенцыі (на 1941). Нейкі Бароўскі (Баркоўскі) быў расстраляны немцамі (лета 1943).

*Літ.:* НГАБ у Гродна Ф. 125. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 32; Там жа Спр. 78. Арк. 28; ДАГВ Ф. 372. Воп. 1. Спр. 5; «Wieczorny kurier Grodzieński». 2.6.1932. № 2. Str. 4; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 493.

**Барсукевіч Вацлаў** // Borsukiewicz Wacław (?–1943, форт № 2, в. Навумавічы), гаспадар (разам з братам) абутковага прадпрыемства. На выставе айчыннай прамысловасці атрымаў ад гродзенскага старасты пахвальны ліст (1932). Сябра акруговага праўлення ПАВ, сакратар праўлення Гродзенскага кола саюза чыгуначных тэхнікаў (sekretarz zrzeszenia techników kolejowych koła grodzieńskiego). Расстраляны немцамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1087. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 23; «Wieczorny kurier Grodzieński». 2.6.1932. № 2. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 10.9.1932. № 101. Str. 4; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 29; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 493.

**Барташэўскі Станіслаў** // Bartoszewski Stanisław, віцэ-старшыня (1936), пасля – старшыня Таварыства падафіцэраў запасу (Związek podoficerów rezerwy w Grodnie) (1939).

*Літ.:* «Rezerwista ziemi grodzieńskiej». 1936. № 8 . Str 8; «Dziennik kresowy». 30.3.1939. № 89. Str. 4.

**Бартноўскі Антоній** // Bortnowski Antoni, адвакат, былы чыноўнік расійскага акруговага суда ў Гродна. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яднаных польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Сябра праўлення Каталіцкага дабрачыннага таварыства пры Гродзенскай фары (1921). Прадстаўнік (plenipotent) князя Друцкага-Любецкага ў справе продажу надзелаў маёнтка Станіслававa пад забудовы. Пасля – на пенсіі. Жыў па вул. Orzeszkowej, 37 (1925).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 263; «Nowe życie». 1921. № 20. Str. 155; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10.

**Бартноўскі Станіслаў** // Bortnowski Stanisław, інжынер. Віцэ-старшыня спартыўнага клуба «Cresovia» (сярэдзіна 1930-х). Заваяваў

тытул чэмпіёна Гродна па тэнісе сярод мужчын на спаборніцтвах, якія праводзіў клуб (1932).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 28.6.1932. № 28. Str. 4; «Dziennik kresowy». 29.3.1939. № 88. Str. 4.

**Баруцкі Тэадор** // Borucki Teodor, надкамісар (Nadkomisarz). Камендант Гродзенскай павятовай паліцыі (на 1931–1935). Сябра павятовага праўлення ЛОПП (1937). Быў сведкам на працэсе паміж камендантам гродзенскіх пажарных Паўлоўскім і лаўнікам Мазуркевічам (1935). Яго жонка, Марыя Баруцкая, з'яўлялася старшынёй арганізацыі «Паліцэйская сям'я» (Rodzina policyjna) (з 20.6.1931).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 841. Арк. 2 зв.; Там жа Ф. 106. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 22 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «5 groszy Grodzienski kurier codzienny» 16.2.1935. № 45.

**Бас Ноах** // Bass Noach (1874, Васілішкі, Лідскі павет–24.6.1941, каля Баранавічаў), яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў ешэву ў Гродна (1887). Меў глыбокія веды па пытаннях яўрэйскай рэлігіі. Яшчэ ў маладосці далучыўся да сіяніцкага руху, удзельнічаў у сіяніцкіх канферэнцыях, якія адбываліся ў розных гарадах Еўропы. З'яўляўся адным з заснавальнікаў першага рэфармаванага хедэра (Cheder Metukan) у Гродна, дзе традыцыйныя прадметы выкладаліся дзецям на іўрыце. Ужо падчас Першай сусветнай вайны арганізаваў Яўрэйскае культурнае таварыства (Yiddishe Kunst), якое атрымала ад нямецкіх улад дазвол на культурную дзейнасць. Адзін з лідараў мясцовай сіяніцкай партыі (на 1919). Прадстаўнік ад часовага яўрэйскага камітэта ў часовым гарадскім камітэце (1918). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага дэмакратычнага блока (1919). У міжваенны перыяд быў прадстаўніком сіяніцкай партыі ў праўленні Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны (Va'ad ha-Kehilla). Быў сябрам савета дырэктараў яўрэйскага Народнага банка (Folks-Bank), які займаўся крэдытаваннем шырокіх колаў яўрэйскіх рамеснікаў і прадпрымальнікаў. Стварыў у Гродна аддзяленне таварыства «Tarbut», якое і ўзначаліў (1922–1937). Сакратар праўлення Саюза яўрэйскай студэнцкай моладзі (Związku Akademików Żyd.) (1932). Займаўся распаўсюдам яўрэйскіх і польскіх газет, працаваў журналістам, часта друкуючы свае матэрыялы на старонках мясцовай прэсы. Прымаў актыўны ўдзел у працы Яўрэйскага дабрачыннага фонда (Keren Kayemet), які збіраў ахвяраванні на развіццё яўрэйскіх пасялення ў Палесціне. За сваю працу ён быў адзначаны фондам, а яго імя ўнесена ў Залатую Кнігу Keren Kayemet, якая змяшчае імёны асоб і назвы арганізацый, якія прычыніліся да развіцця сіяніцкага руху (1938). Быў арыштаваны органамі НКУС разам з сям'ёй (20.6.1941). Загінуў разам з жонкай падчас нямецкай бамбардыроўкі цягніка са зняволенымі. Меў дачку і двух сыноў: Дзіяну Ган, Мордэха і Майкла. Верагодна, Мордха-Мотла быў адным з трох farbindungsmen пры юдэнраце. Пазней дзеці эмігравалі ў Ізраіль і ЗША. Газетнае агенцтва Баса знаходзілася ў Гродна па вул. Napoleona, 11.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56, Воп. 1, Спр. 59, Арк. 61 зв. Там жа Спр. 79, Арк.19. «Wieczorny kurier Grodzieński». 5.8.1932. № 66. Str. 4; «Unser Wort». 11.1.1935; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. – Jerusalem, 1973; Noach Bass, a collection dedicated to his memory (in Hebrew), published by the Grodno Association in Israel and the members of Bass' family in Israel and in the US. Tel Aviv, 1946; «Наше утро». 1919. № 10,11, 27; «Dziennik Grodzieński». 19.2.1922. № 4. Str. 5; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str.18; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 143; F. Zandman. Nigdy nie gaśnie nadzieja. Warszawa, 2005. Str. 93.

*Р. Маркус*

**Басель Адольф** // Bassel Adolf (1896–?), грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскага БНК (1920), старшыня павятовага праўлення Сялянскага аграрнага саюза (Chłopskie stronnictwo rolnicze), сябра сялянскіх земляробчых суполак (Kółka wiejskie chlopskie

stronnistw rolniczych) (1933), сакратар ЛОПП пры гарадскім упраўленні, старшыня Таварыства падафіцэраў запасу (Związek podoficerów rezerwy w Grodnie) (1936). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Сябра выбарчай камісіі № 7/2 падчас выбараў у гарадскую Раду (1939). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 21.8.1941). Магчыма, загадчык аднаго з аддзелаў (Leiter d. Quartieramtes). Жыў па вул. Krasińskiego, 6 (1939); Graf Spee, 6 (1942).

*Літ.:* НАРБ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк.21; ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 2427, Арк. 203 зв.; Там жа Воп. 10. Спр. 88. Арк. 249; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 50; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; Там жа Ф. 368. Воп. 1. Спр. 42. Арк. 4; «Rezerwista ziemi grodzieńskiej». 1936. № 8. Str 8; «Dziennik kresowy». 30.3.1939. № 89. Str. 4.

**Бахановіч Аляксандр** // Bachanowicz Aleksander (каля 1875, м. Азеры–?), грамадска-палітычны дзеяч. З сялянскай сям'і. Скончыў Віленскае пяхотнае вучылішча (1897). Паручнік інжынерных войск. Сябра Гродзенскага вайсковага саюза; Цэнтральнага камітэта аб'яднаных грамадскіх арганізацый Гродзенскай губерні (1917); Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Адэсе (1918). Пасля вяртання ў Гродна за сваю палітычную дзейнасць быў арыштаваны па загадзе Генеральнага Камісара (13.7.1919). Пазней жыў у м. Азёры. Мясцовая адміністрацыя намагалася пазбавіць А. Бахановіча польскага грамадзянства і выслаць за межы краіны як небяспечную для дзяржавы асобу.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 33-35; В. Черепица Город-крепость Гродно в годы Первой мировой войны: мероприятия гражданских и военных властей по обеспечению обороноспособности и жизнедеятельности. Гродно, 2006. Стр. 70-73.

**Бахенак (Бохенко) Сільвестра**// Bochenkówna Sylwestra (1885, Крукаўшчызна–?), настаўніца. Скончыла чатырохкласную сярэднюю школу, педагагічныя курсы, праслухала курсы беларускай мовы (1939). Выкладала ў гродзенскай агульнай школе № 3 (1915–1940). З усталяваннем савецкай улады – настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 20 (з 15.8.1940), сярэдняй школы № 2 (1944). Жыла па вул. Чапаева, 9/5 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 39; Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 60-60 зв.; Br. Kuryłłowicz. Wspomnienie o księdzu kanoniku – Antonim Kuryłłowiczu // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Бахмінскі (Бахманскі) Юзаф** // Bachmiński (Bochmański) Józef (каля 1897–?), чыноўнік. Радны Гродзенскай гарадской Рады (1930–1934; 1935–1939) ад фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Старшыня Саюза інвалідаў польскай арміі (1932), віцэ-старшыня праўлення акруговай ПАВ (1932), сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных грунтаў на месцы пракладвання гарадской каналізацы (1935). Жыў па вул. Jerozolimska, 28.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 26 зв.-27; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Wieczorny kurier Grodzieński». 2.6.1932. № 2. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Бейнер Леон Лех / Павел Ясеніца** // Bejner Leon Lech / Paweł Jasenica (10.11.1909, Сімбірск–19.08.1970, Варшава), настаўнік гісторыі, пісьменнік, публіцыст. Скончыў Віленскую гімназію, гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Працаваў настаўнікам і вядучым на радыё. Сябра клуба інтэлектуалаў (Klub intelektualistów) і студэнцкага клуба валацугаў (Akademicki klub włóczęgów). Выкладаў гісторыю ў гімназіі імя Г. Сянкевіча ў Гродна 1928–1929). Сакратар

праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Пазней пераехаў у Вільню. Працаваў у рэдакцыі «Słowo Wileńskie». Яго дэбютная кніжка «Zygmunt August na ziemiach dawnego Wielkiego Księstwa». Падчас Другой сусветнай вайны афіцэр АК, удзельнічаў у баях за Вільню (1944). Тады ж пад Гродна быў арыштаваны органамі НКУС. Уключаны ў склад польскай Арміі Людовай, дэзерціраваў, зноў у АК. Паранены, хаваўся ў в. Ясеніца. Пасля вайны – у Кракаве. Арыштаваны органамі бяспекі Польшчы (1948). Пасля вызвалення – старшыня таварыства «Caritas» (з 1950), старшыня т.зв. Клуба крывога кола (Klub krzywego koła) (1962). Падпісаў пратэст польскіх інтэлектуалаў супраць узмацнення цэнзуры (1964). Віцэ-старшыня польскага ПЭН-клуба (з 1966). Адкрыта падтрымаў моладзевыя пратэсты, у выніку чаго, фактычна, яго творы апынуліся пад забаронай. У. Гамулка публічна абвінаваціў Л. Бейнера ў супрацоўніцтве з органамі бяспекі (1968).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59; M. Jackiewicz Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w.–1945. Bydgoszcz, 2010. Str. 67-68.

**Беладворскі Маісей** // Biełodworski Maciej (1909–?, Парыж), настаўнік. Скончыў гімназію, педагагічную семінарыю, курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў у Гродна (1940). Працаваў настаўнікам у школах «Тарбут» у Гродна (з 1934). Выкладаў беларускую і рускую мовы ў рускамоўнай сярэдняй школе № 7 (з 16.1.1940). Разам з жонкай перажыў акупацыю. Спачатку пераехаў у Гданьск (1945), пасля ў Францыю.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 20-20 зв.; F. Zandman. Nigdy nie gaśnie nadzieja. Warszawa, 2005. Str. 197, 500.

**Бенкен Густаў** // Benken Gustaw (1890–24.2.1935, Варшава), грамадскі дзеяч. Намеснік каменданта пажарнай аховы Гродна. Служыў у Польскіх легіёнах. Адзін з арганізатараў у Гродна Саюза легіянераў (Zw. legjonistów). Магчыма, з'яўляўся яго старшынёй. Камендант павятовага Саюза стральцоў. Кавалер Крыжа Незалежнасці.

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 55. Str. 4; «5 groszy Grodzieński kurier codzienny». 27.2.1935. № 57. Str. 4.

**Беняш (Беняшувна) Ядвіга** // Bieniaszówna Jadwiga (каля 1894–?), настаўніца. Намеснік дырэктара Гродзенскай настаўніцкай семінарыі (на 1921–1922). Грамадска-палітычная дзяячка. Сябра фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) Гродзенскай гарадской Рады (1934–1939). На выбарах у Сейм вылучалася ад спіса Unia narodowa-państwowa (1922). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Пазней пераехала ў Ланцуце (Łańcucie). У Гродна жыла па вул. Orzeszkowej (будынак настаўніцкай семінарыі); Akademicka /Kirchowa, 20 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 285. Арк. 107; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 143; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 40; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. S. 4. Wiktoria Czapów : 1886-1975 / oprac. Aldona Jawłowska, Teodora Cygankiewicz-Cedro, Leokadia Sap. Kielce, 2000. Str. 18.

**Беразоўскі Давід** // Berezowski Dawid (20.1.1896–пасля 1941), журналіст, рэдактар. Яўрэйскі грамадскі дзеяч. Скончыў гімназію. Рэдактар «Grodner Moment». Неаднаразова прыцягваўся да судовай адказнасці ў сувязі з рэдактарскай дзейнасцю. Сябра сіндыката журналістаў Беластоцкай акругі (Syndykat Dziennikarzy Okręgu Białostockiego) (1933). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму радкі: «I Dawid Berezowski szumiał tam ogromnie, "Grodner Moment" wydawał i zarabiał krocie, Krytycznie bardzo pisał ...» Загінуў у Трэблінцы. Жыў па вул. Dominikańska, 7 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 52. Воп. 1. Спр. 500. Арк. 2-2 зв., 6, 23 зв., 44; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 11.

**Бергман Аляксандра** // Bergman Aleksandra (1.05.1906, Гродна–20.06.2005, Варшава), сябра камуністычнага падполля, гісторык. Дзявочае прозвішча Кучкоўская. Паходзіла з мяшчанскай сям'і. Яе бацька, Гірш Кучкоўскі, быў загадчыкам склада на тытунёвай фабрыцы Шарашэўскага. Вучылася ў Гродзенскай прыватнай гімназіі Вальдмана, дзе далучылася да камуністычнага руху. Пачала працу ў кравецкай майстэрні (1923). Абрана ў Гродзенскі акруговы камітэт КСМЗБ (1924). Удзельнічала ў арганізацыі першамайскага мітынгу на плошчы Стэфана Баторыя ў Гродна. За тое, што не здолела справіцца з раскольніцкімі плынямі «сэцэсіі» ў мясцовай камсамольскай араганізацыі, была знята з пасады сакратара загадам ЦК КСМЗБ. Пазней працавала інструктарам камсамола Заходняй Беларусі (1925), вучылася ў партшколе КПЗБ у Мінску (1927), з'яўлялася рэдактарам шматтыражнай газеты, сакратаром партарганізацыі на Гомельшчыне. Рэпрэсавана савецкімі ўладамі (1935). Выехала ў Польшчу (1945). Працавала на паліграфічным камбінаце, у выканаўчым бюро Спецыяльнай камісіі змагання са злоўжываннямі, у рэдакцыі часопіса «Życie partii». Займалася навукова-даследчай дзейнасцю. Даследчыца рэвалюцыйна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі.

*Літ.:* А. Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны: Даведнік. Гродна: ГРДУ, 2000. Ст. 28, 29; Е. Глагоўская Даследчыца беларускай гісторыі // Евреи Гродно. Очерки истории и культуры. Гродно, 2000. Ст.100-105.

**Берман Зееў Вулф (Вольф)** // Berman Wolf (1875–?), купец. Сябра яўрэйскай фракцыі Гродзенскай гарадской Рады (1927–1930; 1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны ад рэлігійнага блока (1932–1938; 1938–1939). Жыў па вул. Bośniacka, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 18; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123.

**Біалас Станіслаў** // Białas Stanisław (1895–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік гарадскога педагагічнага ліцэя. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno, Allgemeine abeilung) (з 16.7.1941). Расстраляны немцамі разам з жонкай і дачкой.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181, Арк. 21; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 159.

**Біргер Саламон** // Birgier Salomon (3.02.1890, Гродна–пасля 1941), лекар. Яўрэй. Скончыў медыцынскі факультэт у Монпелье (Montpellier). Лекарскі дыплом атрымаў у Дэрпце (1916). Спецыяліст па дзіцячых захворваннях. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у расійскім войску пры 26-м эпідэмічным шпіталі расійскага Чырвонага Крыжа. Практыкаваў у Харкаве. Па вяртанні ў Гродна працаваў лекарам на фабрыцы (1918). Пазней удасканальваў свае веды ў дзіцячай клініцы прафесара Чэрнега ў Берліне (1922–1923). Меў прыватную практыку ў Гродна. Прапаноўваў лячэнне кварцавай лямпай. Апякун ІІ-й акругі ў Гродна (1935). Кіраўнік Станцыі апекі над маці і дзіцём ТОЗ. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага Таварыства апекі над яўрэйскімі сіратамі (Grodzieńskie wojewódzkie Towarzystwo opieki nad sierotami żydowskimi) (1930) і ваяводскага камітэта дапамогі бежанцам з Нямеччыны (1938). Педыятр 1-й гарадской амбулаторыі (на 1941). Загінуў падчас Другой сусветнай вай-

ны. У Гродна жыў па вул. Dominikańska, 6 (1925); Horodniczańska, 1 (1937).

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 18.1.1930. № 4; «Głos grodzieński». 1938. № 88. Str. 4; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 56; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 345.

**Біргер Х.** // Birger H., грамадскі дзеяч. Прадстаўнік Міжнароднай сацыялістычнай рабочай фракцыі ў часовым гарадскім камітэце (1918). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага яўрэйскага сацыялістычнага блока (1919–1927). Выконваў абавязкі віцэ-старшыні (1920). Нейкі Біргер падчас савецкага панавання з'яўляўся старшынёй саўнаргаса пры Гродзенскім рэвалюцыйна-вайсковым камітэце (1920).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 15. Арк. 46; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. – Grodna,1925. – c.5, 6; S.Kolecki Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928, zesz. 1. – s.18;

**Біспінг Ян** // Bisping Jan (30.1.1880, маёнтак Струбніца Ваўкавыскага павета–1940), землеўласнік. Ардынатар маёнтка Масаляны (IV ordynat massalański), куды ўваходзілі Вярэйкі, Скалубоў, Верцялішкі, Кавалі, Паплаўцы, і гаспадар маёнтка Кадыш. Сын Юзафа (1845-1897) і Алены з Галынскіх (Hołyńskich) (1863-1940). Яго хатнім настаўнікам быў пісьменнік Адольф Дыгасінскі (A. Dygasiński), з якім яны падарожнічалі па Еўропе. Вучыўся на аграрным факультэце ўніверсітэта ў Хале, які быў вымушаны пакінуць у сувязі з раптоўнай смерцю бацькі і неабходнасцю ўзяць на сябе вядзенне гаспадаркі ў маёнтку. Ведаў шэсць моў. Упраўляючы Паўночна-заходнім таварыствам вінакурства. Праходзіў у якасці падазраваемага па справе забойства князя Уладыслава Друцкага-Любецкага (1913). Быў прыгавораны да чатырох год арыштанцкіх прац і канфіскацыі маёмасці, аднак усяго праз некалькі месяцаў аказаўся вызваленым пад заклад ў 100 тыс. руб. (1914). Пазней ужо польскі апеляцыйны суд у Варшаве прызнаў Біспінга вінаватым у забойстве ў стане афекту, прыгаварыўшы да 2 год і 8 месяцаў пазбаўлення волі (1926). Усяго праз год Вярхоўны суд адмяніў папярэдняе рашэнне. У выніку падчас чарговага судовага пасяджэння князь быў поўнасцю апраўданы (1928). Акрамя таго, разглядалася справа супраць яго адносна расстрэлу мясцовых сялян вясной 1919 г., па якой ён быў таксама апраўданы. Грамадскі дзеяч. З'яўляўся сябрам праўлення Гродзенскай павятовай Рады (1935), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937), камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów) (1938). Ахвяраваў 10 тысяч марак на дзяржаўную паветраную пазыку (pożyczke lotniczą) (1939). У сваім маёнтку заснаваў малочны кааператыў, школу садовых дрэваў, меў ставы і спіртзавод на мясцовым торфе, школу і прытулак. Папскі шамбелан (szambelan papieski). Быў двойчы жанаты. Другі раз – з Марыяй Замойскай. Меў трынаццаць дзяцей. Быў арыштаваны органамі НКУС і зняволены ў турме ў Ломжы, пасля чаго яго лёс невядомы.

*Літ.:* Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Літоўскай АН Ф. 155. Д. 406/1. Арк. 1,2,3, 13,14, 22, 31, 47; ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 293; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 3.4.1939. № 93. Str. 4. J. Bisping The history of the Bisping. Londyn, 1998; A. Bisping. Nasze Massalany. Wspomnienia. W. 1992; Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. T. 6. Warszawa, 2002. Str. 3-7; K. Jasewicz. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939-1956. T. 1. Warszawa, 1995. Str. 90-91.

**Блаўдзевіч Мар'ян** // Bławdziewicz Marian, інжынер, землеўласнік. Сябра таварыства «Муза», аддзела павятовай Рады Гродзенскага павято-

вага сейміка, Саюза землеўласнікаў Гродзенскага павета (Związku Ziemian powiatu Grodzieńskiego) (1935), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 4.

**Блох Абрахам** // Bloch Abraham (1871–1938), настаўнік Танаху першай гуманітарнай коэдукацыйнай гімназіі ў Гродна (1926). Сябра рады Яўрэйская рэлігійнай абшчыны ад нацыянальна-рэлігійнай фракцыі (на 1931).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 79. Арк.19; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 111.

**Блюмштэйн Хаім-Мордка**// Blumsztejn Chaim-Mordka (1886–6.7.1946, Лодзь), лекар, хірург. Супрацоўнічаў з Касай хворых (Kasa Chorych). Гаспадар прыватнага санаторыя ў Друскеніках. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Загадчык хірургічнага аддзялення 3-га гарадскога шпіталя (1940). Падчас нямецкай акупацыі трапіў у гета, аднак здолеў выратавацца разам з сям'ёй. Жыў Pl. Teatralny, 9; вул. Listowskiego/ Policyjna, 14(16).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20; «Przegląd Kresowy». 27.3.1930. № 63; Al. Blumstein Little House on Mount Carmel. Vallentine Mitchell, 2002.

**Боднар Эдвард** // Bodnar Edward (каля 1899–?), настаўнік. Пазней – гандляр. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Przezacny Edward Bodnar z impetem wytrwałym Długie lata pracował nad polską młodzieżą I w Związku Kupców działał z pożytkiem niemałym, Dzielnie polskość umacniał nad wschodnią rubieżą…» Жыў па вул. Zamkowa, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 70.

**Боеў Усевалад** // Bojew Wsiewołod (?–26.10.1954, Чыкага), грамадска-палітычны дзеяч. Былы прысяжны паверáны, адвакат. Віцэ-старшыня Гродзенскай беларускай губернскай управы, сябра літоўскай Тарыбы, таварыства «Бацькаўшчына», Гродзенскага часовага гарадскога камітэта і гарадской Рады ад блока «Беларускае грамадства». Дэпартаваны польскімі ўладамі ў Варшаву (па іншых звестках – у Кракаў) (1919). Пазней – у Літве. У Гродна жыў па вул. Гарохавай, 5 (1919).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 37-38.

**Боландз Ежы** // Bołądź Jerzy (1897, Дзергілі, Ваўкавыскі павет–1939), землеўласнік. Уладальнік маёнтка Дзергілі. Старшыня Ваўкавыскага сельскагаспадарчага саюза, Ваўкавыскай павятовай ашчаднай камісіі і г.д. Пасол на Сейм па акрузе № 44–Гродна. Сябра Беластоцкай парламентарнай групы (1934–1938). Быў забіты савецкімі салдатамі каля Зэльвы.

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 250. Str. 4; Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom I. Warszawa, 1998. Str. 187.

**Бравер Давід** // Brawer Dawid (1893 (1898?), Станіслава–13.2.1943, Гродна), настаўнік. Нарадзіўся на тэрыторыі Аўстра-Венгерскай імперыі. Скончыў сярэднюю школу ў Станіслава. Вучыўся ва ўніверсітэтах у Чарнаўцах і Вене, Венскай камерцыйнай акадэміі (па іншых звестках – у Львоўскай). Меў глыбокія веды ў розных сферах, у тым ліку валодаў іўрытам. Працу настаўніка пачаў з грамадскай пачатковай школы «Сафа Берура» ў Станіслава (1913–1914). Пазней выкладаў у грамадскай яўрэйскай гімназіі ў Чанстахове (1920–1922); быў настаўнікам і дырэктарам яўрэйскай гімназіі д-ра Канчэльскага ў Беластоку (1922–1927). Пазней працаваў у розных вучэбных установах

таварыства «Тарбут» (Tarbut) у Гродна: гімназіі, ліцэі, настаўніцкай семінарыі і пачатковай школе. Выкладаў лацінскую мову ў старэйшых класах (магчыма, з'яўляўся кіраўніком мясцовага таварыства «Тарбут») (1927–1940). Займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. Сябра Гродзенскай гарадскай Рады і рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). Выступіў падчас мітынгу -пратэсту супраць праследавання яўрэяў у Нямеччыне (1933). Вучні «Тарбут» сабралі сродкі на карысць яўрэйскіх перасяленцаў у Палесціне, у выніку чаго імя Д. Бравера было ўнесена ў Залатую кнігу «Keren Kayemet», якая змяшчае імёны асоб, якія прычыніліся да развіцця сіяністцкага руху (1938). Абраны ў склад праўлення яўрэйскай абшчыны (1938). Пасля ўсталявання савецкай улады- выкладчык нямецкай мовы і гісторыі ў школе № 7 (16.1.–15.8.1940),выкладчык геаграфіі ў польскай сярэдняй школе № 2 і школе № 15 (1940). Падчас нацысцкай акупацыі трапіў у гета № 1. Быў прызначаны немцамі кіраўніком юдэнрата ў Гродна. Зрабіў усё магчымае, каб забяспечыць насельніцтва заробкамі, жыллём і медыцынскай дапамогай. Ён нават ездзіў у Беласток, каб вывучыць спосабы ўтварэння малых фабрык і кіравання імі. У выніку, у гродзенскім гета быў заснаваны цэлы шэраг майстэрняў і заводзікаў. Праўда, калі Бэла Хазін, сувязная віленскага гета, папрасіла дапамагчы ёй фінансава, каб таемна выводзіць яўрэяў з Вільні, кіраўнік гродзенскага юдэнрата адмовіўся даць грошы. Хабарамі і падлабуньваннем Д. Браверу да пэўнага часу ўдавалася дабівацца ад улад розных выгод для гета. Аднак, пасля ліквідацыі гета № 2, ён страціў статус у немцаў. Калі ён чарговы раз з'явіўся перад імі, яго «ўшанавалі» аплявухамі па твары і ператварылі ў пасмешышча. Кіраўнік гета, Эрэліс, загадаў Д. Браверу і іншым членам юдэнрата прыбіраць снег з вуліцы чайнымі лыжкамі; іншым разам загадаў Браверу надзець чорны пінжак і высокі капялюш і несці на сабе бочку, поўную экскрэментаў. Падчас канчатковай ліквідацыі гета быў застрэлены камендантам гета Куртам Візэ. Жонка і дзеці Д. Бравера загінулі ў Асвенціме і Трэблінцы. А. Скідзельскі пазней узгадваў свайго настаўніка: «Ён [доктар Бравер] быў цудоўным чалавекам, якога ўсе любілі ды шанавалі, сапраўдным лідарам. Нічога дзіўнага, што, калі немцы пачалі шукаць кандыдата на месца кіраўніка яўрэйскага савета (юдэнрата), яны выбралі яго. Гэта было ў першыя дні існавання гэтай установы, калі юдэнрат адыграваў станоўчую ролю, прадстаўляючы яўрэйскае грамадства перад уладамі. Тым не менш, калі доктар Бравер стаў больш непатрэбным, верагодна, яго дзейнасць стала перашкаджаць уладам, яго застрэлілі на вуліцы ў гета». Жыў па вул. Brygidzka, 19.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 34-34 зв.; Там жа Спр. 1о. Арк. 60-60 зв.; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; «Wieczorny kurier Grodzieński». 29.3.1933. № 87. Str. 4; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Akiva–Autobiography and memories, published by the Skidel family. 1994; Communication with Moshe Alperstein, former graduate of the Tarbut Gymnasium in Grodno. 2010; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 43; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche–пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 387, 413, 414, 438, 444; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 493.

*Р. Маркус*

**Бранервайн (Бронервайн) Хаім-Іцхак** // Bronerwajn Chaim-Icchok (1894–?), купец. Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны ад Слабодкі (сіяністцкай фракцыі), пазней – ад блока беспартыйных і «Мізрахі» (1931–1938). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1934–1939). Староста галоўнай сінагогі (на 1928). Жыў па вул. Listowskiego, 3 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56, Воп. 1, Спр. 79, Арк.17, 61; «Nowe życie». 1928. № 82. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123.

**Браніцкая Леакадзія** // Bronicka Leokadia, настаўніца школы № 4. Скончыла выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Інтэлігентная і энергічная. Вынікі працы добрыя» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6.

**Брановіч Баляслаў** // Bronowicz Bolesław, настаўнік школы № 8. Скончыў выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Нагул, працаўнік добры і ўважлівы. Вялікіх педагагічных здольнасцей не праяўляе» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6.

**Браўдэ Абрам** // Braude Abram (1899–?), бухгалтар. Яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Сіяніст (магчыма, сябра Бунда). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны (1932–1938), намеснік старшыні праўлення (з 1938). Вылучаўся ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён (Żydowska socjalistyczna partia robotnicza Poalej-Syjon) (1927). Сябра сацыялістычнай фракцыі Гродзенскай гарадской Рады (1930–1934). Палемізуючы з прэзідэнтам Гродна А. Ранчашэкам наконт памераў субсідый для мясцовых прытулкаў, палічыў сябе пакрыўджаным выказваннем апошняга адносна яго асобы і паабяцаў звярнуцца за абаронай асабістай годнасці ў суд, пра што і быў зроблены адпаведны запіс у пратаколе Рады. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён, прафесійныя саюзы і рамеснікі (Poalej-Syjon, Związki Zawodowe i Rzemieślnicy) (1939). Падчас нямецкай акупацыі – у гета. Здолеў збегчы з Трэблінкі ў гета ў Беластоку, каб распавесці пра знішчэнне яўрэяў (1943). Жыў па вул. Kalucińska, 20 (1932), Mieszczańska, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 121; Там жа Спр. 18. Арк. 12 зв.; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 17, 57, 61; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; T. Wiśniewski Zagłada gminy zydowskiej w Grodnie // Białostocczyzna. 1992. T. 1. Str. 24.

**Брахоцкая Ганна (Вінчэўская Ганна)** // Brochocka Hanna (1913 (1918), Іркуцк–20.2.1968, Варшава), актрыса, танцорка. Скончыла Варшаўскую гімназію. Вучылася ў школе танцаў Т. Высоцкай. Выступала ў тэатрах Варшавы, Познані. Актрыса гродзенскага



тэатра (1935–1937). Пазней – у Быдгашчы, Лодзі, Катавіцах.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 72.

**Брусцін Абель** // Brustin Abel, сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ад сіяністкай фракцыі (да 1.1932) і Гродзенскага аддзялення таварыства дабрачыннай дапамогі «ORT» (1920).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 7; Там жа Спр. 79. Арк. 17; «Nowe życie». 1928. № 82. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10.

**Брушко А.** // Bruszko A., рэдактар газеты «Беларуская доля», якая выдавалася таварыствам «Еднасць» у Гродна (1927).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 39-40.

**Брызман Герман** // Bryzman Herman (1890 (1897(?))–?), лекар. Спецыяліст па ўнутраных, скурна-венерычных захворваннях. Рабіў аналіз крыві, лячыў кварцавай лямпай. Ардынатар 3-га гарадскога шпіталя (1940). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза яўрэяў-удзельнікаў барацьбы за незалежнасць Польшчы (Związek Żydów uczestników walk o niepodległość Polski) (на 1939). Быў абраны ў Касу хворых (1926). Публіцыст. Аўтар артыкула «Komuniści a nowoobrana rada miejska», прысвечанага выбарам у гарадскую Раду (1927). Жыў па вул. Hoovera, 2 (1925); Kalucińska, 14 (1937).

*Літ.:* «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 290. Str. 4; «Dziennik kresowy». 20.4.1939. № 108. Str. 6.

**Брыльскі Люцыян** // Brylski Łucjan (14.6.1898, Мжыглоддзе, Заверскі пав.–18.11.1963, Манчэсцер), выкладчык. Вучыўся ў гімназіі ў Заверці. Экстэрнам здаў экзамен на атэстат сталасці ў Львове (1921). Студэнт аддзялення філасофіі Кракаўскага ўніверсітэта (1921–1925). Выкладчык польскай мовы ў гімназіі імя А. Міцкевіча ў Гродна (з 1924). Працаваў у купецкай гімназіі ў Лідзе (з 1938). Пасол на Сейм па акрузе № 50–Ліда (1938–1939). Сябра АЗОНа. Падчас Другой сусветнай вайны служыў у польскім войску. Пасля вайны пасяліўся ў Вялікабрытаніі.

*Літ.:* Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom I. Warszawa, 1998. Str. 211; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Брэйха Ян** // Breycha Jan (каля 1885–1940(?)), інжынер. Капітан сапёрнай службы. Па загадзе камандуючага ДОК III генерала Бярбецкага, зрабіў абмер Замкавай гары (1924). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Арыштаваны органамі НКУС (1939). Сядзеў у турмах у Гродна і Брэсце. Далейшы лёс невядомы. У Гродна жыў па вул. Północna, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; J. Jodkowski Muzeum w Grodnie. Rocznik II za rok 1924 Grodno, 1925. Str. 8; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Буда Мар'ян** // Buda Marian (1893, Зелена–?), прафесар. Падпаручнік. Нарадзіўся ў Нямеччыне. Дырэктар сярэдняй школы № 7. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Тарнопалі (1919), выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве (1924). З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Настаўнік інтэлігентны і адданы школе. У якасці кіраўніка школы паказаў сябе добрым гаспадаром» (1934). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Уваходзіў у тэатральную камісію (1935). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Zw. Strzelecki) (1933), рэвізійнай камісіі пры Гродзенскім саюзе пажарнай аховы (1934). Працаваў настаўнікам у сярэдняй школе № 10 (на 1941), школе № 8 (на 1944). Падчас нямецкай акупацыі працаваў на тытунёвай фабрыцы. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Czynny Buda społecznik we wschodnim rejonie...» Жыў пры школе па вул. Lipowa, 39 (1937–1939); Глегера, 10 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 25; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 28; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 45; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 1а Арк. 28; Там жа Спр. 3. Арк. 15; «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.5.1933. № 120. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 38; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 326.

**Будзаноўскі Тэафіл** // Budzanowski Teofil (10.12.1894, Рыпін–5.3.1959, Пётркаў), настаўнік, грамадска-палі-

тычны дзеяч. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Вымысліне (1913), паланістычныя курсы ў Торуні і Цешыне (па іншых звестках – аддзел паланістыкі Варшаўскага ўніверсітэта). Атрымаў дыплом настаўніка сярэдніх школ і настаўніцкіх семінарый (1928). Удзельнічаў у барацьбе за адкрыццё польскіх школ (1905). Працаваў настаўнікам (з 1913). Падчас Першай сусветнай вайны супрацоўнічаў з ПАВ. Добраахвотнікам змагаўся ў савецка-польскай вайне (6-ы полк легіёнаў) (1919–1921). Настаўнік у прыватнай гімназіі ў Рыпіне (з 1921). Сябра гарадской Рады Рыпіна (1920–1928). Рэдактар газеты «Ziemia Dobrzyńska». Пазней пераехаў у Гродна, дзе выкладаў у Дзяржаўнай гімназіі імя А. Міцкевіча (з 1928). Пазней працаваў у гімназіі і ліцэі імя Я. Каханоўскага ў Варшаве, школьным інспектарам у Ломжы (з 1934), пасля – у Беластоку. Зноў вяртаецца ў Гродна. Служыў пры ДОК ІІІ (на 9.1939). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939; 1939). Падчас абмеркавання гарадскога бюджэту адзначыў, што лічыць дзіўным сітуацыю, калі ў Беластоку на 3 тыс. яўрэйскіх вучняў асігнуецца 27 тыс. злотых, а ў Гродна пры 2 тыс.–31 тыс. Старшыня Гродзенскай федэрацыі польскага Саюза абаронцаў Айчыны і Саюза польскіх настаўнікаў. Сябра ППС, ПСЛ «Вызваленне», прэзідыума павятовай рады ББСУ (1933), сябра праўлення акруговага Саюза стральцоў (Związek strzelecki), акруговага праўлення Саюза рэзервістаў (zarząd okręgu ZR), Гродзенскай школьнай павятовай Рады. Віцэ-старшыня Гродзенскай рады павятовага праўлення АЗОНа (1939). Пасол у Сейм па Гродзенскай акрузе (1938–1939). Працаваў у камісіях асветы, вайсковай, распарадку. Яго выступленне ў сейме (3.1939), калі пасол выказаўся з крытыкай адносна актыўнай грамадскай дзейнасці жанчын (назваў гэткіх дзяячак «грамадскімі фурыямі»), выклікала пратэст з боку Камітэта аб'яднаных жаночых арганізацый у Гродна (komitet zblokowanych organizacji kobiecych). Т. Будзаноўскі быў вымушаны ў адказ выступіць з тлумачэннямі ў мясцовай прэсе. Аўтар паэтычнага зборніка «Duch wieśniaczej strechy» (1919), метадалагічна-дыдактычных прац «Krajobrazy Polskie», «Dusza dziecka a Wódz Narodu» (1931) і артыкулаў у мясцовым друку. Меў шматлікія ўзнагароды. Трапіў у нямецкі канцэнтрацыйны лагер, адкуль здолеў уцячы ў Варшаву. Сябра АК. Удзельнічаў у Варшаўскім паўстанні. Быў цяжка паранены. Пасля вайны працаваў настаўнікам у Тамашове Мазавецкім і Пётркаве Трыбунальскім. Сябра ПЗПР (з 1948). Узнагароджаны сярэбраным крыжам Orderu Virtuti Militari. Яго сын Януш загінуў пад час абароны Гродна ад Чырвонай Арміі. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго і сына Януша : «Teofil Budzanowski tytuł ma do chwały, Poseł Ziemi Grodzieńskiej i poeta znany, Inspektor szkolny w Grodnie i w pracy wytrwały, Stary działacz Peowiak i człowiek lubiany. A syn jego należy do niezwykłych ludzi, Bo padł z czołgiem w potyczce w boju niebezpiecznym. Ten zmarły Budzanowski niechaj żywych budzi, By się zawsze szczycili czynem pożytecznym». У Гродна жыў па вул. Żwirki, 4 (на канец 1930-х).

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1610. Арк. 13 зв.; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 32 зв.-33; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 7-7 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Nowy dziennik Kresowy». № 330. 28.11.1930. str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik kresowy». 6.11.1938. № 304. «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 2; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; T. Budzanowski. Dusza dziecka a Wódz Narodu. Grodno, 1931; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 82; Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom I. Warszawa, 1998. Str. 224-225; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 37.

**Буднік Алена** // Budnik Alena (1900, в. Дубляны–?), настаўніца.

Скончыла настаўніцкую школу пры Краснапольскім манастыры і беларускія настаўніцкія курсы. Працавала ў в. Гудзевічы, Гродзенскім беларускім прытулку (1923), інспектарам палітасветы па Гродзенскім раёне (1940). Падчас нямецкай акупацыі – у Германіі. Настаўніца пачатковых класаў у школе № 1 Гродна (1944). Жыла па вул. Mostowa, 9 (1923); вул. 17-га Верасня, д.13, кв. 3 (1944).

*Літ.:* НАРБ Ф. 325. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 32 зв.; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 85. Арк. 16.

**Будрэвіч Яніна** // Budrewicz Janina (1891–?), настаўніца. Скончыла Уманскую жаночую гімназію, Вышэйшыя настаўніцкія курсы ў Варшаве, настаўніцкія курсы ў Гродна (1939, 1940). Працавала ў школе для бежанцаў у Саратаве (1916–1918), пачатковай школе ў Пясэчна (1918–1919), Тэаліне (1921–1934), Горачцы (1934–1935), агульнай школе № 8 у Гродна (1935–1939). З усталяваннем савецкай улады працавала настаўніцай польскай мовы ў сярэдняй школе № 17 (1939–1940), школе № 13 (1940), школах № 4 (на 1944), школе № 2 (на 1945). Жыла па вул. Дзяржынскага, 5 (на 1945).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 40; Там жа Спр. 22. Арк. 15 зв.-16; Там жа Воп. 2. Спр. 10. Арк. 40-40 зв.

**Буйло Станіслава, Буйлянка** // Bujło Stanisława (?–28.2.1922, Гродна), настаўніца. Магчыма, жонка дырэктара Гродзенскай беларускай гімназіі П. Тамашчыка. Родная сястра беларускай паэткі К. Буйло-Калечыц. Падчас Першай сусветнай вайны працавала ў Рыжскім земсаюзе, настаўніцай у маёнтку кн. Магдалены Радзівіл у Жарнаўках. Тады ж захварэла на сухоты. Адна з заснавальнікаў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны. Загадчыца Гродзенскага беларускага дзіцячага прытулка (1921).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 40-42.

**Булава Ірэна** // Buława Irena (1912, Гродна–?), настаўніца. Жонка Я. Булавы. Скончыла Вышэйшую камерцыйную школу (1936). Пазней працавала настаўніцай у сярэдняй школе № 2 (1940, 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 46-46 зв.; С. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45.

**Булава Ян** // Buława Jan (1907, Масты–?), настаўнік хіміі. Скончыў Вышэйшую камерцыйную акадэмію (1936). Пазней выкладаў у школе № 19 (1940). Падчас нямецкай акупацыі займаўся гандлем і сельскай гаспадаркай. Сябра АК. З усталяваннем савецкай улады працаваў настаўнікам у сярэдняй школе № 2 (на 1944). Арыштаваны органамі НКУС (1945). Жыў па вул. Чкалава, 5 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 46-46 зв.; С. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45.

**Буракевіч Фелікс** // Burakiewicz Feliks (19.9.1881, Сувалкі–?), суддзя. Бацькі – Казімір і Эма з Дрэвес. Каталік, паляк. Скончыў гімназію ў Сувалках, юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, археалагічны інстытут. Здаў экзамен на судовага стажора ў Пецярбургу (1910). Стажор акруговага суда ў Пецярбургу (1908–1914), сакратар у гэтым жа судзе (1914–1915), сакратар апеляцыйнага суда ў Петраградзе (1915–1917), суддзя акруговага суда ў Петразаводску (1917–1918). Суддзя (з 14.12.1922), віцэ-старшыня (з 14.12.1932) акруговага суда ў Гродна. Быў адзначаны Залатым Крыжам Заслугі (1938), бронзавым медалём «За працяглую службу» (1938). Паводле характарыстыкі, «за час сваёй шматгадовай практыкі… вылучыўся вельмі вялікай пільнасцю, працавітасцю, сумленнай паставай і любоўю да працы суддзі. Кіруючы працай грамадскага аддзела акруговага суда ў Гродна часта замяшчаў старшыню суда ў яго адміністрацыйнай працы…» (1937). У



адпачынку (з 1938). Працаваў іпатэчным пісарам пры іпатэчным аддзеле акруговага суда ў Гродна. Электар у складзе ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów) (1938). Арыштаваны органамі НКУС (пасля 1939). Жанаты з Марыяй Каневер-Маеўскай (1922). Меў дзяцей: Казіміра (1918), Часлава (1920), Юзафа (1923). Яго жонка была выслана савецкімі ўладамі ў Казахстан (1940).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 359; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 1 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 3; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 139.

**Бурдэ Берэль (Берко)** // Burde Berel (каля 1873–?), майстар гадзіннікаў, ювелір. На старонках мясцовых газет узгадвалася, што ён падмяніў аднаму з пакупнікоў каштоўны камень на штучны. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Беспартыйнага яўрэйскага блока ў Гродна (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie) (1939). Жыў па вул Dominikańska, 9 (1937); Wróblewskiego, 16 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; «Wieczorny kurier Grodzieński». 27.5.1933. № 143. Str. 4.

**Бурштын Юзаф Станіслаў** // Bursztyn Józef Stanisław (10.12.1883, Варшава–?), журналіст. Сын Леапольда і Розы з Градусув (Gradusów). Скончыў гімназію і юрыдычны факультэт у Варшаве, гуманітарныя курсы (псіхалогія, эстэтыка). Працаваў у шэрагу рэдакцый. Служыў у Польскіх легіёнах (з 13.10.1914), польскай арміі (з 1918). Капітан запасу (з 1.1.1930). Рэдактар гродзенскай газеты «Przegląd Kresowy» (1930). Пачынаючы серыю сатырычных шаржаў на гродзенскіх дзеячаў, выданне першым змясціла выяву свайго рэдактара з подпісам: «Twierdza–Bursztyn ten fałszywy Energiczne stawiam veto Cóż za skandal! Co za dziwy!.. Więc objaśniam wszystkim przeto: Jak i zwykłe wszak bursztyny Takież ma on własciwości: Kolor żółty, jak cytryny? No i robak wewnątrz gości A gdy natrzesz ty go szmatą Papiereczek się przylepi... No i stary taki tato Że nań czycha kustosz Papi Ale zasadnicza cecha: (Ten rys, to naprawdę świetny) / Wciąz srogiego robi Lecha I udaje że... szlachetny». Газета «Nowe życie» (рэд. Л. Саванеўскі) змясціла свой вершаваны «адказ», які пачынаўся радкамі: «Dziarski Przegląd Bursztynowy Lubi sobie marzyć, śnić, Że ten padół nasz kresowy Dobrym kiedyś może być...» Пазней рэдактар «Ziemi Radomskiej» (1930–1932), «Nowin Radomskich» (1936).

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 19.1.1930. № 5. Str. 4; «Przegląd kresowy». 21.2.1930. № 34. Str. 4; «Pzegląd Kresowy». 16.5.1930. № 104; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War., 1938. Str. 89.

**Буткевіч Атон** // Butkiewicz Otton, кіраўнік грамадскага аддзела гарадскога ўпраўлення (naczelnik wydz. Społ. Z.M.). Грамадска-палітычны дзеяч. Выдавец газеты «*Kurier Nadniemeński: Express Poranny Ziemi Grodzieńskiej*» (1934–1936). Сакратар павятовай Рады ББСУ (1933). Старшыня, пасля віцэ-старшыня (на 1939) праўлення Таварыства загарадных участкаў (Towarzystwo ogródkow działkowych w Grodnie).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 13.3.1939. № 72. Str. 2.

**Буткоўская Адэс** // Butkowska Odes (1885–?), настаўніца. Выкладала ў школе Шапіра (1901–1903), прыватнай прагімназіі Шэскінай у Гродна (1903–1906), у прыватнай гімназіі Ракоўскай (1908–1912), гімназіі Вакс (1908–1910), гімназіі Іегудэя (1910–1913) у Варшаве, гімназіі Мірляса ў Нясвіжы (1913–1915), сямікласнай школе «Герцліа»ў Пінску (1926–1928), прыватнай школе ў Даніловічах (1928–1929). Пазней у Гродна, настаўніца ў школе «Ябне» (1929–1939). З усталяваннем савецкай улады працавала ў сярэдніх школах № 12 ды 7 (з 21.9.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 22–22 зв.

**Бутэнскі Лейзер** // Buteński Lejzer (1886–?), лекар, прамысловец. Атрымаў медыцынскую адукацыю (1916). Спецыяліст па ўнутраных хваробах. Галоўны ўрач 3-й амбулаторыі (1940). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Lipowa, 17 (1925); Lipowa, 21 (1938); Łososiańska, 21 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 28 зв.

**Бухалі (Бухалскі) Казімір** // Buchali (Buchalski) Kazimierz (1893–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), суддзя. Кіраўнік грамадзянскага аддзела Гродзенскага акруговага суда (1933). Сябра Гродзенскай гарадской Рады, фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) (1934–1939). Сябра праўлення гродзенскага гуртка Таварыства дзяржаўных служачых (zarząd koła grodzieńskiego stowarzyszenia urzędników państwowych) (1930), акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno, Allgemeine abeilung) (з 5.7.1941). Расстраляны немцамі разам з жонкай, дзвюма дачкамі і маці. Жыў па вул. Bośniacka, 8 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1. Спр. 181, Арк. 20; Там жа Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Przegląd Kresowy». 25.3.1930. № 61; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.5.1933. № 131. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 159.

**Буш Актавіян** // Busz Oktawian (24.09.1856–31.12.1925, Гродна), адвакат, судовы абаронца, радца розных інстанцый. Вучыўся ў Слонімскай павятовай школе. Працаваў у судовых установах (з 1879). Чыноўнік Гродзенскай палаты пры крымінальным і грамадзянскім судзе (з 1880). Сябра Гродзенскага аддзела імператарскага савета Таварыства павелічэння прамысловасці і Пажарнага таварыства. Міравы суддзя Гродзенскага павета (2.11.1920–5.1921) З некралога ў газеце «Nadniemeński kurier polski»: «Належаў да ліку найбольш папулярных асоб у нашым горадзе, а адначасова да кола тых нешматлікіх постацей, якія цешацца павагаю і шацункам усіх грамадзян, незалежна ад палітычных поглядаў, сацыяльнага паходжання і нацыянальнасці... ».



*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7. B. 367; «Nadniemeński kurier polski». 2.1.1926. № 2. Str. 1; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 94.

**Буш Актавіян** // Busz Oktawian (каля 1897–4.2.1939, Вільня), сябра мясцовай ПАВ. Кіраваў контрразведкай і падпольным аддзелам жандармерыі (1918–1919). Аўтар працы, прысвечанай гродзенскай ПАВ. Быў ініцыятарм пабудовы ў Гродна помніка маладым сябрам ПАВ на Рубанаўцы.

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 7.2.1939 № 38. Str. 4. E. Skrobocki. Polska organizacja wojskowa w Grodnie w latach 1918-1919 // Magazyn polski. 2003. № 3. Str. 31.

**Бык Лейзер** // Byk Lejzer (2.1.1886, Гродна–?), лекар. Яўрэй. Скончыў медыцынскі факультэт Дэрпцкага ўніверсітэта (1917). Служыў у расійскім войску, працаваў санітарам у Віцебску. Пазней працаваў лекарам у Скідзелі. Пасля – у Гродна (з 1922). Спецыялізаваўся па ўнутраных, дзіцячых і скураных хваробах.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów–ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str. 38.

**Бык Самуэл** // Byk Samuel (1880, Каменец Падольскі–?), лекар. Медыцынскі дыплом атрымаў у Адэсе (1913). Пазней пацвердзіў яго ў Варшаўскім універсітэце. Першапачаткова практыкаваўся ў м. Скалат у Малапольшчы. Пасля – у Гродна (з 1922). Магчыма, настаўнік першай гуманістычнай коэдукацыйнай гімназіі ў Гродна (1926). Жыў па вул. Bośniacka, 24.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów–ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str. 38.

**Быстрынскі Адам** (Берндзікевіч) // Bystrzyński Adam (?–1941, Львоў), акцёр, рэжысёр. Выступаў у тэатры імя Славацкага ў Кракаве (1918–1920), Львоўскім гарадскім тэатры (1923–1924), польскім тэатры ў Катавіцах (1924–1925), тэатрах Любліна, Торуні, Познані, Вільні. Пазней – у Гродзенскім гарадскім тэатры імя Э.Ажэшкі (1938–1939). Арыштаваны немцамі, памёр у львоўскай турме.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 76-77.

**Бяганскі Юзаф** // Biegański Józef (каля 1886–?), дырэктар мужчынскай настаўніцкай семінарыі. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод калег і слухачоў. Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927), адкуль пазней выйшаў па ўласным жаданні (1930). Старшыня камітэта супрацьгазавай абароны (Komitet obrony przeciwgazowej) (1923), кіраўнік добраахвотнай пажарнай аховы (1928). Сябра павятовага камітэта па фізічным выхаванні (1927), камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930). Пасля Другой сусветнай вайны выехаў у Гданьск, дзе пэўны час працаваў на вугальным складзе. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» прысвяціў яму наступныя радкі: «I łatwo w mej pamięci wstaje Pan Biegański, Pedagogów dyrektor, Pan w szarym mundurze...»

*Літ.:* «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 15.12.1928. № 345; «Przegląd Kresowy». 11.2.1930. № 25; «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 31. Str. 4; Sprawozdanie z działalności z Komitetu Obrony Przeciwgazowej od chwili powstania do 1 pażdziernika 1923 roku. Warszawa, 1924. Str. 11-12; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 89; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 18.

**Бяклемішава Наталля** // Beklemiszówna Natalia, выкладчыца французскай мовы ў гімназіі імя А. Міцкевіча ў Гродна.

*Літ.:* Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжвеанным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Бяклемішаў Кузьма** // Beklemiszów Kuźma, вядучы баскетбаліст Гродна (на 1930-я).

*Літ.:* «Гродно-93. История». Режим доступа http://www.grodno93.org/?120_2 Дата доступа 2013.01.28; В. Черепица. Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей Век XX. Гродно, 2012. Стр. 58.

**Бяклемішаў Мікалай** // Beklemiszów Mikołaj, сябра Гуртка гродзенцаў універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні (Koło Akademików Grodnian

Uniwersytetu Stefana Batorego) (1934). Вучыўся на медыцынскім факультэце.

*Літ.:* Z. Tomczonek. Koło Akademików Grodnian na Uniwersytecie Stefana Batorego w Wilnie (1933–1939) // Białostocczyzna.–1993.–4. – Str. 111;

**Бялецкі Канстанцін** // Bielecki Konstantyn (20.1.1874, м. Лунна Гродзенскага пав.–8.12.1926, Гродна), лекар. Меў прыватную практыку па скурна-венерычных захворваннях. Грамадска-палітычны дзеяч. Сын кіраўніка пошты. Вучыўся ў Гродзенскай гімназіі, Пецярбургскай вайсковай медыцынскай акадэміі (скончыў у 1899). Вайсковы лекар: малодшы лекар 102 палка, малодшы ардынатар вайсковага лазарэта. Выкладаў на курсах па падрыхтоўцы сясцёр міласэрнасці для Таварыства Чырвонага Крыжа. Падчас Першай



сусветнай вайны – галоўны лекар палявога шпіталя на нямецкім фронце. Быў кантужаны. Ардынатар венерычнага аддзела ў Гродзенскім гарадскім шпіталі (1918–1926). З'яўляўся апекуном Гродзенскага беларускага прытулка. Сябра Гродзенскага таварыства прыхільнікаў ваенна-санітарных ведаў (з 1912); Гродзенскай губернскай гарадской управы, Гродзенскага БНК. Быў кааптаваны ў склад літоўскай Тарыбы (4.4.1919). Беспаспяхова вылучаўся ад блока №16 нацыянальных меншасцей на выбарах у Сенат па акрузе №5 (Беласток) (1922). Фотааматар. Блізкі сябра Епіскапа Гродзенскага Уладзіміра. Першы раз быў жанаты з Валянцінай Кемарскай, дачкой доктара К. Кемарскага. Жаніўся другі раз з Лідзіяй Сафроненка (1919). Меў дваіх дзяцей: Алену (н. 1920) і Ірыну (н. 1923). Жыў ва ўласным доме па вул. Kirchowa/Akademicka, 13.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 46-47.

**Бялецкі Мар'ян** // Bielecki Marian, акцёр гродзенскага тэатра. Пад гэтым прозвішчам на польскай сцэне выступала адразу некалькі асоб. Найбольш вядомы М. Бялецкі (29.1.1875, Неміраў–14.10.1959). Скончыў Львоўскую гімназію, вучыўся мастацтву ў Львове і Мюнхене. З невялікімі перапынкамі працаваў акцёрам у Львове (1897–1939). Пасля выступаў у катавіцкім тэатры (1945–1951).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 14.12.1923. Str. 4; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 33.

**Бяліцкі Л.** // Bielicki L, інжынер, кіраўнік упраўлення водных дарог (naczelnik zarządu dróg wodnych). Кіраваў будоўляй набярэжнай у Гродна. Сябра Камітэта адбудовы Старога замка (Kuratorium Zamkowe) (1929) і Камітэта па пабудове заапарка (Komitet ogrodu przyrodniczego) (1930).

*Літ.:* M. Limanowski. W Grodnie kopie Jodkowski // «Słowo». 1937. № 153. Str. 2; «Przegląd Kresowy». 8.3.1930. № 47.

**Бялко Цві (Гірш)** // Bełko Tzvi (Hirsh) (1903, Гродна–1943), настаўнік. Нарадзіўся ў сям'і Дов-Бер і Дворы Бялко. Яго бацька быў гаспадаром кніжнай крамы. Сам ён скончыў Гродзенскую гімназію і факультэт эканомікі і грамадскіх навук Венскага ўніверсітэта, атрымаўшы ступень доктара палітычных навук. Праслухаў курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў (1940). Працаваў у гімназіі «Тарбут» (1926–1939). Выкладаў Біблію,

яўрэйскую літаратуру і гісторыю. Грамадска-палітычны дзеяч. Яшчэ з маладосці прымаў актыўны ўдзел у сіяністцка-сацыялістычным руху. Сябра сіяністцкай моладзевай арганізацыі (Cherut-u-Techiya) (1919). Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). З'яўляўся адным з арганізатараў выдання першага сіяністцкага штотыднёвіка «Unser Leben» (1926–1927) і студэнцкага часопіса «Ngohot», у якім сам неаднаразова друкаваўся. Актыўна дапамагаў у працы студэнцкага самаўрада пры гімназіі «Тарбут» (пачатак 1930-х). Студэнцкі камітэт, які складаўся з прадстаўнікоў розных класаў, праводзіў збор ахвяраванняў для нацыянальнага фонда «Керен Кайемет», арганізоўваў экскурсіі вучняў па розных гарадах, аказваў дапамогу маламаёмасным студэнтам і г.д. Кіраваў гістарычнай супольнай (kółko historyczne) вучняў старэйшых класаў і слухачоў настаўніцкай семінарыі. Правёў комплекснае даследаванне драўлянай сінагогі на Фарштаце. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Яўрэйскага краязнаўчага таварыства (Żydowskie towarzystwo krajoznawcze). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). З усталяваннем савецкай улады выкладаў геаграфію ў рускамоўнай няпоўнай школе № 7 (1940). Падчас нацысцкай акупацыі з'яўляўся сябрам юдэнрата ў гродзенскім гета № 1. Адносіўся да сваёй працы як да грамадскага абавязку. Перадаў Бэле Хазан – актывістцы «Дрор Гехалуц» і сувязной віленскага гета – грошы і фальшывыя дакументы для віленскіх яўрэяў (канец 1941). Разам з сям'ёй – жонкай Эстэр, дачкой Любай – загінуў падчас Халакосту. У Гродна жыў па вул. Zamkowa, 10.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; Там жа Спр. 134. Арк. 7-7зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 н. Арк. 19-19 зв.; Wiadomości Ż.T.K. 1935. № 1. Str. 10; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Pages of Testimony: Yad Vashem World Center for Holocaust Research, Education, Documentation and commemoration, Jerusalem. Communication with Moshe Alperstein, former graduate of the Tarbut Gymnasium in Grodno. 2010; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 445.

*Р. Маркус*

**Бяляеў Алексы** // Bielajew Aleksy (14.1.1905, Хельсінфорс–1940 (?)), суддзя, адвакат. Праваслаўны, рускі. Бацькі – Аляксей і Марыя Ржапецкая. Скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію імя А.Міцкевіча (1924), факультэт права і грамадскіх навук універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні (1928). Служыў у войску (1928–1929). Падпаручнік запасу. Стажор пры акруговым судзе ў Гродна (1929). Судовы асэсар у Поразаве (з 1932), Баранавічах і Наваградку (з 1935). Суддзя гродскага суда ў Сапоцкіне (з 1937–1938). Са службовай характарыстыкі: «Здольны суддзя. Арыентуецца ў розных юрыдычных пытаннях і ўдала іх вырашае. Мае добрую жыццёвую пазіцыю, сумленны і паважны. Больш прыхільны да грамадзянскага, чым да крымінальнага права. ...Можна адчуць яго расчараванне ў сувязі з працай у невялікім мястэчку і адсутнасць перспектывы на перавод да больш вялікага суда... Матэрыяльны стан не здавальняючы... Атрымоўвае 400 злотых» (1938). Магчыма, звольніўся з суда, каб заняцца адвакацкай практыкай. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Выступаў у якасці самадзейнага акцёра пры РБО (на 1926). Мабілізаваны (8.1939), трапіў у савецкі палон, паспеў даслаць родным ліст са Старабельска. Аднак яго прозвішча не фігуруе ў спісе расстраляных. Жанаты з Лідзіяй з Васілеўскіх

(шлюб 1930). Меў дачку Людмілу. Жыў па вул. Orlicz-Dreszera /Pocztowa, 13.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 167; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; «Nowe życie». 1926. № 34; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Бяляўскі Леон** // Bielawski Leon (24.4.1869, Вільня–10.2.1926, Гродна), адвакат, натарыус. Паляк, каталік. Бацькі – Станіслаў і Юзэфа з Міхалоўскіх. Дзяцінства правёў ва ўладаннях кн. Тышкевіча ў Паставах, дзе яго бацька быў кантралёрам. Скончыў сярэднюю школу ў Марыямпалі на Сувальшчыне, юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Гадавую практыку праходзіў пры адвакацкай канцылярыі Бернатовіча ў Вільні. Пазней – у Гродна (з 1894). Працаваў памочнікм адваката Ячыноўскага, пасля трымаў прыватную канцылярыю прысяжнага адваката. У бежанстве (з 1915). Працаваў у Ліквідацыйнай камісіі Каралеўства Польскага (Komisja Likwidacyjna Królewstwa Polskiego), у Гродзенскім грамадзянскім камітэце, у Ліквідацыйным камітэце па вайсковых стратах, у Таварыстве апекі над старажытнасцямі (T-wo opieki nad zabytkami). У Польшчы (з 1918). Прымаў удзел у арганізацыі Краёвай касы ўзаемадапамогі (Krajowej kasy pożyczkowej). Натарыус у Слоніме (з 1919), пасля – зноў у Гродна (з 8.11.1920). Ганаровы суддзя Гродзенскага акруговага суда (на 1922). Актыўны грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Э. Ажэшкі і В.Зындрам-Касцялкоўскай. Выдавец газеты «Echo grodzieńskie» (1923). Кіраўнік мясцовага прадстаўніцтва ТСК (1923), Таварыства апекі над дзецьмі (Towarzystwo opieki nad dziecmi), Гаспадарчага саюза (Związek gospodarczy), Гродзенскага аддзялення Польскага Белага Крыжа (Polski Biały Krzyż) (1924) і Таварыства апекі над дзецьмі. Сябра Камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925). Адзін з ініцыятараў стварэння Таварыства імя Э. Ажэшкі. Сябра таварыства «Muza», Таварыства сяброў студэнцкага інтэрната (Towarzystwo przyjaciół Akademika) (1923), Таварыства сяброў навук (Towarzystwo przyjaciol nauk) (1923), Таварыства падтрымкі польскай сцэны (Towarzystwo popierania sceny Polskiej), Таварыства апекі над помнікамі культуры, спажывецкага таварыства «Рольнік» (Stowarzyszenia spożywczego «Rolnik»). Быў жанаты з Юліяй з Вэбераў (шлюб 1897). Меў дачку Яніну-Мар'ю (1906). Памёр ад хваробы сэрца.

*Літ.:* ; LCVA F. 127, Ap. 1, B. 91, L. 3, 5; Там жа F. 127, Ap. 7, B. 170; «Nowe życie». 1923. № 11. Str. 23; «Echo Grodzieńskie». 19.1.1923. № 14. Str. 4; «Echo grodzieńskie». 28.6.1923. № 115. Str. 2-3; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; «Nadniemeński kurier polski». 11.2.1926. № 42; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 92.

**Бянецкі Тытус** // Bieniecki Tytus (1910–?), настаўнік гісторыі. Магчыма, сын Ю.Бянецкага. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 1.9.1941). Загадчык бібліятэкі пры гістарычным музеі. Выкладаў у тайных школах. Жыў па вул. Вітольдавай; Martinstr. 28/2 -5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк.22 зв.; Там жа Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 10 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 57.

**Бянецкі Юльян** // Bieniecki Julian, лекар. Магчыма, сын вядомага гродзенскага лекара Бянецкага, у гонар якога ў Гродна была названа вуліца. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Bieniecki – lekarz zacny, dobrodziej prawdziwy, Jako wielki społecznik w dawnych czasach słynął, Cierpiącym bóle koił, na pieniądz nie chciwy, Siebie jednak ukrzywdził i tragicznie zginął».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Бянкевіч Генрых** // Bieńkiewicz Henrych, гродзенскі стараста (1927). Старшыня павятовага Камітэта

фізічнага выхавання, праўлення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (на 1927). Падчас развітальнай вячэры ў сувязі з адстаўкай старасты павятовы камісар паліцыі Дамброўскі заўважыў, што прычына яго адыходу вядома, «але ўслых не абмяркоўваецца» і мае палітычныя прычыны. Сам Г. Бянкевіч заўважыў: «Ад людзей у гродзенскай адміністрацыі патрабуецца занадта шмат, без уліку мясцовых абставін...»

*Літ.:* «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 274. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 20.5.1927. № 137.

**Бярбецкая Зоф'я** // Berbecka Zofia (26.7.1884, Ковель–8.2.1970, Глівіцы), грамадская дзяячка. Жонка камандуючага ДОК III генерала Л. Бярбецкага. Паходзіла з сям'і вайскоўца. Скончыла гімназію ў Седлецы (1901), Вышэйшыя курсы французскай мовы ў Харкаўскім універсітэце (1911) і Alliance Fracaise ў Парыжы. Пазней вучылася ў Варшаўскім універсітэце. Працавала настаўніцай у Луцку, Харкаве, Сасноўцу, Варшаве. Прымала актыўны ўдзел у грамадскай дзейнасці польскіх патрыятычных арганізацый. Прыехала ў Гродна разам з мужам. Пры яе падтрымцы тэатр «Аб'яднанне артыстаў польскай сцэны» (Zrzeszenie artystów Scen Polskich) паказаў у Гродна спектакль «Вяселле» Выспянскага (1.1925). Тады ж пры яе непасрэдным кіраўніцтве быў адкрыты першы курс Жаўнерскага ўніверсітэта ў Гродна, дзе чыталіся польская мова, бухгалтэрыя, геаграфія, гісторыя і навукі аб сучаснай Польшчы. Самі лекцыі праходзілі ў Доме жаўнера. З'яўлялася сябрам праўлення Польскага Белага Крыжа. Пазней жыла ў Торуні, Варшаве, Глівіцах. Абрана ў польскі Сейм (1930). Сябра гарадской Рады Варшавы (з 1934). Пасля вайны працавала настаўніцай рускай мовы ў Аўтамабільным тэхнікуме ў Глівіцах.

*Літ.:* «Reduta». 25.1.25. № 2. Str. 15; «Reduta». 1.3.25. № 4. Str. 9; Wł. Masiarz. Kobiety w parlamentach II Rzeczypospolitej 1919-1939 // Kobiety wobec polityki – kobiety w polityce: historia, realia, perspektywy. Kraków, 2009. Str. 211; Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom I. Warszawa, 1998. Str. 114-115.

**Бярбецкі Леон** // Berbecki Leon (28.7.1875, фальварк Каліноўшчына каля Любліна–23.3.1962, Глівіцы), генерал, камандуючы ДОК III. Скончыў народную школу ў Грубовіцы Уладзімірскага павета, прагімназію ў Грыбашове, Харкаўскі тэхналагічны інстытут. Удзельнік руска-японскай вайны. Сябра ППС і Саюза актыўнай барацьбы. З пачаткам Першай сусветнай вайны перабраўся ў Кракаў. Служыў у Польскіх легіёнах. Быў кіраўніком штаба. Удзельнічаў у польска-ўкраінскай і савецка-польскай войнах. Намеснік камандуючага ДОК VII у Торуні. Камандуючы ДОК III у Гродна (3.1924–7.1926). Атрымаў званне генерала дывізіі (1924). Прыняў рашэнне аб перадачы на працягу двух тыдняў часткі Старога замка і выязной вежы музею (26.8.1924). Тады ж па яго загадзе інжынер Е. Брэйхе зрабіў абмер Замкавай гары, а Упраўленне водных дарог – вымярэнні глыбіні Нёмана. У сваіх успамінах Л. Бярбецкі так узгадваў пра гродзенскі перыяд жыцця: «Двухгадовае жыццё ў Гродна для ўсёй маёй сям'і сталася чымсці, як адпачынак... Мая шматлікая сям'я, – пісаў ён, – выклікала ў горадзе здзіўленне і агульныя сімпатыі. З гэткай прычыны нават паўстала калісьці вельмі нечаканая, нават гратэскная, сітуацыя: гаспадар аднаго з мясцовых кінатэатраў звярнуўся да мяне з просьбаю: «Пане генерал, дазвольце мне павесіць на кінатэатры аб'яву, што ў праграме (у ягонай мясцовай хроніцы) гледачы могуць пабачыць, як ідзе праз горад уся сям'я генерала Бярбецкага». Я толькі з яго пасмяяўся, аднак у выніку саступіў. Пасля некалькі тыдняў пан Морыц Шпехт (так, здаецца, было яго імя і прозвішча) прыйшоў з гарачай падзякаю, кажучы, што, дзякуючы хроніцы, ён праз увесь гэты час штодня меў поўную касу». Сябра Камітэта

па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925). Пасля майскага перавароту быў пераведзены ў Торунь (1926). Інспектар арміі, старшыня Галоўнага ўпраўлення ЛОПП. Пасля –эміграваў у Румынію (1939). Быў дэпартаваны ў нямецкія канцлагеры. Пазней жыў у Глівіцах.

*Літ.:* «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1. J. Jodkowski Muzeum w Grodnie. Rocznik II za rok 1924. Grodno, 1925. Str. 6-9; Pamiętniki generała broni Leona Berbeckiego. Katowice, 1959. Str. 288; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 74-75.

**Бярнацкая Ганна** // Biernacka Hanna (каля 19031939), актрыса гродзенскага тэатра (1930–1931). Скончыла драматычны аддзел Варшаўскай кансерваторыі (1929). Выступала ў віленсікм тэатры (1929–1930, 1932–1933), у Луцку (1934–1936). Асабліва ёй удаваліся драматычныя ролі. Загінула падчас Другой сусветнай вайны.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 36.



**Ваеман Навум** // Wajeman Naum (каля 1885–?), бухгалтар, радны Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Жыў па вул. Kalucińska, 14/3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Вазнякоўскі Рафал** // Woźniakowski Rafał, прафесар гарадской семінарыі ў Львове. Школьны інспектар Гродзенскага павета (1919–1920; 1921–1923(?)). Сябра Таварыства гігіены і асветы імя праф. Э. Гадлеўскага (Towarzystwo Hygieniczno-oświatowe im. prof. Emila Godlewskiego) (1921). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Za życia były wielkie zamiary i ruchy, Woźniakowski, Pan Rafał, szkoły siał w powiecie, Księgarnia była wielka i wiele otuchy. Dzisiaj wszyscy są oni aż na tamtym świecie...»

*Літ.:* НАРБ Ф. 368. Воп.1, Спр. 4. Арк.6 зв.; Там жа Ф. 604. Воп. 1. Спр. 1, Арк. 1-4; ДАГВ Ф. 87. Воп. 1, Спр. 29. Арк. 26; Там жа Спр.77. Арк. 41; Там жа Воп. 2. Спр. 71. Арк. 12, 20; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4. «Echo Grodzieńskie». 21.5.1921. № 110. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 17.

**Вайнгартэн Лемель** // Wajngarten Lemel (1888–?), настаўнік. Скончыў Львоўскі ўніверсітэт. Працаваў у гімназіі Маркуса (1923–1928), камерцыйнай школе (1929–1939) у Гродна. Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). З усталяваннем савецкай улады – настаўнік нямецкай мовы ў сярэдняй рускамоўнай школе № 13 (1940). Жыў па вул. Dominikańska, 7/8 (1935); Witoldowa, 25 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Ст. 7 -7 зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 41-41 зв.

**Вайсман Лазар** // Wajsman Łazarz (1885–?), слесар. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Бунда. Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага саюза рабочых «Бунд» (Ogólnożydowski związek robotników Bund) (1927). Кандыдат ад Бунда ў праўленне Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны (1932). Жыў па вул. Szkołna, 3 (1932).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 16; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Вайтатовіч Міхал** // Wojtatowicz Michał, ветэрынар. Працаваў на гродзенскай бойні. Пасля вайны выехаў у Польшчу, у Лодзь. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Pan doktor Wojtatowicz, Polak pełnokrwisty, Dużo zasług nazbierał w mieście i powiecie, Od zwierząt niebezpieczeństw i od ludzkiej glisty, Wyszedł cało i teraz w Łodzi go znajdziecie». У Гродна жыў па вул. 11 Listopada, 19/1 (1941).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 1 . Арк. 5, 6, 10,11; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 48.

**Вайткевіч Уладыслаў** // Wojtkiewicz Władysław (26.11.1883, Вільня–1940, Харкаў), палкоўнік. Служыў у расійскім войску (1904–1914). Падчас Першай сусветнай вайны трапіў у нямецкі палон (1914). У польскім войску (з 1919). Камандуючы 81-м Гродзенскім стралковым палком (1923–3.1929). Намеснік старшыні праўлення вяслярнага клуба «Гродна» (1927). Сябра Афіцэрскага трыбунала (Oficerski trybunał orzekający). Пазней – у адстаўцы (з 1933). Трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў. Нейкая сям'я Вайткевічаў была выслана з Гродна савецкімі ўладамі (1940).

*Літ.:* «Reduta». 1927. № 9; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 335; Wileński słownik biograficzny. Suplement. Opracował M. Jackiewicz. Bydgoszcz, 2012. Str. 237.



**Валанскі Антоній** // Wolański Antoni (1873–1935), лекар. Скончыў універсітэт (1897). Спецыяліст па ўнутраных захворваннях. Працаваў у мясцовай Касе хворых. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра хрысціянскай дэмакратыі, старшыня акруговага праўлення гэтай партыі (PSChD) (1926). Разам з яшчэ некалькімі калегамі выйшаў с Саюза лекараў, арганізаваўшы Саюз хрысціянскіх лекараў (1924). Пазней выступіў за супрацоўніцтва з праўрадавай ББСУ. Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Сябра санітарнай камісіі (1928). Сярод звыштэрміновых патрабаванняў па паляпшэнні санітарнага стану горада адзначаў упарадкаванне сцёкаў праз Гараднічанку. Падчас абмеркавання гарадскога бюджэту Рада прыняла яго прапанову адносна выкарыстання пры рамонце гарадскіх дарог больш надзейнага пакрыцця, чым ужо існуючая брукаванка, і невыкарыстання пры азеляненні горада туй, як дрэў, якія для гэтай мэты не падыходзяць (1928). Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Doktora Wolańskiego wspomnę tu serdecznie, Był to człowiek spokojny, miał szczęśliwy przydział, Pracował w swym zawodzie i działał społecznie, Przed wojną umarł wolny i klęski nie widział». Жыў па вул. Bankowa/Witoldowa, 9 (1925); Witoldowa, 33 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 83-84, 97; «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 14. Str. 2; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; Rocznik lekarzy Rzeczypospolitej Polskiej na 1938 r. W-wa, 1938. Str. 130; H. Majecki. Chrescijańska Demokracja w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1992. T. 1. Str. 11; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Валанскі Маўрыкій** // Wolański Mawryki (20.05.1879–1940-е (?)), начальнік Гродзенскай пажарнай каманды (на 1926). Службу ў пажарнай ахове горада пачынаў яшчэ ў перыяд Расійскай імперыі ў складзе добраахвотнай пажарнай каманды.

**Валейка Ігнацый** // Wałejko (Wałłejko, Wołłejko) Ignacy (5.3.1896, Вільня–7.8.1957, Варшава), акцёр,

танцор, рэжысёр. Прымаў удзел у аматарскіх прадстаўленнях, пасля выступаў у якасці танцора ў балетнай трупе Цясельскага (1917). Акцёр і танцор гарадскога тэатра ў Вільні (1919–1927). Акцёр Гродзенскага гарадскога тэатра (1927–1932); акцёр і рэжысёр Гродзенскага тэатра пры Доме жаўнера (Dom Żołnierza) (1932–1939). Адначасова падпрацоўваў як настаўнік танцаў. Паэт. Публікаваўся на старонках газет «Głos Grodzieński» і «Głos Nadniemeński». Лаўрэат віленскай газеты «Słowo». Пазней выступаў у тэатрах у Беластоку і Гродна (1939–1941). Выконваў ролі Фрэйды («Дзяды»), фон Бісмарка («Фрыдрых Вялікі»), Свентка («Палітыка і каханне») і інш. Пазней працаваў чыноўнікам. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «W Teatrze Polskim również gra Czesław Wołłejko, I zdobywa oklaski, aż huczy stolica, Oboźna jest zapchana zbyt dużą kolejką, Skoro tylko ten aktor występem zaszczyca... Wołłejkę Ignacego, rodzica Czesława, Czy pamiętasz, jak tańczył w Teatrze Żołnierza? A dzisiaj już nie tańczy, skryła go murawa, Za to tańczy wichura nad grobem tancerza».

*Літ.:* «Głos Nadniemeński». 11.10.1938; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 86, 104; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 808; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 84.

**Валейка Казімір** // Wałejko (Wałłejko) Kazimierz, лекар. Спецыяліст па дзіцячых і ўнутраных захворваннях. Працаваў у грамадскім страхаванні (Ubezpieczalnia społeczna). Сакратар прэзідыума Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа, сябра павятовага аддзялення ЛОПП (на 1937). Магчыма, пазней выехаў у Тарнув (1938). Падчас Вялікай выставы па гігіене ў Гродна выступіў з лекцыяй па тэме «Алкагалізм і яго наступствы» (20.2.1939). Жыў па вул. Bienieckiego, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв., 40; «Dziennik Kresowy». 29.7.1938. № 205. Str. 5 ; «Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 2.

**Валейка Часлаў** // Wałejko (Wałłejko) Czesław, малады гродзенскі паэт. Пачаў друкавацца ў выданні «Nad Niemnem». Лаўрэат узнагароды віленскай газеты «Słowo» (1938).

*Літ.:* «Głos Nadniemeński». 11.10.1938.

**Валеўскі Ян** // Walewski Jan, галоўны рэдактар штодзённай газеты «Głos Ziemi Grodzieńskiej» (раней – «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej») (з 30.06.1931).

**Валікоўскі Фёдар** // Wałikowski Fedor (1876, в. Целяцін Тамашэўскага пав. Люблінскай губ.–1950-я), праваслаўны святар. Нарадзіўся ў сям'і псаломшчыка. Скончыў духоўную семінарыю. Служыў настаяцелем сабора ў Лодзі (1922). Пазней – у Гродна (з 1935). Настаяцель Пакроўскага сабора (з 1938). Адзін з актывістаў Таварыства праваслаўных палякаў у Гродна. Сябра праўлення Праваслаўнага навукова-выдавецкага інстытута. Пасля ад'езду Епіскапа Георгія (Барышкевіча) некалькі месяцаў выконваў абавязкі Гродзенскага епіскапа. Арыштаваны органамі НКУС (19.12.1944). Быў прыгавораны да пяці год зняволення (22.3.1947). Пасля вызвалення – у Жыровічах, дзе нейкі час выкладаў у семінарыі (1949).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 57-59, 84; Мартыролаг Гродзенскай епархіі 1917-1961. Складальнік А. Горны // http://www.orthos.org/grodno/history/martyr.htm; http://nekropole.info/ru/Fedor-Valikovskij.

**Валіцкі Тадэвуш** // Walicki Tadeusz, гродзенскі стараста (на 1938–1939). Старшыня абласной арганізацыі ЛОПП, павятовы камісар дзяржаўнай пазыкі на супрацьпаветраную абарону (komisarz powiatowy pożyczki Obrony przeciwłotniczej na m. Grodno); віцэ-старшыня Камітэта па ўшанаванні памяці караля Стэфана Баторыя (Komitetu Uczczenia Króla Stefana Batorego) (1938). Сябра Камітэта па святкаванні дваццацігоддзя

Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938), праўленне Таварыства сяброў Гродна (T-wo przyjacioł m. Grodno) (на 1939).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 27.7.1938. № 203; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 3; «Dziennik kresowy». 2.4.1939. № 92. Str. 4, 6.

**Валіцкі Ян** // Walicki Jan, магчыма, дырэктар тытунёвай фабрыкі ў Гродна. Старшыня мясцовага аддзела АЗОНа. Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów). Сябра Камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938). Магчыма, удзельнік абароны Гродна (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 333. Арк. 17 зв.; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292.

**Вальдман Маісей** // Waldman Mojżesz (?–1941(?)), кіраўнік жаночай гімназіі ў Гродна (1907). Пазней – дырэктар змешанай сярэдняй школы. Прадстаўнік ад яўрэйскага камітэта ў Часовым гарадскім камітэце (1918). Па некаторых звестках, напярэдадні нямецкай акупацыі горада скончыў жыццё самагубствам. Жыў ва ўласным доме па вул. Listowskiego, 40.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 87. Воп.1. Спр. 29. Арк.16; Там жа Спр. 95. Арк. 1-14; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str. 18; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 102.

**Вальтэр Яўгеній** // Walter Eugeniusz (17.12.1884, Гродна–?), судовы абаронца. Лютэранін. Бацькі – Віктар і Стэфанія Чахоўская. Здаў экзамен у рэальнай школе ў Беластоку на права служыць у войску ў якасці валанцёра. Чыноўнік губернскай канцылярыі ў Гродна (1905–1910). Зноў мабілізаваны ў войска падчас Першай сусветнай вайны (1916–1917). Сакратар акруговага суда ў Гродна (1921–1922). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-нацыянальнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Жанаты з Аленай Маргульскай (з 1909). Жыў па вул. Akademicka /Kirchowa, 15.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1.

**Ванатоўскі Юзаф** // Wanatowski Józef (17.1.1894, Джэржбна пад Калішам–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), мастак, выкладчык. Яго дзяцінства прайшло ў Лодзі. Вучыўся у рамеснай школе (1905–1910). Самастойна займаўся ў вячэрняй школе мастацтваў. З прычыны адсутнасці сродкаў быў вымушаны адмовіцца ад паступлення ў Акадэмію мастацтваў. Працаваў у механічных майстэрнях (да 1914). Пасля – у Рэвелі на фабрыцы Becker і Sp. Вучыўся на мастацкіх курсах у Дэрпце пад кіраўніцтвам Х. Лайпмана, прафесара Дюсельдорфскай Акадэміі мастацтваў. Ужо ў міжваенны час скончыў Віленскі ўніверсітэт. Выкладаў маляванне ў Рэвелі для сяброў Саюза польскай моладзі. Па запрашэнні прыватнай рамеснатэхнічнай школы прыехаў у Гродна (1918). Намеснік школьнага інспектара Гродзенскага павета (5.1919–1920). Выкладаў маляванне на настаўніцкіх курсах. Дырэктар Гродзенскай школы рамёстваў (1921–1922). Настаўнік малявання і працоўнага навучання пры гімназіі імя А. Міцкевіча (1922–1939). У яго майстэрні былі зроблены бюсты Ю. Пілсудскага і А. Міцкевіча, якія ўпрыгожвалі хол гімназіі. Аўтар праектаў вайсковых штандараў, дыпломаў ганаровых грамадзян Гродна і сяброўскіх шаржаў на сваіх калег па гімназіі. Найбольш каштоўная частка спадчыны мастака для Гродна – выявы храмаў горада і іншых забудоў, якія зроблены ў тэхніцы гравюры на дрэве. Грамадска-палітычны дзеяч.

Намеснік паўнамоцнага прадстаўніка ад спіса ПСЛ «Вызваленне» на выбарах у Сейм (1922). Падпісаўся пад пратэстам мастакоў-пластыкаў з Гродна супраць неадпаведнай рэканструкцыі фарнага касцёла (1925). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Пасля ўсталявання савецкай улады праслухаў курсы беларускай мовы (1940). Пэўны час працаваў настаўнікам чарчэння, малявання і арыфметыкі ў рускамоўнай сярэдняй школе № 7 (з 16.5.1940). Пазней быў арыштаваны органамі НКУС і разам з жонкай і дачкой вывезены на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Падчас акупацыі арганізаваў тайнае польскае навучанне. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі. Сын Юзафа Ванатоўскага, Ежы, трапіў у канцэнтрацыйны лагер Аўшвіц, аднак змог выратавацца адтуль і перажыць вайну. Жыў па вул. Policyjna, 5 (на 1919), пасля – пры гімназіі (1922).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 34; Там жа Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 19; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 23-23 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 26; «Nadniemeński kurier Polski». 2.10.1925. № 272. Str. 1; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 8; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 146; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennyn // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Варашыльскі Гершон** // Woroszylski Gerszon (Grzegorz) (1890, Дамброва–26.10.1945, Лодзь), лекар. Паходзіў з простай сям'і. Яго бацька, Якуб Мееравіч Варашыльскі, быў рабочым на фабрыцы Шарашэўскага. Скончыў медыцынскі факультэт Кёнігсбергскага ўніверсітэта (1915). У міжваенны час быў лекарам па жаночых хваробах у Гродна, уладальнікам прыватнага жаночага шпіталя. З усталяваннем савецкай улады – галоўны лекар 1-га гарадскога акушэрска-гінекалагічнага шпіталя (1939). Падчас нямецкай акупацыі трапіў у гродзенскае гета №1, адкуль, аднак, здолеў уцячы. Разам з сям'ёй рэпатрыіраваны ў Польшчу. Бацька знакамітага польскага паэта і пісьменніка Віктара Варашыльскага. У Лодзі пахаваны на мясцовых жыдоўскіх могілках усяго ў некалькіх кроках ад яшчэ аднаго гродзенскага лекара – доктара Блюмштэйна. Жыў па вул. Kalucińska /Kołożańska, 18 ды Rydza-Śmigłego, 8.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 40 зв.; A. Skrobacki Polacy na wydziale lekarskim Uniwersytetu w Krolewcu. Amtliches Verzeichnis des Personals und der Studierenden auf der Königl. Alberts-Universität in Königsberg. Almanach Lekarski na rok 1932 Rocznik Lekarski RP 1933/1934. Urzędowy Spis Lekarzy 1926/1927, 1939.

*Ф. Варашыльскі*

**Варашыльскі Нахман** // Woroszylski Nachman (1908–?), лекар. Скончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1933). Ларынголаг. Лекар 3-й гарадской амбулаторыі (з 23.12.1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 61.

**Васілевіч Мікалай** // Wasilewicz Mikołaj, гаспадар цукерні і кавярні «Orient». На выстаўцы ў Ніццы яго фірма была адзначана залатым медалём (1930). Акрамя таго, вырабляў на продаж бузу – безалкагольны ўсходні напітак.

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 111. Str. 4; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 29.

**Васілеўскі Ян** // Wasilewski Jan (1857–21.12.1936, Гродна), старшыня рамеснага таварыства ў Гродна. Гаспадар рэстаўрацыі ў павільёне былога летняга тэатра, дзе адчыніў невялічкі заапарк (1924). Пахаваны на фарных могілках у Гродна.

*Літ.:* «Straż nad Niemnem». 12.10.1924. № 2. Str. 6-7; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 307. Str. 4; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 113.

**Вашчук Ян** // Waszczuk Jan (2.4.1886, Кутаісі–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), лекар. Грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў рэальную гімназію ў Кутаісі (1904). Вучыўся ў

вайскова-лекарскай акадэміі ў Пецярбургу (1907–1915). Служыў у расійскім войску. Старшы ардынатар земскага шпіталя, працаваў у ЛОР-аддзяленні шпіталя Чырвонага Крыжа ў Клінцах. Лекар-ларынголаг у Касе хворых у Тамбове (1918–1920). Санітарны лекар у раёне вайскова-дарожных прац у Стаўрапалі, супрацоўнік Інстытута бактэрыялогіі, губернскага шпіталя (1920–1921). Кіраўнік оталарынгалагічнай амбулаторыі і кансультант пры гарадскім шпіталі ў Баку, павятовы лекар у Кутаісі (1921–1922). Пазней – у Гродна (прыкладна з 1924). Быў першым ларынголагам у горадзе. Працаваў у гродзенскай турме (1925–1930), ардынатарам пры вайсковым шпіталі. Прайшоў курс пластычнай хірургіі ў Парыжы (1931). Акрамя прыватнай практыкі, аказваў бясплатную дапамогу для беднага насельніцтва. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Быў узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі і бронзавым медалём «За шматгадовую службу». Працаваў у вайсковым шпіталі (пасля 1939). Падчас нямецкай акупацыі працягваў лекарскую практыку (1941–1942). Сябра АК. Быў расстраляны немцамі разам з сям'ёй – жонкай Аленай і дачкой Ірынай (г.н. 1925). Жыў па вул. Napoleona, 16; Witoldowa, 24 (на 1937).

*Літ.:* «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 74, 161; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 470-471; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494.

**Вейс Генрых** // Weiss Henryk (27.01.1882–?), падпалкоўнік. Камендант Гродзенскай крэпасці (на 1925).

*Літ.:* «Nadniemeński kurier Polski». 21.8.1925. № 230. Str. 1.

**Вейсбрэм Захарый** // Wejsbrem Zacharjusz, лекар. Спецыяліст па ўнутраных і венерычных захворваннях. Прапаноўваў пацыентам паслугі рэнтгенкабінета, кварцавую лямпу. Пазней – кіраўнік рэнтгенкабінета ў 2-м гарадскім шпіталі (1939). Магчыма, быў абраны ў склад Гродзенскай гарадской Рады, аднак адмовіўся ад месца. Згодна пратаколу пасяджэння Рады «на заняцце месца ў Радзе не згодны па асабістых прычынах». Жыў па вул. Pocztowa, 8 (1925), Orzeszkowej, 4 (1937).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 46. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 87; Там жа. Ф. 308. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 55 зв.

**Вейштэйн** // Wejsztejn, гро-дзенскі рабін. Выступіў падчас мітынгу пратэсту супраць праследавання яўрэяў у Нямеччыне (1933).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 29.3.1933. № 87. Str. 4.

**Велічкер Хаім** // Wieliczkier Chaim (1890 (1898?), Галіцыя–7.1941, Гродна), настаўнік. Меў навуковыя ступені па філасофіі і гісторыі, атрыманыя ў Венскім універсітэце. Праслухаў настаўніцкія курсы па гісторыі (1932) і савецкай педагогіцы (1939, 1940). Распачаў працу ў польска-яўрэйскай рэальнай гімназіі ў Гродна (Pierwsze Społeczne Gimnazjum Koedukacyjne Szkoły Średniej) (пачатак 1930-х). У асноўным, акрамя Бібліі і двух гадзін іўрыта на тыдзень, выкладаў на польскай мове. Арганізаваў сярод старэйшых вучняў гімназіі гістарычны гурток (kółko historyczne). На працягу двух гадоў разам з вучнямі працаваў над кнігай па гісторыі Гродна, якую пазней выдаў (1934). Сябра праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział polskiego towarzystwa historycznego w Grodnie) (1935). Пасля ўсталявання савецкай улады працаваў настаўнікам геаграфіі ў сярэдняй школе № 9 (з 4.1.1940). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай разам з іншымі прадстаўнікамі мясцо-

вай яўрэйскай інтэлігенцыі. Жыў па вул. Piłsudskiego, 17 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 51; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Pages of Testimony, Yad Vashem World Center for Holocaust Research, Education, Documentation and commemoration, Jerusalem; GRODNO, wyd. Kółko historyczne przy 1-em Społecznym Gimnazjum koedukacyjnym, Grodno, 1934; Communication with Grisha Hirszowicz and with Joseph Szwarc, former graduates of the Realne Gymnasium, 2012; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

*Р. Маркус*

**Велер Беньямін** // Weller (Heller) Benjamin (каля 1885–?), прамысловец. Сябра праўлення яўрэйскай рэлігійнай абшчыны (1932–1938). Разам з братам быў гаспадаром прадпрыемства па вытворчасці сельтарскай вады і ліманада. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён, прафесійныя саюзы і рамеснікі (Poalej-Sjon, Związki Zawodowe i Rzemieślnicy) (1939). Жыў па вул. Mięsna/Rynkowa, 15.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17 зв.

**Вераксо Мікалай** // Werakso Mikołaj (9.9.1884, Мазыр–11.11.1944, Ерусалім), вайсковы лекар, палкоўнік. Скончыў васьмікласную класічную гімназію ў Пецярбургу (1904), вывучаў медыцыну ў Вайскова-медыцынскай акадэміі, дзе атрымаў дыплом лекара (1910). Спецыяліст па скурна-венерычных захворваннях. Служыў у расійскім войску. Па асабістай просьбе быў пераведзены галоўным лекарам у польскую стралковую брыгаду. Удзельнічаў у выпуску вайсковай газеты на польскай мове. Галоўны лекар I-й стралковай дывізіі, арганізаваў шпіталь у Бабруйскай крэпасці. Служыў у польскім войску (1919–1934). Быў галоўным лекарам вайсковага шпіталя ў Гродна (1921), кіраўніком санітарнай службы ДОК III (1930). Старшыня Таварыства хрысціянскіх уладальнікаў нерухомасці (chrzescijańskie stowarzyszenie włascisełi nieruchomości) (1939), віцэ-старшыня праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1931-1935), сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów). Удзельнік абароны Гродна (20-22.9.1939). Пазней – у польскім войску на Усходзе. У Гродна жыў па вул. Napoleona, 22.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 26; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; «Dziennik kresowy». 31.3.1939. № 90. Str. 4; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 472.

**Взарчыкоўскі Антон** // Wzorczykowski Antoni (25.3.1882, Ломжа–9.1.1940, Прушкоў), акцёр, дырэктар тэатра. Дэбютаваў у Ломжы (1900). Выступаў у тэатрах у Сасноўцы, Любліне (1905), Цехацінку (1906), Калішы (1906–1908), Плоцку (1909–1910), Любліне (1910–1911), Сасноўцы (1912–1913), Радоме (1914), Лодзі (1914), Любліне (1915–1916), Замойсці (1918), Мінску (1918 , 1919–1920), Гродна (1919, 1924, 1928–1929). Пазней пераехаў у Варшаву. Выступаў у тэатры «Элізеум», тэатры для моладзі, народным тэатры.

*Літ.:* «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 12. Str.2 ; Słownik biograficzny teatru polskirgo. Warszawa, 1973. Str. 822-823.

**Вігдаровіч Рувін** // Wigdorowicz Ruwin (1880, м. Астрыно, Лідскага павета–1943, Асвенцім), настаўнік. Бацькі – Мойша і Сара-Лейба Вігдаровіч. Перад Першай сусветнай вайной скончыў педагагічныя курсы ў Гродна па падрыхтоўцы настаўнікаў іўрыта пад кіраўніцтвам Арона Каханстама. Быў адным з першых выкладчыкаў т.зв. рэфармаванага хедэра (Cheder Metukan) у Гродна, дзе традыцыйныя яўрэйскія прадметы выкладаліся на іўрыце. Працаваў у прыватных шко-

лах горада (1903–1905), публічных школах (1905–1907), гімназіі Вальдмана (1910–1914), школе «Астора Велітуда» (1915–1916), прыватнай школе Сухаўлянскага-Вігдаровіча (1916–1917), школе «Талмуд Тора» (1917–1918), грамадскай гімназіі (1918–1922). Пазней далучыўся да выкладчыкаў навучальных установаў «Тарбут» (1922–1939). Выкладаў музыку, навучаючы сваіх слухачоў галоўным яўрэйскім песням. З'яўляўся кіраўніком школьнага хору, які карыстаўся ў Гродна вялікім поспехам. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, ніколі не расставаўся з гармонікам «concertina», які калісьці атрымаў у падарунак ад А. Каханстама на заканчэнне педагагічных курсаў іўрыта. Пісаў музычныя творы. З'яўляўся аўтарам музыкі для гімна «Тарбут» на словы аднаго з вучняў гімназіі. Сацыяліст-сіяніст. Сябра спартыўнага таварыства «Makkabi». З усталяваннем савецкай улады прайшоў курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў (1940). Выкладаў спевы ў сярэдняй школе № 7 (1940). З характарыстыкі дырэктара: «Настаўнік здольны, карыстаецца любоўю дзяцей. Як настаўнік спеваў працуе з вялікім поспехам, аднак вялікая нагрузка пазашкольнай працы ў розных самадзейных гуртках кепска ўплывае на яго работу ў школе» (1940). Падчас нямецкай акупацыі апынуўся ў гродзенскім гета № 1. Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, працягваў пісаць музыку для дзяцей. Згодна з успамінамі аднаго сведкі, выпраўляючыся ў апошні шлях з гета, ён паспеў схаваць свой гармонік у сцяне дома, дзе жыў. Р. Вігдаровіч разам са сваёй жонкай і двума дзецьмі загінуў у Асвенціме. Жыў па вул. Grandzicka, 27 (ці 23) (на 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 н. Арк. 24-24 зв.; Там жа 127. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 13; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Pages of Testimony, *Yad Vashem* – World Center for Holocaust Research, Education, Documentation and commemoration, Jerusalem; Documents concerning the destruction of the Jews of Grodno 1941-1944, Volume VI; The Beate Klarsfeld Foundation; Communication with Moshe Alperstein, a former graduate of the *Tarbut* Gymnasium in Grodno, 2010.

*Р. Маркус*

**Відаўская-Венжык Галіна** // Widawska-Wężyk Halina, настаўніца. Падчас нямецкай акупацыі праводзіла тайнае навучанне, дзейнічала ў АК. Жыла па вул. Listowskiego / Policyjna, 5.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 57; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334.

**Відаўская-Венжык Марыя** // Widawska-Wężyk Maria. Перадала ў дар Гродзенскаму музею прыроды больш за трыста экзэмпляраў розных мінералаў, галоўным чынам з Сібіры і Урала (1927). Разам з дочкамі вывезена савецкай уладай на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 3. Арк. 60 зв.; «Nowy Dziennik Kresowy». 17.06.1927. Str. 4; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 146.

**Відаўскі Казімір** // Widawski Kazimierz. Працаваў у Дзяржаўнай купецкай гімназіі (Państwowe gimnazjum kupieckie) (на 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 5.

**Вілкашэўскі Багуміл**// Wilkoszewski Bogumił, інжынер, прафесар (?). Дырэктар жаночай гімназіі імя Э. Плятэр у Гродна (з 1925). Магчыма, дырэктар ліцэя імя Караля Уладыслава ў Варшаве (1928–1936). Старшыня Таварыства дырэктараў дзяржаўных гімназій (Stowarzyszenia dyrektorów gimnazjów państwowych) (1930–1934), сябра праўлення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (на 1927). Пасля вайны – загадчык кафедры агульнай хіміі політэхнічнага інстытута ў Лодзі (1945–1953). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Bogumił Wilkoszewski z tytułem doktora, Ze szwajcarskim dyplomem w Grodnie; wystartował I żeńską młodzież kształcił w randze dyrektora, Jako zdolny inżynier,



władzę swą sprawował. Powszechnie był ceniony za swoje walory, Bowiem wolność Szwajcarów często nam wysławiał I szkole do rozwoju nadał impet spory, I zaległe z niewoli nawyki naprawiał...»

*Літ.:* «Nowe życie». 18.6.1925. № 46. Str. 2; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 20.5.1927. № 137; «Głos prawdy Ziemi Grodzieńskiej». 1927 № 65. Str. 4; B. Wilkoszewski. Chemia analityczna jakościowa w zarysie: do użytku studentów politechnik. Państwowe Wydawnictwo Naukowe, 1952; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 329; http://www.audiovis.nac.gov.pl/obraz/102407/ http://www.audiovis.nac.gov.pl/obraz/102407/; http://chemia.p.lodz.pl/pl/wydzial/informacje-ogolne/historia-wydzialu.html.

**Вільмус Марта** // Wilmus (Wilmusówna) Marta, кіраўнік харцэрскай дружыны гродзенскіх гімназій (1922). Настаўніца школы № 4. Скончыла выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Вялікія педагагічныя здольнасці. Працавітая і сумленная. Вынікі працы добрыя» (1934) Удзельніца абароны Гродна (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стстГродна, 2013. Ст. 332.

**Вірскі Юліюш** // Wirski Juliusz, паэт, тэатральны крытык. Друкаваў свае артыкулы на старонках газеты «Nowego Dziennika Kresowego». У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «A oto Juliusz Wirski, co kwiaty miłował, I im wiersze poświęcał piękne, jak bukiety, Cóż z tego, kiedy nigdy kwiatów nie kupował, Bowiem brak jest poecie pieniędzy, niestety. Pan Wirski, dziwny człowiek, siebie poniewierał, Chodził sobie po Grodnie i gawędy prawił, Tematy do utworów poetyckich zbierał, Gościa potem w wierszyku na kiksa wystawił. A teraz, po wojence zmienił swe metody, Jest poważnym człowiekiem i słynnym aktorem, I godzien jest pochwały, i wielkiej nagrody, Choć jest nadal poetą z perlistym humorem».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 60.

**Вірыён дэ Ежы герба Леліва**// Virion de Jerzy h. Leliwa (23.09.1901 маёнтак Пагрызаў–3.11.1941, Асвенцім), землеўласнік. Сын Адама дэ Вірыёна (1870–1945). Скончыў школу ў Кіеве (1918). Вучыўся на юрыста ў Варшаўскім універсітэце і ў Вільні. Магістр права. Добраахвотнікам уступіў у польскае войска (1919). Скончыў школу падхаружых кавалерыі ў Грудзіяндзу (Grudziądzu). Гаспадар манётка Лішкі каля Гродна, які атрымаў ад свайго бацькі (1923). Арганізаваў племянную жывёлагадоўлю, рыбныя ставы. Сябра праўлення Таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych), прэзідыума павятовай Рады ББСУ (1931). Праходзіў па справе злоўжыванняў у мясцовым камітэце Касы зберажэнняў, аднак быў апраўданы (1937). Пасля гэтага працаваў нейкі час адвакатам у Варшаве (з 1937). Удзельнік Вераснёўскай кампаніі (1939). Пазней у польскай канспірацыі. Арыштаваны немцамі і зняволены ў Асвенціме. Атрымаў нумар 3570. Быў адным з арганізатараў

вайсковага руху супраціву. Загінуў у канцлагеры.

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1611. Арк. 31 зв.; «Nowy dziennik. Wydanie wieczorne». 19.4.1938. № 107. Str. 8; Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. Część 7. Warszawa, 2004. Str. 176-177.

**Вірыён дэ Мечыслаў-малодшы** // Virion de Mieczysław (1884–1930, Крынкі), землеўласнік. Уладальнік маёнтка Жылічы. Сын Мечыслава дэ Вірыёна-старэйшага і Фларэнціны дэ Вірыён. Скончыў гімназію ў Гродна. Нейкі час жыў у Варшаве (1920–1925). Памёр ад раку.

*Літ.:* Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. Część 8. Warszawa, 2007. Str. 187.

**Вірыён дэ Мечыслаў-старэйшы Антоній Ян** // Virion de Mieczysław Antoni Jan (8.06.1835–8.12.1918), землеўласнік. Сын Станіслава Караля Сямёна дэ Вірыёна. Гаспадар маёнткаў Лішкі, Крынкі, Жылічы і Засценнікі каля Гродна. Скончыў сярэднюю школу ў Мітаве і Пецярбургскі лясны інстытут. Пасля смерці бацькі пасяліўся ў Гродна ў сваёй прыватнай камяніцы (1873). Да самай сваёй смерці выконваў абавязкі намесніка старшыні Гродзенскай гарадской управы (па іншых звестках – намеснік прэзідэнта Гродна).

*Літ.:* Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. Część 8. Warszawa, 2007. Str. 187.

**Вірыён дэ Уладыслаў** // Virion de Władysław (1899–1955), землеўласнік. Сын Мечыслава дэ Вірыёна-старэйшага і Фларэнціны дэ Вірыён. Памочнік канцылярыі Гродзенскага акруговага суда (1934). Звярнуўся да гарадскіх улад Гродна з прапановай прадаць гораду пляц каля гарадскога парка (1927).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1.Спр. 2. Арк. 95; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 281. Арк. 12; Там жа Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2; Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. Część 8. Warszawa, 2007. Str. 187.

**Вірыён дэ Фларэнціна Зоф'я** // Virion de Florentyna Zofia (?–1939) З роду Сыгетынскіх (Sygietyńskich), землеўласніца. Жонка Мечыслава дэ Вірыёна-старэйшага. Грамадская дзеячка. Сябра Гродзенскага аддзялення Таварыства апекі над зняволенымі «Патранат». Існуе легенда, што, калі яе дом на Тэатральнай плошчы аднойчы абакралі, яна паскардзілася вязням гродзенскай турмы, якімі апекавалася, пасля чаго невядомыя ўсё вярнулі назад. Пра іншы выпадак з часоў Першай сусветнай вайны ўзгадвае ў сваёй кнізе Л. Саванеўскі: «Na pomysł doskonały czarna dama wpadła, Stara Pani De-Virion odwiedza więzienie I Kazia Łęczyckiego Niemcom z rąk wykradła, I ma czyste zupełnie i błogie sumienie». Гаспадыня камяніцы на Тэатральным пляцы.

*Літ.:* Z. Nałkowska. Dzienniki 1918-1929. Czytelnik, Warszawa, 1980. T. III. Str. 132; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 27; J.J. Milewski. Kobiety w życiu społeczno-politycznym i kulturalnym międzywojennego Grodna // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 318; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 306; Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. Część 8. Warszawa, 2007. Str. 187; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363.

**Віславух Францішак** // Wysłouch Franciszek Marian (24.9.1896–27.3.1978, Лондан), прафесійны вайсковец, мастак, пісьменнік. Скончыў Гандлёвую школу ў Варшаве. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў. Быў высланы ў Вятку, адкуль здолеў уцячы. Служыў у Польскіх легіёнах, удзельнік польска-савецкай вайны (1920). Выпускнік Вышэйшай школы Польскага Генеральнага штаба. Дыпламаваны маёр пяхоты. Накіраваны ў КАП (1931). Кіраўнік Самастойнага сектара бяспекі (Kierownik Samodzielnego Referatu Bezpieczeństwa) ДОК III у Гродна. Курыраваў дзейнасць Таварыства праваслаўных палякаў. Інтэрнаваны ў Латвіі (пасля 1939). Здолеў збегчы ў Францыю, адкуль трапіў у польскія часткі ў Англіі. Кіраўнік канвою караблёў у Персію. Служыў у арміі генерала Андэрса, кіраўнік штаба Запаснога цэнтра Польскай арміі на Сярэднім Усходзе (szef sztabu Ośrodka Zapasowego Armii Polskiej na Środkowym Wschodzie).

Удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна. Пасля вайны жыў каля Лондана. Займаўся агародніцтвам. Супрацоўнічаў з польскай эміграцкай прэсай. Меў некалькі мастацкіх выстаў. Аўтар успамінаў «Na ścieżkach Polesia» (Polska Fundacja Kulturalna, Londyn 1976), «Echa Polesia» (PFK 1979), «Opowiadania poleskie» (PFK, Londyn 1994).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 91; http://www.dws.org.pl/viewtopic.php?f=86&p=1648799; http://www.radzima.org/pl/person/462.html; http://www.zppno.org/index.php/laureaci/81-biogramy-laureatow-nagrod-literackich.

**Вішнеўскі (Віснеўскі) Станіслаў (Міхаіл?)** // Wiśniewski Michał (1893–15.7.1943, форт № 2, в.Навумавічы), настаўнік. Скончыў гарадское вучылішча, два курсы духоўнай семінарыі, настаўніцкія курсы (1940). Здаў экзамен на настаўніка. Працаваў настаўнікам у м. Воўпа (1915–1918; 1922–1929), Лазы (1921–1922), Лаша (1926), Кашэўнікі (1926–1927). Пазней – у гродзенскай школе № 8 (1927–1940). Настаўнік геаграфіі і прыродазнаўства ў няпоўнай сярэдняй школе № 17 (1940). Расстраляны разам з жонкай і шасцю дзецьмі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 4-4 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 161; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494.

**Возняк Аляксандр** // Wozniak Aleksander, прафесар. Старшыня Каталіцкага таварыства грамадзян Гродна (Katolickiego Stowarzyszenia Męzów w Grodnie). У крыніцах сустракаецца Возняк – кіраўнік тэніснай секцыі (sekcja tenisowa) клуба GKS «Cresovia». Нейкі настаўнік Возняк з-пад Гродна падарваў сябе разам з савецкімі салдатамі падчас баёў за Гродна (21.09.1939). Г. Маісееў ва ўспамінах узгадваў настаўніка лацінскай мовы гімназіі імя Г. Сянкевіча Возняка, «які не любіў рускіх».

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228; Воспоминания Г.М. Моисеева: «Мне часто вспоминались страницы далекого гродненского прошлого» // Православный Гродно. Гродно, 2000. С. 177.

**Возняк Юзаф** // Wozniak Józef (19.7.1902–1939 (?)), пракурор. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Старшыня таварыства афіцэраў запасу (związek oficerów rezerwy w Grodnie) (1939). Арыштаваны органамі НКУС (10.10.1939). Знаходзіўся ў гро-дзенскай турме, пасля чаго звесткі аб ім адсутнічаюць.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 27; «Kurier codzienny 5 gr» . 27.6.1937. № 176. Str. 2; «Dziennik kresowy». 31.3.1939. № 90. Str. 4; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Войніч Алена** // Wojniczowa Helena (1908–?), настаўніца. Скончыла педагагічную семінарыю, праслухала курсы беларускай мовы (1939). Працавала настаўніцай у в. Эйсманты (1930–1935), завучам школы ў в. Пагараны (1935–1937), настаўніцай у агульнай школе № 3 (1937–1939) і няпоўнай сярэдняй школе № 20 (з 15.8.1940) у Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 61-61 зв.; Br. Kuryłłowicz. Wspomnienie o księdzu kanoniku – Antonim Kuryłłowiczu // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Вольберг Сымхе** // Wolberg Symche, кіраўнік банкаўскага таварыства ў Гродна (Tow. Bankowe w Grodnie), адказны рэдактар і выдавец штомесячніка «Chwila Gospodarcza» (1932-1934). Трапіў пад суд за грашовыя злоўжыванні (1935–1938). Быў прыгавораны да трох год турмы. Яго маёмасць па вул. Listowskiego была прададзена на аўкцыёне. Там пазней адчынілі прыют для старых братоўсамарытанаў (1938).

*Літ.:* Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. Dodatek do urzędowego wykazu druków. Rocznik V. Warszawa, 1933. Str. 44; «Ostatnie wiadomości Grodzieńskie». 3.7.1935. № 182. Str. 6; «Nasza okolica»/ 1938. № 20-22 . Str. 16; «Dziennik Kresowy». 3.12.1938. № 331/

**Воўк-Ланеўскі Вітольд** // Wołk-Łaniewski Witold, сакратар гродзенскага магістрата (на 1937). Сябра Гродзенскага таварыства добраахвотнай пажарнай аховы (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie)

(на 1937). Сакратар таварыства сяброў Гродна (T-wo przyjacioł m. Grodno) (на 1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 34; «Dziennik kresowy». 2.4.1939. № 92. Str. 4; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Врачынскі Ч.** // Wroczyński Cz., лекар (магчыма, вайсковы лекар). Доктар медыцыны. Надзвычайны камісар па справах барацьбы з эпідэміямі (komisarz nadzwyczajny do spraw walki z epidemjami) (1921). Сябра таварыства гігіены і асветы імя праф. Э. Гадлеўскага (Towarzystwo Hygieniczno-oświatowe im. prof. Emila Godlewskiego) (1921).

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. -№ 12. Str. 94; «Echo Grodzieńskie». 21.5.1921. № 110. Str. 4/

**Вронская Стэфанія** // Wrońska Stefania, настаўніца. Скончыла вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве, фізіка-матэматычную групу (Warszawa – W.K.N., gr. fizyko-matem.). Працавала ў гродзенскай агульнай школе № 6. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Інтэлігентны работнік. Вынікі працы вельмі задавальняючыя. Характар злы – недысцыплінаваная і сварлівая» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7.

**Выганоўскі В.** // Wyganowski W., інжынер. Падчас пасяджэння таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) выступіў з праектам будоўлі рачнога порта на Нёмане ў раёне т.зв. «Крэйдавых гор» са спецыяльным чыгуначным пад'ездам да яго (1924). Жыў па вул. Piłsudskiego, 13 (1924).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1, Спр. 98, Арк. 11; Там жа Спр. 188. Арк 43.

**Вявюрскі Юзаф** // Wewiórski Józef (1902–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік. Скончыў вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. Дырэктар агульнай школы № 8. Паводле характарысткі павятовага школьнага інспектара: «Працавіты, адказны, інтэлігентны. Як кіраўнік школы ініцыятыўны і клапатлівы, вельмі энергічны. Вельмі добры грамадскі дзеяч і арганізатар. Выдатны тэатральны рэжысёр» (1934). Грамадска-палітычны дзеяч. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Падчас абмеркавання бюджэту прапанаваў асігнаваць грошы з субсідыі на жыдоўскія школы на дафінансаванне будоўлі новай школы, чым выклікаў пратэст з боку яўрэйскіх радных. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Паводле Ц. Амільяновіч, арыштаваны савецкімі ўладамі і разам з сям'ёй – жонкай і пяцярымі дзецьмі – вывезены з Гродна (1941). Пазней вярнуўся ў горад. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno), быў загадчыкам дабрачыннага аддзела (Fursorgewesen Leiter) (з 28.6.1941). Адзін з арганізатараў грамадзянскага Камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Гродна (1941). Быў арыштаваны немцамі як заложнік, але на расстрэл замест яго вызваўся Ян Каханоўскі. Праз год быў зноў арыштаваны разам з жонкай, дзецьмі, швагеркай і расстраляны. Жыў па вул. Bazyliańska, 31; Czwartacka (на пачатак 1943).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 22 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 32 зв.-33, 100-100 зв.; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 161; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494. В. Черепица ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 177.

**Вялепская Зінаіда** // Welepska Zinaida (1892–?), настаўніца. Скончыла гімназію, двухгадовыя жаночыя

педагагічныя курсы ў Мінску і аднагадовы настаўніцкі курс у Кракаве, курсы павышэння кваліфікацыі ў Гродна (1940). Працавала ў школе ў В.Быхаўшчыне (1912–1914); хатняй настаўніцай у Клецку (1916–1918); настаўніцай у Клецкай гімназіі (1919–1921). Пазней – у Гродна настаўніцай у школе № 4 (1923–1928), школе № 2 (1928–1939). З усталяваннем савецкай улады – настаўніца беларускай мовы ў няпоўнай школе № 6 (з 1.11.1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 6-6 зв.

**Вярбланская-Плюскалоўская Эдыта** // Werblanska-Pluskalowska Edyta (1893–?), настаўніца. Яўрэйка. Скончыла настаўніцкія курсы і курсы перападрыхтоўкі (1927–1928). Працавала настаўніцай у розных гродзенскіх школах (1918–1938). Настаўніца рускай сярэдняй школы № 11 (1940). Жыла па вул. Ogrodowa, 11 (1937); Ogrodowa, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 2-2 зв.



**Гагман Барыс Карлавіч** // (1873, Гродна–?), грамадскі дзеяч. Праваслаўны з немцаў. Дваранін. Скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію, два класы Кіеўскага кадэцкага корпуса, Пецярбургскае Міхайлаўскае артылерыйскае вучылішча. Служыў у 32-й артбрыгадзе ў г. Роўна, адкуль быў пераведзены ў 26-ю брыгаду ў Гродна (1907). Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Узведзены ў чын палкоўніка (1915). Быў ранены і звольнены ў запас (1918). Працаваў у каапсаюзе ў Кіеве. Вярнуўся ў Гродна, дзе паступіў на працу ў Гродзенскую кансісторыю (1922). Старшыня дзіцячага прытулка пры праваслаўным манастыры (1930-я). Старшыня РДТ у Гродна (1928–1935). Пазней выйшаў з арганізацыі (1938). Пасля закрыцця прытулка, магчыма, сябра Таварыства праваслаўных палякаў. Касір пры Камітэце па пабудове царквы праваслаўных палякаў. Выступаў сведкам па справе Рускага дабрачыннага таварыства (на пачатак 1939). Арыштаваны органамі НКУС (11.10.1939). Быў асуджаны па артыкулу 74 УК БССР на пяць год працоўных лагераў (3.1940). Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 16.

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 50, 85, 87-89, 92.

**Гадзіеўскі Яўгеній** // Godzijewski Eugeniusz (1885, Барань, Аршанскі павет–25.5.1938, Гродна), вайсковец. Скончыў сярэднюю школу ў Магілеве (1906), Львоўскую палітэхніку (1914). Служыў у Польскіх легіёнах, польскіх узброеных сілах пры Вермахце, дзе займаў пост каменданта курсаў пяхоты; камандуючы батальёнам 7-га пяхотнага палка. Інспектар пяхоты пры ДОК у Любліне. Камандаваў 85-м, 70-м пяхотнымі палкамі, КАП «Падолле». Прызначаны камандуючым дывізіяй (19.6.1931). Генерал (1934). Служыў у Гродна (з 1936). Намеснік камандуючага ДОК III. Займаўся актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасцю. Сябра праўлення Саюза легіянераў і ПАВ, старшыня Камітэта будоўлі Дома стральца ў Гродна. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Generał Godziejewski godzien jest wspomnienia, Bowiem w Grodnie zostawił swe poczciwe kości, Już nic mu nie zaszkodzą wojny i wzburzenia, Ani żadnych atomów groźne potworności».

*Літ.:* «Nasza okolica» 1938. № 9. Str. 12; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 122-123; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 35.

**Гадлеўская Марыя** // Godlewska Maria, дырэктар Гродзенскай гарадской бібліятэкі (з 15.10.1919). Падчас

савецкага панавання звярнулася да бальшавіцкіх улад з просьбай вярнуць яе ў бібліятэку, аднак атрымала адмову (1920). Пазней, хутчэй за ўсе, зноў працавала на сваёй пасадзе. Дзякуючы ёй, у гродзенскі музей трапіў малюнак Тэнерса Давіда, вучня Рубенса. Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Godlewska, Pani Maria, kierowniczką była Biblioteki Miejskiej, gorliwie pracując I długie lata pracy szczytnej poświęciła, Wyczerpania i trudu dla Polski nie czując».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 41; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 18-19; «Dziennik kresowy». 16.7.1923. № 165. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 79.

**Гаеўскі Станіслаў** // Gajewski Stanisław, футбаліст GKS «Cresovia». Гуляў за зборную каманды Гродна ў таварыскім матчы супраць чэмпіёна Літвы каманды «ЛСГФ» (1939). Выступаў за баскетбольную каманду WKS «Grodno» (1930-я). Уваходзіў у зборную Гродна па баскетболе (1940).

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 28; В. Черепица. Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей Век XX. Гродно, 2012. Стр. 61.

**Гажанскі Ісаак** // Gożański Izaak (пасля 1888–каля 1942), адвакат. Сябра праўлення яўрэйскай абшчыны Гродна, Гродзенскага аддзялення яўрэйскага камітэта «ORT» (1920). Падчас савецкага панавання – лектар (1920). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Яўрэйскага беспартыйнага радыкальна-дэмакратычнага аб'яднання (Bezpartyjne żydowskie zjednoczenie radykalno-demokratyczne) (1927). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага Таварыства апекі над яўрэйскімі сіротамі (Grodzieńskie wojewódzkie Towarzystwo opieki nad sierotami żydowskimi) (1930). Падчас акупацыі немцы загадалі яму стварыць яўрэйскі прадстаўнічы орган. Гажанскі паспрабаваў ухіліцца ад гэтай місіі, заявіўшы, што не вельмі добра валодае нямецкай мовай. Замест сябе ён рэкамендаваў Давіда Бравера, дырэктара мясцовай гімназіі «Тарбут». Старшыня юдэнрата пры гета № 1. Пазней пераведзены ў перасылачны лагер Каўбасін (12.1942). Жыў па вул. Dominikańska, 23 (1925); Kalucińska, 7 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 54. Арк. 58; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 18.1.1930. № 4; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 386, 412, 426.

**Гажанскі Міхаіл** // Gożański Michał (? – 1942 (?), Гродна), інжынер, настаўнік. Кіраўнік яўрэйскай рамеснай школы (з 21.1.1921). Тады ж на чале дэлегацыі выязджаў у Варшаву з тым, каб набыць патрэбныя для вучобы прылады і машыны. Магчыма, расстраляны ў гета. Жыў па вул. Bonifraterska, 19 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 54. Арк. 131; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125.

**Гажкоўская Аляксандра** // Gorzkowska Aleksandra (1906–?), настаўніца. Скончыла педагагічнае вучылішча. Працавала настаўніцай у школах Гродзенскага павета (1924–1928), у Гродна (1928–1940). Настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 3 (1940) і школы № 19 (1941).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 47-47 зв.

**Гажахоўскі Ян** // Gorzechowski Jan (21.12.1874, Седлец–21.6.1948, Бруквуд), вайсковец. Брыгадны генерал. Скончыў гімназію ў Седлецы і Вышэйшую гандлёвую школу ў Варшаве (1897). Сябра баявой арганізацыіі ППС (1904). Арганізатар і выканаўца вызвалення з турмы прыгавораных да смерці вязняў (1906). Арыштаваны і высланы з краю (1907). Адзін з арганізатараў Саюза чыннай барацьбы (Związku Walki Czynnej) (1908), Саюза стральцоў (Związku Strzeleckim). Кіраўнік палявой жандармерыі I-й брыгады легіёнаў



(1914–1916), сябра галоўнай управы ПАВ. Камендант міліцыі і шэф аддзела грамадскай бяспекі пры Міністэрстве ўнутраных спраў (1918). Камандаваў палявой жандармерыяй (з 1919). Камандуючы 3-м дывізіёнам жандармерыі ў Гродна (1922–1927). Пасля Гродна з'яўляўся камендантам Брэста і Варшавы, пазней служыў у памежнай ахове. Памёр у эміграцыі. Муж З. Налкоўскай. У Гродна жыў па вул. Akademicka, 15.

*Літ.:* St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 218. http://pl.wikipedia.org/wiki/Jan_Jur-Gorzechowski.

**Гальпнер Мозес** // Galpner Mozes, сябра Гродзенскай гарадской Рады. Дырэктар яўрэйскай жаночай школы па вул. Zamkowa, 17.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп.1. Спр. 29. Арк.16; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Гальская Антаніна** // Galska Antonina (1896, Гродна–?), настаўніца. Паланістка. Скончыла гімназію, настаўніцкія курсы (1922–1923, 1924–1925). Арганізатар прыватных тайных польскіх курсаў падчас першай нямецкай акупацыі. Пазней – настаўніца школы імя Стэфана Баторыя (1919) і падрыхтоўчай школы пры жаночай настаўніцкай семінарыі. А. Сабалеўская, якая разам з бацькамі здымала пакой у яе доме, узгадвала пазней: «Пані Антаніна Гальская... была вялікаю дамай, багатай гаспадыняй дома, прафесаркай, чалавекам, які прадстаўляў зусім іншы свет... Як я зараз разумею, была яна проста вельмі культурнай і па-чалавечы добрай асобай». Грамадска-палітычная дзяячка. Сакратар арганізацыйнага камітэта Хрысціянскага дэмакратычнага саюза (11.1918). Сябра праўлення «Гуртка полек» (Koła Polek) (1921), камітэта супрацьгазавай абароны (Komitet obrony przeciwgazowej) (1923), праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925). Удзельніца абароны Гродна, яна арганізоўвала санітарныя патрулі (20–22.9.1939). Настаўніца рускай мовы поўнай рускамоўнай сярэдняй школы № 11 (на 1940). Арыштавана органамі НКУС, аднак вызвалена з надыходам немцаў. Апекавалася сваім братам Раманам, які страціў розум пасля таго, як савецкая ўлада саслала яго сям'ю. Сябра грамадзянскага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Гродна (1941). Стварала тайныя польскія школы. Камендант вайсковай жаночай службы АК (Komendantka wojskowej służby kobiet Armii Krajowej), псеўданім Шаротка (Szarotka). Прымала актыўны ўдзел у арганізацыі ўцёкаў двух жаўнераў АК з нямецкай турмы ў Брэсце. Настаўніца школы № 7 (на 1944). Арыштавана органамі НКУС (5.1.1945). Пасля вызвалення з лагера выехала ў Польшчу (каля 1956). У сваёй кнізе Л. Саванеўскі пісаў: «I była Nina Galska, ach, jakże ruchliwa! Czyż możliwe zapomnieć o takiej kobiecie? Rzetelna była wielce i Polka prawdziwa. Czyż podobną gdziekolwiek taką odnajdziecie?...» Жыла па вул. Чапаева, 16-6 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 72. Арк. 69; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 43; Там жа Воп. 2. Спр. 10. Арк. 3–3 зв. «Nowe życie». 18.12.1918. № 1; «Nowe życie». 1921. № 41. Str. 322; «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1; Sprawozdanie z działalności z Komitetu Obrony Przeciwgazowej od chwili powstania do 1 październikа 1923 roku. Warszawa, 1924. Str. 11-12; L. Sawoniewski. Saga

о Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85, 91; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 78, 123, 165, 168; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 28; E. Skrobocki. A. Galska // Magazyn polski. 2003. № 3. Str. 44–45; Gr. Lipińska. Jeśli zapomnę o nich... Warszawa, 2005. Str. 23, 168, 176, 182, 186, 226; A. Sobolewska. Moje Grodno // Europa nieprowincjonalna. Warszawa, 1999. Str. 596; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 325; В. Черепица ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 178.

**Гальская Марыя** // Galska Maria (1895–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, двухгадовыя Вышэйшыя настаўніцкія курсы па спецыяльнасці «ручныя працы». Працавала ў школах у Нарт Стары (1915–1916), Тарнагоры (1911–1919), Казярне (1919), Білгараі (1919–1921), Беластоку (1922–1923). Выкладчыца настаўніцкай семінарыі (1923–1929; 1930–1931) і жаночай гімназіі (1931–1932; 1937–1939) у Гродна. Настаўніца чарчэння і працоўнага навучання ў польскай сярэдняй школе № 2 (з 29.11.1940).

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 2. B. 152. Ap. 1, 16; Там жа F. 127, Ap. 2. B. 394. Ap. 34; ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 39–39 зв.

**Ганерка Міхаіл** // Gonerka Michał (каля 1899, Астроўскі пав.–?), грамадска-палітычны дзеяч. Сын Станіслава і Алёны. Сябра ППС. Сакратар Рады прафсаюзаў Гродзенскай акругі (Rada związków zawodowych). Друкаваўся на старонках газет «Dziennik Kresowy» і «Straż nad Niemnem». Неаднаразова прыцягваўся да судовай адказнасці. Жыў па вул. Mickiewicza, 5 (на 1927).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1995. T. 2. Str. 47.

**Гарбачэўскі Зыгмунт** // Horbaczewski Zygmunt (16.1.1889. Лікаўка, Гродзенскі пав.–?), суддзя, адвакат. Католік, паляк. Бацькі – Юліян і Мар'я Стралкоўская. Скончыў Гродзенскую гімназію (1907), юрыдычны факультэт Дэрпцкага ўніверсітэта (1914). Добраахвотнік польскай арміі, падпаручнік (18.7–15.12.1920). Сакратар акруговага суда ў Гродна (з 27.6.1919), міравы суддзя I-й акругі Гродзенскага павета (з 30.4. –18.6.1920, 2.11.1920–12.2.1925). На пасадзе суддзі, між іншым, разглядаў справу дырэктара школы імя А. Міцкевіча М. Філла (1923). Пасля – адвакат. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Удзельнічаў у працы народнай рады (rady łudowej) Гродзенскага павета (1919). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Сацыялістычнага саюза рабочых палякаў (Związek Socjalistyczny robotników polaków) (1919–1927). Зноў абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927) і ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Узначальваў гурток гаспадарчай працы (Koła Pracy Gospodarczej). Старшыня Саюза стральцоў. Звярнуўся з пратэстам у Найвышэйшы суд па выніках выбараў у Сейм па Гродзенскай акрузе. Пратэст быў адхілены як «беспадстаўны» (1930). Выклікаў чарговы скандал тым, што адмовіўся вывесіць каля свайго дома нацыянальны сцяг падчас дзяржаўнага свята (1931). Сябра Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (1921), павятовага камітэта фізічнага выхавання (на 1927). Падчас савецкага кіравання быў разам з сям'ёй вывезены на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Падчас нямецкай акупацыі-бургамістр Гродна (з 1.8.1941). У першыя месяцы сваёй працы на гэтай пасадзе супрацьдзейнічаў спробам мясцовага БНК пераняць кіраўніцтва над адміністрацыяй горада. Жанаты з Уладзіслававай Ястшэмбскай, дачкой вядомага гродзенскага банкіра. Магчыма, арыштаваны савецкімі

органамі бяспекі (1944). Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «Pan Zygmunt Horbaczewski, a trybun czerwony, W swoich latach młodzieńczych chodził ze sztandarem. Nie szczędził on i dla mnie skutecznej obrony. Niechaj za to ta wzmianka będzie jemu darem». Жыў па адрасах: Aleja 3 Maja, 12 (1924); Orlicz-Dreszera/Pocztowa, 1; Horodniczańska, 8; Maurerstr., 3 (1943).

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7. B. 989; ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 20; Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 7; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7, 20; Там жа Спр. 130. Арк. 12; «Dziennik Grodzieński». 18.5.1922. № 74. Str. 3; «Nowe życie». 1923. № 25. Str. 125; «Chata Polska». 15.12.1919. № 39. Str. 14; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 15.1.1930. № 1; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 4.4.1931. № 93; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 18; Гродно межвоенных лет, как его помнит Богдан Горбачевский, ныне пенсионер из города Торунь // «Белорусская газета». Б/м; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 143; Я. Малецкі. Пад знакам Пагоні. Таронта, Пагоня, 1976 // http://knihi.com

**Гарбер Хаім** // Garber Haim, настаўнік. Яўрэйскі грамадскі дзеяч. Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). Магчыма, рэдактар газеты «Grodner Lebn» (1939). Жыў па вул. Prochowa, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Арк. 7-7зв.; «Dziennik kresowy». 1.4.1939. № 91. Str. 4.

**Гарбульская Малка** // Gorbulska Malka (1897–?), настаўніца. Скончыла гімназію, чатыры курсы гуманітарнага факультэта ўніверсітэта, педагагічныя курсы, курсы рускай мовы (1939, 1940). Працавала ў школе «Ябнэ» ў Гродна (1925–1926), прыватнай школе М. Загранічнай у Варшаве (1927–1928). Была загадчыцай аб'яднаных яўрэйскіх школ у Гродна (1928–1939). З усталяваннем савецкай улады – дырэктар няпоўнай сярэдняй школы № 12 (1939–1940), настаўніца рускай мовы ў няпоўнай сярэдняй школе № 6 (1940) і яўрэйскай няпоўнай сярэдняй школе № 12 (1940) у Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 3–3 зв.; Там жа Спр. 10. Арк. 35–35 зв.

**Гарошка Міхаіл** // Goroszko Michał, (каля 1898–?), сябра КПЗБ. Рэдактар-выдавец аднадзённай беларускамоўнай газеты «Гудок» (1924). Арыштаваны польскай паліцыяй (1925). У Гродна жыў па вул. Jerozolimska, 6.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 67.

**Гасперскі Міхал** // Gasperski Michał (1877–?), прафесар, настаўнік геаграфіі. Ініцыятар стварэння першай у Гродна харцэрскай арганізацыі (1917). Выступаў на лекцыях т.зв. Агульнага ўніверсітэта (Uniwersytet powszechny), якія арганізавала Польская Мацеж Школьна (Polska Macierz Szkolna), з дакладам «Гісторыя Гродна» (1939). Цікавіўся паранармальнымі з'явамі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno),быў загадчыкам архіва (Archivum Leiter). Л.Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Oto Michał Gasperski, charakter ciekawy, Pedagog i prelegent, mąż pełen zapału, I powszechny encyklos, znawca wszelkiej sprawy... Artykuł jego w prasie umysły porusza, Odczyt ściąga publiczność do nabitej sali, W słuchaczu radość rośnie i kochać przymusza, Albo nieraz sumienie grom Skargi zapali. Gasperski, mąż oświaty, człek fascynujący, I pogodą duchową cały ogarnięty, Co gniew jest, irytacja, nigdy nie wiedzący, Jakby Leśmian powiedział: «w siebie on wsunięty». W marzącej duszy głębiach cały zatopiony, Takim jest on, gdy głosi odczyt na mównicy, Przemawia z niej filozof wielce doświadczony I tę postać mistyczną poznasz na ulicy». Жыў па вул. Am Bahdamm, 6 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк. 24; «Gazeta Grodzieńska». 7.2.1932. Str. 8; «Dziennik kresowy». 27.3.1939. № 86. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 68-69;

**Гаўрылюк (Гаўрылік) Анастасія**// Gawryluk Anastazja (1909–?), настаўніца. Здала экстэрнам экзамены за курс гімназіі. Скончыла Віленскі ўніверсітэт (1933). Працавала настаўніцай у в. Шумава (1927–1928), Навагрудскай беларускай гімназіі (1929–1934), гродзенскай пачатковай школе № 1 (1934–1939). З усталяваннем савецкай улады – інструктар гарана (1939–1940), выкладала фізіку і матэматыку ў школе № 1 і школе № 5 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 64–64 зв.

**Гахе Ежы** // Gache Jerzy, настаўнік Гродзенскай гімназіі імя А. Міцкевіча. Кіраўнік філіяла Львоўскага музычнага інстытута ў Гродна (з 1927). Пераведзены ў настаўніцкую семінарыю ў Крамянцы (1927).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 44. Арк. 244; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 88. Арк. 3.

**Гедройц Казімір** // Giedrojć Kazimierz (22.5.1877, Гродна–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Уладыслаў і Валерыя Эйсмант. Скончыў класічную гімназію ў Гродна (1896), юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта (1901). Прысяжны адвакат акруговага суда ў Гродна (1906–1917). Суддзя акруговага  суда ў Лодзі (з 28.5.1917). Старшыня Гродзенскага акруговага суда (з 28.5.1919). Віцэ-старшыня апеляцыйнага суда ў Варшаве (з 10.10.1936). Грамадскі дзеяч. Асабісты сябра Э. Ажэшкі. Радны Гродзенскай гарадской Рады. Віцэ-старшыня праўлення Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (1921). Сябра Польскага краязнаўчага таварыства (członek-korespondent Polskiego towarzystwa krajoznawczego) (на 1913), Польскай рады асветы, рэвізійнай камісіі таварыска-артыстычнага клуба «Муза» (Klub artystyczno-towarzyski Muza) (на 1921), таварыства сяброў навук (Towarzystwo Przyjaciół Nauk) (1923), таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924), старшыня выканкама Камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925), сябра камітэта па разбудове Гродна (1928), сябра праўлення таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych), арганізацыйнага камітэта па святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., павятовага камітэта ратавання Віленскай базілікі (1933), праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935) і інш. Віцэ-старшыня апеляцыйнага суда ў Варшаве (1936). Верагодна, пасля Другой сусветнай вайны пераехаў у Лодзь. Ксёндз Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «O, jakaż postać piękna, dostojność chodząca / Prezes Sądu na Okręg, Pan Giedroyć stroskany / Ta jego prawość stała, ta miłość gorąca / Prawda cała to tylko, nie marne peany. / Gdy perwsza zorza wrzeszła wolnego żywota / Bierze Giedroyć ster pracy w pierwszym Komitecie / Powstaje wnet obrona, jazda i piechota / I sztab ludzi już czuwa w Grodnie i powiecie...» Адзначаны кіраўніком дзяржавы за правядзенне выбараў у парламент па Лодзінскай акрузе  (1919), кавалер Камандорскага Крыжа (1924), узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі (1931). Жанаты з Марыяй Выганоўскай (з 1907). Дзеці: Казімір (1908), Ежы (1912), Яніна-Марыя (1917), Зоф'я-Ірэна (1917). Гаспадар камяніцы ў Гродна па вул. Piłsudskiego.

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7, B. 800; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 116; Там жа Спр. 188. Арк 33; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 2; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79; «Nowy dziennik Kresowy». 28.11.1930. № 330. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 5.6.1930. № 120; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Wydanie rodzinne. Łódz-Białystok, 1999. Str. 19.

**Гельгор Лейба (Лейзер)** // Gelgor Lejba (1878–1960), фатограф. Трымаў

уласную мастацка-фатаграфічную майстэрню (з 1901). Яго спецыяльнасцю было «павелічэнне здымкаў да натуральных памераў, брошкі і бралкі з выяваю жаданай асобы». Правадзейны сябра Расійскага фатаграфічнага таварыства ў Маскве. Быў узнагароджаны Вялікім залатым медалём на міжнароднай выставе ў Бруселі (1905), срэбнымі медалямі на Станіслаўскай стужцы (1908; 1911), лістом падзякі на Дзвінскай выставе (1903), падарункамі ад Мікалая II і вялікага князя Дзмітрыя Паўлавіча – персцenem і запінкамі (1912). Пазней Л. Гельгор атрымаў падзяку ад Прэзідэнта II Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масціцкага (1923). Віды Гродна Л. Гельгора можна бачыць на паштоўках першай трэці XX ст., а таксама ў працы пра Гродна заснавальніка гродзенскага музея Ю. Ядкоўскага (1923). Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны ад гаспадарчага блока (з 1932). Пасля эміграваў у Палесціну, дзе ў горадзе Рамат-Ган (Ramat-Gan) адчыніў фотаатэлье «Gelgor» (у сярэдзіне 1930-х). З гэтага перыяду вядома серыя здымкаў з выявамі эмігрантаў з Еўропы ў Палесціну, габрэйскага ўніверсітэта і інш. Здымаў алімпіяду ў Берліне (1936). Меў двух сыноў і дачку. Жыў на Pl. Batorego, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 17; Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny. Grodno, 1928; А. Госцеў, В. Швед Кронан. Летапіс горада на Нёмане. Гродна, 1993; Archiwum Domu Aukcyjnego KEDEM. Jewish and Israeli History and Culture Auction No. 1; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123. http://kehilalinks.jewishgen.org/lunna/Photographers.html)

*Ф. Варашыльскі*

**Гельборт (Гелборд) Абрам**// Gelbort (Gelbord) Abraham Shalom (1852–1939), яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Любімы вучань вядомага гродзенскага цыдзіка Нахума Каплана, пасля смерці якога працягнуў яго дабрачынную дзейнасць у горадзе. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод вернікаў як выдатны знаўца Талмуда. Падравін Гродзенскай рэлігійнай абшчыны (1882). Пасля таго як папярэдні равін Э. Шапіра з'ехаў у Палесціну, галоўны рабін Гродна (з 1900 г.) Выступаючы падчас пасяджэння новаабранага праўлення яўрэйскай гміны, заклікаў да аб'яднання ўсіх яўрэйскіх партый (1919). Часова зняў з сябе абавязкі ў сувязі з хваробай, аднак пазней зноў вярнуўся да рэлігійнай службы (1925). Падчас выбараў галоўнага рабіна звярнуўся да міністра рэлігіі і публічнай асветы з просьбаю вызваліць яго ад экзамену па польскай мове (1931). Жыў па вул. Dominikańska, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56, Воп. 1, Спр. 79, Арк. 14, 23, 24-24 зв.; «Наше утро». 1919. № 10, 11, 27; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 124.

**Генадзій/Маісееў Анатолій**// Genadij / Moisejew Anatol (1903–?), праваслаўны святар. Закончыў Віленскую духоўную семінарыю. Рукапаложаны ў святары (1925). Служыў у саборы ў Гродна (1930–1940). Правёў малебны з нагоды вызвалення горада ад бальшавікоў (1941). Пасля Другой сусветнай вайны служыў у Аляксандраўскай царкве (да 1960-х). Пазней – у Індурскай царкве (з 1965).

**Гендлер Абрам** // Gendler Abram (1909–пасля 1970), актывіст КПЗБ. Кіраваў структурамі КПЗБ у Пінску (канец 1920-х), пасля сядзеў у турме (да 1934). Пазней – на падпольнай працы ў Гродна. Сябра Гродзенскага гаркама КПЗБ (1936). Займаўся пытаннямі арганізацыі Народнага Фронта і заснаваннем т.зв. міжпартыйнай тройкі з прадстаўнікоў КПЗБ, ППС і Бунда. Арганізаваў стачку пракладчыкаў гродзенскага водаправода і мітынг, у якім прымала ўдзел больш за пяцьсот чалавек (1936). Арыштаваны паліцыяй, прыгавораны да васьмі год турмы. У гады Другой сусветнай вайны быў удзельнікам партызанскага руху на тэрыторыі Беларусі. Пасля вайны жыў у Пінску.

*А. Вашкевіч*

**Герута Вітольд** // Gerrutto Witold (1.10.1912, Харбін–13.10.1973, Канстанцін), спартсмен. Нарадзіўся ў сям'і паштовага чыноўніка, які працаваў на транссібірскай тэлефоннай лініі. Разам з бацькамі вярнуўся ў Гродна (1918). Скончыў гімназію імя А.Міцкевіча (1931). Вучыўся ў школе малодшых афіцэраў 76-га пяхотнага палка (1933–1934) і на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта (1934–1936). Пазней – на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта, дзе атрымаў званне «магістр права – эканаміст» (1938). Стажор апеляцыйнага суда ў Варшаве (на 1939). Дзякуючы выдатным фізічным дадзеным (рост 194 м, вага 87 кг) і спартыўнаму таленту, ён яшчэ ў гады вучобы ў гімназіі займаўся рознымі відамі спорту. Выступаў за гродзенскі клуб GKS «Cresovia» (1930–1934). З'яўляўся адным з пачынальнікаў гродзенскага баскетбола. Выступаў за спартыўны клуб AZS «Wilno» (з 1935), «Warszawianka» (1936–1939). Дзевяцікратны чэмпіён Польшчы. Сярэбраны медаліст чэмпіянату Еўропы (1938). У тым жа годзе быў прызнаны найлепшым атлетам краіны. Займаў чацвёртую пазіцыю ў сусветнай класіфікацыі па дзесяціборстве. Удзельнік Варшаўскага паўстання. Пасля вайны вярнуўся ў Варшаву. Удзельнік Алімпійскіх гульняў (1948). Стаў васьмікратным чэмпіёнам Польшчы.

*Літ.:* H. Kurzyński, St. Pietkiewicz, M. Rynkowski. Od Adamczaka do Zasłony: Leksykon lekkoatletów polskich okresu międzywojennego. Mężczyźni. Warszawa, 2004. Str. 60-62.

**Гершуні Рахель (Рашэль)** // Gershuni Racheal (Raszel) (1878–1942 (?), Гродна), лекарка (з 1905). Грамадская дзяячка. Скончыла жыццё самагубствам (атруцілася) у гета. Жыла па вул. Listowskiego, 6 (1925); Hoovera, 2 (1937).

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str.79; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494.

**Гжэгажэўскі Зянон** // Grzegorzewski Zenon, вайсковы лекар. Палкоўнік. Спецыяліст па ўнутраных і дзіцячых хваробах. Віцэ-старшыня павятовага праўлення ЛОПП (1937). Жыў па вул. Bankowa, 7 (на 1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21.

**Гжэндзельскі Ян** // Grzędzielski Jan, кіраўнік жаночай гімназіі ў Гродна (1922). Дзякуючы яму пачалося стварэнне ўласнага кабінета фізікі, пашырылася бібліятэка. Рэдактар газеты «Dziennik Kresowy». Быў прыгавораны гродзенскім судом да двух месяцаў зняволення за знявагу суда на старонках выдання (1924).

*Літ.:* «Nowe życie». 1924. № 3. Str. 4; «Nowe życie». 6.7.1924. № 40. Str. 3.

**Гжыміслаўскі Леон** // Grzymisławski Leon (21.2.1902, Гостынь Велькапольскі–1939(?)), купец. Гаспадар мэблевага склада (вытворца мэблі). Сам паходзіў з Познаншчыны, адкуль прыехаў у Гродна разам з братам, таксама прадпрымальнікам. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Скарбнік праўлення Таварыства польскіх купцоў (zarząd Stowarzyszenia kupców polskich) (на 1938). Арыштаваны органамі НКУС (13.12.1939). Знаходзіўся нейкі час у гродзенскай турме, пасля чаго звесткі аб ім губляюцца. Жыў па вул. Listowskiego, 35.

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 5.10.1938. № 272. s.5; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 29; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Гітлер Шэвель** // Gitler Szewel (каля 1886–?), купец, грамадскі дзеяч. Выбраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад Яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927), сябра яўрэйскай фракцыі. Пры абмеркаванні бюджэту ён выступіў

ад імя фракцыі з прапановай пакараць кіраўніцтва гандлёвай школы пры Польскай Мацежы Школьнай за тое, што яно так і не адрэагавала на мінулыя папярэджанні адносна ўлёткаў аднаго з настаўнікаў, дзе адзначалася, што «гандлёвая школа створана дзеля барацьбы з яўрэйскім гандлем». Гітлер прапанаваў зменшыць субсідыі для школы на 1 злоты. Рада прыняла прапанову большасцю галасоў (1928). Быў абраны ў Касу хворых (1926).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20, 102-102 зв.; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Глеб-Кашанская Бранiслава**// Gleb-Koszańska Bronisława (1882–?), настаўніца. Скончыла жаночую гімназію. Праслухала настаўніцкія курсы і курсы павышэння кваліфікацыі ў Гродна (1939–1940). Пачала працаваць настаўніцай у чыгуначнай школе на станцыі Купянск (1918–1921). Пазней выкладала ў Гродна: у школе № 1 (1922–1924), школе № 6 (1925–1939). З усталяваннем савецкай улады працавала ў беларускай пачатковай сярэдняй школе № 3 (1939–1940). Настаўніца пачатковых класаў у сярэдняй польскай школе № 2 у Гродна (з 28.11.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 38-38 зв.

**Глікфельд Маісей** // Glikfeld Mojżesz (16.11.1906, Беласток–7.1941, Гродна), судовы стажор, адвакат. Яўрэй. Бацькі – Лазар і Шарашэўская. Магістр права Варшаўскага ўніверсітэта (1929). Судовы стажор пры акруговым судзе ў Гродна (1930–1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай. Жыў па вул. Orzeszkowej, 1.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 812; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Гліцэнштэйн Шымон** // Glicensztein Szymon (5.2.1901, Каліш–7.1941, Гродна), судовы стажор, адвакат. Яўрэй. Бацькі – Абрам і Перла. Скончыў І-ю гуманітарную гімназію ў Лодзі, юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1928). Стажор акруговага суда ў Гродна (1929–1932). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай разам з іншымі прадстаўнікамі мясцовай яўрэйскай інтэлігенцыі. Жыў па вул. Hoovera, 5.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 811; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Глябовіч Брунон** // Hlebowicz Brunon (22.10.1908–09.12.2001), настаўнік, грамадска-палітычны дзеяч. Паходзіў з сям'і служачых Францішка і Ядвігі з Храптовічаў. Яго бацька быў высланы ў Арэнбург (1912). Пасля польска-савецкай вайны сям'я вярнулася ў Гродна (1921). Скончыў школу № 7. Выпускнік настаўніцкай семінарыі. Камендант Гродзенскага павятовага харцэрскага атрада (Hufca ZHP) (з 1935), кіраўнік гуртка старэйшых харцэраў (kierownik kręgu Starszych Harcerzy) (1938). Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «З любоўю праводзіць харцэрскую працу на тэрыторыі ўсяго горада Гродна» (1934). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937), кіраўнік Гродзенскай акруговай арганізацыі Саюза польскай моладзі (kierownik podokręgu Związku Młodej Polski) (з 1938). Супрацоўнічаў з выдавецтвам «Na Tropie». Рэдактар газеты «Jutro Polski» (1939). Ініцыятар антыяўрэйскіх акцый у горадзе. Газета «Dzennik Ludowy» (PPS) назвала яго мясцовым фюрэрам («mejscowy fuhrer»), у адказ «Dziennik Kresowy» напісаў: «Калі нават пан Глябовіч і праводзіць сярод мясцовай школьнай моладзі пэўную акцыю, накіраваную

на нацыянальнае ўсведамленне, дык гэта не з'яўляецца грахом! Таму ён і з'яўляецца настаўнікам і выхавацелем маладога пакалення палякаў і яго абавязкам ёсць выхаванне гэтага пакалення ў польскім духу». Рускае дабрачыннае таварыства звярнулася супраць яго ў суд з абвінавачваннем у паклёпе (1939). Адзін з актыўных арганізатараў абароны Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Пасля вайны быў зняволены ў турмах. Пазней працаваў настаўнікам. Магчыма, аўтар шэрагу выданняў для дзяцей. Фундатар памятнай дошкі ў езуіцкім касцёле ў гонар гродзенскіх харцэраў – абаронцаў горада. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў: «Dwóch mamy Hlebowiczów pięknych i wspaniałych: Bruno – harcerz odważny i młodzian kochany, I jego brat, ksiądz Henryk o cnotach wytrwałych, Został w Mińsku przez Niemców za to rozstrzelany». Жанаты. Меў дзіця (1933). Брат ксяндза Генрыха Глябовіча. Жыў па вул. Piaskowa, 9-3 (1939).

*Літ.:* LCVA F. 129. Ap. 2. B. 3397; ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 3; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 7; «Czyn młodych». 1938. № 6. Str. 3; «Dziennik kresowy». 2.5.1939. № 120. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 25.9.1938. № 250; B. Hlebowicz. Godło zastępu by Brunon Hlebowicz, 1948; B. Hlebowicz. Jak sporządzić zbiór owadów szkodników, 1949; B. Hlebowicz. Ptaki osiadłe i zimujące w Polsce; B. Hlebowicz. Ćwiczenia przyrodnicze zuchów, 1958; B. Hlebowicz. Bajka o Zorzynku, 1967; B. Hlebowicz. Baśń o trzech mocarzach i królowej nocy, 1967; B. Hlebowicz. O jarząbku i jarzębinie, 1967; B. Hlebowicz. Bajka o pokrzywach i lichu, 1968; B. Hlebowicz. Dworki króla Słońce, 1969; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 86, 91; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 37; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Голад Лука** // Goład Luka (17.10.1892, Здажарка Уладаўскага пав.–6.11.1947, Вільня), протаіерэй. З сялянскай сям'і. Скончыў Холмскую духоўную семінарыю (1913). Рукапаложаны ў сан іерэя (1914). Законавучыцель царкоўна-настаўніцкай школы Крастастоцкага манастыра. Падчас Першай сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Расію. Пасля – у Польшчы (з 1921). Па запрашэнні епіскапа Уладзіміра служыў у царкве Гродзенскага Раства-Багародзіцкага манастыра і Свята-Пакроўскім кафедральным саборы (1921–1923). Уключаны ў склад Гродзенскай кансісторыі. Выступаў супраць аўтакефаліі праваслаўнай царквы ў Польшчы. Пасля прызначэння на гродзенскую кафедру епіскапа Алексія быў пераведзены ў царкву в. Бялевічы Ваўкавыскага павета. Святар у в. Быцень Слонімскага павета (з 11.1923). Арыштаваны польскімі ўладамі (1925). Пасля вызвалення быў пазбаўлены права служыць у цэрквах. Сябра Праваслаўнага беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Рэдактар газеты «Праваслаўная Беларусь», якая выходзіла ў Вільні (1927–1928). Пазней высланы ўладамі ў цэнтральную Польшчу. Падчас Другой сусветнай вайны знаходзіўся на акупаванай тэрыторыі Літвы. Арыштаваны органамі НКУС, але хутка вызвалены (1945). Памёр ад сухотаў.

*Літ.:* J. Garbiński, J. Turonek. Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Warszawa, 2003. Str. 124-125; А. Горны. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі XX стагоддзе. Гродна, 2014. Ст. 31-32.

**Голдберг (Голдэнберг) Берта** // Goldberg Berta (1908–?), настаўніца. Скончыла сярэднюю школу, трохгадовую настаўніцкую дашкольную семінарыю, настаўніцкія курсы (1939, 1940). Працавала ў школе «Талмуд-Тора» ў Дзятлава (1928–1931). Была кіраўніком дзіцячага садка (1931–1940), настаўніцай сярэдняй школы № 13 (1940) у Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 42-42 зв.

**Голдберг (Голдэнберг) Шлома** // Goldberg Szloma (1906–1942 (?), Гродна), настаўнік. Скончыў сярэднюю школу, педагагічныя курсы для настаўнікаў у Гродна (1931–1932), тэхнічны інстытут; праслухаў курсы для настаўнікаў рамесных школ (1938), курсы беларускай

мовы і геаграфіі (1939–1940). Выкладаў у школе «Талмуд-Тора» ў Дзятлава (1928–1931), школе і рамеснай школе «Тарбут» у Гродна (1932–1939). З усталяваннем савецкай улады – настаўнік чарчэння і малявання ў беларускай сярэдняй школе№5 (1940). Расстраляны ў гета. Жыў па вул. Pereca/Wyzwolenia, 12 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 63-63 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494.

**Голдшміт-Гад Леібел Аарон**// Goldshmid-Gad Leibel Arye (1896–1952), яўрэйскі грамадскі дзеяч. Сябра сіяніскцкай арганізацыі, моладзёвай арганізацыі Херут (Cherut-u-Techiya), Хакалуц (Hechalutz) (1919). Абраны ў гарадскую Раду ад партыі Цэірэі-Цыён (1919). Сябра камітэта «Аліі» ў Гродна (1920). Верагодна, пазней выехаў у Палесціну.

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6.

**Госіеўскі Часлаў Юльян** // Gosiewski Czesław Julian (25.2.1876, Трошын–28.12.1933, Гродна), настаўнік. Скончыў гімназію ў Ломжы (1894), педагагічны курс пачатковага навучання (1895). Працаваў настаўнікам у агульных школах у Брызглу і ў Вейверах на Сувальшчыне і Ковеншчыне. Цікавіўся польскай літаратурай, мовазнаўствам, гісторыяй Польшчы. Адзін з арганізатараў і выкладчыкаў у прыватнай гімназіі ў Сувалках (пасля 1905). Падчас Першай сусветнай вайны – у эвакуацыі. Пазней вярнуўся ў Польшчу (1918), працаваў выкладчыкам польскай мовы ў гімназіі ў Ломжы. Пасля выкладаў польскую мову і дадаткова гісторыю ў мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Гродна (з 1923). У педагагічнай працы вызначаўся яснасцю і логікай выказвання, сачыў за чысцінёй польскай мовы. У гімназіі апекаваўся школьнай бібліятэкай, пашырэннем яе збораў, асабліва ў галіне класічнай літаратуры. Пазней сышоў на пенсію (1931). Пахаваны на каталіцкіх могілках у Гродна.

*Літ.:* I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 7; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Грабоўскі** // Grabowski, кіраўнік гродзенскай турмы (1929–1932). Былы царскі афіцэр. Вызначаўся вельмі жорсткім стаўленнем да палітычных зняволеных. Згодна з гісторыкам В. Ліміцыным, на працягу свайго кіравання турмой праводзіў практыку самага суровага пакарання за найменшыя праявы незадавальнення з боку вязняў. Пазней кіраваў турмой у Лідзе.

*Літ.:* В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 269, 333-334.

**Грахоўскі Станіслаў** // Grochowski Stanisław, архітэктар. Паявтовы інжынер. Аўтар праекта пабудовы павільёна спартыўнага клуба «Cresovja» па вул. Narbuta, 4 (1932), кургана ў гонар загінуўшых сяброў ПАВ (1933). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Zw. Strzelecki) (1933), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Piaskowa, 21 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 7; «Gazeta grodzieńska». 23.1.1932. Str. 8; «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.5.1933. № 120. Str. 4; «Rezerwista ziemi grodzieńskiej». 1936. № 8 . Str 6.

**Гроб Ізраэль** // Grob Izrael (1899, Калуш, Галіцыя–?), настаўнік. Вучыўся ва ўніверсітэтах у Львове і Кракаве. Праслухаў курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў (1940). Выкладаў геаграфію ў гродзенскай школе «(Tarbut» (1924–1929), у гімназіі ў Ковелі (1929–1930), гродзенскай коэдукацыйнай гімназіі (1930–1939). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (на 1935). З усталяваннем савецкай улады выкладаў геаграфію і прыродазнаўства ў рускай сярэдняй школе № 7 Гродна (з

15.1.1940). Жыў па вул. Nazaretańska, 7а/4; Listowskiego, 42 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Ст. 7-73в.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 3–3 зв.; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 104.

**Гродніцкі Юзаф** // Grodnicki Józef (19.3.1899, Конін–31.3.1961, Ольштын), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра. Вучыўся ў сярэдняй школе ў Ловічу (Łowiczu), у школе штэйгераў (sztygarów) у Дамброве Гурнічай (Dąbrowie Górniczej). Дэбютаваў на сцэне ў Сасноўцу ў трупе Е. Майдровіча (1909). Выступаў у тэатрах Лодзі, Люблiна (1911–1919). Кіраўнік тэатра «Міраж» (1919–1921), тэатра ў Любліне (1921–1926; 1927–1930). Акцёр і рэжысёр тэатра «Багатэлі» ў Кракаве (1930). Дырэктар Гродзенскага тэатра імя Э. Ажэшкі (1934–1938). «У гэты крытычны для нашага тэатра момант, – пісаў пазней Л. Саванеўскі, – ... прыбывае ў наш горад дырэктар Юзаф Гродніцкі, які пераадолеў перашкоды на шляху развіцця польскага тэатра ў Гродна. Таму заслужаным з'яўляецца сцвярджэнне пра тое, што гэта чалавек, які перамог крызіс гродзенскага тэатра, прычым крызіс падвойны – як матэрыяльны, так і мератарычны». Ініцыятар выдання тэатральнага часопіса «Nasza scena». Праўда, першыя два тэатральныя сезоны тэатр не меў дамовы з Саюзам артыстаў польскай сцэны (ZASP), а яго артысты былі выключаны з Саюза. Пазней сітуацыя больш-менш стабілізавалася. Трупа гродзенскага тэатра выступала з гастролямі па розных гарадах Беластоцкага ваяводства. Віленскі журналіст С. Мацкевіч пасля візіту ў Гродна пісаў аб ім: «Не стары чалавек, але – стары акцёр. За яго плячыма шмат год сцэны і тэатральнага досведу» . Іншы карэспандэнт, ужо мясцовага «Nad Niemnem», узгадваў ужо былога дырэктара тэатра так: «Пан Гродніцкі мае ў Гродна не толькі прыхільнікаў. Напэўна, павінен быў пазбавіцца ўсіх чалавечых якасцей, каб не мецъ ворагаў. Аднак і прыхільнікі, і працiўнікі п.Гродніцкага згодна прызнаюць, што быў ён другім пасля Астэрвы дырэктарам гродзенскага тэатра, які візуальнаму боку пастаноўкі заўсёды адводзіў першараднае значэнне і нярэдка ўпрыгожваў нашу сцэну проста па-каралеўску. «Каралеўскі адзінак», «Стэфан Баторы», «Калігула», «Мандарын Ву» былі пастаўлены ў поўным сэнсе слова раскошна». Пазней – у Варшаве, Станіславова. Падчас Другой сусветнай вайны – у Варшаве, кіраваў афіцыйнымі тэатрамі, за што быў пакараны хлыстом праз падпольшчыкаў (1944). Пасля вайны працаваў у органах дзяржаўнай адміністрацыі. Пазней вярнуўся да тэатральнай дзейнасці (1954). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Grodnicki wygabuła, nasz wszystkorób – tato, To dyrektor teatru w naszym pięknym grodzie. «Mandaryn Wu» był grany z obsadą bogatą I był pyszny ten Chińczyk w pełnej Mao-modzie». У Гродна жыў па вул. Bogusławskiego, 9 (1938).

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; «Nasza scena» 1937. № 2. Str. 8; «Nad Niemnem». 5.5.1938. № 9. Str. 2; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 231; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 206-207; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź – Białystok, 1999. Str. 84.

**Грыкоўскі Аляксандр** (1893, в.Корніна Бельскага пав.–13.3.1919, Гродна), настаўнік першай беларускай школы ў Гродна. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Панявежы, беларускія настаўніцкія курсы ў Свіслачы. Пазней–у Гродна (з 1916). Першы старшыня Гродзенскага БНК. Сябра Віленскага БНК, Камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, Гродзенскай управы, Гродзенскага гарадскога часовага камітэта. Памёр ад сухотаў. Пахаваны за кошт урада БНР на гродзенскіх могілках.

*Літ.:* «Беларусь». 2.4.1919, № 2. Ст. 1-2.

**Грыневіч Мар'ян** // Hryniewicz Marian (11.9.1883, Петразаводск–?), суддзя. Каталік, паляк. Сын Яна і Аляксандры з Міклашэўскіх. Скончыў гімназію



(1905), юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1912). Памочнік сакратара Другога дэпартамента пры Сенаце (1912); памочнік надсакратара (5.1917), сакратар Вышэйшага суда ў Варшаве (1918); падпракурор пры акруговым судзе ў Сувалках (з 1.9.1919); суддзя акруговага суда ў Сувалках (з 1923). Віцэ-старшыня крымінальнага аддзела акруговага суда ў Гродна (з 23.12.1929); віцэ-старшыня крымінальнага аддзела акруговага суда ў Вільні (з 5.10.1936). Узнагароджаны бронзавым (1938) і сярэбраным (1939) медалямі «За працяглую службу». Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Працаваў у выбарчай камісіі ў Бельску (1919). Старшыня Гродзенскага аддзялення Саюза суддзяў і пракурораў (Zrzeszenie sedz. i prok.); сябра праўлення гэтай жа ўстановы ў Варшаве і Таварыства прыхільнікаў Гродна (Towarzystwo prz. Grodna). Жанаты з Янінай Смаленскай (26.8.1925). Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 24 (1938).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 997; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; «Wieczorny kurier Grodzieński». 3.8.1932. № 64. Str. 4; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 266.

**Грыневіч Феліцыя** // Hryniewicz Felicja (1899–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, курсы беларускай і рускай моў (1939, 1940). Працавала настаўніцай у школьным прытулку ў Разані (1915–1917), у в. Альшэвічы (1921), прыватнай школе (1918), школе № 1 (1922, 1924, 1928), школе № 2 (1920,1926), школе № 3 (1929–1939), школе № 5 (1923) і сярэдняй школе № 20 (1940) г. Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 64-64 зв.; Br. Kuryłłowicz. Wspomnienie o księdzu kanoniku – Antonim Kuryłłowiczu // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Грынкевіч Францішак** // Hrynkiewicz Franciszek (5.10.1884, Новы Двор Сакольскага пав.–26.7.1933, Касава), святар, грамадска-палітычны дзеяч. Паходзіў з сялянскай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навадворскай народнай школе. Скончыў гімназію ў Гродна. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі (1901–1905) і Пецярбургскай духоўнай акадэміі (1905–1907). Пазней працягваў навучанне за свой кошт у Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу. Пасвечаны ў святары (1907). Слухач універсітэтаў у Інсбруку і Мюнхене (1907–1909). Кандыдат філасофіі. Распачаў душпастарскую дзейнасць вікарыем гродзенскай Фары і бернардынскага касцёла (1909). Прэфект прыватных і прафесійных школ у Гродна (з 1910). Капелан брыгіцкага касцёла ў Гродна (ад 1911). Фактычна быў кіраўніком Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1909–1912). Паводле А. Станкевіча, «асоба Францука Грынкевіча ў Гародні была цэнтральнай і адзінай, якая абудзіла і арганізавала беларускі рух». Супрацоўнічаў з беларускай каталіцкай газетай «Biełarus». У час нямецкай акупацыі апекаваўся вязнямі гродзенскай турмы (1915–1919). Сябра Гродзенскага аддзела Польскай Мацежы Школьнай. Браў актыўны ўдзел у арганізацыі польскага школьніцтва. Адчыніў у Гродна першую польскую школу (18.1.1916). Садзейнічаў арганізацыі першай у Гродна польскай скаўцкай дружыны ім. Стэфана Бато-

рыя, з'яўляўся яе капеланам (kapelan «Czarnej Jedynki» I Drużuny harcerskej im. St. Batorego) (1917). Выкладаў на польскіх настаўніцкіх курсах у Гродна (1919). Прэфект Гродзенскай гарадской гімназіі імя А.Міцкевіча (з 1920). Быў вымушаны хавацца ад арышту падчас усталявання савецкай улады ў горадзе (лета 1920). Пасля паўторнага заняцця горада польскім войскам правёў разам з палявым капеланам першую службу ў мясцовым касцёле. Старшыня Таварыства сяброў студэнцкага інтэрната (Towarzystwo przyjaciół Akademika) (1923). Пробашч парафіі ў Гожы (з 1930), рэктар касцёла і капелан назарэтанак у Гродна (з 1932). Тады ж у горадзе святочна адзначылі юбілей – дваццаць пяць год рэлігійнай дзейнасці ксяндза. Ужо пасля ягонай смерці ў яго гонар была названа адна з гродзенскіх вуліц (сярэдзіна 1930-х).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 72-74.

**Гуз Юзаф Інакентый** // Guz Józef Innocenty (1890, Львоў–1940, Шахсенхаўзен), ксёндз. Уступіў у ордэн францысканцаў. Вучыўся на філасофска-тэалагічным аддзяленні Кракаўскага ўніверсітэта. Быў па-свечаны ў святары (1910). Займаўся рэлігійнай дзейнасцю ў Ханачое, Чышках, Львове, Непакаланове. Пазней –у Гродна (з сярэдзіны 1930-х). Арыштаваны органамі НКУС і зняволены ў мясцовай турме, адкуль, аднак, здолеў уцячы (1940). Падчас пераходу савецка-нямецкай мяжы трапіў у нямецкі палон. Па-пакутніцку загінуў у канцлагеры.

*Літ.:* G. Bartosik. Sługa Boży o. Józef Innocenty Guz OFM Conv (1890-1940), Męczennicy za wiarę, Str. 318-319; Siedmiu męczenników franciszkańskich, Warszawa, 1999. Str.. 16-18.

*Л. Міхайлік*

**Гула Юзаф** // Gula Józef (7.3.1892, в. Псары Келецкага павета–9.9.1939, Люблін), вайсковы лекар. Капітан. Скончыў гімназію ў Радоме (1913). Вучыўся на медыцынскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта (1913–1914). Служыў у польскім войску (1918–1921). Атрымаў дыплом лекара (1923). Спецыялізаваўся па ўнутраных захворваннях. Меў у Гродна прыватную практыку. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939). Сябра праўлення вяслярнага клуба «Гродна» (1928). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Прымаў па адрасе Rydza-Śmigłego, 3. Загінуў падчас бамбардзіроўкі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 7; «Nowe życie». 1928. № 99; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 184.

**Гурвіч Шмуэль-Пінхос** // Gurwicz Szmuel-Pinchos (каля 1909–?), чыноўнік (biuralista). Старшыня Гродзенскай арганізацыі Бунд (на 1933–1939). Рэдактар газеты «Grodner Sztymic». Быў абвінавачаны ў брыдкаслоўі ў адрас працаўнікоў дарогі Парэчча – Друскенікі (1935). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Жыў па вул. Dominikańska, 31; Zamkowa, 2; Zamkowa, 4.

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 10. Спр. 88. Арк. 71 зв.; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; «5 groszy Grodzienski kujer codzienny». 20.4.1935. № 110.

**Гурніцкая Ганна** // Górnicka Anna, настаўніца музыкі. Піяністка. Скончыла Варшаўскую кансерваторыю. Настаўніца ў сярэдняй музычнай школе ў Гродна. Падчас нямецкай акупацыі разам з сям'ёй апынулася ў гета, аднак пазней здолела адтуль збегчы.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 67-68.

**Гурскі Антоні** // Górski Antoni, вайсковец. Магчыма, маёр. Адна з мясцовых газет паведамляла: «Ту-

тэйшы грамадзянін, спадар Гурскі, выйграў у латэрэю, якая адбылася яшчэ ў красавіку, мільён марак. Сам ён даведаўся аб гэтым толькі днямі. Лёс на гэты раз зрабіў шчаслівы выбар, бо выбраў ён постаць здаўна ўжо вядомую сваімі філантрапічнымі і грамадскімі ўчынкамі, чалавека, які, напэўна, не губляючы часу, дапаможа такім арганізацыям, як Польская Мацеж Школьна, Чырвоны Крыж ці Гарадзенскае дабрачыннае таварыства...» (1921). Сябра павятовага праўлення ЛОПП (1937). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «Echo Grodzieńskie». 14.6.1921. № 129. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292.

**Гутман Карл** // Gutman Karol (1897–?), чыноўнік. Грамадскі дзеяч. Лаўнік гродзенскага магістрата. Сябра гарадскога ўпраўлення (zarząd miejski) (на 1937), кіраўнік рэгістрацыйнага бюро (Biuro ewidencji i kontroli ludności) (на 1933). Сябра рэдакцыйнага камітэта гістарычнай бібліятэкі Гродна (1929), камітэта па святкаванні Шапэнаўскіх дзён у Гродна (1932), аргкамітэта таварыства загарадных участкаў (Komitet Organizacyjny T-wa Ogródków Działkowych) (1933). Скарбнік таварыства аматараў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej w Grodnie) (1930). Сябра павятовага праўлення ЛОПП, Гродзенскага таварыства добраахвотнай пажарнай аховы (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie), магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Намеснік старшыні выбарчай камісіі № 2 па выбарах у гарадскую Раду (1939). Друкаваўся на старонках гродзенскай газеты «Nowe życie». Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno). Кіраўнік гаспадарчага аддзела (Leiter d. Steuramt). Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» так узгадваў яго: «Przyjaciel mój Pan Karol, Gutman wkracza walnie. Ileż odbył on biegów na mój strych i schody, Bo w «Nowym Życiu» pisał Ka Gie idealnie. Niechaj za to otrzyma strzępek mej nagrody...» Жыў па вул. Napoleona, 1 (1939), Adolf Hitler Str. 38 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк. 24; Там жа Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 6; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 26 зв, 32; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 9; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «Nowe życie». 7.12.1924. № 84. Str. 1; «Przegląd kresowy». 25.2.1930. № 37. Str. 4. «Wieczorny kurier Grodzieński». 28.9.1932. № 119. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 18.

**Гутоўская-Раеўская Эмілія** // Gutowska-Rojewska Emilia, дантыст. Радная Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Сябра праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яе: «Gutowska Pani sprytna, dentystka wspaniała, Brawurowa kobieta, dowcipna, jak osa, Gdy komu nazbyt mocno do ząbków pukała, Wtedy jego dowcipem cieszyła z ukosa». Жыла па вул. Orzeszkowej, 28 (1935); Akademicka, 2 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 285. Арк. 107, 113 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 38; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Гутоўскі Леон** // Gutowski Leon, віцэ-старшыня часовага праўлення грамадскага клуба пры Гродзенскай гарадской Радзе (1934–1939). Сябра павятовага аддзялення ЛОПП, старшыня гурта аэрапланерыстаў. Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Orzeszkowej, 28 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; «Mały dziennik grodzieński». 26.11.1935. № 48. Str. 1.



**Дабжанскі Уладзімір Севярын** // Dobrzański Włodzimierz Seweryn (19.11.1896–9.9.1969, Каліш), вайсковец, акцёр. Скончыў сярэднюю школу ў Кракаве. Вучыўся ў Кракаўскай гандлёвай акадэміі. Сябра Кракаўскага опернага таварыства. Служыў у аўстрыйскім войску, пасля – у польскім. Вучыўся ў афіцэрскай школе, Вышэйшай школе інтэндантуры ў Варшаве. Адзін з кіраўнікоў гарнізоннага тэатра і хору ў Гродна (1926–1931). Падчас Другой сусветнай вайны – у нямецкім канцлагеры Мурнаў. Пазней выступаў у Народным тэатры імя Багуслаўскага, драматычным тэатры ў Познані і інш.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900–1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 171-172.

**Дайрынгер Філіп Эдвард** // Doerynger Filip Edward (15.10.1902, Львоў–1939(?)), чыноўнік, настаўнік. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Выдавец і рэдактар часопіса «Nasza Okolica» (1937–1939). Арыштаваны органамі НКУС (16.10.1939). Нейкі час знаходзіўся ў гарадзенскай турме, пасля чаго яго сляды губляюцца. Жыў у Гродна па вул. Jerozolimska, 24.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Далінскі Адольф** // Dolinski Adolf, сяржант. Кіраўнік вайсковага тэатра пры Доме жаўнера ў Гродна. Разам са сваёй жонкай паставіў спектакль жаўнерскага тэатра «Віфлеем»(1925).

*Літ.:* «Reduta». 25.1.25. № 2. Str. 15; «Nadniemeński kurier polski». 1925. -№ 13. Str. 2/

**Даманскі Віктар** // Domański Wiktor (17.11.1907–пасля 1942), акцёр. Скончыў Варшаўскую гімназію, драматычны аддзел Дзяржаўнай кансерваторыі (1931). Выступаў у тэатрах Варшавы, Познані, Торуні, Каліша і інш. Яшчэ падчас працы ў Познані прыязджаў у Гродна са сваімі выступленнямі. Артыст гродзенскага тэатра (1938–1939). Дэбютаваў у спектаклі «Subretka» у ролі Дэваля (Devala). Паводле газеты «Dziennik Kresowy»: «Каханак з выключна пачуццёвым талентам». Магчыма, акцёр гродзенскага Дома жаўнера. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «Aktor teatralny zdolny Pan Domański, Który w «Domu Żołnierza» zasłynął w brawurze...» Пазней жыў у Львове. Арыштаваны нацыстамі, загінуў у канцлагеры.

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 24.10.1938. № 291; Słownik biograficzny teatru polskiego 1900–1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 177; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 18.

**Дамашэўскі Станіслаў** // Domaszewski Stanisław (1891–?), інжынер. Старшыня гродзенскага

спартыўнага клуба GKS «Cresovia» (сярэдзіна 1930-х). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) загадчыкам аддзела гарадскога будаўніцтва (Stadtbaumat Leiter Hohbau) (з 28.6.1941). Жыў па вул. Tannenbergstr. 12–4 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1. Спр. 181, Арк. 24 зв. «Dziennik kresowy». 29.3.1939. № 88. Str. 4.

**Дамброва Юзаф** // Dombrowa Józef (1881–?), следчы, адвакат. Скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1907). Працаваў адвакатам на Валыні ў Жытоміры і Луцку. Следчы суддзя 1-га раёна Гродна (5.1919–7.1920). Вёў справу беларускай газеты «Родны край». Следчы суддзя па асабліва важных справах у Лодзі (8.9.1920), вайсковы суддзя ў Кельцах. Пазней – адвакат у Гродна (да 16.8.1921). Вёў справу беларускага дзеяча У. Курбскага (1922). «Я напісала Дамброву, – узгадвала П. Мядзёлка, – і прасіла дапамагчы Курбскаму. Дамброва ўзяўся за яго справу, дабіўся паскоранага следства і на судзе так бліскуча абараніў свайго кліента, што пасля апраўдальнага прыгавору публіка, якая прысутнічала на судзе, наладзіла абаронцу шумную авацыю. А калі маці Курбскага з’явілася да яго з падзякай і спытала, колькі яму трэба за абарону, Дамброва ні капейкі не ўзяў». Мясцовыя беларусы змясцілі ў газеце «Беларускі звон» падзяку адвакату. «Паважаны пан Дамброва, – гаварылася ў ёй, – мы...гаворым Вам шчырае «дзякуй» за выдатнае, змястоўнае і справядлівае высвятленне здраднай дзейнасці цёмных элементаў польскага грамадзянства, каторыя намагаюцца сеяць як мага большы разлад паміж польскім і беларускім народамі і дзеля гэтага інсцынiруюць працэсы, падобныя справе Курбскага... Шчыра дзякуем за гэту Вашу працу ў справе барацьбы справядлівасці супраць нацыянальнага здзеку». Сябра акруговай выбарчай камісіі № 6 на выбарах у Сейм (1922). Пасля – следчы суддзя акруговага суда ў Варшаве. Грамадскі дзеяч. Сябра ППС (да 1926). Важаты гродзенскіх скаўтаў (1929–1932). Меў жонку Лідзію (1898 г.н. ), дзяцей Аскара (1910 г.н. ) і Галіну (1914 г.н. ). Жыў па вул. Piłsudskiego, 10.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 535; Там жа B. 537; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 98. Арк. 20, 20 зв.; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 3, 6; «Беларускі звон». 17.2.1922. № 4; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; П. Мядзёлка. Сцежкамі жыцця, Мн., 1974. Ст. 136-146.

**Дамброўская Галіна** // Dąbrowska Halina (1899, Пецярбург –?), настаўніца. Скончыла жаночую гімназію, двухгадовы Вышэйшы педагагічны курс у Петрагарадзе, Вышэйшыя педагагічныя курсы ў Вільні (1928–1929), праслухала два курсы Віленскага ўніверсітэта (1929–1930), месячныя курсы рускай мовы ў Гродна (1940). Працавала настаўніцай у Прушкове (1922–1924), Цэцяруўцы (1924–1928). Пазней была настаўніцай і завучам у школе № 6 (1930–1940), завучам сярэдняй школы № 2 (16.1.–14.8.1940), настаўніцай арыфметыкі і польскай мовы ў няпоўнай сярэдняй польскай школе № 20 (з 15.8.1940) у Гродна. Падчас акупацыі – загадчык склада школьнай маёмасці. З вяртаннем савецкай улады – настаўніца сярэдняй школы № 2 (1944). Жыла па вул. Лівонскай, 6 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37;Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 65-65 зв.

**Дамброўская Ядвіга** // Dąbrowska Jadwiga (1905, Ашмяны–?), настаўніца. Скончыла Віленскі (па іншых звестках – Варшаўскі) універсітэт. Працавала настаўніцай у Лідзе (1930–1931). Пазней – у Гродна. Настаўніца польскай мовы ў камерцыйным вучылішчы (1935–1938), камерцыйным ліцэі (1937–1939), сярэдняй школе імя А. Міцкевіча (1938–1939). Пасля ўсталявання савецкай улады – настаўніца польскай мовы ў польскай школе № 2 (з 15.8.1940). Падчас акупацыі працава-

ла ў майстэрні. Настаўніца школы № 2 (1944). Жыла па вул. 2-й Батанічнай, 3 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 40–40 зв.

**Дамброўскі Войцех** // Dąbrowski Wojciech (28.2.1876, Пётркаў–каля 1944), акцёр. Дэбютаваў на сцэне ў трупе С. Сарноўскага ў Пётркаве (1895). Выступаў у Кракаве, Любліне, Кельцах, Познані, Варшаве, Кіеве, Вільні (1897–1914). Рэжысёр тэатра ў Сасноўцу (1920–1921). Акцёр гродзенскага тэатра (1923–1939) (у сезоне 1926–1927 г. выступаў у трупе тэатра «Рэдута»). Першапачаткова выконваў ролі каханкаў і герояў, пазней, галоўным чынам, камічныя. У сваім рэпертуары меў, між іншым, ролі Рэмбе («Дамы і гусары»), Філіпа («Вялікія рыбы»), Арыста («Фірцык у залётах»), Міхала («Папахадла»), Гараднічага («Рэвізор»), Гетмана («Хорштынскі»), Францішка Мура («Разбойнікі»), Яцка («Зачараванае кола»), Густава («Дзяды»). Выступаў рэжысёрам некалькіх прадстаўленняў. Адсвяткаваў на гродзенскай сцэне адразу некалькі сваіх творчых юбілеяў (18.4.1924; 25.4.1934). Гродзенская гарадская Рада зацвердзіла яму сталую фінансавую дапамогу ў памеры 60 зл., як «заслужанаму артысту мясцовага тэатра» (1936). Падчас нямецкай акупацыі апынуўся ў вельмі цяжкім матэрыяльным стане і над ім узялі апеку сябры мясцовай арганізацыі АК. Ц. Амільяновіч узгадвала, што ў яго кватэры амаль нічога не засталося – толькі памятныя вянкі, засушаныя кветкі з шалямі і залатым надпісам: «У гонар вялікаму артысту».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 41 зв.; «Echo Grodzieńskie». 7.4.1924. Str. 1. «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 92-93; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 122; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85, 104.

**Дамброўскі Станіслаў** // Dąbrowski Stanisław (24.3.1889, Львоў–9.1.1969, Гура Кальварыя каля Варшавы), акцёр, рэжысёр, сцэнограф, гісторык тэатра. Сын кіраўніка паштовага ўпраўлення. Вучыўся ў гімназіях у Жэшове і Ясле (1908), Венскім і Львоўскім універсітэтах (1908–1910). Пачаў выступаць у тэатры Славацкага ў Кракаве (1913). Акцёр польскага тэатра ў Вене (1914–1915), тэатраў у Варшаве, Любліне, Торуні, Гданьску, Вільні (1919–1929) і інш. Акцёр гродзенскага тэатра (1929–1931; 1937–1938). Адначасова з'яўляўся рэжысёрам і сцэнографам. Друкаваў свае рэцэнзіі на гродзенскія спектаклі ў часопісе «Nasza Scena». Пазней выступаў у трупе тэатра «Рэдута». Падчас Другой сусветнай вайны працаваў афіцыянтам у варшаўскім бары «Pod światełkami», праводзіў тайныя драматычныя курсы, займаўся навуковай дзейнасцю. Пасля вайны да тэатральнай працы ўжо не вярнуўся. Выкладаў гісторыю культуры і польскага тэатра, з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтваў (1955–1961). Аўтар шматлікіх кніг, артыкулаў па гісторыі тэатра, у тым ліку «Słownika biograficznego teatru polskiego».

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900–1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 156-159.

**Дамброўскі Фрыдрых** // Dąbrowski Fryderyk, выкладчык польскай мовы і гісторыі. Дырэктар мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча (9.1922–1928 г.). Ініцыятар стварэння агульнага ўніверсітэта ў Гродна (Uniwersytet powszechny w Grodnie) (1923). Пазней – настаўнік гімназіі № 2 у Кракаве.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 88. Арк. 23, 31; «Echo Grodzieńskie». 6.1.1923. № 4. Str. 4; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 329, 333.

**Дамброўскі Часлаў** // Dąbrowski Czesław, міравы суддзя. Віцэ-старшыня акруговага суда ў Гродна (на 1935). Супраць яго вылучалася абвінавачванне ў хабары, аднак ён быў апраўданы. З'яўляўся намеснікам старшыні вы-

барчай акругі № 6 на выбарах у Сейм (1922). Сябра Камітэта па барацьбе з дарагавізнай (Komitet dla walki z drożyzną) (1923). Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 16.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 537; ДАГВ Ф. 59. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2; Там жа Спр. 3. Арк. 1; «Dziennik Kresowy». 30.8.1923. Str. 4.

**Даневіч Сара** // Danewicz Sara (?–7.1941, Гродна), настаўніца школы № 5. Расстраляна нацысцкай 9-й айнзатцкамандай.

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Данілеўскі Раман** // Danilewski Roman (каля 1891–?), парыкмахер. Грамадска-палітычны дзеяч. Віцэ-старшыня павятовага таварыства рамеснікаў-хрысціян у Гродна (Powiatowe stowarzyszenie rzemieślników chrześcijan w Grodnie) (1938). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie). Магчыма, пісаў вершы. Жыў па вул. Dominikańska, 13 (1938); Orzeszkowej, 29 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; «Czyn młodych». 1938. № 8. Str. 3.

**Даніловіч Альгерд** // Daniłłowicz Olgierd (каля 1886–?), адвакат. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Старшыня мясцовага аддзялення Нацыянальнага таварыства (Stronnictwo Narodowe) (восень 1938). Сябра камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Сябра Антыкамуністычнага камітэта (Międzyzwiąnzkowy komitet antykomunistyczny) (на 1938). Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «Pan Olgierd Daniłłowicz w adwokackiej todze On mnie bronił w potknięciach, dobry wielki Boże, Gdy chciano mnie przyskrzynić lub ukarać srodze, Niechaj jemu za dobroć dzięki tutaj złożę». Жыў па вул. Dworska/Dzielna, 3 (1925); Piłsudskiego, 28 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 333. Арк. 18 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; «Dziennik Kresowy». 29.9.1938. № 266; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 18.

**Данько Францішак** // Dańko Franciszek (26.1.1891, Ненадава каля Пшэмысля–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік гімназіі імя А. Міцкевіча. Вучыўся ў класічнай гімназіі ў Пшэмыслі (1903–1911), на аддзяленні класічнай філалогіі Лейпцыгскага ўніверсітэта, (1911–1914). Праходзіў курсы павышэння кваліфікацыі (1926, 1932, 1940). Выдатна ведаў лацінскую, грэчаскую і яшчэ тры сучасныя мовы. Прыехаў у Гродна (з 1919). Выкладаў у гімназіі лацінскую (1919–1939) і нямецкую (1932–1939) мовы. Па ўспамінах вучняў, быў вельмі патрабавальным настаўнікам. Гаспадар вялікай прыватнай бібліятэкі. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). З усталяваннем савецкай улады – выкладчык нямецкай мовы ў сярэдняй школе № 19 (з 1940). Падчас нямецкай акупацыі працаваў пры гарадскім упраўленні. Займаўся тайным навучаннем, дзейнічаў у АК. У сваім данясенні на імя нямецкага камендanta прадстаўнік Гродзенскага БНК абвінавачваў яго ў арганізацыі мясцовай польскай інтэлігенцыі. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму і настаўніку Байцару наступныя радкі: «Tam szkoła była piękna z oświaty filarem, ...I żyli tam koledzy; Pan Dańko z Bajcarem, Wszysko zgodne tam było, jak kapela zgrana. ...Bajcar, Dańko posnęli z wrogiem w porachunku...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 30. Арк. 2, 4; Там жа Спр. 33, Арк. 32; Там жа Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 48–48 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 7; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні.

XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45; L. Sawoniewski.Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 12; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494. I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 8.

**Дарашкевіч Дзмітро** // Doroszkiewicz Dmitro, кіраўнік Цэнтральнага Украінскага камітэта ў Гродна (1932–1935).

*Літ.:* E. Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577.

**Даўгяла Браніслаў** // Dowgiałło Bronisław, паручнік. Кіраўнік футбольнай секцыі вайскова-спартыўнага клуба «WKS 76 PP» (1920-я). Кіраўнік футбольнай секцыі клуба WKS «Grodno» (1936). Часцей за ўсё выконваў функцыю трэнера каманды. Унёс вялікі ўклад у развіццё гродзенскага футбола.

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 22.

**Дзванкоўскі Аляксандар** // Dzwonkowski Aleksander (15.2.1907, Пецярбург–23.3.1977, Варшава), акцёр. Сын настаўніка. Скончыў вакальна-драматычныя курсы Грынявіцкай у Варшаве (1927–1930). Дэбютаваў на сцэне ў гродзенскім тэатры ў спектаклі «Надзея» (1931) Выступаў у трупе выязнога тэатра самаўрадаў Беластоцкага ваяводства (1931–1932). Пазней выступаў у тэатрах Быдгашча, Вільні, Познані. Падчас нямецкай акупацыі працаваў афіцыянтам у рэстаўрацыі «Ognisko Aktorów». Пасля вайны працягваў творчую дзейнасць у розных тэатрах.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900–1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 192-193.

**Дзекуць-Малей Лукаш** // Dziekuć-Malej Łukasz (1.10.1888, Слонім–20.1.1955, Гданьск), беларускі нацыянальны дзеяч. Баптысцкі прапаведнік, прэсвітар. Праслухаў двухгадовыя біблейскія курсы ў Пецярбургу. Сябра БПС-Р. Жыў у Гродна (1918–1921). Сябра Беларускай павятовай Рады, Камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, клуба «Беларуская хатка», старшыня Гродзенскай Беларускай школьнай Рады. Кіраўнік беларускага дзіцячага прытулка ў Гродна. Узначальваў суполку мясцовых баптыстаў і нават выпускаў уласны баптысцкі друкаваны орган на беларускай мове. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Пазней жыў у Брэсце (з 1921). У гады вайны быў прэсвітарам беларускіх баптыстаў на акупаванай тэрыторыі Беларусі. Пасля – у Польшчы (з 1946). Быў жанаты з Серафімай Кішко. Меў траіх дзяцей: Серафіму (13.3.1928 г.н.), Альжбету (8.2.1929 г.н.) і Данеля (6.4.1930 г.н.). У Гродна жыў па вул. Сафійскай, 4 (1919).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 84-86.

**Дзержаноўскі Адам** // Dzierżanowski Adam (?–да 1930), інжынер. Ганаровы куратар Гродзенскага музея прыроды, куды ахвяраваў уласную калекцыю, у якой налічвалася больш за сто чучалаў водных птушак (1927). Гаспадар камяніцы па вул. Тэлеграфнай, 24 (на 1919). Жыў у м. Ласосна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 60 зв.; Там жа Спр. 201. Арк. 89; «Nowy Dziennik Kresowy». 17.06.1927. Str. 4.

**Дзержаноўскі Казімір** // Dzierżanowski Kazimierz (24.10.1872–1940, Кіеў), вайсковец. Генерал. Скончыў Вышэйшую вайсковую тэхнічную акадэмію ў Вене (1893). Служыў у аўстрыйскім войску. Удзельнік Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў. Служыў у Міністэрстве вайсковых спраў; камандаваў 28-й пяхотнай дывізіяй; кіраваў Вышэйшымі цэнтральнымі вайсковымі курсамі ў Варшаве і інш. Камандуючы ДОК III у Гродна (1926–1927). Пазней пераведзены на пасаду камандуючага ДОК VII у Познань. З нагоды яго ад'езду вайсковы часопіс «Рэдута» пісаў: «Яго любілі не толькі сярод жаўнераў. Актыўны ўдзел

у грамадскім жыцці і справядлівасць адносна ўсялякіх спраў і людзей, з якімі яму прыйшлося сутыкацца падчас сваёй службы ў ДОК ІІІ, забяспечылі яму заслужанае прызнанне ва ўсіх сферах грамадства. Вырашаючы ўсе справы з пункту гледжання дзяржаўных патрэб, ён прычыніўся да знясення шматлікіх адрозненняў, якія падзялялі грамадства на асобныя партыі, чым спраціў грамадскае агульнае жыццё і ўзмацніў падставы нашай дзяржаўнасці на ўсходніх крэсах...» У адстаўцы (з 1932). Жыў у Львове. Арыштаваны органамі НКУС. Далейшы лес невядомы.

*Літ.:* «Reduta». 1927. № 7. Str. 2; «Trybuna». 18.8.1926. № 11; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 98; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 106-107.

**Дзівак Шмуэль** // Dziwak Szmuel, настаўнік. Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). Пазней – інструктар. Жыў па вул. Mostowa, 44 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Арк. 7-73в.

**Дзявульскі Яўгеній** // Dziewulski Eugeniusz (1888–1978), кампазітар, дырыжор, рэжысёр. Вучыўся ў Кіеўскай кансерваторыі (з 1913). Музычны кіраўнік, дырыжор аркестра польскага тэатра ў Кіеве (1914–1917). У польскім войску (1920). Настаўнік у тэатральнай школе С. Высоцкай (1920–1921), інстытуце «Рэдута» (1924–1925). Музычны кіраўнік, режысёр, сцэнограф і гаспадарчы кіраўнік «Дома Рэдуты» ў Вільні і Гродна (з 1925). Пазней – у Любліне (з 1931).

*Літ.:* Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 105-105.

**Доха Антоні** // Docha Antoni (15.6.1894, м. Жуковічы–1978), лекар. Бацькі – Міхал і Антаніна з Саванеўскіх. Скончыў Гродзенскую гімназію (1912). Паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1914) (магчыма, што наведваў і заняткі па медыцыне). З пачаткам Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў войска. Служыў у Туркестане (па некаторых звестках – у якасці вайсковага лекара). Пазней уступіў у польскае войска (1918). Служыў у запасной роце радыётэхнічнага батальёна (Kompania Zapasowa Batalionu Radiotelegraficznego), пры галоўным вайсковым Уяздоўскім шпіталі ў Варшаве (Głównego Szpitala Wojskowego Ujazdowskiego w Warszawie). Прымаў удзел у савецка-польскай вайне (1920). Скончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1926). Працаваў у в. Станевічы каля Гродна. Ініцыятар пабудовы шпіталя ў в. В. Жуковічы. Друкаваўся на старонках гродзенскай газеты «Nowe życie» (артыкулы «Wrażenia z prosektorium», «Zazdrość żydowska», «O ryskim traktacie pokojowym» і інш.). Падчас нямецкай акупацыі – ў АК (szef służby sanitarnej w obwodzie Armii Krajowej Grodno Lewy Niemen). Выратаваў свайго калегу доктара А. Блюмштэйна і іншых гродзенскіх яўрэяў (усяго дзесяць асоб), якім дапамог хавацца. Пасля вайны працаваў лекарам у Сакулцы. Пасмяротна залічаны да «Праведнікаў свету». У Сакулцы ў яго гонар названа адна з вуліц. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «A Docha, lekarz młody, bardzo pracowity, Szpital piękny postawił w Żukiewiczach Wielkich, I doktor miał byt pewny, i szpital zaszczyty, Zdrowie weszło do wiosek i zakątków wszelkich».

*Літ.:* «Nowe życie». 1920. № 10. Str. 77; Там жа № 12. Str. 90; Там жа № 15. Str. 110; Там жа № 17. Str. 125-126; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 91; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 48; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche–пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 454; http://www.radiomaryja.pl/bez-kategorii/kresowe-milosierdzie/; http://articles.chicagotribune.com/1988-12-12/features/8802230735_1_salvation-wife-and-daughters-fugitive.

**Дражанскі Юзаф** // Drożański Józef, гродзенскі стараста (1933–1937). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Старшыня выканаўчага аддзела павятовага камітэта фон-

да беспрацоўя (Powiatowy komitet fundusza bezrobocia), сябра прэзідыума Гістарычнай бібліятэкі ў Гродна, павятовага камітэта ратавання віленскай базілікі (1933), старшыня павятовага праўлення ЛОПП (1937) і інш..

*Літ.:* ДАГВ Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «Wieczorny kurier Grodzieński». 21.1.1933. № 20. Str. 4.

**Дражнін Лазар** // Draźnin Łazarz (каля 1887–?), настаўнік. Скончыў аддзяленне спеваў пры Варшаўскім музычным інстытуце. Працаваў у прагімназіі М. Рубінавай (на 1919). Жыў па вул. Brygidzka, 11 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Дражнін Самуіл** // Draźnin Samuel (Szmuel) (1880–?), экспедытар (купец). Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны ад блока гаспадарчага аб'яднання (1932–1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólno-żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Zamkowa, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 16; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123.

**Драчэўская Яніна (Драц)**// Draczewska Janina (29.11.1891, Варшава–16.1.1962, Лодзь), актрыса. Скончыла гімназію Янкоўскай у Варшаве. Вучылася ў аплікацыйнай школе пры Варшаўскім дзяржаўным тэатры і драматычным аддзеле пры музычнай кансерваторыі (1908; 1920–1923). Дэбютавала ў тэатры імя Фрэдры ў Варшаве. Выступала ў тэатры «Семафор» у Львове (1926–1927), тэатры на Беланьскай (1928–1929), гарадскім тэатры ў Гродна (1929–1931), тэатрах Варшавы і Львова. Пасля Другой сусветнай вайны – у тэатры ў Лодзі, здымалася ў фільмах. Першапачаткова выконвала ролі наіўных дзяўчын і палюбоўніц, аднак пазней перайшла да драматычных характэрных персанажаў.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765–1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 143.

**Друцкі-Любецкі Ян Марыя** // Drucki-Lubecki Jan Maryja (8.07.1898 Аікс-лес-Баінс–12.08.1990, Непакалянаў), князь. Сын Уладыслава Друцкага-Любецкага (1863–1913). Скончыў гімназію ў Пецярбургу, вучыўся ў школе бенедыктынцаў у Ампефорсе (Англія) (Ampieforth) і Варшаўскім універсітэце. Уладальнік маёнтка Станіславова і камяніцы па вул. Orzeszkowej, 24. Сябра таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924). Падпісаў дамову з горадам, згодна з якой у выпадку далучэння Станіславова і Друцка да горада князь адступіць Гродна частку сваіх уладанняў (1924). Ахвяраваў айцу М. Кольбе тэрыторыю пад манастыр францысканцаў у Тэрэсіне (1927). Пасля – у эміграцыі (1939). Адзін з заснавальнікаў Каталіцкага інфармацыйнага агенства (Katolicka Agencja Prasowa) і Каталіцкай лігі (Liga Katolicka). Ужо напрыканцы жыцця вярнуўся ў Польшчу.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 3 зв.; Там жа Спр. 188. Арк. 33; Там жа Спр. 281. Арк. 38 зв.-39; Там жа Спр. 282. Арк. 33 зв.-34; Там жа Спр. 283. Арк. 5 зв.; Там жа Спр. 285. Арк. 8 зв- 9, 140 зв., 144 зв.-145.

**Дудко Марк** // Dudko Marek (1901–?), настаўнік. Скончыў настаўніцкую семінарыю, Вышэйшыя настаўніцкія курсы па спецыяльнасці «прыродазнаўства і геаграфія», курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў. Вёў фізкультуру ў школе № 2 (1924–1939). З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Прафесійна праводзіць заняткі па фізкультуры ў школе» (1934). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Настаўнік геаграфіі ў няпоўнай сярэдняй школе № 6 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 3. Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 н. Арк. 5-5 зв.; «Dziennik kresowy». 25.4.1939. № 113. Str. 4.

**Дудко Стэфанія** // Dudko Stefania (1897–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, Вышэйшыя настаўніцкія курсы, курсы беларускай і рускай моў. Працавала ў школе ў Янаве Падляскім (1919–1923), у гродзенскай падрыхтоўчай школе (1925–1939). Настаўніца пачатковых класаў у беларускай сярэдняй школе № 5 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 65-65 зв.

**Дулевіч Рыгор** // Dulewicz Grzegorz (каля 1864–?), намеснік натарыуса, пазней – працоўны. Сябра Саюза [беларускіх] спажывецкіх кааператываў Гродзеншчыны (1920). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад блока праваслаўнага насельніцтва (уваходзіў у фракцыю Хрысціянскай суполкі) (1927–1930). Вылучаўся ў польскі Сейм ад рускага блока (1928). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Сябра праўлення саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930). Жыў па вул. Narutowicza/Pionierska, 13 (1927); Narutowicza, 7 (1939).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 92-93.

**Дулік Эдмунд** // Dulik Edmund (1891–?), айцец гвардыян францысканцаў з кляштара Маці Божай Анёльскай. Пасвечаны ў святары (1914). Актыўны сябра выбарчага камітэта Польскага каталіцкага блока (1928). Старшыня Занёманскага дабрачыннага таварыства імя Э. Ажэшкі (1927–1936).

*Літ.:* H. Majecki. Chrescijańska Demokracja w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1992. T. 1. Str. 12; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 356.

**Дымчак Станіслаў** // Dymczak Stanisław (1902, Варшава–?), настаўнік гісторыі. Скончыў поўную сярэднюю школу; аддзяленне гуманістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў у гімназіі ў Лідзе (1929–1933), гімназіі ў Вышкулях (1933–1937), у гімназіі (1937–1.1.1940) і польскай сярэдняй школе № 2 (з 1.1.1940) у Гродна. Падчас акупацыі – на тытунёвай фабрыцы. Пазней – настаўнік у сярэдняй школе № 2 (1944). Жыў па вул. Міцкевіча, 13 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 42-42 зв.

**Дыянісій / Клімчак Міхал** // Dyonizy / Klimczak Michał (1907, Львоў–14.7.1943, Навумавічы, форт № 2), каталіцкі святар. Уступіў ў ордэн францысканцаў (1923). Пазней – у Гродна (з сярэдзіны 1930-х). Гвардыян кляштара і пробашч францысканскай парафіі. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 101-102.

**Дыяс Ежы** // Dyjas Jerzy, футбаліст. Выступаў за варшаўскую каманду «Drukarz». Быў нападаючым футбольнай каманды WKS «Grodno» (1936–1938). Газета «Przegląd sportowy» пісала пра яго: «Амбіцыёзны тэхнік і тактык». Гуляў за зборную каманды Гродна ў матчы супраць чэмпіёна Літвы каманды «LCGF» (1939).

*Літ.:* «Przegląd sportowy». 22.06.1939; J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok, 2010. Str. 26, 28.

**Дэканскі Уладыслаў** // Dekański Władysław, настаўнік гімнастыкі пры настаўніцкай мужчынскай семінарыі. Арганізатар і кіраўнік спартыўнага таварыства «Sokół» у Гродна, ініцыятар адкрыцця стадыёна на месцы былога велатрэка. Удзельнік абароны Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Быў арыштаваны супрацоўнікамі НКУС. Верагодна, памёр у савецкай турме. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прыводзіў іншую версію яго смерці: «O Dekański Władek bystry

wchodzi do wykazu Bohaterów tej wojny, która tak szalała: Był wzorem gimnastyka pięknego wyrazu, Wojna ręką niemiecką jego zarąbała».

*Літ.:* «Echo grodzieńskie». 25.5.1923. № 87. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 85, 91; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 37.

**Дэлімата Юзаф** // Delimata Józef, кіраўнік пошты (naczelnik pocztowego urządu obwodowego № 1) (на 1937). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Ach, wszyscy tak wołają: oświata! oświata! Toteż poczta grodzieńska pełna jest zapału, Porwany tym wołaniem i Pan Delimata, Poczty dzielny naczelnik, człowiek ideału. Im większa jest oświata, poczta więcej działa, Masa listów i depesz dniem i nocą płynie, I wory pełne gazet kolej nadesłała, Delimata to musi załatwić w terminie... W Grodnie wszystko wypełnił, co doń należało, A w Jaśle świat pożegnał. Jakaż wielka strata! Gdyby Grodno wiedziało, ach, gdyby wiedziało!..» Жыў па вул. Orzeszkowej, 9.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; Там жа Спр. 26. Арк. 1 зв.; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 75.

**Дэм Людвік** // Dem Ludwik (1891–?), настаўнік. Скончыў універсітэт. Выкладаў у гродзенскіх школах (з 1922). Настаўнік польскай літаратуры ў школе «Тарбут» (на 1930). Праслухаў настаўніцкія курсы (1939). Прызначаны настаўнікам нямецкай мовы ў школе № 1 у Гродна (на 1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 13-13 зв.; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 104.

**Дэмова Эстэра** // Demowa Estra (?–7.1941, Гродна), настаўніца школы № 5. Расстраляна нацысцкай 9-й айнзатцкамандай.

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 494; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Дэршэнь (Дзершэн) Андрэй**// Derszeń Andrzej, дырэктар касы Стэфчыка (Kasy Stefczyka). Сябра праўлення Таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych). Заснаваў іпатэчны кааператыўны банк у Гродна (Hipoteczny bank spółdzielczy w Grodnie) (1933).

*Літ.:* «Nad Niemnem». 10.4.1938. № 1. Str. 3.

**Дэсін Аскар** // Dessin Oskar (25.10.1894, Екацярынаслаў–?), пракурор, суддзя. Бацькі – Вільгельм, настаўнік гімназіі, і Эма Енец. Лютэранін. Немец. Скончыў філалагічную гімназію ў Екацярынаслаўлі (1913), юрыдычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Стажор акруговага суда ў Екацярынаслаўлі (1918–1919), сакратар пракуратуры акруговага суда ў Камянец-Падольску (1919–1920), падпракурор акруговага суда ў Гродна (30.9.1921–1923). Суддзя акруговага суда ў Гродна (з 24.6.1928). З характарыстыкі: «Шчыры, лаяльны, з пачуццём асабістай годнасці... Заўсёды мае шмат сумненняў і вельмі часта сам не ў стане прыняць рашэнне... Вельмі тактоўны, стрыманы, спакойны. Маласлоўны, station ставіцца да навакольных, тактоўны... Любіць іграць у карты...» (1939). З'яўляўся старшынёй выбарчай камісіі (1939). Узнагароджаны бронзавым медалём «За працяглую службу» (1938). Двойчы жанаты.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 563.



**Екель Вольф** // Jekiel Wolf (1892–?), настаўнік. Скончыў нямецкую гімназію ў Львове, філасофскі факультэт Венскага ўніверсітэта, настаўніцкія курсы ў Гродна (1939, 1940) і Беластоку (1940). Працаваў настаўнікам у яўрэйскай пачатковай школе ў Вене (1920–1922), яўрэйскай агульнай школе ў Кутна (1922–1923), гімназіі для яўрэйскай моладзі (1923–1924) і яўрэйскай сямікласнай школе «Тарбут» (1923–1927) у Мязерычы, гімназіі «Тарбут» у Гродна (1927–1940). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (на 1935). Пасля ўсталявання савецкай улады выкладаў нямецкую мову і літаратуру, яўрэйскую мову і літаратуру ў гімназіі імя А. Міцкевіча (1939–1940), школе № 14 (1940), яўрэйскай няпоўнай сярэдняй школе № 12 (12.1.1940). Жыў па вул. Piaskowa, 15 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Арк. 7 -7зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 36-36 зв.

**Елін Беньямін** // Jelin Beniamin (каля 1892–1942 (?), Гродна), зесер. Сябра Рады яўрэйская рэлігійнай абшчыны ад сацыялістычнай фракцыі (на 1931, 1938). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe, Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Расстраляны ў гета. Жыў па вул. Zamkowa, 10/7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56, Воп. 1, Спр. 59, Арк. 61 зв.; Там жа Спр. 79, Арк.19. Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Елента Стэфан** // Jellenta Stefan, вайсковец, капітан. Сябра арганізацыйнага камітэта па стварэнні аддзела Польскага гістарычнага таварыства ў Гродна (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Пасля Другой сусветнай вайны працаваў у Вайсковым гістарычным інстытуце ў Варшаве (Wojskowy Instytut Historyczny) (1956–1961).

*Літ.:* J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59, 65.

**Ерэль Вольф** // Jerel Wolf, выкладчык іўдзейскай рэлігіі пры Гродзенскай гімназіі імя А. Міцкевіча (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 88. Арк. 91.

**Ерузалімскі Арон** // Jeruzalimski Aron, настаўнік. Магчыма, сябра Гродзенскага аддзялення Саюза яўрэяў – удзельнікаў барацьбы за незалежнасць Польшчы (Związek Żydów uczestników walk o niepodległość Polski) (на 1939). Жыў на Pl. Batorego, 6 (1937).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 20.4.1939. № 108. Str. 6.

**Есьман Часлаў** // Jeśman Czesław (1890–?), адвакат. На выба-

рах у Сейм вылучаўся ад спіса Unia narodowa-państwowa (1922). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Увайшоў у спецыяльны склад камісіі па стану гарадскіх шпіталяў (1928). Сябра Таварыства сяброў студэнцкага інтэрната (Towarzystwo przyjaciół Akademika) (1923). Жыў па вул. Policyjna/Listowskiego, 28 (1922); Orzeszkowej, 20 (1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 196; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 143; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 9 зв.; «Echo grodzieńskie». 28.6.1923. № 115. Str. 2-3; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Еффе М.** // Jeffe M., сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны (1917–1919).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 56. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 3-6 зв.




**Жабакліцкі Антоні** // Żaboklicki Antoni (17.5.1882, Пясэчна – пасля 1939), адвакат. Капітан запасу. Грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў Варшаўскую гімназію, політэхнічны ўніверсітэт у Дорпце. Юрыдычны дарадчык ДОК III. Старшыня арганізацыі адвакатаў у Гродна (Koła Adwokatów w Grodnie). Сябра Польскага краязнаўчага таварыства (Członek-korespondent Polskiego towarzystwa krajoznawczego) (на 1913), ТСК (1920), камітэта абароны крэсаў (Komitetu Obrony Kresów), праўлення таварыска-артыстычнага клуба «Муза» (Klub artystyczno-towarzyski Muza) (1921), Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над зняволенымі «Патранат», таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924), камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925), праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (1931). Кіраўнік секцыі самаўрадаў пры праўленні павятовай рады ББСУ (1931), праўлення Таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych), віцэ-старшыня павятовага праўлення ЛОПП (1937). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Магчыма, рэпрэсаваны савецкай уладай. Нейкія Юлія (1884 г.н.) ды Збігнеў (1915 г.н.) Жабакліцкія былі высланы з Гродна (13.4.1940). У кнізе «Saga o Grodnie» Л.Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Żaboklicki Antoni, często mówił w Grodnie; «Ach! Polska – rzecz to wielka, sporom nie podlega, Że to dla niej znosimy i największe zbrodnie»...» Жыў па вул. Калажанскай, 20 (1913); Rydza-Śmigłego, 16 (1925).

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1611. Арк. 31 зв.; ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 1-8; Там жа Спр. 3. Арк. 21; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4; «Echo grodzieńskie». 28.6.1923. № 115. Str. 2-3; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1. «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 13; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 336-337; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 306; http://www.ogrodywspomnien.pl/index/shows/0/7/?s=14.

**Жаброўскі Леон** // Żebrowski Leon (7.4.1876 Поцішкі, Свянцянскі пав. – 6.9.1953 Мейшаголы), ксёндз. Скончыў тэалагічные аддзяленне Пецярбургскай духоўнай акадэміі (1903). Выкладчык Віленскай духоўнай семінарыі, вікарый Вострай Брамы (1904–1917). У Гродна прыбыў падчас Першай сусветнай вайны, гродзенскі дэкан (з 1917). Капелан гродзенскага шпіталя і гарнізона (1920–1921). Пазней выконваў розныя функцыі пры каталіцкай курыі. Грамадскі дзеяч. Старшыня Фарнага прытулка Св. Юзафа для дзяўчат (1916–1927), Польскага дэмакратыч-

нага камітэта (Polskiego Komitetu Demokratycznego) (1918–1920), Галоўнай рады Гродзенскай зямлі (Naczelnej Rady Ziemi Grodzieńskiej), Таварыства сяброў навук (Towarzystwo Przyjaciół Nauk) (1923), віцэ-старшыня Камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925), патрон арганізацыйнага камітэта Хрысціянскага дэмакратычнага саюза (11.1918). Адзін з арганізатараў часовага праўлення Польскага Жалобнага Крыжа (1922). Сябра Польскай Мацежы Школьнай (Polskiej Macierzy Szkolnej), Камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922), Камітэта па ўпарадкаванні гродзенскіх каталіцкіх могілак (1924) і інш. Сенатар ад спіса Нацыянальна-хрысціянскага саюза працы (Narodowo-Chrześcijańskiego Stronnictwa Pracy) (1922–1927). Галоўны рэдактар газет «Przyjaciel Ludu» і «Dwutygodnik Diecezjalny», якія выходзілі ў Вільні. Быў зняволены ў савецкай (пасля 1939) і нямецкай (1942) турмах. Пасля Другой сусветнай вайны пасяліўся у Эйшышках. Пераследаваўся савецкай уладай за свае погляды. Памёр падчас службы ў касцёле. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» прысвяціў яму наступныя радкі: «A oto kapłan wielki i Grodna senator, To ksiądz Leon Żebrowski, to mówca ognisty, Grodzieński pierwszy poseł i Polski amator, Leży dzisiaj na Litwie, nowy promienisty...»

*Літ.:* «Nowe życie». 18.12.1918. № 1; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; Там жа 1924. № 7. Str. 3; «Dziennik Grodzieński». 28.2.1922. № 11. Str. 3; «Dziennik Grodzieński». 2.3.1922. № 13. Str. 3; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; «Nowy Dziennik Kresowy». 13.06.1927. Str. 4; «Głos prawdy Ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 65. Str. 4; Catalogus ecclesiarum et cleri archidioecesis vilnensis. Pro Anno 1928; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 17; Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 597-598; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 357; Senatorowie: losy wojenne i powojenne. Warszawa, 2012. S. 204-205; Leon Żebrowski, www.wikipedia.pl ; http://pl.wikipedia.org/wiki/Leon_Żebrowski / Доступ 29.4.2013.

**Жмудзінскі Тадэвуш Ян** // Żmudziński Tadeusz Jan, рэдактар газеты «Echo Grodzieńskie». Сябра Таварыства гігіены і асветы імя праф. Э. Гадлеўскага (Towarzystwo Hygieniczno-oświatowe im. prof. Emila Godlewskiego). Быў вымушаны з'ехаць з горада пасля канфлікту з Пянткоўскім. Замест яго рэдактарам стаў А. Філцер (1921). Пазней, праз нейкі час, жыў у Беластоку, выдаваў газеты «Kolcy» ды «Boruta».

*Літ.:* «Echo Grodzieńskie». 21.5.1921. № 110. Str. 4; «Nowe życie». 1921. № 42. Str. 330; «Dziennik Grodzieński». 18.2.1922. № 3. Str. 3/

**Жоўтая Роза** // Żołta Róża (1901 – ?), настаўніца. Скончыла сярэднюю школу, двухгадовыя завочныя педагагічныя курсы, курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў (1939 – 1940). Працавала настаўніцай у школе «Талмуд Тора» (1920–1922), дзіцячым доме ў Вільні (1922–1925), школе «Тарбут» у Гродна (1922–1940). Выкладала рускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе № 7 (з 15.1.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 н. Арк. 27-27 зв.

**Жукоўскі Саламон** // Żukowski Salomon (1905, Гродна – ?), настаўнік. Праслухаў два курсы літаратурнага факультэта ў Варшаве (1925), скончыў педагагічныя курсы (1929). Выкладаў у т.зв. школе «Тушыа» і Горніцкім хедэры. Пасля усталявання савецкай улады – завуч сярэдняй школы № 16 (на 1941). Быў зняволены ў гета № 1. Перажыў акупацыю. Пасля вайны працягваў працаваць настаўнікам, у тым ліку ў школе № 9. Жыў па вул. Pereca, 4 (1937), Карла Маркса, 26 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 45; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Журакоўскі Баляслаў** // Żurakowski Bolesław (15.12.1897, Вільня – 20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2) чыноўнік. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у Сызрані. Скончыў эканамічна-юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Кіраўнік

аддзела ў Міністэрстве фінансаў. Кіраўнік аддзела акцыз і манаполій у Беластоку. Пазней займаў такую ж пасаду ў Гродна (з 1934). Падчас нямецкай акупацыі працаваў на тытунёвай фабрыцы. Дзейнічаў у польскай канспірацыі. Жанаты з Яўгеніяй Субоцінай. Меў сына Багдана. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі. Жыў па вул. 11 Listopada (сёння – вул. 17-га Верасня, 12).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 2 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 150, 158; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495; Н. Канюк. Сказочный домик в Новом Свете // Вечерний Гродно. 9.5.2012. № 19.

**Жураўская Алена** // Żurawska Helena, настаўніца. Вучылася ў Львоўскім універсітэце. Скончыла настаўніцкую семінарыю. Кіраўнік жаночай настаўніцкай семінарыі імя Э.Ажэшкі ў Гродна (на 1920). Звярнулася з лістом да школьнага інспектара Гродзенскага павета з тым, каб той выдаў пастанову з забаронаю наведвання школьнікамі гарадскіх кінатэатраў.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 87. Воп. 1. Спр. 77. Арк. 2, 65.

**Жыўна Станіслаў** // Żywno Stanisław (1892, Гродна – 1940), дырэктар музея прыроды. У пошуках работы ён эмігрыраваў у Злучаныя Штаты Амерыкі (1908), дзе асвоіў майстэрства вырабу чучал птушак і звяроў. Прымаў удзел у экспедыцыях у Амерыку, Афрыку, Азію і Аўстралію з мэтай папаўнення калекцыі аднаго з мясцовых універсітэтаў. Сам сабраў каштоўную этнамалагічную, мінералагічную і арніталагічную калекцыі. Пазней вярнуўся ў Гродна (1924). Летам гэтага ж года гарадаская Рада прымае рашэнне аб прыняцці ў дар прывезеных калекцый і стварэнні ў Гродна музея прыроды. Сам С. Жыўна быў прызначаны захавальнікам музея. Пазней гродзенскі магістрат вырашыў яго звольніць, аднак пасля ён быў зноў адноўлены на сваёй пасадзе (1927). Ён не толькі збіраў матэрыялы, але і займаўся іх навуковым апісаннем, сістэматызацыяй і кансервацыяй. Даследаваў і своечасова закансервіраваў парэшткі старажытных раслін і жывёл, якія былі знойдзены падчас будовы шашы праз тэрыторыю ваеннага лагера ў Румлёва каля Гродна (1938). Новыя экспанаты, аднак, выклікалі цікавасць Дзяржаўнага інстытута геалогіі Польшчы, які палічыў, што правінцыяльны павятовы музей незаконна ўзяў удзел у раскопках, і запатрабаваў перадачы знаходак у Варшаву. У абарону С. Жыўны выступілі ўлады і грамадскасць горада. Віленскі журналіст С. Мацкевіч так апісвае свае ўражанні ад музея і яго дырэктара: «Музей адносна самога горада з'яўляецца вялікім і цікавым... Ізноў сутыкаемся з ціхай працай адзінкі, якая ў шырокіх колах амаль невядомая, аднак вельмі заслужаная. Трэба прайсці калідорам, пазней дзвюма заламі, пасля праз канцылярыю і там пад вісячай нізка лямпаю з ланцэтам у руцэ сядзіць пан Станіслаў Жыўна і прэпарыруе заалагічныя экзэмпляры ...Зараз, на 1936 г., музей уражвае». Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Przyrodnik oświatowiec, Pan Stanisław Żywno, Miastu złożył dar wielki z pracy swej wytrwałej: Muzeum Przyrodnicze z kolekcją przedziwną, Za swe trudy jest godzien podzięki niemałej ...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1 Спр. 2. Арк. 80; «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 70; Станіслаў Жыўна – заснавальнік музея прыроды ў Гродне // Биржа информации. 25.11.1999. № 47 (92).



**Забельскі Вацлаў** // Zabielski Wacław (?–каля 1940), акцёр, рэжысёр. Выступаў у трупе Паплаўскага ў Расіі (1911–1912), віленскім тэатры (1912–1914), польскім тэатры ў Кіеве (1915–1918), у тэатры Сташыца ў Варшаве (1918–1919), у Гданьску (1921). Акцёр і рэжысёр гродзенскага тэатра (1921–1922). Пазней выступаў у Вільні, Львове, Лодзі, Станіслававa. Загінуў ад рук украінскіх нацыяналістаў.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego. Warszawa, 1973. Str. 823.

**Завадскі Леон** // Zawadski Leon (каля 1899–?) , чыноўнік. Кіраўнік бібліятэкі ДОК III (1937). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Сябра тэатральнай камісіі. Кандыдат на выбарах у Сейм (1935). Старшыня гродзенскага кола прафсаюза Саюза работнікаў разумовай працы (pracowników umysłowych) (1931); сакратар музычнага таварыства «Lutnia» (1923). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937), антыкамуністычнага камітэта (Międzyzwiązkowy komitet antykomunistyczny) (на 1938). Падчас нямецкай акупацыі – першы бургамістр Гродна (1941). У сваіх данясеннях на імя нямецкага каменданта прадстаўнік мясцовага БНК абвінавачваў яго ў арганізацыі польскай інтэлігенцыі і шматлікіх злоўжываннях. Магчыма, гэта пра яго, пераблытаўшы імя, Л. Саванеўскі, пісаў: «Czesława Zawadzkiego wspominamy mile, Był on w Grodnie prezesem Związku Urzędników, W społecznych swoich troskach radosne miał chwile, Niech w Warszawie dziś dozna nie mniejszych wyników». Жыў па вул. Bazyliańska, 15; Orzeszkowej, 41 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 9, 10, 32; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 25; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Echo Grodzieńskie». 16.1.1923. № 21. Str. 3; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 31.5.1931. № 147; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 29.9.1938. № 266; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 85.

**Задай Абрам** // Zadaj Abram (1888–?), адвакат. Яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Удзельнічаў у працэсе па справе яўрэйскага пагрому ў Гродна (1935). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927–1930; 1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Падчас чарговага абмеркавання гарадскога бюджэту Абрам Задай, выступаючы ад імя яўрэйскай фракцыі, адзначыў, што яго прадстаўніцтва мае шмат сумненняў адносна некаторых пазіцый бюджэту, аднак будзе галасаваць за прынясце яго,

бо «мае давер да спадара Прэзідэнта горада». Цікава, што хрысціянская фракцыя тады ж выказалася супраць бюджэту, матывуючы гэта яго эканамічнай недакладнасцю (1935). Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных грунтаў на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935). Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны (1917–1919). Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930). Старшыня юдэнрата пры гродзенскім гета № 2. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі пісаў: «Na czele w Grodnie stanął Zadaj czarny, hardy, Wojnę toczył namiętnie z polskimi prądami, W pokoju adwokackim prowadził bój twardy, Niczym dzielny Ben-Gurion dzisiaj z Arabami». Жыў па вул. Hoovera, 1.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; Там жа. Спр. 284. Арк. 25, 26 зв.-27; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 3-6 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Mały dziennik grodzieński». 13.11.1935. № 37. Str. 1; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 31; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 412.

**Зажыцкая Таццяна** // Zarzycka Tacjana (1904–?), настаўніца матэматыкі. Скончыла Вышэйшы камерцыйны інстытут. Выкладала ў камерцыйнай гімназіі ў Гродна (1931–1935; 1939–1940). Настаўніца матэматыкі ў польскай сярэдняй школе № 2 (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 43-43 зв.

**Зажыцкі Тадэвуш** // Zarzycki Tadeusz (18.4.1899, Вінніца–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Ян і Адэля Камінская. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1930). Падпаручнік запасу 19-га палка ўланаў. Судовы стажор акруговых судоў у Вільні, Пінску і Гродна (1931). Здаў экзамен на суддзю (1933). Судовы асэсар апеляцыйнага суда ў Гродна (1934). Суддзя гродскага суда ў Ваўкавыску (з 1935), Аўгустове (з 1936) і Гродна (1937). Кіраўнік гродскага суда ў Гродна (naczelnik sądu grodzkiego) (з 2.9.1937). Жанаты з Таццянай Капяльчук (з 1927). Меў сына Андрэя (1937).

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7. B. 3386; ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 3.

**Зажэцкі Нікадзім** // Zarzecki Nikodem (1902–?), ксёндз-прэфект. Скончыў Віленскую семінарыю (1902). Пасвечаны (1931). Выкладаў каталіцкую рэлігію ў гімназіі імя Г. Сянкевіча (канец 1930-х). Падчас нямецкай акупацыі ўдзельнічаў у руху супраціву; выдаваў у Гродна «Biuletyn Wiadomości Radiowych».

*Літ.:* Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI–XX стст. Мінск, 2011. Ст. 451; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335.

**Зак Аўраам** // Zak Abram (15.12.1891–1970, Буэнас-Айрэс), яўрэйскі грамадска-культурны дзеяч. Паэт. Ягоны бацька быў настаўнікам. Вучыўся ў хедэры, ешыве і «Bet Medrash». Кіраўнік яўрэйскага культурнага таварыства «Yiddishe Kunst». Далучыўся да прафсаюзнага руху. Адначасова выступаў на тэатральнай сцэне. Дэбютаваў у якасці спевака (1908). Пазней пераехаў у Варшаву, дзе займаўся літаратурнай творчасцю (1909). Падчас Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў войска. Пасля – у Гродна (1916). Разам з Л. Найдусам разгарнуў шырокую дзейнасць у напрамку развіцця яўрэйскай культуры. Пазней вярнуўся ў Варшаву, аднак сувязей з Гродна не губляў: аўтар тэатральных аглядаў у гродзенскай газеце Unzer morgn», пісаў п’есы для мясцовай яўрэйскай тэатральнай трупы. З пачаткам Другой сусветнай – зноў у Гродна, дзе быў арыштаваны органмі НКУС (1940). Пасля вызвалення жыў у эміграцыі. Сябра Арганізацыі гродзенцаў у Буэнас-

Айрэсе (Organization of Grodno and vicinity of Buenos Aires) (на 1971).

*Літ.:http://www.museumoffamilyhistory.com/yt/lex/Z/zak-abraham.htm;* http://museum.gulagmemories.eu/pl/media/relacje-indywidualne

**Закхейм Бярнард (Бера)** // Zakhejm Bernard, гаспадар фінансавай канторы і канторы па абмене грошай «Kantor Wymiany Bracia Zakhejm» (на 1921). Пазней супрацоўнік банкаўскага дома. Быў абвінавачаны ў атрыманні звышпрыбытку са здзелак. Грамадска-палітычны дзеяч. Прадстаўнік ад Яўрэйскага камітэта ў часовым гарадскім камітэце Гродна (1918). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927).

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 15. Str. 114; «Przegląd Kresowy». 12.3.1930. № 50; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str. 18; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Залеўскі Вацлаў** // Zalewski Wacław, адказны рэдактар і адміністратар газеты «Czyn młodych» (1938); рэдактар «Dziennika Popularnego 5 Groszy» (1939). Магчыма, сябра Саюза польскай моладзі (Związek Młodej Polski).

**Залуцкі Лейб** // Załucki Lejb, сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości). Быў выключаны з арганізацыі за неэтычныя паводзіны. Ён выкупіў на аўкцыёне ў Вільні нерухомасць аднаго з сяброў Саюза – Дубоўскага (Dubowski) (1930). Быў абраны ў Касу хворых (1926).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; «Nowy dziennik kresowy». 1.1.1926; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48.

**Замкоў Тоб'я** // Zamkow Tobjasz (каля 1899–?), яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Купец. Сябра мясцовага сяніісцкага камітэта (1919). Старшыня яўрэскай спартыўнай арганізацыі «Makkabi» (на 1921). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólno-Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў на вул. Pl. Batorego, 3; Pl. Batorego, 5 (1937); Złotarska, 2 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; «Echo grodzieńskie». 12.8.1921. № 179. Str. 4.

**Замкоўскі Генрых** // Zamkowski Henryk (1852–1.2.1933, Гродна), лекар. Паходзіў з беднай яўрэйскай сям'і. Скончыў медыцынскі факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1876). Меў прыватную медыцынскую практыку ў Гродна. Пазней – урач-ардынатар мясцовага яўрэйскага шпіталя (з 1898). За кароткі час становіцца адным з найбольш кваліфікаваных лекараў у горадзе. Сямейны ўрач Э. Ажэшкі. Сябра Таварыства лекараў Гродзенскай губерні, уваходзіў у камісію па барацьбе з халерай (з 1890). Быў ахвярай т.зв. «крывавага нагавору» (1903). Напрыканцы нямецкай акупацыі прымаў удзел у арганізацыі гарадскога шпіталя. Адзін з арганізатараў гарадскога прафсаюза лекараў (1919). Падчас савецкага панавання быў прызначаны старшым лекарам мясцовага шпіталя (1920). Абраны ў склад Варшаўска-Беластоцкай медыцынскай палаты (Izba lekarska warszawsko-białostocka) ад дэмакратычнага выбарчага камітэта (Demokratyczny komitet wyborczy) (1923). Пазней працягваў займацца прыватнай практыкай. Сябра Камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925). Грамадскасць Гродна адсвяткавала пяцідзесяцігоддзе яго прафесійнай дзейнасці (1926). Гродзенскі камісарыят паліцыі адзначыў яго як аднаго з актыўных грамадскіх дзеячаў (1928). На яго пахаванні з апошнім словам выступілі калегі Троп-Крынскі, Ліпнік, Тальгейм і Фінкель. Пасля яго смерці, аднак, па горадзе хадзілі

чуткі аб тым, што ён, пакрыўдзішыся на праўленне яўрэйскай абшчыны, меў на мэце пазбавіць яе часткі ахвяравання, якое прадугледжваў раней у сваім завяшчанні. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «A Zamków? Ach, ten Zamków! Iluż on wyleczył, Gdy się ludziom zdawało, że wszystko stracone, A ileż przez lekturę tomów on zniweczył, I wciąż badał najnowsze wydania uczone…» Гаспадар камяніцы па вул. Kirchowa, 2 (на 1923); жыў па вул. Zamkowa, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 64. Арк. 1; Dziennik urzędowy województwa warszawskiego. 28.2.1923 № 4. Str. 4; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1. «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.2.1933. № 34. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 14.2.1933. № 44. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 48; Ф. Игнатович Г.Т. Замковский – врач и общественно-медицинский деятель: к 150-летию со дня рождения // Актуальные вопросы современной медицины / Сборник научных трудов, посвященный 200-летию узловой клинической больницы в г. Гродно. Гродно, 2002. Стр. 52-54; http://niniwa22.cba.pl/wybitni_ludzie_tez_ludzie.htm.

**Заморскі Кардыян Юзаф** // Zamorski Kordian Józef (1.4.1890 м. Калувка–19.12.1983, Лондан), вайсковец. Брыгадны генерал. Вучыўся ў Львоўскай гімназіі і настаўніцкай семінарыі, Кракаўскай мастацкай акадэміі (Akademii Sztuk Pięknych w Krakowie). Сябра польскіх прамілітарных арганізацый (Związek Walki Czynnej; Związek Strzelecki). Падчас Першай сусветнай вайны служыў у Польскіх легіёнах. Сябра ПАВ. Удзельнік польска-ўкраінскай і польска-савецкай войн. Служыў у Брэсце (1921). Кіраўнік штаба ДОК III (10.7.1922–10.1924) і 76-га Лідскага пяхотнага палка, які стацыянаваў у Гродна (1924–10.1925). Падпісаўся пад пратэстам мастакоўпластыкаў з Гродна супраць неадпаведнай рэканструкцыі Фарнага касцёла (1925). У мясцовым акруговым судзе разглядалася справа аб тым, што К. Заморскага знеславіў рэдактар Л. Саванеўскі. Апошні, аднак, быў апраўданы (1926). Пазней – на розных пасадах у Генеральным штабе; галоўны камендант Дзяржпаліцыі. Інтэрнаваны ў Венгрыі (1939). Камандуючы польскімі аддзеламі на Блізкім Усходзе (1942). Пасля вайны пасяліўся ў Лондане.

*Літ.:* «Nadniemeński kurier Polski». 2.10.1925. № 272. Str. 1; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 316. Str. 4; Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. S. 585; Wileński słownik biograficzny. Suplement. Opracował M. Jackiewicz. Bydgoszcz, 2012. Str. 320.

**Зандман Арон** // Zandman Aron (1897–пасля 1942, Асвенцім (?)), хімік. Скончыў хімічны факультэт Венскага ўніверсітэта, дзе нейкі час выкладаў. Працаваў чыноўнікам. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён, прафесійныя саюзы і рамеснікі (Poalej-Sjon, Związki Zawodowe i Rzemieślnicy) (1939). З усталяваннем савецкай улады прайшоў курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў прыродазнаўства (1940). Працаваў асістэнтам і лабарантам кабінета хіміі пры Гродзенскім педінстытуце (1940), выкладчыкам хіміі сярэдняй рускамоўнай школы №11 (1940). Падчас акупацыі – у гета № 1. Працаваў у нямецкай фірме «Reiffheiswn», юдэнраце. Быў жанаты з Ганяй Фрэйдовіч. Іх сын Зандман Фелікс (Zandman Felix) – навуковец, бізнесмен, заснавальнік Vishay Intertechnology, аўтар успамінаў пра міжваенны Гродна і Халакост. Жыў па вул. Brygidzka, 28.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; Там жа Ф. 127 Воп. 2. Спр. 10. Арк. 7-7 зв.; F. Zandman. Nigdy nie gaśnie nadzieja. Warszawa, 2005. Str. 71.

**Захажэўскі Ян** // Zacharzewski Jan, архітэктар. Гродзенская гарадская Рада разглядала пытанне пра будаўніцтва па яго праекце чатырох жылых дамоў на трыццаць кватэр кожны па вул. Нова-Артылерыйскай (1930). Кватэры планаваліся адна- і двухпакаёвыя, з прыбіральняй, кухняй і ў двухпакаёвых – з ваннай. На рэалізацыю праекта патрэбен быў крэдыт амаль у 200 тысяч злотых,

частку якога меў выдаць Гаспадарчы Банк. Аднак далейшы лёс будоўлі невядомы.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 18. Арк. 39-39 зв.

**Збароўскі Стэфан** // Zborowski Stefan (?–1944, Кельцы), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра. Скончыў драматычную школу М. Пшыбовіча ў Кракаве. Выступаў у тэатрах Кракава, Познані, Любліна, Лодзі, Варшавы і інш. Акцёр і рэжысёр Гродзенскага гарадскога тэатра (1935–1936). Пазней – у трупе «Рэдута».

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 842.

**Здановіч Аляксандр** // Zdanowicz Aleksander, пракурор. Падпракурор акруговага суда ў Навагрудку (з 1927). Пазней, магчыма, старшыня Гродзенскага акруговага суда. Сябра праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938). Старшыня камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 3403; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Здраеўская Зоф'я** // Zdrojewska Zofia (1905–?), настаўніца. Скончыла ўніверсітэт, курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў (1940). Працавала настаўніцай нямецкай мовы пры настаўніцкім саюзе ў Варшаве (1929–1931), у школе ў Свянцянах (1931–1936), у Гродна (з 1936). Настаўніца нямецкай мовы ў польскай няпоўнай сярэдняй школе № 20 (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 66-66 зв.

**Зеіке Альберт** // Zieike Albert, настаўнік нямецкай мовы ў Гродзенскай мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча. Падпісаўся пад дэкларацыяй немцаў, грамадзян Польшчы, жыхароў Гродна («Deklaracja lojalności Niemców obywateli polskich zamieszkałych w Grodnie») (1939).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 1.9.1939. Str. 4.

**Зейцэль Юзаф** // Zejcel Józef (каля 1894–?), сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ад сіяністскіх арганізацый, зблакаваных з Паалей-Цыён (з 1932). Жыў па вул. Listowskiego, 9 (на 1932).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 17.

**Зелянко Пётр** // Zelenko Piotr, сакратар Цэнтральнага ўкраінскага камітэта ў Гродна (1935).

*Літ.:* Em. Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. . Str. 567, 570-577.

**Земак Станіслаў** // Ziemak Stanisław (15.10.1896, в. Ясеніца, Остраў-Мазавецкі–1986, Варшава), польскі грамадска-палітычны дзеяч. Судовы выканаўца (каморнік) II раёна гродскага суда (1931). Паэт. Наймалодшы з дзесяці дзяцей Яна і Францішкі з дому Фрончык, уласнікаў невялікай гаспадаркі. Пасля заканчэння школы яго ўзяў пад апеку мясцовы адвакат У. Арнольд. Быў асабістым сакратаром свайго апекуна, займаўся самаадукацыяй. Падчас Першай сусветнай вайны працаваў у Чырвоным Крыжы, пасля быў мабілізаваны ў войска. Падчас Лютаўскай рэвалюцыі абраны камісарам. Вярнуўся ў Польшчу (1919). Пазней – у Гродна, дзе пачаў працаваць сакратаром аддзела пакаранняў пры акруговым судзе (wydział karny Sądu Okręgowego) (з 1921). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego). Сябра фракцыі рэальнай працы (1927–1930). Цікава, што Гродзенская гарадская Рада ў свой час зрабіла для яго выключэнне, выдаўшы дазвол на будоўлю ў межах горада драўлянага дома. Больш за тое, на старонках мясцовай прэсы

абмяркоўвалася пытанне аб выдачы яму Гаспадарчым краёвым банкам чарговага жыллёвага крэдыту, тады як ён ужо меў два пабудаваныя дамы. Адзін з арганізатараў і віцэ-старшыня таварыства аматараў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej w Grodnie), ініцыятар стварэння літаратурнай прэміі імя Э. Ажэшкі. Сябра Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над зняволенымі «Патранат», праўлення таварыства дзяржаўных чыноўнікаў (zarząd koła grodzieńskiego stowarzyszenia urzędników państwowych) (1923–1930), камітэта па барацьбе з дарагавізнай (Komitet dla walki z drożyzną) (1923), павятога праўлення камітэта ЛОПП. Выдаў аднадзёнку «Nad Niemnem: jednodniówka ku czci Elizy Orzeszkowej w XXIII rocznicę jej zgonu» (1933) ды кнігу «Edward Śmigły Rydz: człowiek, żołnierz, obywatel» (1936). Разам з жонкай быў рэдактарам газеты «Głos Polski» (1937–1938), яму належаць шматлікія артыкулы ў мясцовай перыёдыцы. Акрамя таго, выдаваў сезонную газету ў Друскеніках. З пачаткам Другой сусветнай вайны першапачаткова працаваў у спажывецкім кааператыве, але пасля выехаў у Варшаву (1940). Зноў у Гродна падчас нямецкай акупацыі, працаваў у гарадскім упраўленні. Сябра АК. Аднак пасля таго як быў расстраляны П. Хайноўскі – яго непасрэдны кіраўнік у АК, – вымушаны быў пакінуць горад. Пазней – у Любліне (з 1944). Працаваў у газетах «Rzeczpospolita», «Zielony Sztandar», «Dziennik Łódzki» (Лодзь), «Ziemia Pomorska», «Słowo Polskie» (Быдгошч), «Wola Ludu», «Wieś», «Dziennik Ludowy» (Варшава). Актыўны дзеяч Таварыства агульных ведаў і Таварыства польска-савецкага сяброўства (Towarzystwo wiedzy powszchnej, Towarzystwo przyjaźni polsko-radzieckiej). Аўтар успамінаў пра Гродна. Быў двойчы жанаты: са Станіславай Бержанскай (1919) і Марыяй Шчавінскай (1933). Ад другога шлюбу меў дваіх дзяцей: Рышарда (1935) і Тэрэзу (1945). Пахаваны на варшаўскіх Павонзках. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «Komornik z dobrą marką także słynął w Grodnie, Był to Ziemak Stanisław – przezacna figura. On jakoś przykre sprawy tak załatwiał zgodnie, Że nie cierpiał Pan Klient ani procedura. Pan Ziemak był wybitnym, twórczym społecznikiem, Pisał prozą i wierszem przepiękne utwory. Człowiekiem jest postępu i ładu rzecznikiem. Był wydawcą i zbierał należne honory… Ziemaka Stanisława piszmy dzieje dalsze. Pożytecznie w Warszawie obecnie pracuje I marzy o sukcesach, by były najtrwalsze, Przeto «Dziennik Ludowy» dzielnie redaguje. O wielkiej Orzeszkowej pisze artykuły I bilanse jej pracy nadzwyczajnej czyni, Że rządy carskie dla niej życie stale truły, O tym pięknie napisał w «Wiejskiej Gospodyni». Spuścizna jej olbrzymia: pięćdziesiąt dwa tomy, A to jeszcze nie wszystko, co talent jej stworzył, I listów dziesięć tomów, i rozpraw ogromy, Cały obraz przeszłości w jej utworach ożył. Tysięcy do piętnastu listów napisała, Z nich dwanaście tysięcy trzy wojny zniszczyły, A reszta, trzy tysiące, szczęściem ocalała, Takie wielkie sukcesy Orzeszkowej były. Pan Ziemak radzi pisać prozą, nie wierszami, Bowiem wiersze nietrwałe, jak obrazek mglisty, A proza ma dziś prymat między pisarzami I jej sukces ogromny, wszystkim oczywisty. Cóż na to mam powiedzieć? Ano jedno chyba: Każdy pisze to dobrze, co najlepiej umie, A Ziemak sam w sonetach bardzo zgrabny skryba, Bowiem proza i wiersze mają popyt w tłumie». Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 4 (6).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 15. Воп.1. СПр.1. Арк. 13; Там жа 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 37, 221 зв.-222; Там жа Спр. 18. Арк. 100 зв.-101; «Nowe życie». 1924. № 6. Str. 2; «Dziennik Kresowy». 30.8.1923. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 25.3.1930. № 61; «Nowy dziennik Kresowy». 28.09.1931. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 24.6.1932. № 24. Str. 4; «Głos grodzieński».

1938. № 57. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 22.11.1938. № 320; «Dziennik Kresowy». 25.11.1938. № 323; Z. Nałkowska. Dzienniki 1918-1929. Czytelnik, Warszawa, 1980. T. III. Str. 130-132; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 20, 64; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Стр. 306; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363.

**Земак Марыя** // Ziemak (Ziemakowa) Maria, рэдактар газеты «Głos Polski» (разам з мужам С. Земакам) (1937–1938). Адказны рэдактар і выдавец газет «Głos Grodzieński» ды «Głos Nadniemeński» (1938–1939).

**Зімнох Юзаф** // Zimnoch Józef (1891– ?), працаўнік чыгуначнага дэпо, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яданых польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Працаваў у гарадскім упраўленні (zarząd miejski) (на 1937). Магчыма, прафсаюзны дзеяч і сябра народна-нацыянальнага саюза (Związek ludowo-narodowy) (1921). Сябра Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (1921); камітэта па ўпарадкаванні гродзенскіх каталіцкіх могілак (1924). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Wąsaty bardzo człowiek i działacz – gaduła, Józef Zimnoch kochany bardzo w Grodnie słynął, Za serce jego rwały prasa i bibuła I zebrania żadnego nigdy nie ominął. Przemawiał bardzo pięknie, lecz prostymi słowy, Chwalił Polskę wskrzeszoną, aż w sali huczało, Lecz jeszcze lepiej żądał i mocnej budowy, Sala biła mu brawa: – Mów dalej, bo mało! I Zimnoch dalej mówił na tematy nowe, Których nigdy nie brakło w ludnych zgromadzeniach, Czy to sprawy ogólne, czy sprawki miejscowe, Zimnoch wszystkie omawiał w krótkich powiedzeniach... Lecz cóż robić? Pożegnał Polskę miłą w bólu. I na tyrn wygrał dobrze, bowiem jego ona, Jako swego kochanka, mocno żałowała, A Zimnoch już nie płakał, gdy srodze zraniona Polska jego, jak martwa, nad grobem leżała». Жыў па вул. Jagiellońska; Bahnhofstr., 68 (1942). У крыніцах сустракаецца яшчэ Ян Зімнох – сябра Гродзенскага таварыства добраахвотнай пажарнай аховы (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie) (1937). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) намеснікам каменданта пажарнай аховы (Feuerwehr-Kommendant).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 21 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 34; «Nowe życie». 1920. № 4. Str. 31; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Nowe życie». 1921. № 32. Str. 251; «Nowe życie». 1924. № 7. Str. 3; «Dziennik Grodzieński». 1922. № 85. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 51.

**Злоцкі Рыгор** // Złocki Grzegorz (1894, Скідзельская гм.–?), беларускі нацыянальны дзеяч. Малодшы афіцэр. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Пазней – у Гродна (з канца 1918). Сябра Гродзенскай беларускай павятовай Рады, камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, Гродзенскага БНК, афіцэр 1-га Гродзенскага беларускага палка (1918–1919). Сябра БПС-Р. Дыпламатычны кур'ер урада БНР. Дэлегат ад Гродзеншчыны на Беларускай нацыянальна- палітычнай нарадзе ў Празе (26-30.9.1921). Паводле гісторыка Е. Глагоўскай, Р. Злоцкі з'яўляўся агентам польскай дэфензівы. Выступаў у якасці сведкі па «справе 45-ці» супраць С. Барана. Працаваў настаўнікам. Быў накіраваны на настаўніцкія курсы ў Кракаў (каля 1928). Падчас нямецкай акупацыі – загадчык Гродзенскай сталовай шаўцоў. Магчыма, сябра Гродзенскага аддзялення Беластоцкага БНК (1941–1944). Пазней арыштаваны органамі НКУС. Жыў па вул. Brygidzka, 4 (1922).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 104-106.

**Зук Кацярына** // Zuk Katarzyna (1880–?), настаўніца. Скончыла школу ў Гродна, моўныя курсы ў Пецярбургу

і Рызе, летнія курсы для настаўнікаў школ у Гродна (1940). Працавала настаўніцай у вучылішчы ў Рызе (1900–1902), Пецярбургу (1908–1918), у гімназіі Леінвангендлера ў Гродна (1921–1922), Гродзенскай гандлёвай гімназіі (1934–1936), кравецкай гімназіі ў Гродна (1934–1939), настаўніцай нямецкай мовы ў беларускай сярэдняй школе № 5 (з 1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 66-66 зв.

**Зяленская (Зелінская) Зінаіда** // Zieleńska Zinaida (1892, Мінск–?), настаўніца. Руская. Скончыла двухгадовыя курсы. Настаўніца беларускай школы ў Гродна (1924) і школе № 2. Падчас нямецкай акупацыі працавала ў капялюшнай майстэрні. Настаўніца ў гродзенскай беларускай школе № 4 (1944–1945). Жыла па вул. Жвіркі, 7 (на 1944).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 106.

**Зяльвянская Сара** // Zelwianska Sara (1912–?), настаўніца. Скончыла гімназію ў Гродна, настаўніцкія курсы (1932, 1939, 1940), вучылася ў Беластоцкім педінстытуце. Працавала ў школе «Ябне» (1932–1933), школе № 5 (1933–1934), выкладала беларускую і рускую мовы ў сярэдняй школе № 4 і школе № 15 (1940) у Гродна.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 62-62 зв.

**Зянько Вацлаў** // Zeńko Wacław, варатар футбольнай каманды WKS «Grodno»(1936–1939). Газета «Przegląd sportowy» пісала, што ён згуляў 250 матчаў за каманду. Выступаў за зборную Гродна ў таварыскім матчы супраць чэмпіёна Літвы каманды «LSGS» (1939).

*Літ.:* «Przegląd sportowy». 22.06.1939; J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 26, 28.




**Іберскі Эльяш** // Iberski Eljasz, уладальнік кніжнай крамы, склада пісьмовых матэрыялаў (Księgarni i składu materiałów piśmiennych) і прыватнай бібліятэкі (wypożyczałnia). Арганізатар тэатральных прадстаўленняў. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «I takich było wielu w Grodnie miłych sprytów. Oto sprytny Iberski, księgarz zawołany, To iskra, a nie człowiek, wart wielkich zaszczytów, Sympatyczną groteską niech będzie nazwany». Жыў па вул. Napoleona, 1 (1937).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 21.8.1923. Str. 4. «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 10. Str. 2; «Dziennik Grodzieński». 19.2.1922. № 4. Str. 5; L. Sawoniewski.Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 31; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 29.

**Іванова Марта** // Iwanowa Marta, настаўніца першай гуманітарнай гімназіі (1926).

**Іваноўская Вера** // Iwanowska Wera (1906–?), настаўніца. Скончыла гімназію, факультэт матэматыкі і прыродазнаўства Віленскага ўніверсітэта (1936); праходзіла педагагічную практыку пры педагагічным кабінеце ў Кельцах (1937–1938). Займалася прыватным навучаннем (рэпетытарствам) у Гродна (1927–1929), Вільні (1933–1934). Працавала практыканткай у прыватнай гімназіі імя Г. Сянкевіча у Гродна (1936–1937); настаўніцай матэматыкі і фізікі ў гімназіі ў Енджэеве (1938–1939) і сярэдняй школе імя А. Міцкевіча ў Гродна (1939–1940). Выкладала матэматыку і фізіку ў рускамоўнай сярэдняй школе № 11, педвучылішчы (1940). Падчас нямецкай акупацыі гандлявала ў краме. Пасля – настаўніца школы № 5 (на 1944). Жыла па вул. Грандзіцкай, 27 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 41; Там жа Воп. 2. Спр. 10. Арк. 8-8 зв.

**Іваноўскі Станіслаў** // Iwanowski Stanisław (4.12.1887, Лябедка–5.10.1970, Быдгошч), грамадскі дзеяч. Камісар польскага ўраду ў Гродзенскім павеце (1918–1919). Атрымаў першапачаткова хатнюю адукацыю. Пазней вучыўся ў гімназіях у Варшаве і Пецярбургу. Скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1911). Далучыўся да рэвалюцыйнай дзейнасці. Служыў у войску, працаваў стажорам адваката ў Вільні. Зноў мабілізаваны, патрапіў у 112-ы пяхотны полк (1914). У званні паручніка пераведзены на службу ў акруговы суд вайсковага флоту ў Кранштат (1916). Пазней вяртаецца ў маёнтак бацькоў (1918). Адзін з арганізатараў Польскай самаабароны на Лідчыне. Удзельнічаў у польскім з’ездзе павятовых Рад у Гродна. Абраны віцэ-старшынёй Галоўнай рады. Тады ж быў прызначаны камісарам поль-

скага ўрада на Гродзеншчыне (1918). Яму ўдалося выкупіць пры адыходзе нямецкіх частак чыгуначны мост праз Нёман (4.1919). Удзельнік польска-савецкай вайны. Пазней працаваў адвакатам у Вільні і трымаў гаспадарку ў маёнтку Лябедка. Сябра АК, прымаў удзел у баях за Вільню. Быў арыштаваны органамі НКУС, аднак вызвалены (1944). Рэпатрыіраваны ў Польшчу, дзе працягваў адвакацкую практыку (1945). Падчас выканання абавязкаў камісара польскага ўрада ў Гродна жыў па вул. Тэлеграфнай, 24 (1919).

*Літ.:ДАГВ* Ф. 46. Воп. 1. Спр. 201. Арк. 89; K. Iwanowski. Stanisław Iwanowski organizator Grodzieńskiej obrony obywatelskiej 1918-1919. Gdynia, Gdańsk, 2002; Ziemianie polscy XX wieku. Słownik biograficzny. Część 6. Warszawa, 2002. Str. 66-67.

**Івашкевіч Мар'я** // Iwaszkiewicz Marja (27.2.1895, Лунінец–?), суддзя. Каталічка, полька. Бацькі – Канстанты і Вікторыя Урбановічы. Скончыла юрыдычны факультэт Познаньскага ўніверсітэта (1928). Здала экзамен



на суддзю (1931). Стажор акруговага суда ў Наваградку (1928). Судовы асэсар у Гродна (з 18.2.1931). Пераведзена з Гродна ў Слонім (7.1932). Пазней працавала ў Вільні і Пінску. Была звольнена з суда за фінансавыя злоўжыванні (не аддавала пазычаных сродкаў) (1933). Была замужам за Казімірам Івашкевічам (з 1916). Мела дзяцей: Ганну (1917), Казіміра (1922), Альгерда (1925), Мечыслава (1927).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 1038; «Wieczorny kurier Grodzieński». 17.6.1932. № 17. Str. 4.

**Іглеўскі Антоній** // Iglewski Antoni (1.1.1899, Радзеева Куяўскі–27.1.1979, Вроцлаў), вайсковец, афіцэр. Сын Францішка і Юліі з Мазецкіх. Сябра ПАВ (1916). У польскім войску служыў у 5, 14, 31-м палках (1918–1921). Пазней – у Гродна, у 81-м пяхотным палку (1923–1933). Камендант Цэнтра пазавайсковай падрыхтоўкі (1932), супрацоўнік вайсковага будаўніцтва пры ДОК ІІІ. Пасля выхаду ў адстаўку – сябра Гродзенскай гарадской Рады (на 1935), кіраўнік прамысловага аддзела. Рэдактар. Сябра АЗОНа. Удзельнік абароны Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Арганізатар польскага антысавецкага падполля (адзін з псеўданімаў – Баранскі). Камендант Беластоцкай акругі Саюза ўзброенай барацьбы (1940). Арыштаваны органамі НКУС (17.11.1940). Спачатку быў прысуджаны да смяротнага пакарання, аднак пасля вызвалены (12.8.1941). Уступіў у польскія часткі, якія пачалі фарміравацца савецкім камандаваннем, быў кіраўніком канцылярыі. Пазней выехаў з СССР. Уваходзіў у склад спецыяльных аддзелаў польскіх узброеных сіл – т.зв. «ціхацёмных». Кіраўнік упраўлення дыверсійнай службы АК (1944), асобага батальёна «Сушарня» 106-й пяхотнай дывізіі АК. З надыходам Чырвонай Арміі выйшаў з падполля (1945). Быў арыштаваны органамі бяспекі Польшчы і прыгавораны да васьмі год пазбаўлення волі (1948). Вызвалены (1956). У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Oficer «Strzelca» dzielny Iglewski Antoni, Przedwojenny redaktor, wojenny Peowiak, Z mieczami krzyż na piersi i duma na skroni, Nauczyciel wzorowy, waleczny Akowiak. Iglewski, ach, Iglewski wiele kolców dostał W czasie wojny za swoje

zasługi dawniejsze, Gdyż jego los wojenny tak gorąco chłostał, Że mu nadał wawrzyny od dawnych nie mniejsze. Skazany na więzienie i na śmierć skazany, Chociaż walczył z Niemcami w Ojczyzny obronie, Żyć musiał niepewnością, nerwami targany, I go jeszcze po wojnie los uderzył w skronie. Na włosku życie samo nieraz już wisiało, Bo na bakier żyć z losem to sztuka nie lada I chyba cudem jakimś ono ocalało, Gdy tak wielu na wojnie najmężniejszych pada. Miał w walce trzy etapy i każdy kolczasty, Dwa w niepewnych warunkach przez wojnę przebiegły I trzeci przez czas pewien był jeszcze iglasty, Lecz nareszcie jest lepszy, bo jest niepodległy».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 35-36; Polskie podziemie na terenach Zachodniej Ukrainy i Zachodniej Białorusi w latach 1939-1941. T. 2. Warszawa-Moskwa, 2001. Str. 1026-1027; A. Iglewski. Ponar – Wspomnienia z lat 1939-1945. Brześć Kujawski, 2012.

**Ізраэль Леў** // Izrael Lew, яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Сябра партыі Бунд. Адказны рэдактар газеты «Grodner Sztyme». Быў прыгавораны Гродзенскім акруговым судом да двух тыдняў арышту і штрафу за артыкул, у якім абвінавачваў магістрат у намаганні пазбавіцца лаўніка – сябра сацыялістычнай партыі (1933).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 16.3.1933. № 74. Str. 4

**Ільючык** // Iliuczyk, удзельнік беларускага нацыянальнага руху. Служыў у 1-м Гродзенскім беларускім палку, працаваў у контрразведцы. Сябра Гродзенскай павятовай Рады, дабрачыннага аддзела Гродзенскага БНК, кіраўнік гродзенскага каапinduced «Беларусь» (1919–1920). Арыштаваны польскімі ўладамі (21.1.1921).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 112.

**Іочыс Аляксандр** // Ioczys Aleksander, нападаючы футбольнай каманды «WKS Grodno» (на 1936). Паспяхова сумяшчаў гульню у футбол з лёгкай атлетыкай. Выступаючы ўжо за каманду «KWP Katowice», стаў сябрам зборнай каманды Польшчы па лёгкай атлетыцы і рэкардсменам краіны па бегу на 110 м з перашкодамі (1937–1939).

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 22.



**Йобель Казімір** // Jobell Kazimierz (1888–пасля 1952), вайсковец. Арыштаваны расійскімі ўладамі (1907). Пазней – у Бельгіі (з 1908). Служыў у Польскіх легіёнах і ПАВ (1916–1917); афіцэр народнай міліцыі (1918–1919). Намеснік шэфа Палітычнай секцыі II-га аддзела 4-й арміі (па іншых звестках – рэферэнт па культуры і друку секцыі дэфензівы 5-й арміі) (1920). Кіраўнік самастойнага інфармацыйнага аддзела пры ДОК III Гродна, «спецыяліст» па БСРГ (1924–1927, 1928). Старшыня праўлення Саюза стральцоў (Związek Strzelecki) (1930). Рэферэнт па справах нацыянальнасцей Беластоцкага ваяводскага ўпраўлення (1930-я).

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 21.1.1930. № 6; Sylwester Wojewódski przed Sądem Marszałkowskim. War., Wydawnictwo Sejmowe, 1997. Str. 258.



**Кабылецкі Мечыслаў** // Kobyłecki Meczysław, кіраўнік гродзенскай турмы (1925–1929). Сябра праўлення вяслярнага клуба «Нёман» (1926), віцэ-камендант вяслярнай прыстані (1929). Рулявы веславой лодкі-чацвёркі клуба «Гродна», якая атрымала перамогу падчас спаборніцтваў на Нёмане на дыстанцыі 2 тыс. м. Пазней – кіраўнік турмы ў Любліне.

*Літ.:* «Nowe życie». 1926. № 36; «Nowe życie». 1929.06.23; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 12.08.1931; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 281, 333.

**Кабылка Сымон** // Kobyłko Szymon (каля 1887–?), пекар. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Zduńskiej, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. – № 135. Str. 3.

**Кавальскі Адам** // Kowalski Adam (23.12.1896, Жэшаў – 3.3.1947, Эдынбург), журналіст, кампазітар, акцёр, паэт, вайсковец, капітан. Быў унукам паўстанца 1863 г. Пасля сярэдняй школы паступіў у настаўніцкую семінарыю. Сябра Саюза стральцоў (1912). Служыў у Польскіх легіёнах. Тады ж дэбютаваў у якасці паэта. Напісаў вялікую колькасць вершаў і песень вайсковай тэматыкі. Быў цяжка паранены ў бітве пад Крываплотамі. Пазней – у польскім войску (з 1918). Шэф асветніцкай секцыі пры 2-й арміі, кіраўнік метадычна-асветніцкіх курсаў для афіцэраў у Вільні. Рэдактар вайсковага часопіса «Reduta». Заснавальнік і кіраўнік Жаўнерскага ўніверсітэта (Uniwersytetu Żołnierskiego) у Гродна. Кіраўнік гродзенскага вайсковага тэатра, удзельнік «гродзенскай» літаратурнай серады ў Вільні (1929). Газета «Przegląd Kresowy» адзначала, что яму ўласціва «энергічнасць, ініцыятыва і амбіцыі». Пазней кіраваў аддзелам асветы пры Міністэрстве вайсковых спраў; з'яўляўся галоўным рэдактарам «Żołnierza Polskiego» і «Polski Zbrojnej». З пачаткам Другой сусветнай вайны быў інтэрнаваны ў Румыніі, адкуль здолеў трапіць у Вялікабрытанію (1939). Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў. Выдаў «Piosenki niefrasobliwe o Grodnie i Druskienikach» (1926). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскага пра яго захаваліся наступныя радкі: «O trochę ciepłych słówek prosi mąż rycerski, Autor «Lutni w tornistrze» i człowiek morowy, Bo w Grodnie on założył nam Teatr Żołnierski, Miły Adaś Kowalski i kompan wzorowy...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 17 зв.; «Gazeta Polska ziemi Grodzieńskiej». 14.12.1929 № 46; «Przegląd Kresowy». 7.2.1930. № 21; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 21; http://www.bibliotekapiosenki.pl/Kowalski_Adam.

**Кавальскі Юзаф** // Kowalski Józef (каля 1901–?), цясляр. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Жыў па вул. Piłsudskiego, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Каган Саламон** // Kahan Salomon (каля 1896–? ), прамысловец. Нейкі Каган быў гаспадаром тытунёвай фабрыкі ў Гродна (на 1922). Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Wapńia, 1; Hoovera, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4.

**Кажанеўскі Антоній** // Korzeniowski Antoni, кіраўнік пошты (1920-я). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939).

*Літ.:* «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Казакевіч Казімір** // Kozakiewicz Kazimierz (1911–20.10.1942, (15.7.1943 (?)), в. Навумавічы, форт № 2), лекар-дэрматолаг. Практыкаваў у Гродна. Капітан запасу польскага войска. Падчас вайны лекар АК. Нейкі Казімір Казакевіч падчас нямецкай акупацыі працаваў старшым агароднікам (starszy ogrodnik) пры гарадской управе. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 5; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 150; J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 204; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Казінскі Пётр** // Koziński Piotr, інжынер, гарадскі архітэктар (inżynier, architekt miejski). Выступіў у якасці эксперта пры камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Адзін з кіраўнікоў будоўлі дзіцячага дома на Фарштаце («Dom Dzecka» na ul. Lelewela) (1938).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; «Dziennik Kresowy». 16.7.1938. № 192.

**Казлоўскі** // Kozłowski, старшыня Польскага крэсовага банка (Polskiego banku kresowego).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 13.9.1923. Str. 4.

**Казлоўскі Віктар** // Kozłowski Wiktor (25.2.1866–2.11.1925, Гродна), праваслаўны святар. У Гродна, хутчэй за ўсе, прыехаў з Львова пасля таго як быў звольнены з вайсковай службы. Мітрафорны настаяцель Гродзенскага кафедральнага сабора (1923). Арганізаваў пераход праваслаўнай службы на новы стыль, чым выклікаў адмоўнае стаўленне мясцовай паствы. Сябра праўлення Сафійскага брацтва. Памёр ад сардэчнага прыступу (магчыма, пасля чарговай скаргі з боку вернікаў).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 214; В. Черепица. Гродненский православный некрополь. Гродно, 2001. Стр. 83; В. Черепица. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 243.

**Казлоўскі Людаслаў Станіслаў** // Kozłowski Ludosław Stanisław (10.11.1910, Лодзь–16.5.1979, Варшава), акцёр. Пачаў тэатральную кар'еру з віленскага тэатра на Пагулянцы (1937–1938). Акцёр гродзенскага тэатра (1939–1941). Падчас нямецкай акупацыі застаўся ў горадзе, аднак у тэатры не працаваў. Удзельнік Варшаўскага паўстання. Пасля вайны выступаў у тэатрах Торуні, Лодзі, Варшавы і інш.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 346.

**Казлоўскі Расціслаў** // Kozłowski Rostisław, футбаліст. Паўабаронца каманды 76-га пяхотнага палка (1932); пазней выступаў за клуб «Cresovia». Падчас аднаго з матчаў быў пажыццёва пазбаўлены капітанскай павязкі

і дыскваліфікаваны на шэсць месяцаў за знявагу суддзі. Гуляў за зборную Гродна падчас матчу супраць чэмпіёна Літвы каманды «LSGF» (6.1939). Браты Казлоўскія, акрамя таго, з'яўляліся вядучымі баскетбалістамі Гродна (1920–1930-я). Магчыма, кіраўнік баскетбольнай секцыі (sekcja piłki ręcznej) клуба GKS «Cresovia».

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228; J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 15-28; «Гродно-93. История». Режим доступа http://www.grodno93.org/?120_2 Дата доступа 2013.01.28.

**Каламейц К.** // Kolomejc K., сакратар Цэнтральнага ўкраінскага камітэта ў Гродна (1935). Арганізатар вячэры, прысвечанай памяці С. Пятлюры, якая была аб'яднана з мерапрыемствамі ў гонар маршала Ю. Пілсудскага.

*Літ.:* Em. Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577.

**Калянкевіч Уладыслаў** // Kalenkiewicz Władysław (1864, Гродна–2.12.1938, Гродна), лекар. Доктар медыцыны. Грамадска-палітычны дзеяч. Паходзіў з сям'і землеўласніка Ваўкавыскага павета. Скончыў гімназію ў Гродна (1883); медыцынскае аддзяленне Дэрпцкага ўніверсітэта (1890). Сябра моладзевых польскіх нелегальных арганізацый, сябра карпарацыі «Палонія». Працаваў у Вене, дзе атрымаў дыплом доктара медыцыны, у Самары падчас эпідэміі халеры, старшым лекарам на Байкальскай чыгунцы (1889–1905). Вольнапрактыкуючы лекар у Гродна (з 1905). Падчас Першай сусветнай вайны – у войску. Пазней зноў вяртаецца ў Гродна (1918). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра арганізацыйнага камітэта Хрысціянскага дэмакратычнага саюза (11.1918). Абраны прадстаўніком ад Гродзеншчыны на польскі Сейм (1919). Радны Гродзенскай гарадской Рады. Старшыня Гродзенскага народна-нацыянальнага саюза (związek ludowo-narodowy) (1921) у польскім войску (1920). Старшыня мясцовай хрысціянска-дэмакратычнай арганізацыі. «Адышоў ад нас сапраўдны грамадзянін, – заканчваўся некралог у яго гонар, – добры паляк, адметны лекар, які ўсё сваё жыццё прысвяціў на карысць чалавечым цярпенням». Пахаваны на фарных могілках.

*Літ.:* «Nowe życie». 18.12.1918. № 1; «Nowe życie». 1920. № 4. Str. 31; «Nowe życie». 1921. № 32. Str. 251; «Dziennik kresowy». 6.12.1938. № 334 Str. 4; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 99.

**Калецкі Аляксандр** // Kalecki Aleksander (22.10.1896, Гродна–1942, Луцк), лекар. Закончыў медыцынскі факультэт універсітэта ў Йене (1925). Працаваў у клініках у Йене і Берліне. Пазней настрыфікаваў дыплом у Віленскім універсітэце Стэфана Баторыя. Атрымаў права на практыку ў Польшчы (1928). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1934–1939). Падчас нямецкай акупацыі – у гета ў Луцку. У Гродна жыў па вул. Brygidzka, 19 (1937).

*Літ.:* «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 4. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2011. Str. 208.

**Калецкі Станіслаў**// Kolecki Stanisław (1876–?), рэферэнт камунальнага і статыстычнага аддзела магістрата. На выбарах у Сейм вылучаўся ад спіса Unia narodowa-państwowa (1922). Выдаў некалькі статыстычных зборнікаў: «Kronika miasta Grodna» (1928; 1929) і «Informator Grodna i Grodzienszczyzny» (1926). Аўтар артыкула «Działalność samorządu miejskiego w Grodnie (1919–1921)». На старонках газеты «Echo» абвясціў аўкцыён на дзве каштоўныя кнігі са сваёй бібліятэкі на карысць прытулка (1923). Рэдактар газеты «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (1927). Жыў па вул. Bernardyńska, 3 (1922).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 143; «Echo Grodzieńskie». 19.1.1923. № 14. Str. 3; Т. Казак. Да-

кументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 354.

**Каліновіч Аляксандр** // Kalinowicz Aleksander (12.12.1893–9.1.1952), святар. Скончыў праваслаўны тэалагічны аддзел Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў дырэктарам інтэрната для студэнтаў. Праваслаўны вайсковы капелан у Гродна (1937). Служыў у гарнізоннай царкве Аляксандра Неўскага. Супрацоўнік Праваслаўнага навукова-выдавецкага інстытута ў Гродна (Prawosławnego Instytutu Naukowo-Wydawniczego). Актыўна супрацоўнічаў з Таварыствам праваслаўных палякаў. Насупраць забароне духоўных улад вынес з прыгатаванага да зносу храма Аляксандра Неўскага Святыя дары, антымінс, прастол (10.5.1938). Пазней з'ехаў у Варшаву (1939). Быў дырэктарам праваслаўнага тэалагічнага ліцэя пры Варшаўскім універсітэце. Служыў святаром у парафіі Харастыцы на Холмшчыне (1941–1951). Займаў пасаду рэктара праваслаўнага ліцэя, а пасля – Варшаўскай духоўнай акадэміі (1951). Выкладаў лацінскую мову і тэалогію. Мітрафорны протаіерэй.

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 30, 47; M. Kalina. Polonizacja Cerkwi prawosławnej w wojew. białostockim (1918-1939) // www.kamunikat.org; http://zarubezhje.narod.ru/kl/k_182.htm.

**Калінскі Міхал** // Kaliński Michał (1896–?), настаўнік. Здаў экзамен у Варшаўскім універсітэце. Праслухаў курс беларускай і рускай моў (1940). Працаваў у прагімназіі Грыншпона ў Рыпіне (1917–1923), вячэрняй школе ў Варшаве (1923–1925), гімназіі Хволеса ў Беластоку (1925–1926), гімназіі Фірстэнберга ў Бендшы (1928–1930). Пасля – у Гродна, настаўнік агульнай коэдукацыйнай гімназіі (1930–1940). Працаваў выкладчыкам матэматыкі ў рускамоўнай сярэдняй школе № 7 у Гродна (з 15.1.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 н. Арк. 29-29 зв.

**Калінскі Томаш** // Kaliński Tomasz (1892, Крынкі–6.1941), ксёндз. Атрымаў сан святара па сканчэнні Віленскай духоўнай семінарыі (1919). Вікарый пры фарным касцёле ў Гродна. Сябра праўлення Каталіцкага дабрачыннага таварыства (1921). Прэфект жаночай і мужчынскай настаўніцкіх семінарый (1920–1926), законавучыцель і капелан капліцы Св. Станіслава Косткі ў мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча (1921–1923). Актыўны ўдзельнік харцэрскага руху (з 1922). Капелан сясцёр-назарэтанак і рэктар Брыгіцкага касцёла (1923–1926). Служыў у Нарэўцы (з 1926), Міжырычах (Międzyrzecz) на Ваўкавышчыне (1937). З данясення паліцыі: «Беларус… Карыстаецца вялікім даверам сярод мясцовага насельніцтва» (1925). Расстраляны адступаючымі савецкімі жаўнерамі. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Wybitny kaznodzieja, olbrzymieć wysoki, Ten ksiądz Tomasz Kaliński, co tłumy porywał, W Narewce dostał wrogi po to cios głęboki, Aby Boga i Polski imienia nie wzywał».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 20. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 223; «Nowe życie». 1921. № 20. Str. 155; J. Bońkowski. Tropami druha «Huragana» czyli Harcerstwo polskie na Białorusi, Międzyrzecz 2009. Str. 13-15; T. Krahel. Męczennicy archidiecezji wileńskiej XX wieku, «Wiadomości Kościelne Archidiecezji Białostockiej». 1999. № 2. Str. 160; T. Madała. Polscy księża katoliccy w więzieniach i łagrach sowieckich od 1918 r. Lublin, 1996. Str. 74.

**Калмановіч Меер** // Kałmanowicz Mejer (каля 1901–?), вяжор (гандлёвы прадстаўнік). Сябра Гродзенскага аддзялення Саюза яўрэяў – удзельнікаў барацьбы за незалежнасць Польшчы (Związek Żydów uczestników walk o niepodległość Polski) (на 1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад гэтай жа арганізацыі (1939). Жыў па вул. Wróblewskiego, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17 зв.; «Dziennik kresowy». 20.4.1939. № 108. Str. 6.

**Камандэр** // Komander, школьны інспектар (на 1930). Сябра арганізацыйнага Камітэта па

святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага Таварыства апекі над мастацтвам, культурай і прыроднымі каштоўнасцямі «Лехія» (zarząd oddziału grodzieńskiego wojewódzkiego Towarzystwa opieki nad sztuką, kulturą i zabytkami przyrody «Lechia») (1930).

*Літ.:* «Nowy dziennik Kresowy». № 330. 28.11.1930. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 11.4.1930. № 76.

**Камінскі Міхал** // Kaminski Michał (?–7.1941, Гродна), настаўнік фізікі і матэматыкі ў яўрэйскай рэальнай гімназіі. Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай разам з іншымі прадстаўнікамі мясцовай яўрэйскай інтэлігенцыі. Жыў па вул. Bonifraterska, 7 (1937).

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 111.

**Канапацкая Апалонія** // Konopacka Apolonia (3.4.1904, Гродна – 11.11.1982, Варшава), дырэктар школы. Паходзіла з роду Граеўскіх. Жонка



Юзафа Канапацкага (1902–1945). Апекавалася харцэрскай дружынай імя Э. Плятэр. Падчас нямецкай акупацыі займалася тайным навучаннем, дапамагала сем'ям рэпрэсаваных асоб. За ўдзел у польскім руху супраціву трапіла ў лагер Равенсбрук (Ravensbrück) (лагерны нумар – 30793) (7.1941), а потым Берген-Бельзэн. З'яўлялася сябрам канспіратыўнай групы «Муры» («Mury»). Пасля вызвалення кароткі час заставалася ў Швецыі. Пасля вярнулася ў Польшчу (11.1945). Працавала ў Міністэрстве асветы. Пахавана на Павонзках.

*Літ.:* Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328; Гл. Рэжым доступу: http://jtajchert.w.interia.pl/zyciorysy_wiezniarek_obozow_konc.htm. Дата доступа 20.08.2013; http://70.33.246.170/~konop126/pagespl/drzewo/376.html Дата доступа 04.07.2014.

**Кантрым Вацлаў** // Kontrym Wacław (1888, Гродна–?), настаўнік. Скончыў гімназію, Пецярбургскі ўніверсітэт. Меў дыплом Варшаўскай настаўніцкай семінарыі. Настаўнік матэматыкі ў гімназіі імя А. Міцкевіча (1921–1931); школе № 5 (1931–1940). З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Наогул, хаця як настаўнік вельмі працавіты, аднак, дасягае вельмі пасрэдных вынікаў» (1934). Скончыў курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў (1939; 1941). Настаўнік гродзенскай школы № 1 (з 1.9.1940). Падчас нямецкай акупацыі, магчыма, санітарны інспектар. Настаўнік фізікі і матэматыкі ў школе № 2 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8; Там жа Ф. 127. Воп. 1, Спр. 10. Арк. 75; Там жа Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 17-17зв.; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Кап Міхаіл** // Kapp Michał, настаўнік гісторыі ў гімназіі імя А. Міцкевіча. Атрымаў ступень доктара філасофскіх навук Віленскага ўніверсітэта (24.2.1927). Сябра павятовага Камітэта фізічнага выхавання і праўлення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (на 1927). З'яўляўся адказным рэдактарам гродзенскага часопіса «Nasza Ziemia» (1927, № 2-15). Аўтар артыкула, прысвечана-

га гісторыі гімназіі. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Kapp Michał – to myśliciel, filozof formalny, Wiedzy ścisłej doktorat i dyplom posiada, I wiedzą tą obdarza zespół maturalny I publicznie w odczytach tajemnice bada. To człowiek sympatyczny i umysł głęboki, Lubi z każdym gawędzić w swej wiedzy dziedzinie, I Kanta lubi bardzo za polot wysoki, I naszego Struwego, który wielce słynie».

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 20.5.1927. № 137; «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; M. Kapp. Zarys dziejów państwowego gimnazjum męskiego im. A. Mickiewicza w Grodnie // Państwowe gimnazjum męskie im. Ad. Mickiewicza w Grodnie. Drugie sprawozdanie za rok szkolny 1928/29. Grodno, 1929. Str. 5-21; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 70.

**Капелман Шэпсель** // Kopelman Szepsel, настаўнік. Меламед (1915). Дырэктар яўрэйскай аднакласнай школы (вул. Kozacka, 12) (1919–1922); настаўнік у агульнай школе «Талмуд-Тора«II (1923–1932). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яднання сацыялістычнага блока Бунд, Паалей-Цыён і аб'яднання С.С. і Я.С. (Zjednoczonego Socjalistycznego bloku Bundu, Poalej Cion i zjednoczonych S.S. i J.S.) (1919–1927). Сябра Камітэта па барацьбе з дарагавізнай (Komitet dla walki z drożyzną) (1923). Жыў па вул. Jezuicka, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк.16; Там жа Воп. 2. Спр. 25а. Арк. 1, 3; «Dziennik Kresowy». 30.8.1923. Str. 4. Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125.

**Каплан Гдалья** // Kapłan Gdalja (каля 1878–?), купец. Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (1938–1939). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Пазней, магчыма, выкладчык сярэдняй школы № 7. Жыў па вул. Bienieckiego/ Nowa, 4; Brygidzka, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61; Там жа. Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20 зв.; Там жа 127. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 13.

**Каплан Шабсай (Шэпсель)** // Kapłan Szabsaj (1894–7.1941, Гродна), настаўнік. Праслухаў тры курсы Маскоўскага ўніверсітэта, курсы па гуманістыцы ў Варшаве, настаўніцкія курсы па беларускай мове (1940). Працаваў у розных гродзенскіх установах адукацыі: прыватнай яўрэйскай гімназіі (1918–1922), школе «Тарбут» (1922–1939), настаўніцкай семінарыі «Тарбут» (1931–1933), выкладаў матэматыку і геаграфію ў сярэдняй школе № 7 у Гродна (з 15.1.1940). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай. Жыў па вул. Horodniczańska, 27 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127, Воп. 2, Спр. 1 н, Арк. 30 – 30 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Карашэвіч-Такаржэўскі Міхал** // Karaszewicz-Tokarzewski Michał (5.1.1893, Львоў – 22.5.1964, Касабланка), вайсковец, генерал. Закончыў гімназію ў Драгобычы. Вучыўся ва ўніверсітэтах у Львове і Кракаве. Сябра ППС, Саюза актыўнай барацьбы, Саюза стральцоў, ПАВ, служыў у Польскіх легіёнах. Удзельнічаў у польска-ўкраінскай вайне, Віленскай аперацыі і інш. Атрымаў званне генерала (1924). Камандуючы ДОК III у Гродна (11.1935 –7.1936). Між іншым, выслаў ліст да епіскапа Антонія з тым, каб у вайсковых частках нядзельныя і святочныя пропаведзі адбываліся па-польску (5.1936). Пазней камандаваў ДОК у Львове і Торуні. Удзельнічаў у вераснёўскай кампаніі (1939). Адзін з кіраўнікоў польскага падполля ў Львове. Арыштаваны органамі НКУС (3.1940). Пазней служыў у арміі Андэрса. Пасля Другой сусветнай вайны застаўся ў Брытаніі. Тэасоф, масон. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Generał o podwójnym i słynnym obliczu: Karaszewicz – to jedno, Tokarzewski – drugie, Dowódcą był korpusu po

Litwinowiczu, Chociaż w Grodnie był krótko, zasługi ma długie. A w czasie wojny słynął, jako wódz wzorowy, Bowiem siły krajowe on organizował, To pierwszy w walce z wrogiem dowódca AK-owy, Toteż wdzięczność głęboką w narodzie zachował».

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 20-21; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 35; M. Jackiewicz. Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w. – 1945. Bydgoszcz, 2010.

**Карвоўскі Ільдэфонс** // Karwowski Ildefons (23.1.1894, Лукаў-Падляскі – 1940, Мінск), лекар-дантыст. Нарадзіўся ў праваслаўнай сям'і. Вучыўся ў гандлёвай школе ў Лодзі, у Пултуску, на медыцынскіх факультэтах Варшаўскага і Растоўскага ўніверсітэтаў. Атрымаў дыплом дантыста (1923). Служыў у 4-й дывізіі генерала Л. Жаліґоўскага, 28-м пяхотным палку і інш. Капітан (1924). Кіраўнік стаматалагічнага кабінета пры III-м акруговым шпіталі ў Гродна(з 1926). Арыштаваны органамі НКУС у сваёй кватэры (1939). Пазней пераведзены ў Мінск, дзе і памёр. Жыў па вул. Napoleona, 10.

*Літ.:* J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 172-173; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Кардас Алена** // Kardes Helena (1903, Гродна–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю (1924). Дырэктар школы № 2 (на 1940). Падчас акупацыі працавала на кафельным заводзе. Завуч і настаўніца школы № 2 (на 1944). Жыла ў раёне Аструвак у Гродна (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37.

**Кардэль Часлаў** // Kardel Czeslaw, ксёндз пры Гродзенскам фарным касцёле (1924).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр 86. Арк. 90-90 зв.

**Каркуць Войцех** // Korkuć Wojciech, радны Гродзенскай гарадской Рады.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 281. Арк. 189 зв.-190.

**Карлінскі Караль (Кнаке-Завадскі К.)** // Karliński Karol (15.11.1882, Плоцк–?, Вільня), акцёр. З акцёрскай сям'і. Пачаў выступаць у Народным і іншых кракаўскіх тэатрах (1902–1905). Выступаў у Калішы, Вільні, Кракаве, Варшаве. Акцёр гродзенскага тэатра (1922–1923).

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 286.

**Карноўская Эдварда** // Kornowska Edwarda (13.10.1902, Варшава–31.10.1971, Варшава), акртыса. Вучылася на прыватных лекцыях дыкцыі і дэкламацыі. Тэатральную працу пачала ў трупе Верхнесілезскага выязнога тэатра (1921). Артыстка Гродзенскага гарадскога тэатра (1921–1923; 1924 –1925). Працавала ў Пражскім тэатры ў Варшаве (1923–1924), выязной трупе Паморскага тэатра (1925–1926), выступала ў Варшаве. На нейкі час спыніла тэатральную дзейнасць. Пасля Другой сусветнай вайны працавала суфлёрам.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 329.

**Карны Вінцэнт** // Karny Wincenty (каля 1871 – 22.2.1932), кіраўнік гродзенскай пажарнай службы (1920-я). У перыяд Расійскай імперыі ўзначальваў добраахвотную пажарную каманду, сапраўдны сябра Гродзенскага імператарскага добраахвотнага пажарнага таварыства. Нейкі час жыў у Санкт-Пецярбургу. Вярнуся ў Гродна ў міжваенны перыяд і ўзначаліў пажарную ахову горада. «Przegląd kresowy» прысвяціў яму сатырычны верш: «Odznaczeń huk, galonów moc... U Kota tkwił i w dzień i w noc Dygnitarz ten pożarny Miał gust i gest, szpycował fest Niejedna z dam z nim miała kram, Bo wszak on był... bezkarny...» Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў: «I długie lata w Straży Pożarnej pan Karny Swą komendę nad ogniem zwycięsko sprawował, Był jeno wielce straszny na wszelki dym czarny, Przeto miłość

niezwykłą wśród grodnian zachował». Арганізатар Еўхарыстычнага кангрэса, сябра Чырвонага Крыжа. Паводле «Gazety grodzieńskiej», «адна з найбольш папулярных постацей» у Гродна. Пасля яго смерці адна з мясцовых газет пісала: «Затрымка ў назначэнні новага начальніка гродзенскай пажарнай аховы з прычыны ўшанавання памяці Карнага з'яўляецца вельмі шкоднай для супрацьпажарнай бяспекі горада. Не трэба забываць, што набліжаецца лета. На карысць горада было б, каб начальнікам абралі ўраджэнца Гродна, каб ён добра арыентаваўся ў горадзе і ведаў усе вуліцы на пералік».

*Літ.:* «Nadniemeński kurier polski» 11.11.1924 № 101. Str. 4; «Przegląd kresowy». 31.1.1930. № 15. Str. 4; «Gazeta grodzieńska». 23.2.1932. Str. 8. «Gazeta grodzieńska». 24.2.1932. Str. 8; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 17.

**Карон Ехуда** // Karon Yehuda, сябра Гродзенскай гарадской Рады ад Яўрэйскага дэмакратычнага блока (1919–1927). Сябра аддзялення дабрачыннага таварыства «ORT» (1920).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6/

**Карульская Ядвіга** // Korulska Jadwiga, грамадская дзеячка, паэтэса. Рэдактар «Nowego Dziennika Kresowego» (1925–1939). Старшыня жаночага аддзела Саюза стральцоў, сябра павятовага Камітэта фізічнага выхавання (1927), праўлення Гродзенскага аддзялення Таварыства Польскага Белага Крыжа (1930-я). У кнізе «Saga o Grodnie» Л.Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Cóż powiem o Korulskiej? A powiem niemało Słowackiego słowami kiedy ją pochwalę, Bo pióro jej poety rytmem pracowało Wieszczym duchem służyło w natchnienia zapale». Жонка Т. Карульскага.

*Літ.:* «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 58.

**Карульскі Тадэвуш** // Korulski Tadeusz (22.1.1895, Пётркаў-Трыбунальскі–?), грамадскі дзеяч. Сын Стэфана і Елны Асташэўскай. Скончыў філалагічную гімназію ў Пётркаве-Трыбунальскім. Сябра Саюза стральцоў (з 1913), ПАВ (з 1915). Служыў у польскім войску (да 1921). Паручнік запасу. Заснавальнік і рэдактар «Dziennika Kresowego» (з 1923). Рэдактар «Nowego Dziennika Kresowego» (1925–1939), «Gazety Grodzieńskaj» (1931–1932). Акрамя таго, выдаваў сезонныя газеты ў Друскеніках. С. Мацкевіч, журналіст віленскага «Słowa», у адным са сваіх артыкулаў, прысвечаных Гродна, пісаў: «Dziennik Kresowy» – вельмі добра зробленая мясцовая мутацыя нейкага лодзінскага выдання. Рэдактарам «Dziennika» з'яўляецца пан Карульскі, чалавек з сапраўдным тэмпераментам журналіста». Сябра арганізацыйнага Камітэта па святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., праўлення Таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych), Таварыства польскіх купцоў (Stow. Kupców polskich) (1935), праўлення пажарнай аховы і інш. Прысуджаны да месяца турмы за тое, што знясловіў афіцэра польскага войска (1927), меў судовую справу з лекарам Тальгеймам, С. Мерам і інш. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму радкі: «Pan Tadeusz Korulski z «Dziennikiem Kresowym» I Tadeusz Żmudziński s kulawym «Borutą» Pragnęli miasto trzymać w ordynku surowy I kierować w nim wszystkim pod wlasną batutą». Жыў па вул. Dominikańska, 21.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 52. Воп. 1. Спр. 542. Арк. 23 зв.; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 304. Str. 4; «Nowy dziennik Kresowy». № 330. 28.11.1930. Str. 4; «Słowo». 18.01.1936. № 17. Str. 8; Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. Dodatek do urzędowego wykazu druków. Rocznik V. Warszawa, 1933. Str. 5; «Ostatnie wiadomości Groszieńskie». 10.12.1935. № 332. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 9.11.1938. № 307; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 166; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 86; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 8.

**Карун** // Korun, рэдактар газеты «Dziennik Kresowy» (1933).

**Карчынскі Іван** // Korczyński Iwan (25.06.1864, в. Тальная Уманскага пав. Кіеўскай губ. – 2.07.1935, Алітус), праваслаўны святар, грамадскі дзеяч. Скончыў Кіеўскую духоўную семінарыю (1884). Інспектар царкоўнапрыходскіх школ Гродзенскай праваслаўнай епархіі, ключнік і протаіерэй Барысаглебскага манастыра ў Гродна (1904), сябра праўлення гродзенскага Сафійскага праваслаўнага брацтва, адзін з заснавальнікаў і старшыня Гродзенскага царкоўна-археалагічнага камітэта. Падчас Першай сусветнай вайны знаходзіўся ў эвакуацыі. Вярнуўся ў Гродна (канец 1918). Сябра Гродзенскай губернскай беларускай управы, адзін з заснавальнікаў таварыства «Бацькаўшчына». Быў кааптаваны ў склад літоўскай Тарыбы. Паводле Ю. Ядкоўскага, знішчыў лацінскі надпіс на мармуровай табліцы ў Фары Вітаўта, каб аспрэчыць правы каталікоў на гэты гродзенскі храм. Пазней – у Літве.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 119-121; А. Горны. Святар, гісторык, патрыёт: старонкі жыцця і творчасці протаіерэя Іаана Карчынскага // Гродненские епархиальные ведомости. 2012. № 2. С.т 14-17; Там жа № 3. Ст. 17-19.

**Карчэўскі З.** // Korczewski Z., дырэктар мужчынскага рамеснага вучылішча будаўнікоў па вул. Prochowa, 4 (1926).

*Літ.:* Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 336.

**Касікоўскі Тадэвуш** // Kosikowski Tadeusz, гродзенскі школьны павятовы інспектар (1927). Сябра павятовага Камітэта фізічнага выхавання (1927).

*Літ.:* «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4.

**Касінская Яніна** // Kosińska Janina (1906–?), настаўніца-паланістка. Скончыла гімназію ў Ковелі, універсітэт. Працавала настаўніцай у гімназіі ў Варшаве (1932–1935), гаспадарчай школе ў Цішбашове (?) (1936–1937), гімназіі ў Друі (1937–1938). Кіраўнік філіяла гімназіі імя Э. Плятэр у Гродна (1938). Пазней – дырэктар сярэдняй школы № 19 (з 15.1.1940). Пасля вайны жыла і працавала каля Гданьска. Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Pod Gdańskiem u Zaliwskich Kosińska wykłada, Pani, dzielna Janina z grodzieńskiej Macierzy, Tam, jako polonistka, nowy teren bada, I życzliwość do Grodna na Zachodzie szerzy…»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 49–49 зв.; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 72; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45.

**Касоўскі Ашэр** // Kosowski Aszer, прадпрымальнік, грамадскі дзеяч. Гаспадар млына і гарбарні. Сябра камісіі па справах цэн на тавары першай патрэбы, павятога праўлення ЛОПП. Загінуў у гродзенскім гета.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1.Спр. 282. Арк. 4 зв.; Там жа Спр. 285. Арк. 55; «Dziennik Grodzieński». 26.2.1922. № 10. Str. 5; «Dziennik Grodzieński». 4.3.1922. № 15. Str. 1; «Dziennik Grodzieński». 9.3.1922. № 19. Str. 3; «Reduta». № 10. Str. 8.

**Касперскі Леанід (Леанідас)**// Kasperski Leonid (16.8.1907, с. Угрын Слонімскага павета–1993, Сан-Францыска), святар. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю. Вучыўся на гістарычным і багаслоўскім факультэтах Варшаўскага ўніверсітэта (скончыў у 1934). Дыякан (па іншых крыніцах – святар-магістр) (з 1929). Праваслаўны вайсковы капелан у Гродна. Адзін з ідэолагаў т.зв. «праваслаўных палякаў». Дырэктар праваслаўнага навукова-выдавецкага інстытута ў Гродна (з 7.12.1937). «Нам выпаў гонар, – казаў ён падчас свайго выступу на адкрыцці інстытута, – прымаць удзел не толькі ва ўзмацненні сваёй Святой веры, не толькі ў пашырэнні польскай экспансіі на Усход, але і ва ўмацаванні межаў Польскай Рэчы Паспалітай». Выступіў у гарадскім тэатры з дакладам «Новыя прававыя асновы польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы»

(10.2.1939). Аўтар шматлікіх артыкулаў на старонках часопіса «Przegląd Prawosławny». Сябра Беластоцкага ваяводскага Антыкамуністычнага камітэта. Протаіерэй (з 1944). Пазней – у эміграцыі. Духоўна падтрымліваў праваслаўных вернікаў у лагерах Дзі-Пі ў Нямеччыне. Настаяцель Свята-Васкрасенскага рускага праваслаўнага сабора ў Ванкуверы (Канада) (1949–1952). Пасля ў ЗША. Служыў у царкве Хрыста Збавіцеля ў Сан-Францыска (1952–1981).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 16.2.1939. № 47. Str. 4. В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. ІІ. Гр., 2005. Стр. 32, 59, 66, 67, 69; http://www.holyres.org/?page_id=195; Религиозные деятели русского зарубежья // http://zarubezhje.narod.ru/kl/K_482.htm; Выпускники Богословского (православного) факультета Варшавского университета 1928 – 1935 гг. // http://www.petergen.com/bovkalo/duhov/warszawa.html.

**Каспшак Якаў** // Kasprszak Jakub (1889–?), настаўнік матэматыкі. Скончыў педвучылішча і Варшаўскі педагагічны інстытут (1923–1925). Працаваў настаўнікам у Радзіне (1921–1923), Любаве (1925–1927), Нясвіжы (1927–1936). Пазней – у Гродна (з 1936). Дырэктар школы (1937–1938). Настаўнік у школе № 4 (1938–1940). Завуч школы № 9 (1940). Настаўнік матэматыкі і нямецкай мовы ў польскай сярэдняй школе № 2 (з 15.8.1940). Падчас акупацыі – перакладчык прамыслова-гандлёвага аддзела магістрата. Завуч, настаўнік геаграфіі, матэматыкі і нямецкай мовы ў школе № 3 (1944). Жыў па вул. Батанічнай, 3 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 75; Там жа. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 45-45 зв.

**Касоўскі Ежы** // Kossowski Jerzy (18.7.1889, Львоў–16.6.1969, Рыа-дэ-Жанэйра), акцёр, рэжысёр, артыстычны кіраўнік тэатра. Пасля сканчэння сярэдняй школы вучыўся ў Львоўскай акадэміі. Выступаў у трупах Ю. Рыгера і Д. Бараноўскага (1910–1913). Служыў у аўстрыйскай арміі (з 1914), у польскай арміі (дэмабілізаваны ў 1920). Адзін з арганізатараў тэатра імя Фрэды ў Варшаве (1923). Працаваў у тэатры «Рэдута» (1924–1927). З'яўляўся кіраўніком т.зв. «гродзенскай трупы» – часткі акцёраў, якая, у сувязі з цяжкім фінансавым станам «Рэдуты», выступала ў гродзенскім тэатры (1926–1927). Сезон у Гродна «Рэдута» распачала з прадстаўлення «Вызваленння» Выспянскага (11.9.1926). Іграў ролі Адмірала («Матрос»), Фядко («Муж з ветлівасці»), Нос («Вяселле»). Пасля выступаў у Познані, Радоме, Варшаве. Эміграваў у Бразілію (1936).

*Літ.:* M. Limanowski. Juliusz Osterwa Listy. War., 1987. Str. 102, 186; Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 334.

**Кастшэўская-Пржаноўская Тэрэза Марыя** // Kostrzewska-Przanowska Teresa Marja (5.2.1897, в. Кржыжановічы, Радомскае ваяв.–4.4.1988, Гожув-Велькапольскі), настаўніца, паэтэса. Скончыла прыватны пансіянат у Варшаве. Працавала настаўніцай-гувернанткай у шляхецкай сям'і ў Друскеніках (1914), у доме вайсковага лекара ў Курску (1915), у дзіцячым доме ў Маскве (1916). Там жа супрацоўнічала з Цэнтральным грамадскім камітэтам Каралеўства Польскага (Centralny komitet obywatelski Królewstwa Polskiego). Настаўніца ў школе ў Клімавічах і Свіры (Магілёўскай губерні) (1916–1918). Скончыла настаўніцкія курсы (1919). Працавала настаўніцай у школах каля Гродна: у Капцёўцы (1919–1934), В. Эйсмантах (1935–1936), Індуры (1936–1937), Марцінконісе (1938–1940). Яе верш «Да маладой настаўніцы» («Do młodej nauczycielki») быў надрукаваны ў мясцовай газеце «Nowe życie»: «...Błogosław ty nam w pracy – Wielki Boże! Rzuć w serca iskry wielkiego kochania, – Rozpal nad Polska – trwałą szczęścia zorzę, I tym, co słabna – daj cnotę wytrwania!...» Мела шэраг узнагарод за асветнікую працу. Падчас нямецкай акупацыі праводзіла тайнае навучэнне ў в. Старое Дэмбове Сакульскага павета і в. Заневічы (1942–1944). Сябра АК Беластоцкай акругі, рэферэнт па справах прапаганды (з 1940).

Пасля вайны была рэпатрыявана (1945). Скончыла педагагічныя курсы ў Аполе (1953). Працавала настаўніцай у Гожуве Велькапольскім. У творы «Saga o Grodnie» пра яе захаваліся наступныя радкі: «Poetka i pedagog – postać znakomita, To Teresa Kostrzewska – kierowniczka szkoły. W podmiejskiej Kopciowszczyźnie sława jej rozkwita I uznaniem nagradza długich lat mozoły...»

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 35. Str. 273; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 21; Odejść w milczeniu. Wspomnienia i wiersze Teresy Kostrzewskiej-Przanowskiej. Gorzów Wielkopolski, 2010.

**Кастшэўскі Юзаф (Эўсебій)** // Kostrzewski Józef (Euzebiusz), гарадскі садоўнік (ogrodnik miejski). Кіраўнік гарадскога азелянення (Zieleni Miejskiej). Газета «Dziennik kresowy» так пісала пра яго: «Ужо ў першы год свайго побыту ў Гродна пан Кастшэўскі паказаў, на што ён здольны. Кожным наступным летам мы мелі магчымасць дзівіцца што раз новымі шэдэўрамі садовага мастацтва. У гэтым годзе гарадскі парк такі прыгожы, што не адзін вялікі горад можа пазайздросціць Гродна... Нават калі ён трапіў у аварыю, і тады не забыўся пра свае абавязкі, працягваючы нават у шпітальным ложку маляваць планы і аддаваць распараджэнні. У інвалідскай калясцы з нагою ў гіпсе ездзіў ён па парку, даючы парады». Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «I Józia Kostrzewskiego wspomnieć tutaj warto, Bowiem tyle on latek park nam dekorował, Chociażby jego barwy piękne tam zatarto, Wielką wdzięczność w pamięci naszej on zachował».

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 1.8.1938. № 208. Str. 5; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 28.

**Касцялкоўская-Зындрам Вільгельміна** // Kościałkowska-Zyndram Wilhelmina (1844, Гродна – 27.4.1926, Гродна ), пісьменніца, перакладчыца. З сям'і службоўца. Атрымала добрую хатнюю адукацыю. Скончыла ў Вільні пансіянат для дзяўчат шляхецкага паходжання. Жыла ў Гродна. Займалася літаратурнай творчасцю. Пісьменніцкі дэбют – апавяданне «Залатая графінька» (1877), напісанае сумесна з Э. Ажэшкай. У Варшаве выйшлі зборнікі яе апавяданняў «У паўценю» (1885), «Адна з многіх» (1903), «Абразкі» (1904), «Архаічныя казкі і навелы» (1906). Перакладала на польскую мову творы з англійскай, амерыканскай, французскай, італьянскай, чэшскай літаратур, займалася літаратуразнаўствам, друкавалася ў «Ateneum», «Bluszczu», «Niwie» і «Kraju». Публікавала рэпартажы з жыцця Гродна, даследаванне «Шляхта на Літве». Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Pisarka Kościałkowska, pani Wilhelmina, Przyjaciółka Elizy Orzeszkowej wielka, Prawdziwej Polki portret wszystkim przypomina, Którym praca dla Polski przyjemna jest wszelka. Poeci i pisarze, cudna defilada! Jakże o nich nie pisać, gdy tacy wspaniali! Na okres Orzeszkowej wzlot ducha przypada, Wszyscy wielcy do Grodna wtedy podążali. Pisarze, dramaturdzy, muzycy, uczeni, Do polskiego z radością biegali bastionu, Z duchowej Polski całej wszyscy zespoleni, Ogień myśli czerpali z Orzeszkowej tronu».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 65; А.Пяткевіч. Людзі культуры з Гродзеншчыны. Гродна: ГрДу, 2000. Ст. 141; http://www.edukateria.pl/praca/koscialkowska-wilhelmina-zyndram.

**Катлубай Людвік** // Kotłubaj Ludwik (14.6.1898, Вільня–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Людвік, чыноўнік, і Анеля Селятыцкая. Добрахвотнік падчас польска-савецкай вайны. Скончыў факультэт права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта (1925). Здаў экзамен на суддзю (1928). Стажор Віленскага акруговага суда (1925) і Гродзенскага акруговага суда (1926).Міравы суддзя ў Вільні (1928); следчы суддзя акруговага суда ў Гродна на Ваўкавыскі павет (1928); суддзя акруговага суда ў Гродна (з 1931); суддзя грамадзянскага аддзела Гродзенска-



га акруговага суда (на 1934). Паводле характарыстыкі: «Шчыры, лаяльны, з вялікім пачуццём асабістай годнасці. Бескарыслівы... Не перапрацоўвае. Самастойны». Галоўны камісар на выбарах у гарадскую Раду (Główny komisarz wyborczy do Rady Miejskiej) (1939). Быў жанаты з Ядвігай Шыдлікавай (з 1927). Меў сына Войцеха (1933).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 1439; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; «Dziennik kresowy». 13.4.1939. № 101. Str. 4.

**Катоўскі Юзаф-Напалеон** // Kotowski Józef-Napoleon (1885–20.05.1930, Гродна), гаспадар вядомай у Гродна цукерні і кавярні па вул. Dominikańska, якую заснаваў яшчэ перад Першай сусветнай вайной. Удзельнічаў у польска-савецкай вайне. Яго кавярня была любімым месцам сустрэчы гродзенцаў пры традыцыйнай «чорнай каве». Фірменнымі вырабамі былі вішнёвыя пончыкі, маленькае печыва і шакаладныя прысмакі. Адчыніў летнюю цукерню ў Швейцарскай даліне (1926). Грамадскі дзеяч, арганізатар дабрачынных вечарын. Пахаваны на фарных могілках у Гродна.

*Літ.:* W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 29; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 101.

**Каханоўскі Ян** // Kochanowski Jan (4.2.1894, Гродна – 20.10.1942, в. Навумавічы), настаўнік гімназіі, актыўны грамадскі дзеяч. Скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію (1913), сельскагаспадарчую акадэмію ў Табожы (Taborze), сельскагаспадарчае аддзяленне Дэрпцкага ўніверсітэта (1917), факультэт эканомікі сельскай гаспадаркі ў Галоўнай школе сельскай гаспадаркі ў Варшаве (SGGW), атрымаў дыплом інжынера (1925). Працаваў выкладчыкам прыроды ў гімназіі ў Гродна. Удзельнчаў добраахвотнікам у польска-савецкай вайне (1920). Адзін з пачынальнікаў руху за ахову навакольнага асяроддзя ў Гродна. Сябра Дзяржаўнай рады аховы прыроды (Państwowa rada ochrony przyrody). З'яўляўся адным з ініцыятараў стварэння батанічнага сада, заапарка, трох рэзервацый баброў. Сябра аргкамітэта Таварыства загарадных участкаў (Komitet Organizacyjny T-wa Ogródków Działkowych), Камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930), Камітэта па пабудове заапарка (Komitet ogrodu przyrodniczego) (1930). Арганізоўваў асветніцкія прыродазнаўчыя экскурсіі для жыхароў горада. Віцэ-рэдактар часопіса «Niemen», турыстычнага даведніка па ваколіцах Гродна, Аўгустоўскіх азёрах і Сувальшчыне. На кароткі час быў арыштаваны органамі НКУС (1940). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 8.9.1941) загадчыкам заапарка (Zoologischer-u.botan. Garten Leiter). Быў адным з арганізатараў тайнага навучання, выкладаў біялогію. Арыштаваны нацыстамі, з іншымі заложнікамі, трапіў у турму (па іншых звестках – арыштаваны за тое, што праводзіў тайнае навучанне). Ахвяраваў сябе замест прызначанага да расстрэлу калегі – настаўніка Ю. Вявюрскага. Пахаваны на фарных могілках у Гродна. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі:



«...Profesor Kochanowski, duch jasny i śliczny, Kochał bardzo człowieka, ale i przyrodę, Założył ZOO w Grodnie, Ogród Botaniczny, Drogo życiem zapłacił za wielką przygodę». Яго імя атрымала адна з гродзенскіх вуліц (1988). Памятная дошка ў гонар Я. Каханоўскага ўпрыгожвае ўваход у гарадскі заапарк. Жыў па вул. Molderstrasse, 42 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 22; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 7 зв.; Там жа Спр. 19. Арк. 23; «Przegląd Kresowy». 8.3.1930. № 47; K. Jasiewicz. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939-1956. T. 1. Warszawa, 1995. Str. 471; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 17; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 100; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 7-8; Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 218; J. Kochanowski. Szkolny ogród biologiczny w Grodnie // Państwowe gimnazjum męskie im. Adama Mickiewicza w Grodnie: drugie sprawozd. szkolne za rok 1928/29. Grodno, 1929. Str. 16-19; W. Stankiewicz. Kochanowski Jan // Polski slownik biograficzny. Wroclaw ekt., 1967-1968. T. XIII. Z. 2. Str. 192-193; Ф. Игнатович. Вопросы краеведения и экологии в педагогическом наследии И.И. Кохановского // Краязнаўства ў сістэме патрыятычнага і грамадзянскага выхавання. Гродна, 2005. Ст. 40-47; Ф. Игнатович. И.И. Кохановский и его уникальный опыт интенсификации биолого-экологического образования учащихся путем создания в Гродно ботанического сада и зоопарка // Экологическое образование как условие устойчивого развития: матер. межд. науч-практ. конф. Минск, 2006. Ст. 68-70; Ф. Игнатович. Гродненский учитель-новатор И.И. Кохановский // Кіраванне ў адукацыі. 2012. № 4. Ст. 60-64.

**Кац Калман** // Kac Kałman, настаўнік. Прафесар Гродзенскай каэдукацыйнай гімназіі (1926). Жыў па вул. Listowskiego, 26 (1937).

*Літ.:* R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 111.

**Качароўская Яніна** // Koczarowska Janina (1904–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, настаўніцкія курсы ў Гродна (1939, 1940). Працавала настаўніцай у Язава (1923), Ландвараве (1923–1924), Вільні (1924–1935), Гродна (1936–1940), настаўніцай пачатковых класаў няпоўнай сярэдняй школы № 20 (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 67-67 зв.

**Качынскі Зыгмунт** // Kaczyński Zygmunt (15.10.1894, Варшава–13.05.1953, Варшава), ксёндз. Грамадска-палітычны дзеяч. Дэпутат польскага Сейма (1919, 1922). Скончыў духоўную семінарыю ў Варшаве (1914) і каталіцкую духоўную акадэмію ў Петраградзе (1918). Дзеяч хрысціянскай дэмакратыі. Сузаснавальнік і рэдактар гродзенскай газеты «Nowe Życie» (з 1922). Абраны ў Сейм па Гродзенскай акрузе (1922). Удзельнічаў у святочнай цырымоніі закладкі каменя пад фундамент школы на Фарштаце (1925).

*Літ.:* «Nowe życie». 1924. № 4. Str. 1.

**Качынскі Станіслаў** // Kaczyński Stanisław (1896–?), настаўнік. Вучыўся ў Віленскай дзяржаўнай мужчынскай гімназіі, наведваў беларускія настаўніцкія курсы (1915–1916). Працаваў у гродзенскай беларускай школе (1918). Паводле У. Курбскага, ён разам з А. Грыкоўскім і В. Краўцэвічам «паклаў шмат ахвярнай працы, маладога запалу і энергіі, каб школа паўстала, развівалася і трывала з іх пачынам яшчэ доўгія гады». Сябра Камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, Гродзенскай белару-

скай павятовай Рады, клуба «Беларуская хатка». Магчыма, сябра БПС-Р (1919). Паручнік БВК (1920).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 127-128.

**Кашкевіч Міхал** // Kaszkiewicz Michał (каля 1893–?), уладальнік кінатэатра «Maleńkie» (былы «Saturn»), адзінага, у якім дэманстраваліся нямецкія кінастужкі (пасля 1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Жыў па вул. Brygidzka, 1.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; Т. Касатая. Прадпрымальніцкая дзейнасць уладальнікаў гродзенскіх кінатэатраў у 1910-1930-я гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 347.

**Квасьнеўскі Станіслаў** // Kwaśniewski Stanisław (14.11.1886, Кракаў – 9.3.1956, Санта-Моніка, Каліфорнія), вайсковец, генерал. Скончыў школу кадэтаў. Служыў у аўстрыйскім войску. Удзельнік польска-савецкай вайны. Камандуючы 29-й дывізіяй пяхоты (1923–1925). Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924). Служыў у Генеральным штабе, камандаваў 3-й, 11-й і інш. дывізіямі. Пасля вайны – у ЗША.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33; http://pl.wikipedia.org/wiki/Stanisław_Kwaśniewski.

**Квіек Казімір-Яўгеній** // Kwiek Kazimierz-Eugeniusz, чыноўнік польскага страхавога таварыства (PKU). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937) і грамадскага клуба (Klub spoleczny) (1935). Удзельнічаў ў выбарах у Сейм, атрымаўшы ўсяго пятнаццаць галасоў (1938). Старшыня выбарчай камісіі № 6/2 падчас выбараў у Гродзенскую гарадскую Раду (1939). Жыў па вул. Napoleona, 18; Zaciszna, 10 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 68. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 42; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 42; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 14.

**Квінт (Квінта) Рафаэль** // Kwint Rafał, кіраўнік яўрэйскага шпіталя. Звярнуўся ў суд са скаргай на рэдактара «Grodner Moment» Давіда Беразоўскага за надрукаваны артыкул з крытыкай яго дзейнасці, аднак справа была вырашана грамадскім чынам (4.1937). Жыў па вул.Mostowa, 27.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 52. Воп. 1. Спр. 500. Арк. 2-2 зв., 6, 44.

**Квяцінскі Юльян** // Kwieciński Julian, грамадска-палітычны дзеяч. Арганізатар і кіраўнік у Гродзенскім павеце прадстаўніцтва Народнага таварыства (PSL Piast). Арганізоўваў сходы партыі, збіраў подпісы пад петыцыямі ў Сейм па пытанні змяншэння падаткаў і рэдукцыі чыноўнікаў і функцыянераў паліцыі. Друкаваў інфармацыю пра дзейнасць Таварыства на старонках партыйнай газеты «Wola Ludu».

*Літ.:* Z. Tomczonek. Ruch ludowy w powiecie grodzieńskim w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1991. T. 2. Str. 22.

**Кеда Ян** // Kieda Jan (каля 1887–?), грамадска-палітычны дзеяч. Працаваў у магістраце. Пазней – пенсіянер. Сябра ППС. Сакратар Гродзенскага савета прафсаюзаў (1934). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Stanisławowska, 1.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Келер Тамара** // Keller Tamara (1906, в. Белявічы–?), настаўніца. Руская. Скончыла настаўніцкую семінарыю ў Гродна (1929), праслухала курсы павышэння кваліфікацыі (1940). Настаўніца пачатковых класаў гродзенскіх школ (1929–1938). Настаўніца пачатковых класаў няпоўнай сярэдняй школы № 6 (з 1.11.1939). Настаўніца школы № 1 (на 1944). Жыла па вул. Маркса, 4 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 36; Там жа Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 7-7 зв.

**Кендзерскі Мар'ян** // Kędzierski Marian, выкладчык матэматыкі ў гімназіі ў Гродна. Рэферэнт па пытаннях асветы пры Гродзенскім аддзяленні Саюза стральцоў (Grodzieńskiej Komendy Zw. Stzrel.).

*Літ.:* «Reduta». 1926. № 4. Str. 4; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Кенпінская Марыя** // Kępińska Maria (9.7.1893, Лодзь–29.12.1974, Варшава), актрыса, суфлёр. Жонка акцёра Б. Кенпінскага. Выступала на сцэне гродзенскага тэатра (1922–1923). Пазней – у Вільні, Варшаве.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 302.

**Кенпінскі Баляслаў** // Kępiński Bolesław (1894, Лодзь–21.8.1937, Варшава), акцёр, рэжысёр. Дэбютаваў, хутчэй за ўсе, у Лодзі (1912). Выступаў у віленскім Польскім тэатры (1921–1922), гродзенскім гарадскім тэатры (1922–1923), Польскім тэатры ў Пінску (1923–1924), у варшаўскім Пражскім тэатры (1924–1925) і інш.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 295.

**Керсноўская-Міхальская Ганна** // Kiersnowska-Michalska Anna (1882, Кіеў – ?), настаўніца-паланістка, паэтка. Скончыла польскую школу ў Рызе, прыватныя курсы польскай літаратуры ў Варшаве (1903); праслухала настаўніцкія курсы ў Гродна (1939 – 1940). Выкладала ў польскай гімназіі ў Рызе (1906–1915), Навагрудку (1916–1920), жаночай гімназіі імя Э. Плятэр у Гродна (1921–1940) (магчыма, першы дырэктар гімназіі да 1922 г.). З усталяваннем савецкай улады працавала настаўніцай польскай, рускай і беларускай моў у польскай сярэдняй школе № 19 (з 19.1.1940). Падчас нямецкай акупацыі праводзіла тайнае навучанне, дзейнічала ў АК. Настаўніца польскай мовы ў школе № 2 (1944). Пасля вайны жыла ў Эльку і Катавіцах. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Alina z Peczynisów i Kiersnowska Anna, Obie wielkie postacie na poly oświaty, Za pracę im tu śpewam, za trudy: Hossanna! Polonistkom tym biję serdeczne wiwaty!... Kiersnowskiej Anny kreślę sylwetkę osobną, Gdyż dwadzieścia i sześć lat w Grodnie pracowała, Najlepsze lata życia, jak kanwę ozdobną, Miłym, gwarnym i swarnym Platerkom oddała... Kiersnowska Anna w Ełku pracę zakończyła, W Katowicach po trudach lat długich osiadła, Najdłużej warty polskie nad Niemnem pełniła, Teraz będzie zdrowotne glutaminy jadła». Жыла па вул. Кірава, 38 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 50 – 50 зв.; «Nowe życie». 18.6.1925. № 46. Str. 2; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 86; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 57; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 14, 72, 73; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennyn // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334.

**Кешкевіч Ірына** // Kieszkiewiczówna Irena, спартсменка вяслярнага клуба «Гродна». Віцэ-чэмпіёнка Польшчы, чэмпіёнка Гродна і Вільні па веславанні. Падчас спаборніцтваў на Нёмане атрымала адразу некалькі перамог на дыстанцыі 1300 м: на лодцыадзіночцы і ў якасці рулявога экіпажа-чацвёркі (1930). Прымала ўдзел у чэмпіянаце краіны па веславанні ў Быдгошчы (1932).

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 12.08.1931; «Wieczorny kurier Grodzieński». 12.8.1932. № 73. Str. 3.

**Кідаўская** // Kidawska, актрыса гродзенскага тэатра (на 1923).

**Кізевіч Піліп** // Kiziewicz Filip (15.11.1898, в. Стральцы Гродзенскага пав.–?), беларускі нацыянальны дзеяч. Абраны скарбнікам Гродзенскага павятовага камітэта БСРГ (1926), сябра Гродзенскай гарадской управы ТБШ (1927). На яго імя было аформлена валодан-

не беларускай кнігарняй у Гродна. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Польшчы. Сябра праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 131-132.

**Кімбар Рафал** // Kimbar Rafał, паэт. Аўтар верша «Na odsłonięcie pomnika w Grodnie». Мясцовае выданне «Nowe zycie» надрукавала яго верш – адказ на верш Т. Кастшэўскай «Да маладой настаўніцы»: «Pracuj, pracuj! Dobra Pani! Na tej niwie, co nam rodzi. Co Ojczyznie złożysz w dani, To ci hojnie los nagrodzi» (1921). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Ach, Kimbar, stary Kimbar, w starym Grodnie słynął. Dziadkiem Parnym w swych wierszach siebie tytułował... Ozdobnym pisał maczkiem wierszyk za wierszykiem, W Grodnie grube tomisko nie wydane leży, Choć Kimbar już od dawna leży nieboszczykiem, Tylko Saga mu smutna daje grosik świeży».

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 38. Str. 297; Там же № 36. Str. 281; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 57.

**Кімхе Абрам** // Kimche Abram, сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны Гродна (на 1938).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.

**Кімчэ Ч.** // Kimcze Cz., грамадскі дзеяч, абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад Яўрэйскага дэмакратычнага блока (1919).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6.

**Кірцікліс Яніна** // Kirtiklisowa Janina, камендант жаночай працы Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Grodzieńskiej Komendy Zw. Stzrel.). Пісала вершы.

*Літ.:* «Reduta». 1926. № 4. Str. 4.

**Кісель Уладыслаў** // Kisiel Władysław (1894 – 1950, Казахстан), ксёндз, маёр польскай арміі. Вучыўся на тэалагічным аддзяленні ў Пецярбургу (1918). Магчыма, кіраўнік народнай школы ў Гродна (на 6.1919). Капелан у польскім войску (1919–1921). Дэкан гарнізона ў Гродна (1921–1929). Пазней – вікарый касцёла Св. Станіслава ў Вільні, прэфект дзяржаўнай тэхнічнай школы (з 1929). Прадстаўнік Епіскапата ў савеце палітычных партый пры акруговым прадстаўніцтве ўрада ў Вільні (przedstawiciel Episkopatu w radzie stronnictw politycznych przy okręgowej delegaturze rządu w Wilnie) (з 1942). Арыштаваны органамі НКУС (1944). Памёр у лагеры.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 13-15; Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 209.

**Кішко Серафіма** // Kiszko Serafima (8.09.1898–18.02.1953, Гданьск), настаўніца. Жонка Л. Дзекуць-Малея. Кіраўнік Гродзенскай беларускай прытулкавай школы і сакратар Гродзенскага Беларускага настаўніцкага саюза (1919–1920). Сябра Гродзенскай грамады беларускай моладзі, Беларускай школьна-прытулкавай рады (1921). У міжваенны час жыла разам з мужам у Брэсце. Разам з дзецьмі была дэпартавана ў Алтайскі край (1941). Вярнулася ў Бельск-Падляскі (1946). Пазней пераехала ў Гданьск. У Гродна жыла па вул. Mostowa, 9.

*Літ.:* НАРБ Ф. 604. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 33-34; Там жа Ф. 878. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 17; БДАМЛіМ Ф. 3. Воп. 1. Спр. 237. Арк. 23, 34; Е. Глагоўская Жыццё і дзейнасць Л.Дзекуць-Малея // «Слонімскі край». 2000. № 2. Ст. 12, 18.

**Класінскі Вацлаў** // Kłosiński Waclaw, кіраўнік фізічнай падрыхтоўкі пры вайсковым бюро (Ekspozytury wojskowej biura F.P.). Віцэ-старшыня, пазней – старшыня праўлення Таварыства загарадных участкаў (Towarzystwo ogródkow działkowych w Grodnie) (1939).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 13.3.1939. № 72. Str. 2.

**Клачкоўскі Уладыслаў** // Kłoczkowski Władysław (1896, Шуша–?), настаўнік. Скончыў гімназію (1916), двухгадовы інструктарскі курс, курсы гарадскога камітэта фізкультуры. Працаваў інструктарам акруговага цэнтра фізкультуры ў Вільні (1926–1932), у Гродна (1932–1939). Кіраўнік баксёрскай секцыі (sekcja bokserska) клуба GKS «Cresovia». Настаўнік фізкультуры сярэдняй школы № 13 (па іншых звестках – школы № 15) (1939–1940) і школы № 11 (1940). Падчас нямецкай акупацыі займаўся дробным гандлем. Ваенрук школы № 7 (на 1944). Жыў па вул. Акадэмічнай, 5-4 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 43; Там жа Воп. 2. Спр. 10. Арк. 9-9 зв. «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228.



**Клеберг Францішак** // Kleeberg Franciszek (1.2.1888, Тарнопаль–5.4.1941, Вайсер-Хіршэ, каля Дрэздэна), вайсковец, брыгадны генерал. Паходзіў з сям'і вайскоўца, удзельніка паўстання 1863 г. Скончыў кадэцкі корпус у Граніцах, вайскова-тэхнічную акадэмію ў Медліне, артылерыйскую школу ў Хаймаскеры. Вучыўся ў аўстрыйскай Акадэміі Генеральнага штаба. Падчас Першай сусветнай вайны – у Польскіх легіёнах. Удзельнік польска-савецкай вайны. Камандуючы 29-й дывізіяй пяхоты, якая стацыянавала ў Гродна (1927–1936), камандуючы ДОК III Гродна (1936–1938). Падчас свайго побыту ў Гродна актыўна ўдзельнічаў у мясцовам грамадскім жыцці: сябра выканаўчай Камісіі па адбудове Старога замка (Kuratorium Zamkowe) (1928), арганізацыйнага Камітэта па святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., старшыня Камітэта па ўшанаванні памяці караля Стэфана Баторыя (1933), праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), праўлення гістарычнай бібліятэкі ў Гродна (1937), сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза крэсовых землеўласнікаў (Kresowy Związek Ziemian) і інш. Кіраваў асобай групай «Палессе». Быў апошнім з польскіх генералаў, якія капітуліравалі (1939). Памёр у нямецкім канцлагеры.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16; «Nowy dziennik Kresowy». № 330. 28.11.1930. Str. 4; J. Jodkowski. Wawel nadniemeński // Ziemia. 1933. № 10. Str.169; M. Limanowski. W Grodnie kopie Jodkowski // «Słowo». 1937. № 153. Str. 2; «Nasza okolica» 1938. № 10. Str. 10; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 166-167; K. Jasiewicz. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939-1956. T. 1. Warszawa, 1995. Str. 465; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Клемпнер Бэр** // Klempner Ber, старшыня праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны (1917–1919). Жыў па вул. Horodniczańska, 9.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 3-6 зв.

**Клімашэўская Станіслава** // Klimaszewska Stanisława, настаўніца школы (гімназіі) імя А. Міцкевіча (з 1919). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «W Żarnowce Klimaszewska serki wyrabiała, Bardzo smaczne, szwajcarskie,

w najlepszym gatunku, I w Grodnie hurtownikom tanio sprzedawała, Albo dała i darmo komuś w podarunku Bo kiedy ją małżonek pozostawił wdową, Klimaszewska musiała ciężko popracować, By nadal tę Żarnówkę utrzymać rodową I potomnym na spadek w całości zachować».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 72. Арк. 69; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 49-50.

**Клімашэўскі Юзаф** // Klimaszewski Józef (каля 1875–?), чыноўнік. Яшчэ студэнтам Варшаўскага політэхнічнага інстытута зрабіў дакладны абмер Старога замка за крэдыт Аддзела мастацтва і культуры Беластоцкага ваяводства (1924). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Жыў па вул. Piłsudskiego, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; J. Jodkowski Muzeum w Grodnie. Rocznik II za rok 1924. Grodno, 1925. Str. 6-9.

**Клімкоўскі** // Klimkowski, вайсковец, капітан. Адзін з ініцыятараў стварэння ў Гродна Саюза стральцоў (Związek Strzelecki) (1924), кандыдат у сябры праўлення спартыўнага клуба «Cresovia» (1925), пазней уваходзіў у склад яго праўлення (1926–1927). Быў пераведзены з Гродна ў іншае месца службы (1932).

**Клімовіч Юзаф** // Klimowicz Józef, беларускі нацыянальны дзеяч. Судовы выканаўца пры гродзенскім магістраце. Сябра БСРГ, старшыня гарадскога гуртка ТБШ (1928). Падазраваўся польскай паліцыяй у прыналежнасці да КПЗБ. Жыў па вул. Cmentarna, 13.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 133.

**Клюкоўскі Вітольд** // Klukowski Witold, рэдактар і выдавец газеты «Młoda Myśl» (1922–1925).

**Кобрынскі Меер** // Kobrinski Mejer (1894–?), яўрэйскі грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Бунда. Уваходзіў у праўленне Гродзенскай яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ад сацыялістычнай фракцыі (на 1921; 1932–1938, 1938–1939); сябра праўлення дырэктараў Яўрэйскага народнага банка (1925). Жыў па адрасе р. Teatralny, 3 (1932).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр.59, Арк. 16, 61; Там жа Спр. 79. Арк. 19 зв.; «Nowe życie». 1928. № 82. Str. 4; В. Гончаров, О. Соболевскаяю Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123.

**Козан Баляслаў** // Kozon Bolesław, чыноўнік. Намеснік гродзенскага натарыуса Хэлміцкага. Складаў акты аб куплі-продажы зямельных надзелаў паміж князем Я. Друцкім-Любецкім і гродзенскімі паштовымі чыноўнікамі (1925). Сябра таварыства «Муза»; праўлення Гродзенскага аддзялення Таварыства польскіх купцоў (Stowarzyszenie kupców Polaków w Grodnie) (на 1923); праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925); праўлення гродзенскага Саюза стральцоў (Związku strzeleckiego) (1935); павятовага праўлення ЛОПП; віцэ-старшыня Гродзенскай рады павятовага праўлення АЗОНа (1939). Удзельнічаў у выбарах у Сейм (1938). Друкаваўся на старонках газеты «Wiadomości strzeleckie». Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго з братам: «To Pan Kozon będzie, A raczej dwóch Kozonów łasych do działania, Bonifacy i Bolek, bardzo czynni wszędzie Czy będzie to zebranie w Kasie Powiatowej, Czy w domu Korulskiego potajemna schadzka, Tam radzą Kozonowie w oprawie rodowej: Bolesław popiera brata Bonifacka...» Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 68. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 43; Там жа. Ф. 142. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 7-7зв.; «Dziennik Kresowy». 18.8.1923. Str. 4; «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1; «Reduta». № 10. Str. 8; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 19-20.

**Кольб-Сяміцкая Зоф'я** // Kolb-Semicka Zofia (1902–?), настаўніца. Скончыла пяць класаў гімназіі ў Варшаве ; настаўніцкую семінарыю. Пачала працаваць настаўніцай у прафесійнай школе ў Гродна (1.8.1921–1923). Пасля – у прамысловай школе (1923–1939). З усталяваннем савецкай улады працавала настаўніцай працоўнага навучання ў школе № 11 (1939–1940), сярэдняй школе № 2 (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 46-46 зв.

**Кольбе Максімільян** // Kolbe Maksymilian (8.1.1894, Здуньска Воля –14.8.1941, Аўшвіц), манах, каталіцкі грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Малой



семінарыі айцоў-францысканцаў у Львове (1907), скончыў універсітэт (Gregorianum) у Рыме (1915). Папскі аддзел тэалогіі Св. Банавентуры айцоў-францысканцаў. Манах-францысканец (1910). Заснавальнік таварыства Rycerstwa Niepokalanej (1917). У Гродна (1922–1927). Выдаваў часопіс «Rycerz Niepokalanej». Выкладаў катэхезіс у школах у вёсках Ласосна і Капцёўка. Працаваў у хрысціянскай місіі ў Японіі (1930–1936). Падчас Другой сусветнай вайны арыштаваны і зняволены ў Асвенціме. Ахвяраваў сваё жыццё замест іншага вязня. Кананізаваны (1982).

*Літ.:* P. Maxence Maksymilian Kolbe: kapłan, dziennikarz, męczennik (1894-1941). Warszawa, 2011. Str. 127-149; L. Dyczewski Święty Maksymilian Maria Kolbe, Warszawa, 1984. Str. 123-133; J. Makarczyk Święty Maksymilian Maria Kolbe. «Misericordia». 1997. № 2. Str. 20.

**Комар Казімір** // Komar Kazimerz, намеснік каменданта дзяржпаліцыі Гродна (на 1.1920). Радны Гродзенскай



гарадской Рады. Сябра камітэта па разбудове Гродна (1928). Ініцыятар заснавання іпатэчнага кааператыўнага банка ў Гродна (Hipoteczny bank spółdzielczy w Grodnie) (1933). Пазей – бурмістр Сакулкі (канец 1930-х). Арыштаваны савецкімі ўладамі (9.1939). Утрымліваўся ў турмах Сакулкі і Гродна. Далейшы лёс невядомы.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 116; Там жа. Воп. 2. Спр. 24. Арк. 69; «Nad Niemnem». 10.4.1938. № 1. Str. 3; http://www.ogrodywspomnien.pl/index/showd/51224.

**Комар Станіслаў** // Komar Stanisław, настаўнік, прафесар. Настаўнік гімнастыкі ў гімназіі імя А. Міцкевіча. Скончыў Цэнтральны інстытут фізічнага выхавання ў Варшаве (Centralny Instytut Wychowania Fizycznego). Віцэ-старшыня гродзенскага спартыўнага клуба «Cresovia» (сярэдзіна 1930-х). Быў вельмі энергічным і патрабавальным настаўнікам, асабліва падтрымліваў плаванне, якое лічыў агульнаразвіваючай галіной спорту. Акрамя таго, вялікую ўвагу надаваў развіццю камандных гульняў: валей-

бола, баскетбола, футбола. Праводзіў гарадскія спаборніцтвы паміж рознымі камандамі. Зімою арганізоўваў для вучняў лыжныя школьныя экскурсіі ў Пышкі, вясной – гімнастычныя паказы, бег, эстафеты. Пры гэтым вылучаўся асабліваю манераю апранацца – зазвычай насіў белы світар замест пінжака. Л. Саванеўскі прысвяціў братам Комарам наступныя радкі: «moc oświacie złożyli swych darów, I są chlubnym tytułem pracy odznaczeni. W szkolnictwie średnim w Grodnie jeden Komar działał, Drugi Komar w Sokółce burmistrza miał władzę, A każdy z pięciu braci do oświaty pałał, Przeto każdy niech brzęczy jak najgłośniej w Sadze...»

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 29.3.1939. № 88. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 70; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // «Słowo Ojczyste». 2008. № 6. Str. 9.

**Кошалеў Васілій** // Koszalew Wasil (21.12.1856–1925, Гродна), урач. Грамадскі дзеяч. Скончыў медыцынскі факультэт Харкаўскага ўніверсітэта (1880). Служыў лекарам у г. Рассіены Ковенскай губ., у м. Клімавічы Рагачоўскага павета, ардынатарам Магілёўскіх губернскіх богаўгодных устаноў, урачом Магілёўскай духоўнай семінарыі. Атрымаў ступень доктара медыцыны (1901). Памочнік таўрычыскага губернскага ўрачэбнага інспектара (1902), выконваючы абавязкі эстляндскага губернскага ўрачэбнага інспектара (1903), гродзенскі ўрачэбны інспектар (1904). Займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. Сябра Гродзенскай санітарнай выканаўчай камісіі, дырэктар дзіцячага прытулка Гродзенскага дабрачыннага таварыства, старшыня савета Сафійскага праваслаўнага брацтва, сябра мясцовага аддзялення Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа, праўлення Гродзенскага дабрачыннага таварыства, праўлення касы ўзаемнай дапамогі Сафійскага брацтва, праўлення пазыка-ашчаднай ка-



сы чыноўнікаў Гродзенскай казённай палаты, папячыцель савета Гродзенскай абшчыны сясцёр міласэрнасці. Падчас Першай сусветнай вайны – у эвакуацыі. Вяртаецца ў Гродна (1922). Працаваў лекарам у турме (1924–1925). Магчыма, узначаліў мясцовае аддзяленне Расійскай манархічнай арганізацыі (1924). Заснавальнік і першы старшыня РДТ у Гродна (1925). Па некаторых звестках, скончыў жыццё самагубствам.

*Літ.:* В. Черепица Гродненский православный некрополь. Гродно, 2001. Ст. 84, 168-174; В. Черепица. Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей Век ХХ. Гродно, 2012. Стр. 77; А. Ліцкевіч. «Степень достоверности – достоверно...» Армія Булак-Балаховіча и антысавецкі супрацíў 1921-1927 гадоў у дакументах ВЧК (АДПУ) // «Беларуская думка». 1998. № 7. Ст. 88.

**Кравец Абрам** // Krawiec Abram (каля 1889–?), грамадска-палітычны дзеяч. Гаспадар пякарні па вул. Policyjna, 9. У адным з лістоў у мясцовую прэсу гараджане наракалі на той факт, што хлеб прадаваўся там амаль сыры. Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Horodniczańska, 24.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк.61 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.

**Кравец Яніна** // Krawiec Janina (1905, Варшава–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю (1926), курсы павышэння кваліфікацыі (1939, 1940). Працавала настаўніцай у Налібоках (1926–1927), Вільні (1927–1929), Гродна (1929–1939). З усталяваннем савецкай улады – настаўніца пачатковых класаў сярэдняй школы № 20 (з 15.8.1940). Падчас нямецкай акупацыі працавала ў дзіцячым прытулку. Настаўніца школы № 3 (на 1944). Жыла па вул. Чапаева, 9/5 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 39; Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 70-70 зв.

**Краеўскі Люцыян** // Krajewski Łucjan (1890 – 15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік. Намеснік школьнага інспектара Гродзенскага павета. Скончыў факультэт гісторыі настаўніцкага інстытута, праслухаў настаўніцкія курсы па рускай мове (1940). Працаваў у пачатковым вучылішчы ў Стунску (1908–1910), Грушцы (1910–1914), Пётркаве (1914–1920), у настаўніцкай семінарыі ў Нешава (1920–1928). Намеснік школьнага інспектара Беластоцкага павета (1928–1929), першы школьны падінспектар Гродзенскага павета (1929–1934), школьны інспектар Ашмянскага (1934–1937) і Луцкага (1937–1939) паветаў. Настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 11 у Гродна (з 1.1.1940). Расстраляны немцамі разам з жонкай і чатырма сынамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 10. Арк. 11-11 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 160; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Крайновіч Беньямін-Гершон** // Krajnowicz Beniamin Gerszon (каля 1895 –?), настаўнік. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Паалей-Цыён, прафесійныя саюзы і рамеснікі (Poalej-Sjon, Związki Zawodowe i Rzemieślnicy) (1939). Жыў па вул. Klasztorna, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.

**Кракоўскі Юзаф** // Krokowski Józef (1891, Тарнопаль–1939, Каліш), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра, літаратурны кіраўнік. Выступаў у тэтрах у Кіеве (1916–1918), Торуні (1921–1922), Любліне (1922–1923), тэатры імя Фрэдры ў Варшаве (1923–1925) і інш. Кіраваў трупай Артыстаў польскай сцэны (ZASP) у гродзенскім тэатры на працягу аднаго сезона (1930–1931), арэндаваў будынак гродзенскага тэатра разам з К. Апалінскім (1933–1934). Пасля



працаваў у тэатры ў Калішы. Пазней адышоў ад тэатральнай дзейнасці і кіраваў аддзелам культуры пры Калішскім старастве.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 281. Арк. 161; «Nasza scena» 1937. № 2. Str. 7. Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 366.

**Крамкоўскі Ксаверы** // Kramkowski Ksawery, друкар. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў яго як чалавека, які выдаваў кнігі Ю. Ядкоўскага: «Kramkowski te perły drukował. Ma wielką chwałę Józef, ale i Ksawery». І далей: «Kramkowski miał drukarnię jeszcze za caratu, «Nowe Życie» i «Echo» czcionki mu kupiły, Bo stare ruskie były i złego formatu, I tam polskie gazety nakłady swe biły».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 39, 40.

**Красінская Ядвіга** // Krasińska Jadwiga, жонка К. Красінскага. Рэдак-

тар, пачынаючы з чацвёртага нумара, газеты «Postęp», якую выдавала мясцовая арганізацыя ППС (1929–1930). Нейкая Красінская з'яўлялася кіраўніком секцыі фехтавання (sekcja szermiercza) клуба «Cresovia».

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228; M. Ciećwierz. Prasa Polskiej Partii Socjalistycznej w regionie białostockim w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1990. № 1(17). Str. 11.

**Красінскі Казімір** // Krasiński Kazimierz, дзеяч ППС. Сакратар рады прафсаюзаў Гродзенскай акругі (Rada związków zawodowych) (1933). Сябра Таварыства добраахвотнай пажарнай аховы ў Гродна (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie) (на 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 34; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1995. T. 2. Str. 47.

**Красінскі Міхал** // Krasiński Michał (17.10.1883–20.9.1939, в. Квасоўка), землеўласнік, граф. Гаспадар маёнтка Баяры. Паляк, каталік. Скончыў гімназію ў Кракаве. Праслухаў курс у Школе палітычных і гаспадарчых навук у Парыжы, Хале і Берліне. Ганаровы суддзя Грамадзянскага кіравання Усходніх зямель (1919). Удзельнік польска-савецкай вайны (1920). Ганаровы суддзя Гродзенскага акруговага суда (на 1922). Старшыня Сельскагаспадарчага таварыства (Towarzystwo rolnicze), Гродзенскага аддзялення Крэсовага саюза землеўласнікаў (Kresowy Związek Ziemian). Сябра камітэта пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Сябра генерала У. Андэрса, які наведваўся да яго ў Баяры. Жанаты з Марыяй Чартарыйскай. Расстраляны савецкімі салдатамі побач з маёнткам. Яго жонка і дочкі былі высланы ў Казахстан.

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 1. B. 91. L. 3, 5; «Echo grodzieńskie». 16.10.1923. № 180. Str. 2; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4. K. Jasiewicz. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939-1956. T. 1. Warszawa, 1995. Str. 527.

**Краснік Ян** // Kraśnik Jan (каля 1908–?), чыноўнік. Камендант хуфца гродзенскіх харцэраў (1938). Сябра таварыства афіцэраў запасу (związek oficerów rezerwy w Grodnie) (1939). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Mickiewicza, 2/1.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20; «Czyn młodych». 1938. № 6. Str. 3; «Dziennik kresowy». 31.3.1939. № 90. Str. 4.

**Красоўскі Фелікс** // Krassowski Feliks (2.7.1895, Варшава–9.8.1967, Варшава), сцэнограф. Вучыўся ў Варшаўскай школе малюнкаў імя Герсона (1911–1914), школе мастацтваў у В. Драбіка (1914–1915), школе мастацтваў у Кіеве (1916–1918), дзе дэбютаваў у якасці сцэнографа. Пазней супрацоўнічаў з тэатрамі ў Варшаве, Торуні, Кракаве. Працаваў у тэатры «Рэдута» ў Вільні і Гродна (1926–1927). Стварыў блізкую да кубізму сцэнаграфію да спектакля «Цыд». Пазней працаваў у розных польскіх тэатрах.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 348-349.

**Краўзэ Зоф'я** // Krauzowa Zofia (1894–1976, Кшанаў), грамадская дзяячка. Вучылася ў немецкай гімназіі Меер у Кіеве (1903–1908), прыватнай польска-расійскай сярэдняй школе Цітарэнка. Паступіла на літаратурнафіласофскае аддзяленне Вышэйшых жаночых курсаў. Вучылася спевам у Кіеўскай кансерваторыі (1915–1918). Пасля польска-савецкай вайны пераехала да кроўных у Крамянец. Пазней – разам з мужам пераехала ў Гродна (сярэдзіна 1920-х). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (1931), Саюза грамадскай працы жанчын (Związek pracy obywatelskiej kobiet). Сама яна так апісала сваё жыццё ў Гродна ў кніжцы «Rzeki mojego życia»: «Я ўступіла ў Чырвоны Крыж і хутка была абрана скарбнікам. Пад кіраўніцтвам разумнай і прыветлівай



спадарыні Ностіц-Яцкоўскай вучылася грамадскай працы, якая мяне вельмі прыцягвала. Далучылі мяне таксама да Саюза грамадскай працы жанчын, якому я прысвяціла шмат часу і энергіі. Я пазнала бяду сялян у вёсцы ды беспрацоўных у горадзе. Заснавала сталоўку для беспрацоўных, якой кіравала, адсылала дзяцей у летнія лагеры, арганізоўвала канцэрты і вечарыны, дабрачынныя мерапрыемствы, выставы народных вырабаў і выязныя бібліятэкі». За працу на Гродзеншчыне атрымала Сярэбраны Крыж Заслугі (Srebrny Krzyż Zasługi). Пазней жыла ў Касцяне (Kościanie), з'яўлялася старшынёй павятовага гуртка Саюза грамадскай працы жанчын (Związku Pracy Obywatelskiej Kobiet – ZPOK). Падчас Другой сусветнай вайны – у Мінску-Мазавецкім і Кольбелі (Kołbieli). Падчас Варшаўскага паўстання працавала ў шпіталі па вул. Długa. Пасля вайны пераехала ў Хэлмэк (Chełmek), а адтуль – у Хшанаў (Chrzanów). Жонка Леапольда Краўзе (з 1912).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; Z. Krauzowa. Rzeki mojego życia. Kraków, 1979. Str. 203-206; Код доступа http://www.geni.com/people/Zofia-Krauzowa/6000000022554173301, дата доступа 4.07.2014.

**Краўзэ Леапольд** // Krauze Leopold (11.7. 1888, Парыцк–10.12.1978, Хшанаў), лекар Кіраўнік гродзенскага шпіталя. Вучыўся ў гімназіях у Луцку і Кіеве. Скончыў медыцынскі факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1913), дзе застаўся працаваць. Прымаў удзел у барацьбе з халерай у глыбі Расіі. Падчас Першай сусветнай вайны – хірург у кіеўскіх шпіталях. Уступіў у польскае войска, удзельнічаў у польска-савецкай вайне (1920). Дырэктар шпіталя ў Крамянцы (1921–1925). Часова выконваў абавязкі мясцовага старасты (1922). Дырэктар шпіталя ў Гродна (1925–1933). Нейкі Леапольд Краўзе быў кандыдатам у гарадскую Раду ад класавых прафсаюзаў (Klasowych Związków zawodowych) (1927). Ардынатар і павятовы лекар у Касцяне (ordynator szpitala i lekarz powiatowym w Kościanie). Падчас Другой сусветнай вайны – у Мінску-Мазавецкім. Супрацоўнічаў з АК. Падчас Варшаўскага паўстання працаваў у шпіталі па вул. Dluga. Пасля вайны пераехаў у Хэлмэк (Chełmek), а адтуль – у Хшанаў (Chrzanów), дзе атрымаў пасаду лекара пры фабрыцы лакаматываў (1950–1968).

*Літ.:* «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; http://www.geni.com/people/Leopold-Krauze/6000000022554145325.

**Крачкевіч П.** // Kraczkiewicz P., літаратар, расійскі дзеяч. Гродзенская газета «афіцыйнага» накірунку «Беларускі шлях» паведамляла, што «вядомы літаратар П.Крачкевіч прыступіў ...да перакладу з рускай на беларускую мову п'есы «На рубяжы», якая ўжо ставілася ў мясцовым тэатры і мела вялікі поспех; а таксама заканчвае новую драму ў 4-х актах з беларускага сялянскага жыцця «Казка жыцця». Аўтар марша «Biały orzeł». Арганізатар драматычнага і аперэтачнага гуртка (Kółka dramatycznego i operetkowego). Сустракаўся з генералам П. Махровым па справе стварэння ў горадзе манархічнай арганізацыі (1924). Жыў па вул. Puszkina, 28.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 136.

**Крачкоўскі** // Kreczkowski, лекар. Разам з яшчэ некалькімі калегамі выйшаў са склада Саюза лекараў, арганізаваўшы Саюз хрысціянскіх лекараў (1924). Працаваў у мясцовай Касе хворых.

*Літ.:* «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 14. Str. 2

**Крашын Пётр** // Kraszyn Piotr, баптысцкі прапаведнік. Накіраваны з Лодзі ў Гродна на прэсвітарскае служэнне (1922).

**Крэльман Абрам** // Krelman Abram (каля 1898–?), купец. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза яўрэяў-удзельнікаў барацьбы за незалежнасць Польшчы (Związek Żydów uczestników walk o niepodległość Polski) (на 1939). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад гэтай жа арганізацыі (1939). Жыў па вул. Kręta, 2 (1937); Brygidzka, 13.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; «Dziennik kresowy». 20.4.1939. № 108. Str. 6.

**Кронік Лея** // Kronik Leja, настаўніца. Скончыла гімназію, педагагічную семінарыю, курсы беларускай і рускай моў (1940). Працавала настаўніцай пачатковых класаў у школе «Тарбут» (1927–1939), пазней – школе № 7 (з 1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 31-31 зв.

**Кротке Тадэвуш** // Krotke Tadeusz (1894–7.6.1957, Варшава), акцёр. Скончыў драматычны клас пры Варшаўскім музычным таварыстве (1914). Выступаў у польскім тэатры ў Маскве (1915–1916), розных варшаўскіх тэатрах (1918–1922), у Лодзі (1930–1931) і інш. Артыст тэатра імя Э. Ажэшкі ў Гродна (1933–1935). Пазней – дырэктар камернага тэатра ў Чанстахове. Пасля вайны выступаў у тэтры ў Торуні, польскім тэатры ў Варшаве, з'яўляўся віцэ-дырэктарам тэатра «Syrena», выступаў на сцэне польскага Нацыянальнага тэатра ў Варшаве.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 337.

**Кроцін Людвіка** // Krocin Ludwika, сястра-манашка. Кіраўнік манаскай супольнасці сясцёр міласэрнасці Св. Вінцэнта дэ Поля (шарытак) пры шпіталі для невылечна хворых (Дом апекі Св. Людвіка, па вул. Grandzicka, 23). Сябра праўлення Рускага дабрачыннага таварыства ў Гродна (1928).

*Літ.:* Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст.Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 361.

**Кру Гірш** // Kru Hirsz (1897–?), настаўнік. Скончыў матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта, настаўніцкія курсы па савецкай педагогіцы, беларускай і рускай мовах (1940). Працаваў у гродзенскіх школах. Пазней выкладаў матэматыку і фізіку ў сярэдняй школе № 9 (з 9.1.1940). Жыў па вул. Białostocka, 90 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 59-59 зв.

**Крупа (Крупянка) Ванда** // Krupa (Krupianka) Wanda (1897–?), настаўніца. Мела біялагічную адукацыю. Працавала настаўніцай у Памажанах (1917), Жмыградзе (1918–1923), Заверцы (1923–1927), жаночай настаўніцкай семінарыі (1927–1935), мужчынскай семінарыі (1935–1938), школе № 10 (1938–1939) у Гродна. Друкавалася ў газеце «Jednodniówki Spółdzielcze», якую выдавала друкарня Любіча (1938). З усталяваннем савецкай улады – настаўніца прыродазнаўства сярэдняй школы № 5 (1940), школы № 20 (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 71-71 зв.; «Nad Niemnem». 1938. № 11-12. Str. 2.

**Крэховіч Дыянісій** // Krechowicz Dyonizy (8.4.1896, Збараж–1940, Старабельск), вайсковы лекар. Падпалкоўнік. Вучыўся ў школах у Драгобычы і Тарнове. Скончыў медыцынскае аддзяленне Львоўскага ўніверсітэта (1925). Служы ў Польскіх легіёнах (з 1914). Камендант 3-га акруговага шпіталя ў Гродна (1937). Трапіў у савецкі палон, дзе загінуў.

*Літ.:* J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 209.

**Куза Юзаф** // Kuza Józef, выкладчык музыкі, прафесар. Выкладаў музыку ў гімназіі імя А. Міцкевіча. Арганізаваў сімфанічны аркестр з вучняў гімназіі (1932 ). Віцэ-старшыня камітэта па святкаванні Шапэнаўскіх дзён у Гродна (1932). Пазней – выкладчык школы № 19 (1940).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 19.6.1932. № 19. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 28.9.1932. № 119. Str. 4; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45.

**Кузніцкі Ісаак** // Kuźnicki Izaak, кіраўнік таварыства, якое валодала гродзенскімі кінатэатрамі «Мадэрн», «Ліра» і «Эдэн». Хацеў выкупіць кінатэатар «Saturn» (адзіны «хрысціянскі») у Гродна, дзеля чаго рабіў розныя захады. Напрыклад, спрабаваў перашкодзіць уласнікам «Saturna» атрымліваць кінастужкі з Варшавы. Жыў па вул. Dominikańska, 24; Pocztowa, 4 (1937).

*Літ.:* Т. Казак. Прадпрымальніцкая дзейнасць уладальнікаў гродзенскіх кінатэатраў у 1910-1930-я гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 346-347.

**Кузняк Баніслаў** // Kuzniak Bronisław, чыноўнік. Грамадска-палітычны дзеяч. Прадстаўнік ППС у Гродзенскай гарадской Радзе (1927–1930; 1939). Адказваючы на крытыку фракцыі з боку прэзідэнта Гродна, заўважыў: «Да кампетэнцыі пана Прэзідэнта не адносіцца ацэнка прафесійнага ўзроўню радных, таксама як не адносіцца да яго кампетэнцыі і крытыка радных, накіраваная на абразу іх уласнай годнасці!...» (2.4.1930). Падчас пасяджэння гарадской Рады выступіў з патрабаваннем унесці ў пратакол факт выкарыстання прэзідэнтам Гродна для службовых паездак у Беласток таксі. На яго думку, гэта яскравы прыклад «неадпаведнага выкарыстання грамадскіх фінансаў» (4.1930). Выказваўся за тое, каб падняць заробак камунальным працоўным. Рэдактар мясцовага партыйнага органа «Dziennik Ludowy» (з 7.1939). Сябра Таварыства рабочага ўніверсітэта (Towarzystwo Uniwersytetu Robotniczego) і Камітэта пазыкі супрацьпаветранай абароны ў Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго трагічную гібель падчас Другой сусветнай вайны.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 117-117 зв.; 120-120 зв.; Там жа Спр. 18. Арк. 25-26; «Dziennik Kresowy». – 10.8.1924. Str. 4; «Gazeta Polska ziemi Grodzieńskiej». 18.1.1930. № 17. Str. 1; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1995. T. 2. Str. 49; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 13.

**Кулакоўскі Дзмітрый** // Kułakowski Dymitr (5.8.1902, Гродна –?), беларускі дзеяч. Журналіст. Сын Мікалая і Ганны. Скончыў пяць класаў рускай гімназіі ў Тамбове. Карэспандэнт беларускіх газет «За працу», «Голас працы», «Зара працы», «Рэха працы», «Беларуская Крыніца» і інш. Сакратар Гродзенскай акруговай управы ТБШ. Увайшоў у склад Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага блока рабочых (Zjednoczony blok robotniczy), аднак у пасяджэнні Рады не ўдзельнічаў, бо быў адразу арыштаваны (1927). Адзін з аўтараў аднадзёнкі «Пралом», увесь наклад якой быў канфіскаваны па загаду гродзенскага старастсва (1929). Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Адзін з заснавальнікаў і супрацоўнік газеты «Grodzienski kurier poranny», пазней карэспандэнт газеты «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 gr». Жыў па вул. Dominikańska, 25 (1927); Dominikańska, 18 (1937).

*Літ.:* Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 164; А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 141-142.

**Кулікоўскі Базыль** // Kulikowski Bazyli, беларускі дзеяч. Настаўнік беларускай гімназіі ў Гродна (1921). Сябра Беларускай вайсковай камісіі (1919–1920), Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства і Гродзенскага Беларуска-

га правінцыяльнага камітэта. Магчыма, сябра КПЗБ і БСРГ. Віцэ-старшыня Гродзенскай часовай акруговай управы (камітэта) ТБШ (1926).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 142-143.

**Кульчыцкі Станіслаў** // Kulczycki Stanisław (1.12.1910, Гродна–1940(?)), вайсковец (улан). Магчыма, выконваў абавязкі сацыяльнага апекуна. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Арыштаваны органамі НКУС.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 13; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 345; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Кунда Эдмунд** // Kunda Edmund (3.07.1894–1940), настаўнік фізкультуры ў школе № 7. Павятовы інструктар фізічнага выхавання. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Энергічны працаўнік у сферы фізічнага выхавання» (1934). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego). Лаўнік гродзенскага магістрата (1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Паручнік запасу пяхоты 21-га пях. палка. Трапіў у савецкі палон (1939). Быў зняволены ў лагеры ў Казельску, дзе і загінуў. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі называе яго Эдвардам: «To samo Edward Kunda za trudy oświaty Dostał krwawą nagrodę od srogiego wroga. Za śmierć swą bohaterską wielkiej wart zapłaty, Którą jemu wymierzy miłosierdzie Boga...» У Гродна жыў па вул. Podolna, 61 (на 1937–1939). Нейкая сям'я Кундаў была выслана савецкімі ўладамі з Гродна (13.4.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 3; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 21; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 337.

**Кунц Францішак** // Kunc Franciszek (1868–16.04.1937, Гродна), касір гродзенскага магістрата. Гаспадар летняга клуба (1923). Сябра таварыства «Муза», камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922), камітэта па барацьбе з дарагавізнай (Komitet dla walki z drożyzną) (1923). Пахаваны на фарных могілках.

*Літ.:* «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Echo Grodzieńskie». 13.4.1923. № 63. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 30.8.1923. Str. 4; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 102.

**Курбскі-Кузняцоў Уладзімір** // Kurbski-Kuzniacow Włodzimerz (1898 –?), беларускі дзеяч. Выкладаў у беларускай гімназіі ў Гродна (1921). Сябра БПС-Р, камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, Гродзенскай беларускай павятовай рады, клуба «Беларуская хатка», Гродзенскага БНК, Грамады беларускай моладзі (1919), Гродзенскага беларускага дабрачыннага таварыства, Гродзенскага павятовага камітэта беларускіх спраў (1924). Належаў да Гродзенскай беларускай паўстанцкай арганізацыі (1922). Магчыма, сябра РКП(б), КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. Друкаваўся ў гродзенскіх газетах «Беларускае слова», «Беларускі шлях», «Беларуская думка». Удзельнічаў у выданні гродзенскай аднадзёнкі «Выстрал» (1924). Падчас Другой сусветнай вайны актыўна друкаваўся ў беластоцкай беларускай газеце «Новая дарога». Магчыма, жыў па вул. Podolna, 47 (1930).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 143-145.

**Курчык** // Kurczyk, кіраўнік турмы (магчыма – следчай). Арыштаваны органамі НКУС (канец 1939). Загінуў. Нейкая Курчык Рамана была выслана савецкімі ўладамі (13.4.1940).

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 337; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Курыловіч Антоній** // Kuryłłowicz Antoni (1876, Ротніцкая парафія каля Гродна–1954, Гродна), ксёндз-канонік. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю і быў пасвечаны ў святары (1900). Першапачаткова выконваў абавязкі вікарыя ў парафіі пры касцёле Св.Рафала на Шніпішках у Вільні. Вучыўся ў Парыжскім універсітэце (1906–1909). Доктар схаластычнай філасофіі. Пасля вяртання служыў кароткі час у Старых Троках. Пазней – у Гродна ў бернардынскім касцёле (1910). Гродзенскі пробашч. Дырэктар сямігадовай публічнай Бернардынскай школы № 3 для дзяўчат (пасля 1921). Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Працуе ў школе з любоўю, выдатны арганізатар. Вынікі працы задавальняючыя» (1934). Вядомы ў горадзе грамадскі дзеяч. Сябра гарадской Рады Гродна ад спіса аб'яданых польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Выконваў абавязкі старшыні Рады. Паводле адной з мясцовых газет, А. Курыловіч у якасці раднага «заўжды адзначаўся вялікай увагаю да інтарэсаў горада і развіцця культуры, кіруючыся вялікім тактам і пачуццём меры...» Яшчэ падчас Першай сусветнай вайны ён узначальваў дабрачынную секцыю грамадскага камітэта. З яго удзелам быў адноўлены зруйнаваны комплекс будынкаў касцёла, перабудавана плебанія. Адкрыў пры Бернардынскім касцёле прытулак, дзе дзеці авалодвалі спецыяльнасцямі шаўцоў, краўцоў, вышывальшчыц і вязальшчыц (1915). Дзякуючы яму, у Гродна ўзнікла аддзяленне Польскай Мацежы Школьнай (Polska Macierz Szkolna) і падначаленыя ёй навучальныя ўстановы: гандлёвае і рамеснае вучылішчы, а таксама прыватная мужчынская гімназія імя Г. Сянкевіча. Старшыня аддзялення таварыства дапамогі дзецям і моладзі «Прыстань». Сябра Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (на 1921; 1930). Уваходзіў у склад т.зв. «школьнага нагляду» (Dozoru szkolnego) – грамадскага камітэта пры магістраце, які вырашаў бягучыя праблемы асветы. Сябра Польскай рады асветы, Камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922). У складзе дэлегацыі ад Гродна ездзіў у Кракаў на цырымонію перазахавання праху Ю. Славацкага (1927). Пазней часткова ўзяў на сябе абавязкі епіскапа (1939). Савецкія ўлады неаднаразова прапанавалі яму з'ехаць у Польшчу, аднак ён адмаўляўся, кажучы, што ад'едзе «толькі разам з апошнім вернікам». Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «A w Grodnie spoczął inny dzielny kapłan w grobie: Kuryłłowicz Antoni – to Prezes Macierzy... Antoni Kuryłłowicz, kapłan zasłużony, Tym zespołem kieruje przez lat długich wiele, Na hasło Orzeszkowej plan jest nastawiony I osiąga z rozmachem zamierzone cele».



*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 58 зв.; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 64. Арк. 2 зв.; Там жа Спр. 65. Арк. 7, 14; Там жа Спр 86. Арк. 90-90 зв.; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 1.12.1930. № 330.

Str.1; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 17,75; А. Станкевіч. «Католический вопрос в БССР и проект его разрешенія (к сведенію советского правітельства ) // Скарыніч. Выпуск 5. Мінск, 2002. Ст. 181; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI – XX стст. Минск, 2011. Ст. 451-452; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна... – с. 356; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363; Br. Kuryłłowicz. Wspomnienie o księdzu kanoniku – Antonim Kuryłłowiczu // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001; Р. Мазан. Вястун святарства / Руслан Мазан; фота // Слова Жыцця (Гродна). 12.7.2009. Ст. 7.

**Куста Юзаф** // Kusta Józef (1889, в. Шэметава Свянцянскага пав.–26.8.1926), вайсковы капелан, маёр. Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1911), Пецярбургскую духоўную ака-дэмію (1915). Быў пасвечаны (1914). Вярнуўся ў Вільню на пасаду вікарыя. Добраахвотнікам уступіў у польскае войска (1919). Служыў у 6-й дывізіі пяхоты. Капелан Гродзенскага гарнізона (з 1921). Кіраўнік душпастарства ДОК III. Адзін з ініцыятараў перадачы былога Сафійскага сабора каталікам. Сябра камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922).

*Літ.:* «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Nowy dziennik kresowy». 29.8.1926; «Trybuna». 29.8.1926. № 22.

**Кухарчук Ганна** // Kucharczuk Anna (1898–?), настаўніца. Выкладала ў падрыхтоўчых класах Гродзенскай беларускай гімназіі (1921). Жыла па вул. Mostowa, 9.

*Літ.:* НАРБ Ф. 604. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 33-34; Там жа Ф. 878. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 17; БДАМЛіМ Ф. 3. Воп. 1. Спр. 237. Арк. 27.

**Кухарчук-Андрушэвіч Марыя** // Kucharczuk-Andruszewicz Maria (1896 –?), настаўніца. Сястра Г. Кухарчук, жонка М. Андрушэвіча. Выкладала ў Гродзенскай беларускай прытулкавай школе (1919–1920). Сябра Грамады беларускай моладзі.

*Літ.:* ДАБВ Ф. 67. Воп. 1. Спр. 22. Арк. .37; ДАГВ Ф. 20. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 55; Там жа Ф. 87. Воп. 1. Спр. 79. Арк. 21 зв.; «Беларуская доля». 28.2.1925. № 16.

**Кучэўскі Людвік** // Kuczewski Ludwik (19.4.1884–26.12.1974, Сувалкі), настаўнік. Перад Першай сусветнай вайной працаваў у прыватнай сямікласнай гандлёвай школе ў Сувалках (Prywatna Siedmioklasowa Szkoła Handlowa). Кіраўнік гарадской сярэдняй школы па вул. Policyjnej (на 6.1919). Пазней, магчыма, дырэктар Гродзенскай мужчынскай гімназіі і Гродзенскага гандлёвага ліцэя. Інспектар прафесійных школ (inspektor ds. szkół zawodowych) Беластоцкай акругі (на 1948). Па яго ініцыятыве была адноўлена прафесійная школа ў Сувалках (szkoła zawodowa w Suwałkach).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 13-15; http://www.astn.pl/r2007/prywatna.htm http://www.myheritage.com/matchingresult http://www.zst.suwalki.pl/main/historia2.php

**Куявінскі Вацлаў** // Kujawiński Wacław, гаспадар рэстаўрацыі ў гатэлі «Еўрапейскі». Гродзенскі магістрат пастанавіў даплаціць яму 200 злотых за абед, выдадзены на святочным банкеце з нагоды адкрыцця помніка Элізе Ажэшцы (1929). З усталяваннем савецкай улады арыштаваны і разам з сям'ёй высланы ў Казахстан (13.4.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 12; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 335.

**Кшываносова (Крываносава) Элеанора** // Krzywonosowa Eleonora, настаўніца гісторыі ў жаночай гімназіі імя Э. Плятэр. Выкладчыца школы № 2 (1940).

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 43.

**Кшывец Ежы** // Krzywiec Jerzy, лекар. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму і яго брату наступныя радкі: «A oto bracia Krzywiec: jeden doktor Jerzy, Drugi Jasio sekretarz w szkolnej inspekturze, Gdy pierwszy w ciele chorym zdrowie miłe szerzy, Drugi dusze naprawia, pracując w kulturze». Жыў па вул. Bienieckiego, 4.

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Кшывец Казімір** // Krzywiec Kazimierz (1893–?), настаўнік. Скончыў гімназію, праслухаў педагагічныя курсы (1939). Працаваў у прыватнай польскай школе ў Гродна (1914–1919), падрыхтоўчай школе (цвічэнь) (1919–1940), польскай сярэдняй школе №19 (з 15.1.1940). Сябра Гродзенскай гарадской Рады, фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 52-52 зв.; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Кшывец Ян** // Krzywiec Jan (1896–?), грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады, фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) (1936–1939). Намеснік кіраўніка Гродзенскай акругі ТСК (1919). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 25.7.1941). Магчыма, загадчык школьнага аддзела (Leiter d. Schulabt.). Жыў па вул. Piaskowa, 7, Molderstr. 30 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Кшыштань** // Krzysztań, адвакат, пракурор (?). Сябра прэзідыума гістарычнай бібліятэкі ў Гродна (1937). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292.



**Лабондз Лазар** // Lebiendz (Labondz) Łazarz (1905–7.1941, Гродна), настаўнік. Скончыў шэсць класаў гімназіі, фізкультурны інстытут, курсы настаўнікаў фізкультуры ў Гродна (1940). Спартсмен таварыства «Maccabi». Працаваў настаўнікам фізкультуры ў сярэдніх школах № 7 і № 9 (1940). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 60-60 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Лада Багуміл** // Łada Bogumił (22.3.1889, Лодзь – 22.10.1942, Варшава), вайсковы лекар. Вучыўся ў Кіеве. Служыў у 2-м польскім корпусе. Працаваў у Хелме і Варшаве. У званні падпалкоўніка служыў камендантам акруговага шпіталя ў Гродна (1930-я). Віцэ-старшыня праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony Krzyż oddział w Grodnie) (1931–1935). Падчас Другой сусветнай вайны – ва яздоўскім шпіталі ў Варшаве.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 137; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 8; J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 236.

**Ладзінскі Альфрэд** // Łodziński Alfred (5.1.1903, Вільня–14.7.1974, Варшава), акцёр. Скончыў школу ў Вільні (1923), мясцовую драматычную школу. Выступаў у віленскім Польскім тэатры. Выступаў у тэатрах у Торуні, Любліне, Плоцку. Акцёр гродзенскага тэатра (1930–1932; 1936–1937). Пазней – тэатра на Пагулянцы ў Вільні (1932–1936). Пасля вайны выступаў у Торуні, Вроцлаве, Шчэціне, Варшаве.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 408-409.

**Лазоўская Юзэфа** // Łazowska Józefa, настаўніца школы № 7. Скончыла выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Мыславіцах, групу малюнкаў і працоўнага навучання (Mysłowice- W.K.N., gr. rys. i rob. Ręcz.). З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Настаўніца вельмі добра праводзіць заняткі. Здольная ды працавітая» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6.

**Лазоўскі Юзаф** // Łozowski Józef (1905–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), лекар. Атрымаў дыплом (1932). Працаваў хатнім лекарам грамадскага страхавання (Ubezp. Społeczne), Касы хворых (Kasa chorych). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Капітан запасу польскага войска. Лекар АК. Забіты немцамі разам з усёй сям'ёй – жонкай Сафіяй, двума сынамі, цешчай, сястрой і пляменніцай. Жыў па вул. Lelewelia, 30.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 28; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945.

Łódź, 1993. Str. 160; J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 244; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Лайт Файга** // Łajt Fejga (1891–?), лекарка. Атрымала дыплом (1919). Практыкавала ў Беластоцкім павеце. Пазней пераехала ў Гродна (сярэдзіна 1930-х). Загінула падчас вайны.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str. 175.

**Лайт Якуб** // Łajt Jakub (11.9.1910, Гродна–7.1941, Гродна), адвакат. Яўрэй. Бацькі – Лейба і Бейла Рабіновіч. Скончыў факультэт права і грамадскіх



навук Віленскага ўніверсітэта (1934). Стажор апеляцыйнага суда ў Гродна (1934–1936). Паводле характарыстыкі С. Земака: «З'яўляючыся сынам небагатых бацькоў, на працягу шэрагу гадоў прыкладаў вялікія намаганні, каб атрымаць вышэйшую адукацыю. Сціплы і працавіты, увесь свой час прысвячае навучанню... З'яўляецца шчырым чалавекам і добрым грамадзянінам Польшчы». Пазней – адвакат. Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 1739; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Лакінскі Эдмунд** // Łakiński Edmund (22.1.1889, Рахны–1940, Старабельск), вайсковы лекар. Маёр. Скончыў васьмікласную гімназію № 5 у Кіеве. Вучыўся на медыцынскім факультэце ўніверсітэта Св. Уладзіміра ў Кіеве. Мабілізаваны ў войска (1914), быў кантужаны (1915). Скончыў універсітэт і атрымаў лекарскі дыплом (1918). Добраахвотнікам уступіў у польскае войска (1920). Спецыяліст па скурна-венерычных захворваннях. Служыў у Гродна (з 1922). Спачатку пры раённым шпіталі, а пасля на пасадзе ардынатара шпіталя ДОК III. У адстаўцы (1935). Меў прыватную практыку ў горадзе, займаўся грамадскай дзейнасцю. Сябра праўлення вяслярнага клуба «Нёман» (1926) (пазней – «Гродна»). Мабілізаваны, трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў. Паводле кнігі «Памяць», сям'я Лакінскіх была выслана з Гродна савецкімі ўладамі (13.4.1940). У Гродна жыў па вул. Kirchowa, 2 (1923); Napoleona, 19 (1925).

*Літ.:* «Nowe życie». 1926. № 36; «Reduta». 1927. № 9; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 337; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 269-270.

**Ламашэвіч Надзея** // Łamaszewicz Nadzieja (каля 1903 – 22.6.1941), беларуская грамадска-палітычная дзяячка. Сябра Гродзенскага беларускага дабрачыннага таварыства, Гродзенскай



гарадской управы ТБШ. Кіраўнік беларускай кнігарні і прадстаўнік БСРПК «Змаганне» ў Гродна. Адна з аўтараў аднадзёнкі «Пралом». Неаднаразова арыштоўвалася польскімі ўладамі. Пасля ўсталявання савецкай улады працавала на абутковай фабрыцы. Загінула падчас нямецкай бамбардзіроўкі. Жыла па вул. Cmentarna, 28 (1929).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 150-151.

**Ландэ Ізраэль** // Lande Izrael (1895 (1897?), Цярнопаль–1943, Гродна), настаўнік. Нарадзіўся ў сям'і Беньяміна і Сары-Роні Ландэ ў Аўстрыі. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт універсітэта. Выехаў у Палесціну, дзе працаваў добраахвотнікам на будоўлі дарогі з Хайфы да Цедахі (зараз Рамат-Ішай) (1922). Працаваў настаўнікам у школе «Тарбут» у Вільні (1923–1928). Пазней – настаўнікам у гімназіі «Тарбут» у Гродна (1928–1940), выкладаў матэматыку і фізіку ў старэйшых класах настаўніцкай семінарыі (да 1935). Займаўся пазакласнай дзейнасцю, кіраваў матэматычным гуртком (kółko matematyki). Разам з М. Фішар удзельнічаў у арганізацыі бібліятэкі школ «Тарбут». Быў вельмі цесна звязаны са сваімі навучэнцамі. Грамадска-палітычны дзеяч. Сіяніст-сацыяліст. Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). Старшыня Гродзенскага аддзялення Яўрэйскага краязнаўчага таварыства (Żydowskie towarzystwo krajoznawcze) (1934). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). З усталяваннем савецкай улады працаваў у школе № 7 (з 16.1.1940). Падчас нямецкай акупацыі з'яўляўся сябрам юдэнрата, адказваў за арганізацыю працы яўрэяў унутры гета і за яго межамі. Першапачаткова знаходзіўся ў гета № 2, адкуль быў пераведзены ў гета № 1 (11.1942). З'яўляўся сябрам антыфашысцкага падполля. Дапамог частцы зняволеных вырвацца з гета ў лес (2.1943). Быў забіты немцамі ў гета. Яго жонка Хені (Голдберг) і іх дачка Нена загінулі ў канцлагерах: Асвенціме і Трэблінцы. У Гродна жыў па вул. Piłsudskiego, 3 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Ст. 7-7 зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 30–30 зв. «Wiadomości Ż.T.K.» 1935. № 1. Str. 10; Pages of Testimony, *Yad Vashem*. World Center for Holocaust Research, Education, Documentation and commemoration, Jerusalem; Documents concerning the destruction of the Jews of Grodno 1941-1944. Volume VI; The Beate Klarsfeld Foundation; Communication with Moshe Alperstein, a former graduate of the Tarbut Gymnasium in Grodno, 2010.

*Р. Маркус*

**Ландштэйн Максімільян** // Landsztejn Maksymilian (28.12.1910, Варшава–?), прамысловец. Сын Эльяша і Марыі. Скончыў гімназію ў Варшаве. Адміністрацыйны дырэктар саюза фабрык па вытворчасці фанеры «Клей АС» у Гродна (Zjednoczenie fabryk dykt Klej S.A.). Сябра праўлення ЛОПП, Марской і каланіяльнай лігі (L.M. i K.). Аўтар шэрагу артыкулаў прафесійнай тэматыкі. Жанаты з Фрэдэрыкай Язерскай (1935). Жыў па вул. Piłsudskiego, 17.

*Літ.:* Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 168.

**Лапідус Давід** // Łapidus Dawid (каля 1891–?), кіраўнік прадпрыемства. Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4.

**Лапін Аляксандр** // Łapin Aleksander, грамадскі дзеяч. Уладальнік тыпалітаграфіі (Zakłady graficzne i Pierwsza krajowa fabryka kart do gry).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 24.

**Лапіна Алена** // Łapinówna Helena, дырэктар Дзяржаўнай купецкай гімназіі (Państwowe gimnazjum

kupieckie) (1937). Сябра выбарчай камісіі на выбарах у гарадскую Раду (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 5; «Dziennik kresowy». 13.4.1939. № 101. Str. 4.

**Лапо Юзаф** // Łappo Józef, грамадска-палітычны дзеяч. Капітан. Працаваў у гродзенскім старастве. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Zw. Strzelecki) (1933), павятовага праўлення ЛОПП (1937), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Сябра камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16; Там жа Спр. 3. Арк. 21; «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.5.1933. № 120. Str. 4; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4.

**Лапушанская Алена** // Łopuszańska Helena (каля 1912–12.6.1940), актрыса. Была слухачом інстытута «Рэдута». Пачала выступаць у трупе камернага тэатра ў Чанстахове (1934–1935). Актрыса Гродзенскага гарадскога тэатра імя Э. Ажэшкі (1935–1936). Пазней выступала ў тэатрах у Беластоку, Катавіцах, Варшаве. Была расстраляна немцамі.

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 399.

**Лаўранчук Марыя** // Ławreńczuk Maria, настаўніца геаграфіі. Яе былая вучаніца Ц. Амільяновіч-Шока пазней узгадвала сваю настаўніцу: «Высокая, вельмі элегантная , на дыстанцыі, пакідала ўражанне сапраўднай дамы. Пры гэтым у адносінах з людзьмі не мела нават найменшай шорсткасці: і яе рухі, і голас ,насычаныя нейкай асалодай, прымусілі нас даць ёй мянушку «Сахарынка». Пры гэтым яна мела моцную руку і яе адносіны з намі вызначаліся жалезнай паслядоўнасцю. Геаграфію выкладала натхнёна, была здольная патрабаваць і зацікавіць прадметам».

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 47.

**Лаўрэ Мар'ян** // Laure Marian, дырэктар польскага банка. Магчыма, сябра Камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925). Сябра павятовага праўлення ЛОПП. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскага пра яго захаваліся наступныя радкі: «Dyrektor Banku Laure, Pan tak sympatyczny, Że pominąć go tutaj byłoby szkaradą, Zbudował przecie piękny drapacz niebotyczny, I też ludziom pomagał funduszem i radą...»

*Літ.:* «Reduta». № 10. Str. 8; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 21.

**Лашкевіч Казімір** // Łaszkiewicz Kazimierz (4.8.1888, Верцялішкі –14.12.1978, Варшава), настаўнік, грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў Гродзенскую гімназію, духоўную семінарыю, аддзяленне філасофіі і кананічнага права Пецярбургскай духоўнай акадэміі. Напярэдадні Першай сусветнай вайны вывучаў палітычныя навукі ў Парыжы. Служыў у расійскай арміі, сябра ПАВ. Удзельнічаў у раззбраенні немцаў на Віленшчыне (1918–1919). Добраахвотнікам уступіў у польскае войска (1920). Настаўнік у Гродзенскай гімназіі, рэдактар газеты «Echo Grodzieńskie» (1922). Пасол у Сейм па спісе № 1 – PSL Piast (1922–1927). Сябра Саюза сялян (Związek Chłopski) (з 1923), партыі працы (partii pracy). Працаваў у адміністрацыйнай і асветніцкай камісіях. Выбраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego), пазней – ББСУ (1927–1930; 1930–1934). Віцэ-прэзідэнт Гродна (1928; 1930–1932). Ініцыятар заснавання іпатэчнага каапературнага банка ў Гродна (Hipoteczny bank spółdzielczy w Grodnie) (1933). Сябра павятовага Камітэта фізічнага выхавання і праўлення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (1927). Пазней – чыноўнік ваяводскага ўпраўлення ў Беластоку. Дарадчык



пры фондзе працы Беластоцкага ваяводскага ўпраўлення (1933–1939). Падчас Другой сусветнай вайны – акруговы дэлегат прадстаўніцтва ўрада РП у Беластоку. Пасля вайны – кіраўнік аддзела ў Міністэрстве працы і публічнай апекі. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «I pora Łaszkiewicza Kaźmierza z honorem Tu na łamach umieścić mego poematu. On «Echa Grodzieńskiego» pierwszym redaktorem I ludowym on posłem, i wrogiem caratu...» У Гродна жыў па вул. Policyjna/ Listowskiego, 5 (1922).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 130, 136 зв.-137; Там жа Спр. 18. Арк. 71-71 зв., 102 зв.; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 2; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 20.5.1927. № 137; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; «Nad Niemnem». 10.4.1938. № 1. Str. 3; Z. Tomczonek. Ruch ludowy w powiecie grodzieńskim w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1991. T. 2. Str. 21; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 18; Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom III. Warszawa, 2005. Str. 388; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гароднея, 2009. Ст. 356.

**Леановіч Вінцэнты** // Leonowicz Wincenty, ветэрынарны лекар. Дырэктар гарадской бойні (rzeźni miejskiej). Грамадскі дзеяч. Сябра праўлення таварыска-артыстычнага клуба «Муза» (Klub artystyczno-towarzyski Muza) (1921), камітэта па барацьбе з дарагавізнай (Komitet dla walki z drożyzną) (1923), таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924), камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930), Польскага саюза абароны Айчыны (Polski związek obrony Ojczyzny) (1931). Між іншым, выступіў з ідэяй выпрацаваць пэўны тып будоўлі, які б адпавядаў рысам і гістарычнаму тыпу Гродна дзеля яго разбудовы ў недалёкім будучым. Праходзіў па справе злоўжыванняў у мясцовым камітэце касы зберажэнняў (ККО) (1937). Першапачаткова быў прыгавораны да трох год турмы і грашовых выплат, аднак пазней апеляцыйны суд у Вільні зменшыў пакаранне да шасці месяцаў арышту з адтэрміноўкай пакарання (1938). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскага пра яго захаваліся наступныя радкі: «A teraz Leonowicz na arenę wpada, Będzie głosił referat o deimatofagach, Jest on specem od zwierząt i je skrzętnie bada. Mówi także o ludzkich niebezpiecznych plagach. Pan doktor Leonowicz imię ma Wincenty, Zdolny działacz powszechny, mąż wielkiej ogłady, We wszystkich sferach miejskich ogromnie jest wzięty, Chętny zawsze do czynu, zdolny do parady...» Магчыма, гаспадар камяніцы па вул. 11 Listopada (сёння – 17 Верасня, 12).

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1610. Арк. 13 зв.; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33, 43; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4. «Dziennik kresowy». 20.11.1938. № 318; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 21; Н. Канюк. Сказочный домик в Новом Свете // «Вечерний Гродно». 9.5.2012. № 19.

**Леў Соня** // Lew Sonia (каля 1893 –?), настаўніца. Скончыла гродзенскую гімназію Баркоўскага. Працавала ў прагімназіі М. Рубінавай (1919). Жыла па вул. Zamkowa, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Левандовіч Станіслаў** // Lewandowicz Stanisław (1870–1956, Гродна), гаспадар крамы і прадпры-

емства рытуальных паслуг каля Фарнага касцёла. Намеснік старшыні выбарчай камісіі № 6/2 падчас выбараў у гарадскую Раду (1939). Быў арыштаваны органамі НКУС (пасля 1939). Яго бабуля разам з дзецьмі былі вывезены на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Магчыма, яго сын Станіслаў (1906 г.н.), інжынер, быў тады ж арыштаваны органамі НКУС у Пінску і загінуў. Пахаваны на фарных могілках у Гродна. Жыў на pl. Batorego, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 42; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 103; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 147; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Левандоўскі Міхал** // Lewandowski Michał, арандатар буфета на чыгуначным вакзале. Пасля пабудовы новага будынка вайсковага казіно – гаспадар рэстаўрацыі «Royal» (1935). Сябра праўлення Таварыства польскіх купцоў (Stow. Kupców polskich) (1935). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Pan Michał Lewandowski miał «Royal» w dzierżawie, Piękną salę do tańca i łoże na bale, I smaczne stawiał dania na każdej zabawie, Z chrzanem, octem, papryką na drogim krysztale. Wesoło było zawsze w rozkosznym lokalu, Gości nigdy nie brakło przy czystych stolikach I Michał jednoręki królował w «Royalu», I grosz piękny zarabiał na częstych piknikach».

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości Groszieńskie». 10.12.1935. № 332. Str. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 86; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 52.

**Левін Давід** // Lewin Dawid, сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1934–1939). Сябра Савета дырэктараў Народнага банка (1925).

*Літ.:* «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гароднія, 2009. Ст. 356.

**Левуліс Генрых** // Lewulis Henryk (1908, Вільня – 1966), інжынер, архітэктар. Скончыў Дзяржаўную тэхнічную школу ў Вільні. Вучыўся ў Львоўскім політэхнічным універсітэце (1937–1939). Працаваў будаўнічым тэхнікам у фірме Б. Маліноўскага ў Вільні, у канструктарскім бюро пры ўпраўленні Віленскага ваяводства (1927–1930). Кіраўнік нагляду за вайсковымі працамі акругавага будаўнічага ўпраўлення ў Гродна (1931–1937). Кіраўнік працамі ў фірме «Б. Расінскі і К°» (1937–1939). Падчас акупацыі працаваў у Кроснінскім аддзяленні фірмы «Тор». Пасля вайны скончыў курсы камандуючага дывізіёнам пры Ленінградскай Вышэйшай артылерыйскай школе (1945). Працаваў ва Вроцлаўскім політэхнічным універсітэце (1946–1949), у бюро будаўнічых прац у Вроцлаве (1949–1962), быў кіраўніком кафедры будаўніцтва і будаўнічых матэрыялаў у Вроцлаўскім політэхнічным універсітэце (1958–1962).

*Літ.:* Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 274.

**Ледухоўскі Андрыян** // Leduchowski Andryjan, айцецгвардыян францысканцаў з кляштара Маці Божай Анёльскай. Старшыня Занёманскага дабрачыннага таварыства імя Э. Ажэшкі (1936–1939). Узяў крэдыт на 50 тыс. злотых у Банку народнай гаспадаркі на будову новага дома для прытулка.

*Літ.:* Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI – XX стст. Минск, 2011. Ст. 453; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 356.

**Лейнштэрн Пётр** // Lejnsztern Piotr, сябра аргкамітэта Таварыства загарадных участкаў (Komitet Organizacyjny T-wa Ogródków Działkowych) (1930). Віцэ-старшыня суполкі былых палітычных вязняў (Koło byłych więźniów politycznych) (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 23; Там жа Ф. 114. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1.

**Ленартовіч Міхаіл** // Lenartowicz Michał (1875 – каля 1941), лекар. Скончыў медыцынскі факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1904). Спецыяліст па ўнутраных захворваннях, ардынатар шпіталя для невылечна хворых (1925). Галоўны ўрач інфекцыйнага шпіталя (1941). Разам з яшчэ некалькімі калегамі выйшаў з агульнагарадскога Саюза лекараў, арганізаваўшы Саюз хрысціянскіх лекараў (1924). Працаваў у мясцовай Касе хворых. Старшыня выбарчай камісіі № 2 падчас выбараў у гарадскую Раду (1939). Сябра праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925). Жыў па вул. Listowskiego, 33 (1925) і Napoleona, 18 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 9; «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 14. Str. 2; «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1.

**Ленштэрн Вінцэнты** // Lensztern Wincenty, тэхнік будаўнічага аддзела гродзенскага магістрата (technik wydziału budowlanego magistratu Grodna) (на 1925). Па яго праекце была пабудавана гарадская школа № 8 на Фарштаце.

*Літ.:* «Nadniemeński kurier Polski». 21.8.1925. № 230. Str. 1.

**Лечыцкі Аляксандр** // Leczycki Aleksander (1864–1939, Гродна), праваслаўны святар. Настаяцель царквы Аляксандра Неўскага (на 1905). Сябра Гродзенскай духоўнай кансісторыі, епархіяльнага настаўніцкага савета, Сафійскага брацтва. Вярнуўся з бежанства (1918). Настаяцель Пакроўскага сабора ў Гродна (1930–1934).

*Літ.:* В. Черепица. Гродненский православный некрополь. Гродно, 2001. Стр. 85; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гродно, 2005. Стр. 214.

**Лібіцкая Ганна** // Libicka Anna/ Hanka (? – 1944, Варшава), актрыса. Жонка Ю. Хорваца. Першапачаткова выступала ў т.зв. «рэвіовых» (rewiowych) тэатрах. Удзельнічала ў камедыях гродзенскага тэатра (1937–1938). Заангажавана ў варшаўскі тэатр «Фігаро» (1939). Падчас нямецкай акупацыі выступала ў легальных варшаўскіх тэатрах. Арыштавана нацыстамі і забіта разам з мужам.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 382.

**Лінк Юльян** // Link Julian (26.2.1892 –15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), дырэктар школы № 10 (1937). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939; 1939). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno, Allgemeine abeilung) (з 25.6.1941). Магчыма, быў кіраўніком аднаго з яе аддзелаў. У сваім данясенні на імя нямецкага каменданта прадстаўнік БНК абвінавачваў яго ў спробе стварэння арганізацыі мясцовай польскай інтэлігенцыі. Быў расстраляны немцамі разам з жонкай і дзвюма дочкамі. Жыў па вул. Akademicka, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 32; Там жа Спр. 181. Арк. 20; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 25; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 4; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 160; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Ліпінская Гражына Ўладыслава** // Lipińska Grażyna Władysława (12.4.1902, Варшава–30.11.1995), настаўніца. Польская грамадска-палітычная дзяячка. Бацькі – Вітольд Сакалоўскі і Ганна Скарбек. Вучылася ў прыватных пансіёнах, класічнай гімназіі ў Мысленіцах (Myślenicach), Дзяржаўнай жаночай гімназіі імя Ю. Славацкага ў Львове. Сябра ПАВ, жаночай міліцыі (milicji kobiet), харцэрка. Разам з братам прымала ўдзел у баях за горад супраць украінскіх аддзелаў (służba kurierska) (1918). Два разы пераходзіла праз лінію фронту. Працягнула вучобу ў гімназіі ў горадзе Закапанэ (1919). Пасля матуры ў сувязі з падзеямі польска-савецкай вайны зноў запісалася добраахвотнікам у войска. Працавала санітаркай у вайсковым шпіталі ў Кракаве (1920). Паступіла на факультэт фізікі і хіміі Ягелонска-

га ўніверсітэта (1921). Прымала ўдзел у Сілезскім паўстанні як сябра Саюза стральцоў і Таварыства абароны заходніх крэсаў (Związku strzeleckiego i Tow. obrony kresów zachodnich) (1921). У канцы таго ж года перавялася на аддзяленне хіміі Варшаўскага політэхнічнага ўніверсітэта і стала першай жанчынай, якая яго скончыла (1928). Актыўна дзейнічала ў Таварыстве брацкай дапамогі (Bratnia Pomoc Studentów Politechniki). Працавала на металургічным заводзе імя Пілсудскага ў Верхняй Сілезіі (Huta Piłsudski na Górnym Śląsku) над канструяваннем, зборкай і спробаю выкарыстання аўтаматычных механізмаў счэпу для вагонаў (1928–1931). Некалькі разоў дэлегавалася на канферэнцыі з прадстаўнікамі еўрапейскай прамысловасці па справе эксплуатацыі польскіх патэнтаў. Скончыла педагагічны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта з дыпломам настаўніцы сярэдніх і прафесійных школ (1932). Працавала настаўніцай хіміі і фізікі ў варшаўскіх гімназіях (Państwowa szkoła przemysłowa-handlowa, Państwowe gimnazjum ogólnokształcące w Warszawie). Займала пасаду дырэктара комплексу прафесійных школ (Zespół szkoł zawodowych – Państwowe gimnazjum krawieckie, Państwowa szkoła przysposobienia w gospodarstwie rodzinnym, kursy ogrodniczo-rolnicze) ў Гродна (1936). Арганізавала каля шасцідзесяці падарожных курсаў у Гродзенскім, Навагрудскім, Ваўкавыскім і інш. паветах. Ініцыятар стварэння кааператыва пчалярства і агародніны (Spółdzielnia ogrodniczo-pszczelarska), гаспадарча-агародніцкіх і будаўнічых курсаў (Kursy ogrodniczo-rolnicze i majstrów budowlanych), інтэрната ў Гродна для навучэнцаў з вёскі, жаночай прафесійнай школы ў Лідзе (żenskiej szkoły zawodowej), мужчынскай прафесійнай школы (męskiej szkoły) у Мастах. Удзельнічала ў выбарах у Сейм (1938). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Сябра камітэта аб'яднаных жаночых арганізацый Гродна (Komitet zblokowanych organizacji kobiecych w Grodnie), камендант грамадскай дапамогі (Pogotowia Społecznego) (1939). Сябра Камітэта пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Удзельніца абароны Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Сябра Саюза ўзброенай барацьбы (Związku Walki Zbrojnej) і АК. Арганізатар польскага падполля ў Мінску. Неаднаразова арыштоўвалася органамі НКУС (1939; 1940; 1944). Вызвалена (1956). Працавала ў бібліятэцы (Bibliotece Głównej Politechniki Warszawskiej). Аўтар успамінаў пра абарону Гродна. У творы «Saga o Grodnie» ей прысвечаны наступныя радкі: «Lipińska Grażyna Pójdzie na lat czternaście za to obozować, Że jej to była wielka narodowa wina, Iż tak śmiała solidnie tę młodzież wychować. Więzienia i obozy, i śledztwa «rozkosze» Były gorzkim udziałem Dyrektorki mężnej, Że Sybir już pragnęła kochać nie po trosze, Bo moc braci powstańczej tam leży orężnej. Zdobyła bardzo wiele w swym obozowaniu I na punkty trzy miłość swoją rozdzieliła: Mińszczyzna, Grodno, Sybir – nasze w jej mniemaniu, Gdyż krew polska je do serc naszych przybliżyła. Tysiące tam rodaków widziała w swej drodze I tak liczne tragedie, że z pamięci zbiegły, I samą, i rodaków los doświadczył srodze, Wielu padło, lecz innych Niebiosa ustrzegły. A teraz jest szczęśliwa, mieszkając w Warszawie, Kąpiąc serce swe w cieple polskich serc życzliwych I tonąc w morzu książek po drętwej zaprawie, Niosąc pomoc powrotnym rzeszom nieszczęśliwych». У Гродна жыла па вул. Mostowa, 9.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 68. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 35; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 14; «Dziennik kresowy». 16.10.1938. № 283. Str. 3. «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 3. «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 22; B. Otwinowska. Grażyna Lipińska. Warszawa, 2001.

**Ліпнік Абрам** // Lipnik Abram (9.2.1897, Гродна–1943, Майданак), доктар. Актыўны грамадскі дзеяч. Скончыў медыцынскі факультэт універсітэта ў Цюрыху (1917). Пазней пацвердзіў свой дыплом у Варшаўскім універсітэце. Абараніў дысертацыю. Галоўны лекар яўрэйскага шпіталя. Ардынатар псіхіятрычнага, яўрэйскага і венералагічнага шпіталяў. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага яўрэйскага сацыялістычнага блока (1919) праўлення Яўрэйскай рэлігінай абшчыны (1921). Зноў абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага саюза рабочых Бунд (Ogólnożydowski związek robotników Bund) (1927). Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ад сацыялістычнай фракцыі (на 1931). Магчыма, галоўны ўрач 3-й амбулаторыі (1940). Падчас нямецкай акупацыі адасланы спачатку ў беластоцкае гета, а пасля ў Майданак. У Гродна жыў па вул. Dominikańska, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 181 зв.; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 79. Арк. 19. «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str. 172.

**Ліпнік (Ліпінікова) Хая** // Lipnik (Lipnikowa) Chaja (1889–?), настаўніца. Скончыла філасофскі факультэт універсітэта ў Цюрыху, курсы павышэння кваліфікацыі настаўнікаў геаграфіі, педагогікі, беларускай мовы і гісторыі ВКП (б) (1940). Працавала настаўніцай нямецкай мовы ў яўрэйскай коэдукацыйнай грамадскай гімназіі (1918–1921), гуманітарнай коэдукацыйнай гімназіі (з 1921). Выкладала рускую мову ў рускамоўнай сярэдняй школе № 7 у Гродна (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 н, Арк. 30-33 зв.

**Ліпнік Юда (Іудэль)** // Lipnik Juda (2.4.1890, Гродна–1943, Майданак), лекар. Грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў Гродзенскую гімназію (1909). Вучыўся на медыцынскіх факультэтах Цюрыхскага і Базэльскага ўніверсітэтаў (1911–1915), атрымаў дыплом лекара (1917). Быў мабілізаваны ў расійскае войска. Служыў старшым лекарам пры 183-м дывізійным абозе, працаваў у шпіталі ў Двінску. Трапіў у нямецкі палон (1918). Пасля вызвалення з лагера вярнуўся ў Гродна. Меў прыватную практыку ў м. Індура (1919–1920). Працаваў у хірургічным аддзяленні яўрэйскага шпіталя ў Берліне (1921–1922). Пацвердзіў свой лекарскі дыплом у Варшаўскім універсітэце (1924). Пазней меў прыватную практыку ў Гродна. Старшыня ТОЗ. Дырэктар яўрэйскага шпіталя і кіраўнік пятай паліклінікі супраць сухотаў ТОЗ (1936). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага Яўрэйскага сацыялістычнага блока (1919–1927). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). З усталяваннем савецкай улады працаваў фізіёлагам у першай гарадской бальніцы (1940). Падчас нямецкай акупацыі трапіў у беластоцкае гета, пазней – у канцэнтрацыйны лагер, дзе і загінуў. У Гродна жыў па вул. Brygidzka, 8.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 262 – 263; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Ліпскі Браніслаў** // Lipski Bronisław, акцёр тэатра і кіно. Сваю творчую дзейнасць пачаў з выступленняў у Варшаве і Гродна (1932). Падчас Другой сусветнай вайны быў у эміграцыі, сябра Польскага тэатра ў Нью-Ёрку.

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; B. Dorosz. Kazimierz Wiezyński w kregu polskiego

instytutu naukowego// Zeszyty naukowe uniwersytetu rzeszowskiego. Seria filologiczna. Historia literatury 6. Zeszyt 20. 2011 Str. 58.

**Лістоўскі Эдвард** // Listowski Edward (1861–11.5.1922, Гродна), першы прэзідэнт Гродна. Вайсковец. Грамадска-палітычны дзеяч. Паляк. Каталік. Скончыў рэальную школу ў Варшаве, Мікалаеўскую інжынерную школу ў Пецярбургу. Уступіў у войска (1870-я г.). Даслужыўся да звання капітана. Звольнены ў запас з войска ў чыне палкоўніка (1908). Сябра Гродзенскай гарадской Думы, яе старшыня (з 1907). Заказаў у Кіеве мастаку Маркаву партрэт П. Сталыпіна, аздоблены ў залатую раму, які павінен быў  вісець у памяшканні гарадской управы побач з партрэтам Э. Ажэшкі. Ездзіў у Пецярбург на святкаванне 300-годдзя дома Раманавых (1913). Ганаровы суддзя Гродзенскага акруговага суда (з 1912). Прэзідэнт Гродна (1919–1922). Падчас дэбатаў наконт недахопу сродкаў на гарадскую гаспадарку сказаў : «Сам па сабе пералік страт не страшны, страшна жыццё з дня на дзень і няпэўная будучыня». Звярнуўся да жыхароў горада з наступным заклікам: «Жыхары Гродна! Грамадства ўсёй Польшчы будзе сёння... адзначаць свята 3 Мая... У гэты дзень ніхто з нас не павінен адсутнічаць на ўліцах горада, кожны дом павінен быць упрыгожаны флагамі ў нацыянальным колеры, кожнае акно – удэкаравана, а ўсе грамадскія і прафесійныя арганізацыі і таварыствы павінны прыняць актыўны ўдзел у святочнай дэманстрацыі... Памятайце, што аддаючы памяць стваральнікам Канстытуцыі 3 Мая, мы адначасова аддаём сваё слова падтрымкі прынцыпам Права і Свабоды» (3.5.1921). На пачатку ўсталявання польскай улады ў Гродна арганізаваў у горадзе курсы польскай мовы для ўсіх жадаючых (6.1919). Сябра праўлення таварыскаартыстычнага клуба «Муза» (Klub artystyczno-towarzyski Muza) (на 1921). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму радкі: «Być w Grodnie prezydentem – godność wyjątkowa, Bo tu władza być musi wrażliwa na straty, Tym wzrokiem urzeczony oficer sztabowy Wojsk rosyjskich Listowski, w Grodnie na kwaterze, Zdejmuje mundur obcy, wkłada narodowy I juz odtąd lat wiele Grodno służy szczerze. Ten saper energiczny, najpierw radny miasta. A następnie prezydent, po klęsce caratu, Przez swoją gospodarkę do wzoru urasta I jest pełen zapału, godzien poematu. Portretem Orzeszkowej, dziełem Kostrzewskiego, Kazał ścianę ozdobić, w obradnej komnacie I odtąd Orzeszkowa obok Listowskiego Przewodniczy obradom w pełnym majestacie». Памёр ад сардэчнага прыступу, вяртаючыся дахаты з працы. Пахаваны на фарных могілках. У Гродна Э. Лістоўскі меў некалькі дамоў: па вул. Aleja 3 Maja і Policyjna, якая пазней была названа ў яго гонар.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 1. B. 91. L. 3, 5; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 99 зв.-100 зв.; Там жа Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 16; «Gazeta Białostocka». 27.10.1913. № 43. Str. 669; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4. «Echo Grodzieńskie». 3.5.1921. № 97. Str. 1; «Dziennik Grodzieński». 17.5.1922. № 73. Str. 3; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 103; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 11; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Літвіновіч Аляксандр** // Litwinowicz Aleksander (27.2.1879, Пецярбург–14.1.1948, Шчэцін), вайсковец, генерал, інжынер-механік. Скончыў філалагічную гімназію ў Санкт-Пецярбургу (1897), будаўнічы факультэт Львоўскага політэхнічнага інстытута (1904). Сябра Саюза актыўнай барацьбы (Związku Walki Czynnej), Саюза стральцоў (Związku Strzeleckiego). Служыў у Польскіх легіёнах. Сябра ПАВ у Галіцыі. Удзельнічаў у польска-ўкраінскай вайне. Працаваў

пры інтэндантуры Міністэрства вайсковых спраў Польшчы (1919–1920). Брыгадны генерал (1924). Камандуючы ДОК III у Гродна (1927–1935). Займаўся актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасцю. Старшыня Таварыства сяброў Друскенік (prezes Towarzystwa Przyjaciól Druskiennik) (1930). Ініцыятар аднаўлення выдання «Ondyny druskiennickich źródeł». Удзельнічаў у працы мясцовай арганізацыі Саюза стральцоў. З'яўляўся ганаровым старшынёй вяслярнага клуба «Гродна»; кіраўніком асобай камісіі (Kuratorium Zamkowe), якая павінна былі каардынаваць працы, звязаныя з добраўпарадкаваннем Замкавай гары (1929). М. Ліманоўскі называў яго «чалавекам еўрапейскай культуры, які аказаў непераўзыдзеную дапамогу навуцы». У горадзе адбываліся спаборніцтвы па конных скоках праз перашкоды пад патранатам сям'і Літвіновічаў. Магчыма, заваяваў тытул чэмпіёна Гродна па тэнісе сярод мужчын на спаборніцтвах, якія праводзіў спартыўны клуб «Cresovia» (1932). Гродзенская гарадская Рада пастанавіла надаць яму званне ганаровага грамадзяніна Гродна і перайменаваць вул. Ogrodowa ў яго гонар (1935). Камандуючы ДОК VI у Львове (1935–1936). Другі віцэ-міністр вайсковых спраў (1936–1939). Удзельнічаў у адкрыцці выставы ў замку Баторыя (1938). Быў інтэрнаваны ў Румыніі (1939). Пасля Другой сусветнай вайны вярнуўся ў Польшчу.

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1609. Арк. 21 зв.; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 79 зв., 80; . Там жа Спр. 285. Арк. 19. зв.-20; «Reduta»(Grodno). 1927. № 9; «Reduta». 1927. № 16. Str. 2, 4; «Przegląd Kresowy». 15.2.1930. № 29; «Przegląd Kresowy». 27.3.1930. № 63; «Wieczorny kurier Grodzieński». 28.6.1932. № 28. Str. 4; M. Limanowski. W Grodnie kopie Jodkowski // «Słowo». 1937. № 153. Str. 2; «Dziennik Kresowy». 1938. № 236; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 198-199.

**Ліўшыц Абрам** // Lifszyc Abram (1896–1943 (?)), настаўнік. Скончыў сярэднюю школу ў Мінску (1915), праслухаў два курсы ўніверсітэта ў Петраградзе, педагагічныя курсы для настаўнікаў (1927), летнія педагагічныя курсы павышэння кваліфікацыі (1940). Выкладаў прыродазнаўства ў яўрэйскай школе (1919–1923), школе «Тарбут» (1923–1939), сярэдняй рускамоўнай школе № 7. Падчас нямецкай акупацыі – загадчык аддзела гандлю і вытворчасці пры юдэнраце Гродна (1941–1943). Пазней вывезены ў Беласток, дзе, хутчэй за ўсе, і загінуў.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 30-30 зв.; »Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні» // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 388, 442.

**Ліўшыц Маісей** // Lifszyc Mojżesz (1909 – ?), настаўнік. Скончыў эканамічны інстытут у Варшаве, настаўніцкія курсы (1939, 1940). Працаваў у камерцыйнай гімназіі І. Саса (1937–1940). Пазней – настаўнік матэматыкі і фізікі ў сярэдняй школе № 13 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 48-48 зв.

**Ліўшыц Ю.** // Lifszyc J., сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны (1917–1919). Старшыня рэвізійнай камісіі Купецкага банка (Bank kupiecki) (1933). Нейкі Ліўшыц з'яўляўся сябрам праўлення Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (T-wo przyjacioł m. Grodno) (на 1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр . 3. Арк. 3-6 зв.; «Dziennik kresowy». 2.4.1939. № 92. Str. 4.

**Лобман Рафал** // Lobman Rafał (4.1889, Варшава–7.1941, Гродна), суддзя, адвакат. Сын Ізраеля і Браніславы з Вегмайстраў. Скончыў пяць класаў 2-й прагімназіі ў Варшаве (1905), Пецярбургскі ўніверсітэт (1912). Памочнік прысяжнага адваката Я. Хесена ў Пецярбургу. Следчы суддзя ў Гродна (18.8.1919–1929). Адвакат (з 1929). Удзельнічаў у працэсе па справе яўрэйскага пагрому ў Гродна (1935). Згодна справаздачы Гродзенскага АЗОНа, «не вельмі добра зарэкамендаваў сябе падчас працэсу зберагальнай касы, калі пачаў... падтрымліваць супрацьлеглы бок і

на паперы дыскваліфікаваў маральную якасць польскіх суддзяў» (1937). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС (1904–1907). Сябра гродзенскага магістрата (на 1933–1935), адкуль, магчыма, быў вымушаны пайсці ў адстаўку пасля інтэрпеляцыі фракцыі ББСУ. Старшыня праўлення Купецкага банка (Bank kupiecki) (1933), Саюза стральцоў (Zw. Strzel.), школьнай рады (Rady Szk.). Віцэ-старшыня Гродзенскага аддзялення ББСУ (1934), ЛОПП і добраахвотнага пажарнага таварыства (ochotn. Straży ogniowej) (1927–1935). Друкаваўся ў мясцовай прэсе, перакладаў навуковыя працы з рускай мовы. Жанаты з Зоф'яй Янішэўскай (3.2.1934). У Гродна быў вядомы пад мянушкай «Kawalarz Polonia Restituta», якую атрымаў у свой час разам з адпаведнай узнагародай. Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай разам з іншымі васьмюдзесяццю прадстаўнікамі мясцовай яўрэйскай інтэлігенцыі. Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Był miły Rafał Lobmann, adwokat potężny Bronił czule klientów mimo przeszkód stosu, Gdy wybuchł w świecie konflikt i łoskot orężny, Bronił mężnie Ojczyzny od wrogiego ciosu...» Жыў па вул. Napoleona, 8 (1925), Hoovera, 9 (1938).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 1719; ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 1-8; «Wieczorny kurier Grodzieński». 14.8.1932. № 75. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 1.10.1932. № 122. Str. 4; «Ostatnie wiadomości Grodzieńskie». 17.3.1935. № 75. Str. 6; «Mały dziennik grodzieński». 13.11.1935. № 37. Str. 1; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 430-431; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 20; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Лойка Васіль** // Łojka Bazyli (1895–?), грамадска-палітычны дзеяч. Праваслаўны. Вярнуўся ў Гродна з бежанства (1920). Займаўся гандлем. Разам з братам з'яўляўся гаспадаром хрысціянскай гастранамічна-каланіяльнай крамы ў Гродна. Магчыма, узначаліў мясцовае аддзяленне Расійскай манархічнай арганізацыі (1924). Меў жонку Вераніку і трох дзяцей: Антона (1914 г.н.), Марыю (1914 г.н.) і Алену (1922 г.н.). Жыў па вул. Dominikańska, 18.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 19. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 104 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 52. Арк. 30 зв.; «Dziennik Grodzieński». 4.3.1922. № 15. Str. 1; А. Ліцкевіч. «Степень достоверности – достоверно...» Армія Булак-Балаховіча и антысавецкі супрацiў 1921–1927 гадоў у дакументах ВЧК (АДПУ) // «Беларуская думка». 1998. № 7. Ст. 88.

**Лорэнц Францішак** // Lorenc Franciszek, ксёндз-дэкан. Палкоўнік. Узначальваў Гродзенскі вайсковы дэканат. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 14; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Мінск: Зміцер Колас, 2011. Ст. 454.

**Лотыш Рудольф** // Łotysz Rudolf, лекар-рэнтгенолаг. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Listowskiego, 42; Napoleona, 19.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16.

**Лояк Тадэвуш** // Łojak Tadeusz (2.10.1893, Пшэмысль–1940, Катынь), вайсковец, падпалкоўнік. Шэф штаба 29-й пяхотнай дывізіі (сярэдзіна 1920-х), ДОК ІІІ (1938–1939). Трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў. Яго жонка была арыштавана органамі НКУС (1940).

*Літ.:* Gr. Lipinska. Jeśli zapomnę o nich... Warszawa, 2005. Str. 68, 70; http://www.ogrodywspomnien.pl/index/showd/12591; http://pl.wikipedia.org/wiki/29_Dywizja_Piechoty_(II_RP).

**Лукас Аляксандр** // Łukas Aleksander, настаўнік школы № 5. Скончыў выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Вынікі працы здавальняючыя» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7.

**Лукашэвіч Люцыян** // Łukaszewicz Łucjan, акруговы суддзя. На выбарах у Сейм з'яўляўся старшынёй выбарчай акругі № 6 (1922). Жыў па вул. Zielona, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 59. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2; Там жа. Спр. 3. Арк. 1.

**Лукашэвіч Мікалай** // Łukaszewicz Mikołaj (1894–?), вайсковец, падпалкоўнік. Служыў у 1-м

Гродзенскім беларускім палку, сябра Таварыства беларускіх вайскоўцаў у Гродна (1919). Магчыма, удзельнік Слуцкага паўстання (1920). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 1941) супрацоўнікам дабрачыннага аддзела (Fursorgewesen). Жыў па вул. Paradiesgasse, 6 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181, Арк. 22 зв.; Т. Данілюк Мае ўспаміны аб службе ў беларускіх вайсковых фармацыях і ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні. 1917-1921 // «Спадчына». 1995. № 5. Ст. 24.

**Лукашэўскі Генрых** // Łukaszewski Henryk, дырэктар сярэдняй школы, пазней – мужчынскай гімназіі. Часова выконваў абавязкі павятовага школьнага інспектара (1920). Быў пераведзены на пасаду дырэктара гімназіі ў Вільню (1922).

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 1. Str. 8; «Nowe życie». 1922. № 35. Str. 299.

**Лукашык Леанід** // Łukaszyk Leonid (1886, в.Кавалічы Лашанскай гміны Гродзенскага пав.–? ), беларускі дзеяч. Жыў у Гродна (з 1923). Працаваў на чыгунцы. Скарбнік Гродзенскага беларускага дабрачыннага таварыства (1924). Вылучаўся у Гродзенскую гарадскую Раду на выбарах ад беларуска-рускага блока (спіс № 12) (1927). Рэдактар газеты «Беларуская думка» (1930–1932). Старшыня Беларускага нацыянальнага выбарчага камітэта (1930). Жыў па вул. Łososiańska, 66 (1924) і вул. Mostowa, 9 (1927).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 155.

**Лукомскі Людвік** // Łukomski Ludwik, падкамісар паліцыі ў Гродна (на 1926). Лютэранін. Падпаручнік расійскага войска, харужы польскага войска. Скончыў юрыдычны факультэт Ягелонскага ўніверсітэта.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 111. Арк. 9.

**Лукша Вацлаў** // Łuksza Wacław (1892, в. Баброўнікі (?) Віленскага пав.–1962), каталіцкі святар, магістр тэалогіі, удзельнік Беларускага хрысціянскага руху. Паходзіў з сялянскай сям'і. Вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Маскоўскай навучальнай акругі (1910), скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю (1915). Тады ж быў пасвечаны ў святары. У час вучобы ўваходзіў у культурна-асветніцкі гурток беларусаў-семінарыстаў. Выкладаў рэлігію ў гімназіі ў Ваўквыску (з 1925). Пазней – прэфект гімназіі ў Гродна (з 1931).

*Літ.:* Ю. Гарбінскі Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Мн., Мюнхен., 1999. Ст. 106; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI – XX стст. Мінск, 2011. Ст. 451; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335.

**Лупачык Аляксандр** // Lupaczyk Aleksander, футбаліст. Гуляў нападаючым за каманду вайскова-спартыўнага 76-а пяхотнага палка (1932). Пазней – нападаючы (1936–1937), абаронца (1937–1938) футбольнай каманды WKS «Grodno». Разам з камандаю сем разоў быў чэмпіёнам акругі. На левым флангу «WKS», – узгадваў пазней былы гродзенскі гімназіст Ф. Рышка, – выступаў Аляксандр Лупачык, вядомы як Санька. Трэба ж гэтак здарыцца, што значна старэйшы за мяне Санька пасля вучыўся разам са мною на юрыдычным факультэце ў Вроцлаве. Пазней ён стаў ваяводскім пракурорам».

*Літ.:* F. Ryszka. Pamiętnik inteligenta: dojrzewanie. Warszawa. 1994; J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 15, 22, 26.

**Лушчкевіч Генрых** // Łuszczkiewicz Henryk, камендант гродзенскіх пажарных. Сябра павятовага аддзялення ЛОПП; магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.

**Люберадзкі Юзаф Караль** // Luberadzki Józef Karol, вайсковец, палкоўнік артылерыі. Служыў на розных пасадах пры ДОК III (сярэдзіна 1920). Камендант Гродзенскай крэпасці (obóz warowny)

(1923–1928). Падчас званага вечара на карысць Польскай Мацежы Школьнай ад імя вайсковай улады звярнуўся да грамадскіх арганізацый з заклікам да супрацоўніцтва. Акрамя таго, загадаў, каб жыхары горада дакладвалі пра непрыстойныя паводзіны вайскоўцаў непасрэдна яму, а «не распаўсюджвалі чуткі». Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłosnikow m. Grodno) (1924).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк. 33; «Echo Grodzieńskie». 20.1.1923. № 15. Str. 3; «Echo Grodzieńskie». 16.1.1923. № 21. Str. 3.

**Любіч Абрам** // Lubicz Abram, правізар. Кіраўнік хімічна-бактэрыялагічнай лабараторыі на Сенным рынку (1925). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927; 1934–1939). Сябра камісіі якая мела на мэце абарону статусу Гродна, як «горада, не выдзеленага з павета» (1927), камісіі па вызначэнні стану гарадскіх шпіталяў (1928), камісіі па ўдакладненні герба горада (1936) і інш.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 64 зв.-65; Там жа Спр. 4. Арк. 196; Там жа Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Любкевіч Антоні** // Lubkiewicz Antoni, польскі грамадскі дзеяч. Паходзіў з сялянскай сям'і Лідскага павета. Вучыўся ў гімназіі ў Вільні, адначасова падпрацоўваючы прыватнымі ўрокамі. Паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Падчас Першай сусветнай вайны працаваў у Польскім таварыстве дапамогі ахвярам вайны. Пазней пераехаў у Варшаву, дзе працаваў у галоўным праўленні Польскай Мацежы Школьнай (1918), пасля ў прэс-бюро Міністэрства гандлю і прамысловасці. Удзельнічаў у польска-савецкай вайне. Галоўны рэдактар «Dziennika Grodzieńskiego» (пачатак 1920-х).

**Любоўскі Шмуэль** // Lubowski Shmuel, настаўнік школ «Тарбут» (1923). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). Жыў па вул. Klasztorna, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Ст. 7-73в.

**Лявіцкі Андрэй** // Lewicki Andrej, псаломшчык. Сябра РАМ. Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Пазней пераведзены з Гродна ў Беласток.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 13; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 15.

**Лянтоўскі Леон** // Łętowski Leon (каля 1890–падчас Другой сусветнай), акцёр. Распачаў сваю тэатральную кар'еру з народнага тэатра ў Кракаве (1912). Пазней запісаўся ў польскія легіёны (1914), быў цяжка паранены. Удзельнічаў у польска-ўкраінскай і польска-савецкай войнах. Вярнуўся на сцэну (1921). Выступаў у тэатры «Багатэля» ў Кракаве, тэатрах у Луцку, Плоцку, Любліне. Акцёр тэатра ў Гродна (1934–1938). Выконваў, галоўным чынам, характарныя ролі. Тут адзначыў юбілей, дваццаціпяцігоддзе сваёй тэатральнай працы, выступаючы ў ролі Ракускага («Падаючы дом») (11.12.1937).

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 397.

**Ляпарскі В.** // Leparski W., кіраўнік гродзенскай турмы (1923–1925). Быў зняты са сваёй пасады пасля таго, як у друку з'явіўся зварот зняволеных, у якім апісваліся цяжкія ўмовы ўтрымання за кратамі, т. зв.«Ліст жанчын».

*Літ.:* В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 309.

**Лясневіч //** Leśniewicz, настаўнік адной з сярэдніх школ. Сакратар праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1937).

*Літ.:* J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 62.



**Мадзалеўская Зоф'я** // Modzelewska Zofia (1886–?), настаўніца. Скончыла гімназію А. Дучынскай у Кіеве, фізіка-матэматычны факультэт Парыжскага ўніверсітэта, педагагічныя курсы для настаўнікаў сярэдняй школы (1932). Пачала выкладаць яшчэ ў Парыжы, у школе С. Фенелона (1912–1914). Пазней працавала на прадпрыемстве «Эргон» у Варшаве ў якасці чарцёжніка-канструктара (1916–1922). Зноў займалася навучаннем у гімназіях у Янаве, Ломжы (1922–1928). Выкладала матэматыку і фізіку ў гімназіі імя Э. Плятэр (1928–1939) у Гродна, у рускамоўнай сярэдняй школе № 11 (1940). Падчас нямецкай акупацыі – кіраўнік тайнага навучання.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127 Воп. 2. Спр. 10. Арк. 3-3 зв., 19-19 зв. Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Маеўскі Аляксандр** // Majewski Aleksander (каля 1900–?), грамадска-палітычны дзеяч. Сябра павятовага камітэта ППС – рабочай фракцыі. Пазней – хрысціянскай дэмакратыі (PSChD), старшыня акруговага сакратарыята партыі (1926), кіраўнік акруговага сакратарыята хрысціянскіх прафсаюзаў (chrześcijańskich związków zawodowych). Пайшоў на супрацоўніцтва з праўрадавай арганізацыя ББСУ і яе мясцовым кіраўніком К. Лашкевічам, што прывяло да расколу гродзенскіх хадэкаў. Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Majewski Aleksander godzien pochwal wszelkich, On to bowiem dowodził wielkimi masami. Był w Związkach Chrześcijańskich twardym sekretarzem, Zerwał, albo nawiązał układ z Pepeesem. Podnosić stawki uczył w walce z gospodarzem I jak czuwać nad własnym dobrym interesem».

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; H. Majecki. Chrescijańska Demokracja w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1992. T. 1. Str. 12; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 55. 56; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1995. T. 2. Str. 48; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 50.

**Маеўскі Францішак** // Majewski Franciszek (каля 1896–?), вайсковец, палкоўнік. Камандуючы Гродзенскай крэпасцю. Пазней у адстаўцы. Купец. Разам з іншымі былымі вайскоўцамі адчыніў у горадзе новы кааператыўны гандлёвы склад (1922). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Магчыма, разам з сям'ёй быў вывезены савецкімі органамі бяспекі на

Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Жыў па вул. Mickiewicza, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20; «Dziennik Grodzieński». 2.3.1922. № 13. Str. 3; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 144.

**Мазуркевіч Леон** // Mazurkiewicz Leon (каля 1892–?), рабочы. Служыў у Польскіх легіёнах. Кіраўнік Гродзенскай арганізацыі ППС. Па ўспамінах А. Бергман, «не належаў да заядлых пэпээсаўцаў, якія галоўнай мэтай бачылі барацьбу супраць камуністаў». Выступаў з прывітальнай прамовай ад імя ППС на адкрыцці першага пасяджэння Гродзенскага савета рабочых дэпутатаў (26.1.1919). Быў арыштаваны, магчыма, па абвінавачванні ў камуністычнай дзейнасці (1924). Узначаліў павятовы працоўны камітэт ППС (1929). Шматгадовы старшыня акруговай прафсаюзнай рады (Okręgowej Rady Związków Zawodowych); сябра Таварыства рабочага ўніверсітэта (Towarzystwo Uniwersytetu Robotniczego). Рэдагаваў партыйныя газеты. За вострыя артыкулы неаднаразова меў судовыя справы з рознымі прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі. Напрыклад, з былым кіраўніком пажарнай аховы Паўлоўскім (1935). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў (Polska Partia Socjalistyczna i Rady Klasowe Związków Zawodowych) (1927). Радны магістрата (на 1930). Выступіў з прапановаю наогул адмовіцца ад субсідый паасобным установам і перадаць усе сродкі на фінансаванне дзяржаўных агульных школ. Сябра будаўнічага аддзела і адначасова – рэферэнт. Пазней сышоў са сваёй пасады, захаваўшы за сабою месца ў магістраце, чым выклікаў у горадзе хвалю чутак. Аднак, у выніку, сам выступіў на старонках мясцовых газет з абвінавачваннямі ў адрас гродзенскага магістрата ў злоўжываннях, чым выклікаў чарговы скандал (1932). Падчас нямецкай акупацыі – кіраўнік будаўнічага аддзела пры гарадскім упраўленні.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 15. Воп. 1. Спр. 35. Арк. 12; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 4, 8; Там жа Спр. 200. Арк. 37 зв.-38 зв.; «Наше Утро». 28.1.1919. № 23. Стр. 1-2; «Nowe życie». 28.8.1924. № 55; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Gazeta polska ziemi Grodzieńskiej». 28.12.1929. № 58. Str. 1; «Wieczorny kurier Grodzieński». 9.9.1932. № 100. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 5.11.1932. № 156. Str. 4; «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 46. Str. 4; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1995. T. 2. Str. 47.

**Мазурэк Маўрыцы** // Mazurek Maurycjusz, айцец-гвардыян францысканцаў з кляштара Маці Божай Анёльскай. Старшыня Занёманскага дабрачыннага таварыства імя Э. Ажэшкі (на канец 1920-х).

*Літ.:* Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 356.

**Маісееў Васіль** // Moisejew Bazyli, праваслаўны святар. Ключнік, намеснік архіепіскапа Алексія. Выконваў абавязкі настаяцеля Пакроўскага сабора ў Гродна (1925–1927). Падчас святкаванняў у гонар Т. Шаўчэнкі выступіў з прывітаннем па-беларуску (1930). Выкладаў праваслаўную рэлігію ў гродзенскіх гімназіях (сярэдзіна 1920-х).

*Літ.:* Em. Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335; В. Черепица ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX- XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 243.

**Макаль Ян** // Makal Jan (?–25.12.1938, Гродна), адвакат. Праваслаўны. У некралогу ў яго гонар С. Земак пісаў: «Памёр адзін з найлепшых жыхароў Гродна. Спакойны і сардэчны, прыцягваў да сябе кожнага, з кім сутыкаўся. Яго душа – быццам бы была поўная сонечных промняў: столькі было ў ёй цяпла». Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 10.

*Літ.:* «Głos grodzieński». 1938. № 85. Str. 4; «Głos grodzieński». 1938. № 86. Str. 4.

**Макалінскі Ніканор** // Makaliński Nikanor (?–1943), палкоўнік інжынерных войск. Пад яго кіраўніцтвам быў пабудаваны пешаходны мост праз чыгунку. Беларускі дзеяч прапольскай арыентацыі ў Гродна (1923). Першы віцэ-старшыня РДТ, якое ўзначаліў пасля смерці яго кіраўніка У. Кошалева (1925). Другі муж Валянціны Кемарскай. Гаспадар каменнага двухпавярховага асабняка па вул. Północna.

*Літ.:* «Зарница». 6.1.1926. Стр. 9.

**Макараў Яўгеній** // Makarów Eugeniusz (1883, Баровічы, Наўгародская губ.–1947, Гродна), іканапісец. Мастак-рэстаўратар. Удзельнік руска-японскай вайны. Займаўся разам з арцеллю рамонтам і рэстаўрацыяй цэркваў Гродзенскай губерні. Пазней пасяліўся разам з сям'ёй у Гродна (1918). Працягваў займацца жывапісам, маляваў іконы. Яго працы ўпрыгожвалі Барысаглебскую царкву, Пакроўскі сабор. Аўтар насценных роспісаў у т.зв. доме Мураўева ў Гродна. У савецкі час працаваў мастаком-афарміцелем і дэкаратарам у абласным тэатры.

*Літ.:* В. Черепица. Преодоление времени. Мн., 1996. Стр. 204-205.

**Макарэвіч Браніслаў** //Makarewicz Bronisław, грамадска-палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў т.зв. «людоўцаў» (Stronnictwo Ludowe) у павеце: старшыня мясцовага праўлення, сябра ваяводскага праўлення (з 1931) і галоўнага праўлення (з 1938) партыі. Сябра Камітэта пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 333. Арк. 18 зв.; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4. Z. Tomczonek. Ruch ludowy w powiecie grodzieńskim w okresie międzywojennym // Białostocczyzna. 1991. T. 2. Str. 22.

**Макжэцкі Адам Вінцэнт** // Mokrzecki Adam Wincenty (16.07.1856, маёнтак Дзітрыкі Лідскага павета – 6.04.1921, Гродна), вайсковец, генерал. Брат генерала С. Макжэцкага. Вучыўся ў Пскоўскай вайсковай прагімназіі, Віленскай школе юнкераў, Арыенбургскай стралковай школе. Афіцэр расійскай арміі (з 1872). Удзельнік руска-турэцкай вайны (1878). Служыў у Пермскім палку ў Гродна. Генерал-маёр (1914). Быў паранены (1915). Служыў у 1-м польскім корпусе расійскай арміі. У польскім войску (1918), камандуючы другой групай Віленскай самаабароны, польскі камендант Вільні (1919). Удзельнік польска-савецкай вайны, камандуючы 7-й і 8-й пяхотнымі дывізіямі, Генеральнай акругай Гродна (1920). Пераведзены ў стан спачынку ў званні генерала-падпаручніка (1921). Памёр ад інфаркту. Пахаваны на фарных могілках у Гродна.

*Літ.:* J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 104; Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w.-1945. Bydgoszcz, 2010. Str. 266.

**Макжэцкі Стэфан** // Mokrzecki Stefan (11.5.1862, маёнтак Дзітрыкі – 9.4.1932, Вільня), вайсковец, генерал-маёр расійскай арміі. Генерал дывізіі польскай арміі. Брат генерала А. Макжэцкага. Вучыўся ў Пскове, школе юнкераў у Рызе. Афіцэр Пермскага пяхотнага палка (з 1881), служыў у Ваенным міністэрстве (з 1907), камандуючы Кобрынскім пяхотным палкам. Трапіў у нямецкі палон (1914). Вярнуўся на фронт у якасці камандуючага пяхотнай брыгадай. Служыў у 3-м польскім корпусе (1917), у польскай арміі (з 3.1919). Камандуючы Гродзенскай крэпасцю (9-11.1920). Старшыня часовай кіруючай камісіі Сярэдняй Літвы (1921–1922). У адстаўцы (з 1925).

*Літ.:* P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 224-225; Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w.-1945. Bydgoszcz, 2010. Str. 266-267.

**Малабендзкі Антоні** // Małobędzki Antoni, грамадскі дзеяч. Выдавец газет «Nadniemeński Kurier Polski» (1924–1926) і «Nowy Dziennik Kresowy» (1925).

**Маласінскі (Малесінскі) Леон** // Malasiński (Malesiński) Leon (1894, Кны-

шын–?), настаўнік. Паляк. Скончыў матэматычны факультэт Варшаўскага настаўніцкага інстытута. Пасля ўсталявання савецкай улады – завуч сярэдняй школы № 10 (на 1941). Падчас нямецкай акупацыі працаваў на мясцовым лесапільным заводзе. Дзейнічаў у АК. Быў настаўнікам матэматыкі ў школе № 2 (1944). Пасля вайны – у Беластоку. У Гродна жыў па вул. 1-га Мая, 12 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37, L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 70; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334.

**Маліноўскі Вацлаў** // Malinowski Wacław (1890–1939), акцёр, рэжысёр. Вучыўся ў драматычным класе пры Варшаўскім музычным таварыстве (1906). Выступаў у Калішы, Жытоміры, Плоцку і інш. Сябра польскага тэатра ў Кіеве (1915–1918), польскага тэатра ў Вільні (1919–1920, 1921). Кіраваў вайсковымі тэатрамі ў Варшаве і Слоніме (1920). Выступаў у Гродна (1924–1925). Тады ж разам з гродзенскай трупай выязджаў на выступленні ў Друскенікі. Сябра Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна, праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925). Пазней – у тэатрах Вільні, Варшавы і Лодзі. Быў акцёрам з вельмі характарнымі знешнімі дадзенымі.

*Літ.:* «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 8. Str. 2; «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1; Słownik biofraficzny teatru polskiego. Warszawa, 1973. Str. 417-418.

**Маліноўскі Ян** // Malinowski Jan, гаспадар аптэчнага склада па вул. Дамініканскай 13/15 (з 1908). Актыўны грамадскі дзеяч. Сябра праўлення Таварыства апекі над дзецьмі падчас Першай сусветнай вайны і Таварыства апекі над ахвярамі вайны (Zarząd T-wa Opieki nad ofiarami wojny). Старшыня і апякун дома састарэлых і дзіцячага садка. Выступіў з пратэстам супраць вывазу людзей у Нямеччыну. Удзельнічаў у дэлегацыі да кн. Е. Сапегі з просьбаю далучыць Гродзеншчыну да Польшчы (1918). Сябра Польскай Мацежы Школьнай, выконваў у ёй абавязкі скарбніка (з 1919); сябра Антыбальшавіцкай лігі, за што адносна яго быў вынесены мясцовым ЧК смяротны прысуд (1920). Адзін з актыўных сяброў мясцовай хрысціянскай дэмакратыі. Сябра Камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922). Віцэ-старшыня праўлення Таварыства польскіх купцоў (zarząd Stowarzyszenia kupców polskich) (на 1938). Мясцовае грамадства адзначыла трыццаць год яго прафесійнай дзейнасці (1938).

*Літ.:* «Nowe życie». 1920. № 4. Str. 31; Там жа 1922. № 24. Str. 174; «Dziennik Kresowy». 5.10.1938. № 272. Str. 5; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 25-26.

**Малярчык** // Malarczyk, спартсмен, футбаліст каманды WKS «Grodno». Варатар і трэнер гродзенскай хакейнай каманды «Cresovia». Удзельнік першага афіцыйнага хакейнага матча ў Гродна (24.1.1932).

*Літ.:* «Gazeta Grodzieńska». 24.01.1932; J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 12.

**Манкелевіч Міхаіл** // Monkielewicz Michał, інспектар працы. Афіцэр запасу. Падчас святкавання гадавіны смерці караля Баторыя выступіў са святочнай прамовай (1936). Сябра камісіі па спрэчках (komisji razjemczej), Таварыства загарадных участкаў (Towarzystwo ogródkow działkowych w Grodnie) (1939). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Pan Michał Monkielewicz – to Inspektor Pracy, Strajki lubił i godził powaśnione strony, I Żydzi przed nim drżeli, i drżeli Polacy, Lecz robotnik miał świetny w nim atut obrony. Inspektor bowiem dobrym był bardzo prawnikiem I działaczem społecznym, Polakiem bez skazy, I mówcą był płomiennym, pracy poplecznikiem, Toteż spory rozstrzygał bez prawa obrazy».

*Літ.:* «Rezerwista ziemi grodzieńskiej». 1937. № 1. Str 4; «Dziennik kresowy». 13.3.1939. № 72. Str. 2; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 81.

**Мантур Уладзімір** // Montur Włodzimierz (каля 1907–?), рабочы. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Мараўская Міхаліна** // Morawska Michalina (1886–?), настаўніца. Скончыла гімназію, Вышэйшыя курсы замежных моў, настаўніцкія курсы (1940). Працавала ў чатырохкласнай прагімназіі ў Пецярбургу (1906–1917), Віленскай беларускай гімназіі (1919–1920). Сакратар беларускіх настаўніцкіх курсаў у Вільні (1919), дырэктар Гродзенскай беларускай гімназіі (1920), скарбнік школьна-прытулкавай рады ў Гродна (1921). Пазней – настаўніца гімназіі імя А. Міцевіча (1920–1937), настаўніца і сакратар гімназіі імя Г. Сянкевіча ў Гродна (1937–1939). Паводле дэфензівы, выкладаючы польскую мову ў гімназіі імя А.Міцкевіча, «карысталася выключна беларускай мовай і нават звярталася па-беларуску з просьбамі да афіцыйных улад» (1921). Настаўніца рускай мовы ў няпоўнай сярэдняй школе № 17 (з 1.2.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 7 – 7 зв. Там жа. Ф. 689. Воп. 1. Спр.70. Арк. 88; А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 162.

**Мараўскі Эдвард** // Morawski Edward (каля 1896 – 4.7.1935), доктар. Працаўнік гродзенскага шпіталя, гарадскі санітарны лекар (lekarz sanitarny miejski) (на 1923). Сябра гарадской санітарнай камісіі (1928). Выкладаў гігіену ў гімназіі імя А. Міцкевіча (1933). Вылучаўся па спісе ПСЛ «Вызваленне» на выбарах у Сейм (1922). Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 8 (1922); Mickiewicza, 14 (1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 177. Арк. 2, 5, 6; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 34; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 88. Арк. 60; «Dziennik Kresowy». 2.12.1923. Str. 4; «5 groszy Grodzieński kurier codzienny». 4.7.1935. Str. 4.

**Марголіс Юда** // Margolis Juda (? – 18.4.1930), старшыня рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны Гродна. Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924). Магчыма, сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 75. Арк. 182; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; «Przegląd Kresowy». 18.4.1930. № 82.

**Мардэр-Эпштэйн Рэвека** // Marder-Epsztejn Reweka (1911–?), настаўніца. Скончыла фізіка-матэматычны факультэт Львоўскага ўніверсітэта, праслухала курсы па беларускай мове і педагогіцы (1940). Працавала настаўніцай у дзіцячым прытулку ў Вільні (1935–1937), гімназіі «Тарбут» у Гродна (1937–1940), настаўніцай матэматыкі і фізікі ў рускамоўнай сярэдняй школе № 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н, Арк. 35-35 зв.

**Маркевіч Станіслаў** // Markiewicz Stanisław, кіраўнік гандлёвай школы Польскай Мацежы Школьнай (1922). Нейкі Маркевіч пазней працаваў у Польскім банку (Bank Polski) ў Гродна. Магчыма, гэта яму Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» прысвяціў наступныя радкі: «A teraz Pan Markiewicz razem z żoną swoją Siedzą w Łodzi w ZOO-ku między tygrysami, O bankach już nie myślą i lwów się nie boją, Ale myślą o Grodnie i tęsknią czasami ...»

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 52.

**Маркус Ізраэль** // Markus Izrael (каля 1877–?), інжынер. Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад Яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego), сябра яўрэйскай фракцыі (1927). Сябра камітэта па разбудове Гродна (1928). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны Гродна, дзе замяніў Б. Абеля (1.1932).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20,116; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 7; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Марозава Праскоўя** // Morozowa Proskofja (1888 (па іншых звестках–1879)–?), грамадская дзяячка. Жонка М. Марозава. Кандыдат ад блока «Беларускае грамадства» на выбарах у Гродзенскую Раду, заснавальніца Гродзенскай вучнёўскай грамады (1919), сябра Гродзенскай беларускай школьнай рады (1920). Магчыма, пазней пераехала ў Вільню.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 130. Арк. 20; LCVA F. 53. Ap. 23. B. 1551. L. 10 г.; «Бацькаўшчына». 1919. № 3.

**Марозаў Мікалай** // Morozow Mikołaj (1867–?), грамадскі дзеяч. Інжынер-будаўнік. Старавер. Вярнуўся ў Гродна з бежанства (1918). Сябра Гродзенскай беларускай управы, часовага гарадскога камітэта, прадстаўнік літоўскага Міністэрства фінансаў у Гродна, сябра гарадской Рады ад спіса беларускіх грамадзян (1919). На выбарах у Сейм беспаспяхова вылучаўся ад рускага блока (1928). Жыў ва ўласным доме па адрасе: Aleja 3 Maja, 22.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 163-164.

**Марцінкевіч Анатоль** // Marcinkiewicz Anatol (1.7.1911, Гродна–2.4.1973), адзін з выдатных спартыўных дзеячаў Гродна міжваеннага і пасляваеннага часу. З сям'і службоўцаў. Вучыўся ў гімназіі ў Гродна (1922–1932). Працаваў рахункавым супрацоўнікам гарадскога фінаддзела (1933–1939). Яшчэ гімназістам прымаў удзел у спартакіядзе ў Ражанстоку (1931). Выступаў у некалькіх відах лёгкай атлетыкі; заняў другое месца ў штурханні ядра і кіданні дыска. З'яўляўся арганізатарам адных з першых у горадзе спаборніцтваў па баскетболе. Быў узнагароджаны залатым медалём баскетбольнага чэмпіянату ў Гродна (1934). Заняў першае месца па скачках у вышыню на лёгкаатлетычных спаборніцтвах у Гродна (1935). Выступаючы на чэмпіянаце Гродзенскай падакругі Беластоцкай акругі, заняў першае месца па скачках у даўжыню (5 м 53 см), скачках у вышыню (1 м 71 см) і кіданні кап'я (39 м 23 см) (1936). У жніўні гэтага ж года Марцынкевч перамагае ў чэмпіянаце Гродзенскай акругі па пяцібор'і з вынікам у 2630 ачкоў. На юбілейным чэмпіянаце лёгкаатлетычнага саюза Беластоцкай акругі заняў трэцяе месца па скачках у вышыню (1937). Паспяхова выступаў за спартыўны клуб WKS «Grodno» у спаборніцтвах па фехтаванні на шаблях і шпагах. Дзякуючы агульнаму захапленню лёгкай атлетыкай, блізка пасябраваў з іншым выдатным гродзенскім спартсменам Вітольдам Герута. Займаўся трэнерскай дзейнасцю (з сярэдзіны 1930-х). Пасля ўсталявання савецкай улады працаваў рамонтным рабочым на чыгунцы, бухгалтарам гарраймелькамбіната. Падчас нямецкай акупацыі быў рахункаводам Гродзенскага гарадскога фінаддзела. Пасля вайны быў бухгалтарам ва ўправе гродзенскай чыгункі, бухгалтарам і выкладчыкам баскетбола ў тэхнікуме фізічнай культуры, з'яўляўся старшынёй гарадскога камітэта фізічнай культуры. Скончыў завочнае аддзяленне Беларускага інстытута фізічнай культуры (1955). Працаваў у пединстытуце, культасветвучэльні, дзіцячай спартыўнай школе, на кафедры фізвыхавання Гродзенскага пединстытута (1964–1973). Падрыхтаваў чэмпіёна алімпійскіх гульняў, прызёраў міжнародных і нацыянальных чэмпіянатаў па баскетболе.

*Літ.:* Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы: біяграфічны даведнік. Гродна, 1999. Ст. 328-329; А. Пяткевіч «Людзі культуры з Гродзеншчыны». Гродна, 2000. Ст. 203-204; «Гродно-93. История». Режим доступа http://www.grodno93.org/?120_2 Датадоступа 2013.01.28.

**Марцінкевіч Ян** // Marcinkiewicz Jan, грамадска-палітычны дзеяч. Сын былога гродзенскага павятовага спраўніка. Працаваў у гарадскім упраўленні. Адзін з ініцыятараў ства-

рэння і сябра праўлення Таварыства праваслаўных палякаў у Гродна (1936).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 27, 86.

**Марчэўскі //** Marczewski, вайсковец, сяржант. Кіраўнік моладзевай секцыі пры WKS «Grodno». Дзякуючы яго працы, каманда гродзенскіх юніёраў некалькі год утрымлівала першынства акругі і прымала ўдзел у чэмпіянаце Польшчы.

*Літ.:* «Przegląd sportowy». 22.06.1939.

**Марыя / Чарноўская Валерыя** // Maryja / Czarnowska Waleria, маці ордэна назарэтанак. Яшчэ перад Першай сусветнай вайной была вядома сваёй грамадска-рэлігійнай дзейнасцю ў Вільні, дзе арганізавала тайную школу Св. Юзэфа для польскіх настаўнікаў. Там жа арганізавала пазней гімназію і інтэрнат сясцёр-назарэтанак. Узначаліла ордэн назарэтанак у Гродна (з 1924). Узнагароджана медалямі «Polonia Restituta» і «Bene merentium».

*Літ.:* «Nowe życie». 7.12.1924. № 84. Str. 3.

**Маслоўская-Матэйчук Вера** // Masłowska-Matejczuk Wera (23.3.1896 (11.3.1898?), в. Агароднікі Беластоцкага пав.–23.1.1981), беларуская нацыянальная дзяячка. Настаўніца. Скончыла Свіслацкую беларускую настаўніцкую семінарыю. Сябра БПС-Р. Старшыня Цэнтральнага хаўрусу беларусак; інструктар беларускага пададдзела Наркамата асветы БССР у Дзісненскім і Барысаўскім паветах (1920). Сябра Гродзенскай грамады беларускай моладзі. Працавала выхавацелькай у Гродзенскім беларускім прытулку. Адна з кіраўнікоў беларускага антыпольскага руху на Гродзеншчыне (1921). Праходзіла па «справе 45-ці» ў Беластоцкім акруговым судзе (1923). Была прыгаворана да шасці год зняволення. Пазней працавала настаўніцай у вёсках Гродзеншчыны і Беласточчыны.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 165-167.

**Масціцкая Станіслава** // Mościska Stanisława, арганізатар і першы дырэктар жаночай кравецкай школы (іншая назва – żeńska szkoła zawodowa) Польскай Мацежы Школьнай у Гродна (з 1921). Надрукавала на старонках газеты «Dziennik kresowy» адкрыты ліст з падзякай сваім калегам за працу па арганізацыі школы (1923). Сябра праўлення «Гуртка полек» (Koła Polek) (1921). Балатавалася на выбарах у гарадскую Раду (1927). Арыштавана органамі НКУС (пасля 1939 г.).

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 41. Str. 322; «Dziennik kresowy». 8.7.1923 № 157. Str. 4; Gr. Lipińska Jeśli zapomnę o nich... Warszawa, 2005. Str. 73, 75; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 336.

**Матляк Станіслаў** // Matlak Stanisław, супрацоўнік гродзенскага старагства: рэферэнт па вайсковых справах, кіраўнік аддзела прэсы і публічнай бяспекі (1932). Працаваў у Банку польскім. Сябра праўлення Гродзенскага гуртка таварыства дзяржаўных служачых (zarząd koła grodzieńskiego stowarzyszenia urzędników państwowych) (1930), павятовага аддзялення ЛОПП, Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Пазней – намеснік старасты ў Ломжы, Беластоку. Беластоцкі стараста (на 1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; «Pzegląd Kresowy». 25.3.1930. № 61; «Wieczorny kurier Grodzieński». 10.8.1932. № 71. Str. 4; «Głos Grodzieński». 1939. № 30. Str. 4; «Dziennik kresowy». 4.2.1939. № 35. Str. 3.

**Матушэвіч Адольф** // Matuszewicz Adolf, суддзя. Першы старшыня Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над зняволенымі «Патранат» (1924).

*Літ.:* Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест.

2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363.

**Мацкевіч Браніслаў** // Mackiewicz Bronisław (1907, Гродна – ?), настаўнік. Скончыў Познаньскі ўніверсітэт (1933). Працаваў настаўнікам у сярэдняй школе № 2 (1940). Падчас нямецкай акупацыі – зубны тэхнік у гарадской амбулаторыі. З вяртаннем савецкай улады – настаўнік у школе № 2 (1944). Жыў па вул. Красінскага, 6 (1944).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 38.

**Мацкевіч Мечыслаў** // Mackiewicz Mieczysław (9.5.1880, пав. Кальварыя–каля 1946, Ніцца), вайсковец, генерал у адстаўцы. Бацькі – Генрых і Саламея з Біршгейнаў, землеўладальнікі ў Сувалкаўскім павеце. Скончыў шэсць класаў гімназіі ў Марыупалі. Служыў у царскім войску (з 1899). Скончыў школу юнкераў у Пецярубргу. Служыў у 26-й пяхотнай дывізіі ў Гродна. Сябра партыі эсэраў. Супрацоўнічаў з Ю. Пілсудскім (з 1913). Магчыма, дастаўляў яму агентурныя дадзеныя. Камандаваў кулямётнай ротай (1914). Трапіў у нямецкі палон. Сябра ПАВ. Пазней – у польскім войску (1918). Кіраўнік аддзела пры Генштабе, камандаваў 41-м Сувалкаўскім палком, 2-й літоўска-беларускай дывізіяй і 18-м пяхотным палком. Сябра верыфікацыйнай камісіі пры МВС і капітулы ордэна Virtuti Militari. Сябра польскай дэлегацыі ў Коўна (1919). Удзельнічаў у польска-савецкай вайне. Быў паранены. Афіцэр па літоўскіх справах пры Галоўным камандаванні. Пасля камандаваў 3-й пяхотнай дывізіяй у Брэсце (1921–1926), 26-й пяхотнай дывізіяй у Скерняўцах (1926–1935). Брыгадны генерал (1927). Пасля адстаўкі пераехаў у Гродна (з 1935). Сябра выбарчай камісіі на выбарах у гарадскую Раду (1939). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939), старшыня Грамадзянскага саюза (Związku Obywatelskiego). Старшыня Польскага саюза (Związku Polskiego). Выступаючы на сходзе арганізацыі, заклікаў да надання «польскага характару» эканамічнаму жыццю ў горадзе і краіне. Ганаровы сябра Таварыства польскіх купцоў (członek honorowy Stowarzyszenia kupców polskich). Зноў мабілізаваны ў войска (1939). Трапіў у нямецкі палон, адкуль быў вызвалены толькі ў канцы вайны. Пазней жыў у Францыі. Меў дачку Ірыну і сына Уладыслава. Жыў па вул. Brygidzka, 32.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; «Dziennik Kresowy». 22.11.1938. № 320; «Dziennik Kresowy». 12.12.1938. № 338; «Dziennik kresowy». 13.4.1939. № 101. Str. 4; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 206-207.

**Мацукевіч Казімір** // Macukiewicz Kazimierz (1911–?), настаўнік фізкультуры. Скончыў настаўніцкую семінарыю, інстытут фізкультуры. Прайшоў курсы павышэння кваліфікацыі пры Акадэміі фізічнай культуры (1938–1939). Працаваў у дзіцячым доме ў Варшаве (1933–1936), у школе ў Мендзылессе (1933–1934), гімназіі ў Брэсце (1936–1937). Пазней – у Гродна. Настаўнік фізкультуры ў мясцовым ліцэі, гімназіі імя Г. Сянкевіча (1937–1940). Кіраўнік лёгкаатлетычнай секцыі (sekcja lekkoatletyczna) клуба «Cresovia». З усталяваннем савецкай улады працаваў у гарадскім камітэце фізкультуры і спорту, школе № 2, дзіцячай спартыўнай школе, ФЗІ «Швейнік» (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 50-50 зв.; «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228.

**Мацяеўскі Казімір** // Maciejewski Kazimierz (30.1.1897, Варшава–1940, Старабельск), доктар-акуліст. Маёр. Скончыў гімназію ў Мітаве. Вучыўся ва ўніверсітэтах у Дэрпце і Варшаве. Служыў у польскім войску. Кіраўнік санітарнай кампаніі ў Варшаве (1925–1928). Скончыў Вышэйшыя штабныя курсы. Лекар пры акруговым шпіталі ў Гродна. Сябра Гродзенскай акруго-

вай арганізацыі АЗОНа (1937). Трапіў у савецкі палон, дзе загінуў. У Гродна жыў на Pl. Teatralny, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 15; J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 246-247.

**Мачэк Станіслаў** // Maczek Stanisław (31.3.1892, Шчэзец каля Львова–11.12.1994, Эдынбург), вайсковец. Сын Вітольда, юрыста, і Ганны з Чарных. Вучыўся ў гімназіі ў Драгобычы (1902–1910), на філалагічным і



філасофскім факультэтах Львоўскага ўніверсітэта. Сябра польскага Саюза стральцоў. У астрыйскім войску (з 1914). Пазней – у польскім (з 1918). Удзельнічаў у польска-ўкраінскай і польска-савецкай войнах. Намеснік камандуючага 76-ым палком (1927–1929), камандуючы 81-м Гродзенскім пяхотным палком (1930–1934). Прымаў удзел у святочных мерапрыемствах з нагоды юбілею караля Стэфана Баторыя. Між іншым, даў гораду памятны дыплом з адзнакамі палка (1933). Пазней – камандаваў 7-й дывізіяй пяхоты ў Чанстахове. У Другую сусветную вайну камандаваў танкавай брыгадай і дывізіяй у войсках саюзнікаў. Падчас сваёй службы ў Гродна ажаніўся з Зоф'яй Курыс (Zofią Kurys). Жылі па вул. Bonifraterska, 21.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 282. Арк. 1 зв.; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 207-208; P. Potomski. Generał broni Stanisław Władysław Maczek (1892 – 1994). Warszawa, 2008. Str. 100-109.

**Меер Вацлаў** // Mejer Wacław, рэдактар газеты «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej». (1927).

**Мейлаховіч (Майлаховіч) Лазар** // Mejłachowicz Łazarz (каля 1897–?), друкар. Гаспадар графічнай вытворчасці (Zakładów Graficznych). Рэдактар гродзенскай газеты «Наше утро» (1918–1919). Сакратар праўлення Купецкага банка (Bank kupiecki) (1933), сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933) і Камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Horodniczańska, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1.Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 29.

**Меламед Хаім-Ізраэль** // Mełamed Chaim-Izrael (каля 1893 – ?), настаўнік у школе ешыва (1929). Чыноўнік. Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (1938–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Hoovera, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.

**Мельнічук Грыгорый** // Melniczuk Grzegorz, баптысцкі прапаведнік. Прыехаў у Гродна з Лодзі на прэсвітарскае служэнне (1925). Пазней разам з сям'ёй – двума дзецьмі і жонкай Марыяй – выехаў у Астрыно (1935).

**Мельнікаў Канстанцін** // Mielnikow Konstantyn, футбаліст. Паўабаронца каманды WKS «Grodno» (1936–1938). Газета «Przegląd sportowy» назвала яго «адным з найбольш дасведчаных і дысцыплінаваных ігракоў, уладаром добрай тэхнікі».

*Літ.:* «Przegląd sportowy». 22.06.1939.

**Мельхіёр / Фардон Юзаф** // Melchior / Fordon Józef (5.8.1862, Гродна–27.2.1927, Гродна), святар. Паходзіў з сям'і вядомага гродзенскага архітэктара. Вучыўся ў Гродна і Віленскай дыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі. У Коўна быў пасвечаны ў святары (1887). Пробашч у вёсках Струбніцы Ваўкавыскага павета (1887–1893), Дамброве Сакольскага павета, дзе пабудаваў касцёл (1893–1903), горадзе Гродна (1903–1905), у касцёле Усіх Святых у Вільні (1905–1909). Быў высланы з Вільні за збор подпісаў сярод духоўных і вернікаў пад петыцыяй да Папы Пія X з просьбаю ўзяць пад сваю абарону архіепіскапа Ропа, якога праследавалі царскія ўлады (1907). Пасяліўся пры капліцы на могілках на Панарах, працягваючы кіраваць парафіяй. Уступіў у ордэн францысканцаў – братоў меншых канвентуальных, атрымаў імя Мельхіёр (1910). Пасля сканчэння навіцыяту ў Кракаве стаў капеланам у в. Вака Мураваная. Вікарый у Гродна (з 1913). Падчас баёў за горад у Першую сусветную вайну ахвяраваў сабою замест трынаццаці мясцовых пажарнікаў, якіх нямецкія ваенныя ўлады абвінавацілі ў супрацоўніцтве з расійскім войскам (9.1915). Супрацоўнічаў з мясцовай ПАВ (1918). Гвардыян рэактываванага кляштара ў Гродна (1919). Пазней – гвардыян у Вільні. Пасля вяртання ў Гродна – дарадчык і спавядальнік айца М. Кольбе, духоўны апякун рэдакцыі часопіса «Rycerz Niepokalanej». Пахаваны на каталіцкіх могілках у Гродна. Л.Саванеўскі ў кнізе «Saga



o Grodnie» пісаў пра яго: «Fordon – franciszkanin, człowiek świątobliwy». У яго гонар была названа адна з вуліц. Беатыфікаваны.

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 18; J. Makarczyk. Miłosierny kapłan z Grodna // «Misericordia». № 3. 1997. Str. 27-31; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 92; E. Skrobocki. Polska organizacja wojskowa w Grodnie w latach 1918-1919 // «Magazyn polski». 2003. № 3. Str. 30.

**Мельцэр Ісак** // Melcer Izaak (1878–?), настаўнік. Скончыў семінарыю для равінаў, настаўніцкія курсы ў Гродна (1940). Настаўнік школы «Талмуд-Тора» (1917–1940), яўрэйскай няпоўнай сярэдняй школы № 12 (1940). Нейкая настаўніца нямецкай мовы Мельцэр, паводле С. Жукоўскага, была расстраляна нацыстамі за горадам, на фартах.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 37-37 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Менес Аўраам** // Menes Abram (1897–1969), грамадска-палітычны дзеяч. Прадстаўнік ад Міжнароднай сацыялістычнай рабочай фракцыі ў часовым гарадскім камітэце (1918). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад аб'яднанага яўрэйскага сацыялістычнага блока (1919). Падчас савецкага панавання – загадчык аддзела сацыяльнай апекі Бунда (лета 1920). Працаваў у т.зв. «лектарскім

бюро» ў якасці выкладчыка гісторыі працоўнага руху.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 1; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str.18; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. -Grodno, 1925. Str. 5, 6.

**Мерле Эдвард** // Merle Edward (21.9.1900, Плоцк–?), суддзя. Бацькі – Караль, пекар, і Аманда Колбка. Скончыў гімназію ў Плоцку (1919); юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1924). Добраахвотнікам пайшоў у польскае войска (1920). Яшчэ падчас вучобы ў гімназіі быў камендантам Плоцкай акругі Саюза польскіх харцэраў. Прымаў актыўны ўдзел у працы па правядзенні плебісцыту ў Верхняй Сілезіі (1921). Здаў экзамен на стажора суда (1926). Працаваў у Прамысловым банку ў Плоцку. Следчы суддзя 1-га раёна Гродзенскага павета (1928). Запасны следчы суддзя, суддзя акруговага суда ў Гродна (з 1931); суддзя крымінальнага аддзела Гродзенскага акруговага суда (на 1934). Віцэ-старшыня акруговага суда ў Гродна (з 10.10.1936). Віцэ-старшыня праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1931–1935). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Ocalał sędzia Merle z tak licznego grona, Które w Grodnie służyło w aparacie prawnym, Wybitny to jest człowiek, postać zasłużona, Bo pod względem kultury jest niezmiernie sławnym». Жанаты з Ірэнай Тальгейм (з 1929). Меў дзяцей: Вітольда (1932) і Андрэя (1936).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 1930; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 3; Там жа Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 137; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 3; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 84.

**Месершміт Карл** // Messerszmidt Karl, пастар. Старшыня Рады евангелісцкага прыходу ў Гродна (з 1938). Па яго прапанове са складу Рады быў выключаны Г. Саваліч за тое, што быў «рускім шавіністам і праводзіў філарускія мерапрыемствы». У хуткім часе, аднак, пацярпеў і сам пастар. На сходзе рады прыхода прыхаджанка Эма Хольман звярнулася з ініцыятывай накіравання ў Вільню просьбы прыслаць у Гродна пастаяннага пастара з прычыны слабага выканання Месершмітам сваіх абавязкаў. Яна сцвярджала, што ўсю працу за яго выконваў арганіст Роберт Вагнер. Акрамя таго, пастар быў абвінавачаны ў тым, што «набажэнствы і пропаведзі праходзяць на польскай мове, у той час як нямецкая калонія жадае іх правядзення на нямецкай». Рада прыняла рашэнне даручыць Э. Хольман заняцца падрыхтоўкай звароту і адпраўкай яго ў Вільню (1939). Уваходзіў у склад праўлення Гродзенскага аддзялення Таварыства Польскага Белага Крыжа.

*Літ.:* Д. Крывашэй Нямецкая супольнасць Беласточчыны ў 1930-я гады // Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі: матэрыялы Міжнар. Навук.-практ. Канф. (Мінск, 24 верас. 2009 г.). Мінск: Беларусь. Навука, 2010. Ст. 125; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Мінск: Зміцер Колас, 2011. Ст. 454; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 340.

**Мікульскі Аляксандр** // Mikulski Aleksander (каля 1899–?), чыноўнік акруговага суда. Уладальнік нерухомасці. Грамадскі дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego). Лаўнік магістрата (1934–1939; 1939). Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных зямель на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935). Сябра павятовага праўлення ЛОПП (1937), кіраўнік Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1938), старшыня Гродзенскай добраахвотніцкай пажарнай аховы (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie) (1939). Кіраўнік выбарчай акцыі Нацыянальнага саюза ў Гродна на выбарах у Сейм (kierownik Akcji wyborczei obozu zjednoczenia

narodowego na m. Grodno) (1938). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938). Удзельнічаў у абароне Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Выехаў у Літву. Падчас судовага працэсу быў (завочна) абвінавачаны савецкай уладай у арганізацыі пагрому і забойстве мірных грамадзян (рабочага тытунёвай фабрыкі Рабіновіча) (1940). Падчас нямецкай акупацыі працаваў (з 16.07.1941) у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) камендантам пажарнай аховы (Feuerwehr-Kommendant). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Mikulski – to sekretarz w Sądzie Okręgowym I był radnym z ramienia Związku Kombatantów. Klientom wszystkim służył z zapałem służbowym. Był to człowiek poważny i nie lubił kantów». Жыў па вул. Artyleryjska, 15a (на 1937–1939); Burgstrasse, 17 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 21 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 26 зв.-27; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15, 21; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Głos Nadniemeński». 07.10.1938; «Dziennik Kresowy». 5.10.1938. № 272. Str. 3; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 82; M. Gnatowski. Radzieckie dokumenty o represjach za stłumienie komunistycznych rebelii w Skidlu i Grodnie we wrześniu 1939 r. // Studia Poslaskie. – Białystok, 2001. T. XI. Str. 299-328.

**Мілер //** Miller, баптысцкі прапаведнік у Гродна (з 1935). Перад Другой сусветнай вайной «у сувязі з пагаршэннем здароўя» быў вымушаны выехаць у Цэнтральную Польшчу (1939).

**Мілкоўскі Станіслаў** // Miłkowski Stanisław (2.5.1882, Седльцы–?), суддзя, натарыус. Каталік, паляк. Бацькі – Юзаф і Севярына Віткоўская. Скончыў гімназію ў Гродна (1903). Правучыўся год у Варшаўскім універсітэце (1904). Скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1908). Стажыраваўся на розных судовых пасадах акруговага суда ў Седльцах. Здаў экзамен на суддзю (1910).



Следчы суддзя ў Седльцах і Лукаве. Падчас Першай сусветнай вайны быў у эвакуацыі. Працаваў у Цэнтральным камітэце грамадзян Каралеўства Польскага ў Феадосіі і Саратаве (Centralny komitet obywatelski Królestwa Polskiego). Міравы суддзя ў Сточак-Венгроўскім (5.10.1918), Бяла-Падляскай (13.1.1919), Седльцах (6.1919–1926). Перад ад'ездам з Седльцаў ў Гродна змясціў у мясцовым яўрэйскім выданні «Szedlecer Wochenblat» развітальны артыкул са сваёй біяграфіяй, пасля чаго некалькі асобнікаў газеты адвёз з сабою ў Гродна ў якасці рэкламы. Гэта выклікала абурэнне сярод працаўнікоў суда ў Седльцах. Натарыус пры іпатэчным аддзеле акруговага суда ў Гродна (з 30.4.1926). Актыўны грамадскі дзеяч. Сябра праўлення Польскага каапeратыўнага банка (P.B.K.) (з 1930), праўлення Польскай Мацежы Школьнай (з 1932), рэвізійнай камісіі вяслярнага клуба «Гродна» (1928); старшыня інстытута Каталіцкай акцыі пры Гродзенскай Фары (Instytut Akcji Katolickiej przy Farze Grodzieńskiej) (1935), Гродзенскага аддзялення Польскага краязнаўчага таварыства (Polskie towarzystwo krajoznawcze) (з 1932) і таварыства апекі над вязнямі гродзенскай турмы «Патранат» (1930-я), скарбнік Гродзенска-

га аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1931–1935), рэвізійнай камісіі Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Арганізаваў аматарскае выступленне вязняў гродзенскай турмы для мясцовага грамадства з мэтаю прыцягнуць увагу да дзейнасці «Патраната» (1933). Старшыня праўлення Польскага Белага Крыжа ў Гродна (Polski Biały Krzyż) (1938). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Друкаваўся на старонках мясцовай прэсы. Магчыма, арыштаваны органамі НКУС (пасля 1939). Жанаты са Станіславаў Ціхановіч (1910). Яго сыны, Тадэвуш і Люцыян (1913), былі высланы савецкай уладай у Казахстан (1940). Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» пісаў пра яго: «Konkurent Chojnowskiego – Stanisław Miłkowski. Jakoś z biedą mógł przeżyć z «marnej» rejentury. Me weksle protestował mimo mojej troski, Chociaż dobry to człowiek z gruntu swej natury...» Канцылярыя Мілкоўскага працавала па вул. Wróblewskiego, 1 (1933). Жыў па вул. Bośniacka, 20 (1938).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 1988; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; Там жа Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 137; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 86; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 312; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 9.1.1933. № 8. Str. 3; «Wieczorny kurier Grodzieński». 18.1.1933. № 17. Str. 4; «Dziennik kresowy». 29.4.1939. № 117. Str. 6. Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 491; Wykaz notariuszów Rzeczypospolitej Polskiej według stanu na dzień 1 października 1938 r. Warszawa-Poznań-Lwów-Kraków-Lublin-Wilno-Katowice, 1938. Str. 24; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 140; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 20; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Мініх Генрых** // Minich Henrych, прэзідэнт гродзенскага шахматнага клуба. Выступаючы на шахматным турніры, ён адзначыў: «Адкрываючы першы ў гэткім выглядзе і значэнні турнір у Гродна, нязломна веру, што гэтак жа, як зараз, калісьці мы сустрэнем тут натоўпы, якія прыбудуць на адкрыццё чэмпіянату Польшчы» (1.12.1935).

*Літ.:* «Mały dziennik grodzieński». 29.11.1935; «Mały dziennik grodzieński». 3.12.1935. № 54. Str. 1.

**Міскы Віктар** // Misky Wiktor (1889 –?), вайсковец, маёр. Прэзідэнт Гродна (1934–1936). Магчыма, праходзіў у горадзе вайсковую службу. Адзін з ініцыятараў стварэння ў Гродна Саюза стральцоў (Związek Strzelecki) (1924). Яго кандыдатуру на месца кіраўніка самаўрада вылучыла мясцовая адміністрацыя. Абраны прэзідэнтам Гродна (19.10.1934). Пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны і пачаў рэалізоўвацца праект па добраўпарадкаванні р. Гараднічанкі. Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных зямель на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935). Калі радны Рамуальд Палуян прапанаваў асігнаваць крэдыт у памеры 33 тыс. злотых, запланаваны на будоўлю Дома стральца (Doma Strzelca), на пагашэнне гарадскога дэфіцыту, сярод выступаючых, якія аспрэчылі заяву прадстаўніка гарадзенскай хадэцыі, быў і прэзідэнт Гродна Віктар Міскы. Ён падкрэсліў, што крэдыт на Дом стральца мае дачыненне да выхавання будучых абаронцаў Айчыны, таму нельга разглядаць гэта пытанне выключна ўтылітарна. Акрамя таго, Дом стральца мае супрацьгазавае сховішча – схрон на 550 асобаў коштам 40 тысяч злотых, а на самаўрадзе таксама ляжыць абавязак «падрыхтаваць насельніцтва да падобнай небяспекі» (5.1935). Выступаючы падчас святочнага пасяджэння Рады з нагоды надання ганаровага звання грамадзяніна Гродна генералу А. Літвіновічу, прэзідэнт Гродна Віктар Міскы адзначыў: «У краіне, у адрозненне ад мінулага часу, не існуе муру

паміж войскам і польскім грамадствам, і справа не толькі ў сантыментах да былых перамог. Войска дзеяннямі паспрыяла росквіту гэтых зямель на ўсходзе Польшчы, стаўшы плячо ў плячо з гэтым грамадствам для адбудовы Айчыны» (18.1.1936). Адкрываючы святочнае пасяджэнне гарадской Рады з нагоды ўручэння ўзнагароды, якая была прызначана прафесару ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя Мар'яну Здзехоўскаму, Віктар Міскы агучыў ужо вядомую формулу: Гродна-Баторый-Ажэшка. «Невялікі наднёманскі горад, – сказаў ён, – па волі лёсу быў асвечаны прысутнасцю аднаго з найбольш магутных каралёў Польшчы перад яе падзеламі. Ужо ў часы няволі, у 1863 г. град Баторыя ў якасці сваёй сядзібы абрала Эліза Ажэшка, якая, будзячы змярцвелых і ўмацоўваючы слабых, масціла шляхі да будучага Уваскрашэння Незалежнай Айчыны! Гэта вялікая і настолькі ж ганаровая традыцыя паклала на нас у вольнай Рэчы Паспалітай абавязак не толькі ўдзячнай памяці за тое, што мы выстаялі, яна паклала на нас абавязак клопату аб тых ідэалах, якія, нібыта арыентыры, былі пазначаны нам адным з пракоаў гэтай зямлі. Ідэалы, якія сцвярджала Эліза Ажэшка, якія павінны былі даць і далі нам сілу выстаяць нават пасля знясення слупоў - межаў няволі, не страцілі сваёй вартасці як галоўныя каштоўнасці свабоднага грамадскага жыцця. Гэтае імя не можа ператварыцца адно толькі ў назву той ці іншай вуліцы, будоўлі ці арганізацыі, як прыклад чалавека, які шмат чаго зрабіў ці дасягнуў вяршыні пашаны, якая пазней пазначаецца каменным помнікам. Абарона польскай душы ад шэрай паўсядзённасці, барацьба з безнадзейнасцю, усходняй абыякавасцю, разуменне і прабачэнне мізэрнасці жыцця і людзей, высяканне са змроку іскраў, якія асвятляюць вышэйшыя мэты, для якіх жыццё з'яўляецца адзінай вартасцю, – вось тыя наказы, жывыя сёння і заўтра. Гэта не тыя ўжо закончаныя справы, якія можна перадаць светлай памяці ўдзячных патомкаў нейкім сімвалам здабытых заслуг. Гэтыя справы павінны і далей адбывацца ў жыцці, а таму не толькі імя, але і сама сутнасць папярэдніх ідэалаў павінна быць пераказана...» (18.6.1936). Пазней В. Міскы паведаміў пра сваё рашэнне аб адмове ад пасады прэзідэнта з прычыны заканчэння яго двухгадовай камандзіроўкі, выдадзенай вайсковымі ўладамі. У адказ старшыня грамадскага клуба Рады К. Тэрлікоўскі, спасылаючыся на рашэнне клуба і магістрата, папрасіў прэзідэнта застацца на пасадзе, аднак той катэгарычна адмовіўся, назваўшы такі крок «немагчымым» (22.10.1936). Жыў па вул. Indurska, 24.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Воп. 1. Спр. 282. Арк. 32; Там жа Спр. 284. Арк. 22, 26 зв.-27; Там жа Спр. 285. Арк. 19 зв.-20, 62-63, 89.

**Міткевіч Яўген** // Mitkiewicz Eugeniusz (1890–?), беларускі нацыянальны дзеяч. Каталік. Паводле газеты «Беларускі звон», падчас польска-савецкай вайны служыў на польскім вайсковым тэлеграфе ў Мінску. Сябра Беларускага палітычнага камітэта (1920), старшыня Цэнтральнага камітэта Арганізацыі беларускіх беспартыйных актывістаў (1922). Жыў у Гродна (на пачатак 1920-х). Рэдактар гродзенскай газеты «Беларускі шлях», супрацоўнічаў з рэдакцыяй газеты «Сялянская гутарка», удзельнічаў у выданні газеты «На рубеже» (1923). Адзін з арганізатараў Беларускага з'езда прадстаўнікоў ад вёсак Гродзенскага павета (1922). Кіраўнік Беларускага дабрачыннага таварыства ў Гродна (1924). Быў адхілены ад сваіх абавязкаў за растрату. Пазней – у Баранавічах. Жыў у Гродна ў гатэлі «Славянскі» па вул. Dominikańska, 18.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 171-173.

**Міхальская Анеля** // Michalska Anelia (1921–?), настаўніца. Скончыла гімназію. Працавала настаўніцай ва ўзорнай школе ў Свіслачы (1933–1935), Свенцянах (1935–1938), Гродна (1938–1939), настаўніцай пачатковых класаў сярэдняй рускамоўнай школы № 11 у Гродна (з 1.9.1940). Л. Саванеўскі прысвяціў ёй і яе мужу наступныя радкі: «A oto Jan Michalski i jego małżonka, Z domu Pani Kiersnowska – ofiarni oboje, W powstaniu żeńskiej szkoły ma zasługi ona, A on oddał młodzieży liczne zbiory swoje. Nabytek był bogaty, zasługa niemała, Wizytator był hojny, co rzadkość stanowi, Tysiące bowiem tomów szkoła otrzymała, A trzydzieści tysięcy oddał narodowi».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 10. Арк. 16-16 зв.; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 73.

**Міхальскі Уладыслаў Ігнацы** // Michalski Władysław Ignacy (28.7.1892, в. Раздзельна–1939, Харкаў), вайсковец, палкоўнік. Скончыў школу і гімназію ў Кіеве (1913). Удзельнік Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў. Служыў у 1-м польскім корпусе, Літоўска-беларускай дывізіі, быў аперацыйным афіцэрам пры штабе фронту. Прызначаны камандзірам штаба 29-й дывізіі пяхоты ў Гродна (1927). Камандуючы батальёнам КАП (1928–1929). Пазней служыў у Седлецы і Любліне. Загінуў у савецкім лагеры.

*Літ.:* http://pl.wikipedia.org/wiki/Władysław_Michalski.

**Міхароўская Іда** // Michorowska Ida (30.9.1897, Венгрыя–12.11.1966, Варшава), актрыса. Вучылася ў гімназіі Св. Ядвігі ў Кракаве. Дэбютавала на сцэне тэатра імя Ю. Славацкага ў Кракаве (1912). Скончыла вакальна-драматычныя курсы Грынявіцкай у Варшаве (1915). Выступала на сцэне розных варшаўскіх тэатраў, а таксама ў Торуні, Вільні, Катавіцах, Любліне. Актрыса гродзенскага тэатра (з сярэдзіны 1930-х і да пачатку Другой сусветнай вайны). Пасля вайны выступала ў гарадскім тэатры ў Чанстахове, у Варшаве.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 447-448.

**Міцінскі Станіслаў** // Miciński Stanisław (?–каля 1931), камендант гродзенскай паліцыі. Скончыў 3-ю гімназію ў Варшаве. У войску (1914–1917). Пасля вяртання ў Польшчу паступіў на службу ў дзяржаўную паліцыю. Працаваў інструктарам у Кутна, камендантам у Влацлаўку, Крамянцы. Камендант Гродзенскай павятовай паліцыі (1926–1929). Актыўны грамадска-палітычны дзеяч. Прымаў удзел у працы розных грамадскіх устаноў у Расіі: Цэнтральнам грамадскім камітэце, Палітычным клубе і Саюзе палякаў-вайскоўцаў у Смаленску. Сябра праўлення Чырвонага Крыжа, старшыня секцыі прапаганды ЛОПП, адзін з арганізатараў Камітэта па дапамозе пабудовы дамоў для інвалідаў, стваральнік курсаў супрацьпаветранай абароны, сябра камітэта пабудовы гімназіі ў Кутна. Кіраваў Камітэтам Нацыянальнага флоту, сябра праўлення ЛОПП, Чырвонага Крыжа ў Крамянцы. Пазней – у Гродна (з 12.1927). Заснавальнік і старшыня паліцэйскага спартыўнага клуба «Лехія» (Policyjny klub sportowy «Lechja») (1928). Пры ім пачынаецца пабудова спартыўнага аэрадрома каля Гродна. Быў ініцыятарам стварэння прыстані на Нёмане для паліцэйскага спартыўнага клуба. Сябра гуртка «Паліцэйскай сям'я» (koło Rodziny policyjnej), санітарнай камісіі, праўлення лёгкаатлетычнай падакругі, віцэ-старшыня павятовага камітэта Нацыянальнага флоту. Старшыня павятога праўлення ЛОПП. Яго жонка, Ірына Міцінская, была абрана старшынёй арганізацыі «Паліцэйская сям'я» (1929). Паводле некралога ў «Gazecie Polskiey Ziemi Grodzieńskiej»: «Адважны і тактоўны, за кароткі час паказаў сябе ў якасці энергічнага кіраўніка мясцовай паліцыі. Значна палепшыў стан бяспекі ў павеце. Акрамя таго, сам горад пры

ім вельмі значна выйграў у сэнсе знешняга выгляду, больш пачалі надаваць увагі парадку». Быў адзначаны Крыжам Заслугі, медалямі «Дзесяцігоддзе вяртання Незалежнасці», «Польшча свайму абаронцу», «Адзнака былых палякаўвайскоўцаў у Цэнтральнай Расіі».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 177. Арк. 2, 5, 6; Там жа Ф. 106. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 2; Там жа Ф. 107. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 124 ; «Gazeta grodzieńska». 7.7.1931. Str. 8; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 24.3.1931. № 82. Str. 1; A. Misiuk Policja państwowa w województwie białostockim w latach 1919-1926 // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str. 28.

**Міцкевіч** // Mickiewicz, каардынатар-выдавец газеты «Wieczorny kurier Grodzieński».

**Млынец Валяр'ян** // Młyniec Walerian (9.3.1896–7.9.1939), вайсковец, падпалкоўнік. Афіцэр 76-га Лідскага і 81-га Гродзенскага палкоў, якія былі раскватараваны ў горадзе. Акруговы камендант вайсковага навучання (komendant obwodowy Przysposobienia Wojskowego). Падчас Вераснёўскай кампаніі камандаваў 156-м палком. Скончыў жыццё самагубствам. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «O, Młyńcu! O, majorze! Cóż powiem o Tobie? Dobry byłeś, porządny, i za to Ci chwała! Że w kuli zaś ratunek Ty znalazłeś sobie Rozpacz straszna po klęsce Ciebie pokonała...»

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 37; http://pl.wikipedia.org/wiki/Walerian_Młyniec

**Мравінская Мар'я** // Mrowińska Marja (8.8.1888, Стрый–4.8.1946, Кракаў), актрыса. Жонка К. Апалінскага. Дэбютавала ў аматарскай трупе ў Пшэмыслі (1917). Выступала ў тэатрах Львова, Любліна, Катавіц, Грудзяжа, Торуні. Актрыса Гродзенскага гарадскога тэатра імя Э. Ажэшкі (1930–1932). Пазней – у Кракаве выступала ў тэатры імя Ю. Славацкага.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 465-466.

**Мразоўскі Зыгмунт** // Mrozowski Zygmunt (?–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік гімнастыкі ў гімназіі імя А. Міцкевіча. Выгадаваў некалькі спартсменаў-лёгкаатлетаў. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 150.

**Мрачкоўскі Юзаф** // Mroczkowski Józef (15.1.1889, Псары Ловічскага павета–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік матэматыкі. Удзельнік польска-савецкай вайны. Скончыў Вышэйшыя педагагічныя курсы. Школьны інспектар у Высокім Мазавецкім (1928–1933), школьны інспектар Гродзенскага павета (з 1933). Сябра Саюза абаронцаў заходніх крэсаў (Związek obrońców kresów zachodnich), таварыства «Стралец» («Strzelec»), павятовага аддзялення ЛОПП, Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937), Камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938), віцэ-старшыня Таварыства сяброў Гродна (Towarzystwo Przyjaciół Grodna) (1939). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno, Allgemeine abeilung) (з 1.7.1941). Нягледзячы на перасцярогу, не захацеў выехаць з горада, адказаўшы: «Там, дзе мае вучні, там і я». Меў жонку Ванду і сына Андрэя. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1, Спр. 181, Арк. 20; Там жа. Ф. 87. Воп. 2. Спр. 3а. Арк. 27; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 2.4.1939. № 92. Str. 4. C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 155-156; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Мурза-Мурзіч Стэфан** // Murza-Murzicz Stefan (9.4.1881, маёнтак Зарой, Навагрудчына – 1940, Слаўгарад, Алтайскі край), суддзя. Мусульманін,



татарын. Бацькі– Белал і Зоф'я Сабалеўская. Скончыў 1-ю гімназію ў Вільні; юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Стажор акруговага суда ў Мінску (1906–1914); следчы суддзя па асабліва важных справах пры 6-й арміі (1914–1918). Меў званне капітан-судовы следчы. Пазней – следчы суддзя Навагрудскага і Слонімскага паветаў (1.7.1918–1.1.1919), следчы суддзя (з 21.5.1919) і міравы суддзя (з 24.5.1919) Навагрудскага павета. Добраахвотнікам уступіў у польскую армію, удзельнічаў у савецка-польскай вайне – кананір 216-а артылерыйскага палка (28.8.–16.11.1920). Следчы суддзя Ашмянскага павета (з 11.11.1920); суддзя аруговага суда ў Вільні (з 26.11.1920); следчы суддзя ў Вільні і Навагрудку (1922); віцэ-старшыня аруговага суда ў Навагрудку (з 1931); старшыня аруговага суда ў Гродна (з 14.1.1937). На пенсіі (з 24.6.1938). Пазней працаваў іпатэчным пісарам (hipoteczny pisarz) (1939). Сябра Крэсовага саюза землеўласнікаў (Kresowy Związek Ziemian). Узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі (1939). Жонка – Сабіна Кміт (з 1921). Быў разам з сям'ёй высланы савецкай уладай у Сібір.

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7, B. 2060; ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 3; «Echo Grodzieńskie». 18.12.1920. № 68. Str. 6. «Dziennik urzędowy ministerstwa sprawiedliwości». 2.1.1928. № 1. Str. 22. K. Jasiewicz. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939-1956. T. 1. Warszawa, 1995. Str. 691.

**Мыдляж Стэфан** // Mydlarz Stefan (1890–1944), кіраўнік Гродзенскага аддзялення ТСК (1919–1920). Нарадзіўся на Любельшчыне ў сям'і рабочых. З'яўляючыся вучнем гімназіі ўдзельнічаў у школьнай забастоўцы (1905). Сябра нелегальных польскіх арганізацый. Праслухаў гаспадарчыя курсы імя Зялінскага. Падчас Першай сусветнай вайны уступіў у польскія легіёны. Працаўнік ТСК. Пазней – Свянцянскі стараста (1927–1934); стараста ў Конскіх (Końskich). Падчас Другой сусветнай вайны – у АК. Быў арыштаваны, скончыў жыццё самагубствам.

*Літ.:* Archiwum wschodnie. T. 2. Warszawa, 2008. Str. 26-27; O niepodległą i granice: raporty straży kresowej 1919-1920 ziem północno-wschodnich opisanie. Wstęp, wybór i opracowanie Joanna Gierowska-Kałłaur. Warszawa-Puttusk, 2011. Str. 22.

**Мысліцкая-Рыбакоўна Людвіка** // Myślicka-Rybakówna Ludwika (?–23.2.1991), настаўніца матэматыкі ў жаночай гімназіі. Жонка В. Мысліцкага. Разам з двума дзецьмі выслана савецкімі ўладамі ў Казахстан (1940). Пазней выехала ў Польшчу (1946). Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Myślicka w Milanówku ma pracy po uszy, Własne dzieci na dobrych ludzi wychowała, Lecz cudzym trzeba nadal wlewać hart do duszy, Przeto dalej w szkolnictwie będzie pracowała».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 102; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 73; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 33.

**Мысліцкі Вацлаў** // Myślicki Wacław (?–1941(?)), выкладчык матэматыкі, дырэктар гімназіі, грамадска-палітычны дзеяч. Скончыў матэматычны факультэт універсітэта ў Пецярбургу. У Гродна пераехаў на заклік урада пашыраць польскую асвету на Крэсах (1921). Першапачаткова працаваў у гімназіі імя А. Міцкевіча і ў жаночай гімназіі. Пасля – дырэктар мужчынскай гімназіі Польскай Мацежы Школьнай імя Г. Сянкевіча (1930–1939). Г. Маісееў, сын рускага казака,

які вучыўся ў гімназіі, узгадваў яго як «русафоба», што прыехаў з Галіцыі і непрыхільна ставіўся да праваслаўных гімназістаў. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа, павятовага аддзялення ЛОПП (на 1937), Камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938), Таварыства былых вайсковых добраахвотнікаў (związek b. Ochotników wojennych) (1939), Камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Удзельнік баёў за Гродна (20-22.9.1939). Арыштаваны органамі НКУС. Знаходзіўся ў турме ў Мінску. Загінуў падчас канваіравання зняволеных на шляху Мінск – Магілёў. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму некалькі слоў: «Myślicki Wacław zginął – człowiek kryształowy...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296 ; «Dziennik kresowy». 18.3.1939. № 77. Str. 2; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 102; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 13; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335; Воспоминания Г.М. Моисеева Мне часто вспоминались страницы далекого гродненского прошлого // Православный Гродно. Гродно, 2000. Стр. 177; Zb. Myślicki. W Grodnie zostawiliśmy wszystko // «Magazyn Polski». 2011. № 9. Str. 19-22.

**Мысоўскі Е.** // Mysowski J., чэмпіён Гродна па фігурным катанні. Удзельнік спаборніцтваў у Вільні (1934).

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości Grodzieńskie». 14.01.1934.

**Мысткоўскі Станіслаў** // Mystkowski Stanisław, лекар. Узнагароджаны Сярэбраным Крыжам Заслугі за даўгалетнюю службу (1938). Падчас Вялікай выстаўкі па гігіене выступіў з лекцыяй па тэме «Заразныя захворванні і барацьба з імі» (26.2.1939). Пасля вайны, магчыма, працаваў лекарам у Эльку. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Mystkowski, pan ruchliwy, lekarz powiatowy, Po próżnicy nie siedział na miękkim krzesełku, Bo powiat był ogromny i dojazd pechowy, Teraz w Zdrowia Ośrodku siedzi sobie w Ełku...» Жыў па вул. Horodniczańska, 29.

*Літ.:* «Głos Nadniemeński». 06.10.1938; Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 2; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Мюлер Зоф'я** // Müller, Mülerowa Zofja (15.5.1863 (1865), Галіцыя–26.6.1959, Скалімаў), актрыса. Дэбютавала ў польска-ўкраінскай трупе



Е. Бачынскага (1879). Выступала ў тэатрах у Закапанэ, Лодзі, Вільні, Любліне. Уваходзіла ў трупу тэатра «Рэдута» (1926–1927). Актрыса гродзенскага тэатра (1923–1940). Тут адсвяткавала свой творчы юбілей (1924). Гарадская Рада зацвердзіла ёй, як заслужанай артыстцы мясцовага тэатра, фінансавую дапамогу ў памеры 60 зл. (1936). Выконвала ролі Ганны («Рэвізор»), Маргарыты («Папыхадла»), Юзі Бзік («Дом вар'ятаў»), Марты («Рамэа і Джульета») і інш. Падчас нямецкай акупацыі апынулася ў вельмі цяжкім матэрыяльным стане, у выніку апеку над ёй узялі мясцовыя сябры АК. Пасля Другой сусветнай вайны знаходзілася ў прытулку для артыстаў-ветэранаў польскіх сцэн у Скалімаве.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 122; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 92-93.

**Мяхеда Аляксандр** // Mecheda Aleksander, кіраўнік Цэнтральнага ўкраінскага камітэта ў Гродна (1931–1932).

*Літ.:* Em. Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577.

**Мяшчынскі-Крышпін Мар'ян** // Mieszczyński-Kryszpin Marian (25.10.1910, Падвігры Сувалкаўскага павета–?), апошні кіраўнік гістарычнага музея ў Гродна ў міжваенны час. Сын Яна і Антаніны з Гражэвічаў. Скончыў гімназію ў Сувалках (1930), факультэт мастацтваў Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя (1936). Вучань С. Хопена (S. Hoppena). Сябра праўлення суполкі выпускнікоў факультэта мастацтваў універсітэта Стэфана Баторыя (członek zarządu Koła absolwentów wydziału sztuk pięknych U.S.B.). Супрацоўнічаў з часопісам «Alma Mater Vilnensis», для якога зрабіў шэраг літаграфій. Працаваў як практыкант у гродзенскім музеі, настаўнікам у дзяржаўнай гімназіі ў Гродна (з 1937). Пасля ад'езду Ю. Ядкоўскага ў Варшаву стаў, замест яго, кіраўніком музея. Грамадскі дзеяч. Сябра краязнаўчага таварыства (Tow. krajoznawcze), Таварыства падтрымкі народных промыслаў (Tow. popierania przemysłu ludowego). Выстаўляў свае мастацкія працы ў Вільні і Гродна. Запрасіў прадстаўнікоў Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства і іншых устаноў, зацікаўленых у справе развіцця і дзейнасці музея, на інфармацыйна-справаздачы сход у Старым замку. У праграму быў уключаны яго рэферат па тэме «Задачы рэгіянальных музеяў» (1938). У міжваенны час былі створаны літаграфіі «Прыстань» (1935), «Касцёл у Віграх» (1935), «Гродна – Стары замак» (1939). Зрабіў з дрэва экслібрыс для збораў гарадской бібліятэкі. З пачаткам Другой сусветнай выехаў з горада (1939). Выкладаў мастацтва ў Оструве-Мазавецкім (1940), у Жырардове (1946–1970). У Гродна жыў па вул. Liońska, 5/1 (1938), Piaskowa, 6/4.

*Літ.:* AAN Zespól № 14. Akta osobowe. Sygnatura 4332. Świadectwo metrykalne. Str. 48, 50, 53; «Dziennik Kresowy». 17.11.1938. № 315; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. War., 1938. Str. 160; Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 307-308. W. Kakareko. *Muzeum Państwowe w Grodnie* [прагледжана 1мая 2008] / Доступ праз Інтэнэт: http://skarb.khoz.ru/nasledie/muzei/muzeum-grodno-straty.html

*Т. Казак*




**Навіцкі Мар'ян** // Nowicki Marian (каля 1889–?), афіцэр у адстаўцы. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Garncarska, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16.

**Навумаў Юзаф** // Naumow Józef (19.3.1898–1940, Харкаў), лекар. Спецыяліст па ўнутраных хваробах. Скончыў рэальную школу ў Вільні. Служыў у Польскіх легіёнах (1916–1917), польскім войску (1918–1921). Вучыўся на медыцынскім факультэце Віленскага ўніверсітэта, дзе атрымаў лекарскі дыплом (1923–1931). Працаваў інтэрнам у Ваўкавыску (1933–1935), Лапах. Пазней пасяліўся ў Гродна, дзе працаваў раённым лекарам на чыгунцы (з 1935). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Падчас Другой сусветнай вайны трапіў у савецкі палон, дзе загінуў. У Гродна жыў па вул. Jagiellońska, 17.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 15; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 320-321.

**Нагорскі В.** // Nagorski W., надкамісар гродзенскай паліцыі (канец 1930). Загадаў як мага хутчэй паздымаць з платоў у горадзе і павеце калючы дрот, які парушаў эстэтычны выгляд Гродна. Яго жонка, Марыя Нагорская, трымала буфет «Kantyne» на чыгунцы. Была дэпартавана разам з дзецьмі (6.1941). Загінула падчас нямецкай бамбёжкі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 334. Арк. 2; С. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 13, 39.

**Наленч Станіслаў** // Nalencz Stanisław, інжынер, электратэхнік. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939). Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных зямель на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 26 зв.-27; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Налкоўская Зоф'я** // Nałkowska Zofia (10.11.1884, Варшава – 17.12.1954, Варшава), польская пісьменніца, публіцыст, грамадска-палітычная дзяячка. Скончыла прыватны пансіянат у Варшаве (1901). Вывучала гуманітарныя дысцыпліны ў тайным «Лятучым універсітэце» («Uniwersytecie Latającym»). Сябра польскай Акадэміі літаратуры, ПЭН-клуба і інш. Жонка Я. Гажахоўскага. Сябра Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над



зняволенымі «Патранат» (1922–1927). У творы «Saga o Grodnie» ёй прысвечаны наступныя радкі: «Nałkowska, dzisiaj słynna, wtedy do nas wpadła, Rumor wielki wywarła w tak zwanej śmietanie, Gadała głośno Zocha i piła, i jadła, W końcu rzekła: «Żegnajcie, Panowie i Panie!». Жыла ў Гродна па вул. Akademicka, 15.

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 27; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363.

**Натусевіч Янка** // Natusiewicz Janka (?–пачатак 1920-х гадоў (?)), беларускі нацыянальны дзеяч. Магчыма, скончыў гімназію ў Гродна, сябра Гродзенскага гуртка беларускай моладзі (1911). Сябра камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, Гродзенскага БНК, Беларускай павятовай рады, часовага гарадскога камітэта, Беларускай цэнтральнай рады Гродзеншчыны, клуба «Беларуская хатка» (1918–1919). Сакратар місіі БНР у Варшаве (1920). Настаўнік Гродзенскай беларускай гімназіі (1921). Пазней пераехаў у Вільню, дзе невылечна захварэў і памёр.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 180-181.

**Наўмюк Аляксандр** // Naumiuk Aleksander (27.7.1879, с. Носава Холмскай губ.–1952), рускі грамадскі дзеяч, чыноўнік. Паходзіў з мнагадзетнай сялянскай сям'і. Скончыў Бельскую настаўніцкую семінарыю (1897). Працаваў настаўнікам на Холмшчыне. За ўдзел у рэвалюцыйных выступленнях быў высланы ў глыб краіны (каля 1906). У Гродна прыехаў з Петраграда (1922). Працаваў на розных прадпрыемствах горада, у тым ліку ў будаўнічай фірме «Эдуард Фількe». Адзін з кіраўнікоў РДТ і РНА ў Гродна. Вылучаўся ў Гродзенскую гарадскую Раду ад беларуска-рускага блока (1927). Спрабаваў арганізаваць збор подпісаў з пратэстам супраць адмены рускай мовы ў выкладанні Закона Божага, выступаў за адкрыццё рускай школы (1935). Кіраўнік прытулка пры РНА (1937–1938). Працаваў бухгалтарам пры магістраце, у лаўцы каланіяльных тавараў (1939–1944). Рэпрэсаваны органамі НКУС (1944–1945). Пазней працаваў у гарадскім добраахвотным таварыстве і канторы па пытаннях землеўладкавання пры Гродзенскім аблвыканкаме. Жанаты з Надзеяй Кугач (1918). Жыў па вул. Zielona, № 5 (1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 58. Арк. 3 зв.; Там жа Ф. 99. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1; В. Черепица. Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей Век XX. Гродно, 2012. Стр. 41-61, 113.

**Наўмюк Пётр** // Naumiuk Piotr (20.3.1920 – 16.4.2009, Гродна), спартсмен, выкладчык. Сын А. Наўмюка. Скончыў мужчынскую гімназію імя А. Міцкевіча ў Гродна. Выступаў за валейбольную і баскетбольную каманды WKS «Grodno» і «Cresovia». Працаваў тэхнікам у гарвыканкаме (пасля 1939). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у транспартным парку (з 1.12.1941). З вызваленнем горада савецкімі войскамі паступіў у Гродзенскі педінстытут. Арыштаваны органамі НКУС, аднак хутка вызвалены (1945–1946). Звольнены з інстытута за «выкананне рэлігійных абрадаў» (1949). Уладкаваўся на працу ў інвентарызацыйна-тэхнічнае бюро, адначасова паступіўшы ва Усесаюзны завочны інжынерна-будаўнічы інстытут



(1950). Працаваў у школе дзясятнікаў-будаўнікоў, школе № 6, займаўся рэпетытарствам. Выкладчык ГрДУ (1970).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 28 зв.; В. Черепица Гродненский православный некрополь. Гродно, 2001. Ст. 87; В. Черепица. Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей Век XX. Гродно, 2012. Стр. 58, 106.

**Нахбі Абрам-Гілер** // Nachbi Abram-Giler (каля 1874–?), гандляр. Сябра рады Яўрэйская рэлігійнай гміны ад гаспадарчай фракцыі (на 1931–1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса беспартыйнага яўрэйскага блока ў Гродна (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Sienny Rynek, 13.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; Там жа Спр. 79, Арк. 19; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.

**Невадзі Антоні** // Niewadzi Antoni (каля 1890–?), купец. Сябра праўлення Таварыства польскіх купцоў (Stow. Kupców polskich) (на 1935, 1938); Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Brygidzka, 36 (1922); Orzeszkowej, 52 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 222. Воп. 1, Спр. 10, Арк. 142; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16; «Ostatnie wiadomości Grosztieńskie». 10.12.1935. № 332. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 5.10.1938. № 272. Str. 5.

**Нейман (Наўман, Нойман) Несанел** // Nejman (Neuman) Nessanel (21.3.1890, Гродна–1943), лекар. Грамадска-палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў левабярэжнай часцы Гродна ў сям'і Мошэ-Зеэв і Раша-Рыўкі Нейманаў. Скончыў гімназію ў Гродна (1908). Вучыўся ў Кёнігсбергскім і Дэрпцкім універсітэтах на медыцынскіх факультэтах, атрымаў дыплом лекара (1915). Працаваў земскім урачом, пазней пераехаў у Сокал. У міжваенны перыяд быў ардынатарам у гродзенскім яўрэйскім шпіталі, хірургам (1932–1938). З'яўляўся сябрам сіяніцкай партыі, старшынёй праўлення яўрэйскай гміны (да 30.11.1931). Выступіў падчас мітынгу-пратэсту супраць праследавання яўрэяў у Нямеччыне (1933). Сябра Яўрэйскага дабрачыннага фонда (Keren Kayemet), які збіраў ахвяраванні на развіццё яўрэйскіх пасяленняў у Палесціне. Кіраўнік Гродзенскага аддзялення таварыства «Тарбут» (1937). Праходзіў па справе злоўжыванняў у мясцовым камітэце Касы зберажэнняў (ККО) (1937). З'яўляўся прадстаўніком сіяніцкай партыі ў складзе апошняга праўлення яўрэйскай гміны (1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólno-żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Галоўны ўрач 2-га гарадскога шпіталя (1940). Падчас нацысцкай акупацыі працаваў урачом у гета №1. Разам з жонкаю Дзінай быў адпраўлены ў Асвенцім (22.1.1943), дзе яны і загінулі. У Гродна жыў па вул. Witoldowa, 25.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 4; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Там жа Ф. 308. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 55 зв.; «Wieczorny kurier Grodzieński». 29.3.1933. № 87. Str. 4; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Pages of Testimony // *Yad Vashem* World Center for Holocaust Research, Education. Documentation and commemoration. Jerusalem; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 4. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2011. Str. 328; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str. 195.

*Р. Маркус*

**Нейман Юзаф** // Nejman Józef, дырэктар камунальнай ашчаднай касы Гродзенскага павета (Komunalna kasa oszczędności) (з 1932). Сябра праўлення Таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych). За грашовыя злоўжыванні прыгавораны Гродзенскім акруговым судом да пяці год турмы (1937). Разам з ім па справе праходзіў былы стараста З. Рабакевіч. Пакаранне адбываў у турме ў Гродна.

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 274. Str. 4; «Nowy dziennik. Wydanie wieczorne». 19.4.1938. № 107. Str. 8.

**Нелюбовіч Віктар** // Nielubowicz Wiktor, віцэ-прэзідэнт Гродна (1922). Часова выконваў абавязкі прэзідэнта Гродна (9.1920). Пазней быў вымушаны ў друку аспрэчваць інфармацыю, быццам бы падчас бальшавіцкага панавання ён з'яўляўся «вядомым камуністам» і камісарам. Юрыдычны дарадчык пры магістраце (1925). Працаваў у старастве (павятовы тэхнік), пры ДОК III. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад хрысціянскай фракцыі (1934). Сябра Таварыства гігіены і асветы імя праф. Э. Гадлеўскага (Towarzystwo Hygieniczno-oświatowe im. prof. Emila Godlewskiego) (1921). Старшыня выбарчай камісіі № 5 падчас выбараў у Гродзенскую гарадскую Раду (1939). Жыў па вул. Horodniczańska, 8.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 31; «Echo Grodzieńskie». 21.5.1921. № 110. Str. 4; «Echo grodzieńskie». 22.6.1921. № 136. Str. 4; «Echo Grodzieńskie». № 179. Str. 4; «Dziennik Grodzieński». 18.5.1922. № 74. Str. 3; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Немчыновіч Юля** // Niemczynowicz Julia (1885, в. Пратасаўшчызна Гродзенскага пав.–?), настаўніца. Скончыла Беластоцкі жаночы інстытут па спецыяльнасці настаўніца французкай мовы, клас французскай мовы ў Петраградзе, летнія моўныя курсы ў Грэноблі (1925) і Парыжы (1930). Працавала настаўніцай французскай мовы ў жаночым інстытуце ў Беластоку (1907–1914), Марыінскай гімназіі (1914–1918) і 1-й працоўнай школе (1914–1919) у Разані, у жаночай гімназіі ў Сувалках (1924–1926), выкладчыцай іншаземнай мовы (французскай, нямецкай) у гімназіі імя А. Міцкевіча (1926–1939) і ў гандлёвай школе ў Гродна. Пазней яе прозвішча трапіла ў газеты ў сувязі з тым, што яна ахвяравала 500 злотых у Фонд нацыянальнай абароны (FON) (вясна 1939). З усталяваннем савецкай улады выкладала французскую і нямецкую мовы ў рускамоўнай сярэдняй школе № 11 (з 26.9.1939). Падчас акупацыі выкладала на курсах нямецкай мовы для дарослых. З вяртаннем савецкай улады – настаўніца французскай мовы ў сярэдняй школе № 2 (1944). Жыла па вул. Дзяржынскага, 20 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37; Там жа Воп. 2. Спр. 10. Арк. 20-20 зв.; «Dziennik kresowy». 30.3.1939. № 89. Str. 4; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333.

**Неўбаўэр (Нойбаўэр) Іахім (Озьяш)** // Neubauer Joachim (13.10.1892, Станіслава–1942 (?), Гродна), суддзя, адвакат. Яўрэй. Бацькі – Аляксандр і Роза Горн. Скончыў 1-ю гімнзію ў Станіслава (1910); юрыдычны факультэт Львоўскага ўніверсітэта. Стажор акруговага суда ў Гродна (1922–1923). Здаў экзамен на суддзю (1923). Следчы суддзя 3-га раёна Гродзенскага павета (1924–1925). Пасля – адвакат. Грамадскі дзеяч. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага беспартыйнага радыкальна-дэмакратычнага аб'яднання (Bezpartyjne żydowskie zjednoczenie radykalno-demokratyczne) (1927). Выступіў падчас мітынгу-пратэсту супраць праследавання яўрэяў у Нямеччыне (1933). Сябра праўлення Гродзенскага яўрэйскага краязнаўчага таварыства (Żydowskie towarzystwo krajoznawcze). Жанаты з Ганяй Мейлаховіч (з 1924). Загінуў у гета. Жыў па вул. Horodniczańska, 11 (1937).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2094; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier

Grodzieński». 29.3.1933. № 87. Str. 4; «Wiadomości Ż.T.K». 1935. № 1. Str. 10; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Нечыпарук Ян** // Nieczyporuk Jan (1910–?), урач. Рускі. Падчас Вялікай выстаўкі па гігіене выступіў з лекцыяй па тэме «Гігіена ротавой поласці і яе ўплыў на здароўе чалавека» (16.2.1939). Кансультант пры 1-й гарадской амбулаторыі (на 1941). Жыў па вул. Sokolnicza, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 59; «Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 2.

**Новак Адам** // Nowak Adam (1886, Гродна–?), кіраўнік гродзенскай турмы. Атрымаў хатнюю адукацыю. Служыў у царскім войску (1907–1911). Пасля працаваў маляром. У гады Першай сусветнай вайны – у бежанстве. Наглядчык у турме (1919), пазней стаў яе кіраўніком (1919–1922). Уступіў добраахвотнікам у польскае войска (8.1920). Прыгавораны да трох месяцаў арышту за злоўжыванні падчас кіравання гродзенскай турмой (28.5.1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 55. Воп. 1. Спр. 446. Арк. 1,2; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 332.

**Новак Эдмунд** // Nowak Edmund (1891–пасля 1939), ксёндз, гісторык. Скончыў духоўную семінарыю ў Влацлаўку (1915). Вайсковы капелан, у тым ліку ў Гродна (з 1920). Скончыў гістарычны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Абараніў доктарскую працу ў Львоўскім універсітэце (1934). Аўтар прац па гісторыі вайсковых святароў. Прымаў удзел у Другой сусветнай вайне (1939).

*Літ.:* Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 340.

**Новік Станіслаў** // Nowik Stanisław, беларускі нацыянальны дзеяч. Былы паручнік царскай арміі. Магчыма, быў адным з кіраўнікоў Гродзенскага беларускага прытулка. Сябра Таварыства беларускіх вайскоўцаў (1919); Гродзенскага Беларускага правінцыяльнага камітэта; сакратар павятовага Камітэта беларускіх спраў у Гродна; старшыня Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства (1924).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 181-182.

**Новік Ян** // Nowik Jan (1901–?), настаўнік. Скончыў рэальную гімназію; інстытут стэнаграфіі ў Варшаве; летнія настаўніцкія курсы ў Гродна (1940). Працаваў настаўнікам стэнаграфіі ў гандлёвай школе ў Гродна (1926–1939); выкладчыкам арыфметыкі ў беларускай сярэдняй школе № 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1л. Арк. 72-72 зв.

**Ностіц-Яцкоўская Стэфанія** // Nostitz-Jackowska Stefania (15.6.1880, Зацішэ–пасля 1945), грамадска-палітычная дзяячка. Бацькі – Міхал і Караліна з баронаў Веітынгхофаў (Vietinghoffów). Скончыла пансіянат і курсы А. Баранецкага ў Кракаве. Праводзіла канспіратыўную польскую асветніцкую працу, за што была зняволена на паўгода. Падчас побыту ў Варшаве апекавалася вязнямі і арганізоўвала перасовачныя кухні. У гады Першай сусветнай вайны стварыла сістэму «хросных матак» для жаўнераў і вучыла сясцёр міласэрнасці; пазней арганізавала дзве станцыі апекі над маці і дзецьмі, працавала ў арганізацыі Польскага Чырвонага Крыжа. У Гродна прыехала пасля продажу свайго маёнтка каля Плоцка. Рэдагавала газеты «Echo Grodzieńskie» (на 1923) і «Kurier Grodzieński», дзе друкавала свае артыкулы, у тым ліку тэатральныя рэцэнзіі. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego) (1934–1939) і Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze) (1939). На працягу доўгіх гадоў была намеснікам старшыні Камісіі па справах сацыяльнага забеспячэння пры гарадской Радзе. Старшыня Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1928–1939) і камісіі па дапа-

мозе дзецям і моладзі (Komisji Pomocy Dzieciom i Młodzieży); віцэ-старшыня Саюза грамадскай працы жанчын (Związku Pracy Obywatelskiej Kobiet) і Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej). Сябра Таварыства стражы крэсовай (1920); праўлення «Кола полек» (Koła Polek) (1921); праўлення таварыска-артыстычнага клуба «Муза» (Klub artystyczno-towarzyski Muza) (1921); камітэта сяброў Гродзенскага палка ўланаў (1921); камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925); тэатральнай камісіі (1935–1936); камітэта аб'ядналых жаночых арганізацый Гродна (komitet zblokowanych organizacyj kobiecych w Grodnie); таварыства падтрымкі будоўлі агульных школ на тэрыторыі Гродна і павета (Towarzystwo poperania budowy publicznych szkół powszechnych na terenie Grodna i powiatu) (на 1938); камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938) і інш. Кіравала вайсковым універсітэтам (1921) і культурна-асветніцкай секцыяй пры арганізацыі «Вайсковая сям'я» (sekcji kulturalno-oświatowej przy Rodzinie Wojskowej) (1930). Была абрана ў Касу хворых (1926). Уваходзіла ў склад прэзідыума павятовай рады ББСУ (1933), і, магчыма, Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Пісала вершы (друкавалася на старонках газеты «Wiadomości strzeleckie»). Удзельніца «гродзенскай» літаратурнай серады ў Вільні (1929). У сваім «Дзённіку» С. Налкоўская пісала пра яе: «Яна тут найбольш блізкая мне па ўзроўні, аднак адрозніваецца напрамкам інтарэсаў», найбольш «свая». Паводле Г. Ліпінскай, арганізавала пахаванне абаронцаў горада: «Пані Яцкоўская, старшыня Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа, смелая жанчына, напалохала савецкае камандаванне магчымасцю распаўсюджвання заразы. Тыя ж загадалі польскім камуністам заняцца пахаваннем тых, хто загінуў» (9.1939). Сярод часткі мясцовай эліты фігуравала мянушка «babcia Nostitzowa». Газета «Nad Niemnem» пісала: «Імя гэтай вечна маладой жанчыны заўсёды звязваюць з іншымі гучнымі іменамі. Быў час, калі яе называлі віцэ-Ажэшка. Быў і іншы час, калі ёй надалі імя гродзенскай Прыстар». У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Naczelny rej tam wiodła Pani Nostitzowa, Zwana również Jackowską z kreską na nazwisku, Ruchliwa była ona, mocno postępowa, Niczym wielka Eliza w gwarnym środowisku». Памерла ў доме састарэлых пад Варшаваю. У Гродна жыла па вул. Bośniacka, 5; Napoleona, 7 (на 1937–1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 25; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; Там жа Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4; «Echo grodzieńskie». 22.10.1921. № 237. Str. 3; «Echo grodzieńskie». 11.11.1921. № 253. Str. 2; «Nowe życie». 1921. № 41. Str. 322; «Dziennik Kresowy». 30.8.1923. Str. 4; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Gazeta Polska ziemi Grodzieńskiej». 14.12.1929. № 46; «Przegląd Kresowy». 6.2.1930. № 20. «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Nad Niemnem». 5.6.1938. № 9. Str. 1; «Dziennik Kresowy». 1938. № 254; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 3; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 524; Z. Nałkowska. Dzienniki 1918–1929. Warszawa, 1980. T. III. Str. 117-118; Gr. Lipińska. Jeśli zapomnę o nich... Warszawa, 2005. Str. 37; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź –Białystok, 1999. Str. 8; O niepodległą i granice: raporty straży kresowej 1919-1920 ziem północno-wschodnich opisanie. Wstęp, wybór i opracowanie Joanna Gierowska-Kałłaur. Warszawa-Puttusk, 2011. Str. 22; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921–1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Колас, 2012. Ст. 344-345; J.J. Milewski. Kobiety w życiu społeczno-politycznym i kulturalnym międzywojennego Grodna // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 318.

**Нядзвецкая Юзэфа** // Niedźwiecka Józefa (1879–?), грамадская дзяячка. Была на ўтрыманні мужа – палкоўніка

польскай арміі. Кандыдатка на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (1931); Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Падчас нямецкай акупацыі працавала ў гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 3.7.1941). Загадчыца гарадскога тэатра (stadtische teather Intendant). Жыла па вул. Litwinowicza, 5 (1937–1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк.22 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4.

**Нядзвецкая Яніна** // Niedźwiecka Janina (?–каля 1940, Мінск-Мазавецкі), настаўніца-паланістка. Дырэктар жаночай гімназіі імя Э. Плятэр. Удзельніца савецка-польскай вайны (1920). Згодна з успамінамі адной з вучаніц, гэта была «немаладая высокая чорнавалосая жанчына, якая трохі кульгала на адну нагу. Гімназісткам падавалася вельмі строгай. Заўсёды раніцай стаяла пры ўваходзе ў гімназію і суровым позіркам аглядала кожную дзяўчыну, ці яе знешні выгляд адпавядае норме». Паводле Г. Ліпінскай, «дасканалы педагог і выхавацель». Сябра праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925) і арганізацыйнага камітэта па стварэнні аддзялення Польскага гістарычнага таварыства ў Гродна (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Арыштавана органамі НКУС. Памерла падчас следства ў турме. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў ёй радкі: «Tam szkoła była piękna z oświaty filarem, Żyła Pani Niedźwiecka, dyrektorka Pana, … dumnie legła w więzieniu na Wschodzie, Chciała umrzeć z honorem na swym posterunku… Nagrodę bohaterów za swe trudy wzięła I tym sobie monument żywy postawiła».

*Літ.:* «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 87; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 12-13, 70; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennyn // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59 ; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334.

**Нядзвецкі Міхаіл** // Niedźwiecki Michał, палкоўнік. Сакратар павятовага праўлення ЛОПП (1937), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937), камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Старшыня выбарчай камісіі № 1 падчас выбараў у гарадскі савет (1939). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Pułkownik, Pan Niedźwiecki, był już emerytem, Ale rychło zarządził w «Strzelcu» to ćwiczenie I uczył nas, jak walczyć z groźnym iperytem, Kiedy bomba wybuchnie na naszym terenie». Жыў па вул. Літвіновіча (Ogrodowa), 5 (на 1937–1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 16; Там жа Спр. 3. Арк. 21; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 81.

**Няцецкі (Нітэцкі) Войцех Тэадор** // Nitecki Wojciech Teodor (24.4.1902, Здунска Воля–5.4.1930, Познань), акцёр. Выступаў у аматарскіх тэатральных прадстаўленнях (1918). Прымаў удзел у Велькапольскім паўстанні; польска-савецкай вайне. Скончыў гімназію імя Панятоўскага ў Варшаве. Паступіў на гуманітарны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, аднак, замест вучобы, уладкаваўся у трупу гродзенскага тэатра (1925). Пазней выступаў у выязным тэатры. Працягнуў вучобу ўжо ў Пазнанскім універсітэце, адначасова выступаючы ў мясцовым тэатры. Рэдактар польскай газеты «Dzwon» у Латвіі (1929). Памёр ад сухотаў.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 490.



**О’Брыен дэ Ласі Маўрыцы** // O’Brien de Lacy Maurycy (1891 (15.4.1892(?)), м.Аўгустовак–23.7.1978, Варшава), грамадска-палітычны дзеяч. Прэзідэнт Гродна (1930–1933). Нарадзіўся ў дваранскай сям’і. Скончыў аграрны факультэт Рыжскага політэхнічнага інстытута. Сябра карпарацыі «Арконія». Падчас Першай сусветнай вайны быў супрацоўнікам Чырвонага Крыжа, камендантам санітарнага цягніка. Працаваў забеспячэнцам (1917–1918). Пасля рэвалюцыі вярнуўся ў бацькоўскі маёнтак Аўгустовак каля Гродна. Удзельнічаў у польска-савецкай вайне (1919–1920). Пасля дэмабілізацыі займаўся гаспадаркай маёнтка. Абраны прэзідэнтам Гродна (25.9.1930). Выступаючы ўжо ў якасці прэзідэнта горада, О’Брыен дэ Ласі выказаў падзяку ўсім радным за аказаны давер і адзначыў, што ён з’яўляецца «на ніве самакіравання чалавекам новым». Абяцаў, што прыкладзе ўсе намаганні, каб «праца на глебе мясцовага самакіравання сталася гарманічнаю, паслядоўнаю і эфектыўнаю, у чым ён не сумняваецца, бо ўпэнены, што ўсе сябры самаўрада, нягледзячы на розніцу ў нацыянальнасцях, рэлігіі, палітычных поглядах, імкнуцца ў аднолькавай ступені да развіцця гарадской гаспадаркі». Новы прэзідэнт добра разумеў, што



«прыйшоў на гэту пасаду ў момант вялікіх фінансавых цяжкасцей, якія перажывае краіна...» «Акрамя тых абавязкаў, якія я на сябе прымаю, – дадаў О’Брыен дэ Ласі, – я адчуваю жывы сантымент да Гродна, пражываючы доўгі час паблізу горада, не мог яго не палюбіць». Выступаючы на пасяджэнні Рады па пытанні фарміравання бюджэту, О’Брыен дэ Ласі адзначыў: «Пры аналізе бюджэтаў Гродна за мінулыя гады кідаецца ў вочы прыемны факт, што гродзенскае самакіраванне ніколі не шкадавала грошай на агульную аду-

кацыю. Акрамя прызначаных па законе выдаткаў, горад заўсёды выдаваў даволі значныя сумы на дапамогу школам, бібліятэкам і інш. Толькі ва ўмовах фінансавага крызісу, які зараз перажывае горад, ён быў вымушаны ўстрымацца ад гэтых выдаткаў, хаця б і вельмі далікатным, асцярожным чынам» (1931). Пазней дэлегацыя павятовага аддзела Саюза польскіх настаўнікаў (Związku Nauczycielstwa Polskiego) у Гродна выступіла з лістом у падтрымку прэзідэнта горада перад крытыкай з боку варшаўскіх часопісаў і выказала яму «маральную падтрымку» (1932). Гродзенскі акруговы суд разглядаў справу супраць В. Чарноцкага – рэдактара варшаўскай газеты «Robotnik» – па абвінавачванні ў знеслаўленні гродзенскага прэзідэнта. Сярод сведкаў працэсу з боку істца былі такія асобоы, як Я. Каханоўскі, Ю. Ядкоўскі і інш. (1933). Абвясціў пра свой сыход з пасады (4.9.1933). Галоўнымі прычынамі сталі новыя адміністрацыйныя загады адносна самаўрада і пастава ваяводскага кіраўніцтва. Фармальнай падставаю, аднак, быў некамплектны склад гарадскога кіравання – г.зн. магістрата. Узамен цэнтральныя ўлады мелі прыслаць «часовага прафесійнага кіраўніка» (tymczasowego przełożonego gminy zawodowego). Сенатар (1938–1939). Старшыня Гродзенскай павятовай школьнай рады, віцэ-старшыня Гродзенскай рады павятовага праўлення АЗОНа (1938–1939). Ініцыятар стварэння аддзялення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (1923). З'яўляўся сябрам арганізацыйнага Камітэта па святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., праўлення Таварыства народных дамоў (Towarzystwo domów ludowych), павятовага камітэта ратавання Віленскай базілікі (1933), праўлення Гродзенскай павятовай рады (1935). Падараваў гораду адзін гектар зямлі пад школу на вуліцы Ласасянскай (1938). Пазней жыў у Варшаве. У творы «Saga o Grodnie» яму прысвечаны наступныя радкі: «Panował ongiś w Grodnie Maurycy De-Lacy, Prezydentem był miasta w bardzo trudnej porze, Lecz dzięki swym staraniom naprawił złe czasy. Wytrwał dzielny Maurycy w czynie i honorze». Жанаты з Надзеяй Друцкай (з 1917).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 166-167 зв.; Там жа Спр. 18. Арк. 31-33; Там жа Спр. 281. Арк. 213 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 7-73зв.; «Echo grodzieńskie». 29.7.1923. № 141. Str. 1; «Nowy dziennik Kresowy». № 330. 28.11.1930. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 18.6.1932. № 18. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.3.1933. № 66. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 25.9.1938. № 250. «Dziennik Kresowy». 3.11.1938. № 301; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 27; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**О'Брыен дэ Ласі Надзея, княжна Друцкая** // O'Brien de Lacy Nadzieja, księżniczka Drucka (17.01.1898 Варшава–29.08.1986, Варшава), пісьменніца, перакладчыца, грамадская дзяячка. Дачка кн. С. Друцкага, генерала і прафесара Вайсковай акадэміі права, і Марыі з Сафановічаў. Дзяцінства і школьныя гады правяла ў Пецербургу (з 1902), скончыла Смольны інстытут (1914). Падчас Першай сусветнай вайны пайшла працаваць санітаркай Чырвонага Крыжа на фронт, дзе і пазнаёмілася са сваім будучым мужам – Маўрыцыем О'Брыен дэ Ласі. Пазней пераехала ў маёнтак Аўгустовак каля Гродна (8.1918). Тут ёй у хуткім часе прыйшлося вывучыць польскую мову. Віцэ-старшыня мясцовага Кола землеўласніц (Koła Ziemianek), Польскага Чырвонага Крыжа, дабрачыннага таварыства (Towarzystwa Dobroczynności), заснавальніца і першы старшыня Таварыства аматараў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej w Grodnie) (1925–1937), старшыня праўлення кола бацькоўскай апекі (prezes zarządu koła opieki rodzicielskiej) (1930), сябра бацькоўскага камітэта гімназіі

імя Э. Плятэр (1932). Падтрымлівала сувязь з расійскай эміграцыяй. Разам з мужам арганізоўвала летнія лагеры для незаможных гродзенцаў. Праводзіла ў сваім маёнтку тэнісныя турніры для мясцовай эліты. Займалася літаратурай. Дэбютавала са сваёй першай аповесцю «Zwycięstwo» (1920). Да пачатку Другой сусветнай вайны выдала пяць кніг, падрыхтавала два тэатральныя прадстаўленні. Пісала радыёспектаклі для віленскіх і варшаўскіх радыёстанцый, друкавала артыкулы ў выданнях «Płomyk», «Bluszcz» і інш. З'яўлялася сябрам ПЭН-клуба. Пазней жыла папераменна ў Гродна і Варшаве (з 1937). З пачаткам Другой сусветнай вайны перабралася з сям'ёй у Варшаву (1939). Удзельніца Варшаўскага паўстання. Пасля вайны працавала ў бюро адбудовы сталіцы (1947–1949), пазней выкладала рускую мову, займалася літаратурнай творчасцю. У аўтабіяграфіі вялікае месца прысвяціла свайму жыццю ў Аўгустоўку. Пахавана на праваслаўных могілках на варшаўскай Волі. У кнізе «Saga o Grodnie» жонцы Маўрыцыя дэ Ласі прысвечаны наступныя радкі: «A jego młoda żona pisarką została, Napisała nam powieść «Dzieci niepotrzebne», Nadzieja jednak sama dwie córeczki miała. Miano wielkiej działaczki rosiła pochlebne».

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 1.2.1930. № 16. «Przegląd kresowy». 25.2.1930. № 37. Str. 4. «Wieczorny kurier Grodzieński». 11.6.1932. № 11. Str. 4; N. Drucka Mali ludi. Wilno 1929; Nadzieja Drucka. Trzy czwarte: Wspomnienia. Panstwowy Instytut Wydawniczy, 1977; Z. Nałkowska. Dzienniki 1918-1929. Czytelnik, Warszawa, 1980. T. III. Str. 115; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 27; http://pl.wikipedia.org/wiki/Nadzieja_Drucka.

**Олех Казімір** // Olech Kazimierz, сябра прэзідыума павятовай рады ББСУ (1931). Сакратар Гродзенскай рады павятовага праўлення АЗОНа (1938–1939).

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1611. Арк. 31 зв.; «Dziennik Kresowy». 25.9.1938. № 250.

**Онаш Фелікс** // Onasz Fajwel, купец. Сацыяльны апякун. Старшыня праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза яўрэяў – удзельнікаў барацьбы за незалежнасць Польшчы (Związek Żydów uczestników walk o niepodległość Polski) (на 1939). Жыў па вул. Białostocka, 44 (1937).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 20.4.1939. № 108. Str. 6; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 345.

**Орліс Шэйна** // Orlis Szejna (1887 –3.11.1943, Майданак), лекар-інтэрн, педыятр. Атрымала дыплом лекара (1915). Была хатнім лекарам у Гродна. З усталяваннем савецкай улады – лекар па школьнай санітарыі (1940). Працавала лекарам у варшаўскім гета (на 1943). Пазней – у канцэнтрацыйным лагеры, дзе і загінула. У Гродна жыла па вул. Ерусалімскай, 1 (1937).

*Літ.:* J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 301.



**Пабіян Ян** // Pabian Jan, рэдактар газеты «Grodzieński Kurier Codzienny 5 Groszy» (1935–1936).

**Падвінскі Ян (Юліян)** // Podwiński Jan (Julijan) (каля 1892–?), лекар, чыноўнік. Займаў пасаду лекара-эпідэміёлага Гродна і Гродзенскага павета, кіраўніка статыстычнага аддзела па барацьбе з эпідэміямі (1921). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў (polska partia socjalistyczna i rady klasowe związków zawodowych) (1927). Сябра сацыялістычнай фракцыі Гродзенскай гарадской Рады. Выступіў з крытыкай дарагога, незапланаванага раней рамонту будынка магістрата, які адбываўся па загадзе прэзідэнта Гродна. Віцэ-стараста (1928). Увайшоў у склад камісіі па высвятленні стану гарадскіх шпіталяў. Старшыня Саюза супрацоўнікаў разумовай працы вайсковай адміністрацыі (Związek pracowników umysłowych administracji wojskowej) (на 1938).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 196, 222-222 зв.; Там жа Спр. 18. Арк. 31-32; «Nowe życie». 1921. № 12. Str. 94; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1928. № 98; «Dziennik kresowy». 5.8.1938. № 212. Str. 5.

**Паддубік Уладзімір** // Paddubik Włodzimerz (каля 1898–?), беларускі дзеяч. Сакратар Гродзенскага павятовага камітэта БСРГ (1926). Неаднаразова арыштоўваўся польскай паліцыяй. Быў асуджаны па «справе 56-ці» ў Вільні на шэсць год пазбаўлення волі (1928). Жыў па вул. Zbożowa, 13 (1925).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 183.

**Пазняк Ганна** // Poźniak Chana (каля 1886–?), кравец. Радная Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Жыла па вул. Sobieskiego, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. – № 135. Str. 3.

**Палачак Рыўка** // Polaczek Rywka (каля 1894–?), настаўніца. Скончыла Марыінскую жаночую гімназію ў Гродна; правучылася два семестры на гісторыка-філалагічным факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Працавала ў прагімназіі М. Рубінавай (1919). Жыла па вул. Mostowa, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Палачак Шэйна** // Polaczek Szejna (каля 1896–?), настаўніца. Скончыла Марыінскую жаночую гімназію ў Гродна, яўрэйскія настаўніцкія курсы. Пра-

цавала ў прагімназіі М. Рубінавай. Жыла па вул. Mostowa, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Палаш Антоній** // Pałasz Antoni (16.10.1898, Заверце–?), лекар. Сын Антонія і Магдаліны Козлы. Скончыў гімназію ў Заверце, медыцынскі і філасофскі факультэт Познаньскага ўніверсітэта. Служыў добраахвотнікам у польскім войску (1920). Псіхолаг, спецыяліст па лёгачных захворваннях. Працаваў ардынатарам псіхіятрычнага шпіталя ў Каханоўцы і супрацьсухотнага санаторыя «Сташыцувка»; кіраўнік станцыі дыягностыкі для лёгачных хворых у Познані. Галоўны лекар грамадскага страхавання ў Гродна (ubezpieczalni spolecznej) (на 1937). Падчас Вялікай выстаўкі па гігіене выступіў з лекцыямі па тэмах: «Роля страхавання і здароўе грамадства», «Ці магчыма вылечыць сухоты», «Псіхічныя захворванні і спадчыннасць» і інш. (24.2; 27.2;.4.3.1939). Грамадска-палітычны дзеяч. Віцэ-старшыня Саюза сеньёраў Легіёна маладых (wicepr. Koła senior. Legii młodych). Сябра праўлення беспрацэнтнай касы імя Ю. Кілінскага (Kasy bezprocentowej im. J. Kilińskiego); Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937); Саюза рэзервістаў (Zw. rezerwistów); абласны інструктар ЛОПП. Друкаваўся на старонках мясцовай прэсы. Жанаты са Стэфаніяй Фібег (1924). Жыў па вул. Jelinki, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 19; Там жа Спр. 26. Арк. 2 зв.; «Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 2; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 228.

**Палкоўскі Юзаф** // Polkowski Józef (каля 1905–?), настаўнік. Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Згодна з Г. Ліпінскай, нейкі настаўнік Леапольд Палкоўскі быў забіты савецкімі жаўнерамі пасля заняцця Гродна (1939). Жыў па вул. Litwinowicza, 13.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; M. Filipowicz, E. Sawicka. Zbrodnie sowieckie na obrońcach Grodna 1939 r. // Biuletym historii pogranicza. Białystok, 2005. № 6. Str. 16.

**Палніцкі (Палнік) Элізер** // Palnicki Eliezer, грамадска-палітычны дзеяч, сябра Паалей-Цыён. Рэдактар газеты «Unser Wort» (1934). Магчыма, быў разам з жонкай вывезены на Усход (22.6.1941), аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку. Актыўны сябра гродзенскіх арганізацый у Ізраілі (на 1949).

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 145.

**Палніцкі Навум** // Palnicki Naum, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10.

**Палуйчык Яўгенія** // Połujczyk Eugenia, беларуская дзяячка. Сябра Гродзенскай грамады беларускай моладзі (1919–1920). Кіраўнік Гродзенскага беларускага прытулка (1924). Самадзейная актрыса. Была арыштавана разам з Я. Міткевічам па абвінавачванні ў растраце (1925).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 183.

**Памеранц Абрам** // Pomeranc Abram (1871–?), грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927) і яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927–1930). Сябра яўрэйскай фракцыі. Адзін з найбольш папулярных радных. Склаў свае паўнамоцтвы, пакінуўшы наступны ліст: «З прычыны таго, што мая шматгадовая праца ў трох гарадскіх Радах доўжыцца без перапынку на працягу апошніх дзесяці

год, а я, маючы сваёй мэтаю карысць для ўсяго грамадства і нашага горада, не бачу ніякіх пазытыўных вынікаў праўлення, вымушаны адмовіцца ад гэтага пачэснага месца» (1930). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігінай гміны Гродна (на 1921).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 25.1.1930. № 10; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno,1925. Str.10; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Панасюк Міхал** // Panasiuk Michał, адміністратар маёнтка Станіслававa князёў Друцкіх-Любецкіх (на 1930). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднання польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад прадмесця Фарштат (1927). Мясцовая газета называла яго «prezydent Przedmieścia» за яго ўклад у развіццё гэтага раёна горада. Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Панек Эміль** // Panek Emil, дырэктар Гродзенскай мужчынскай гімназіі Польскай Мацежы Школьнай (на 1919).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 35. Арк. 20; «Nadniemenski kurjier polski». 21.8.1925. № 230. Str. 1.

**Пануцэвіч (Папуцэвіч) Вацлаў** // Panucewicz Wacław (1910 – 25.8.1991, Чыкага), беларускі грамадскі дзеяч, гісторык. Вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Сябра Беларускай хрысціянскай дэмакратыі; сакратар Віленскага аддзела Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры (1936). Супрацоўнік шматлікіх беларускіх газет. З пачаткам Другой сусветнай вайны быў мабілізаваны ў 81-ы полк, трапіў у палон. Пасля вызвалення жыў у Гродна, выкладаў у школе № 1 беларускую мову і літаратуру (1940). З пачаткам нямецкай акупацыі ездзіў у Вільню з мэтай наладзіць сувязь з Віленскім БНК. Яго кандыдатура разглядалася мясцовымі нямецкімі ўладамі на пасаду бурмістра Гродна. Вёў настаўніцкія курсы пры Гродзенскім БНК. Сустракаўся з епіскапам Гродзенскім Антоніем па справе беларусізацыі праваслаўнай царквы і арганізацыі ў Гродна беларускай праваслаўнай семінарыі. Пераехаў з Гродна ў Баранавічы (11.1941). Пазней – у эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне (1944), а пасля – у ЗША (1949). Жыў у Гродна па вул. Паўночнай, 5 (на 1941).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 183-185.

**Панцэжынская Марыя Зоф'я** // Pancerzyńska Maria Zofia (1896, Кракаў –15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), вайсковы лекар. Атрымала дыплом урача Кракаўскага ўніверсітэта (1924). Неўролаг, дэрматолаг. Працавала ў вайсковым шпіталі ў Кракаве, на Валыні, у Вільні. Працавала ў Гродна судовым лекарам, мела прыватную практыку (з 1938). Працавала неўрапатолагам у 1-й амбулаторыі (на 1941). З пачаткам нямецкай акупацыі – у гарадскім шпіталі. Расстраляна разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 59; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 161; J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 312-313; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Панцэжынскі Вацлаў** // Pancerzyński Wacław (1896, Каменск –15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), вайсковы лекар. Атрымаў дыплом лекара Кракаўскага ўніверсітэта (1924). Працаваў у Гродна (1938). Трапіў у савецкі палон, аднак здолеў ўцячы

(1939). З пачаткам нямецкай акупацыі працаваў у гарадскім шпіталі. Расстраляны разам з жонкай Марыяй, дачкой, і таксама лекарам.

*Літ.:* J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 313-314; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Панчакевіч Адольф** // Panczakiewicz Adolf, вайсковец. Маёр у адстаўцы. Кіраўнік акруговага будаўнічага аддзела. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939). Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных зямель на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935) і камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Старшыня Саюза легіянераў. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Bernardyńska, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 . Спр. 284. Арк. 26 зв.-27; Там жа Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 19; Там жа Спр. 3. Арк. 15; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6.

**Папоў Уладыслаў** // Popoff Władysław (12.9.1888, Варшава–?), пракурор. Каталік, паляк. Бацькі – Базылій і Марыя Тшэцяк. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1914). Прававы дарадчык пры Упраўленні вайсковай здабычы Ваўкавыскага павета (12.1920). Адвакат у Гродна (з 5.2.1921). Намеснік падпракурора (з 15.2.1922). Пракурор Гродзенскага акруговага суда (з 1933). Жанаты з Браніславай Грыга (з 1917).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2408; «Wieczorny kurier Grodzieński». 16.3.1933. № 74. Str. 4.

**Парук Аляксандр** // Paruk Aleksander (26.9.1892, в. Навінкі, Сакольскага пав.–?), настаўнік. Беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Сябра БПС-Р. Абвінавачаны па «справе 45-ці» (1923). Пазней – у БССР.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 185.

**Патла Антоні** // Patla Antoni (4.6.1897, в. Тлокі каля Кросна–10.5.1977, Аўгустоў), журналіст, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў сям'і Францішка і Марыі з Юрчыкаў. Вучыўся ў народнай школе ў Главенцы (Głowience) (1904–1910). Працаваў на разліве піва ў Кросна; у цагельні ў Паланце; цесляром. Сябра Саюза стральцоў (Związek strzeleski) (1911). Служыў у Польскіх легіёнах – 3-м пяхотным палку 2-й брыгады (1914–1918); польскім войску (1918–1921). Удзельнічаў у польска-ўкраінскай і польска-савецкай войнах. Быў паранены. Падпаручнік запасу (з 1930). Афіцэр запасу (1930). Пасля дэмабілізацыі працаваў у кааператыве ў Віланове. Пазней, як вайсковы асаднік, атрымаў надзел у в. Губінка каля Гродна (1923). Магчыма, заснаваў агульную школу ў в. Абухавічы і кіраваў ёю. Займаўся гаспадаркай і адначасова вучыўся на агульна-асветніцкім аддзяленні Свабодных вышэйшых польскіх курсаў у Варшаве (wydział społeczno-oświatowy Wolnej Wszechnicy Polskiej w Warszawie) (1926–1928). Працаваў як чыноўнік па кантракце ў ветэрынарнай службе (szefostwie weterynarii) (з 1932); пасля – у аддзеле прэсы і прапаганды (referat prasy i propagandy) пры ДОК III у Гродна. Першы яго літаратурны дэбют адбыўся яшчэ падчас службы ў палкавой газеце «Czwartak» (1921). Атрымаў прапанову працаваць у газеце «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (1928). Пазней супрацоўнічаў з газетамі «Głos Ziemi Grodzieńskiej», «Express Poranny Ziemi Grodzieńskiej», «Grodzieński Express Poranny 10 groszy», «Dziennik Kresowy», польскім тэлеграфным агенствам (PAT). Адказны рэдактар «Ondyna Druskiennickich Źródeł» (з 1932). Галоўны рэдактар «Gazety Polskiej Ziemi Grodzieńskiej», «Kuriera Nadniemeńskego» (1934–1936). Аўтар шматлікіх артыкулаў і тэатральных рэцэнзій. Меў некалькі судовых спраў у сувязі з журналісцкай дзей-

насцю, у тым ліку за знявагу Саюза працаўнікоў дзяржаўнага казначэйства Польшчы (związek pracowników skarbowych rzeczypospolitej polskiej). Адзін з яго артыкулаў прычыніўся да сыходу з пасады віленскага ваяводы С. Кірцікліса. Сябра Таварыства аматараў літаратуры і мастацтва ў Гродна (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki w Grodnie); праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза легіянераў (Związku Legionistów) (1930–1935); «кола тройкі» – былых жаўнераў трэцяга палка (Koła Trzeciaków (byłych żołnierzy 3. pułku piechoty)); Саюза афіцэраў запасу (Związku Oficerów Rezerwy); сіндыката журналістаў Польшчы (Syndykatu Dziennikarzy RP); розных святочных камітэтаў. Узнагароджаны Міністэрствам асветы і рэлігійных спраў «Srebrnym Wawrzyńcem Akademickim». Пан-сеньёр Легіёна Маладых (Legion Młodych) у Гродна; выступаў з рэфератамі. З пачаткам Другой сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Вільню. На кароткі час зноў вярнуўся ў Гродна, аднак быў вымушаны хутка з'ехаць, каб пазбегнуць арышту органамі НКУС. Камендант павятовай арганізацыі Вайсковага нацыянальнага таварыства у Кросна (Organizacji Wojskowej Stronnictwa Narodowego) (1940–1942). Служыў у АК. Быў кіраўніком аддзела прапаганды пры галоўным інспектараце АК у Кросна. З прыходам савецкай арміі трапіў у турму (1944–1945). Пасля вызвалення выехаў на Памор'е, дзе працаваў кіраўніком дзіцячага дома (1946). Зноў вымушаны быў выехаць, ратуючыся ад чарговага арышту. Пасля – у Сувалках (з 1947). Настаўнік, дырэктар школы ў аграрнай гімназіі (Gimnazjum Ogrodniczym). Быў арыштаваны органамі бяспекі, аднак, хутка вызвалены (1950). Доўгі час заставаўся без працы. Пазней быў дырэктарам і заснавальнікам мясцовага рэгіянальнага музея (Muzeum Regionalnego w Suwałkach) (1958–1962); адзін з ініцыятараў стварэння Сувалкаўскага парку прыроды і рэзервацыі «Чорная Ганча». Пазней жыў у Аўгустове (з 1967). Аўтар шматлікіх артыкулаў-эсэ, даведніка па Сувальшчыне, папулярызатар гісторыі польскіх легіёнаў. Захаваліся яго ўспаміны пра Гродна. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Antoni Patla w Grodnie – autor dorze znany, Pisał w «Polskiej Gazecie» artykuły cięte, Nie szczędzil dla mnie często surowej nagany, To też nasze stosunki były dośc napięte. Atoli wojna nasza nie była daremna: W nej chodziło o wolność i o życie nowe, By więcej nie wróciła niewola nikczemna I nie biły w nas nigdy gromy rozbiorowe». Жанаты з Марыяй Самер – адвакатам. Меў дачку і сына. У Гродна жыў па вул. Monopolowa, 1 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 52. Воп. 1. Спр. 537. Арк. 4-5; «Dziennik kresowy». 1.9.1939. Str. 4; Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. Dodatek do urzędowego wykazu druków. Rocznik VII. Warszawa, 1935. Str. 2; Polski słownik biograficzny. Tom XXV. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1980. Str. 335-337; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 94-95; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 16; Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. Str. 369; Wileński słownik biograficzny. Suplement. Opracował M. Jackiewicz. Bydgoszcz, 2012. Str. 237; A. Matusiewicz. Antoni Patla // «Wigry». 2011. № 3; http://www.wigry.win.pl/kwartalnik/nr35_patla.htm.

**Патршэбскі Віктар** // Potrzebski Wiktor (30.8.1880, Слесін, Канінскі павет – 4.9.1944, Варшава), ксёндз. Дырэктар гімназіі імя Адама Міцкевіча. Паходзіў з Велькапольшчы. Пасля заканчэння гімназіі ў Калішы паступіў у Влацлаўскую духоўную семінарыю. Пасвечаны ў святары (6.1904). Далучыўся да нацыянальна-патрыятычнай дзейнасці. Актыўна падтрымліваў Нацыянальны працоўны саюз (Narodowy Związek Robotniczy). Пераехаў у Галіцыю, дзе служыў пры касцёле Св. Ганны ў Львове (з 1907). Наведваў лекцыі па літаратуры, псіхалогіі, гісторыі Ягелонскага ўніверсітэта. З'яўляўся прэфек-

там школ у Доліне і Манастэржысках; працягваў актыўную грамадска-палітычную дзейнасць. Пасля зноў служыў у Куяўска-Калішскай дыяцэзіі (1921–1928). Выконваў абавязкі прэфекта і выкладчыка ў жаночай настаўніцкай семінарыі і прыватнай гімназіі ў Пётркаве-Трыбунальскім. Вызначыўся ў якасці арганізатара моладзёвых вандроўных лагераў, пра якія нават выдаў кнігу. Па асабістым жаданні пераведзены ў Віленскую архідыяцэзію (1928). Прэфект пры настаўніцкай семінарыі ў Троках (1928–1935). Дырэктар мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Гродна (з 1935) (па іншых звестках, спачатку выконваў абавязкі школьнага катэхезы, а дырэктарам стаў толькі з 1937 г.). Гэта была выключная сітуацыя, калі духоўная асоба ўзначаліла дзяржаўную навучальную ўстанову. На новым месцы хутка здолеў заваяваць прыхільныя адносіны з боку вучняў. Сябра праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935); прэзідыума гістарычнай бібліятэкі ў Гродна (1937); Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). З'яўляўся выдатным прамоўцам. На святочным пасяджэнні гарадской Рады падчас уручэння літаратурнай узнагароды імя Э. Ажэшкі Віктар Патршэбскі сказаў: «...Наш горад неаднойчы перажываў цяжкія часы. Вораг, які панаваў тут на працягу доўгіх гадоў, імкнуўся ператварыць яго ў абшар, які духоўна разбіў бы Польшчу на дзве часткі і тым самым адарваў польскія паўночна-ўсходнія землі ад Айчыны. Галоўным інструментам у гэтых планах было Гродна. Гэта яно павінна было адарваць Вільню ад Варшавы, Кракава, Львова, Познані. І тым самым адыграць жудасную ролю ў знішчэнні польскай заходняй культуры. У гэтай знішчальніцкай візантыйска-мангольскай палітыцы Гродна павінна было стаць атрутаю для ўсялякай праявы польскіх жыццёвых сіл на гэтых землях. Дарма, што тут памёр надзвычайны чалавек – прадстаўнік і абаронца заходняпольскай культуры – Стэфан Баторый. І вось менавіта гэты горад Гродна, якому вораг навязаў такі страшэнны абавязак, раптам, пасля вяртання незалежнасці, ачуняў, сарваў і скінуў з сябе сілаю навязаны яму палітычна-культурны абавязак.І адразу з вялікім размахам узяўся за працу, мэтаю якой з'яўляецца замацаванне тут польскай думкі – наданне польскаму духу крылаў, каб стаць сувязным звяном паміж Вільняй і Варшавай-Кракавам-Познанню. Тут ніякія не «крэсы», а плоць ад плоці Польшча, якая ўтрымлівае разам цэнтральныя і паўночныя землі. Менавіта тут лёсам было наканавана з'явіцца Элізе Ажэшцы. Яна выконвала тут вялікую польскую місію: абараняла польска-лацінскую культуру. Для Гродна гэта слава і найвялікшая падстава для гонару, як для Вільні тое, што ў ёй жыў і тварыў Міцкевіч. Менавіта таму ўзнагарода імя вялікай Абаронцы павінна быць уручана таму, хто праз усё сваё жыццё, праз усю сваю працу служыў вялікай ідэі яднання Польшчы з культурай усяго заходняга свету... Ва ўсіх яго працах можна пабачыць веру ў вялікасць польскага народа. Прычым вялікасць гэтую ён бачыць у вялікасці польскай душы. А польская душа з'яўляецца змагарніцкай – яна заўсёды крочыць наперад, на заваёўванне свету. Гродна застаецца духоўна верным вялікай Пісьменніцы, яму наканавана ўвесь час натхняць польскую душу да працы на карысць Польшчы, а таму верыць у незнішчальнасць, вечнасць і моц польскага духу» (18.6.1936). Выдаў брашуру «У гадавіну атрымання Незалежнасці» (W rocznice odzyskania Niepodległości) (1936). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów). Удзельнік абароны Гродна

(20-22.9.1939). Па некаторых звестках, праз мегафон заклікаў вучняў да змагання. Да закрыцця гімназіі працягваў выкладаць філасофію. Пасля, ратуючыся ад арышту органамі НКУС, пераехаў у Варшаву, дзе стаў капеланам кляштара Ларэтанак. Арганізаваў тайную польскую школу. Увайшоў у склад АК (10.1942). Карыстаўся псеўданімам Юзаф Арлоўскі. Загінуў падчас Варшаўскага паўстання – быў забіты на вуглу вуліц Шпітальнай і Пшэскок. У Гродна жыў пры гімназіі па адрасе: Aleja 3 Maja, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 62-63; Там жа Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 20; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 591; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 4-5; T. Krahel Ksiądz Wiktor Potrzebski // «W służbie miłosierdzia». 2010. № 8; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Мінск, 2011. Ст. 451.

**Паўла/Гажыч Марыя** // Pauła/Gażycz Maria (1860, Вішэра, Курская губ. – 1936, Гродна), ігумення кляштара сясцёр-назарэтанак. Мастак, рэстаўратар, педагог. Вучылася ў Варшаўскім класе малюнкаў, Акадэміі Жуліян у Парыжы, у Мюнхене. Пасля смерці мужа ўступіла ў Згуртаванне Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і Назарэта (назарэтанак) (1901). Старэйшая сястра ў Гродзенскім кляштары назарэтанак (1908–1919). Займалася сакральным жывапісам, вяла актыўную грамадскую і педагагічную дзейнасць. Падчас Першай сусветнай вайны звярнулася разам з кс. Ф. Грынкевічам да акупацыйных улад за дазволам на адкрыццё жаночай гімназіі. Актыўна ўдзельнічала ў працы ПАВ.

*Літ.:* E. Skrobocki. Polska organizacja wojskowa w Grodnie w latach 1918-1919 // «Magazyn polski». 2003. № 3. Str. 30; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI – XX стст. Мінск, 2011. Ст. 452; Н. Маліноўская-Франке. Забыты вернісаж: творчасць мастакоў Гродзеншчыны 1860-х – 1930-х гг. Мінск, 2012. Ст. 149-150.

**Паўлікоўскі Стэфан** // Pawlikowski Stefan, інструктар прафсаюза працаўнікоў сельскай гаспадаркі Сакульска-Гродзенскага аддзела (związku zawodowego robotników rolnych oddziału sokólsko-grodzieńskiego). Сябра ППС. Вылучаўся на выбарах у Сейм (1922). Жыў па вул. Fabryczna, 17 (1922).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 59. Воп. 1.Спр. 4. Арк. 21.

**Паўловіч Стэфан** // Pawłowicz Stefan (каля 1878–?), судовы абаронца. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 13 (1925); Wróblewskiego, 9 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1.

**Паўлоўскі Вацлаў** // Pawłowski Wacław (28.9.1900, Астрова–1940, Харкаў), вайсковы фармацэўт. Капітан. Служыў у Дэмбліне, Любліне, Брэсце. Кіраўнік вайсковай аптэкі ў Гродна (1930-я). Трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 344.

**Паўлоўскі Тадэвуш** // Pawłowski Tadeusz, пажарнік. Камендант 4-га аддзела пажарнай аховы ў Варшаве. Камендант гродзенскай пажарнай аховы (4.2.1934–1935). Магчыма, кіраўнік спартыўнай каманды пажарнай аховы «Salamandra». Мясцовая газета «5 groszy. Grodzienski kurier codzienny» пісала наконт чарговай ініцыятывы кіраўніка гродзенскіх пажарных: «Пан камендант Паўлоўскі поўны бясконцых прыдумак. Надакучыла яму размаўляць непасрэдна з падначаленымі. Каб пазбегнуць гэткай прыкрасці, устанавіў у сваім кабінеце, як і ў суседняй зале пажарнай аховы, апарат Морзэ і з дапамогаю дэпеш зараз звязваецца з пажарнымі. Безумоўна, гэта добрая цацка для таго, каб забіваць час.

Ходзяць чуткі, што п. Паўлоўскі мае план правесці тэлеграф у прыватныя кватэры пажарных, а ў сваім кабінеце арганізацаь «цэнтр». Пазней гродзенскі суд разглядаў справу аб знявазе кіраўніка пажарнай аховы з боку былога лаўніка магістрата Л. Мазуркевіча (2.1935). Лаўнік нават звярнуўся да гарадскіх улад з афіцыйнай просьбаю накіраваць Т. Паўлоўскага да псіхіятра. Выступаючы сведкам з боку абвінавачанага, надкамісар павятовай паліцыі Баруцкі апавёў, як падчас пажару ў Лунна, калі згарэла каля дзевяноста будынкаў, камендат пажарных сказаў: «Што ж гэта пану перашкодзіць, калі трошкі яўрэяў і згарыць». Самога ж Т. Паўлоўскага ён ацаніў як «нервовага, неўранаважанага і з вялікімі амбіцыямі». У выніку, суд апраўдаў Л. Мазуркевіча, а пакрыўджанаму параіў на самай справе звярнуцца да лекараў з тым, каб атрымаць безумоўны доказ сваёй рацыі. Наступны скандал з камендантам пажарнай аховы быў выкліканы яго загадам рабіць фотаздымкі пажару ваенных складоў. Быў вымушаны выехаць зноў у Варшаву па прычыне дрэнных стасункаў, якія склаліся з гарадской пажарнай камандай.

*Літ.:* «5 groszy Grodzienski kurier codzienny». 16.2.1935. № 45; «5 groszy Grodzienski kurier codzienny» . 1.3.1935. № 61; «5 groszy Grodzienski kujer codzienny». 7.5.1935. № 125; «Mały dziennik grodzieński». 11.10.1935.

**Пацэвіч (Панцэвіч) Мечыслаў** // Pacewicz (Pancewicz) Mieczysław, суддзя крымінальнага аддзела Гродзенскага акруговага суда (1934). Пазней у дакументах узгадваецца пракурор Станіслаў Пацэвіч (1937). Нейкі Пацэвіч з'яўляўся кіраўніком стралковай секцыі клуба GKS «Cresovia» (sekcja strzelecka). Л. Саванеўскі прысвяціў Пацэвічу наступныя радкі: «Pancewicz z nim pracował w tym samym zawodzie I obrońcom pomagał w szperaniu po aktach, A teraz, biedak, jeździ w wielkim samochodzie Po olbrzymich terenach i po różnych traktach».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 19; «Dziennik Kresowy». 23.8.1938. № 228; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 83.

**Пачобут Віктар** // Poczobutt Wiktor (каля 1896–?), рабочы. Увайшоў у склад Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага блока рабочых (Zjednoczony blok robotniczy), аднак у пасяджэнні Рады не ўдзельнічаў, бо быў адразу арыштаваны польскай паліцыяй (1927). Адзін з трыццаці «палітычна неблаганадзейных асобаў», якіх вызначыў камісарыят дзяржпаліцыі ў Гродна (1928).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Пашке Эдгар** // Paszke Edgar, настаўнік-германіст. Выкладаў у гімназіі імя Г. Сянкевіча. Гэта яму ксёндз Л. Саванеўскі адрасаваў першую частку сваёй «Сагі пра Гродна».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 103.

**Пелінскі Мар'ян** (Пелл Мар'ян) // Peliński Marian (?–1942, Варшава), акцёр. Дэбютаваў на сцене ў львоўскім тэатры (1913). Выступаў у тэатрах Вільні, Торуні, Варшавы, Познані, Лодзі. Акцёр гродзенскага тэатра (1937–1939).

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 538.

**Перагуд** // Peregud, спартсмен. Рулявы веславой лодкі-чацвёркі клуба «Гродна», якая перамагла на спаборніцтвах на дыстанцыі 1300 м (1930).

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 12.08.1931.

**Печыніс Аліна** // Pieczynis Alina, настаўніца гродзенскіх школ. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў ёй і настаўніцы Керсноўскай наступныя радкі: «Alina z Peczynisów i Kiersnowska Anna, Obie wielkie postacie na polu oświaty, Za pracę im tu śpewam, za trudy: Hossanna! Polonistkom tym biję serdeczne wiwaty!...» Пасля вайны – у Беластоку.

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 87; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 14.

**Піндэльскі Багуслаў** // Pindelski Bogusław (каля 1889–?), настаўнік. Выконваў абавязкі дырэктара гімназіі імя А.Міцкевіча (1919). Выкладаў лацінскую мову ў мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча ў Гродна (да 1935). Быў кіраўніком педагагічнай рады. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Прадстаўнік «Małego dziennika» ў Гродна. Жыў па вул. Grandzicka, 17.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20; «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 235. Str. 4; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Пламш Адольф Освальд** // Plamsch Adolf Oswald (15.12.1866, Вендэн–7.2.1939, Гродна), лютэранскі пастар (proboszcz zboru ewangeliskiego). Паходзіў з былых польскіх інфлянтаў. Скончыў гімназію Інфлянцкага рыцарства ў Біркенруху (Birkenruh); факультэт тэалогіі Дэрпцкага ўніверсітэта. З'яўляўся сябрам карпарацыі «Лівонія» (Liwonia). Нейкі час быў пастарам у Марыцубургу (Maricuburg) у Інфлянтах. Пазней – у Гродна (з 1905). У першыя ж гады сваёй працы перабудаваў кірху, надаўшы ёй неагатычны выгляд. Дырэктар нямецкай школы (на 1919). Пазней працаваў настаўнікам рэлігіі і нямецкай мовы ў мясцовых школах. Звярнуўся да гарадскога магістрата з лістом у абарону медсясцёр евангелісцкага веравызнання, якія абвінавачваліся ў знявазе пачуццяў каталікоў (1920). Прыймаў удзел у акцыі супраць урэгулявання адносін дзяржавы з евангельска-аўгсбургскай царквой (1936). З'яўляўся вядомым у Еўропе філатэлістам (нават, па некаторых звестках, падрабіў серыю рэдкіх паштовых марак). Атрымаў на выставе ў Варшаве вялікі залаты медаль (1938). Акрамя гэтага, пісаў музыку, займаўся паэзіяй, садаводствам і нават разбіў каля храма ружоўнік. Быў аматарам аховы птушак – каля свайго дома побач з кірхай спецыяльна пабудаваў для птушак кармушкі , дзе іх карміў; размясціў там штучныя гнёзды, на свой лад клікаў птушак да сябе. У некралогу адзначалася, што шэрагі жыхароў Гродна пакінуў чалавек незвычайны, які заўсёды вылучаўся шляхетнасцю. Разам з тым у горадзе хадзілі чуткі пра яго сувязь з Абверам. Жыў па вул. Akademicka /Kirchowa, 7.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 1, Арк. 41; Там жа Спр. 64. Арк. 14 зв.; Там жа Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 13-15; «Dziennik kresowy». 11.2.1939 №. 42. Str. 3; A. Śnieżko. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział. Wspomnienie o Józefie Jodkowskim. Białystok, 2000. Str. 52; A. Blumstein. A little house on mount carmel. London-Portland, 2002. P. 31-31; Д. Крывашэй. Нямецкая супольнасць Беласточчыны ў 1930-я гады // Восень 1939 года ў гістарычным лёсе Беларусі.Мінск: Беларусь. Навука, 2010. Ст. 125; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335.

**Плоха Станіслаў** // Płocha Stanisław (1887–?), настаўнік. Скончыў настаўніцкую семінарыю; дзяржаўны педагагічны інстытут; курсы беларускай і рускай моў (1940). Працаваў настаўнікам у Хвалібагавіцы (1907–1911), Кошыцы (1911–1918), Пінчаве (1918), Казімежу Малым (1918–1923), Пултуску (1923–1924). Дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Слоніме (1924–1938). Дырэктар Дзяржаўнага педагагічнага ліцэя ў Гродна (1938–1939). Пасля ўсталявання савецкай улады – настаўнік матэматыкі і фізікі ў няпоўнай сярэдняй школе № 17 (1940). Пазней быў арыштаваны разам з жонкай і дзецьмі органамі НКУС і дэпартаваны на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 11.10.1941). Супрацоўнік дабрачыннага аддзела (Fursorgewesen Sachbearbeiter). У сваім данясенні на імя нямецкага каменданта прадстаўнік Беларускага нацыянальнага камітэта абвінавачваў яго ў падпольнай дзейнасці па арганізацыі

мясцовай польскай інтэлігенцыі. Настаўнік матэматыкі ў школе № 2 (на 1944). Жыў па вул. Scholtzstr., 2 (1942), Міцкевіча, 2 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1 Спр. 33. Арк. 32; Там жа. Спр. 181. Арк. 22 зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 37, Там жа Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 8-8 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 145.

**Прaснеўскі Станіслаў** // Prośniewski Stanisław (каля 1886–?), чыноўнік. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Быў высланы савецкімі ўладамі разам з жонкай і дачкой у Казахстан (1940). Жыў па вул. Garncarska, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 140.

**Прудоўскі Гірш** // Prudowski Hirsz (каля 1881–?), экспедытар, уладальнік нерухомасці. Грамадска-палітычны дзеяч. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólno-żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Prochowa, 11 (1937); вул. Zamkowa, 11 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7.

**Прусак Сцяпан** // Prusak Stefan, беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Сябра праўлення Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства (1925). Сябра ТБШ. Старшыня Гродзенскага акруговага з'езду ТБШ (1928). Падазраваўся мясцовай паліцыяй у прыналежнасці да КПЗБ. На выбарах у Сейм беспаспяхова вылучаўся ад блока «Рабоча-сялянская еднасць» (1930). Неаднаразова арыштоўваўся. Жыў па вул. Zbożowa, 13 (1925).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 190-191.

**Прухнік Адам** // Próchnik Adam, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Адзін з арганізатараў Таварыства рабочага ўніверсітэта (Towarzystwo Uniwersytetu Robotniczego), дзе выступаў з лекцыямі.

*Літ.:* H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str. 48.

**Прушынская Зоф'я** // Pruszyńska Zofia (1900 (1906(?))–?), настаўніца. Скончыла мастацкі факультэт Віленскага ўніверсітэта; педагагічныя курсы (1939, 1940). Магчыма, працавала ў адной з гарадскіх школ. З усталяваннем савецкай улады выкладала чарчэнне і маляванне ў сярэдняй школе № 9 (1940). Падчас нямецкай акупацыі працавала ў гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) (з 13.10.1941) і музеі. Згодна з Ц. Амільяновіч, наўмысна засталася пасля Другой сусветнай вайны ў Гродна, каб мець магчымасць перасылаць дапамогу зняволенай у савецкім лагеры А. Гальскай.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1, Спр. 181. Арк. 22 зв.; Там жа Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 66–66 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 135.

**Прэйс Уладзімір** // Preiss Włodzimierz (?–1942, Асвенцім), акцёр, спявак. Выступаў у тэатрах Торуні, Любліна, Познані, Быдгошча і інш. Акцёр гродзенскага тэатра (1935–1938). Выконваў ролю Напалеона II. Абвесціў галадоўку, патрабуючы праверыць дзейнасць кіраўніцтва тэатра і праўлення Саюза артыстаў польскай сцэны. У справу ўмяшалася нават гарадская Рада, але акцёр адмовіўся ад дапамогі. Пазней загінуў у нацысцкім канцлагеры.

*Літ.:* «Slowo». 27.08.1938. № 235. Str. 7; «Dziennik Kresowy». 20.7.1938. № 196; «Dziennik Kresowy». 21.7.1938. № 197; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 565.

**Пташынская Тэафілія** // Ptaszyńska Teofila, настаўніца. Магчыма, мела ступень доктара навук. Працавала ў Дзяржаўнай купецкай гімназіі (Państwowe gimnazjum kupieckie) (на 1937). Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Poczciwe, bardzo dobre i miłe stworzenie, Pani doktor Ptaszyńska, filar naukowy, I warta, by w tej Sadze

miała wyróżnienie, Jako wielka mistrzyni i człowiek wzorowy...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 5; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok. 1999. Str. 70.

**Пудлес Зундэль** // Pudles Zundel (1893–?), настаўнік. Скончыў гімназію, філасофскі факультэт Кракаўскага ўніверсітэта, курсы настаўнікаў геаграфіі (1940). Настаўнік геаграфіі ў гімназіі і ліцэі «Тарбут» (1934–1939). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). Выкладаў геаграфію ў рускамоўнай сярэдняй школе № 7 (з 1939). Жыў па вул. Napoleona, 11/6 (1935); Listowskiego, 40 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Арк. 7 -7зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 38-38 зв.

**Пул'ян Рамуальд** // Puljan Romuald (29.7.1894, Гродна – 7.9.1971, Гіжыцк), настаўнік, адвакат. Грамадска-палітычны дзеяч. Сын чыноўніка гродзенскага суда Антонія Пуляна (памёр 20.5.1925). Закончыў з залатым медалём гімназію ў Гродна (1912). Вучыўся ў вайсковай медыцынскай акадэміі ў Санкт-Пецярбургу; пасля – на юрыдычных факультэтах Пецярбургскага і Варшаўскага ўніверсітэтаў. Атрымаў ступень магістра (каля 1924); пасведчанне Міністэрства рэлігій і публічнай асветы на права выкладання лацінскай мовы ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах (1926). Настаўнік лацінскай мовы. Адзін з арганізатараў і дырэктар гімназіі Польскай Мацежы Школьнай імя Г. Сянкевіча (1924). Адвакат-стажор у Гродна пры канцылярыі З. Гарбачэўскага (1933–1939). Сябра хадэцыі. Пасол Сейма (1928; 1930). Чатыры разы абіраўся ў Гродзенскую гарадскую Раду (1927; 1930; 1934; 1939). Сябра фракцыі «хрысціянскае кола» (1930-я). Сябра камітэта па разбудове Гродна (1928); Камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Падчас другой кадэнцыі працаваў у камісіі асветы. Вылучаўся актыўнай грамадскай пазіцыяй. Напрыклад, пры разглядзе бюджэту ён выказаўся за адкрыццё гарадской аптэкі, каб тым самым паспрыяць змяншэнню коштаў на лекі. У адказ на рэпліку Э. Стампнеўскага, уладальніка адной з цэнтральных аптэк у горадзе, што прыватныя аптэкары «вялікіх грошай на сваёй працы не атрымліваюць», Р. Пулян адказаў: «Агульнавядома, што некаторыя аптэкары, на самай справе, дасягнулі пэўных вынікаў, маючы ўласныя дамы, вілы і г.д.» Падчас абмеркавання пытання пра адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар грамадзян Гродна, палеглых у барацьбе за незалежнасць, прапанаваў зрабіць адразу некалькі дошак, размясціўшы іх у святынях розных канфесій і пералічыўшы імёны барацьбітоў адпаведных веравызнанняў. Выказаўся супраць расшырэння штата гарадскіх служачых і абавязковага выпісвання афіцыйных газет «Gazety Polskiej» і «Strzelca». Пазней Р. Пулян прапанаваў скараціць заробак прэзідэнта горада. Пры гэтым ён заклікаў, каб Рада на практыцы ажыццяўляла прынцып ашчаднасці. На іншым пасяджэнні гарадской Рады разглядалася пазачарговае пытанне аб лёсе кіроўцы, які аднекуль прыехаў у горад  і спрабаваў скончыць жыццё самагубствам па прычыне ўласнай галечы. Гэта гісторыя трапіла на старонкі мясцовых выданняў і выклікала рэзананс у грамадстве. Радны Р. Пулян звярнуўся да гарадскіх улад за дапамогай. У адказ гарадская Рада вырашыла далучыць да справы мясцовую грамадскую апеку. Акрамя таго, Р. Пулян выступіў супраць рашэння магістрата ў справе выключэння са спісаў прынятых на публічныя працы грамадзян, якія былі пакараны за палітычныя злачынствы супраць дзяржавы – шпіянаж і камуністычную дзейнасць, а таксама супраць абмяжавання выдачы ім абавязковай сацыяльнай дапамогі. Падчас абмеркавання надання новых назваў гарадскім вуліцам ён выказаўся за тое, каб імя Г. Сянкевіча

было нададзена вуліцы ў цэнтры горада, а не на перыферыі. Затое выступіў супраць перайменавання вуліцы Паштовай у вуліцу імя генерала Густава Орліч-Дрэшэра, а прапаноўваў надаць імя генерала адной з новых вуліц. Аднойчы прапанаваў часова перанесці помнік Свабоды на іншае месца, бо ён «не адпавядае самому разуменню помніка», і пачаць збіраць грошы на новы. Па яго прапанове былі адменены субсідыі для музычнага таварыства і гродзенскіх харцэраў (1939). Падчас Другой сусветнай вайны хаваўся; быў арыштаваны органамі НКУС, аднак вызвалены ў сувязі з заявaю мясцовага яўрэйскага насельніцтва. Працаваў фізічна пры загатоўцы дроў. Адначасова быў сувязным у партызанскім аддзеле. Пасля вайны быў рэпатрыяваны і пасяліўся ў Востраве-Мазавецкім, дзе адчыніў адвакацкую канцылярыю (1945). Пазней жыў у Гіжыцку. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Dwukrotny poseł Pułjan, wielki demokrata, W Grodnie miał on szacunek i roboty wiele, W Giżycku teraz siedzi w todze adwokata, Jako miły już tatuś na Pułjanów czele… Grodzieński poseł Pułjan jest w szkolnictwie znany, Bowiem często na Sejmie głosił o nim mowy, Na polu oświatowym zbierał plon zasiany, Wielki w swoich rozmiarach, wielce wartościowy…» Жыў у Гродна па вул. Rydza-Śmigłego, 6 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 64; Там жа Спр. 18. Арк. 67-67 зв.; Там жа Спр. 282. Арк. 8–8 зв.; Там жа Спр. 284. Арк. 20 зв.; Там жа Спр. 285. Арк. 29 зв., 66 зв., 89, 99-99 зв., 100-100 зв., 104 зв., 144–144 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; «Echo grodzieńskie». 28.6.1923. № 115. Str. 2-3; «Nowe życie». 6.7.1924. № 40. Str. 3; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.2.1933. № 34. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik kresowy». 1.2.1939. № 32. Str. 3; «Dziennik kresowy». 2.2.1939. № 33. Str. 3; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 18, 70; Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom IV. Warszawa, 2009. Str. 464-465; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 329.

**Пуржыцкі Станіслаў** // Purzycki Stanisław (каля 1893 – 25.2.1946, Скалімаў), акцёр. Паходзіў з сям'і рамесніка. Пачаў выступаць у эпізадычных ролях у варшаўскім Teatrze Rozmaitości (1916). Вучыўся ў Варшаўскай драматычнай школе (1919). Выступаў у польскім тэатры ў Вільні (1921–1922); у польскім тэатры ў Катавіцах (1922–1923); у тэатрах Лодзі, Любліна, Варшавы. Акцёр гарадскога тэатра ў Гродна (1935–1936). Пасля пераехаў у тэатр у Луцк. Падчас Другой сусветнай вайны – у Варшаве, прымаў удзел у працы тайнай тэатральнай трупы. Пасля – у прытулку артыстаў – ветэранаў польскай сцэны ў Скалімаве (1945).

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 576.

**Пуслоўскі Вітольд** // Pusłowski Witold, журналіст. Рэдактар і аўтар газет «Nasza Ziemia» (1927); «Kresy Wschodnie» (1928).

**Пухнеўская Алена** // Puchniewska Helena (12.7.1891–8.8.1971 с. Пелкіна каля Яраслава), актрыса. Выступала ў тэатрах Любліна, Варшавы, Каліша (1908–1913). Падчас польска-савецкай вайны – артыстка тэатраў у Вільні і Мінску. Выступала ў гродзенскім тэатры (1921–1922; 1924–1925). Пазней – у Брэсце, Чанстахове і інш. Падчас нямецкай акупацыі працавала на кухні. Пазней выступала ў розных польскіх тэатрах.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 581.

**Пушкевіч Адам** // Puszkiewicz Adam (каля 1886–?), слесар. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС (з 1920). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Старшыня

Кола былых палітычных вязняў (Koło byłych więźniów politycznych) (1939). Жыў па вул. Litwinowicza, 9.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Там жа Ф. 114. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 20; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str. 49.

**Пушкевіч Рышард** // Puszkiewicz Ryszard (каля 1909–?), лекар па ўнутраных захворваннях. Радны Гродзенскай гарадской Рады (1930). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Ogrodowa, 9.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 55 зв.-56; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 20.

**Пушко Баляслаў** // Puszko Bolesław (1.6.1899, Лынтупы–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Караль і Эмілія Ародзь. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1927). Стажор пры акруговых судах у Вільні і Гродна (1927). Здаў экзамен на суддзю. Судовы асэсар. Намеснік гродскага суддзі ў Гродна (з 14.12.1929). Суддзя гродскага суда ў Домачаве (1930); суддзя павятовага суда ў Зэльве (з 28.2.1930); суддзя акруговага суда ў Гродна (з 22.5.1931).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2444.

**Пшыбыльскі Леон** // Przybylski Leon, інструктар па сельскай гаспадарцы. Адказны рэдактар і выдавец газеты «Gospodarz Grodzieński» (1931–1932).

**Пшыбыльскі Станіслаў** // Przybylski Stanisław, вайсковец. Капітан. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Zw. Strzelecki) (1933); павятовага праўлення ЛОПП (Liga obrony powietrznej i przeciwgazowej); Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.5.1933. № 120. Str. 4.

**Пшыбыльскі Эдвард** // Przybylski Edward, пракурор Гродзенскага акруговага суда. Пазней – пракурор у Вільні і Быдгошчы.

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 9.1.1933. № 8. Str. 3.

**Пякарскі Вацлаў** // Piekarski Wacław (5.6.1893, Пііцы–14.2.1979, Крэтэіл), вайсковец, брыгадны генерал. Пасля гімназіі вывучаў філасофію і грамадскія навукі ва ўніверсітэце ў Жэневе. Удзельнік польскага руху за незалежнасць – сябра стралецкіх дружын, Саюза стральцоў (Drużyn Strzeleckich i Związku Strzeleckiego). Падчас Першай сусветнай вайны служыў у расійскім войску; скончыў афіцэрскую школу. Ваяваў у складзе экспедыцыйнага корпуса ў Грэцыі. Пасля – у арміі Галера (з 1917). Служыў у 43-м стралковым палку (1919–1921). Удзельнічаў у польска-ўкраінскай, польска-савецкай войнах. Намеснік каменданта ў школе пяхоты ў Рэмбертове (1921–1922). Вучыўся ў Вышэйшай вайсковай школе ў Парыжы (École Supérieure de Guerre) (1922–1924); быў афіцэрам 36-га пяхотнага палка. Служыў у II-м аддзеле Генеральнага штаба (з 1925); Генеральным інспектараце вайсковых сіл (з 1926). Камандаваў 54-м пяхотным палком у Тарнопалі (з 1927); 4-й брыгадай КАП (Брыгада КАП «Падоле») (з 1931); 11 пях. дывізіяй ў Станіслававa (з 1935). Камандуючы 29-й пяхотнай дывізіяй, якая стацыянавала ў Гродна (1936–1938). Выконваў абавязкі старшыні камітэта па ўшанаванні памяці караля Стэфана Баторыя (Komitetu Uczczenia Króla Stefana Batorego) (1938). Газета «Dziennik Kresowy» пісала: «Новы старшыня паказаў сябе на нашым абшары як надзвычай актыўны і самаадданы дзеяч». Старшыня камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów). Кіраўнік Дэпартамента пя-



хоты пры Міністэрстве вайсковых спраў (Departamentu Piechoty Ministerstwa Spraw Wojskowych w Warszawie) (1938–1939). Удзельнічаў у Другой сусветнай вайне. Трапіў у нямецкі палон (1939). Быў зняволены ў канцлагерах Афлаг 8-Е Еханісбрун і Афлаг 7-А Мурнаў. Пасля вайны эміграваў у Францыю. Быў дырэктарам польскага дома састарэлых у Лаілі-эн-Вал (Domu Spokojnej Starości Polskiego Funduszu Humanitarnego w Lailly-en-Val).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 24.7.1938. № 200; «Dziennik Kresowy». 27.7.1938. № 203; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; http://www.jura-pilica.com/?gen.waclaw-piekarski,371; http://pl.wikipedia.org/wiki/Wacław_Piekarski.

**Пянчальскі Мар'ян** // Pęczalski Marian (11.9.1887, Радом–3.8.1967, Варшава), настаўнік матэматыкі, арганізатар школьніцтва, рэктар Вышэйшай школы інжынераў у Гданьску, намеснік прафесара Варшаўскага політэхнічнага ўніверсітэта. Сын Іпаліта і Ядвігі з Вяжбоўскіх. Вучыўся ў Радоме. Удзельнічаў у патрыятычнай маніфестацыі моладзі (1904), школьнай забастоўцы (1905). Матуру здаў у Кракаве (1905). Вывучаў матэматыку ў Кракаўскім універсітэце (1905–1909). Сябра арганізацыі «Spójnia». Працягваў вучобу ў Швейцарыі, вывучаў матэматыку і фізіку (1909–1910). Працаваў у васьмікласнай жаночай гандлёвай школе ў Радоме (1910–1917), школьным інспектарам у Радоме (1917–1924), інспектарам Упраўлення па наглядзе за навучальнымі і выхаваўчымі ўстановамі Варшаўскай школьнай акругі (1925–1926), дырэктарам настаўніцкай мужчынскай семінарыі імя Канарскага ў Варшаве (1926–1927), дырэктарам мужчынскай гімназіі імя А. Чартарыйскага ў Пулавах (1927–1932). У сувязі з непаразуменнямі з мясцовымі ўладамі адносна пабудовы новага будынку гімназіі быў пераведзены ў Гродна (1.9.1932). Працаваў настаўнікам матэматыкі мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча і вячэрніх курсаў падафіцэраў мясцовага гарнізона. Ганаровы кіраўнік Дзяржаўнай педагагічнай бібліятэкі. Намагаўся зацікавіць вучняў сваім прадметам. За кульгавую нагу атрымаў мянушку Хефайстас, але яна не насіла, хутчэй за ўсё, абразлівага характару. З усталяваннем савецкай улады выкладаў фізіку і матэматыку ў сярэдняй школе № 9 (з 9.1.1940), Вышэйшым педагагічным інстытуце і курсах для афіцэраў Чырвонай Арміі. Скончыў курсы беларускай і рускай моў (1939, 1940). Падчас нямецкай акупацыі заставаўся у в. Ізабелін, дзе працаваў сельскагаспадарчым рабочым. Пасля ўсталявання савецкай улады быў рэпатрыяваны ў Беласток (7.1944). Працаваў інспектарам сярэдніх школ. Пасля – кіраўнік аддзела сярэдніх школ Упраўлення па нглядзе за навучальнымі і выхаваўчымі ўстановамі Гданьскага ваяводства (1945–1948). Выкладаў вышэйшую матэматыку на аддзяленні архітэктуры Гданьскага політэхнічнага ўніверсітэта (1945–1951) і аддзяленні сельскагаспадарчай інжынерыі (1946–1948). Рэктар і арганізатар Вышэйшай школы інжынераў у Гданьску (1948–1951).

Пазней пераехаў у Варшаву (з 1951). Працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Вышэйшай педагагічнай школе (1951–1952), Варшаўскім універсітэце (1953), тэхнікуме механізацыі (1951–1967), Варшаўскім політэхнічным універсітэце (з 1954). Аўтар шматлікіх навуковых артыкулаў. Быў двойчы жанаты. Меў трох дзяцей ад першага шлюбу.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 88. Арк. 50; Там жа Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 65– 65 зв.; Polski słownik biograficzny. Tom XXV. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1980. Str. 720-721; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // «Słowo Ojczyste». 2008. № 6. Str. 9-10.

**Пяркові́ч Эдвард** // Perkowicz Edward (27.10.1886, Беразоўцы, Курская губ.–2.9.1964, Курытыбе, Бразілія), вайсковец, генерал брыгады. Польскі грамадска-палітычны дзеяч. Вучыўся ў Белай Царкве, Львове. Прымаў удзел у школьнай забастоўцы, за што быў выключаны з гімназіі з «воўчым білетам» (1905). Эміграваў у Аўстрыю. Быў арыштаваны падчас перапраўкі нелегальнай літаратуры і зняволены (1907–1908). Пасля вызвалення прымаў удзел у арганізацыы т.зв. Польскіх дамоў (Domów Polskich) у Расіі; працаваў настаўнікам у тайных польскіх школах у Кіеве і Адэсе. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Скончыў курсы ад'ютантаў у Мікалаеўскай школе пяхоты ў Кіеве (1915). Сябра Саюза палякаў-вайскоўцаў; служыў у 1-м польскім корпусе (1918). Адзначыўся падчас маршу з Ельні ў Бабруйск. Адзін з найлепшых партызан. Служыў у штабе Літоўска-Беларускай дывізіі; штабе Краёвай абароны Сярэдняй Літвы. Працаваў у гістарычным бюро Генеральнага штаба (1923–1927). Камандаваў 2-ім батальёнам 81-га пяхотнага палка (31.10.1927–3.1932). Выбраны ў Сейм ад спіса беспартыйнага блока па Гродзенскай акрузе (11.1930). Пасля адмовіўся ад месца (1931). Камандуючы батальёнам КАП у Друскеніках. Кіраўнік штаба ДОК III (3.1932–2.6.1934). Пасля зноў вярнуўся да абавязкаў кіраўніка Вайсковага гістарычнага бюро (з 1.4.1935). Быў аўтарам некалькіх кніг на тэму вайсковай гісторыі. Старшыня праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (Oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1938). Пазней кіраваў гродзенскай паўбрыгадай Нацыянальнай абароны і паўбрыгадай «Дзісна». Інтэрнаваны ў Латвіі (1939), пасля – у СССР. Служыў у арміі Андэрса на Блізкім Усходзе, у Італіі. Пасля вайны – у Аргентыне. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «W D.O.K. szefem sztabu był Perkowicz w Grodnie, Poseł Ziemi Grodzieńskiej w wojskowym mundurze, Tej Ziemi propagator, bo ją kochał godnie, Ten dyrektor w wojskowym historycznym biurze».

*Літ.:* «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 18.10.1930. № 287. Str. 1; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 35; Posłowie i senatorowie Rzeczypospolitej Polskiej 1919-1939. Tom IV. Warszawa, 2009. Str. 343; Polski słownik biograficzny. Tom XXV. Wrocław-Warszawa-Kraków, 1980. Str. 720-721; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59. Wileński słownik biograficzny. T. I. Bydgoszcz, 2008. S. 374.

**Пяруцкі Пётр** // Perucki Piotr, настаўнік гісторыі ў гандлёвай школе ў Гродна. Рэферэнт па справах адукацыі ДОК III. Старшыня і галоўны арганізатар трупы вайсковага тэатра.

*Літ.:* Reduta». 25.1.26. № 1. Str. 13; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV – XX ст. Гродна, 2013. Ст. 337.

**Пясецкі Анатоль** // Piasecki Anatol (каля 1894–?), адвакат, служачы. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Krasińskiego, 8.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20.

**Пясецкі Антоні** // Piasecki Antoni, футбаліст, варатар лодзінскай футбольнай каманды »LKS». Сябра футбольнай зборнай Польшчы. Праходзіў вай-

скоўую службу ў 76-м пяхотным палку ў Гродна. Выступаў за каманду WKS «Grodno» (1936).

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 22.

**Пяткевіч Ганна** // Pietkiewicz Anna (1891–?), настаўніца спеваў. Скончыла гімназію, кансерваторыю. Падчас бежанства – настаўніца спеваў у музычным вучылішчы ў Маскве. Пазней пераехала ў Тыфліс. Пасля вяртання ў Гродна працавала ў розных установах асветы горада: жаночай гімназіі імя Э. Плятэр (1925–1929), мужчынскай гімназіі імя А. Міцкевіча (1925; 1927–1928), прыватнай гімназіі імя Г. Сянкевіча (1925–1927); гандлёвай школе (1936–1940), швейнай школе (1936–1940), настаўніцай рускай мовы і спеваў у рускамоўнай сярэдняй школе № 11 (1.1.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 88. Арк. 1; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 23-23 зв.

**Пяткевіч Ян Густаў** // Pietkiewicz Jan Gustaw (3.1.1877, Вільня –27.1.1930), суддзя, адвакат. Каталік, паляк. Бацькі – Уладыслаў і Марыя Капцеўская. Скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1909). Памочнік прысяжнага адваката Ц.Абрамовіча ў Пецярбургу (1910–1912); следчы суддзя ў вайсковым флоцкім судзе ў Севастопалі (1912–1914); вайсковы падпракурор (1916–1918); камандуючы Ігорскай батарэяй польскіх легіёнаў асобнай брыгады на Каўказе (1918); пракурор вайсковага суда пры 4-й дывізіі польскіх стральцоў ген. Л. Жалігоўскага (1919). Следчы суддзя пры вайсковым акруговым судзе ў Кракаве (1919–1920). Удзельнік польска-савецкай вайны. Камандуючы дывізіёнам 29-га артпалка; пасля – маёр запасу. Суддзя вайсковага суда (1920) і следчы суддзя акруговага суда (31.12.1921–3.1923) у Гродна. Сябра назіральнай рады Кааператыўнага банка ў Гродна (1923). Меў шэраг узнагарод. Быў жанаты з Ганнай Інгелай-Інгялевіч (з 1911). Меў дзяцей: Станіслава (1906), Яніну (1913), Уладыслава (1922). Жыў па вул. Listowskiego, 31 (1925).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2316; «Przegląd kresowy». 28.1.1930. № 12. Str. 4.

**Пяткоўскі** // Pietkowski, гродзенскі віцэ-стараста. Газета «Nadniemeński kurier Polski» абвінаваціла яго ў абмежаванні дзейнасці яўрэйскага тэатра ў Гродна (1925).

*Літ.:* «Nadniemeński kurier Polski». 22.6.1925. № 177. Str. 1.

**Пятроўскі Вацлаў** // Piotrowski Wacław, рэдактар газет «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (1928), «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej» (1929–1930), «Głos Ziemi Grodzieńskiej» (1931).

*Літ.:* Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej. Dodatek do urzędowego wykazu druków. Rocznik III. Warszawa, 1931. Str. 64.

**Пятроўскі Мечыслаў** // Piotrowski Mieczysław (1.5.1912, Беласток–9.5.1977, Варшава), акцёр. Скончыў гімназію ў Беластоку. Здаў у Варшаве акцёрскія экзамены (1936). Выступаў у гродзенскім тэатры (з 1938). Падчас нямецкай акупацыі – у Беластоку. Сябра АК. Пазней – акцёр тэатраў у Беластоку, Варшаве, Лодзі.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 554.

**Пятроўскі Януш** // Piotrowski Janusz, кіраўнік Касы хворых (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 1а. Арк. 35.



**Рабакевіч Зыгмунт** // Robakiewicz Zygmunt (1885–?), гродзенскі стараста. Магчыма, скончыў т.зв. Пражскую гімназію ў Варшаве (1904). Сябра кола гімназістаў у Маскве. Працаваў як публіцыст і журналіст у «Kurzerze Łodzkim», уваходзіў у рэдакцыю часопіса «Strażnica». Сябра ППС – рэвалюцыйнай фракцыі. Арыштоўваўся царскімі і нямецкімі ўладамі (1915–1916) Падчас Першай сусветнай вайны – кіраўнік аддзела забеспячэння ў Лодзі. Пазней працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў Польшчы, быў віцэ-старастам у Лодзі, старастам у Бжэзінах, у Крамянцы (да 12.1927). Стараста Гродзенскага павета (1928–1932). А. Снежка ўзгадвае гісторыю яго знаёмства з дырэктарам гродзенскага музея Ю. Ядкоўскім: «Са старастам Зыгмунтам Рабакевічам Ядкоўскі пазнаёміўся ў 1927 годзе ў Крамянцы на Валыні, падчас падарожжа дзяржаўных кансерватараў па справах інспекцыі. Наведваючы старажытны замак у Віснеўцы, усе былі пад уражаннем ад праведзеных там старастам Рабакевічам прац. Замак, які яшчэ нядаўна стаяў у руінах, быў амаль адбудаваны. Усе дзівіліся з энергіі і энтузіязму старасты. Ядкоўскі вырашыў, як ён гэта звычайна рабіў, выбрацца ў прыватнае падарожжа. У старым замкавым парку сярод кустоў ён знайшоў старыя закінутыя гарматы, якія ляжалі ў беспарадку. Адну з іх ён захацеў мець у сябе ў Гродна, у музеі. Таму ён звярнуўся з просьбай да Рабакевіча, які хутка надаў справе пазітыўны ход. Лёсу было заўгодна, каб неўзабаве пасля гарматы ў Гродна прыбыў і сам Рабакевіч. Гэтым разам у якасці гродзенскага старасты. Пры першай сустрэчы з захавальнікам музея, жартуючы, ён сказаў: «Зараз усе будуць казаць, што я прыехаў на гармаце». Сябра Камітэта адбудовы замка (Kuratorium Zamkowe) (1928), Камітэта па святкаванні стагоддзя паўстання 1830 г., віцэ-старшыня праўлення Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (на 1930). Узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі за падтрымку вайсковай падтрыхтоўкі і фізічнага выхавання (popularyzatorom przysposobienia wojskowego oraz kultury fizycznej i sportu) (7.11.1929). На з’ездзе настаўнікаў стараста Рабакевіч адзначыў (zjazd nauczycieli publicznych): «Нашай культурнай працы перш за ўсе перашкаджаюць бальшавікі, якія працягваюць сваю антыдзяржаўную дзейнасць. Палітычныя сродкі тут не дастатковы. Абараняемся перад патопам і праводзім культурны наступ, арганізуючы сельскагаспадарчыя колы, народныя дамы, пажарную ахову і розныя кааператывы. Намагаюся прывучыць нацыянальныя меншасці думаць па-дзяржаўнаму, не пазбаўляючы іх нацыянальных рысаў...

Таму кожны настаўнік павінен заняцца дзяржаўна-творчай працай і намагацца паглыбіць дзяржаўную свядомасць сярод мясцовага насельніцтва». Пераведзены на пасаду дарадчыка Міністэрства ўнутраных спраў (1932). Надварнянскі (Nadwórniański) стараста (Станіслававоўскае ваяводства) (12.1932–7.1935), Пінскі стараста (з 1935), дарадчык Палескага ваяводскага ўпраўлення, у прыватнай фірме ў Верхняй Сілезіі. Пазней на пенсіі. Быў абвінавачаны ў прысваенні 25 тысяч злотых з Гродзенскага камітэта Касы зберажэнняў (ККО), у тым ліку часткі грошай, якія павінны былі пайсці на адбудову Старога замка ў Гродна, і каля 20 тысяч з грошай на дапамогу пацярпелым ад паводкі ў Надварнянскам павеце. Сам былы стараста тлумачыў, што большая частка сродкаў была выкарыстана на рэпрэзентацыйныя мерапрыемствы (у тым ліку на прыём і ўтрыманне беластоцкага ваяводы Кірста і інш.). А. Снежка пісаў на гэты конт: «Сваё кіраванне ў павеце распачаў з грунтоўнай рэарганізацыі ўсіх падведамных яму пляцовак. У выніку, гэта прывяло да таго, што хутка на мясцовых землях паўстала апазіцыя супраць занадта актыўнага старасты. З аднаго боку, выконваючы на працягу 1927–1932 гг. свае абавязкі, ён паклаў вельмі шмат сіл на развіццё павета. Пабудаваў і ўвёў у карыстанне дванаццаць т.зв. «народных дамоў». Не толькі горад, але і ўвесь павет былі яму шмат за што ўдзячныя. Усе здзіўляліся, адкуль у гэткія цяжкія для гаспадаркі часы ён быў здольны адшукаць грошы на рэалізацыю такіх смелых і адважных крокаў. Пры гэтым усім, быў ён абвінавачаны ў… прысваенні грошай, перабольшванні сваёй улады і нават дзейнасці на шкоду павета». Справа разглядалася ў гродзенскім акруговым судзе, які прыгаварыў яго да года зняволення (1936), і ў судзе ў Станіслававе, дзе яму прысудзілі чатыры гады турмы (1937). Карэспандэнт мясцовай газеты «Nad Niemnem», апісваўючы працэс, адзначаў: «Гродзенскія сведкі не паддаліся модзе закідвання граззю скончанага чалавека. Распавядалі пра былога старасту спакойна, дакладна, прыстойна. Паважаны ксёндз-канонік Курыловіч, апісваючы службовую дзейнасць Рабакевіча, выкарыстаў нават высакамоўныя словы. Не схільны да таго, каб хваліць казнакрадаў, Патла, тым не менш, узгадаў папярэднія заслугі падсуднага перад дзяржаваю». Далей журналіст пісаў: «Абураючыся адносна саміх зробленых учынкаў – учынкаў безумоўна злачынных, – адначасова я разумею, што тыя, хто ўсклаў на яго абавязак прыводзіць у самым шырокім сэнсе «палітычную і грамадскую акцыю», тыя, хто, выконваючы службовыя абавязкі, гасціў на яго шыкоўных вячэрах, яны ж павінны былі разумець, што гэта было немагчыма зрабіць толькі з заробку старасты! Той факт, што сёння яны, быццам страусы, хаваюць галовы ў пясок, што, у лепшым выпадку, яны маўчаць, быццам бы заклятыя, калі падсуднага абвінавачваюць у прысваенні сум, што пайшлі на іх саміх, – усё гэтае надае справе былога старасты прысмак драмы». Пазней апеляцыйны суд пакінуў апошні прысуд без змены, аднак зняў абвінавачванне адносна злоўжывання сродкамі на рамонт гродзенскага Старога замка (1939). Пасля вайны, магчыма, працаваў перакладчыкам у выдавецтве.

*Літ.:* M. Limanowski. W Grodnie kopie Jodkowski // «Słowo». 1937. № 153. Str. 2; «Przegląd Kresowy». 9.4.1930. № 74; «Nowy dziennik Kresowy». 28.11.1930. № 330. Str. 4; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 1.12.1930. № 330. Str.1; «Wieczorny kurier Grodzieński». 26.10.1932. № 147. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 9.1.1933. № 8. Str. 3; «Nad Niemnem». 5.5.1938. № 9. Str. 2; «Głos Grodzieński». 1939. № 30. Str. 4; «Słowo». 1938. № 12-14, 17, 19; «Dziennik kresowy». 4.4.1939. № 94. Str. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 87; Al. Sniezko Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział. Wspomnienie o Józefie Jodkowskim. Białystok, 2000. Str. 39-40.

**Рабчэўскі Ежы** // Rabczewski Jerzy, віцэ-пракурор Гродзенскага акруговага суда (на 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 93. Оп. 1. Спр. 1. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 3.

**Рагалевіч Казімір** // Rogalewicz Kazimierz (9.4.1878, м. Асмолава, Навагрудскага павета–15.12.1934, Ваўкавыск), гродзенскі стараста, прэзідэнт Гродна (1927–1929). Паляк. Каталік. Бацькі – Доўнар і Каміла. Скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1904). Працаваў памочнікам прысяжнага адваката ў Мінскім акруговым судзе (1904–1909), прысяжным адвакатам у акруговым судзе ў Вільні, юрыдычным саветнікам ва Упраўленні Лібава-Роменскай чыгункі (1909–1918), камісарам польскага аддзела рэпатрыяцыі ў Мінску (1918). Працаваў у галоўнай земскай камісіі пры польскім Міністэрстве сельскай гаспадаркі і дзяржаўнай маёмасці (з 2.1919). Гродзенскі стараста (1.11.1919–1926). Ганаровы суддзя Гродзенскага акруговага суда (на 1922). Пераведзены на пасаду кіраўніка аддзела ў ваяводскае ўпраўленне ў Беластоку. У сувязі з мяркуемай яго адстаўкай з пасады гродзенскага старасты, праўленне яўрэйскай абшчыны звярнулася да прэм'ера Ю. Пілсудскага з пісьмовай просьбай пакінуць К. Рагалевіча ў горадзе: «Шаноўны пан Прэм'ер і Маршал. Яўрэйскае грамадства з вялікім смуткам даведалася пра намер урада перавесці нашага любімага Старасту, пана Рагалевіча, на іншую пасаду. І хаця мы моцна верым, што гэты перавод мае на мэце адно толькі карысць Рэчы Паспалітай, з тым каб як найлепш выкарыстаць выдатныя здольнасці і вялікае сэрца любімага п. Рагалевіча ў іншым месцы, смеем, аднак, прасіць цябе, Пане Маршал, прыняць пад увагу інтарэсы нашага горада. Ад самага пачатку прыняцця ўлады над нашым горадам праз Рэч Паспалітую – Польшчу – дзялілі мы з панам Рагалевічам радасць ды нядолю, якія праз гэты час наш Край перажываў. Разам з ім мы ператрывалі бальшавіцкую інвазію, разам дачакаліся шчаслівай мінуты вяртання Улад Польскіх, і падчас усіх гэтых падзей п.Рагалевіч заставаўся на вышыні свайго прызначэння. У сувязі з гэтым мы лічым, што гэты агульны досвед дае нам маральнае права сцвярджаць, што п. Казімір Рагалевіч нашым з'яўляецца і нашым адміністратарам застацца павінен. І якія б там ні былі матывы яго пераводу, нашы пастулаты павінны быць разгледжаны ў першую чаргу». Прэзідэнт Гродна (4.1.1927–1.3.1929). Падчас выбараў сацыялістычная фракцыя ў знак пратэсту супраць кандыдатуры К. Рагалевіча пакінула пасяджэнне. Выступаючы ўжо ў якасці прэзідэнта Гродна, ён зазначыў, што ў дадзены момант не можа прадставіць канкрэтнага плана дзейнасці, бо за кароткі час пасля абрання на гэту пасаду яшчэ не паспеў пазнаёміцца са ўсёй гарадской гаспадаркай. Але агульны накірунак працы яму зразумелы, і ён пастараецца данесці яго Радзе. К. Рагалевіч заўважыў: «Польскі ўрад ускладае вялікія спадзяванні на развіццё самаўрадаў. Іх кампетэнцыі ўвесь час узрастаюць. Першым абавязкам прадстаўніцтва горада павінна з'яўляцца захаванне ідэі самакіравання і верная ёй служба; другім – захаванне павагі і годнасці самакіравання. Панаванне закону і справядлівасці павінна стасавацца і як адносна супрацоўнікаў самаўрада, гарадскога праўлення, так адносна ўсіх грамадзян горада, незалежна ад іх нацыянальнасці, рэлігіі ці партыйнай прыналежнасці. Магістрат існуе для грамадзяніна, а не наадварот, і гэта ісціна павінна стаць галоўнай жыццёвай праўдай. Мэтанакіраванасць і ашчаднасць у выдаткаванні грамадскіх грошай павінна шырока ўжывацца, а планавасць і сістэматычнасць у працы могуць толькі паспрыяць пастаўленым мэтам. Хаця ў Гродна гарадская гаспадарка вядзецца лепш, чым у некаторых іншых гарадах Рэчы Паспалітай, аднак яна павінна быць узята ў пэўныя рамкі, павінна быць сістэматызавана. Варта планаваць працу не толькі на

сённяшні дзень, ці нават на заўтра, але і паглыбляцца значна далей у будучыню, настолькі, што толькі наступныя пакаленні здолеюць ацаніць яе належным чынам. Праўдай з'яўляецца і тое, што гэта праца менш удзячная, яна не дае лёгкіх авансаў, тым не менш, яна з'яўляецца працаю вельмі важнай і неабходнай, якая ў стане забяспечыць развіццё горада ў будучым». У складзе дэлегацыі ад Гродна ездзіў у Кракаў на цырымонію перазахавання праху Ю. Славацкага (1927). Сябра праўлення вяслярнага клуба «Гродна» (1927), Камітэта адбудовы замка (Kuratorium Zamkowe) (1928), старшыня праўлення Гродзенскага павятовага камітэта ЛОПП. Адна з мясцовых газет пазней пісала: «Як гаспадар Гродзенскага павета, К. Рагалевіч заслужыў вялікае прызнанне мясцовага насельніцтва… Вялікі такт і здольнасць да паразумення з людзьмі далі яму магчымасць кіраваць мясцовай гаспадаркай без вялікіх сутыкненняў. Даступны для кожнага, з добрым сэрцам, …ён намагаўся кожнага зразумець, прыходзіў да кожнага з дапамогай…» Праз тры гады пасля сканчэння яго службы гарадская Рада прыняла пастанову выплаціць «адшкадаванні» былому прэзідэнту за нявыкарыстаныя адпачынкі і службовыя выезды за ўласны кошт. Здаў экзамен на натарыуса (1929). Пазней працаваў натарыусам у Скідзелі (1929–1933), Ваўкавыску (з 1933).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 1. B. 91. L. 3, 5; Там жа 127, Ap. 7, B. 252; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2-2 зв.; Там жа Спр. 3. Арк. 45 зв., 58 зв. ; Там жа Спр. 4. Арк. 6, 10-11; Там жа Спр. 6. Арк. 51. Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 36. Арк. 279-279 зв. «Dziennik Grodzieński». 14.3.1922. № 23. Str. 3; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 12.05.1928; «Reduta». 1927. № 9; «Ostatnie wiadomośći grodzieńskie». 17.12.1934. № 349. Str. 6; M. Limanowski. W Grodnie kopie Jodkowski // «Słowo». 1937. № 153. Str. 2; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Радаш Вінцэнт** // Radosz Wincenty (13.2.1899, Гунава–?), рамеснік. Грамадскі дзеяч. Сын Міхала і Марыяны Шоты. Служыў у польскім войску, удзельнік польска-савецкай



вайны. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад фракцыі грамадскагаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939). Старшыня павятовага таварыства рамеснікаў-хрысціян у Гродна (Powiatowe stowarzyszenie rzemieślników chrześcijan w Grodnie) (1938), адзін з арганізатараў і шматгадовы кіраўнік аб'яднання рамеснікаў Беластоцкага ваяводства (Izby rzem. woj. białostockiego) і Рамеснага банка ў Гродна (bank rzemesłniczy w Grodnie). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937), ваяводскай рады рамеснікаў (czł. woj. rady rzem.) і праўлення аб'яднання арганізацый рамеснікаў Гродзенскага павета (czł. zarz. zrzeszenia org. rzem. pow. grodzieńskiego). Друкаваўся на старонках мясцовай прэсы. Жыў па вул. Jerozolimska, 27 (1937); Orlicz-Dreszera, 5 (1938); Rydza-Śmigłego, 13 (1938).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Czyn młodych». 1938. № 8. Str. 3; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 252.

**Радзеваноўскі //** Rodzewanowski, інжынер. Дырэктар сярэдняй гандлёвай школы Польскай Мацежы Школьнай (на 1925–1926).

*Літ.:* Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 336.

**Радзевіч Леанард** // Rodziewicz Leonard (каля 1901 – ?), адвакат. Сябра таварыства афіцэраў запасу (związek oficerów rezerwy w Grodnie) (1939). Кандыдат на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Witoldowa, 24.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Dziennik kresowy». 31.3.1939. № 90. Str. 4.

**Радзіеўскі Юзаф** // Radzijewski Józef, камісар Гродзенскай павятовай паліцыі (1924).

*Літ.:* A. Misiuk. Policja państwowa w województwie białostockim w latach 1919-1926 // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str. 28.

**Ражкоўскі Сяргей** // Rożkowski Sergiusz, рабочы на тытунёвай фабрыцы ў Гродна. Сакратар праўлення Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства (1925). Быў арыштаваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да КПЗБ, аднак хутка вызвалены (1926). Падчас арышту С. Ражкоўскі, паводле газеты «Беларуская ніва», быў катаваны следчымі польскай паліцыі.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 195.

**Разоўскі Давід-Міхаіл** // Rozowski David (Dodik) (1870–1935), яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Падравін (па іншых звестках – рабін) (з 1905). Намеснік рабіна Гродна (на 1931). Магчыма, памёр перад Другой сусветнай вайной. Паводле ж кнігі «Памяць», равін М. Разоўскі быў расстраляны немцамі ў пачатку вайны. Магчыма, жыў па вул. Zamkowa, 10.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 79. Арк. 14. В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи Гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 124; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Разенберг Арон-Вігдэр** // Rozenberg Aron-Wigder (каля 1904–?), рабін. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Mostowa, 13.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 18.

**Разенблюм Люцыян** // Rozenblum Łucjan, землеўладальнік з Макараўцаў. Яго бацька, Аляксандр Разенблюм, набыў маёнтак у Ціманава (1880), які, у сваю чаргу, раней належаў Панцяржынскаму. Верагодна, дзеля гэтага Разенблюм-старэйшы нават змяніў падданства, стаўшы грамадзянінам Аўстра-Венгрыі. Пазней Л. Разенблюм быў вымушаны выступіць з афіцыйным пратэстам, абвяргаючы звесткі, быццам маёнтак дастаўся яго сям'і пасля падзелу ўладанняў былых паўстанцаў 1863 г. (1922). У гэтым яго падтрымаў старшыня рады Гродзенскага сельскагаспадарчага таварыства М.О'Брыен дэ Ласі. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Rozenblum miał majątek w grodzieńskim powiecie, Był to polski ośrodek, choć obcy panowie, I szkółka tam istniała, lecz w wielkim sekrecie, Stary siedział wśród gości i wołał: na zdrowie!».

*Літ.:* «Nowe życie». 1922. № 26. Str. 208; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 50.

**Райс Клеменціна** // Rayss Klementa, настаўніца польскай мовы і літаратуры ў мужчынскай настаўніцкай семінарыі (да 1936). Кіраўнік літаратурнага кола. Памерла ў Свідніцы (у Сілезіі).

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 87, 92-93.

**Ракавіцкі Гірш** // Rakowicki Hirsz, касір. Сябра (магчыма, працаўнік) праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны (канец 1920). Жыў па вул. Krzywa, 9 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 54. Арк. 58.

**Раманаў Мікалай** // Romanow Mikołaj (6.4.1863–1927), інжынер, губернскі, пазней гарадскі архітэктар. Скончыў Пецярбургскі інстытут грамадзянскіх інжынераў (1887).

Працаваў пры будаўнічым аддзяленні Гродзенскага губернскага праўлення. Гродзенскі губернскі архітэктар (1893). Часова выконваючы абавязкі гродзенскага губернскага інжынера (1892). Інжынер па дарожнай частцы пры Гродзенскім губернскім распарадчым камітэце (1900). Сябра дабрачыннага таварыства, Сафійскага брацтва. У гады Першай сусветнай вайны – на Паўночным фронце. Пасля вяртання ў Гродна, хутчэй за ўсе, працаваў гарадскім архітэктарам. Распрацаваў праект агароджы для моста праз р. Гараднічанку (1925), кіраваў будаўніцтвам школы № 8 на Фарштаце (1925). Гродзенскі магістрат пахаваў яго за свій кошт. Пазней гарадская Рада пастанавіла выплачваць яго ўдаве па 100 злотых штомесячнай дапамогі. Жыў па вул. Policyjnaj.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 90; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 86 зв.; «Nadniemeński kurier Polski». 21.8.1925. № 230. Str. 1. В. Черепица Гродненский православный некрополь. Гродно, 2001. Стр. 92, 178-180.

**Раманоўскі Эдвард** // Romanowski Edward (1897, Гродна – 1939 (?)), афіцэр польскай арміі. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Віцэ-старшыня Таварыства афіцэраў запасу (związek oficerów rezerwy w Grodnie) (1939). Удзельнік абароны Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). У нататках П. Лідава «Взятие Гродно» з газеты «Свабодная Беларусь» пра яго захаваліся наступныя радкі: «Одним из деятельных организаторов этих добровольческих отрядов был член ОЗН капитан запаса польской армии Эдвард Романовский. Бывший служака царской армии, в 1920 году он вступил в легион Пилсудского и сражался против Советской России. За это он получил осаду, но не пожелав стать землевладельцем, продал её за 60 тысяч злотых и поступил на службу в гродненское казначейство. В начале польско-германской войны Романовский был назначен комендантом Гродно по противовоздушной обороне. Когда же советские войска перешли границу, он стал во главе погромщиков и бахвалился, что зальёт улицы еврейской и большевистской кровью...» Арыштаваны органамі НКУС (10.1939). Знаходзіўся ў гродзенскай турме, пасля чаго звесткі аб ім адсутнічаюць.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 21; «Dziennik kresowy». 31.3.1939. № 90. Str. 4. П. Лидов Взятие Гродно // «Свабодная Беларусь». 1940. № 77. Стр. 3; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Ранчашак Антоні** // Rączaszek Antoni (14.12. 1898 Чэладзь (Czeladź) – 11.3.1957, Варшава), камісар і прэзідэнт Гродна (Komisarz i Prezydent miasta Grodna) (1929–1930). Паходзіў з сялянскай сям'і (syn właściciela gospodarstwa rolnego). Сын Юзафа Ранчашэка і Вікторыі з Мадлув (Madłów). Скончыў гандлёвую школу ў Бендзіне (Szkołę Handlową w Będzinie) (1916). Вучыўся на юрыдычным факультэце ў Кракаўскім універістэце (1919), удзельнічаў добраахвотнікам у польска-савецкай вайне (1920). Скончыў факультэт сельскай і лясной гаспадаркі Познаньскага ўніверсітэта (Wydziale Rolniczo-Leśnym Uniwersytetu Poznańskiego) (1923). Старшыня Хрысціянскага студэнцкага саюза Познаньскага універсітэта (prezes Chrześcijańskiego Związku Akademików na Uniwersytecie Poznańskim). Вывучаў французскую, нямецкую і рускую мовы. Бурмістр Чэладзі (Burmistrz Czeladzi) (1924–1927); кіраўнік аддзела працы і грамадскай апекі Палескага ваяводства (Kierownik Wydziału Pracy i Opieki Społecznej Województwa Poleskiego) (1927–1929). Распараджэннем беластоцкага ваяводы ў сувязі з адсутнасцю абранага кандыдата быў прызначаны прэзідэнтам Гродна да 31 жніўня 1930 г. (26.8.1929). Дзякуючы прапанове прэзідэнта Гродна А. Ранчашэка, магістрат далучыўся да сяброў Камітэта нацыянальнага флоту і збіраўся ўнесці сяброўскі ўзнос



у памеры 120 злотых. Палемізуючы з прадстаўнікамі сацыялістычнай фракцыі наконт субсідыі на прытулкі, адзначыў, што «ў цывілізаваным грамадстве камунальныя заканадаўчыя інстытуцыі павінны лічыцца з пэўнымі існуючымі аўтарытэтамі і прынятымі нормамі паводзін». Іншым разам, адказваючы на абвінавачванні сацыялістаў адносна выкарыстання для службовых паездак у Беласток таксі, адказаў, што «выдаткі на праезд аўтамабілем, пры значна меншым часе падарожжа, не перавышаюць выдаткаў на цягнік разам з камандзіровачнымі». Старшыня рэдакцыйнага камітэта гістарычнай бібліятэкі г. Гродна (1929). Ужо пасля таго, як ён сышоў са сваёй пасады, гарадская Рада большасцю галасоў прыняла пастанову зменшыць былому прэзідэнту горада яго выплаты за «абсалютную непрыдатнасць у кіраванні мясцовай гаспадаркай і нядольнасць арганізаваць абвешчаныя ім самім змены». Адна з мясцовых газет прысвяціла яму вершык: «Oto wasz tato, oto ojciec miasta Z łaskawej dan nominacji, Ileż wykwintu w jego nonszalancji Z jaką w obłokach się szasta O dumni możem być z takiego taty, Imię dziś jego rozgłośne, Ochrzczono w Wilnie go poetą pracy Od Wilji aż po... Łosośnę». Пазней – самаўрадавы інспектар Беластоцкага ваяводскага ўпраўлення (Wojewódzki Inspektor Samorządowy w Urzędzie Wojewódzkim Białostockim) (1930–1935). Старшыня гуртка любіцеляў гісторыі, літаратуры і мастацтва ў Беластоку (prezes Koła Miłośników Historii, Literatury i Sztuki w Białymstoku). Прэзідэнт Тамашова-Мазавецкага (Prezydent miasta Tomaszowa Mazowieckiego) (1935–1939). Адзін з арганізатараў Таварыства сяброў навукі, літаратуры і мастацтва ў Тамашове-Мазавецкім (Towarzystwo Przyjaciół Nauki, Literatury i Sztuki w Tomaszowie), сябра ваяводскай рады ББСУ і АЗОНа ў Тамашове-Мазавецкім. Падчас Другой сусветнай вайны быў зняволены гестапа ў Пётркаве-Трыбунальскім (Piotrkowie Trybunalskim). Пасля вызвалення выехаў у Чэладзі (Czeladzi), дзе трымаў уласную гаспадарку. Пасля вайны – дырэктар і саўладальнік фірмы «Celofan W. Rączaszek i S-ka» (1945–1949); працаваў у Варшаўскам бюро праектаў (pracownik Biura Projektów Zjednoczenia Miejskiego Warszawa-Północ) (1956–1957). Старшыня кола Саюза сялянскай самадапамогі (prezes Koła Związku Samopomocy Chłopskiej) (1945–1948), з'яўляўся старшынёй камітэта па адбудове сталіцы (Komitet Odbudowy Stolicy), заходняга прафсаюза (Związek Zachodni), сябрам пажарнай аховы (Ochotniczej Straży Pożarnej) у Чэладзі (Czeladzi). Жанаты з Чаславай Нямыскай (Czesława Niemyska (1905–1974)), пісьменніцай, культурнай дзяячкай. Меў дзяцей – дачку Марыю (1931–1992) і сына Крыштафа (1938–1966). Л. Саванеўскі прысвяціў некалькі радкоў сваёй паэмы жонцы гродзенскага прэзідэнта: «W «Przeglądzie Kulturalnym» czynna jest grodnianka, Żona Pana Rączaszka, prezydenta miasta, Już w Grodnie zasłynęła zdolna ta pisarka, Teraz w centrum kultury wiecznym piórem szasta». Жыў па вул. Orzeszkowej, 20.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 . Спр. 6. Арк. 117-117 зв., 123 зв.; Там жа Спр. 18. Арк. 25-26, 35 зв.; Там жа Спр. 19. Арк. 25 зв., 26 зв., «Przegląd kresowy». 15.2.1930. № 29. Str. 4. «Postęp». 6.9.1930. № 1/11. Str. 3; Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 615; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 66; R. Kotewicz. Rączaszek Antoni // Tomaszowski Słownik Biograficzny. T. 2 (1997). Str. 17-19. http://pl.wikipedia.org/wiki/Antoni_Rączaszek

**Рас'янскі Аўсей** // Rosjanski Ausej (1891–?), друкар. Сябра Бунда. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага саюза рабочых Бунд (Ogólnożydowski związek robotników Bund) (1927). Сябра праўлення Гродзенскай яўрэйскай рэлігійнай абшчыны замест Е. Баровіка (6-9.1929). Жыў па вул. Klasztorna, 2 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 1, 2. «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Ратай Ян** // Rataj Jan (20.12.1889, Уйсце Сольна, Кракаўскае ваяв.– 31.10.1959, Бохня), вайсковы, адвакат, суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Павел і Кацярына Маршыцка. Скончыў філалагічную гімназію (1912) і юрыдычны факультэт Кракаўскага ўніверсітэта. Доктар права (1923). Сябра Саюза стральцоў у Кракаве (з 1911). Служыў у войску (з 6.8.1914). Быў у польскім корпусе, ПАВ у Роўна, інструктар ПАВ на Украіне (1918–1919), 33-м палку пяхоты (1919), камандуючы разведвальных органаў (экспазітуры) польскай арміі ў Гродна, Браслаўлі, Вільні, пры Галоўным камандаванні (1919–1920), намеснік камандуючага 2-ім дывізіёнам вайсковай жандармеры ў Любліне (1920–1922). Пазней служыў у 81-м пяхотным палку (1927), 29-й пяхотнай дывізіі (1927–1929) і пры камандаванні ДОК III (1929) у Гродна. Выйшаў у адстаўку ў званні маёра. Стажор Гродзенскага акруговага суда (1929–1930). Здаў экзамен на суддзю (1930). Юрыст-дарадчык Гродзенскага павятовага аддзела. Грамадска-палітычны дзеяч. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Віцэ-старшыня Гродзенскай рады павятовага праўлення АЗОНа (1938–1939). Сенатар (1938–1939). Мабілізаваны ў войска (1939). Трапіў у савецкі палон. Пасля – у арміі Андэрса. Жыў у Англіі (1945–1957). Пазней вярнуўся да сястры ў Польшчу. З эпітафіі на магіле: «Adwokat i obyw. M. Grodna Wierny Ci Ojczyzno w każdej potrzebie budowniczy w czasie pokoju i żołnierz w czasie wojny...» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Pamiętasz ty Rataja, co miał stryja w Sejmie, Który grzmocił buławą głośno marszałkową, A może ten adwokat i Ciebie uprzejmie Bronił wtedy, gdy wisiał grom nad twoją głową?» Жонка – Яніна Клікс. Меў дачку. У Гродна жыў па вул. Dworska, 7.

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7, B. 2486; ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 1а. Арк. 35, Там жа Спр. 2. Арк. 7-7зв.; «Dziennik Kresowy». 25.9.1938. № 250; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 86; Senatorowie: losy wojenne i powojenne. Warszawa, 2012. Str. 284-285.

**Ратшэнберг Табіян** // Rotszenberg Tobjan (1906–?), настаўнік. Скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Львоўскага ўніверсітэта, праслухаў настаўніцкія курсы (1940). Працаваў настаўнікам гісторыі ў варшаўскай гімназіі «Хінух» (1936–1937), гімназіі «Тарбут» у Гродна (1937–1940), у рускамоўнай сярэдняй школе № 7 (1940). Сакратар яўрэйскай спартыўнай арганізацыі «Makkabi» (на 1921).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127, Воп. 2, Спр. 1 н, Арк. 39-39 зв.; «Echo grodzieńskie». 12.8.1921. № 179. Str. 4.

**Рашкоўская Алена** // Roszkowska Helena (9.5.1908, м. Стэфанава– 14.2.1977, Гдыня), фармацэўт. Скончыла медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта (1934). Магістр фармацэўтыкі. Працавала ў гродзенскай фарнай аптэцы. Арыштавана органамі НКУС і выслана ў Казахстан (1940). Пасля вызвалення пераехала ў Польшчу (1953). Працавала ў аптэцы ў Сопаце. Жонка С. Рашкоўскага. Жыла па вул. Orzeszkowej, 35.

*Літ.:* F. Ignatowicz. Ofiara stalinowskich represji // «Magazyn polsk». 2003. № 3. Str. 44-45.

**Рашкоўскі Станіслаў** // Roszkowski Stanisław (каля 1894, Лапы–?), чыгуначнік (па іншых звестках – касір на прадпрыемстве). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Сакратар Гродзенскага акруговага камітэта ППС і кіраўнік акруговай рады класавых прафсаюзаў (канец 1930-х). Старшыня рады прафсаюзаў Гродзенскай акругі (Rada związków zawodowych). Кандыдат у гарадскую Раду ад класавых прафсаюзаў (Klasowych Związków zawodowych) (1927). Радны Гродзенскай гарадской рады ад ППС і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Прыгавораны акруговым судом да трох месяцаў арышту за «знеслаўленне» інспектара працы М. Манкелевіча (1939). Арыштаваны органамі НКУС (11.10.1939). Быў прыгавораны да васьмі год зняволення (1941). Далейшы лёс невядомы. Жыў па вул. Orzeszkowej, 35.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 22; «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; «Głos Grodzieński». 1939. № 7. Str. 4; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str. 47; F. Ignatowicz Ofiara stalinowskich represji //Magazyn polski. 2003. № 3. Str. 44-45.

**Розен Альфонс** // Rozen Alfons, гродзенскі стараста (на восень 1920).

*Літ.:* «Echo grodzieńskie». 7.10.1920. № 8.

**Ройшык Эдвард** // Rojszyk Edward (3.11.1888–1940), правізар. Магчыма, паходзіў з Гродна. Сын Казіміра, агародніка, гандляра гароднінай, і Эвы з Глебавічаў. Вучыўся ў гімназіі ў Гродна, адкуль быў выключаны за ўдзел у патрыятычных маніфестацыях. Удзельнічаў у польскім самадзейным тэатры. Адначасова працаваў у аптэцы Кшыўца ў Гродна і вучыўся на медыцінскім аддзяленні Варшаўскага (часова – Кіеўскага) універсітэта. Атрымаў дыплом правізара фармацэўтыкі (1929). Працаваў у Гродна, дзе, сярод іншага, выкладаў у мясцовай школе (да 1920). Арэндаваў аптэку ў Сапоцкіне (1920–1925). Пазней пераехаў у Влацлавэк. Арыштаваны немцамі (1940); трапіў у лагер Дахау, адкуль у Матхаўзен, дзе памёр.

*Літ.:* J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 355.

**Роман Мечыслаў** // Roman Mieczysław (1.1.1900, Кракаў–26.11.1969, Закапанэ), артыст. Служыў у Польскіх легіёнах (1914). Скончыў драматычную школу ў Кракаве. Выступаў у кракаўскім Teatrze Powszechnym (1918–1919), гарадскім тэатры ў Львове (1919–1920; 1921–1922), польскім тэатры ў Познані (1920–1921). Акцёр гродзенскага тэатра (1923–1924; 1926–1933). Быў выключаны са складу Саюза польскіх тэатральных акцёраў (ZASP) за тое, што не плаціў узносы (1934). Тым не менш, верагодна, працягваў выступаць у выязных трупах. Пазней служыў у войску. Працаваў чыноўнікам.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 599.

**Рослан Баляслаў** // Rosłan Bolesław (4.8.1882–1.11.1952, Позань), акцёр, рэжысёр. Муж актрысы М. Быстшынскай. Скончыў гімназію ў Варшаве. Вучыўся ў гандлёвай акадэміі ў Лейпцыгу, праходзіў практыку ў Гданьску. Тады ж упершыню дэбютаваў на сцэне (1911). Выступаў у Малым тэатры ў Варшаве (1916–1918), тэатры Сташыца (1918–1919), у тэатрах Быдгашча, Лодзі, Кракава і інш. Артыст гродзенскага тэатра (1930–1931). Падчас Другой сусветнай вайны жыў у вёсцы; быў арыштаваны гестапа і зняволены ў Пултуску. Пасля вайны выступаў у Быдгашчы, Кракаве, Катавіцах. Акцёр польскага тэатра ў Познані (1949–1952).

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765 – 1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 601.

**Рубан Філіп** // Ruban Filip (1893, с. Паплаво Навагрудскага павета–1954), протадыякан. Служыў псаломшчыкам у в. Язвінкі Пінскага павета (з 1913). Мабілізаваны ў войска (1915). Служыў у 208-м Ларыйскім палку. Быў паранены. Пазней вытрымаў экзамен на званне дыякана (1924). Служыў у Пру-

жанах, Пінску. Протадыякан Свята-Пакроўскага сабора ў Гродна (1934–1944). Асуджаны савецкімі ўладамі на дзесяць гадоў лагераў (1945).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 94; А. Горны. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі XX стагоддзе. Гродна, 2014. Ст. 66.

**Рубанава-Мінгіновіч Вольга** // Rubanowa-Minginowicz Olga (14.1.1896–?), беларуская настаўніца, пазней – хатняя гаспадыня. Загадчык канцылярыі Гродзенскага БНК (1920). Сябра Гродзенскай грамады беларускай моладзі, самадзейная актрыса. Выкладала спевы ў беларускай гімназіі ў Гродна (1921). Жыла па вул. Grandzicka, 35.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 202-203.

**Рубашава Хала** // Rubaszewa (Rubaszówna) Hala, настаўніца. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Яўрэйскага краязнаўчага таварыства (Żydowskie towarzystwo krajoznawcze). Жыла па вул. Kalucińska, 4 (1937).

*Літ.:* «Wiadomości Ż.T.K». 1935. № 1. Str. 10.

**Рубін (Рубіноўна) Міна** // Rubin (Rubinówna) Mina (каля 1882–?), дырэктар прыватнай гімназіі. Скончыла міністэрскія курсы ў Беластоку, два семестры медыцынскага факультэта, настаўцкія курсы пры яўрэйскай абшчыне. Адчыніла ў Гродна прагімназію «Bet Sejfer Cijoni» па вул. Brygidzka, 1 (1917).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Рубін Моўша** // Rubin Mowsza (каля 1903–?), настаўнік. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса беспартыйнага яўрэйскага блока (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Mostowa, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.

**Рубінзон (Рабінзон) Арон** // Rubinzon Aharon (каля 1859–?), яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Рабін на Слабодцы (так называўся адзін з гродзенскіх раёнаў) (1926). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927). Выступіў падчас мітынгу-пратэсту супраць праследавання яўрэяў у Нямеччыне (1933).

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 29.3.1933. № 87. Str. 4; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125.

**Рубінзон (Рабінзон) Абрам-Борух**// Rubinzon Abram-Boruch (каля 1904– ?), настаўнік, пазней – служачы. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса беспартыйнага яўрэйскага блока (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Listowskiego, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15 зв.

**Рубінраўт Юзаф** // Rubinraut Józef (каля 1888–?), настаўнік. Працаваў у першай гуманістычнай коэдукацыйнай гімназіі. Кіраўнік 3-га раёна дзяржапаліцыі ў Гродна (на 1.1920). Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1919–1927; 1927–1930). Старшыня камісіі па справах цэн на тавары першай неабходнасці (1925). Лаўнік гродзенскага магістрата, кіраўнік адміністрацыйна-статыстычнага аддзела (на 1924–1926). Сябра праўлення Яўрэйскага народнага банка (1926). Быў абраны ў Касу хворых (1926). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ад гаспадарчай фракцыі (на 1931).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 2. Спр. 24. Арк. 69; Там жа Ф. 56, Воп. 1, Спр. 79, Арк. 19; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodna, 1925. Str. 10; Т. Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Рубінштэйн Мойша** // Rubinstein Moshe, рэдактар газеты «Grodner Shtimme». Яго справа разглядалася ў судзе. Быў абраны ў Касу хворых (1926).

*Літ.:* «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Przegląd Kresowy». 21.1.1930. № 7.

**Рубінштэйн Арон** // Rubinsztejn Aron, сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1928–1930).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20.

**Рубінштэйн Меер** // Rubinsztejn Mejer (каля 1893–?), абутнік. Выбраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927–1930).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Рубчак Тадэвуш** // Rubczak Tadeusz (1906, Чарткоў–?), настаўнік. Скончыў Львоўскі ўніверсітэт. Нейкі Рубчак з'яўляўся віцэ-дырэктарам Польскага банка ў Гродна (на 1937). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гаспадарчым аддзеле пры гарадскім упраўленні. Настаўнік школы № 2 (1944). Жыў па вул. Orzeszkowej, 41.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37, 75; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 5.

**Рудзінскі Міхал Генрых** // Rudziński Michał Henryk (29.9.1887, Гродна–?), наборшчык у друкарні. Грамадска-палітычны дзеяч. Сын Нікадзіма і Браніславы Функ. Меў хатнюю адукацыю. Сябра ППС у Гродна (з 1904), уваходзіў у яе баявую арганізацыю. Удзельнічаў у акцыях па экспрапрыяцыі ў Ласосна (1905). Заснавальнік і рэдактар газет «Grodzieńskiego kuriera codziennego» (з 1934), «Nowy Grodzieński Kurier Codzienny 5 gr.» (1937). Неаднаразова абвінавачваўся ў знявазе грамадскіх асоб – напрыклад, рэдактара Т. Карульскага (1937). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса ППС і класавых прафсаюзаў (polska partia socjalistyczna i rady klasowe związków zawodowych) (1927–1930). Скарбнік, віцэ-старшыня і старшыня акруговай арганізацыі ППС. Старшыня Саюза наборшчыкаў друкарні (Związku Zecerów). Старшыня рады прафсаюзаў Гродна (Rady Związków Zawodowych) (1937). Старшыня працоўнага ўніверсітэта (T.U.R.). Жанаты з Анеляй Прэдке. Л. Саванеўскі прысвяціў яму некалькі радкоў у сваёй паэме: «Rudziński – wódz zecerski i człowiek z manierą Często strajki urządzał, bo wolność istniała. On wiedział, co to petit, garmond i cycero, Nonparelki nie znosił, bo, psiakość, za mała...» У Гродна жыў па вул. Jerozolimska, 1 (1933); Dominikańska, 18 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 52. Воп. 1. Спр. 541. Арк. 2, 6, 33, 76 зв.; Там жа Спр. 542. Арк. 2, 21 зв.; Там жа Ф. 114. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 1-16; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; «Dziennik Kresowy». 27.8.1938. № 233. Str. 5. Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 263; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 40.

**Ружанскі Ян** // Różański Jan (каля 1893–?), купец. Маёр у адстаўцы. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Лаўнік гродзенскага магістрата ад фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) (1934–1939). Трэнер гродзенскіх каманд веласіпедыстаў (1924). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Ciechanowskiego, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 20; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Румель Віктар** // Rómmel Wiktor, настаўнік Гродзенскай купецкай семінарыі. Паэт. Малодшы брат генерала Румеля. Акрамя таго, быў кампазітарам і мастаком, іграў на піяніна. Сасланы (1940). Загінуў у савецкіх лагерах.

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 98; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennyn // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Руп //** Rupp, жонка Яна Рупа, старшыня жаночага Саюза дапамогі бедным парафіянам, падтрымлівала Евангелісцкае дабрачыннае таварыства. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1928).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-

1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 343.

**Руп Ян** (Іаган) // Rupp Jan (каля 1883–?), доктар-акуліст. Санітарны кіраўнік ДОК III. Рэдактар газеты «Echo Grodzieńskie» (1924). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Сябра праўлення вайсковаспартыўнага клуба WKS «Cresovia» (на 1925); праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925); намеснік старшыні Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1928). Надрукаваў у мясцовай прэсе адкрыты зварот, у якім абвяргаў чуткі аб тым, быццам яго затрымалі пры спробе нелегальна перайсці мяжу (1939). Па іншых звестках, контрразведка арыштавала лекара, выкрыўшы ў яго доме насупраць штаба III акругі апаратуру для праслухоўвання. Паводле А. Патлы, пераехаў з сям'ёй у Кракаў (па іншых звестках – быў рэпатрыяваны ў Нямеччыну). У Гродна жыў на Pl. Teatralny, 11 (1925). Пазней пабудаваў дом па вул. Piłsudskiego, 18.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5; «Nowy dziennik kresowy». 3.3.1925. Str. 4; «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; «Dziennik kresowy». 24.3.1939. № 83. Str. 4; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 362; В. Черепица. Гродно, Студенческая, 3: история дома и жизни его обитателей Век XX. Гродно, 2012. Стр. 8.

**Русецкая Яніна** // Rusiecka Janina (23.7.1896–?), настаўніца. Скончыла гімназію ў Рэчыцы (1919), праслухала гадавыя курсы фізкультуры ў Варшаве (1920–1921), вучылася ў камерцыйным інстытуце, праслухала курсы рускай мовы і геаграфіі (1940). Працавала настаўніцай у Беластоку (1919–1920; 1921–1923), выкладчыцай тэорыі і практыкі па падрыхтоўцы вучняў па фізкультуры настаўніцкай семінарыі і педагагічнага ліцэя ў Гродна (1923–1939). Камендант школьнага хуфца ў жаночай настаўніцкай семінарыі імя Э. Ажэшкі (1927). Выкладала матэматыку ў няпоўнай сярэдняй школе № 6 (1940). Падчас нямецкай акупацыі разам з Б. Амельяновіч трымала гандлёвы кіёск на плошчы Тызенгаўза.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 22; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 11-11 зв.; «Reduta». 1927. № 7. Str. 2-3.

**Рутэн Ісаак (Руцен Ісідор)** // Rutten Izaak (Ruthen Izydor) (26.2.1891, Тарнопаль–?), судовы стажор, адвакат. Яўрэй. Скончыў гімназію ў Тарнопалі (1909), юрыдычны факультэт Львоўскага ўніверсітэта (1912). Праходзіў судовую практыку ў судзе ў Тарнопалі (1922). Аплікант акруговага суда ў Гродна (1923–1925). Пазней адвакат. Удзельнічаў у працэсе па справе яўрэйскага пагрому ў Гродна (1935). Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego), старшыня яўрэйскай фракцыі гарадской рады (1928–1930). Магчыма, кіраўнік будаўнічага аддзела магістрата. Сябра камітэта па разбудове Гродна (1928). Склаў свае паўнамоцтвы ў Радзе, у сувязі з чым мясцовае выданне адзначала: «Адыход спадара Рутэна Рада адчуе вельмі балюча, бо сваёй працаю і падыходам да кожнай справы ён здабыў павагу з боку ўсіх сваіх калег» (1930). Дырэктар школ «Тарбут» (1926). Старшыня Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (1932–1934). Жыў па вул. Horodniczańska, 7 (1925); Dominikańska, 7 (1932).

*Літ.:* LCVA F. 127, Ap. 7, B. 2599; ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20, 64; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 20 зв.; «Dziennk urzędowy ministerstwa sprawiedliwości» 15.12.1925. № 24. Str. 434; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 15.1.1930. № 1; «Wieczorny kurier Grodzieński». 7.7.1932. № 37. Str. 4; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 104.

**Руткоўскі Антон** // Rutkowski Antoni, сябра камітэта па ўпарадкаванні гродзенскіх каталіцкіх могілак

(1924). Сябра праўлення кола былых палітычных вязняў (Koło byłych więźniów politycznych) (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 114. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1; «Nowe życie». 1924. № 7. Str. 3.

**Руткоўскі Леанард** // Rutkowski Leonard (каля 1856–?), шавец. Гаспадар нерухомасці. Сябра праўлення Каталіцкага дабрачыннага таварыства пры гродзенскай Фары (1921); камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922); камітэта па ўпарадкаванню гродзенскіх каталіцкіх могілак (1924). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Rutkowski, Pan Leonard, był dobrym mieszczuchem, Śpiewał głośno w kościele i dobrze pracował, I pięknie szył obuwie, okryty fartuchem, Wiernie w kasie bankowej pieniądze rachował...» Жыў па вул. Napoleona, 23.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; «Nowe życie». 1921. № 20. Str. 155 ; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Nowe życie». 1924. № 7. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 51.

**Рухлевіч Ванда** // Ruchlewicz Wanda (1898–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, дзяржаўны інстытут рукадзелля, курсы беларускай і рускай моў (1939, 1940). Працавала настаўніцай у Дароліне (1918–1920), Слупчы (1920–1921), настаўніцкай семінарыі ў Сандаміры (1921–1926), Ваўкавыску (1926–1930), Сувалках (1930–1931). Пазней – у педагагічным ліцэі ў Гродна (1934–1939). Пасля ўсталявання савецкай улады выкладала чарчэнне і маляванне ў няпоўнай сярэдняй школе № 17 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 10-10 зв.

**Рыўкінд Леў** // Rywkind Lew (1891, Вільня–1944), лекар-ларынголаг. Скончыў медыцынскій факультэт Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя (1928). Тады ж атрымаў права на лекарскую практыку. Працаваў у клініцы вуха і горла ў Вільні і шпіталі Св. Якава ў Вільні, шпіталі ў Ваўкавыску (1934–1936). Пазней пасяліўся ў Гродна (з 1935); меў прыватную практыку ў Друскеніках. Загінуў, хутчэй за ўсё, у нацысцкім канцлагеры на тэрыторі Эстоніі. У Гродна жыў па вул. Mieszczańska, 22.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 4. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2011. Str. 384.

**Рыгер Ежы** // Rygier Jerzy (15.2.1887, Кракаў–17.6.1952, Люблін), акцёр, рэжысёр. Сын вядомага польскага акцёра Эдмунда Рыгера. Дэбютаваў у польскім тэатры ў Познані (1908). Выступаў на сцэнах Львова, Кракава, Торуні, Познані. Акцёр гродзенскага тэатра (1937–1938). Пасля Другой сусветнай вайны – акцёр тэатраў у Познані і Любліне.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 617.

**Рыхлоўскі Францішак** // Rychłowski Franciszek (20.9.1878, Лапігуз Замойскі–12.12.1949, Гдыня), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра. Скончыў Бакінскую тэхнічную школу. Працаваў кіраўніком нафтавай свідравіны. Вучыўся ў драматычных класах Варшаўскага музычнага таварыства (1901–1903). Вступаў у Любліне, Вільні, Лодзі, Варшаве, Маскве, Пецярбургу. Дырэктар гродзенскага тэатра (1921; па іншых звестках – 1925).

*Літ.:* Teatr miejski w Grodnie // Kronika m. Grodna. Zeszyt 1. 1928. Str. 22; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 614.

**Рэй Ян (Іван)** // Rej Iwan (1888, Крамянец–1949, Гродна), настаўнік, праваслаўны святар. Скончыў мясцовую духоўную семінарыю. Працаваў настаўнікам у духоўна-прыходскай школе. Паступіў у Імператарскую духоўную акадэмію ў Пецярбургу (1913), вучыўся на юрыдычным факультэце Петраградскага ўніверсітэта. Пазней быў выкладчыкам у жаночай гімназіі ў Крамянцы. Пераехаў у Гродна (1930-я).

Працаваў настаўнікам рускай мовы ў школе № 19 (1940). Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno, Allgemeine abeilung) (з 21.8.1941), магчыма, загадчыкам эканамічнага аддзела (Leiter d. Wirtsch.u.Ernahrungsamt). Намеснік старшыні грамадзянскага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Гродна (1941). Загадчык кафедры рускай мовы Гродзенскага пединстытута (1944). Святар, інспектар Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах (1946). Быў жанаты з Аленай Кісялёвай. Жыў па Holzstr. 11 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк. 20 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 45; В. Черепица ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях і ліцах. Гродно, 2003. Стр. 177; В. Черепица Гродненский православный некрополь. Гродно, 2001. Ст. 91; В. Черепица Преодоление времени. Мн., 1996. Стр. 203-204.

**Рэйнхарт Густаў** // Rejnhardt Gustaw, судовы абаронца. Жыў па вул. Bankowa, 6 (1925). Нейкі Рэйнхарт з'яўляўся сябрам камітэта па пабудове заапарка (Komitet ogrodu przyrodniczego) (1930).

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 8.3.1930. № 47.

**Рэйскінд Юда** // Rejskind Juda (1907–?), настаўнік. Скончыў гімназію. Праслухаў курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў у Гродна (1940). Настаўнік матэматыкі ў школе «Яўне» (1928–1929). Настаўнік матэматыкі ў вячэрняй школе для дарослых пры гродзенскай турме (1939). Завуч і настаўнік матэматыкі, фізікі ў вячэрняй школе № 2, пазней – вячэрняй школе № 1 (1940–1941). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). Жыў па вул. Witoldowa, 23; Horodniczańska, 29 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Арк. 7 -7зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 2-2зв.

**Рэйскінд-Зіманд Марыя** // Rejskind-Zimand Maria (1903–?), настаўніца. Скончыла гуманістычны факультэт Львоўскага ўніверсітэта, настаўніцкія курсы (1939–1940). Працавала ў гімназіі Дзянтэльскай у Вільні (1928–1929); гімназіі «Тарбут» (1929–1939), гімназіі імя Г. Сянкевіча (1939–1940), няпоўнай сярэдняй школе № 3 (1940), школе №20 (з 15.8.1940) у Гродна. Сябра праўлення Гродзенскага аддзяленя Яўрэйскага краязнаўчага таварыства (Żydowskie towarzystwo krajoznawcze).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 74-74 зв.; Wiadomości Ż.T.K. 1935. № 1. Str. 10.

**Рэцько Віталіс** // Rećko Witalis (каля 1907–?), журналіст. Рэдактар-выдавец газеты «Mały Dziennik Grodzieński» (1935–1936). Старшыня Каталіцкай акцыі (Akcja katolicka). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яго сям'і асобны фрагмент паэмы: «A drugą miał drukarnię, również bardzo starą, Pan Antoni Oleński, mieszczanin sędziwy, On pisma nam drukował w porę strajków szarą, Do pism polskich miał bowiem sentyment prawdziwy. Kłopotów mu nie brakło i sprzedał drukarnię, Którą kupił Pan Redźko, kompan jego stary. Interes jednak nie szedł, dochód płynął marnie, Redźko złożył swe troski na synowskie bary. Pan Piotrek, synek młody, miał dobrą smykatkę, «Mały Dziennik» sprowadził i puścił w obroty, I raptem los odmienił swoją straszną strzałkę, Popłynęły pieniądze, zaszczyty, roboty. Następnie Pan Piotr został pisma redaktorem, Pomagał mu braciszek, Pan Witold kochany. I wszystko szło normalnie i pomyślnym torem, Nim nie wybuchł huragan tak srodze nam znany...» Жыў па вул. Sokolnicza, 10.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 25; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 40.



**Саванеўскі Людвік** // Sawoniewski Ludwik (25.8.1891, в. Ігнатовічы Гродзенскага павета–24.5.1966, Лодзь), ксёндз, рэдактар, грамадска-палітычны дзеяч. Сын Казіміра і Марыі з Ігнатовічаў. Скончыў гарадскую школу ў Сакулцы (1910), духоўную семінарыю ў Вільні (1915). Вывучаў тэалогію і скрыптурыстыку ў духоўнай акадэміі ў Петраградзе, атрымаў ступень кандыдата тэалогіі (1918). Вікарый, пазней прэфект у Гродна. Выкладчык рэлігіі ў школе імя С. Баторыя, настаўніцкай семінарыі і гімназіі імя Э. Плятэр. Актыўны дзеяч польскай хадэцыі. Сябра арганізацыйнага камітэта Хрысціянскага дэмакратычнага саюза (11.1918), Хрысціянска-нацыянальнага саюза працы (chrz.-nar. stronnictwo pracy) (1921). У сваім інтэрв'ю ксёндз Л. Саванеўскі на пытанне пра тое, як ён глядзіць на будучыню хрысціянскай дэмакратыі на Гродзеншчыне, адказаў: «Вельмі песімістычна. Інтэлігенцыя і частка духоўных адсоўваецца ў бок ад грамадскай працы, а працоўныя масы і дробныя сяляне занадта заняты штодзённымі клопатамі, каб аддаваць больш часу і ўвагі арганізацыйным пытанням. Найбліжэйшая будучыня прадстаўляецца мне не вельмі светлаю...» Рэдактар газеты «Nowe Zycie» (1919–1939). Неаднаразова прыцягваўся да суда за антысеміцкую прапаганду. Сябра Таварыства гігіены і асветы імя праф. Э. Гадлеўскага (Towarzystwo Hygieniczno-oświatowe im. prof. Emila Godlewskiego) (1921), кіраўнік назіральнай рады Каапературыўнага банка ў Гродна (1923), старшыня «Banku spółdzielczego» (1924). У адной з гродзенскіх газет яму быў прысвечаны наступны вершык: «Smutno mi Boże! W czwartki i niedzielę Z okien Brygidek spoglądam nieśmiele I wzdycham trwożnie, myśląc o cenzorze/ Daruje życiu, czy gardło przeorze?/ Trudno żyć Boże...» Пасля ўсталявання савецкай улады, ратуючыся ад арышту, пераязджае ў Варшаву (1939). Працаваў прэфектам мясцовых школ. Прымаў удзел у Варшаўскім паўстанні. Пасля Другой сусветнай вайны пераехаў у Бочню (Bochnia), пазней у Лодзь, дзе быў прэфектам сярэдніх школ (1946). Аўтар твора «Saga o Grodnie» – вершаванага біяграфічнага слоўніка постацей міжваеннага Гродна. Жыў па вул. Nazaretańska, 2 (1927).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 2. Спр. 9. Арк. 115; «Nowe życie». 18.12.1918. № 1; «Echo Grodzieńskie». 19.1.1921. № 14. Str. 3; «Echo Grodzieńskie». 21.5.1921. № 110. Str. 4; «Nowe życie». 1921. № 30. Str. 235; «Echo grodzieńskie». 2.2.1923. № 26. Str. 3; «Dziennik Kresowy». – 25.7.1924. № 174. Str. 4; «Przegląd kresowy». 1.2.1930. № 16. Str. 4. «Przegląd kresowy». 20.2.1930. № 33. Str. 4; Leonard i Ludwik Sawoniewski. Ksiądz Ludwik Sawoniewski wychowawca młodzieży grodzieńskiej // «Magazyn polski». 1999. № 1 (15). Str. 24-26;

L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 84-85; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335.

**Савельеў Іван** (1866, Магілеў –1951, Гродна), архітэктар, штабс-капітан. Паходзіў з сям'і патомных дваран. Вучыўся ў гімназзі ў Магілёве і Міхайлаўскім вайскова-інжынерным вучылішчы ў Пецярбургу. Вайсковы інжынер гродзенскай інжынернай дыстанцыі. Прымаў удзел у будаўніцтве шэрагу вайсковых аб'ектаў на тэрыторыі Гродзенскай губерні. Адзін з кіраўнікоў будоўлі Свята-Пакроўскага сабора ў Гродна (1904 – 1907). У міжваенны час таксама працаваў у Гродна. Жыў па вул. Narutowicza.

*Літ.:* В. Черепица Гродненский православный некрополь (с древнейших времен до начала XX века). Гродно, 2001. Стр. 92, 180–184.

**Сава / Саветаў Георгій** //Sawwa/ Sowetow Georg (6.4.1898, Пецярбург –21.5.1951, Лондан), праваслаўны святар. З сям'і афіцэра. Скончыў Петраградскую імператара Аляксандра І класічную гімназію (1915), Пажскі корпус (1916). Служыў у войску (1916–1920). Пастрыжаны ў манахі (1922). Скончыў багаслоўскі факультэт Белградскага ўніверсітэта. Кандыдат багаслоўя (1925). Настаяцель Свята-Мікалаеўскага падвор'я ў Бары. Рэктар інтэрната для студэнтаў праваслаўнай тэалогіі Варшаўскага ўніверсітэта (1926). Працаваў святаром у Мюнхене і Будапешце. Архімандрыт (4.1929). Дэкан мужчынскіх і жаночых манастыроў Варшаўска-Холмскай і Валынскай дыяцэзій (1931). Вікарый Варшаўска-Холмскай дыяцэзіі (2.4.1932). Епіскап Гродзенскі (1936). Адзін з ініцыятараў стварэння ў Гродна Таварыства праваслаўных палякаў. Ганаровы сябра навукова-даследчага інстытута ў Гродна. Удзельнічаў у закладцы храма для «праваслаўных палякаў». Сябра Беластоцкага ваяводскага Антыкамуністычнага камітэта. З пачаткам Другой сусветнай выехаў у Літву (9.1939). Пазней – брыгадны генерал, кіраўнік праваслаўнага духавенства польскіх узброеных сіл на Захадзе.

*Літ.:* Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 651; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 28, 67; Н. Дорош Православный Гродно. Гродно, 2000. Стр. 168-170; http://ru.wikipedia.org/wiki/Савва_(Советов).

**Савіцкая А.** // Sawicka A., грамадская дзяячка. Жонка польскага афіцэра К. Савіцкага. Старшыня спартыўнага клуба вайсковай сям'і (Klub sportowy Rodziny Wojskowej), сябра Саюза грамадскай працы жанчын (Związek Pracy Obywatelskiej Kobiet). Пасля паехала разам з мужам на яго новае месца службы (1932).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 1.6.1932. № 1. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 10.6.1932. № 10. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 22.6.1932. № 22. Str. 4.

**Савіцкая Алена** // Sawicka Helena (каля 1889–?), хатняя гаспадыня. Жонка лекара Я. Савіцкага. Кандыдатка на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Была выслана разам з дзецьмі ў Казахстан (1940). Жыла па вул. Listowskiego, 38.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 141.

**Савіцкі Антон** // Sawicki Anton (каля 1885–? ), рабочы. Магчыма, сябра вайсковага саюза Гродзенскай губерні і выканкама рады сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе (1917). Рэдактар гродзенскай беларускай паланафільскай газеты «Селянская гутарка» (1923). Вылучаўся ў Гродзенскую гарадскую Раду ад беларуска-рускага блока (1927). Жыў па вул. Nowa Posiadłość, 48.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 207.

**Савіцкі Казімір** // Sawicki Kazimierz, вайсковец. Камандуючы 29-й пяхотнай дывізіяй, якая размяш-

чалася ў Гродна. Сябра тэатральнай камісіі. Старшыня праўлення вайсковага вяслярнага клуба «Гродна» (zarząd wojskowego klubu wioślarskiego «Grodno») (1930). Кандыдат у сябры праўлення спартыўнага клуба «Cresovia». Пазней пераведзены камандуючым дывізіі ў Грудзяндж (Grudziądz) (1932). З нагоды яго пераводу адбылася святочная вечарына ў рэстаўрацыі «Раяль» з удзелам гродзенскага старасты, камандуючага ДОК III і інш.

*Літ.:* «Nowe życie». 1928. № 99; «Przegląd Kresowy». 29.3.1930. № 65; «Wieczorny kurier Grodzieński». 6.6.1932. № 5. Str. 4.

**Савіцкі Раман** // Sawicki Roman (10.2.1888, Гродна–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік, віцэ-прэзідэнт Гродна. Грамадска-палітычны дзеяч. Сын Францішка і Міхаліны з Лубатынскіх. Скончыў гімназію ў Гродна (1906); фізіка-матэматычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1911). Працаваў настаўнікам матэматыкі сярэдніх школ у Пецярбургу і Гродна (1911–1916). Мабілізаваны ў царскае войска; служыў у 6-м запасным палку сапёраў (з 2.1916). Вучыўся ў школе паручнікаў інжынерных войск у Петраградзе (з 1.1917). Служыў ў 5-м Сібрскім інжынерным палку (з 7.1917–12.1917). Пасля дэмабілізацыі вярнуўся на Радзіму (4.1918). Сябра польскай самаабароны Гродзенскай зямлі (1918). Настаўнік матэматыкі ў польскай гімназіі ў Гродна (8.1918–4.1919). З прычыны наступлення Чырвонай Арміі, эвакуіраваўся ў Быдгошч, дзе ўступіў у мясцовую грамадзянскую самаабарону (samoobrona obywatelska). Працаваў у аддзеле ўскосных падаткаў у Гродна, Варшаве і Вільні (dział podatków pośrednich) (з 10.1920), рэвізорам аддзелаў ускосных падаткаў у падатковай інспекцыі ў Вільні (wydział podatków pośrednich Izby Skarbowej w Wilnie). Міравы суддзя (sędzia rozejmczy). Сябра



Гродзенскай гарадской Рады (1919–1927; 1934–1939). Лаўнік гродзенскага магістрата, кіраўнік аддзела камунальнай гаспадаркі (wydział zakładów użyteczności publicznej) (1925). Віцэ-прэзідэнт Гродна (19.10.1934). Сябра ППС. Беспаспяхова балатаваўся на выбарах у Сейм ад спіса партыі (1922). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Старшыня праўлення Гродзенскай добраахвотніцкай пажарнай аховы (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie) (1937) і камісіі па арганізацыі месца пад новыя хрысціянскія могілкі (1936). Сябра праўлення таварыства супраць сухотаў (członek zarządu Tow. Przeciwgruźliczego), Польскага Чырвонага Крыжа (Polskiego Czyrwonego Krzyża), рэвізійнай рады Камунальнай касы (członek rady nadzorczej Komunalnej Kasy Oszczędności), праўлення Польскай Мацежы Школьнай (1925); камісіі, якая мела сваім заданнем абарону статуса Гродна як «горада, выдзеленага з павета» (1927); рэдакцыйнага камітэта гістарычнай бібліятэкі Гродна (1929); аргкамітэта таварыства загарадных участкаў (Komitet Organizacyjny T-wa Ogródków Działkowych); праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Рэдактар «Kroniki miasta Grodno». Спонсар турніру за першынство па шахматах (1935). Узнагароджа-

ны Залатым Крыжам Заслугі. Адзін з ініцыятараў абароны горада ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Праз мегафон заклікаў жыхароў Гродна да капання равоў і ўзвядзення барыкад супраць танкаў. Супрацоўнічаў з вайсковымі ўладамі пры арганізацыі добраахвотных аддзелаў з жыхароў горада. Здолеў выехаць у Літву. Завочна праходзіў па справе арганізацыі пагромаў у Гродна. Абвінавачваўся ў «расправе над асобамі, якія сімпатызавалі савецкай уладзе» (усяго ахвярамі пагрому сталі дваццаць пяць чалавек). З пачаткам савецка-нямецкай вайны вярнуўся ў горад. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno) кіраўніком гаспадарчага аддзела. Адзін з арганізатараў грамадзянскага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Гродна (1941). Сябра АК. Расстраляны немцамі (Паводле Г. Ліпінскай, быў забіты гестапа ў Варшаве.) (1943). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Był długie lata w randze wiceprezydenta Zacny Roman Sawicki, postać tak typowa, Zasługi jego Grodno ogromne pamięta, Niechaj jemu hołd złoży ta Saga. Hiobowa... Romana Sawickiego wiceprezydenta Któryż z grodnian nie wspomni ze drżeniem serdecznym, Któż jego zasług wielkich wdzięcznie nie pamięta I o pracach zapomni wielce pożytecznych? W Warszawie podczas wojny znalazł on schronienie, Lecz tęsknota do Grodna znowu go zawiodła, A wtedy cios niemiecki przeciął mu istnienie, Niezłomnego zabiła wraża ręka podła». Жанаты з Габрыэлай Карнацкай (1915). Жыў па вул. Rybacka, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк. 20 зв.; Там жа Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 9; Там жа. Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 64 зв.-65; Там жа Спр. 19. Арк. 23, 26 зв.; Там жа Спр. 282. Арк. 32; Там жа. Спр. 284. Арк. 40; Там жа. Спр. 285. Арк. 52-52 зв., 79, 110 зв.; Там жа. Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15, 34; «Nadniemeński kurier polski». 26.3.1925. № 85. Str. 1; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Mały dziennik grodzieński». 29.11.1935; Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 651; Połski słownik biograficzny. Tom XXXV. Warszawa-Kraków, 1994. Str. 340-341; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str. 47; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 87; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 17, 78-79; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496; M. Gnatowski. Radzieckie dokumenty o represjach za stłumienie komunistycznych rebelii w Skidlu i Grodnie we wrześniu 1939 r. // Studia Poslaskie. Białystok, 2001. T. XI. Str. 299-328; В. Черепица. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 177; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59; Encyklopedia ziemi wileńskiej. T. I. Bydgoszcz, 2002. Str. 360.

**Савіцкі Юзаф** // Sawicki Józef (каля 1877–?), чыноўнік. Магчыма, кіраўнік 1-га раёна дзяржпаліцыі Гродна (на 1920). Пазней на пенсіі. Сябра фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) Гродзенскай гарадской Рады (1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Orzeszkowej, 38.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 2. Спр. 24. Арк. 69; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15.

**Савіцкі Ян** // Sawicki Jan (26.12.1877, Гродна–1940, Гродна), вайсковы лекар. Падпалкоўнік. Сын Марціна і Францішкі з Тэжык. Католік. Паляк. Скончыў гімназію ў Гродна, медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта (1906). Працаваў земскім лекарам (1905–1906). Служыў у расійскім войску (1907–1917). Пасля ў польскім войску (з 1918). Галоўны лекар Гродзенскага стралковага палка, камендант акруговага шпіталя ў Гродна (1920). Пазней у адстаўцы (з 1929). Меў жонку Алену і пяцярых дзяцей. Расстраляны бальшавікамі.

*Літ.:* P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 294-295; Słownik biograficzny lekarzy

i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 4. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2011. Str. 387-388.

**Сагайдакоўскі Ананій** // Sogojdokowski Ananij (1.10.1888–10.10.1971), праваслаўны святар. Мітрафорны протаіерэй. Скончыў Валынскую духоўную семінарыю. Кандыдат багаслоўя Казанскай духоўнай акадэміі (1915). Пробашч парафіі ў Луцку. Вайсковы капелан ДОК I (памочнік дэкана Варшаўскай вайсковай акругі), служыў у саборы ў варшаўскай Празе (з 1925). Аўтар шматлікіх публікацый на старонках часопіса «Воскресные чтения»: палемічных артыкулаў, аповесцяў. Настаяцель Свята-Пакроўскага сабора ў Гродна (8.1934–1938). Кафедральны протаіерэй. Па яго ініцыятыве ў храме была пабудавана каплічка для абраза Казанскай Маці Божай (1936); усталяваны новы саборны звон.Ён працягваў весці «Летапіс Сафійскага сабора». Сябра Цэнтральнага Украінскага камітэта ў Гродна. Пратэставаў супраць паланізацыі праваслаўнага богаслужэння. Арганізаваў нелегальную дзейнасць праваслаўнага Сафійскага брацтва. Выступіў супраць забароны мясцовымі ўладамі святкавання 950-годдзя хрышчэння Русі (1938). Быў ініцыятарам дэманстрацыйных пастоў у знак пратэсту супраць канфіскавання адозваў праваслаўных епіскапаў да вернікаў (1-3.8.1938). Калі святар выехаў з горада на адпачынак, органы мясцовай адміністрацыі адразу адзначылі «паляпшэнне настрояў» сярод праваслаўных вернікаў, што праявілася ва ўрачыстай службе ў праваслаўным саборы на карысць польскага войска. Адазваны са свайго паста распараджэннем Міністэрства па справах рэлігіі і асветы, што выклікала хваляванне сярод мясцовых праваслаўных. Епіскап Гродзенскі Сава на шматлікія звароты паабяцаў «адстаяць і ўтрымаць у Гродна настаяцеля айца Ананія Сагайдакоўскага». Аднак 12 снежня 1938 г. епіскап атрымаў з Варшавы загад аб канчатковым пераводзе А. Сагайдакоўскага на Валынь. Служыў у прыходах у лагерах бежанцаў у Аўстрыі (1944). Пазней – у ЗША.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 352. Арк. 6; E. Wiszka. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577; В. Борщевич Національна самоідентифікація православного духовенства Волині у 20-30-х рр. ХХ ст. // // Науковий вісник Волинського національного університету. Історичні науки. 2009. № 13. Ст. 187; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 49; В. Черепица ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 244; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 324; А. Горны. Сінодзік пацярпелых за веру і Царкву Хрыстовую ў Гродзенскай епархіі ХХ стагоддзе. Гродна, 2014. Ст. 67-69.

**Сает Самуэль** // Sajet Samuel (1871–пасля 1942, Трэблінка), лекар. Скончыў другую гімназію ў Вільні (1890), медыцынскі факультэт Харкаўскага ўніверсітэта. Прайшоў спецыялізацыю па ўнутраных, скурных і венерычных захворваннях у Берліне. Удзельнік



руска-японскай і Першай сусветнай войнаў, вайсковы лекар артылерыйскай брыгады. Падчас рэвалюцыі працаваў на Украіне. Пасля вяртання ў Гродна займаўся прыватнай практыкай, працаваў у гродзенскай Касе хворых (1924), лекарам на тытунёвай фабры-

цы. З усталяваннем савецкай улады быў лекарам 1-й гарадской амбулаторыі (па іншых звестках – быў прызначаны загадчыкам паліклінікі) (1940). Зняволены ў гродзенскім гета. Загінуў разам з жонкай, дачкой і нявесткай у канцлагеры. Жыў па вул. Hoovera, 8 (1925); Hoovera, 12 (1937).

*Літ.:* «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 14. Str. 2; В. Сарычев. Шипы и розы Саетов // «Вечерний Гродно». 1.4.2013. Стр. 10. http://www.petergen.com/history/wil2gim.shtml

**Сакалоўскі** // Sokołowski, вайсковец. У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Pułkownik Sokołowski, jeden z najzacniejszych Ludzi w Grodnie przed wojną, miał przygód niemało, Należał do Akowców, w czasach najgroźniejszych Bohatersko szczutej zwierzyny, Po wojnie zrywy nowe na niego czekały – Troska, praca społeczna i nowe wawrzyny. I tak to niesłychanie ten charakter prawy Wielką lotność umysłu wśród przygód hartował I swoją wielkoduszność, i tytuł do sławy Pośród wrzawy dziejowej w komplecie zachował».

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 36.

**Сакалоўскі Аляксандр** // Sokołowski Aleksander, грамадска-палітычны дзеяч. Прадстаўнік ад міжнароднай сацыялістычнай рабочай фракцыі ў часовым гарадскім камітэце (1918). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 24; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str. 18.

**Сакалоўскі І.** // Sokołowski I., сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага яўрэйскага сацыялістычнага блока (1919).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodna,1925. Str. 5, 6.

**Сакалоўскі-Арлоўскі Эдвард** // Sokołowski-Orłowski Edward (1878, Вільня–18.4.1932), грамадска-палітычны дзеяч, журналіст. Сябра камуністычнай партыі Польшчы (1918–1925). Дзеяч сацыял-дэмакратычнага руху. Рэдактар-выдавец гродзенскай газеты на беларускай мове «Вясковы пралетары» (1922).

*Літ.:* Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 2. Ст. 444; В. Семнякоў. Сакалоўскі-Арлоўскі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Ч. 1. Ст. 205.

**Сакіта Юліян** // Sakita (Sekita) Julian, (2.10.1897, в. Дранзгув, Гарвалінскі пав.–?), пракурор, суддзя. Каталік, паляк. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Выкладаў матэматыку ў жаночай гімназіі ў Седльцах. Сябра ПАВ (1918). Добраахвотнік польскай арміі (з 1918). Служыў у 22-м палку пяхоты (да 1923). Стажор акруговага суда ў Варшаве (1924). Падпракурор у Седльцах (1928), віцэ-пракурор там жа (1930). Віцэ-пракурор акруговага суда ў Гродна (з 1932) і Вільні (з 1934); апеляцыйны суддзя па справах выключнай важнасці ў Вільні (з 1937). Жанаты з Ірэнай Нел (з 1925). Дзеці: Крыстына (1926), Эдвард (1928).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2671; ДАГВ Ф. 93. Оп. 1. Спр. 1. Арк. 1.

**Салавейчык Іцхак (Ісаак)** // Solowieiczyk Yitzhak (Izaak), рэдактар першага сіяніісцкага штотыднёвіка «Unser Leben» (1926 – 1927). Сябра рады Яўрэйская рэлігійнай абшчыны ад сіянісцкай фракцыі (на 1931).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 79. Арк. 19.

**Салавейчык Сара** // Solowieiczyk Sara (1894–пасля 1939), лекарка, грамадска-палітычнная дзяячка. Спецыяліст па дзіцячых захворваннях. Жонка І. Салавейчыка. Дыплом лекара атрымала ў Харкаўскім медыцынскім інстытуце (1917). Працавала ў дзіцячым шпіталі ў Баку, мела прыватную практыку. У Гродна была лекарам пры школе «Тарбут» (1929). Сябра ТОЗ, Варшаўска-Беластоцкай лекарскай палаты (Izba Lekarska Warszawsko-Białostocka). Заняла месца Рутэна ў гарадской Радзе. Адна з мясцовых газет пісала з гэтай нагоды: «З'яўленне ў зале гэтай адзінай «маці го-

рада» выклікала румянец задавальнення на тварах нашых «бацькоў горада», больш-менш выразны ў залежнасці ад іх узросту». Пазней пераехала ў Варшаву (пачатак 1930-х). Загінула падчас вайны пры нявысветленых абставінах. У Гродна жыла па вул. Listowskiego, 9 (1925).

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 4. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2011. Str. 401.

**Саламон Маісей** // Salomon Mojżesz (каля 1893–?), купец. Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса яўрэйскага беспартыйнага блока ў Гродна (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Bonifraterska, 22.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17 зв.; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4.

**Саломка Ганна** // Solomko Anna, грамадская дзяячка. Намеснік старшыні РДТ у Гродна (1928–1935).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 88.

**Салошык Канстанцін** // Soloszyk Konstanty (1901–?), беларускі нацыянальны дзеяч. Сакратар Гродзенскай грамады беларускай моладзі. Скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні (1919). Працаваў справаводам у аддзеле культурнай асветы Гродзенскага рэўкама (1920). Самадзейны акцёр. У польскіх дакументах узгадваюцца браты Салошыкі, камуністы, якія былі сябрамі беларускай паўстанцкай арганізацыі ў Гродна (1922). Жыў па вул. Сафійскай // Dominikańska, 4 (1920).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 208.

**Самайловіч Сяргей** // Samojłowicz Sergiusz, ксёндз-прэфект. Скончыў юрыдычны факультэт Новарасійскага ўніверсітэта. Выкладаў у школе № 1. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Вынікі працы на ўзроўні» (1934). Магчыма, сябра хрысціянскай дэмакратыі (1921).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8; «Nowe życie». 1920. № 4. Str. 31.

**Самайловіч-Саламановіч Атон**// Samójłowicz-Salamonowicz Otton (23.3.1885, Адэса–1940, Харкаў), доктар медыцыны (1910), падпалкоўнік медыцынскіх войск. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у 1-м польскім корпусе Доўбар-Мусніцкага; пасля – у 4-й стралецкай дывізіі 2-га польскага корпуса ў Расіі. Прымаў удзел ў бітве пад Каневам (11.3.1918). Падчас савецка-польскай вайны служыў у 12-й дывізіі пяхоты (1920). Быў паранены. Пасля вайны – у рэзерве. Пасля зноў на вайсковай службе. Працаваў у 3-м акруговым шпіталі (Гродна) і ў 9-м акруговым шпіталі ў Брэсце. Камандуючы 3-м санітарным батальёнам у Гродна (6.1930–6.1934). Пасля адстаўкі працаваў урачом на Бяла-Падляскім авіяцыйным заводзе (Podlaskiej Wytwórni Samolotów). У пачатку Другой сусветнай выконваў абавязкі каменданта супрацьпаветранай абароны Брэста. Трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў. Пастанаўленнем Прэзідэнта Польшчы Л. Качынскага атрымаў званне брыгаднага генерала пасмяротна (2007).

*Літ.:* Otton Samójłowicz-Salamonowicz http://pl.wikipedia.org/wiki/Otton_Samójłowicz-Salamonowicz.

**Самарын Канстанцін** // Somaryn Konstanty (?–28.4.1925), адвакат. Сустракаўся з генералам П. Махровым па справе стварэння манархічнай арганізацыі ў Гродна (1924).

*Літ.:* А. Ліцкевіч. «Степень достоверности – достоверно…» Армія Булак-Балаховіча и антысавецкі супраціў 1921-1927 гадоў у дакументах ВЧК (АДПУ) // «Беларуская думка». 1998. № 7. Ст. 88.

**Самчук Надзея** // Samczuczanka Nadzeja, настаўніца. Працавала ў беларускай прытулкавай школе ў Гродна. Сябра Беларускага дабрачыннага таварыства (1925), гродзенскага гуртка ТБШ (1926). Самадзейная артыстка.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 209.

**Сапачынскі Юзаф** // Sapoczyński Józef (каля 1891 – ?), лекар. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Жыў па вул. Brygidzka, 18/2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15.

**Саповіч** // Sopowicz, дырэктар школы рабінаў, якая знаходзілася ў Школьным завулку (1919).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп.1. Спр. 29. Арк.16.

**Сарасек** // Sarosiek, лекар. Спецыяліст па жаночых і скурна-венерычных захворваннях. Разам з яшчэ некалькімі калегамі выйшаў з Саюза лекараў, арганізаваўшы Саюз хрысціянскіх лекараў (1924). Працаваў у мясцовай Касе хворых. Сябра Таварыства сяброў студэнцкага інтэрната (Towarzystwo przyjaciół Akademika) (1923). На старонках мясцовых выданняў палемізаваў з яўрэйскімі газетамі. Жыў па вул. Pocztowa, 1 (1925).

*Літ.:* «Echo grodzieńskie». 28.6.1923. № 115. Str. 2-3; «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 14. Str. 2.

**Сарасек Алена** // Sarosiek Helena, настаўніца. Кіраўнік курсаў гігіены Засцянковага саюза (1937). Выступаючы з нагоды адкрыцця курсаў, яна звярнулася да камандуючага ДОК III генерала Ю. Альшыны-Вільчынскага: «Абяцаем заўсёды працаваць па меры нашых сіл на карысць Польшчы і войска. Кожны наш дом будзе нязломнай цвярдыняй польскасці».

*Літ.:* «Nasza okolica». 31.3.1938. № 6. Str. 8.

**Сарока Міхаіл** // Soroka Michał (каля 1896–?), беларускі нацыянальны дзеяч. Сябра БПС-Р, Гродзенскай беларускай павятовай рады (1918). Удзельнічаў у ліквідацыйным з'ездзе БПС-Р ў Мінску (1924). Пазней зноў у Гродна (на пачатак 1930-х). Выдаў на гектографе першы нумар газеты «Змагар».

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 209-210.

**Сас (Сасс) Ізраэль** // Sas Izrael, настаўнік коэдукацыйнай школы І. Маркус (1926). Дырэктар яўрэйскай гімназіі «Тарбут» (1937). Грамадскі дзеяч. Сябра Паалей-Цыён. Жыў па вул. Piłsudskiego, 3 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.

**Сасноўская Марыя** // Sosnowska Maria, лекар. Спецыяліст па дзіцячых і ўнутраных захворваннях. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыла па вул. Horodniczańska, 19.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 22.

**Сасноўскі Стэфан** // Sosnowski Stefan (?–2.3.1930), чыноўнік. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. Рэферэнт гродзенскага магістрата (referent magistratu). Пісаў вершы. Друкаваўся ў часопісе «Alma mater».

*Літ.:* «Przegląd kresowy». 4.3.1930. № 43. Str. 3.

**Сасуліч Канстанцін** // Sassulicz Konstanty, дырэктар электрастанцыі. Пазней хварэў на псіхічную хваробу і знаходзіўся ў гарадскім шпіталі (з 1930). У выніку, ён і яго сям'я апынуліся ў поўнай галечы. Акрамя таго, яны павінны былі аплаціць кошт лячэння. Гродзенская гарадская Рада пастанавіла выставіць іх маёмасць на аўкцыён за даўгі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 282. Арк. 1 зв.- 2.

**Свідэрская** // Świderska, кіраўнік філіяла «Польская хата» (Hata Polska) у Гродна пры ТСК (1919–1920). Сябра камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922).

*Літ.:* AAN. TSK. T. 400. Str. 30; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174.

**Свідэрскі Уладзімір** // Świderski Włodzimierz (каля 1889–?), каваль. Магчыма, радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Północna, 21.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4. «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Світыч Аляксандр** // Switycz Aleksander, журналіст, сябра праваслаўнай кансісторыі. Адзін з арганізатараў Сафійскага брацтва ў Гродна (1937).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 25-26, 42.

**Свяхоўскі Генрых** // Swechowski Henryk, дырэктар Дзяржаўнай тытунёвай фабрыкі ў Гродна. Кіраўнік арганізацыйна-прапагандысцкага аддзела Гродзенскага павятовага камітэта ЛОПП. Быў абраны ў Касу хворых (1926).

*Літ.:* «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 12.05.1928.

**Сегал Рувін** // Segał Ruwin, сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (1938–1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61.

**Седлярэвіч Міхаіл-малодшы**// Siedlarewicz Michał (1906, Двінск–1993), рускі грамадскі дзеяч, бухгалтар. Актывіст Гродзенскага аддзялення РАМ. Адміністратар гарадскога тэатра (1940). Арыштаваны органамі НКУС. Прыгавораны да 25 год лагераў, аднак, у сувязі з пачаткам савецка-нямецкай вайны, здолеў вызваліцца. Уступіў у РВА. Пасля – у эміграцыі ў Аргентыне (з 1951). Заснавальнік і рэдактар «Русской газеты»; супрацоўнічаў з выданнем «Русское слово» (1963–1988). Жыў па вул. Puszkina, 10.




*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 8; В. Черепица Гродненский исторический калейдоскоп. Гродно, 2014. Стр. 385.

**Седлярэвіч Міхаіл-старэйшы** // Siedlarewicz Michał, рускі грамадскі дзеяч. Бацька Мікалая і Міхаіла Седлярэвічаў. Намеснік старшыні РДТ у Гродна (1928–1935). Выступіў на старонках газеты «Русское слово» з адкрытым зваротам да Епіскапа Гродзенскага Савы адносна прыцяснення праваслаўнага насельніцтва (1938). Выказваўся за захаванне правасалаўнага прытулка ў Гродна.

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 88.

**Седлярэвіч Мікалай** // Siedlarewicz Mikołaj (1908, Дзвінск–?), рускі грамадскі дзеяч. У Гродна пераехаў разам з бацькамі. Арганізаваў у горадзе скаўцкую дружыну (14.9.1927). Старшыня Гродзенскага аддзялення РАМ. Сябра праўлення РДТ (на 1928). Заклікаў збіраць грошы на адкрыццё рускай школы ў горадзе, карыстацца ў прыватным жыцці рускай мовай і выхоўваць дзяцей у нацыянальнай традыцыі. Выступаў супраць планаў улад па зносе царквы Аляксандра Неўскага і пашырэння сярод праваслаўных веруючых украінскіх уплываў. Не даў правесці паніхіду па Пятлюры ў саборы ў Гродна (1935). Выступаючы на пасяджэнні РАМ з дакладам «Адносіны рускіх да польскай дзяржавы», М. Седлярэвіч заявіў, што ў Гродна – шэсць тысяч рускіх, але няма ніводнай установы адукацыі, што вядзе да абвастрэння настрояў сярод нацыянальнай моладзі. Падкрэсліў, што трэбна заставацца лаяльным грамадзянінам дзяржавы, у якой жывеш, аднак адначасова нельга адмаўляцца ад уласнай нацыянальнасці, бо народ, які згубіў сваю нацыянальную прыкметнасць

і культуру, варты знявагі (22.11.1935). З'яўляўся кіраўніком рускіх скаўтаў у Польшчы. Быў узнагароджаны ордэнам Белага Мядзведзя 2-й ступені за працу ў скаўцінгу (1928). Магчыма, праходзіў па справе РДТ, якая разглядалася гродзенскім судом (вясна 1939). Кіраўнік народнай міліцыі ў в.Сабакінцы (1939). Пазней быў арыштаваны органамі НКУС, а яго жонка выслана. Прыгаворany да вышэйшай меры пакарання як кіраўнік скаўцкага руху. Здолеў выратавацца падчас этапіравання з Мінска ў Магілёў. Вярнуўся ў Гродна, працаваў у будаўнічай фірме Э. Фалькe. Старшыня рускага камітэта ў Гродна (з 1943). Працаваў на Валыні, у Сарнах арганізаваў гурток РАМ. З набліжэннем савецкіх войск эвакуіраваўся з Гродна ў г. Эгер (Чэхія), дзе ўступіў у РВА. Старшы лейтэнант. Быў прызначаны асабістым прадстаўніком генерала Уласава ў Верхняй Сілезіі і Судэцкай зямлі. Пазней – у эміграцыі. Жыў у Нямеччыне, Францыі, Бельгіі, Люксембургу, Швейцарыі. Кіраўнік Бельгійска-Люксембургскага аддзела арганізацыі расійскіх юных разведчыкаў (1946–1948). Пазней – у Аргентыне (з 1948). Жыў у м. Тэмперлі. Прымаў актыўны удзел у жыцці мясцовай расійскай калоніі. Выдаваў «Русскую газету». Старшыня цэнтра «Рускіх Белых» у Буэнас-Айрэсе. Прадстаўнік рускай меншасці ў Савеце нацыянальнасцей Аргентыны. Падчас англа-аргентынскага канфлікту за Мальвінскі (Фолкленскі) архіпелаг запісаўся добраахвотнікам у войска (1982). У Гродна жыў па вул. Puszkina, 10.

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 10. Спр. 88. Арк. 183; Там жа. Спр. 620. Арк. 143; «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 155. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzinny 5 groszy». 6.101937. № 277. Str. 3; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 359; В. Черепица. Гродненские национально-общественные комитеты в годы немецкой оккупации (1941 – 1944) // 55 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне: погляд праз гады, новыя канцэпцыі і падыходы. Часіка II. Мінск, 2001. Ст. 31; Н. Казанцев Достойная романа жизнь старшего русского скаута // «Наша Страна» (Буэнос Айрес). 21.11.2009. № 2880. Стр. 3-6; В. Черепица Гродненский исторический калейдоскоп. Гродно, 2014. Стр. 385; Организация Российских Юных Разведчиков // http://www.sgpzao.org/ORUR%20Documents/Organ/22.htm.

**Сейненскі Шлома** // Sejneński Szloma, лекар. Быў прыгавораны дысцыплінарным лекарскім судом (Sąd Izby Lekarskiej) да штрафу за парушэнне прафесійных абавязкаў: «несумленнае выкананне лекарскай практыкі са шкодаю для хворага, свядомае парушэнне прафесійнай салідарнасці, выкарыстанне недазволеных спосабаў рэкламы праз распаўсюджванне ўлётак па аптэкарскіх складах і навязванне ўласных паслуг хворым «(1938). Падчас нямецкай акупацыі, хутчэй за ўсе, апынуўся ў гета № 2. Вывезены разам з сям'ёй у канцлагер (1942). Паводле кнігі «Памяць», быў расстраляны ў гета. Жыў па вул. Witoldowa, 24 (1937).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 18.11.1938. № 316. C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 68; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Серадскі Францішак** // Sieradzki Franciszek, грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Гродзенскага акруговага сакратарыята Таварыства сялян (Stronnictwo chłopskie) (1927). Пазней перайшоў у ББСУ (1928).

*Літ.:* Z. Tomczonek. Ruch ludowy w powiecie grodzieńskim w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1991. T. 2. Str. 22.

**Серафін Бенядыкт-Уладыслаў//** Serafin Benedykt-Władysław (8.4.1893–?), вайсковец, маёр. Жыў у Гродна (з 1936). Служыў у 81-м палку пяхоты. Кіраўнік Гродзенскай павятовай камендатуры прызыву (powiatowej komendy uzupełnień). Старшыня Гродзенскага аддзялення Марской і каланіяльнай лігі імя Стэфана Баторыя (1939). Адзін з арганізатараў абароны Гродна (20-22.9.1939). Жыў па вул. Akademicka, 22.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 4; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 8.

**Сжэдніцкі Яўгеній** // Srzednicki Eugeniusz, генеральны прадстаўнік кн. Друцкага-Любецкага. Сябра павятовага аддзялення ЛОПП. Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.

**Сідаровіч Вацлаў** // Sidorowicz Wacław, спартсмен. Паўабаронца футбольнай каманды WKS «Grodno». Паспяхова сумяшчаў гульню ў футбол з лёгкай атлетыкай. Адначасова ўваходзіў у склад віленскай каманды «AZS» і зборнай Польшчы па бегу (1936).

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 22, 26.

**Сідарэвіч Грыгорый** // Sidorewicz Grzegorz (1882–?) рабочы, радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Сікорская Апалонія** // Sikorska Apolonia (каля 1901–?), бухгалтарка (па іншых звестках – настаўніца). Кандыдатка на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Магчыма, сябра камітэта аб'яднаных жаночых арганізацый Гродна (komitet zblokowanych organizacyj kobiecych w Grodnie) (1939). хУдзельніца абароны Гродна ад Чырвонай Арміі (20-22.9.1939). Жыла па вул. Kalucińska, 16.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 3.

**Сікорскі Юзаф** // Sikorski Józef, грамадска-палітычны дзеяч, сябра фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) Гродзенскай гарадской Рады (1934–1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Jagiellońska, 48.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15.

**Сімоні Алена** // Simoni Helena (1905–?), настаўніца. Скончыла гімназію. Пазней праслухала курсы настаўнікаў пачатковай школы (1939–1940). Працавала настаўніцай ў вёсках Сломанка (1925–1927), Скамарошкі (1927–1928), агульнай школе ў Гродна (1928–1939), беларускай сярэдняй школе № 18 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 п. Арк. 39-39 зв.

**Сімоні Юльян** // Simoni Juljan (1905, Львоў–?), настаўнік. Паляк. Скончыў гімназію, настаўніцкі інстытут у Варшаве (1939), выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве, настаўніцкія курсы па геаграфіі і беларускай мове (1940). Настаўнік у вёсках Мяшэтнікі (1924–1925), Індура (1925–1928), гродзенскай школе № 7 (1928–1939). З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Добры настаўнік – здольны зацікавіць на лекцыях, атрымлівае выдатныя вынікі» (1934). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). З усталяваннем савецкай улады працаваў завучам і настаўнікам геаграфіі ў беларускай сярэдняй школе № 18 (з 2.1.1940). Падчас нямецкай акупацыі – канторшчык Таварыства купцоў у Гродна. Завуч сярэдняй школы № 9 (1944). Жыў па вул. Чырвонапартызанскай, 110 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 47; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 24. Там жа Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 38-38 зв.

**Сініла Аляксандр** // Siniła Aleksander (каля 1889, урочышча Засады Берштаўскай гм.–пасля 1930, гродзенская турма (?)), беларускі нацыянальны дзеяч. З сям'і ляснога аб'ездчыка. Падчас Першай сусветнай вайны служыў афіцэрам у рускай арміі. З'яўляўся сябрам Гродзенскай Беларускай павятовай рады (1919), Берштаўскага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта (1920), Беларускага выбарчага камітэта (1922). Кандыдат у дэпутаты польскага Сейма ад выбарчага спіса

№ 16 (1922). Скарбнік Берштаўскага гміннага камітэта супрацоўніцтва з урадам (1928). Арыштаваны па абвінавачанні ў шпіянажы на карысць Літвы (1930). Памёр у гродзенскай турме.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 212-213.

**Скакоўскі Юстын** // Skokowski Justyn (1876, Дзісна–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), ксёндз. Скончыў духоўную семінарыю Магілёўскай архідыяцэзіі (1901). Рэктар філіяльнага касцёла ў Дрысе, школьны прэфект (з 1907). Працаваў у Рыжскай дыяцэзіі ў Латвіі. У сувязі з палітычным ціскам з боку ўлад быў пераведзены ў Віленскую архідыяцэзію адміністратарам парафіі Нёман у Лідскім дэканаце (1934). Рэктар касцёла сясцёр-назарэтанак у Гродна, прэфект школ (1935). Капелан Саюза польскіх засценкаў Гродзенскай зямлі (Związek zaścianków polskich ziemi grodzieńskiej) (1937). Працягваў працаваць падчас Другой сусветнай вайны. Быў на два месяцы зняволены нямецкімі ўладамі ў турме (1942). Расстраляны разам з іншымі заложнікамі. Жыў па вул. Brygidzka, 26.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945, Łódź 1993, s. 101-10, 161; 2; Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Мінск: Зміцер Колас, 2011. Ст. 451; T. Krahel Zginęli 15 lipca 1943 r. przy fortach koło wsi Naumowicze // http://www.archibial.pl/czas/nr160/art.php?artykul=naumowicze.

**Скаржынская Ванда** // Skarżyńska Wanda (2.1.1892, Варшава–6.8.1967, Гдыня), актрыса. Выступала ў Кракаве (1911–1914), Варшаве (1919), польскім тэатры ў Мінску (1920). Актрыса тэатра ў Гродна (1921–1923; 1924–1925). Пазней выступала ў тэатрах у Быдгошчы, Плоцку.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 640.

**Скаржынскі Тадэвуш** // Skarzyński Tadeusz (10.4.1886, Кутна–2.4.1944, Радом), акцёр, рэжысёр. Муж актрысы В. Скаржынскай. Быў зняволены за ўдзел у школьнай забастоўцы (1905). Выступаць пачаў у аматарскіх прадстаўленнях. Вучыўся ў драматычных класах Варшаўскага музычнага таварыства. Акцёр тэатра ў Лодзі (1908), віленскага тэатра (1909–1911), тэатраў у Кіеве, Плоцку, Радоме. Падчас Першай сусветнай вайны – у Расіі, Фінляндыі. Вярнуўшыся ў Польшу, выступаў у Пражскім тэатры ў Варшаве, тэатры імя Багуслаўскага і інш. Пэўны час з'яўляўся акцёрам тэатра ў Гродна (1922–1923). Пазней – у Плоцку, Познані, Львове і інш. Падчас Другой сусветнай вайны быў арыштаваны немцамі за удзел у польскім падполлі. Загінуў у турме.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 649.

**Скаўронскі Станіслаў** // Skowroński Stanisław (каля 1895–25.2.1930, Гродна), рабочы. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса ППС і класавых прафсаюзаў (polska partia socjalistyczna i rady klasowe związków zawodowych) (1928–1930). Старшыня рады прафсаюзаў Гродзенскай акругі (Rady Związków Zawodowych klasowych) і аддзела праўлення прафсаюзаў камунальшчыкаў у Гродна (przewodniczące oddziały Zarzandu Związnzku pracowników komunalnych i instytucji użyteczności publicznej oddział Grodno) (1930). Рэдактар газеты мясцовай арганізацыі ППС «Postęp» (1929). У яго пахаванні прынялі ўдзел некалькі тысяч працоўных. Пры гэтым ксёндз-дэкан Сперскі адмовіўся спавядаць. З гэтай нагоды мясцовае выданне адзначыла: «Такім чынам ксёндз-дэкан праз уласную ўпартасць стварыў першы ў Гродна прэцэдэнт, калі на каталіцкіх могілках хавалі па грамадзянскім абрадзе».

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; «Pzegląd Kresowy». 26.2.1930. № 38; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; M. Ciećwierz Prasa Polskiej Partii Socjalistycznej w regionie białostockim w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1990. № 1(17). Str. 11; H. Majecki. Działalność PPS w Grodnie w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1995. T. 2. Str.47.

**Сквара Браніслаў** // Skwara Bronisław (11.5.1904, Высокае–?), грамадскі дзеяч. Сын Тамаша і Браніславы Кракоўскай. Скончыў інструктарскі аддзел Дзяржаўнай школы сельскай гаспадаркі ў Цешыне (wydz. instrukt. państw. szk. gosp. wiejsk. w Cieszynie) і Вышэйшыя каапeратыўныя курсы (wyż, kurs spółdz. przy U.J.). Добраахвотна пайшоў у польскае войска (1920). Быў дырэктарам гандлёвага аб'яднання ў Гродна (Zjednoczenia rolnicze-handlowe), адным з арганізатараў Саюза гаспадарчых каапeратываў (Zw. gosp. spółdz. handl.-roln.). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Выступаў са шматлікімі дакладамі на тэму каапeрацыі. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «trzeba także sławić potentata, Bronka Skwarę w handlowej machinie rozdętej, Ponieważ w krótkim czasie i w niełatwe lata Handel polski rozwinął do potęgi entej. I słynne Zjednoczenie Handlowo-Rolnicze Szybko rosło na drożdżach pracy dyrektora I w całym województwie miało swe zdobycze». Жанаты са Стэфаніей Каркувнай (1930). Жыў па вул. Jagiellońska, 12.



*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 24; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 281; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 38.

**Скварніцкая Тэадозія** // Skwarnicka Teodozja, пісьменніца, паэтэса. Жонка Ю. Скварніцкага. Рэдактар і выдавец газеты «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (1928). Сябра грамадскага клуба (Klub spoleczny) (1935). Разам з мужам пераязджала на новыя месцы службы мужа: у Астрог над Гарынню (1936), Кутна (1937). Падчас Другой сусветнай вайны жыла ў Варшаве. Пасля Варшаўскага паўстання трапіла ў канцэнтрацыйны лагер Маўтхаўзэн, адкуль была вызвалена з прычыны хваробы (1944). Маці Марка Скварніцкага – вядомага польскага паэта, драматурга, літаратара. У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі, узгадваючы пані Скварніцкую, пісаў: «była poetką natchnioną, I pisała nowele i inne utwory ...»

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 28.

**Скварніцкі Юзаф** // Skwarnicki Józef (1.10.1897–1971), вайсковец. У польскай арміі (1918). Удзельнік польска-савецкай вайны. Служыў у 41-м пяхотным палку. Пазней пераведзены ў Гродна, дзе выконваў розныя функцыі: служыў афіцэрам 76-га пяхотнага палка, ДОК III, быў камандзірам роты 81-га пяхотнага палка. Маёр (1936). Камендант Гродзенскай акругі Саюза стральцоў (Grodzieńskiej Komendy Zw. Stzrel.). Друкаваўся на старонках газеты «Wiadomości strzeleckie». Пазней пераведзены ў 37-мы полк у Кутна (1937–1939). Удзельнічаў у абароне Варшавы (1939), трапіў у нямецкі палон. У творы «Sage o Grodnie» яму прысвечаны наступныя радкі: «Kapitan ...Skwarnicki, komendant stateczny, Zawsze chodził w mundurze, jak ważna figura, I «Strzelca» często ganiał na pochód konieczny, By w nim nigdy nie gasła bojowa brawura...»

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 27; http://www.bohaterowie1939.pl/polegly,skwarnicki,Józef,7387.html.

**Скідальскі Якаў** // Skidelski Jakób, гродзенскі шахматыст. Сябра гарадскога шахматнага клуба. Пераможца чэмпіёна свету Аляксандра Алехіна, які выступаў у Гродна з сэансам адначасовай гульні ў шахматы (1935).

*Літ.:* «Mały dziennik grodzieński». 29.11.1935.

**Скіндэр Зоф'я** // Skinder Zofia (1905–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю. Працавала ў вёсках Стараўшчызна (1927–1928), Плебанаўцы (1928–1929), Індура (1929–1934). Пазней – у Гродна, настаўніцай у школе № 4 (1934–1940). З усталяваннем савецкай улады працавала ў пачатковых класах у польскай сярэдняй школе № 2 (з 15.8.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 56-56 зв.

**Скіргела Мечыслаў (Людамір ?)** // Skirgiełło Mieczysław (2.3.1883, Аўгустоў –1.9.1932), юрыст, кіраўнік гродскага суда ў Гродна. Скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1909). Стажыраваўся ў Курскім акруговым судзе. Працаваў адвакатам у Кіеўскай судовай акрузе, рэферэнтам лясной адміністрацыі ў Белавежы (Referent dyrekcji lasów państwowych w Białowieży). Пазней – міравы суддзя III-й акругі ў Гродна (з 1925). Трагічна загінуў, патануў у Нёмане.

*Літ.:* «Dziennk urzędowy ministerstwa sprawiedliwości» 15.12.1925. № 24. Str. 432; «Wieczorny kurier Grodzieński». 5.9.1932. № 96. Str. 4.

**Скомпскі Браніслаў** // Skąpski Bronisław (29.8.1886, Верхаславіцы пад Кракавым–31.5.1947, Ленборк), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра. Грамадскі дзеяч. Сын судовага чыноўніка. Вучыўся ў Кракаве ў гімназіі Св. Ганны, драматычнай школе. Пачаў выступаць яшчэ падчас вучобы. Акцёр і сакратар кракаўскага кабарэ «Filiki» (1906–1907), выступаў у Кракаве, Познані, Чанстахове. Акцёр, рэжысёр і літаратурны кіраўнік Варшаўскага малога тэатра (1912–1914). Падчас Першай сусветнай вайны – у Расіі, кіраваў групай акцёраў, якія выступалі ў Маскве (1915), акцёр польскага тэатра ў Маскве і Кіеве (1916–1917). Кіраўнік вайсковага тэатра ў корпусе Ю. Доўбар-Мусніцкага (1918), дырэктар тэатра «Мазаіка» ў Варшаве (1918), польскага тэатра ў Мінску (1919–1920), сябра ТСК. Прыбыў у Гродна ў якасці сакратара газеты «Echo Grodzieńskie» (1920). У выніку, прэзідэнт Гродна Э. Лістоўскі са згоды мясцовага тэатральнага таварыства «Муза» падпісаў з ім умову аб прызначэнні дырэктарам тэатра. Пасля кароткага перапынку ён зноў вяртаецца да кіраўніцтва тэатрам, пры гэтым значна пашырае трупу за кошт акцёраў, запрошаных з люблінскага, варшаўскага тэатраў і акцёраў з пазнанскай сцэны (1923). Распачынае арганізацыю тэатра ў Беластоку, у які таксама запрашае сталічных зорак (1924). «Непатрыятычныя» паводзіны дырэктара выклікалі новы скандал. Пазней супрацьстаянне паміж Б.Скомпскім, які ў асноўным знаходзіўся па-за горадам, і мясцовым Тэатральным саюзам, які прадстаўляў інтарэсы трупы, дасягнула свайго піку. У выніку тэатр быў перададзены магістрату. Кіраўнік тэатра ў Слоніме (1925), выступаў у віленскім тэатры «Рэдута» (1926–1927). Рэдактар газеты «Trybuna Grodzieńska» (дадатак да газеты «Nowy Dziennik Kresowy»), «Kurier Grodzieński. Trybuna» (1926), «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej» (1926). Зноў кіраваў гродзенскім тэатрам, адначасова працягваючы займацца журналісцкай працай (1927–1930). У выніку забастоўкі працоўных тэхнічных службаў і скаргаў польскіх тэатральных дзеячаў Б. Скомпскі быў адхілены ад пасады, а магістрат звярнуўся ў суд па справе яго высялення са службовага памяшкання – так званага «Дома акцёра». Пазней працаваў у тэатрах у Чанстахове, Радоме. Быў прыгавораны да шасці месяцаў арышту за фальсіфікацыю вэксаля (1936). Пасля Другой сусветнай вайны – у Жэшаве, Шчэціне, Слупску, Ленборку (1945–1947).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 177. Арк. 2, 5, 6; Там жа Спр. 200. Арк. 39 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 57 зв.-58 зв., 60, 69-70; Там жа Спр. 18. Арк. 14, 14 зв.-16 зв., 21 зв.-22; Там жа Спр. 19. Арк. 23 зв., 24 зв.; Там жа Спр. 279. Арк. 31, 53, 63, 64, 66, 80; «Dziennik kresowy». 11.08.1923. Str. 4; «Nadniemeński kurier polski». 1925. № 13. Str. 2; «Nadniemeński kurier Polski». № 69. 10.03.1925. Str. 1; «Nowy Dziennik Kresowy». 13.06.1927. Str. 4;

«Nowy Dziennik Kresowy». 14.03.1928.Str. 4; «Dziennik Kresowy». 9.11.1938. № 307; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 650; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 366; www.starybialystok.republika.pl/teatr.htm.

**Скульчык Давід** // Skułczyk Dawid (?–жнівень 1932(1931)?), адзін з кіраўнікоў камсамольскай арганізацыі ў Гродна. Забіты пры штучным кармленні ў гродзенскай турме падчас галадоўкі вязняў. Яго цела было таемна вывезена з турмы. У знак пратэсту супраць здзекаў са зняволеных у Гродна прайшлі забастоўкі.

*Літ.:* В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 280.

**Слёнскі Ян** // Śląski Jan (7.2.1891 –?), вайсковы ветэрынарны лекар. Палкоўнік. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у Польскіх легіёнах. Галоўны ветурач і кіраўнік ветэрынарнай службы ДОК III. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Саюза легіянераў, Саюза асаднікаў, Саюза стральцоў. Пазней кіраўнік ветслужбы Галоўнага камандавання (Kwatery Głównej Naczelnego Wodza). У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «W wojskowym kręgu Grodna i w cywilnych sferach Słynął wielce Pan Śląski w randze pułkownika, To Polak o wysokich i chlubnych manierach, Zdobył sobie szacunek i miano sternika. Pan Śląski to i owo czyni i doradza – Prasa często o jego zamiarach pisała. On swoje zdrowe plany w czyny przeprowadza, A w aktywie społecznym pożytecznie działa. W tym czasie, gdy «Gabinet Czarny» urzędował, Były dzielne jednostki, które go zwalczały, Pan Śląski przeciw «Czarnym» ostro występował, Tak, że wrogie czynniki ze strachu bielały...»

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 19.1.1930. № 5. Str. 5; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 36.

**Слешынскі Станіслаў** // Śleszyński Stanisław (30.6.1899, Беласток–6.7.1941, Ясле), фармацэўт. Сын Ю. Слешынскага. Скончыў шэсць класаў гімназіі ў Беластоку (1915). Служыў добраахвотнікам у польскім войску (1919–1923). Тады ж вучыўся на фармацэўтычных курсах. Атрымаў дыплом магістра фармацэўтыкі Віленскага ўніверсітэта (1926). Пасяліўся ў Гродна. Быў расстраляны немцамі за спробу перайсці мяжу Генеральнай губерні.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 454.

**Слешынскі Юзаф** // Śleszyński Józef (?–1937), вайсковы хірург. Палкоўнік. Працаўнік вайсковага шпіталя ў Гродна, ардынатар хірургічнага аддзялення. Рашэннем Гродзенскай гарадской Рады некалькі аддзяленняў гарадскога шпіталя павінны былі пераехаць у будынак доктара па вул. Bosniacka, (1937). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Sleszyński, chirurg głośny, ma wielkie wawrzyny, Robił cięcia cudowne i rozgłos szeroki. Furmanki nieraz stały dniami i nocami, Chorzy długo czekali na chirurga rączkę, Sleszyński wszystkich darzył swymi lancetami, Aż wypędził chorobę i zgasił gorączkę». Пахаваны на вайсковых могілках.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 123 зв.; «Głos grodzieński». 1938. № 60. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 47.

**Слупскі Олаф** // Słupski Olaf, акцёр гродзенскага тэатра (1937–1938). Выступаў у тэатрах Плоцка і Варшавы. Быў прыгавораны да шасці месяцаў арышту з адтэрміноўкай і штрафам за збіццё гродзенскага акцёра Пялінскага (1938). Мясцовая газета, апісваючы гэты выпадак, дадавала: «Здаецца, гэта адзіны вядомы выпадак, калі «дыскусія» на тэму мастацтва сталася непасрэдна прычынаю амаль... калецтва». Хутчэй за ўсе, загінуў падчас Варшаўскага паўстання.

*Літ.:* «Głos grodzieński». 1938. № 70. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 24.11.1938. № 322; «Dziennik

kresowy». 8.12.1938. № 334; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 659.

**Слусарчык Юзаф** // Ślusarczyk Józef, рэдактар першага нумара газеты «Postęp», якую выдала мясцовая арганізацыя ППС (1929).

*Літ.:* M. Ciećwierz. Prasa Polskiej Partii Socjalistycznej w regionie białostockim w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1990. № 1(17). Str. 11.

**Слядзеўскі Я.** // Śledzewski J., былы калежскі сакратар у Пс396коўскай губернскай турэмнай інспекцыі. Кіраўнік гродзенскай турмы (1922–1923). Атрымаўшы грошы за некалькі месяцаў наперад, «знік у невядомым накірунку». Быў аб'яўлены ўладамі ў вышук.

*Літ.:* В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 324, 332.

**Смазановіч Маісей** // Smazanowicz Mojżesz (?–1942 (?), Гродна), інжынер, архітэктар. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской управе (Stadtverwaltung Grodno), быў архітэктарам у будаўнічым аддзеле. Расстраляны ў гета. Жыў па вул. Horodniczańska, 30 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1, Воп. 1, Спр. 181, Арк.25; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Смолка Казімір** // Smolka Kazimierz, кіраўнік адміністрацыі маёнтка Station Станіслававова (Administracja dóbr Stanisławów) (на 1937). Сябра Камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Żytnia, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. СПр. 26. Арк. 10; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4.

**Смольскі Барыс** // Smolski Borys (1894, Гродна–?), грамадскі дзеяч. З дваран. Скончыў чатыры класы гімназіі. Працаваў інтэндантам пры гарадскім упраўленні. Сакратар, пазней старшыня Таварыства праваслаўных палякаў у Гродна. Сябра рэвізыйнай камісіі Таварыства падафіцэраў запасу (Związek podoficerów rezerwy w Grodnie) (1939). Арыштаваны органамі НКУС (11.10.1939). Быў асуджаны па артыкулу 74 УК БССР на пяць год працоўных лагераў (3.1940). У Гродна жыў па вул. Rydza-Śmigłego.

*Літ.:* Dziennik kresowy». 30.3.1939. № 89. Str. 4; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 84-86, 92.

**Смольскі Мікалай** // Smolski Mikołaj, праваслаўны святар. Протаіерэй. Настаяцель Пакроўскага сабора ў Гродна (1927–1930).

*Літ.:* В. Черепица. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 243.

**Смялоўскі Станіслаў** // Smiałowski Stanisław, ксёндз. Выкладаў каталіцкую рэлігію ў гімназіях (канец 1930-х).

*Літ.:* Л. Міхайлік. Каталіцкі касцёл у грамадскім і палітычным жыцці Гродна ў 1921 – 1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI – XX стст. Минск, 2011. Ст. 451; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 335.

**Снітко Канстанты** // Snitko Konstanty, капітан. Сябра павятовага аддзялення ЛОПП, Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Konstanty Snitko zasnął w Bydgoszczy przytomnie, I o Grodnie swym mówił do ostatniej chwili, I prosił Ostrowskiego, i innych ogromnie, By na cmentarzu w Grodnie kiedyś go złożyli. Przyrzekli to uczynić, lecz w stosownym czasie, A obecnie w Bydgoszczy pod brzozą spoczywa, I szumi jemu brzoza, niechaj jemu zda się, Że to szumi na Niemnie fala mu życzliwa». Жыў па вул. 11-га Listopada, 13 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 81.

**Собаль Іахім (Хаім)** // Sobol Joachim (1889–?), лекар. Спецыяліст – акуліст і оталарынголаг. Жыў па вул. Horodniczańska, 27 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 61.

**Спакойная Хая** // Spokojna Chaja (1893–?), настаўніца. Скончыла гімназію ў Гродна, педагагічныя курсы (1915–1915, 1940). Працавала

настаўніцай у Орлі (1915–1918), пасля ў Гродна. Працавала ў школе «Талмуд-Тора» (1918–1922), дзіцячай калоніі ў Гродна (1929–1933), давала прыватныя ўрокі (1933–1939), выкладала ў вячэрняй школе (1939–1940), няпоўнай сярэдняй школе № 20 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 80-80 зв.

**Сперскі Баляслаў** // Sperski Bolesław (1871, Канчын–1951, Верхнеўральск), ксёндз-капелан. Вучыўся ў гімназіі ў Вільні, Віленскай дыяцэзіяльнай духоўнай семінарыі і духоўнай акадэміі ў Пецярбургу. Атрымаў дыплом магістра тэалогіі (1897). Выкладаў у Віленскай семінарыі (1897–1902), быў пробашчам у парафіях Жырмуны (1902–1906), Жалудок і Ліпнішкі (1906–1915), пробашчам і дэканам у Кобрыне (1918–1920), часовым адміністратарам парафіі Скотнікі ў Сандамірскай дыяцэзіі (1920–1921). Пазней вярнуўся ў Віленскую архідыяцэзію (1921), быў Ваўкавыскім дэканам. На старонках гродзенскай газеты «Nowe Życie» звярнуўся да паслоў Сейма з адкрытым лістом па справе пазбаўлення касцёла маёмасці (1924). Гродзенскі дэкан, пробашч парафіі Св. Францішка Ксаверыя (з 1927). Старшыня фарнага каталіцкага дабрачыннага таварыства і прытулка Св. Юзафа для дзяўчат (1927–1931). Старшыня акруговага выбарчага камітэта польскага каталіцкага блока (1928). Асвяціў дзіцячую паліклініку па вул. Кірхавай (1927). Пераведзены ў Вільню (1931–1941). З пачаткам савецка-нямецкай вайны накіраваны ў Мінск, дзе праз тыдзень быў арыштаваны гестапа і адасланы зноў у Вільню. Разам з групай іншых каталіцкіх святароў удзельнічаў у дапамозе яўрэям. Арыштаваны немцамі (1942). Быў зняволены ў турме ў Лукішках і лагеры ў Шалтупах. Пасля вызвалення – пробашч у Вільні, праводзіў місіянерскую працу на тэрыторыі БССР – у Бабруйску, Оршы, Магілёве (1944–1945). Арыштаваны ў Вільні органамі савецкай бяспекі (1946). Асуджаны па арт. 58-11 УК СССР на пяць год лагераў (1947). Памёр у турме. Л. Саванеўскі ў кнізе «Saga o Grodnie» прысвяціў яму наступныя радкі: «Bolesław Sperski żwawy, kapłan wojowniczy, Który Polsce z Hallerem przybył ku pomocy, Zakończył swoje dzieje na więziennej pryczy I dla Polski uprasza niebieskiej wszechmocy».

*Літ.:* «Nowe życie». 1924. № 5. Str. 3; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 307. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź–Białystok, 1999. Str. 18; R. Dzwonkowski. Leksykon duchowieństwa polskiego, represjonowanego w ZSRR w 1939-1988, Lublin 2003. STr. 544-547; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 357.

**Ставецкая (Ставіцкая) Зоф'я** // Stawecka Zofia (1903–?), настаўніца. Атрымала сярэднюю адукацыю. Скончыла настаўніцкую семінарыю, праслухала настаўніцкія курсы (1939, 1940). Працавала ў школе ў Ланцуцкім павеце (1922–1923), гродзенскай школе № 1 (1923–1940), настаўніцай пачатковых класаў польскай сярэдняй школы № 19 у Гродна (1940).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 57-57 зв.

**Ставецкі Юзаф** // Stawecki Józef, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) Гродзенскай гарадской Рады (1934-1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937), Таварыства былых вайсковых добраахвотнікаў (związek b. Ochotników wojennych) (1939). Жыў па вул. Zielna /Ceglana, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Dziennik kresowy». 18.3.1939. № 77. Str. 2.

**Станецкі Гілель (Хешель)** // Staniecki Hilel (Heszel), загадчык яўрэйскіх могілак па вул. Грандзіцкай (1922). Сябра праўлення Гродзенскай Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ад гаспадарчай фракцыі (на 1931).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56, Воп. 1, Спр. 79, Арк.17. В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125.

**Станкевіч-Каліноўская Марыя** // Stankiewicz-Kalinowska Maria (?, в. Гарадкі Валожынскага пав.–?), настаўніца. Прыехала па даручэнні Віленскага БНК у Гродна на пасаду загадчыцы беларускага прытулка замест хворай С. Буйло (1921).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 224.

**Станская-Атовіч Клаўдзія** // Stańska-Ottowicz Klaudja (1888–?), урач, хірург. Спецыяліст па ўнутраных захворваннях. Хірург 1-й гарадской амбулаторыі (на 1941). Грамадская дзячка. Сябра Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над зняволенымі «Патранат» і РДТ у Гродна, старшынёй якога яна была нейкі час (1925). Удзельніца «гродзенскай» літаратурнай серады ў Вільні (1929). Жыла па вул. Listowskiego, 29.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 59; «Gazeta Polska ziemi Grodzieńskiej». 14.12.1929 № 46; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 359, 363.

**Старавольскі Лазар** // Starowolski Łazarz (?–1941(?)), купец. Сын Нахіма Старавольскага. Вучыўся ў Харкаўскім тэхналагічным існтытуце, стажыраваўся ў Германіі. Наладзіў на фабрыцы Старавольскіх выпуск матаролераў і матацыклаў. Быў арыштаваны і загінуў у турме ў Беластоку. У Гродна жыў па вул. Bienieckiego, 4 (1937).

**Старавольскі Нахім (Навум)** // Starowolski Nochim (1870–каля 1983), прадпрымальнік. Першапачаткова займаўся гандлем. Заснаваў слясарную майстэрню (1894), якая пасля стала фабрыкай веласіпедаў і матацыклаў «Нёман» (Kresowa fabryka rowerów i motocykli Nieman). Быў абраны ў Касу хворых (1926). Высланы савецкімі ўладамі разам з сям'ёй у Казахстан (13.4.1941). Пазней – у Ізраілі (з 1948). У Гродна жыў па вул. Bienieckiego, 4.

*Літ.:* «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 340; F. Zandman. Nigdy nie gaśnie nadzieja. Warszawa, 2005. Str. 57.

**Старынкевіч** // Starynkewicz, артыст. Кіраўнік кабарэ, якое выступала ў гродзенскай рэстаўрацыі «Еўропа» (на 1932). Паводле адной з мясцовых газет, кабарэ прыцягвала даволі вялікую колькасць самых розных гледачоў . Яго праграма была «разнастайнай, гумарыстычнай, вытраманай у добрым гусце».

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.6.1932. № 4. Str. 4.

**Сташкевіч Дамінік** // Staszkewicz Dominik (18.5.1889, Вільня–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Францішак і Зоф'я Аўсюкевіч. Добраахвотнікам удзельнічаў у польска-савецкай вайне (7.7.1920–2.1.1921). Скончыў гуманітарную гімназію (1921), факультэт права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта (1925). Судовы стажор апеляцыйнага суда ў Вільні (1926), стажор акруговага суда ў Гродна (1926). Здаў экзамен на суддзю (1927). Намеснік міравога суддзі і следчага суддзі Гродзенскай судовай акругі (1927). Прызначаны выконваючым абавязкі міравога суддзі акруговага суда ў Грод-



на (26.11.1927). Міравы суддзя ў Косава (1929). Следчы суддзя ў Слоніме (1931) і Гродна (з 1934). Суддзя грамадзянскага аддзела Гродзенскага акруговага суда (1934). Пазней – акруговы следчы суддзя ў Слоніме (з 1937). Быў жанаты з Чаславай Савіцкай (з 1928). Меў сына Станіслава (1930).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2815. ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; «Dziennik urzędowy ministerstwa sprawiedliwości». 2.1.1928. № 1. Str. 23.

**Сташэўскі Казімір** // Staszewski Kazimierz (?–1939), купец, інжынер (?). Падчас польска-савецкай вайны пайшоў добраахвотнікам на фронт. Паручнік рэзерву 4-га палка Занёманскіх уланаў. Вайсковы асаднік. Атрымаў канцэсію на алкагольную краму. Пазней адчыніў фірму «Лех», якая займалася мэбляй і мануфактурай. Гаспадар крамы «Склад сукна фабрык Бельскіх і склад футраў» (Skład sukna fabryk Bielskich i skład futer). Сябра праўлення і апошні перадваенны старшыня Саюза польскіх купцоў у Гродна (Związek kupców polskich w Grodnie). Сябра добраахвотніцкай пажарнай каманды (Ochotniczej straży pożarnej). Магчыма, сябра рэвізійнай камісіі спартыўнага клуба «Cresovia» (1925), вяслярнага клуба, праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Zw. Strzelecki) (1933). Супрацоўнічаў з Таварыствам па падтрымцы будоўлі грамадскіх агульных школ (Towarzystwo Popierania Budowy Publicznych Szkół Powszechnych). Загінуў у пачатку Другой сусветнай вайны.

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.5.1933. № 120. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 96; W. Renik Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // «Magazyn Polski». 2003. № 26. Str. 29.

**Струпінскі Эдвард** // Strupiński Edward (каля 1894–?), чыноўнік. Кіраўнік тэлеграфна-тэлефоннага ўпраўлення (naczelnik urzędu telefoniczno-telegraficznego) (на 1937). Абраны у Гродзенскую гарадскую Раду ад спіса хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Grandzicka, 28. Нейкі Струпінскі Казімір, паводле кнігі «Памяць», быў расстраляны на 2-м Форце каля в. Навумавічы (1943).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 23; Там жа Спр. 26, Арк. 2; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Студніцкая-Казлоўская Яніна** // Studnicka-Kozłowska Janina (18.10.1890, Люблін–7.8.1972, Срэме), дырэктар архіва. З сям'і чыноўніка. Першапачатковую адукацыю атрымала ў Любліне, пасля яе сям'я пераехала ў Пецярбург (1902), дзе яна працягвала самаадукацыю ў сферы гуманітарных навук (1907–1911). Тады ж далучылася да кола кракаўскіх даследчыкаў з Акадэміі мастацтваў, якія займаліся пошукам палонікумаў у мясцовых зборах. Пасля смерці бацькі (1914) пераехала ў Вільню, дзе ў хуткім часе выйшла замуж за мясцовага архівіста Вацлава Гізберт-Студніцкага і пачала працаваць у архіве. Сябра Віленскай археалагічнай камісіі. Апекавалася архіўнымі зборамі падчас нямецкай акупацыі. Была арыштавана немцамі і на некалькі месяцаў трапіла ў турму (1917). Працавала ў Любліне (1918–1919), аднак пазней зноў вярнулася ў Вільню. Прызначана дырэктарам дзяржаўнага архіва ў Гродна (1.8.1919) (афіцыйна – дырэктар гродзенскага архіва з 1.7.1924 па 20.12.1939). Ініцыятар адкрыцця аддзела Польскага гістарычнага таварыства ў Гродна і гістарычнай бібліятэкі (Biblioteki historycznej) (1937). Адначасова з ад'ездам з горада Ю. Ядкоўскага ўзяла на сябе ролю галоўнага гарадзенскага гісторыка, што добра бачна нават па тэмах яе выступленняў на пасяджэннях гістарычнага таварыства: «Мэты, патрабаванні і сродкі даследавання гісторыі Гродна», «У Гродна сто год таму», «У Гродна падчас студзеньскага паўстання». Выступіла ў якасці

эксперта Камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага таварыства апекі над мастацтвам, культурай і прыроднымі каштоўнасцямі «Лехія» (zarząd oddziału grodzieńskiego wojewódzkiego Towarzystwa opieki nad sztuką, kulturą i zabytkami przyrody «Lechia») (1930). Вяла перапіску з Беластоцкім ваяводскім упраўленнем наконт надання населеным пунктам польскага гучання. Аднак, як падаецца, яе спробы ўплываць на працэс пошуку гістарычных звестак не знайшлі падтрымкі ў Беластоку. Пазней арыштавана органамі НКУС і вывезена ў Сібір (1940), адкуль перасялена ў Паўднёвы Казахстан (1941). Пасля вяртання ў Польшчу працавала ў курніцкай бібліятэцы (1946), пазнанскім архіве (1948). На пенсіі (1951). У сваёй кнізе «Saga o Grodnie» Л.Саванеўскы назваў яе «другой Элізай Ажэшкай», прысвяціўшы наступныя радкі: «Studnicka, Pani dzielna, Janina z Archiwum, Musi teraz na szpaltach Sagi figurować, Bowiem praca jej godna wielkiego podziwu, Toteż trzeba ją w piękne barwy podmalować. Zobaczcie więc, ludziska, co to człowiek może, Patrzcie, czego Studnicka w Grodnie dokonała. Na polu archiwalnym ona orze, orze, Aż z tej orki w archiwach forteca powstała. Forteca czynów polskich, polskich dokumentów, Prasy polskiej i książek, i dzieł grube tomy, I cennych, bardzo rzadkich dawnych monumentów, Białych kruków i druków spróchniałe atomy. Od Króla Ćwieka dziejów aż po dzieje Rydza, Wszystko tutaj znajdziecie walnie zgromadzone, Wspaniały pokarm ducha i pejzaż dla widza, Dziecię Pani Studnickiej, dla was narodzone. Studnicka to osoba nader wyjątkowa, Człowiek wielkiej kultury, Pani twórczej siły, I słusznie o niej mówią – druga Orzeszkowa, To charakter wspaniały i osobnik miły. O Pani, gdy to czytasz, gorycz jesz i pijesz, Ale zabierz te zwrotki na pamiątkę sobie I czytaj, kiedyś smutna, jeśli tylko żyjesz, Ale jeśli nie żyjesz, sława wieczna Tobie... A to drugi potomek, syn Studnickiej Pani, Nie, to raczej jej córka i to bardzo śliczna, Zrodzona na książkowej przepięknej przystani, Jest to biblioteka wielka historyczna. Ma ona aż sześćdziesiąt tysięcy numerów I wylicza przeróżne narodowe czyny, Od Popielą tętniących echa dawnych szmerów Do ostatniej nabrzmiałej tragizmem godziny. I znane Towarzystwo Historyczne w Grodnie, Dziecię trzecie Studnickiej, piękne i wspaniałe, I ono pracowało dobrze i dorodnie, Dając Pani Studnickiej sukcesy niemałe. Pragnęła jeszcze zrodzić jednego syneczka, Chciała bardzo dla Grodna – Uniwersytetu, Zabrakło jednak wkrótce miejsca dla łóżeczka, Nie starczyło też matce siły do odwetu». У Гродна жыла ў будынку архіва.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; Там жа Ф. 104. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 15, 18; Там жа. Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 1-2, 13-16; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 23; «Przegląd Kresowy». 11.4.1930. № 76; Słownik biograficzny archiwistów polskich. 0 Tom. 1 (1918–1984). Warszawa-Łodz, 1988. Str. 114–116; J.J. Milewski. Janina Kozłowska-Studnicka – kierownik Archiwum Państwowego w Grodnie w okresie międzywojennym // «Białostocczyzna». 1998. № 1. Str. 80-84; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 41-42.

**Студнярэк Раман** // Studniarek Roman (каля 1890 – ?), пенсіянер. Сакратар кола былых палітычных вязняў (Koło byłych więźniów politycznych) (1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую раду ад ППС і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Witoldowa, 22.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; Там жа Ф. 114. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1.

**Ступель Ізраэль (Стэпель Лейзер)** // Stupel Izrael (1887–?), купец. Віцэ-старшыня праўлення Гродзенскай яўрэйскай абшчыны ад блока гаспадарчага аб'яднання (1932). Праз год, аднак, выйшаў са склада праўлення. Жыў па вул. Horodniczańska, 11 (1932).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 16. «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.4.1933. № 109. Str. 4;»Wieczorny

kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 123.

**Стучынскі Гдаля** // Stuczynski Gdala, настаўнік. Жыў па вул. Horodniczańska, 21 (1937).

**Стшалевіч Цітус** // Strzelewicz Tytus (1910–?), ксёндз–францысканец. Высвечаны (1934). Працаваў у парафіі Маці Божай Анельскай (за Нёманам). Падчас акупацыі быў капеланам і дарадчыкам гродзенскай моладзевай падпольнай арганізацыі «Szare Szeregi».

**Стэмпнеўскі Збігнеў** // Stępniewski Zbigniew (2.1.1910 – 1940, Старабельскі лагер ці Харкаў), фармацэўт. Сын Э. Стэмпнеўскага. Скончыў гімназію ў Гродна (1929), фармацэўтычнае аддзяленне Варшаўскага ўніверсітэта (1934). Працаваў у Гродна. Намеснік старшыні выбарчай камісіі № 3 падчас выбараў у Гродзенскі гарадскі савет (1939). У якасці падпаручніка рэзерву прымаў удзел у Вераснёўскай кампаніі (1939). Арыштаваны органамі НКУС (1940). Расстраляны. У Гродна жыў па вул. Jerozolimska, 4-1.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 17; F. Ignatowicz Aptekarz i prezydent Grodna. Do 130-lecia Edwarda Stępniewskiego // «Głos znad Niemna.» 30.10.2009. Str. 14; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 3. Naczelna Izba Lekarska, Wrocław 2003. Str. 341-342.

**Стэмпнеўскі Эдвард** // Stępniewski Edward (13.10.1879, Санцыгнаў, Келецкае ваяводства–1944, канцэнтрацыйны лагер Штутгаф), фармацэўт, прэзідэнт Гродна (1922–1927). Скончыў чатырохкласную прагімназію ў Піньчаве. Быў вучнем аптэкара. Здаў экзамен на памочніка аптэкара ў Варшаўскім імператарскім універсітэце (1899). Атрымаў дыплом фармацэўта (1905). Працаваў у Любліне, Згерзу, Варшаве. Пераехаў у Гродна, дзе ўзяў у арэнду т.зв. езуіцкую аптэку. Далучыўся да актыўнага грамадскага жыцця. З'яўляўся адным з заснавальнікаў і сябрам праўлення таварыства драмы і музыкі «Муза», у якім адказваў за драматычны гурток (з 1907). Разам з Таварыствам Чырвонага Крыжа быў арганізатарам дабрачынных слоўна-музычных прадстаўленняў. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у расійскім войску. Прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі польскіх аддзелаў на тэрыторыі Расіі. Пазней вярнуўся ў Гродна (1918). Праз пэўны час набыў у горадзе яшчэ адну аптэк. Быў адным з арганізатараў і віцэ-старшынёй мясцовага Польскага дэмакратычнага камітэта. Некаторы час з'яўляўся рэдактарам газеты «Echo». Удзельнічаў у выбарах у польскі Сейм, аднак атрымаў толькі трыста галасоў. У сваім выступленні на Гродзенскім павятовым сейміку падкрэсліваў неабходнасць сяброўства паміж палякамі, літоўцамі і беларусамі, паміж каталікамі і праваслаўнымі (1919). Сябра гарадской Рады ад аб'яднання польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Адзіны з радных выступіў супраць пераводу прастытутак з цэнтральных вуліц горада на ўскраіну, палічыўшы, што такое рашэнне «нерацыянальнае» і справу не змяняе. Пры гэтым, аднак, неаднаразова востра выказваўся адносна яўрэйскай часткі насельніцтва. Выконваў абавязкі намесніка старасты Гродзенскага павета (з 1921), быў старшынёй камітэтата бяспекі і кіраўніком аднаго з аддзелаў. Прэзідэнт Гродна (17.7.1922–1927). Шмат увагі надаваў адбудове гарадской гаспадаркі, якая моцна пацярпела ад вайны, развіццю асветы і сацыяльнаму забеспячэнню. Пры яго падтрымцы выдаваліся статыстычныя агляды Гродна, былі адчынены гістарычны музей і музей прыроды. Сябра выканаўчага камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925). За падтрымку і развіццё гродзенскім тэатрам польскай культуры Прэзідэнт Польшчы Э. Вайцяхоўскі выказаў Э. Стэмпнеўскаму публічную падзя-

ку. У сувязі з унутраным крызісам у гарадскім самаўрадзе Гродна заявіў аб сваёй адстаўцы (1926). Паводле мясцовых газет, з'яўляючыся кіраўнікам горада, ён ніколі не выкарыстоўваў пасады дзеля асабістага інтарэсу. З нагоды яго канфлікту з мясцовымі прадстаўнікамі беспартыйнага блока у адной з гродзенскіх газет у рубрыцы «Sylwetki znakomitości grodzieńskich» быў надрукаваны наступны верш: «W Batorowym cnym Grodnie, zajął Edzio wygodni Burmistrowskie i urząd i stolec Z rzekomego kochania, choć wszak zdrów był jak łania Wkótce musiał biedaczek on polec... Więc stęsknieni grodnianie, urzadzili zebranie I znów Edzia na stolec wsadzano. Że wart, każdy to powie, ale nasi «Bebowie» I tym razem mu dali kolano... Za co – każdy zapyta – Edzio znowu banita? Eh – nietrudna to wszak jest zagadka: Bo tam któraś brygada, chórem zgodnym powiada, Że zbyt mało pokochał on... Dziadka Znowóż wiec się wyłąnia, stara kwestja kochania, Choć wszak obcą jest ona dla sprawy... Lecz że Edzio znów godnie, stolec zajmie swój w Grodnie, Jestem pewien, mój panie łaskawy...» Пазней – сябра фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) Гродзенскай гарадской Рады (1934–1939), некалькі разоў абіраўся намеснікам старшыні Рады. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Старшыня павятовага праўлення ЛОПП. Быў мабілізаваны ў войска (1939). Разам з 3-м ваяводскім шпіталем быў інтэрнаваны ў Літве. Пазней яму ўдалося ўцячы з савецкага лагера, пэўны час ён хаваўся ад савецкай, а пазней ад нямецкай улады. Вярнуўся ў Гродна і зноў працаваў у аптэцы (1944). За дапамогу АК быў вывезены немцамі ў лагер Штутгаф, дзе, ужо ў якасці вязня № 34519, усяго праз тыдзень памёр. Меў жонку Марыю і трох сыноў: Януша (1905), Вацлава (1908) і Збігнева (1910). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Dzierżawcą tej apteki i jej gospodarzem Był pan Edward Stępniewski, w Sadze opisany, I długie lata dzielnym był Grodna włodarzem, Za te wszystkie zasługi piaskiem posypany». У яго гонар была выдадзена паштоўка (2000). У будынку Гродзенскага выканкама знаходзіцца яго партрэт. Жыў па вул. Piłsudskiego, 23 (1924); Pl. Batorego, 8 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 259 зв., Там жа Спр. 98, Арк. 10; Там жа Спр. 188. Арк 43; Там жа Спр. 284 Арк. 86 зв.-87; Там жа Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 23; Там жа Спр. 3. Арк. 15; «Dziennik Grodzieński». 18.5.1922. № 74. Str. 3; «Dziennik Kresowy». 6.8.1924. Str. 4. «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; «Przegląd kresowy». 28.1.1930. № 12. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik kresowy». 2.2.1939. № 33. Str. 3; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 49; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496; F. Ignatowicz Aptekarz i prezydent Grodna. Do 130-lecia Edwarda Stępniewskiego // «Głos znad Niemna». 30.10.2009. Str. 14; W. Renik Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // «Magazyn Polski». 2003. № 26. Str. 25; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 3. Naczelna Izba Lekarska, Wrocław 2003. Str. 341; http://pl.wikipedia.org/wiki/Edward_Stępniewski.

**Стэфановіч Аляксандр** // Stefanowicz Aleksander (30.11.1905, Гальшаны–1994, Вільня), камуністычны дзеяч. Сувязны камуністычнага дыверсійна-партызанскага атрада на Віленшчыне (1921–1924). Сакратар Гродзенскага павятовага камітэта БСРПК «Змаганне» (1929). Актывіст КПЗБ. Кіраваў камсамольскай арганізацыяй на Ашмяншчыне. Пазней у СССР. Зняволены ў савецкім лагеры (1936–1946). Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Вільні.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 225.

**Стэфановіч Юльян** // Stefanowicz Julian (1884–?), ксёндз. Скончыў Віленскую семінарыю. Высвечаны (1910). Выкладаў рэлігію ў сярэдніх школах Гродна (на 1938).

**Стэфановіч-Навіцкая Адэля** // Stefanowicz-Nowicka Adela (каля 1879 –?), грамадска-палітычная дзеячка. Уладальніца нерухомасці. Кіраўнік санітарнага аддзела пры мясцовай ПАВ (1919). Павінна была заняць месца К. Лашкевіча ў Гродзенскай гарадской Радзе (1932). Сябра Рады ад фракцыі грамадска-гаспадарчага блока (frakcja bloku społeczno-gospodarczego) (1934–1939). Сябра тапанімічнай камісіі. Выказвалася за тое, каб пра дыскусію вакол назваў вуліц паведамлялі ў прэсе і каб грамадскасць таксама аб гэтым ведала. Кандыдатка на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Старшыня кола полек (1923). Сябра праўлення Гродзенскага Саюза стральцоў (Związku strzeleckiego) (1935), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Выступіла публічна супраць рашэння гарадской Рады аб адмене субсідыі мясцоваму музычнаму таварыству. Жыла па вул. Garnczarska, 6 (на 1937–1939). У дакументах таксама сустракаецца Стэфановіч Адэля (1911, Гродна), настаўніца, скончыла настаўніцкія курсы (1932), працавала ў школе № 8 (1944). Жыла па вул. Каліноўскага, 37 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 282. Арк. 2 зв.-3, 8-8 зв.; Там жа Спр. 285. Арк. 107; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 46; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 23; Там жа Спр. 3. Арк. 15; Там жа Ф. 1087. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 314; «Echo Grodzieńskie». 5.4.1923. № 57. Str. 3; «Wieczorny kurier Grodzieński». 9.9.1932. № 100. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Głos Grodzieński». 1939. № 32. Str. 4; «Dziennik kresowy». 5.2.1939. № 36. Str. 2; E. Skrobocki. Polska organizacja wojskowa w Grodnie w latach 1918-1919 // «Magazyn polski». 2003. № 3. Str. 31.

**Сулеўскі Баляслаў (Войцех?)** // Sulewski Bolesław (Wojciech?) (1904, Кацярынаслаў–?), настаўнік матэматыкі. Скончыў гімназію; матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1931). Працаваў у ліцэі і гімназіі імя Г. Сянкевіча ў Гродна (з 1933). З усталяваннем савецкай улады – настаўнік матэматыкі ў польскай сярэдняй школе № 2. Падчас нямецкай акупацыі – рахункавод на тытунёвай фабрыцы. Настаўнік сярэдняй школы № 3 (на 1944). Жыў па вул. Грандзіцкай, 4/2 (на 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 39; Там жа Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 57-57 зв.; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 43.

**Сулеўскі Мікалай** // Sulewski Mikołaj (1859, м. Грандзічы–1939), вайсковец, генерал. Скончыў афіцэрскую школу артылерыстаў у Пецярбургу. У царскім войске (з 1878), служыў у палявой артылерыі ў Гродна. Удзельнік руска-японскай вайны. Камандуючы артдывізіёнам у Аліце і Вільні. Падчас Першай сусветнай вайны – камандуючы брыгадай і дывізіяй. Інспектар 2-га польскага корпуса (1917). Пазней вяртаецца ў Гродна (1918). Адзін з арганізатараў Гродзенскай самаабароны (1918). Служыў у Гродзенскай крэпасці (да 30.11.1919). Генерал брыгады (1.6.1919). У адстаўцы (з 1.6.1920). Старшыня часовага камітэта Саюза былой Гродзенскай самаабароны (1931).

*Літ.:* P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 321; M. Jackiewicz. Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w.-1945. Bydgoszcz, 2010. Str. 386.

**Сулістроўскі Казімір** // Sulistrowski Kazimierz (1885–1955), прэзідэнт (камісар) (1933–1934) Гродна. Сын варшаўскага прамыслоўца Казіміра Сулістроўскага (1838–1910) і Тэклі з Порай-Жэзніцкіх (Poraj-Rzeźnickich). Часовы кіраўнік самаўрада Гродна (tymczasowy przelozony Gminy miasta Grodna) замест М. О'Брыена дэ Ласі. Фактычна, выконваў абавязкі прэзідэнта (1933–1934). У сваёй першай прамове на новай пасадзе асабліва падкрэсліў прыгажосць горада і яго адметнае мінулае. Асобна ён звярнуўся да прадстаўнікоў мясцовай прэсы з просьбаю быць вельмі вострай і «дробязнай крытыкай не перашкаджаць у

працы самаўраду». Пазней – прэзідэнт Каліша (Kalisz) (1934). Быў жанаты з Ядвігай Марыяй з Алізараў (Jadwigą Marią z Olizarów).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 281. Арк. 219; Там жа Спр. 282. Арк. 1; http://pl.wikipedia.org/wiki/Kazimierz_Sulistrowski

**Сурмач Антоні** // Surmacz Antoni, адказны рэдактар газеты «Nasza Ziemia» (1927).

**Суровец Ф.** // Surowiec F., віцэ-старшыня Гродзенскай рады павятовага праўлення АЗОНа (1939).

*Літ.:* **ДАГВ** Ф. 142. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 7-73в.

**Сухаўлянскі Аўсей** // Suchowlanski Ausej (Yehoshua) (каля 1890, Гродна–1942, Гродна), лекар, грамадска-палітычны дзеяч. Загадчык яўрэйскага шпіталя. Адзін з заснавальнікаў яўрэйскага дзіцячага прытулка. Сябра Паалей-Цыёна. Прадстаўнік ад яўрэйскага камітэта ў часовым гарадскім камітэце (1918). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага яўрэйскага сацыялістычнага блока (1919–1927). Пазней – сябра яўрэйскай фракцыі рады. Разам з радным Бадашам прапанаваў перайменаваць вуліцу Паліцэйскую ў вуліцу 1-га Мая. Падчас савецкага панавання працаваў у т.зв. «лектарскім бюро» ў якасці выкладчыка арыфметыкі (1920). Чарговы раз быў абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927). Лаўнік гродзенскага магістрата, кіраўнік фінансава-падатковага аддзела. Віцэ-прэзідэнт Гродна (1931). Сябра камісіі, якая мела на мэце абарону статусу Гродна, як «горада, не выдзеленага з павета», савета дырэктараў яўрэйскіх прытулкаў і яўрэйскага шпіталя. У міжваенны час прымаў актыўны ўдзел у працы яўрэйскай абшчыны, падтрымліваў розныя яўрэйскія грамадскія ўстановы. Віцэ-старшыня праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага Таварыства апекі над яўрэйскімі сіротамі (Grodzieńskie wojewódzkie towarzystwo opieki nad sierotami żydowskimi) (1930). Сябра ТОЗ (1923), скарбнік павятовага праўлення ЛОПП (1937), камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Сябра выбарчай камісіі № 6 падчас выбараў у гарадскую Раду (1939). Падчас Другой сусветнай вайны быў пераселены на тэрыторыю гета № 1. Узначальваў фінансавы аддзел пры юдэнраце. Адароны эканаміст і стоўп гетаўскай гаспадаркі, здолеў пакрыць вялізныя юдэнратаўскія выдаткі. Памёр ад тыфу. А. Тарлоўскі, які таксама быў у гета, пісаў пра А. Сухаўлянскага: «Ён быў чалавекам надзвычайнай чысціні, як крышталь, у нейкім сэнсе, ён быў яўрэйскім арыстакратам. Мы амаль зрабіліся сваякамі. Мой сын і яго дачка любілі адно аднаго. Аднак майго сына і яго дачкі ўжо няма ў жывых, як і яго таксама...» Жыў па вул. Napoleona, 24.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 18; Там жа. Спр. 3. Арк. 64 зв.-65; Там жа Спр. 4. Арк. 67; Там жа Спр. 5. Арк. 177; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 1; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 41; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 18.1.1930. № 4; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4. Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 5, 6; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str.18; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Abba Tarlowski. Grodner Judenrat (in Yiddish) // Journal of the Grodno Association in Israel. 1958. P. 27-28; Leib Reizer Maine Lerer» (in Yiddish, «My Teachers») // Grodner Apklanken. 1956. P. 15-16; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 412-413.

*Р. Маркус*

**Сухціцкі Казімір** // Suchcicki Kazimierz (8.11.1882, Пятрова–4.1940, Катынь), ксёндз-дэкан. Скончыў духоўную семінарыю; быў пасвечаны ў святары (1905). Вікарый у розных парафіях на Мазовіі (1905–1919). Вайсковы капелан (з 1919). Служыў у

вайсковых парафіях у Львове, Торуні і Лодзі. Кіраўнік вайсковых капелан (służby duszpasterstwa) пры ДОК III у Гродна (1927–1934). Атрымаў званне падпалкоўніка. Удзельнічаў у святочным асвяшчэнні лодак вяслярнага клуба «Гродна»(1927). Сябра камітэта адбудовы замка (Kuratorium Zamkowe). Асвяціў адноўлены мост праз Нёман (27.11.1930). Трапіў у савецкі палон, дзе быў забіты.

*Літ.:* «Nowe życie». 1928. № 65; «Nowy dziennik Kresowy». 25.11.1930. № 327. Str. 4; M. Limanowski. W Grodnie kopie Jodkowski // «Słowo». 1937. № 153. Str. 2; http://www.bochenia.pl/na-linii-czasu/2011/kwiecien/dokument-bez-nazwy.html/

**Сыгал Бярнард** // Sygal Bernard (?–7.1941, Гродна), адвакат. Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай. Жыў па вул. Orzeszkowej, 4; Bernardyńska, 30.

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396, 496.

**Сычэўсік Норберт** // Syczewsik Norbert, кіраўнік школьнага хору (на 1923). Кампазітар.

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 28.11.1923. Str. 4.

**Сяклюцкі Ян** // Sieklucki Jan (каля 1869–?), ксёндз Гродзенскага фарнага касцёла (1924). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію. Выкладаў у школе № 1. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Вынікі працы на ўзроўні» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8; Там жа Спр 86. Арк. 90-90 зв.

**Сяліцкі Эдвард** // Sielicki Edward (?–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), кіраўнік камунальнай зберагальнай касы (Komunalna kasa oszczędności). Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 150; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496.

**Сямашка Уладыслаў** // Siemaszko Władysław (20.4.1906, Гродна–1940, Харкаў), лекар. Сын Юзафа, селяніна, гаспадара фальварка Юркаўшчызна каля Гродна і Зофіі з Браніцкіх. Скончыў гімназію імя А. Міцкевіча ў Гродна. Падчас вайсковай службы вучыўся ў школе падхаружых (1928–1929). Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага ўніверсітэта (1939). Мабілізаваны ў польскае войска. Трапіў у савецкі палон, дзе і загінуў.

*Літ.:* J.B. Gliński. Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów ofiar Drugiej wojny Światowej. Wrocław, 1997. Str. 373; Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 411.



**Такарскі Зыгмунт** // Tokarski Zygmunt (28.3.1892, Люблін–30.11.1939, Варшава), акцёр, спявак, танцор. Вучыўся ў гімназіях у Сандаміры і Варшаве. Выступаў прафесійна ў кінатэатрах і кабарэ. Пазней – артыст Варшаўскай оперы. Акцёр гродзенскага тэатра (1935–1936). Карэспандэнт мясцовага «Nad Niemnem» пісаў: «Сезон, калі ў нас выступаў Такарскі, з’яўляецца найбольш удалым у нашым тэатры».

*Літ.:* «Nad Niemnem». 5.5.1938. № 9. Str. 2; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 743.

**Талкоўскі Юдэль** // Tolkowski Judel, сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1928).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20.

**Талочка Браніслаў** // Tołoczko Bronisław (4.10.1888, Гродна–1939 (?)), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Аляксандр і Марыя Астроўская. Скончыў класічную мужчынскую гімназію ў Гродна (1907); юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1914). Служыў у рускай арміі (Петразаводскі полк 1911–1912; 1914–1918). Стажор акруговага суда (з 17.6.1919); намеснік следчага суддзі ў Гродна (з 12.11.1919). Добраахвотнік польскай арміі. Служыў у вайсковых судах (20.7–19.12.1920). Намеснік следчага суддзі Кобрынскага павета (з 3.11.1920); следчы суддзя акруговага суда ў Пінску (з 2.4.1921). Следчы суддзя II-га раёна акруговага суда ў Гродна (з 31.10.1921); суддзя акруговага суда ў Гродна (з 27.11.1927). Вытрымка з характарыстыкі: «Вельмі разважлівы пры прыняцці рашэння, не вельмі хуткі. Вялікай прынцыповасці не праяўляе». Сябра павятовага праўлення ЛОПП; магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Арыштаваны органамі НКУС (7.10.1939). Знаходзіўся ў турмах у Гродна і Брэсце, пасля чаго звесткі аб ім адсутнічаюць. Быў жанаты з Малгажатай Вагнер (з 1921). Меў дзяцей: Станіслава (1921), Аляксандра (1927), Марыю (1933).

*Літ.:* LCVA F 127. Ap. 7. B. 3082; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 3; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; «Wieczorny kurier Grodzieński». 14.8.1932. № 75. Str. 4; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92.

**Тальгейм Аляксандр** // Talhejm Aleksander (20.6(2.07).1873, Варшава –28.06.1937, Гродна), лекар. Паходзіў са збяднелага даўняга нямецкага роду фон Тальгеймаў. Сын Караля і Камілії Даманскай. Вучыўся ў 3-й гімназіі ў Варшаве, мужчынскай гімназіі ў Гродна, у Дэрпце, на медыцынскім факультэце Кіеўскага ўніверсітэта (скончыў у 1898). Па іншых звестках, атрымаў медыцынскі дыплом у Гратцы. Працаваў лекарам у шпіталі евангелісцка-лютэранскай абшчыны ў Варшаве (1899–1906). Пераехаў у

м. Поразава Ваўкавыскага павета, дзе меў прыватную практыку (1900). Пасля ў Гродна (з 1905). Першапачаткова працаваў лекарам-спецыялістам Гродзенскай абшчыны сясцёр міласэрнасці Чырвонага Крыжа. У Першую сусветную вайну падчас нямецкай акупацыі заставаўся ў горадзе. Падчас савецкага панавання быў прызначаны галоўным лекарам гарадскога шпіталя (лета 1920). Сумяшчаў абавязкі лекара-ардынатара тэрапеўтычнага і родавага аддзяленняў з пасадай кіраўніка Дэпартамента здароўя і міласэрнасці пры магістраце (да 1926). Сябра санітарнай камісіі Гродна. Хатні лекар Ю. Пілсудскага падчас яго візітаў у Друскенікі (з 1925). Займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. З'яўляўся старшынёй і адным з арганізатараў таварыства аматараў драматычных і музычных прадстаўленняў «Муза». Кіраваў бібліятэкай пры таварыстве (1910). Старшыня Каталіцкага таварыства апекі над дзецьмі (1919), камітэта магістрата па дапамозе беспрацоўным і камітэта музея прыроды. Прымаў удзел у арганізацыі Саюза прафесійных лекараў Гродна. Сябра гарадскога таварыства ўрачоў (з 1923); рады Варшаўска-Беластоцкай лекарскай палаты; рэвізійнай камісіі гарадскога камітэта Чырвонага Крыжа; Таварыства лекараў Друскенік і інш. Жанаты са Станіславай Гебелт. Меў судовую справу з М. Смолевай за валоданне надзелам у в. Путрышкі (1924). Пабудаваў дом па вул. Сафійскай (пасля –Piłsudskiego) (1911), які захаваўся да нашага часу.

*Літ.:* ДАГВ Ф. Ф. 17. Воп. 1. Спр. 177. Арк. 2, 5, 6; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 13 зв.; «Dziennik Kresowy». 5.8.1924. Str. 4; Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 745; Ф. Игнатович. Александр Карлович Тальгейм – врач и руководитель Гродненского общества любителей драматического и музыкального искусства «Муза» // История медицины и здравоохранения Гродненщины: матер. научн. конф. Гродно, 1995. Ч. 1. Ст. 11-12; А. Майсяёнак, П. Шарэйка Аляксандр Тальгейм – лекар, грамадскі дзеяч, гуманіст // Красный Крест и благотворительность: матер. научн. конф. Гродно, 1995. Ст. 122-124; H. Ignatowicz. Miłośnicy sztuki dramatycznej i muzycznej // «Magazin Polski». 1998. № 2. Sек. 53-54; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792–1939. Kraków, 1999. Str. 112; F. Ignatowicz Lekarz i działacz społeczny // «Głos znad Niemna». 14.1.2011. Str. 14; Н. Иващенко. Александр Тальгейм и его «Муза» // Гродна і гродзенцы: дзесяць стагоддзяў гісторыі (да 880-годдзя горада): матэр міжнар. навук.-практ. канф. Гродна, 2008. Ст. 464-469; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 355; Ф. Игнатович Гродненский учитель-новатор И.И. Кохановский // Кіраванне ў адукацыі. 2012. № 4. Ст. 60-64.

**Тамашэвіч Зыгмунт** // Tomaszewicz Zygmunt, інжынер-электрык. Дырэктар гарадской электрастанцыі. Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 6a.

**Тамашчык Павел** // Tomaszczyk Paweł, беларускі нацыянальны дзеяч, настаўнік. Старшыня Гродзенскай беларускай школьна-прытулкавай рады; інспектар беларускай гімназіі ў Гродна (па іншых звестках – выконваў абавязкі дырэктара гімназіі). Быў арыштаваны польскімі ўладамі (1921). Пазней – у Вільні, дзе памёр у пасляваенны час. Магчыма, быў жанаты са Станіславай Буйло.

*Літ.:* НАРБ Ф. 325. Воп. 1. Спр. 112. Арк. 238; БДАМЛіМ Ф. 3, Воп. 1. Спр. 237. Арк. 27, 34; А. Цыхун. Маем «Заходнія Ўскраіны?» // «Літаратура і мастацтва». 5.4.1991.

**Тамічэк Станіслаў** // Tomiczek Stanisław, фабрыкант. Кіраўнік прадпрыемства па вытворчасці кавы для войска. Сябра Гродзенскай гарадской Рады, фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) (1934–1939). Старшыня (?) Таварыства польскіх купцоў (Stow. Kupców polskich) (1935). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Fabryke kawy w Grodnie założył Tomiczek. Był powszechnie lubiany i wielce ceniony. Pożytek miało miasto ze smacznych tabliczek, Bowiem popyt na świecie był im zapewniony». Жыў па вул. Północna, 6.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Ostatnie wiadomości Groszieńskie». 10.12.1935. № 332. Str. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 83.

**Тамчук Мікіта** // Tamczuk Nikita (1888, с. Стара-Карнін Бельскага павета–1955), протаіерэй, вайсковы святар. З сялян. Скончыў духоўнае вучылішча. Служыў у в. Пескі Мастоўскага р-на, Скідзелі. Пасля – у Гродна (з 1931). Служыў у царкве Раства-Багародзічнага жаночага манастыра ў Гродна (па 1944). Падчас адкрыцця дома Таварыства праваслаўных палякаў імя караля Стэфана Баторыя ў Гродна правёў святочны малебен (2.1937). Арыштаваны органамі НКУС (3.11.1944). Асуджаны на дзесяць год лагераў і пяць год пазбаўлення правоў (у 1945).

*Літ.:* В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 29, 92; Мартыролаг Гродзенскай епархіі 1917-1961. Складальнік А. Горны // http://www.orthos.org/grodno/history/martyr.htm.

**Танскі Элка** // Tański (Tankus) Ełka, архітэктар. «Nowy dziennik Kresowy» паведаміў аб тым, што «...на выставе садоўніцтва, якая адбылася ў Варшаве, узнагароду атрымаў план парку ў Гродна Танскага» (1924). Жыў па вул. Łososiańska, 47. Нейкі Раман Танскі з'яўляўся акцёрам, рэжысёрам і літаратурным кіраўніком тэатра ў Гродна (1933–1935). Паставіў п'есу «Зачыненыя дзверы» Н. Друцкай (О'Брыен дэ Ласі).

*Літ.:* «Nowy dziennik Kresowy». 3.7.1924. Str. 4; Słownik biograficzny teatru polskiego. T. 1. Str.. 732.

**Тарасевіч** // Tarasiewiczówna, старшыня павятовай Рады сем'яў рэзервістаў (przewodnicząca Rady powiatowej rodzin rezerwisów) (1938). Сябра камітэта аб'яднаных жаночых арганізацый Гродна (komitet zblokowanych organizacyj kobiecych w Grodnie) (1939).

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 293; «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 3.

**Тарасевіч Іван** // Tarasiewicz Jan (1877–?), настаўнік. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Працаваў настаўнікам у семінарыі. У Гродна (з 1919). Выкладаў у гродзенскай беларускай школе, пазней у школе № 4 (1919–1929). Сябра Гродзенскага беларускага настаўніцкага саюза; скарбнік Гродзенскай беларускай школьнай рады. Жыў па вул. Brygidzka, 40 (1920); вул. Listowskiego, 37 (1924).

*Літ.:* НАРБ Ф. 325. Воп. 1. Спр. 186. Арк. 31; Там жа Ф. 604. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 37; ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 64. Арк. 2 зв.; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 70. Арк. 5.

**Тарасевіч Канстанцін Фердынанд** // Tarasiewicz Konstanty Ferdynand (1868–1924, Гродна), гаспадар «Склада вяндліны» (Skład wędlin) па вул. Brygidzka (існаваў з 1899). Заснавальнік і старшыня рамесна-гандлёвага каапэратыва. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яднаных польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927) ды хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927–1930). Жыў па вул. Brygidzka, 12.

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 112; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // «Magazyn Polski». 2003. № 26. Str. 29.

**Тарасевіч-Тарасюк Стэфан** // Tarasiewicz-Tarasiuk Stefan (6.09.1893–1940 (?)), лекар. Спецыяліст па ўнутраных захворваннях. Дырэктар гарадскога шпіталя (на 1937–1939). Паручнік службы здароўя з рэзерву кадраў 3-га акруговага шпіталя. Падчас Вялікай выставы па гігіене выступіў з лекцыяй па тэме «Што такое хваробы грамадства, іх развіццё і ўзмацненне ў Польшчы» (17.2.1939). Узнагароджаны Залатым Крыжам Заслугі (złoty «Krzyż Zasługi» za zasługi na polu pracy zawodowej) (1938). Быў зняволены ў савецкім лагеры ў Асташкаве, дзе, магчыма, загінуў. Жыў па вул. Orzeszkowej, 25.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 2 зв.; «Dziennik Kresowy». 2.11.1938. № 300; «Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 2.

**Тарлоўскі Абба Хірш** // Tarłowski Abba Hirsz (1896, Гродна–1971, Парыж), купец (гандляваў зярном). Нарадзіўся ў

сям'і Якава і Сары Тарлоўскіх. Вучыўся ў хедэры на Фарштаце – левабярэжнай часцы Гродна, а затым у ешыве ў Лідзе, Коўна і Радзіне. Яўрэйскі грамадскі дзеяч. Сябра сіяністцкай арганізацыі. Сябра гарадской Рады Гродна ад спіса аб'яднанага сацыялістычнага блока Бунд, Паалей-Цыён і аб'яднання С.С. і Я.С. (Zjednoczonego socjalistycznego bloku Bundu, Poalej Cion i zjednoczonych S.S. i J.S.) (1919–1927). Другі раз быў абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego) (1927–1930). Лаўнік магістрата – кіраўнік аддзела гарадскіх прадпрыемстваў пры гарадскім упраўленні (на 1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса яўрэйскага беспартыйнага блока ў Гродна (Blok Bezpartyjny Żydowski w Grodnie). (1939). Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933), віцэ-старшыня праўлення Купецкага банка (Bank kupiecki) (1933). Прымаў актыўны ўдзел у працы яўрэйскага дабрачыннага фонду (Keren Kayemet), які збіраў ахвяраванні на развіццё яўрэйскіх пасяленняў у Палесціне. Сябра таварыства «Тарбут» (Tarbut). Адказны рэдактар і сябра рэдакцыйнага камітэта мясцовага краязнаўчага часопіса «Wiadomości Żydowskiego Towarzystwa Krajoznawczego, oddział w Grodnie» (1937–1939). З'яўляўся старшынёй асацыяцыі яўрэйскай моладзі (Hechalutz) на Слабодцы, якая рыхтавала сваіх прыхільнікаў да эміграцыі ў Палесціну (1919). Быў адным з арганізатараў спартыўнага таварыства «Makkabi», пазней з'яўляўся яго скарбнікам. Магчыма, апошні перадваеннны старшыня праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (Нейкі Якуб Тарлоўскі быў зацверджаны гродзенскім старастай (20.09.1938) на пасадзе старшыні рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны Гродна). Падчас нямецкай акупацыі трапіў у гета № 1. Пры ліквідацыі гета нацысты знайшлі яго жонку Розу і сына Іцхака ў адным са сховішчаў на тэрыторыі гета і накіравалі ў канцэнтрацыйны лагер, дзе яны і загінулі. Яго дачка Рахель хавалася за межамі гета. Сам А. Тарлоўскі здолеў уцячы з апошняга транспарту з Гродна (13.2.1943). Пасля ён разам з дачкой хаваўся амаль паўгода ў вёсцы ў аднаго з мясцовых сялян (па некаторых звестках, іх ратавала Крысціна Цывінская, якая была пазней арыштавана і закатавана гестапа). Пасля вайны выехаў у Парыж, дзе і памёр. Згодна з яго апошняй воляй, пахаваны ў Ізраілі У Гродна жыў па вул. Listowskiego, 42; вул. Brygidzka, 21.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 57; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17 зв.; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; Documents concerning the destruction of the Jews of Grodno 1941-1944. Volume VI. Testimony of Abba Tarlowski. P. 399-401; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX. Jerusalem, 1973; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гродня, 2009. Ст. 356; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 455.

*Р. Маркус*

**Тарнава-Мальчэўскі Юліюш** // Tarnawa-Malczewski Juliusz (4.10.1872, Марынава–1940, Львоў), вайсковец, генерал. Паходзіў з-пад Галіча. Скончыў вайсковую рэальную школу ў Аўстрыі, тэхнічную вайсковую акадэмію і Вышэйшыя курсы інжынераў у Вене. Служыў у Кракаве, Пшэмыслі, Вене, Тарнопалі. Падчас Першай сусветнай вайны быў цяжка паранены. Служыў у аўстрыйскім Генеральным штабе. Пазней – у польскім войску (з 1918). Кіраўнік штаба Міністэрства вайсковых спраў (1921–1922). Камандуючы ДОК III (12.1922–3.1924). Падчас пасяджэння Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno), выступіў з дакладам аб упарадкаванні наднёманскіх бульвараў і сквераў. Вакол яго асобы ў горадзе меў месца скандал у сувязі з дадзеным ім дазволам на пра-

вядзенне мясцовай яўрэйскай супольнасцю святочнай вячэры ў Старым замку (1924). Сябра камітэта па будаўніцтве помніка Э. Ажэшцы (komitet budowy pomnika E. Orzeszko) (на 1925). У гэты самы час быў адным з ініцыятараў узвядзення магілы невядомага жаўнера ў Варшаве. Пазней кіраваў ДОК у Львове, Варшаве, быў міністрам вайсковых спраў. Арыштаваны падчас вайсковага перавароту (5.1926). Пасля вызвалення з турмы пасяліўся ў Львове. Арыштаваны органамі НКУС (1939). Загінуў у савецкай турме.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 43; «Nadniemeński kurier Polski». 20.3.1925. № 79. Str. 1; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 210-211.

**Таўрэль Іосіф** // Tawrel Józef (каля 1891–? ), працоўны, чыноўнік. Вылучаўся ў Гродзенскую гарадскую Раду на выбарах ад беларуска-рускага блока (спіс № 12) (1927). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад ППС і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Jerozolimska, 17 (канец 1920-х); Wałowicza, 3 (канец 1930-х).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; Там жа Ф. 99. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1.

**Твардоўскі Францішак** // Twardowski Franciszek (каля 1875–?), працоўны чыгункі. Грамадска-палітычны дзеяч. Вылучаўся на выбарах у Сейм ад Хрысціянскага саюза нацыянальнай еднасці (Chrzesciański związek jedności narodowej) (1922). Ад імя гродзенскіх чыгуначнікаў звярнуўся да кн. Друцкага-Лю-бецкага з тым, каб выкупіць яго частку ўладанняў каля Гродна для будаўніцтва рабочага квартала (kolonji robotniczej) (1922). Старшыня Гродзенскага кола нацынальна-народнага саюза (Zw. Lud. Narodowego). Сябра Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (1921) і Польскага саюза абароны Айчыны (Polski związek obrony Ojczyzny) (1931). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Twardowski, Pan Franciszek, kolejarz czerniawy, Był to głośny osobnik, działacz narodowy, Kiedy mówił, powracał do tej samej sprawy, A był nieco pochmurny, z wyglądu surowy. Na posła kandydatem raz stanął na liście, Ale inny kandydat jego przegłosował, Pan z Suwałk, Kadłubowski, wygrał oczywiście, A Franciszek, jak mówią, odstępne kwitował». Жыў у будынку чугункі (1922).

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1610. Арк. 13 зв.; ДАГВ. Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 125; «Nowe życie». 1920. № 4. Str. 31; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Echo Grodzieński». 2.6.1921. № 119. Str. 3; «Echo grodzieńskie». 1922. № 41. Str. 371; Там жа. 1923. № 21. Str. 95; «Dziennik Grodzieński». 25.3.1922. № 33. Str. 5; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 52.

**Тэрлікоўскі Канстанты** // Terlikowski Konstanty (1.1.1895, Белавежа–1940), суддзя, пракурор, адвакат. Грамадска-палітычны дзеяч. Сын Яна і Антаніны Жукоўскай. Скончыў гімназію ў Гродна (1913) і юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Прымаў удзел у дзейнасці



такіх польскіх незалежных арганізацый, як Саюз актыўнай барацьбы (Związek walki czynnej) (1910); Саюз пргрэсіўна-незалежнай моладзі (Związek Młodzieży

postępowo-niepodległościowej) (1911) і Агульнастудэнцкая польская каса ў Пецярбургу (Ogólno-studenckiej kasy połskiej). Камендант ПАВ у Пецярбургу (1914). Выконваў абавязкі вайсковага інструктара ПАВ, ад'ютанта акруговай камендатуры. Сябра Польскай арганізацыі дапамогі ахвярам вайны ў Петраградзе (1915–1917); ліквідацыйнай камісіі па справах Каралеўства Польскага. Дэлегат Рэгенцкай Рады ў Петраградзе; фармальна выконваў ролю консула Каралеўства Польскага ў Расіі. У канцы Першай сусветнай вайны вяртаецца ў Гродна. Сябра Польскага дэмакратычнага камітэта і Галоўнай рады Гродзенскай зямлі (1918). Прызначаны следчым суддзёй у Пружаны, пасля – падпракурорам у Гродна (1919). Уступіў добраахвотнікам у польскае войска (1920). Працаваў намеснікам пракурора Гродзенскага акруговага суда (з 1921). Займаўся адвакацкай практыкай (з 1925) (Абараняў інтарэсы былога паштовага служачага С. Гавароўскага, якога абвінавачвалі ў прысваенні грошай і падрыхтоўцы абрабавання пошты). Віцэ-старшыня Галоўнай адвакацкай рады ў Варшаве (wiceprezes Naczelnej Rady Adwokackiej w Warszawie). Пасол на Сейм ад ББСУ (1931–1935), сенатар (1935-1938). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Падчас абмеркавання бюджэту радны Рамуальд Пулян прапанаваў выкрасліць субсідыю ў памеры 5 тыс. злотых на будоўлю Doma Strzelca, а гэту суму асігнаваць на дапамогу найбольш беднай частцы жыхароў. У адказ радны К. Тэрлікоўскі выказаў вялікі жаль, з якім прыходзіцца чуць прапанову папярэдняга выступоўцы. «У той час, – дадаў ён, – калі навокал і паўсюль чуцен бразгат зброі, а суседнія краіны ўмацоўваюцца любым коштам, мы таксама павінны быць падрыхтаваны. Наша моладзь павінна быць прыстасавана да абароны краю, і справа гэта павінна стаць першаснай патрэбай кожнага грамадзяніна. У момант, калі складкі на будоўлю Doma Strzelca прыходзяць з усіх бакоў вайсковай акругі, тым больш сярод дабрачынцаў не можа не быць Гродна, у якім гэта дом будуецца... Сучасны гэты будынак стане сапраўдным упрыгожваннем горада...» (1936) Сябра камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Сябра прэзідыума павятовай рады ББСУ (1931). Неаднаразова выступаў на справаздачных сходах. Сябра Польскага саюза абароны Айчыны (Polski związek obrony Ojczyzny) (1931), праўлення гродзенскага Саюза стральцоў (Związku strzeleckiego) (1935), Антыкамуністычнага камітэта (Międzyzwiąnzkowy komitet antykomunistyczny) (на 1938). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Арыштаваны органамі НКУС (5.10.1939). Па некаторых звестках загінуў у гродзенскай турме, па іншых – у Сараклагу Архангельскай вобласці. Яго жонка Марыя з дзецьмі вывезены на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму некалькі радкоў: «Konstanty Terlikowski, rodem z Białowieży, Kończy w Grodnie gimnazjum i wiedzy łakomy Studiuje w Petersburgu, wśród gwarnej mlodziezy, I zdobywa do startu niezbędne dyplomy, Tam w Związku Walki Czynnej jest członkiem bojowym, W Petersburgu, nam obcym, został Peowiakiem, Pracował w związkach młoduch w duchu postępowym, Komendantem był dzielnym i czynnym Polakiem. Ofiarom wojny pierwszej przynosił pomoce, I spraw polskich pilnował w ówczesnym Likwidzie ... W naszym Grodnie pracował w pierwszym Komietecie ... W Prużane – sędzią śledczym, w wojnie ochotnikiem, Po wojnie

prokurator skargi głośne ciska... Poselskie zdobył krzesło i senacką sferę, W drugiej wojnie szczyt zdobył bohaterskiej góry. Sąd polski mu zapłacił za złamaną noge, Dobrzy ludzie płacili za trudy doznane». А пішучы пра ягоную трагічную гібель, аўтар дадаваў: «Terlikowski – senator, poseł szanowany». У Гродна жыў па вул. Dzielna, 5 (1925); Witoldowa, 31 (1937); Wita Stwosza, 5 (1938). Гаспадар камяніцы па вул. Piłsudskiego, 13 (ці 15).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 3072; ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1611. Арк. 31 зв.; ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68 зв.; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 285. Арк. 32 зв.-33, 100-100 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 329. Str. 4; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 18.10.1930. № 287. Str. 1; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 29.9.1938. № 266; «Dziennik Kresowy». 13.11.1938. № 311; Czy wiesz kto to jest? Warszawa, 1938. Str. 749; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 146; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 88; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 13, 16; Album senatu i sejmu Rzeczypospolitej Polskiej oraz sejmu śląskiego: kadencja 1935-1940. Str. 244; Słownik biograficzny adwokatów polskich (M-Z). T. II. Zeszyt 3-4. Warszawa, 2007. Str. 507; D. Mycielska, J. Zawadzki Senatorowie zamordowani, zaginieni, zmarli w latach II wojny światowej. War. 2009. S. 146; Centrum Polsko-Rosyjskiego Dialogu i Porozumienia // www.cprdip.pl/main/file.php?id=92; http://www.mundilfari.pl/sec_Konstanty_Terlikowski.HTML.

**Троп-Крынскі Абрам** // Trop-Kryński Abram (12.10.1883, Падбагуннікі Гродзенскага павета–?), прамысловец, правізар. Скончыў школу рабінаў у Гродна. Экстэрнам здаў экзамены ў мясцовай гімназіі. Скончыў фармакалагічны факультэт Дэрпцкага ўніверсітэта (1910); факультэт філасофіі ў Берне; курсы па даследаванню спажывецкай прадукцыі ў Кіеве. Заснавальнік спіртзавода і шклозавода ў Гродна. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскага нацыянальнага блока (1928–1939). Падчас абмеркавання гарадскога бюджэту выказаўся за захаванне папярэдніх выдаткаў на прыватнае яўрэйскае школьніцтва. Пры гэтым ён прывёў прыклад, калі яўрэйскія настаўнікі ў прыватных школах працуюць за 80 злотых у месяц і яшчэ няпоўны год. «У выпадку ліквідацыі прыватнай яўрэйскай асветы, – падкрэсліў ён, – настаўнікі ў агульных школах не будуць працаваць за такі заробак, а гэта значыць, што паўстануць чарговыя цяжкасці як для дзяржавы, так і для самаўрада» (1936). Сябра праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны (1932–1938). Звярнуўся да сяброў абшчыны з просьбаю з павагай адносіцца да каталіцкіх святаў, чым выклікаў вострую крытыку часткі палітычных груповак (1938). З нагоды «вяртання Цешынскай Сілезіі ў лона Айчыны» ў віншавальным лісце на імя прэзідэнта Рэчы Паспалітай пісаў: «Жадаем, каб гэты акт гістарычнай справядлівасці прычыніўся да паспяховага развіцця і панавання права і справядлівасці ў Нашай Дзяржаве, якія складаюць агульны здабытак усіх грамадзян Рэчы Паспалітай Польскай» (10.1938). Акруговы апякун IV акругі Гродна (1935). Сябра Камітэта пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Паводле справаздачы Гродзенскага аддзялення АЗОНа, яго дачка была прыгаворана за камуністычную дзейнасць да турэмнага зняволення. Жыў па вул. Białostocka, 54 a (1931); Białostocka, 46 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; Там жа Спр. 285. Арк. 32 зв.-33; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 3, 57; Там жа Спр. 149. Арк. 77-79; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 1-8; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 321; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 345.

**Трускаласкі Густаў** // Truskolaski Gustaw (2.11.1870, Ясіноўцы–4.5.1934), вайсковец. Першым на чале 2-га палка Падхалянскіх стралкоў увайшоў у Гродна (1920). Брыгадны генерал. Быў

прызначаны камандуючым ДОК III (1927). «Адзін з найбольш дзелавітых і любімых афіцэраў польскай арміі». Фактычна, займаў пасаду некалькі месяцаў, пасля чаго быў звольнены і выйшаў у адстаўку. Сябра праўлення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (на 1927).

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 20.5.1927. № 137; «Reduta». 1927. № 8. Str. 1; «Reduta» (Grodno). 1927. № 16. Str. 2.

**Трускоўскі Генрых** // Truskowski Henryk (5.01.1894–1940 (?)), лекар-бактэрыёлаг. Спецыяліст па заразных захворваннях. Кадравы афіцэр (маёр) службы здароўя 3-га акруговага шпіталя. Быў зняволены ў савецкім лагеры ў Асташкава, дзе, магчыма, загінуў. Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 11.

**Трыпуза Адам** // Tryputa Adam (?, Вялікая Бераставіца Гродзенскага пав.–?), падпаручнік, настаўнік. Беларускі нацыянальны дзеяч. Працаваў у Віленскім беларускім прытулку (1920–1921) і Гродзенскай беларускай гімназіі. Магчыма, адзін з кіраўнікоў Гродзенскага беларускага прытулка (1921). Удзельнік антыпольскага партызанскага руху. Выконваў абавязкі падпольнага каменданта Гродзенскага павета. Уваходзіў у склад Беларускага падпольнага штаба. Вылучаўся ад блока № 16 на выбарах у Сейм па акрузе № 5 (Беласток). Абвінавачаны па «справе 45-ці» (1923). Жыў у Гродна па вул. Podolna, 52 (1922).

*Літ.:* НАРБ Ф. 325. Воп. 1. Спр. 186. Арк. 31, 32 зв.; Там жа Спр. 12. Арк. 238; БДАМЛіМ Ф. 3. Воп. 1. Спр. 168, Арк. 46; Там жа Спр. 237. Арк. 27; ДАБВ Ф. 67. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 35, 37; ДАБВ Ф. 67. Воп. 1. Спр. 350. Арк. 60; «Наша жыццё». 8.6.1923. № 4; «Селянская гутарка». 23.8.1923. № 1.

**Трэгер Мечыслаў** // Treger Mieczysław, настаўнік. Скончыў вакацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. Працаваў у школе № 7. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Здольны, энергічны, інтэлектуальны. Падыходзіць на пасаду кіраўніка» (1934). Друкаваўся на старонках газеты «Wiadomości strzeleckie». Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 23.

**Тумоўская** // Tumowska, актрыса гродзенскага тэатра (сярэдзіна 1930-х).

*Літ.:* «Słowo». 20.01.1936. № 19. Str. 8.

**Тэадорчык С.** // Teodorczyk (?–1936), дырэктар гродзенскай турмы. Скончыў курсы памочнікаў кіраўнікоў турмаў у Варшаве (1929). Доўгі час быў намеснікам кіраўніка турмы ў Гродна. Кіраўнік турмы (1932–1936). Згодна з гісторыкам В. Лісіцыным, ён, у адрозненне ад папярэднікаў, быў чалавекам дастаткова мяккім, не пазбаўленым пэўнай арыгінальнасці ў вырашэнні ўнутрытурэмных пытанняў. Ім было наладжана дакладнае ўзаемадзеянне ўсіх турэмных службаў, ён здолеў унесці нейкі спакой і стабільнасць у турэмнае жыццё. Пад яго кіраўніцтвам больш шырока пачалі наладжвацца культурныя мерапрыемствы для зняволеных і сувязі з рознымі грамадскімі ўстановамі. Пры гэтым, аднак, захоўваў строгую дысцыпліну і пільна сачыў за выкананнем турэмнага распарадку.

*Літ.:* В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 271, 335-336.




**Удот Яўгенія** // Udot Eugenia (1908, в. Шчанец–?), настаўніца. Руская. Скончыла Гродзенскую настаўніцкую семінарыю (1929). Лабарантка Гродзенскага педінстытута (1940). Падчас акупацыі працавала прыбіральшчыцай у краме. Настаўніца школы № 1 (на 1944). Жыла па вул. Юрыдзіка, 87 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 36.

**Уейскі Юзаф Адам** // Ujejski Józef Adam, вайсковец, капітан. Былы кіраўнік (намеснік) штаба Гродзенскай крэпасці (obozu warownego w Grodnie). Кіраўнік вайсковага тэатра ў Гродна (1921). Рэдактар газет «Dziennik Grodzieński» і «Dziennik Kresowy» (пазней – «Nowy Dziennik Kresowy»). Быў прыгавораны гродзенскім судом да двух месяцаў зняволення за зняваu на старонках свайго выдання дырэктара жаночай гімназіі Е. Гжэндзельскага, доктара Тальгейма, Мілабендзкіх. Атрымаў грашовае спагнанне (1924).

*Літ.:* «Echo Grodzieńskie». 1921. № 167; «Dziennik Grodzieński». 18.2.1922. № 3. Str. 3; «Nowe życie». 1924. № 3. Str. 4; «Nowe życie». 1924. № 6. Str. 2.

**Уладзімір /** Ціханіцкі Вячаслаў// Włodzimerz / Cichanicki Wiaczesław 22.3.1873, с. Быстрыца Арлоўскага пав. Вяцкай губ.–18.12.1959, каля Парыжа), праваслаўны епіскап. З сям'і святара, настаяцеля праваслаўнай царквы ў Арле. Скончыў Вяцкае духоўнае вучылішча, Вяцкую духоўную семінарыю. Вучыўся ў Казанскай духоўнай акадэміі (1894–1898). У якасці місіянера Сібірскай, Бійскай Кіргізскай Місіі аб'ездзіў усю Сібір, Алтай і Кіргізію (1898–1901). Узведзены ў сан архімандрыта (1901). Настаяцель Дабравешчанскага манастыра ў Супраслі (1905). Епіскап Беластоцкі (1907). З пачаткам Першай сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Слонім, пасля – у Маскву. Быў абраны прадстаўніком духавенства Гродзенскай губерні для працы ва Усерасійскім Памесным саборы (1917). Вярнуўся ў Гродна. Епіскап Гродзенскай і Холмскай епархіі (9.1918). Стварыў Гродзенскае епархіяльнае ўпраўленне. Сябра Гродзенскай губернскай беларускай управы. Выступіў супраць увядзення аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Польшчы. Склікаў у Гродна епархіяльны з'езд прадстаўнікоў духавенства і міран, які выказаўся супраць аўтакефаліі (13-14.6.1922). Паводле польскай дэфензівы, епіскап «настройваў праваслаўны клір на антыпольскую дзейнасць». Быў вызвалены ад кіравання Гродзенскай епархіяй (12.10.1922) і тайна вывезены з Гродна ў Варшаву (29.12.1922), а адтуль – у Дзерманскі манастыр на Валыні. Інтэрнаваны з Польшчы ў Чэхаславакію (10.1924). Упраўляючы Заходнееўрапейскім

экзархатам Маскоўскай патрыярхіі (1930–1946). Архіепіскап Парыжскага экзархата РПЦ. Мітрапаліт-экзарх Рускай Праваслаўнай Царквы ў Заходняй Еўропе (1947). Пахаваны на рускіх праваслаўных могілках у Парыжы. Паколькі архіерэйскі дом у Гродна быў спустошаны і разрабаваны, пасяліўся ў старожцы побач (канец 1918).

*Літ.:* ДАБВ Ф. 67. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 31, 32, 37; Митрополит Владимир Святитель-молитвенник 1873-1959. Париж, 1965; Духовный облик и архипастырские труды митрополита Владимира //Слова и поучения блаженной памяти митрополита Владимира. Париж, 1961; Польская Православная Церковь // История поместных православных церквей. Москва, 1994. Т. 2. Стр. 261–262; Д. Поспеловский Русская православная церковь в XX веке. Москва, 1995. Стр. 228–242.

**Улас Юзаф** // Ułas Józef (1888–?), чыгуначны рабочы, электратэхнік. Грамадска-палітычны дзеяч. Сябра ППС. Беспасляхова вылучаўся на выбарах у Сейм (1922). Сябра сацыялістычнай фракцыі Гродзенскай гарадской Рады (Związek Socjalistyczny robotników polaków) (1919–1927; 1928–1930). Сакратар санітаранай камісіі пры Радзе (на 1928). Жыў па вул. Podgórna, 36 (на 1922).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 83-84; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 21; «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodna,1925. Str. 10.

**Улязлоў Уладзімір** // Ulezłow Włodzimierz (каля 1893–?), тэхнік–механік, чыноўнік пры С. Земаку. Вылучаўся ў Гродзенскую гарадскую Раду ад беларуска-рускага блока (спіс № 12) (1927). Сябра Гродзенскага аддзела Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Жыў па вул. Новаартылерыйскай, 14 (1927).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 170. Арк. 75; Там жа Ф. 99. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1.

**Унтэрман Ізер** // Unterman Izer, яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Равін (з 1922).

*Літ.:* В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 124.

**Унукоўскі Уладыслаў** // Wnukowski Władysław (каля 1893–?), гаспадар фірмы. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Wileńska, 20.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11.

**Урбановіч Казімір** // Urbanowicz Kazimierz (2.3.1900, Якуцэвічы, Гродзенскі пав.–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Юзаф і Юзэфа Шчук. Скончыў факультэт права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта (1925). Стажор акруговага суда ў Вільні і Гродна (1925). Працаваў на чыгунцы (1926). Служыў у войску (1927). Здаў экзамен на суддзю (1928). Працаваў гродскім суддзёй і кіраўніком павятовага суда ў Бярозе-Картузскай (1929–1930), суддзёй павятовага суда і кіраўніком гродскага суда ў Пружанах (1930–1931). Суддзя грамадзянскага аддзела Гродзенскага акруговага суда (з 2.6.1931). Быў жанаты з Евай Бухдановіч (з 1930). Меў дачку Марыю (1933).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 3156; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.

**Урбанскі Марцелій** // Urbański Marceli, сябра праўлення акруговай ПАВ. Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АБОЗа (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 25; «Wieczorny kurier Grodzieński». 2.6.1932. № 2. Str. 4.

**Урублеўская Аліна** // Wróblewska Alina, кіраўнік прыватнай музычнай школы. Сябра Фарнага дабрачыннага таварыства і Польскай рады асветы. Адна з арганізатараў таварыства спеваў «Lutnia» (1923). Збіралася адчыніць філіял Львоўскага музычнага інстытута (1927). Жыла па вул. Orzeszkowej, 10 (1923).

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 20. Str. 155; «Echo Grodzieńskie». 16.1.1923. № 21. Str. 3; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 247. Str. 4; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 336.



**Фабіані Ігнацый** (30.7.1861, Чэладзь, Бендзінскі пав.–29.3.1923, Гродна), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Людвік, настаўнік, і Марыя Кацол. Скончыў класічную гімназію ў Пётркаве-Трыбунальскім (1881), юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1885). Працаваў у акруговым судзе ў Кельцах (1885–1889), следчым суддзёй у Астрахані (1889–1892), гарадскім суддзёй у Бельцы ў Бесарабіі (1892–1894), следчым суддзёй акруговага суда Елецкай акругі Маскоўскай судовай палаты (1894–1905), сябрам акруговага суда Арлоўскай судовай акругі, Харкаўскай судовай палаты (1906–1918). Пазней – у Польшчы (з 1918). Прававы дарадчык акруговай земскай камісіі ў Варшаве і Кельцах (1918–1919). Дарадчык пры Міністэрстве (radca ministerialny) (з 1.2.1919). Суддзя акруговага суда ў Гродна (з 31.5.1921). Сябра акруговай земскай камісіі ў Гродна (з 1921). Жанаты з Кацярынай Еўдакімавай (з 1900). Пахаваны на фарных могілках.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 701; «Echo grodzieńskie». 1921. № 55; «Echo grodzieńskie». 8.6.1923. № 124. Str. 4; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 96.

**Файнсод Міхал** // Fajnsod Michał (каля 1899–?), настаўнік. Скончыў школу Высоцкага ў Беластоку; педагагічныя курсы ў Вільні. Працаваў у прагімназіі М. Рубінавай у Гродна (1919). Жыў па вул. Brygidzka, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Фалевіч Войцех** (13.5.1863, Веркі, Віленская губ.–4..9.1935, Варшава), вайсковец. Генерал. Вучыўся ў Віленскай гімназіі, Мікалаеўскім інжынерным вучылішчы (з 1881), Мікалаеўскай імператарскай акадэміі (з 1886). Рэферэнт навуковага аддзела інжынернага камітэта. Займаўся пытаннямі будаўніцтва фартыфікацый і ўмацаванняў у Новагеоргіеўску, на Нёмане, Нарэве, Бугу, Вісле, будаўніцтвам форта ў Дубна на Валыні. Кіраваў будаўніцтвам палявых чыгунак у Расіі (1894–1900). Служыў у Галоўным упраўленні Вайсковых школ (1900–1906). Кіраўнік аддзела ў Пецярбургскай вайсковай акрузе (1906–1916). Інспектар у Туркестанскай акрузе (1916–1917). Кіраўнік інжынернага аддзела Стаўкі (з 1917); галоўны інжынер Упраўлення Генеральнага штаба (7.1917–1.1918). У польскай арміі (з 12.1918). Генерал-падпаручнік. Кіраўнік геаграфічнай секцыі пры Міністэрстве вайсковых спраў і 8-га аддзела Генеральнага штаба. Адзін са стваральнікаў Вайсковага геаграфічнага інстытута. Прызначаны камендантам Гродзенскай крэпасці (13.4.1919). Пазней – камендант крэпасці Грудзёндз (з 14.1.1920). Камендант зборнай станцыі ў Вар-

шаве (з 14.10.1920). Падчас адной з вячэраў, арганізаваных афіцэрамі гарнізона, крытычна выказаўся адносна вайскоўцаў, якія належалі да былых польскіх легіёнаў, назваўшы іх «людзьмі без адукацыі і ганьбай польскай арміі». У выніку быў зняты са сваёй пасады. Звольніўся з арміі (з 1921). Кіраўнік Легіёна абароны канстытуцыі (Legii obrony konstytucji) (1922).

*Літ.:* «Nowe życie». 1922. № 20. Str. 147; Encyklopedia Wojskowa. T. 2. Warszawa,1929. Str. 212; Encyklopedja wojskowa. T. II. Warszawa, 1932. Str. 581; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 111-112.

**Фёдараў У.** // Fedorow W., дзеяч беларускага нацыянальнага руху. Сябра прэзідыума Беларускага з’езда прадстаўнікоў ад вёсак Гродзенскага павета (1922), Камітэта беларускіх спраў (1924). Меў некалькі судовых спраў, у тым ліку з гродзенскім купцом Крэйцарам, з дачкой якога ён падманным шляхам ажаніўся. Прыгавораны Гродзенскім акруговым судом па абвінавачанні ў шпіянажы да чатырох год зняволення (1926).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 110. Арк. 122; «Беларускі шлях». 8.5.1922. № 2; «Сялянская праўда». 5.12.1924. № 29; Борис Савинков на Лубянке: Документы. М.: «Российская политическая энциклопедия» (РОССПЭН), 2001. Стр. 260-261.

**Федарук Леанід** // Fiedoruk Leonid (17.07.1914, Янава–08.08.1944, Анкана), спартсмен. Сын У. Федарука. Выступаў за гродзенскі клуб «Cresovia» (1931–1933). Пазней за віленскія каманды «Strelec» (1934), «Pocztowe PW» (1935–1936), сталічную каманду «Warszawianka» (1936–1939). Яго спартыўная кар’ера дасягнула свайго росквіту ўжо ў Вільні. Сямікратны прадстаўнік Польшчы на міжнародных спаборніцтвах, трохкратны рэкардсмен краіны, двухкратны чэмпіён у кіданні дыска, трохкратны віцэ-чэмпіён, бронзавы медаліст чэмпіяната Польшчы па штурханні ядра (1935); чатырохкратны фіналіст чэмпіянатаў краіны. Быў уключаны



ў склад алімпійскай зборнай Польшчы на алімпіяду ў Хельсінках, якая так і не адбылася. Скончыў танкавую школу падхаружых у Мадліне. Удзельнічаў у баях з немцамі ў складзе 8-га рэзервовага батальёна (верасень 1939). Трапіў у савецкі палон. З лагера ў Казельску быў вывезены ў Паўлічаў Бор. Пазней служыў у арміі генерала Андэрса. Падпаручнік 4-га танкавага палка «Скарпіён» 2-й Варшаўскай танкавай дывізіі. Удзельнічаў у баях у Афрыцы, бітве пад Монтэ-Касіна. Узнагароджаны ордэнамі Virtuti Militari і Krzyż Walecznych. Загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Быў пахаваны на польскіх могілках у Ларэта (Італія). Пазней, верагодна, перазахаваны.

*Літ.:* H. Kurzyński, St. Pietkiewicz, M. Rynkowski Od Adamczaka do Zasłony: Leksykon lekkoatletów polskich okresu międzywojennego. Mężczyzni. Warszawa, 2004. Str. 50-51; Ю. Грыбоўскі Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фармаваннях 1918-1945. СПб, 2006. Ст. 322-323.

**Федарук Уладзімір** // Fiedoruk Włodzimierz (1885–?), настаўнік. Скончыў настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам (з 1903). Выкладчык беларускай школы ў Гродна (1919), пазней – яе дырэктар (1922–1928). Кіраўнік курсаў беларускай мовы для настаўнікаў школ у Гродна

(1928). Беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Вайсковага саюза Гродзенскай губерні, выканкама Савета сялянскіх дэпутатаў, Гродзенскага аддзялення Усерасійскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны ў Петраградзе (1917), БПС-Р, Гродзенскага беларускага настаўніцкага саюза. Віцэ-старшыня Гродзенскай беларускай школьнай рады, сакратар Гродзенскага БНК (1919), Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны (1921), Беларускага выбарчага камітэта, Гродзенскага беларускага дабрачыннага таварыства (1922), Гродзенскага беларускага правінцыянальнага камітэта (1924), Гродзенскага аддзялення Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага акруговага выбаркама (1928). Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад беларуска-расійскага блока (Białorusko-rosyjskiego bloku) (1927) і ў Сейм (1928). Паводле А. Цыхуна, па даносе быў рэпрэсаваны органамі НКУС (1939). Жыў па вул. Policyjna, 34 (1920); вул. Saperska, 6 (1922); вул. Puszkina, 9 (1930).

*Літ.:* НАРБ Ф. 878. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 30; ДАБВ Ф. 67. Воп. 1. Спр. 22. Арк.37; Там жа Спр. 947. Арк. 2 зв, Там жа Спр. 1334 Арк. 2; ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 41. Арк. 288-289; Там жа Спр. 170. Арк. 75; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 120. Арк. 19 зв.; Там жа Ф. 63. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 300; Там жа Ф. 99. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 70. Арк. 27, 67; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; А. Цыхун. Маем «Заходнія Ўскраіны?» // «Літаратура і мастацтва». 5.4.1991.

**Феін Нісан** // Fein Nisan, дырэктар яўрэйскага народнага банка (Folks-Bank) (1925).

**Фенстэр Малка-Лібе** // Fenster Malka (1886–7.1941, Гродна), настаўніца. Скончыла педагагічную семінарыю, курсы беларускай мовы (1939). Настаўніца школы «Талмуд-Тора» № 1 (1924–1929), школы № 5 (1929–1940), няпоўнай сярэдняй школы № 20 (1940). Выкладала польскую мову і гісторыю на вячэрных курсах. Пазней працавала ў школе № 5. Растраляна нацысцкай 9-й айнзатцкамандай.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 75-75 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 496; В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 258; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV-XX стст. Гродна, 2013. Ст. 328.

**Ферэнц Антоній** // Ferenc Antoni, настаўнік спеваў. Скончыў выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Познані. Працаваў у школе № 1. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «З замілаваннем праводзіць спевы. Вынікі працы добрыя. Настаўнік сумленны» (1934). Магчыма, гэта яму Л. Саванеўскі прысвяціў наступныя радкі: «Ogrodnik słynął w Grodnie, Pan Ferenc wąsaty, Chryzantemy i róży znawca znakomity, Przyjemne były dla nas jego wonne kwiaty, Lecz nas zdradzi niecnota, choć był sławy syty. Pachniały jemu większe aromaty sławy, Toteż zdradzić nas musiał, co z żalem piszemy, Z ulicy Piłsudskiego machnął do Warszawy I tam sławą zakwitły jego chryzantemy».

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 82.

**Фідэльман Л.** // Fidelman L., прафесар музыкі па класе фартэпіяна. Жыла па адрасе Dominikańska, 18 (канец 1930-х).

**Філ (Філіпікава) Зоф'я** // Fill Zofia (1905–1943(?)), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, курсы па фізпадрыхтоўцы (1933, 1935, 1936). Працавала настаўніцай у агульнай школе № 6 (1.9.1924 – 15.1.1940), настаўніцай пачатковых класаў у польскай сярэдняй школе № 2 (з 16.1.1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 58-58 зв.

**Філ Мацей** // Fill Maciej (каля 1890–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), настаўнік. Скончыў Варшаўскі настаўніцкі інстытут. Выкладаў біялогію. Працаваў у школе № 1 імя А. Міцкевіча (1919). Быў дырэктарам

школы № 2 імя С. Баторыя (1920). Пазней – дырэктар агульнай школы № 1. З характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Добры арганізатар і адміністратар. Працуе з любоўю і клапоціцца аб развіцці школы» (1934). Меў судовую справу па абвінавачванні ў давядзенні да спробы самагубства сваёй вучаніцы Е. Рудніцкай, аднак быў поўнасцю апраўданы (1923). Дзеяч ППС. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад спіса ППС і класавых прафсаюзаў (polska partia socjalistyczna i rady klasowe związków zawodowych) (1927–1930) і Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра камітэта па разбудове Гродна (1928), камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930), праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Zw. Strzelecki) (1933), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Электар у склад ваяводскіх камісій па выбарах у Сенат (1938) (elektor do wojewódzkich kolegiów, wybierających senatorów). Быў расстраляны немцамі разам з жонкай, двума дзецьмі і швагеркай. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «...Niedźwiecka tak za grobem do Fila się żali: «Miałeś piękną ty brodę, masz piękniejszą duszę, Macieju, dałeś życie, oni nas sprzedali, Musisz cierpieć za Polskę i ja cierpieć muszę»... Bohaterski monument wieczysty Za swe trudy w oświacie Maciej Fil postawił. Od kuli padł niemieckiej na szaniec ojczysty, Każdy Polak go za to będzie zawsze sławił. Kierował Fil Powszechną Szkołą Mickiewicza I w Składnicy Księgarskiej pracował nad siły, A przybył z Małopolski z promieniami znicza, Aby jasno zaświecić i zejść do mogiły». У Гродна жыў па вул. Harcerska, 4 (1937–1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 64; Там жа Спр. 34. Арк. 10; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8; Там жа Спр. 72. Арк. 69; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Nowe życie». 1923. № 25. Str. 125; «Nowy dziennik kresowy». 30.9.1927; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.5.1933. № 120. Str. 4; «Dziennik Kresowy». 25.10.1938. № 292; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 159; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str.17, 70.

**Філцэр Аляксандр** // Filcer Aleksander, галоўны рэдактар газет «Echo Grodzieńskie» (з 1921) ды «Kurier Grodzieński».

*Літ.:* «Nowe życie». 1921. № 42. Str. 330.

**Фінк Шмуэль** // Fink Szmuel (каля 1896–?), настаўнік. Быў абраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад аб'яднанага блока працоўных (Zjednoczony blok robotniczy) (1927). Тады ж арыштаваны па абвінавачванні ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Быў вызвалены з турмы пад заклад, атрымаў запрашэнне на пасяджэнне Рады, аднак на само пасяджэнне не быў дапушчаны з прычыны следства па яго справе. Адзін з трыццаці «палітычна неблаганадзейных асоб», вызначаных камісарыятам дзяржпаліцыі ў Гродна (1928).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 172. Арк. 68; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 13; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Фінкель Маісей** // Finkiel Mojżesz, хірург. Жыў па вул. Listowskiego, 6a (1925); Hoovera, 9 (1937).

**Фінкель-Явароўская Эстэр** // Finkiel-Jaworowska Estera (1892–пасля 1941), лекарка. Загінула ў Трэблінцы.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 5. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2012. Str. 119.

**Фірстэнберг (Фюрстенберг) Вінцэнт** // Firstenberg Wincenty (?–7.1941(?), Гродна), адвакат. Удзельнічаў у працэсе па справе яўрэйскага пагрому ў Гродна як прадстаўнік пацярпелага боку (1935). «Калі я і выступаю прадстаўніком пацярпелага боку, – сказаў ён, – дык не для таго, каб дамагацца рэпрэсій, а для таго, каб падсудныя, якія пачуюць прыгавор, зразумелі,

што зрабілі зло, што супраць іх выступае не толькі ўсё культурнае Гродна, але і права». У выніку яго асоба стала аб'ектам газетных спекуляцый на тэму таго, што «адвакат Фірстэнберг перастаў быць палякам». Журналіст віленскага «Słowa» С. Мацкевіч у адным са сваіх артыкулаў, прысвечаных Гродна, так апісаў яго: «Адвакат Фірстэнберг з'яўляецца адным з найлепшых адвакатаў і адным з найпрыгажэйшых аратараў. Акрамя таго, ён з'яўляецца выхрэстам. Аднак гэты факт не перашкаджае яму раз за разам складаць свой талент на карысць абароны перад Судом па яўэрэйскіх справах». С. Земак яго ўзгадваў наступным чынам: «Адметны судовы абаронца. Пагодны, добры чалавек. Вельмі самаахвярны грамадскі дзеяч. Ініцыятар розных культурных акцый, якога ўсе лічылі вялікім дабрачынцам». Тое ж занатавала ў сваім дзённіку С. Налкоўская пра яго працу ў «Патранаце»: «Вясёлы, пагодны, з тактоўным сяміцкім гумарам, ад усіх спраўна і з ахвотай ён збіраў скаргі і патрабаванні». Быў абаронцам былога кіраўніка гарадской бойні Леановіча (1938), былога дырэктара банкаўскага таварыства С. Волберга (1938), былога гродзенскага старасты З. Рабакевіча (1939). Сябра Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над зняволенымі «Патранат», праўлення Гродзенскага аддзялення таварыства Польскага Белага Крыжа, Таварыства прыяцеляў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej w Grodnie). Прававы дарадчык Сіндыката журналістаў Беластоцкай акругі (Syndykat Dziennikarzy Okręgu Białostockiego) (1933). Ажаніўся перад самай Другой сусветнай вайной з Аркінай. Падчас нямецкай акупацыі ўзначальваў жыллёвую камісію пры гродзенскім юдэнрацe. Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай разам з іншымі прадстаўнікамі мясцовай яўрэйскай інтэлігенцыі (Па іншых звестках, ён нейкі час хаваўся, аднак пазней быў выдадзены і расстраляны). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Nie pisarz, nie poeta, nie człowiek ponury, Nie abnegat, nie laluś i nie cienki w pasie, Nie Polak i nie obcy, nie szpetnej figury, Firstenberga portrecik macie w pełnej krasie. Obrońca nie krzywdzonych bezprawiem tyranów, Ale takich, co krzywdy chcieli innym zadać, Pan wielki z grubą kiesą, lecz nie lubi panów, Jednak lubi z panami w towarzystwie siadać. Dlaczego z poetami razem zestawiony? Bo to postać niezwykła prozo-poetyczna: Ten szelma i do wiersza ma talent szalony, Aż mnie wielce ponosi żyłka sympatyczna...» Брат савецкага дзеяча Якава Фірстэнберга-Ханецкага.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 25. Арк. 1-8; «Mały dziennik grodzieński». 13.11.1935. № 37. Str. 1; «Mały dziennik grodzieński». 11.1.1936. № 13-15. Str. 1; «Wieczorny kurier Grodzieński». 14.8.1932. № 75. Str. 4; «Dziennik kresowy». 20.11.1938. № 318; «Dziennik Kresowy». 3.12.1938. № 331; «Dziennik kresowy». 4.4.1939. № 94. Str. 6. Z. Nałkowska. Dzienniki 1918-1929. Czytelnik, Warszawa, 1980. T. III. Str. 104; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 65; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497; В. Лисицын. За тюремной стеной. Гродно, 2003. Ст. 306; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche – пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 411; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 340.

**Фішар Марк-Мордэхай** // Fiszer Marek, настаўнік гімназіі «Тарбут» (1926). Удзельнічаў у арганізацыі бібліятэкі школ «Тарбут». Сябра рады Яўрэйская рэлігійнай абшчыны ад нацыянальна-рэлігійнай фракцыі (на 1931). Жыў па вул. Listowskiego, 40 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56, Воп. 1. Спр. 79. Арк.19; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 105.

**Фолтын** // Fołtyn, кіраўнік 1-га падатковага аддзела (1-szy urząd skarbowy) (на 1937). Магчы-

ма, сябра Антыкамуністычнага камітэта (Międzyzwiąnzkowy komitet antykomunistyczny) (на 1938).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 2; «Dziennik Kresowy». 29.9.1938. № 266.

**Франк М.** // Frank M., сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str.10.

**Франк Освальд** // Frank Oswald (28.2.1882, Рава Руска–7.12.1934, Познань), вайсковец, генерал. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Сокале (Sokal) (1903), аўстрыйскую акадэмію Генеральнага штаба ў Вене. Удзельнік Першай сусветнай і савецка-польскай войнаў. Скончыў шэраг спецыяльных курсаў. Камандуючы 12-м палком пяхоты (1921–1927), 10-й пяхотнай дывізіяй (1927–1929). Намеснік камандуючага ДОК III у Гродна (24.12.1929 – 12.7.1932). Пасля камандуючы ДОК VII у Познані.

*Літ.:* «Przegląd kresowy». 1.3.1930. № 41. Str. 4; Encyklopeja wojskowa. T. II. Warszawa, 1932. Str. 717; P. Stawecki. Słownik biograficzny generałów wojska polskiego 1918-1939. Wydawnictwo Bellona, Warszawa, 1994. Str. 113-114.

**Франкоўскі Уладыслаў** // Frankowski Władysław (6.12.1859, Сыдчовцы–30.8.1922, Варшава), вайсковец, генерал. Скончыў Кіеўскую класічную гімназію, школу юнкераў. Служыў у Ямбургскім палку ўланаў. Удзельнік руска-турэцкай, Першай сусветнай войнаў. Камандуючы ДОК III у Гродна (1921–1922). Сябра камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922). Сябра камітэта па барацьбе з дарагавізнай (Komitet dla walki z drożyzną) (1923). У адстаўцы (з 1922).

*Літ.:* «Dziennik Grodzieński». 7.6.1922. № 89. Str. 3; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Dziennik Kresowy». 30.8.1923. Str. 4.

**Фромберг Давід** // Fromberg Dawid, гаспадар кінатэатраў «Apołło» і «Pan» (на сярэдзіну 1930-х). Магчыма, быў вымушаны пераехаць у Варшаву, перадаўшы свае паўнамоцтвы Адэхоўскаму (Odechowski).

*Літ.:* «Czyn młodych». 1938. № 5. Str. 4.

**Фрухтэрман Аўсей (Азнаш)** // Fruchterman Ozjasz (1892–7.1941, Гродна), настаўнік. Скончыў гімназію, універсітэт. Працаваў у гімназіі ва Уладзіміры-Валынскім (1925–1926), Кельцах (1926–1927), Шчучыне (1928–1930). Выкладчык гімназіі ў Гродна (1927–1928; 1930–1940). Сябра прафсаюза выкладчыкаў яўрэйскіх школ у Польшчы (1935). Пазней настаўнік прыродазнаўства ў польскай сярэдняй школе № 2 (з 15.8.1940). Расстраляны нацысцкай 9-й айнзатцкамандай. Жыў па вул. Brygidzka, 36 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 134. Арк. 7 -7зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1 л/д. Арк. 59-59 зв.; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 396.

**Фрэйдовіч Нахум** // Frejdowicz Nochum (? – 1943, Асвенцім), уладальнік будаўнічай фірмы. Выконваў, галоўным чынам, вялікія заказы вайсковых улад – матэрыялы для пабудовы баракаў, мастоў і інш. Загінуў у канцлагеры. Жыў па вул. Brygidzka, 28.

**Фрэўнд-Красіцкі Мікола** // Freund-Krasicki Mikołaj (1.6.1888, Чэрноліцы–1940, Харкаў), вайсковец, падпалкоўнік. Падчас Першай сусветнай вайны служыў у Польскіх легіёнах. Пазней – пры Міністэрстве вайсковых спраў, Генеральным штабе. Намеснік камандуючага 80-ым пяхотным палком у Слоніме (1923). Кіраўнік штаба 9-й пяхотнай дывізіі ў Вільні (1925–1926). Кіраўнік штаба ДОК III у Гродна (1926–1927). Пасля служыў у Львове, камандуючы брыгадай КАП «Валынь». Трапіў у савецкі палон, дзе загінуў.



**Хадакоўскі** // Chodokowski, вайсковец, паручнік. Вайсковы рэферэнт асветы пры гарнізоне Гродзенскай крэпасці (Obóz Warowny) (1921). Адзін з ініцыятараў вайсковага спартыўнага руху ў Гродна. Сябра Таварыства гігіены і асветы імя прафесара Э. Гадлеўскага (Towarzystwo Hygieniczno-oświatowe im. prof. Emila Godlewskiego) (1921). Акрамя таго, нейкі Якаў Хадакоўскі з'яўляўся камендантам дзяржпаліцыі ў Гродна (1920).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 46. Воп. 2. Спр. 24. Арк. 69; «Echo Grodzieńskie». 21.5.1921. № 110. Str. 4.

**Хазан Самуэль** // Chazan Samuel (10.01.1860–30.11.1934), лекар. Скончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1885). Акушэр-гінеколаг. Працаваў у гродзенскім шпіталі загадчыкам аддзялення. Ардынатар Станцыі апекі над маці і дзіцём (Stacja opieki nad Matką i Dzieskiem). Аўтар навуковых прац па гінекалогіі. Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) і праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1928). Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Chazan lekarz cudowny miał wielkie uznanie». Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 10 (1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33; Там жа Спр. 282. Арк. 33 зв.; Там жа Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 31.

**Хайноўская Станіслава** // Chojnowska Stanisława, грамадская дзеячка. Жонка П. Хайноўскага. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Загінула разам з мужам.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5.

**Хайноўскі Пётр** // Chojnowski Piotr (26.2.1880, Адэса–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), суддзя. Каталік, паляк. Сын Ануфрыя і Марыі. Скончыў гімназію ў Адэсе; юрыдычны факультэт Кіеўскага ўніверсітэта (1903). Сябра польскай студэнцкай карпарацыі рэвалюцыйна-нацыянальнай арыентацыі. Сябра рэвалюцыйна-незалежнай лігі. Працаваў стажорам у акруговым судзе і судовай палаце ў Адэсе (1903–1905), памочнікам прысяжнага адваката (1905–1908), прысяжным адвакатам у аруговым судзе ў Кіеве (1908–1918). Юрысконсульт (5–10.1918), а пазней – ліквідатар Міністэрства польскіх спраў пры ўкраінскім урадзе. Дарадчык польскага пасольства на Украіне (з 11.1918). Суддзя акруговага суда ў Гродна (з 24.6.1919). Віцэ-старшыня, пазней – старшыня (з 1922) грамадзянскага аддзела Гродзенскага акруговага суда; натарыус Гродзенскага акруговага суда (з 12.1926).



Адзначаны бронзавым медалём «За заслугі» (1938), сярэбраным медалём «За заслугі» (1939), Залатым Крыжам Заслугі (1934). Грамадска-палітычны дзеяч. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Сябра Таварыства стражы крэсовай (1920), праўлення таварыска-артыстычнага клуба «Муза» (1921), Гродзенскага аддзялення таварыства апекі над зняволенымі «Патранат», Таварыства сяброў літаратуры і мастацтва, праўлення вяслярнага клуба «Гродна», старшыня камітэта па святкаванні Дня мора (1933), праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937) і інш. Сябра выбарчай камісіі на выбарах у гарадскую Раду (1939). Падчас нямецкай акупацыі, магчыма, быў бургамістрам Гродна. Адначасова кіраваў групай АК. Быў жанаты са Станіславай Шадэк (9.9.1908). Меў дзяцей: Караля (1909) і Яраслава (1910). Быў расстраляны немцамі разам з жонкай, сынам, нявесткай, унукам і маці. У Гродна жыў па вул. Orzeszkowej, 20 (1938).

*Літ.:* LCVA F 127. Ap. 7. B. 451; ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5; «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Nowe życie». 1928. № 65; «Dziennik kresowy». 13.4.1939. № 101. Str. 4; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 104; Wykaz notariuszów Rzeczypospolitej Polskiej według stanu na dzień 1 października 1938 r. Warszawa-Poznań-Lwów-Kraków-Lublin-Wilno-Katowice, 1938. Str. 24; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497; O niepodległą i granice: raporty straży kresowej 1919-1920 ziem północno-wschodnich opisanie. Warszawa-Puttusk, 2011. Str. 22; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 363; Z. Nałkowska. Dzienniki 1918-1929. Warszawa, 1980. T. III. Str. 181; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 159; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Халезер Рахель** // Haliezer Rachel (каля 1909–?), адвакат. Радная Гродзенскай гарадской Рады ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Жыла па вул. Wróblewskiego, 14.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Халішка Канстанцін** // Haliszka Konstanty, футбаліст. Паўабаронца кракаўскай каманды «Garbarnia Kraków». Сябра футбольнай зборнай Польшчы. Праходзіў вайсковую службу ў 76-м пяхотным палку ў Гродна. Выступаў за WKS «Grodno» (1936).

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok. 2010. Str. 22.

**Халперн М.** // Halpern M., сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10.

**Хамлінг Зыгмунт** // Hamling Zygmunt (каля 1904–?), гаспадар крамы бялізны і галантарэі па вуліцы Pocztowa. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-

Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Быў высланы польскімі ўладамі з Гродна як немец (сярэдзіна 1939). Жыў па вул. Jastrzębia, 11.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 13.

**Ханеўскі-Тамашэўскі Аляксандр//** Haniewski-Tomaszewski Aleksander (каля 1860–19.03.1924), вайсковец. Палкоўнік рускай арміі. Пазней – інтэндант самаабароны Гродзенскай зямлі. Сябра гарадской Рады (на 1919). Разам з іншымі былымі вайскоўцамі адчыніў у горадзе кааператыўны гандлёвы склад (1922). Пахаваны на фарных могілках.

*Літ.:* Dziennik Grodzieński». 2.3.1922. № 13. Str. 3; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 92.

**Ханус Мар'ян** // Hanus Marian Aleksander, рэдактар і выдавец часопіса»Nad Poziomy» кола паланістаў (Koło Polonistyczne Młodzieży Szkolnej Państwowego Seminarium Nauczycielskiego Żeńskiego im. E. Orzeszkowej w Grodnie) (1925).

*Літ.:* «Nowy Dziennik Kresowy». 21.4.1925.

**Хараманскі Зыгмунт** // Choromański Zygmunt, намеснік рэферэнта Гродзенскага староства. На выбарах у Сейм – сябра выбарчага камітэта акругі № 6 (1922 ). Жыў па адрасе зав. Piaskowy, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 59. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 2; Там жа. Спр. 3. Арк. 1.

**Харашоўскі Рамуальд** // Horoszowski Romuald, вайсковец. Паручнік. Камендант вяслярнай прыстані і намеснік старшыні праўлення па гаспадарчай часцы вяслярнага клуба «Гродна». Арганізатар тарыскіх вечарынаў пры клубе. Кіраўнік вайсковага тэатра (з 1932).

*Літ.:* «Nowe życie». 1929.06.23; «Gazeta Grodzierńska». 1932.01.15. Str. 3.

**Харбовы Зыгмунт** // Horbowy Zygmunt (каля 1898–?), настаўнік. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Piaskowa, 15.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 4.

**Хасельбуш Ежы** // Hosselbush Jerzy, футбаліст. Нападаючы каманды 1-й лігі Польшчы. Выступаў за футбольную каманду вайскова-спартыўнага клуба WKS PP 76 (1932).

*Літ.:* J. Górko. Piłkarskie dzieje Podlasia. Białystok, 2010. Str. 15.

**Хафбаўэр //** Hofbauer, вайсковец. Капітан 76-га пяхотнага палка, які стацыянаваў у Гродна (1923–1930). Папулярызатар спорту. Ініцыятар пабудовы спартыўнага стадыёна ДОК III і тэнісных кортаў (1924). Першы спартыўны суддзя. Арганізаваў лыжныя курсы для вайскоўцаў. Пазней – арганізатар самых вялікіх ва ўсходняй частцы Польшчы спаборніцтваў па лыжах, якія прайшлі ў Вільні. Адна з гродзенскіх газет назвала яго «бацькам спорту наднёманскага града Баторыя».

*Літ.:* «Reduta». 1927. № 17. Str. 6-7; «Nowy dziennik kresowy». 12.4.1930 Str 4.

**Хвілявіцкі Марк** // Chwilewicki Mark (1895–?), уладальнік дома. Грамадска-палітычны дзеяч. Выбраны ў Гродзенскую гарадскую Раду ад яўрэйскага нацыянальнага блока (Żydowskiego bloku narodowego), сябра яўрэйскай фракцыі (1927–1930). Уваходзіў у склад санітаранай камісіі (1928). Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930). Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго наступным чынам: «I Marek Chwilewicki godzien jest pochwały, On to bowiem poskramiał zacięte ataki, Do końca był on wierny, do końca wytrwały, I w rozpaczy był wielki, i był miły taki». Жыў па вул. Zamkowa, 17 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20, 83-84; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 31.

**Хейко Алозей** // Hejko Alozji, гаспадар крамы «Паморскі базар» (Bazar Pomorski) па вул. Dominikańska, 28. Рэклама фірмы абяцала «паважлівую абслугу і сталыя цэны». Быў шырока вядомы ў Таварыстве жонак афіцэраў, паліцэйскіх і чыноўніцтва. Агент нямецкай разведкі. Ён збіраў інфармацыю пра розныя бакі дзейнасці гарнізона і перамяшчэнні войска, спрытна вывуджваючы яе з нявіннай жаночай балбатні. Быў высланы польскімі ўладамі з Гродна як немец (сярэдзіна 1939).

*Літ.:* «Czyn młodych». 1938. № 6. Str. 4; L. Gondek. Działalność Abwehry na terenie Polski 1933-1939. Warszawa 1974. Str. 213; W. Renik Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // «Magazyn Polski». 2003. № 26. Str. 29; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 13.

**Хемберг Аляксандр Антоній** // Heimberger Aleksaner Antoni (25.5.1894, Кальварыя Зебжыдоўска–1940, Катынь), настаўнік. Скончыў рэальнае вучылішча і гімназію. Мабілізаваны ў нямецкае войска, дзе атрымаў званне падпаручніка (1913). Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. Трапіў у расійскі палон. Вярнуўся на радзіму, у Трэмбіні (1919). Пазней пераехаў у Гродна. Пасля атрымання дыплома заняў пасаду настаўніка малявання у Дзяржаўнай жаночай гімназіі імя Э. Плятэр. Пасля працаваў настаўнікам малявання і працоўнага навучання ў гімназіі імя А. Міцкевіча (да 1935). Спакойны і стрыманы, ён быў здольны дапамагчы вучням раскрыць праз творчасць іх асабістыя таленты. Пазней працаваў у гімназіі ў Вілейцы. Фатограф-аматар. Мабілізаваны ў польскае войска (8.1939). Трапіў у савецкі палон. Загінуў у Катыні. Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Był w Żeńskim Gimnazjum Heimberger wytworny, Zdolny malarz artysta, piękno w szkole cucił. Żarłoczny bożek wojny i w czynach niesforny. Cóż się stało z artystą? Wzięty i nie wrócił… Hajmberger Aleksander, profesor rysunków, Dekorował wspaniale i nakładał maski, Honory więc strzelały burzą wyładunków, I publiczność, i prasa sypały oklaski. Hajmberger chlubnie zginął, bez winy, tragicznie, Bowiem ludzie zrzucili swoje maski z czoła, Poczęli zasłużonych mordować cynicznie, Bo od zbrodni perulka powstrzymać nie zdoła».

*Літ.:* «Ostatnie wiadomości grodzieńskie». 1935. № 235. Str. 4; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 102; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 37, 73; I. Galicka. Dzieje I Państwowego Liceum i Gimnazjum Męskiego im. Adama Mickiewicza w Grodnie // Słowo Ojczyste. 2008. № 6. Str. 9; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennyn // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Хероўскі** // Herowski, дырэктар польскага банка. Сябра прэзідыума Гродзенскай гістарычнай бібліятэкі Гродна (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16.

**Хершон Альфрэд** // Herszon Alfred (каля 1887–1935), лекар. Кіраўнік грамадскага забеспячэння ў Гродна (ubezpieczenie społecznę Grodna). Памёр падчас лекарскага прыёму ў Друскеніках.

*Літ.:* «5 groszy Grodzieński kurier codzienny». 1935. № 194. Str. 4.

**Хігер Аркадзь** // Higier Arkadiusz (каля 1887–?), лекар. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Сакратар аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (1929). Падчас Вялікай выстаўкі па гігіене выступіў з лекцыяй па тэме «Венерычныя хваробы і іх наступствы для жанчын» (26.2.1939).

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Dziennik kresowy». 15.2.1939. № 46. Str. 3; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI -XX стст. Мінск, 2012. Ст. 362.

**Хігер Ян** // Higier Jan, лекар-дэрматолаг. Спецыяліст па скурна-венерычных захворваннях. Старшыня праўлення вайскова-спартыўнага клуба WKS «Cresovia» (1925). Сябра павятовага камітэта фізічнага выхавання

(1927); сакратар праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Чырвонага Крыжа (Polski Czerwony kryż oddział w Grodnie) (1928–1931). Газета «Głos ziemi Grodzieńskiej» у нататцы, прысвечанай тэніснаму турніру Беласток-Гродна, пісала аб ім: «Галоўная заслуга ў арганізацыі ўсяго мерапрыемства належыць нястомнаму пану доктару Хігеру, піянеру спорту ў Гродна, які ніколі не шкадуе часу і намаганняў, каб ажывіць спартыўны рух на тутэйшым абшары». Жыў па вул. Rydza-Śmigłego, 3 (1925).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 111. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 5; «Nowy dziennik kresowy». 3.3.1925. Str. 4; «Nowy Dziennik Kresowy». 26.08.1927. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4; «Głos ziemi Grodzieńskiej». 20.8.1931.№ 42. Str. 3.

**Хішберг** // Hiszberg, дырэктар першай коэдукацыйнай грамадскай гімназіі ў Гродна (Pierwsze Społeczne Gimnazjum Koedukacyjne w Grodnie) (1932).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 4.7.1932. № 34. Str. 4; R. Marcus. Żydowskie szkolnictwo średnie w Grodnie w okresie międzywojennym (do okupacji niemieckiej) // Rocznik Grodzieński. 2012. № 4. Str. 110.

**Хмялеўская Ванда** // Chmielewska Wanda (1898, Гродна–?), настаўніца. Скончыла Віленскі ўніверсітэт. Настаўніца сярэдняй школы № 19 у Гродна (1940). Падчас нямецкай акупацыі займалася тайным навучаннем (давала прыватныя ўрокі). З вяртаннем савецкай улады – настаўніца ў школе № 2 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп.1. Спр. 10. Арк. 37.

**Хмяльніцкая** // Chmielnicka, адміністратарка маёнтка Станіславова князёў Друцкіх-Любецкіх (1920-я). Галоўная апякунка Занёманскага дабрачыннага таварыства.

*Літ.:* Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск, 2012. Ст. 356.

**Хмялюўна Антаніна** // Chmielówna Antonina, настаўніца школы № 4. Скончыла выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Львове. Паводле характарыстыкі паявтовага школьнага інспектара: «Сумленная і працавітая, аднак без шырокіх гарызонтаў. Пасадзе кіраўніка школы адпавядае» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6.

**Хмуркоўска-Фішэр Марыя** // Chmurkowska-Fiszer Maria (9.1.1901, Варшава–9.6.1979, Варшава), актрыса. Скончыла ў Варшаве гімназію і драматычную школу (1920). Выступала ў польскім тэатры ў Вільні(1920–1921), Пражскім тэатры ў Варшаве (1922–1923), гродзенскім тэатры (1923–1924). Пазней выступала ў Лодзі, Катавіцах, Торуні і інш. Актрыса тэатра самаўрада Беластоцкага ваяводства з сядзібаю ў Гродна (Teatr objazdowy samorządów województwa białostockiego) (1930–1931, 1936–1937). Пазней стала выступаць на сцэнах варшаўскіх тэатраў. За выдатнае выкананне гумарыстычных маналогаў яе называлі «Чаплінам у спадніцы». Падчас нямецкай акупацыі разам з мужам, Ф. Хмуркоўскім, утрымлівалі бар «Pod światełkami», дзе ўладкоўвалі на працу былых артыстаў. Сувязная АК; удзельніца Варшаўскага паўстання. Працягвала творчую дзейнасць і пасля вайны.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900- 1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 111-112.

**Хмуркоўскі Фелікс** // Chmurkowski Feliks (18.5.1896, Варшава–16.4.1971, Варшава), акцёр. Муж М. Хмуркоўскай-Фішэр. Скончыў гімназію імя А. Міцкевіча ў Варшаве. Вучыўся ў Варшаўскай драматычнай школе. Выступаў у тэатрах Вільні, Варшавы, Любліна. Артыст гродзенскага тэатра (1923–1924). Пазней выступаў у тэатры «Папулярным» у Лодзі (1924–1925), гарадскім тэатры ў Грудзянзу (1925–1926), польскім тэатры ў Катавіцах (1926–1927), гарадскім тэатры ў Торуні (1927–1928), у тэатры «Новым» у Познані (1928–1930), у варшаўскіх тэатрах. Падчас нямецкай

акупацыі быў арыштаваны. Прымаў удзел у Варшаўскім паўстанні. Пасля вайны выступаў на сцэнах тэатраў Варшавы, Лодзі, Беластока і інш. Здымаўся ў кіно.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 113-115.

**Хорвац Артур** // Horwath Artur (?–1944), літаратурны кансультант. Адміністратар (адміністрацыйны дырэктар) гродзенскага тэатра (1936–1938). Муж А. Лібіцкай. У інтэрв'ю адной з мясцовых газет з нагоды адкрыцця тэатра ў Беластоку і своеасаблівай канкурэнцыі паміж ваяводскім цэнтрам і Гродна выказаўся за агульнае кіраўніцтва тэатраў у двух гарадах. Быў звольнены з пасады (3.1939). Падчас Другой сусветнай вайны быў адным з найбольш актыўных кіраўнікоў легальных тэатраў у Варшаве. Здымаўся ў антыпольскім нацысцкім фільме «Heinkehr», дзе выканаў ролю сакратара ваяводы. Пазней арыштаваны і забіты немцамі.

*Літ.:* «Głos Grodzieński». 1939. № 2. Str. 4; «Dziennik kresowy». 26.3.1939. № 85. Str. 4; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 235.

**Хохфельд Станіслаў** // Hochfeld Stanisław, афіцэр запасу. Рэферэнт па навучанні і падрыхтоўцы. Намеснік каменданта Гродзенскага аддзялення Саюза стральцоў (Grodzieńskiej Komendy Zw. Stzrel.) (1926). Пазней камендант Гродзенскай акругі. У Гродзенскім акруговым судзе разглядалася справа фізічнай знявагі С. Хохфельдам гродзенскага старасты З. Рабакевіча за тое, што той адмовіў яму ў выдачы ліцэнзіі на ўтрыманне тытунёвага склада (hurtowni tytuniowej). Атрымаў тры месяцы арышту (1932).

*Літ.:* «Reduta». 1926. № 4. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 3.1.1933. № 2. Str. 4.



**Целені Антаніна** // Celeni Antonina (1907–?), настаўніца. Скончыла матэматычна-прыродазнаўчы факультэт Віленскага ўніверсітэта, курсы для настаўнікаў (1939, 1940). Пачала працаваць практыканткай у жаночай гімназіі імя Э. Плятэр (1935–1936), пасля – настаўніца матэматыкі, фізікі, хіміі ў швейнай школе (1937–1940). Настаўніца матэматыкі ў сярэдняй школе № 11 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 26-26 зв.

**Ценскі Вітольд** // Cieński Witold (28.6.1896, Сочэвц, Гостынскі павет –?), прэзідэнт Гродна (26.11.1936–1939). Нарадзіўся на Мазовіі. Сын Станіслава і Браніславы з Гаеўскіх. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Ленчыцы (seminarium nauczycielskie w Łęczycy), гуманітарны калегіум у Варшаве (kolegium humanistyczne w Warszawie), Вышэйшую лясную школу (wyższą szkołę leśna), падафіцэрскую школу (szkoła podhorążych) у Познані. Кіраўнік стралецкай дружыны (1912). Сябра ПАВ у Варшаве (з 1915). Служыў у польскім войску (1918–1921). Пасля дэмабілізацыі працаваў прадстаўніком Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы ў Бразіліі, дзе адказваў за польскія школы (wysłannik Ministerstwa Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego w Brazylii) (1924–1930). Кіраўнік навуковага кола і інструктар асветы ў штатах Парана, Рыа Грандэ дэ Сул; старшыня аддзела асветы польскай калоніі Гуараны; міравы суддзя пры польскіх арганізацыях



(sędzia rozjemczy zw. zrzeszeń polskich). Тройчы з’яўляўся дэлегатам на з’езд палякаў замежжа ў Варшаве (Zjazd Polaków z Zagranicy w Warszawie). Дырэктар акруговай Касы хворых у Злочаве (Złoczowie) і камітэта Касы хворых у Тарнопалі (dyrektor okr. kasy chorych). Дырэктар сацыяльнага забеспячэння ў Злочаве і Гродна (dyrektor Ubezpieczalni Społecznej) (1934). Сябра магістрата, фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) (1934–1939). Сябра прэзідыума Гродзенскай гістарычнай бібліятэкі (1937); старшыня дабрачыннага таварыства; сябра праўлення Польскага Чырвонага Крыжа; праўлення Саюза легіянераў (Zw. Leg.);

рэвізійнага камітэта фундацыі працы (fund. pracy); камітэта па святкаванні дваццацігоддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Wspomnijmy teraz postać, którą Pan pamięta, Która w Grodnie dobrego wiele dokonała, Ostatniego za Polski weźmy prezydenta, Człowiek w czynach ambitny i postać wspaniała. Reformy w Kasie Chorych wielkie przeprowadzał, Lokal stary powiększał, bowiem był za mały, Budował ściany nowe, a stare wysadzał, I tak piękny gmach chorym prace jego dały. A potem Witold Cieński, bo o nim tu mowa, Głową miasta zostaje i znów projektuje. Dzielnica ma tu powstać wielka przemysłowa I hydroelektrownię na Niemnie zbuduje. I miasto tak upiększy, że go nie poznacie, Słynąć będzie z porządku i błyszczeć z widoku, A Pyszki i Łosośnę złączy w kombinacie I Poniemuń odżyje z gotówki potoku. Tak piękne to być miało, lecz inaczej było, Grodno wojna objęła, walka dwa dni trwała, Lombard skarby mu oddał i złoto odpłyło, A projekty te wielkie wojna pogrzebała. Bogate miały płynąć do Grodna obroty, Miał być budżet obfity i bilans dodatni, A oto popłynęły z Grodna w świat sieroty, Tak tragicznie jest pięknym Pan Cieński ostatni…» Жыў па адрасе: Aleja 3 Maja, 10.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938 Str. 109; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 46-47.

**Цыбульскі Зыгмунд** // Cybulski Zygmunt, інжынер. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб’яднання польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Быў абраны ў Касу хворых (1926). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Magistrat miał grodzieński zdolnego chemika, Był to Zygmunt Cybulski, człowiek szanowany, Inżynier był wybitnym wzorem urzędnika, Pracy swojej fachowej zawsze był oddany. O przyszłość Polski żywił troskliwość głęboką, Często o tym prowadził dysputy gorące, Tym bardziej więc wytężał swe chemiczne oko, By wyniszczyć zawczasu bakcyle szkodzące…»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 9 зв.; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 79; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Цывінская Стэфанія** // Cywińska Stefania, настаўніца матэматыкі ў мужчынскай настаўніцкай семінарыі. Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Перад Другой сусветнай вайной пераехала ў Ломжу, дзе і памерла.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 5; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 91.

**Цыдзік Стэфан** // Cydzik Stefan (каля 1882–?), чыноўнік. Кіраўнік акцызнага камітэта. Уладальнік нерухомасці. Выконваў абавязкі суддзі 1-га раёна Гродзенскага павета (1919). Радны гарадской Рады (Związek Socjalistyczny robotników polaków) (1919–1927; 1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад хрысціянска-народнага спіса кандыдатаў (Chrześcijańsko-Narodowa Lista Kandydatów) (1939). Віцэ-прэзідэнт Гродна (1922). Магчыма, спраектаваў басейн з залатымі рыбкамі ў парку (Швейцарская даліна) (1930). Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных грунтаў на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935). Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924); праўлення Польскага дабрачыннага таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (на 1921, 1930). Акруговы апякун 3-й акругі Гродна (1935). У Л. Саванеўскага ёсць пра яго наступныя радкі: «A oto Stefan Cydzik do Sagi naziera, Czy co o Towarzystwie Dobroczynnym piszą, Ponieważ on ochronki wciąż nowe otwiera, Czy więc jego apele o pomoc usłyszą. Bo

jemu wciąż potrzebne są grube fundusze, Departament on bowiem rozległy buduje, I krzepi wątłe ciała i uzdrawia dusze I od troski o przyszłość pupilów ratuje». Жыў па вул. Jerozolimska, 14 (1922). Нейкі Цыдзік быў удзельнікам шахматнага чэмпіянату ў Гродна (1931). Сустракаецца яшчэ Вітольд Цыдзік – аўтар нарыса «Успаміны», прысвечанага першаму візіту Ю. Пілсудскага ў Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 22. Воп. 1, Спр. 10. Арк. 142; Там жа Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк 33, 46; Там жа Спр. 201. Арк. 71; Там жа Спр. 284. Арк. 26 зв.-27; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 7; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Dziennik Grodzieński». 18.5.1922. № 74. Str. 3; «Dziennik Grodzieński». 3.8.1922. № 135. Str. 3; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 1.12.1930. № 330. Str.1; «Przegląd Kresowy». 24.1.1930. № 9; «Przegląd kresowy». 20.07.1930; «Przegląd kresowy». 23.07.1930; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; W. Cydzik Wspomnienie // W rocznicę 1533–1918–1933. Grodno, 1933. Str. 20-21; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodna,1925. Str. 10; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 24; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. Мінск, 2012. Ст. 345; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Цыловіч Сымон** // Cylowicz Szymon, чыноўнік. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад расійскага выбарчага спіса (1939).

*Літ.:* «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Цытаржынскі Ежы** // Cytarzyński Jerzy, інжынер. Кіраўнік прадпрыемстваў маёнтка Станіслава (Generalny administrator dóbr i kierownik fabryk m. Druskich-Lubieckich). Актыўны грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднання польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927) і хрысціянскай фракцыі (1934–1939). Неаднаразова выступаў з ініцыятывай знайсці і адбудаваць у горадзе свідравіну з мінеральнай вадой, якую выкарыстоўвалі нямецкія ўлады падчас акупацыі. Дапамагаў камітэту па ўпарадкаванні гродзенскіх каталіцкіх могілак (1924). Быў абраны ў Касу хворых (1926). Сябра ТСК (1921), камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922), таварыства сяброў навук (Towarzystwo Przyjaciół Nauk) (1923), камісіі, якая мела сваім заданнем абарону статусу Гродна як «горада, не выдзеленага з павета» (1927); павятовага праўлення камітэта ЛОПП, аргкамітэта таварыства загарадных участкаў (Komitet Organizacyjny T-wa Ogródków Działkowych ), камітэта музея прыроды ў Гродна (1930); камітэта па пабудове заапарка (Komitet ogrodu przyrodniczego) (1930); праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага таварыства апекі над мастацтвам, культурай і прыроднымі каштоўнасцямі «Лехія» (zarząd oddziału grodzieńskiego wojewódzkiego Towarzystwa opieki nad sztuką, kulturą i zabytkami przyrody «Lechia») (1930); тапанімічнай камісіі; тэатральнай камісіі і інш. Аўтар выдання «Czarny bóbr z Łunny pod Grodnem» (1929). Арыштаваны органамі НКУС. Памёр у турме. Яго сыны былі расстраляны немцамі ў Варшаве.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 64 зв.-65; Там жа – Спр. 19. Арк. 23; Там жа Спр. 282. Арк. 2 зв.-3; Там жа Спр. 284. Арк. 25; «Dziennik Grodzieński». 18.5.1922. № 74. Str. 3; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Nowe życie». 1924. № 7. Str. 3; «Nowy dziennik kresowy». 26.2.1926; «Przegląd kresowy». 6.2.1930. № 20. Str. 4; «Pzegląd Kresowy». 8.3.1930. № 47; «Pzegląd Kresowy». 11.4.1930. № 76; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; J. Cytarzyński Czarny bóbr z Łunny pod Grodnem. Kraków, 1929; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Białystok, 1994. Str. 90; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Цэтнерскі Хельядор** // Cetnerski Heljodor (каля 1884–18.10.1921, Гродна), грамадска-палітычны дзеяч. Адзін з арганізатараў Гаспадарчага саюза (Związek Gospodarczy). Сябра праўлення клуба «Муза» (Klub artystyczno-towarzyski Muza), кіраўнік яго драматычнага кола (на 1921). Памёр ад хваробы сэрца.

*Літ.:* «Echo Grodzieńskie». 9.1.1921. № 6. Str. 4; «Echo grodzieńskie». 20.10.1921. № 235. Str. 3.



**Чайкоўская Алена** // Czajkowska Alena, апякунка дзіцячага садка пры Польскім дабрачынным таварыстве ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (на 1930). Грамадская дзяячка. Уваходзіла ў склад праўлення Гродзенскага аддзялення Польскага Белага Крыжа (1930-я). Была выслана савецкімі ўладамі на Усход, аднак транспарт трапіў пад нямецкую бамбёжку (22.6.1941). Жонка Б. Чайкоўскага.

*Літ.:* «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 1.12.1930. № 330. Str.1; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжванным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 340; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 143.

**Чайкоўскі Браніслаў** // Czajkowski Bronisław (?–1939), намеснік гродзенскага старасты (на 1929–1937). Сябра павятовага праўлення ЛОПП; магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Інспектар у Беластоцкім ваяводскім упраўленні. Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Czajkowski z tego słynny, że wicestarostą Był za wielu starostów, jak żelazo, trwały. Zmieniały się osoby pod kariery chłostą, Ale wicestarosty losy nie ruszały...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 78.

**Чангеры Уладыслаў** // Czengery Władysław (12.3.1888, Хадаркув– 2.1942, Самарканд), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра. Скончыў гандлёвую гімназію ў Кіеве; вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце, драматычнай школе А. Загарова. Выступаў на сцэне тэатраў у Рызе, Пецярбургу, Кіеве, Харкаве і інш (1908–1917). Пасля Першай сусветнай вайны – у Югаславіі, Латвіі. Пазней пераехаў у Польшчу (1933). Працаваў тэатральным рэжысёрам у Вільні (1933–1934; 1936–1937), Лодзі (1934–1936), Познані (1937–1938). Дырэктар і рэжысёр гродзенскага тэатра (1938–1940).

*Літ.:* «Slowo». 27.08.1938. № 235. Str. 7; Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 110.

**Чапароўскі Люцыян** // Czaporowski Łucjan, (13.12.1904, Білгорайскі пав.–?), суддзя. Каталік, паляк. Бацькі – Станіслаў і Марыя-Браніслава Чапліцка. Скончыў юрыдычны факультэт Люблінскага ўніверсітэта (1929). Здаў экзамен на суддзю (1932). Служыў у польскай арміі (1930–1931). Судовы стажор акруговага апеляцыйнага суда ў Любліне (1932–1933). Суддзя гродскага суда ў Гродна (з 9.3.1933). Кіраўнік гродскага суда ў Гродна (29.5.1935–1937). Суддзя акруговага суда ў Луцку (з 18.5.1937). Сябра павятовага аддзялення ЛОПП; магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Быў жанаты з Ірэнай Сікорскай. Меў дачку Барбару (1934).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 482; ДАГВ Ф. 52. Воп. 2. Спр. 2. Арк. 2 зв.; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.

**Чапліцкая Мар'я** // Czaplicka Maria (1898–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю. Працавала настаўніцай у агульнай школе ў Варшаве (1919–1923), Сувалках (1927–1934), Гродна (1934–1940). З усталяваннем савецкай улады працавала ў беларускай няпоўнай сярэдняй школе № 3 у Гродна. Вытрымка запіскі інструктара аддзела народнай асветы (мова арыгінала): «Белорусским языком овладает слабо. Готовиться к урокам добрасумленно. Уроки методически поставлены довольно правильно. Все предметы за исключением белорусского языка читает на польском языке. Планы рабочие и воспит. исполняет. Воспитательная работа проводится в классе». Пазней перайшла ў польскую сярэднюю школу № 19 (1941). Падчас нямецкай акупацыі дзейнічала ў АК.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 7 зв.; Там жа. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 59-59 зв.; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 334.

**Чапліцкі Мар'ян** // Czaplicki Marian, грамадскі дзеяч. Працаваў у грамадскім страхаванні (Ubezpieczalnia społeczna). Сябра павятовага аддзялення ЛОПП. Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 21 зв.

**Чапув (Чапувна) Вікторыя Стэфанія** // Czapów (Czapówna) Wiktoria Stefania (21.7.1886, Еве–1.5.1975, Радзымін), настаўніца. Нарадзілася ў сям'і чыноўніка чыгункі. Бацькі – Бенядзікт Вінцэнт і Юзэфа з Цурланісаў (Curlanisów//Awłanisów). Скончыла сярэднюю школу і гімназію ў Коўна (1914), Вышэйшыя настаўніцкія жаночыя (Бясстужаўскія) курсы, факультэт славянскай філалогіі і гістарычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1916). Як сябра праўлення Польскай Мацежы Школьнай працавала настаўніцай і інспектарам польскіх агульных школ у Пецярбургу (1910– 1916). Пазней вярнулася ў Польшчу, дзе працавала ў Міністэрстве вайсковых спраў (1920); выкладала ў настаўніцкай семінарыі ў Беластоку (1921–1922). Жыла ў Гродна (з 1922). Працавала дырэктарам жаночай дзяржаўнай семінарыі (Państwowe Seminarium Żeńskie), настаўніцкай семінарыі ў Гродна (Seminarium nauczycielskie w Grodnie) (1925–1939), выконвала абавязкі дырэктара Польскай Мацежы Школьнай і адукацыйных курсаў для дарослых (dyrektor zarz. Mac. Szkol. i kursów dokształcenia dła dorosłych) (1926). Здолела сабраць вакол сябе выдатных педагогаў. Актыўная грамадская дзяячка. Балатавалася на выбарах у гарадскую Раду (1927). Радная Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1934-1939). Уваходзіла ў склад камісіі па ўдакладненні герба горада (1936) і тэатральнай камісіі. Старшыня мясцовага кола Саюза па падрыхтоўцы жанчын для абароны краіны і Саюза жаночай грамадскай працы (Zw. Pracy obywat. kobiet) (1930). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937); праўлення Польскага краязнаўчага таварыства ў Гродна (на 1927); аддзела Польскага гістарычнага таварыства ў Гродна (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), Таварыства падтрымкі народных промыслаў (Towarzystwa popierania przemysłów ludowych), Таварыства падтрымкі будоўлі агульных школ на тэрыторыі Гродна і павета (Towarzystwo poperania budowy publicznych szkół powszechnych na terenie Grodna i powiatu), камітэта аб'яднаных жаночых арганізацый Гродна (komitet zblokowanych organizacyj kobiecych w Grodnie) (на 1938–1939). З пачаткам Другой сусветнай вай-

ны, ратуючыся ад савецкіх службаў бяспекі, пераапрануўшыся жабрачкай, перайшла савецка-нямецкую мяжу (1940). Яе пляменніца Альдона Яўлоўская ўзгадвала пазней пра сваю «цёцю Толу»: «Памятаю, як мы пакідалі Гродна. Тола была вельмі вядомаю асобай… Павінна была ўцякаць пераапрануўшыся… Я ехала разам з мамаю дарожкай, вельмі паволі. Побач, тратуарам, падпіраючыся тоўстым кіем, ішла цёця Тола – без акуляраў, абвесіўшыся бруднымі шматамі, у шэрай хустцы на галаве, з вялікім клункам на плячах…» Пазней – дырэктар інтэрната для сірот у Варшаве. Разам з Л. Яленскай арганізавала практычныя лекцыі для канспіратыўнага педагагічнага ліцэя. У канцы акупацыі мела цяжкую аперацыю на вока і была вымушана пайсці ў адпачынак. Пераехала ў маёнтак сям'і Мараўскіх каля Іваніска. Дырэктар педагагічнага ліцэя ў Кельцах (Liceum pedagogiczne w Kielcach) (1945–1951). Пасля звальнення партыйнымі ўладамі з пасады дырэктара пераехала ў Люблін, дзе кароткі час працавала ў школе, займалася рэпетытарствам. Яе пляменніца так апісвала гэты час: «Пра гродзенскую семінарыю я даведалася з размоў і апавяданняў настаўніц і вучаніц, якія наведваліся да цёці… Былі ўжо жанчынамі ва ўзросце, увесь час падтрымлівалі паміж сабою кантакты і ў цяжкія часы ўзаемна дапамагалі адна адной. А дырэктарка надалей была давераною асобай іх штодзённых клопатаў і аўтарытэтам, да якога яны звярталіся ў цяжкія хвіліны. Яна сама пра Гродна ніколі не размаўляла. Відавочна, што такія ўспаміны для яе былі вельмі балючымі». У сувязі з цяжкім станам здароўя трапіла ў шпіталь для невылечна хворых каля Радзыміна (Ośrodek dla nieuleczalnie chorych). Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Wiktoria Czapowówna, dyrektorka szkoły, Która uczy nauczać, wielce zasłynęła, Bo talent miała wielki dobierać zespoły, W których praca wysoki poziom osiągnęła. I sama dyrektorka wzorem pracy była, I jej młodzież na dzielnych oświatowców rosła, Albowiem ją zasady takiej nauczyła, By oświaty kaganiec w godnych dłoniach niosła. Białystok ją nam oddał z wielką swoją stratą I do końca już w Grodnie naszym pracowała, A wyszła ze zdobyczą niezwykle bogatą: Ze dwadzieścia roczników matury wydała». У яе гонар усталявана мемарыяльная дошка на будынку гуманітарна-прыродазнаўчага ўніверсітэта ў Кельцах (Uniwersytet Humanistyczno-Przyrodniczy Jana Kochanowskiego). У Гродна жыла ў будынку настаўніцкай семінарыі па вул. Orzeszkowej, 22 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 284. Арк. 25; Там жа. Воп. 1 Спр. 285. Арк. 100-100 зв., 107; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 20.5.1927. № 137; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 1938. № 254; «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 293; «Dziennik kresowy». 14.3.1939. № 73. Str. 3; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 117; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 69; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 58; Wiktoria Czapów : 1886-1975 / oprac. Aldona Jawłowska, Teodora Cygankiewicz-Cedro, Leokadia Sap. Kielce, 2000.

**Чапурны Яфім** // Czepurny Jafim, кіраўнік Цэнтральнага ўкраінскага камітэта ў Гродна (з 1935). Удзельнічаў у абароне Гродна (1939). Вось як пісаў аб ім савецкі журналіст адразу пасля падзей: «Помимо пилсудчиков к обороне города привлекалась контрреволюционная шваль самых разнообразных мастей и оттенков. Один из отрядов был создан, например, петлюровцем Ефимом Чепурным. Группа украинских националистов, возглавляемая Чепурным, руководилась из Варшавы вторым отделом польского генштаба…» Нейкая Марыя Чапурная разам з дзецьмі была выслана савецкай уладай з горада (13.4.1940).

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 341; Wiszka Emilian. Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577; А. Ваш-

кевич, А. Чернякевич Взгляд с другой стороны: бои за Гродно в 1939 году глазами советского корреспондента // Rocznik Grodzieński. Rok 2012. Nr 4. Str. 172.

**Чарвякоўскі Мікалай** // Czerwiakowski Mikołaj (1891, Гродна–1987), кнігазнаўца, публіцыст. Адзін з кіраўнікоў расійскага руху ў Гродна. Нарадзіўся ў сям'і чыноўніка Гродзенскага губернскага праўлення. Скончыў Гродзенскую мужчынскую гімназію (1912). Вучыўся ў Юр'еўскім універсітэце. Пазней перавёўся на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (скончыў у 1917). Падчас Першай сусветнай вайны быў вымушаны эвакуіравацца разам з бацькамі ў Калугу. Сябра Беларускай вучнёўскай Грамады (1918). Служыў у Чырвонай Арміі пісарам. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Гродна (1922). Працаваў рабочым на дрэваапрацоўчым прадпрыемстве Аркіна, карэктарам у друкарні Лапіна, даваў прыватныя ўрокі. Загадчык бібліятэкі пры РДТ (з 1926); сакратар РНА (1927). Удзельнічаў у выпуску газет-аднадзёнак «Зарница», «Наш день», «Русский день», карэспандэнт выданняў «Русский голос» (Львоў), «Искра», «Руль» (Вільня). Пісаў артыкулы па гісторыі і культуры. Вылучаўся на выбарах у гарадскую Раду ад беларуска-рускага блока (1927). Дэлегат Усепольскіх з'ездаў прадстаўнікоў рускамоўных культурна-асветніцкіх арганізацый і ўстаноў (1927, 1931). Працаваў у Гродзенскай гарадской бібліятэцы (1939–1941) і архіве (з 1.2.1942). Падчас нямецкай акупацыі здолеў выратаваць значную частку іх кнігазбору. Сябра Беларускага аб'яднання (1942). Пасля вызвалення працаваў у бібліятэцы, архіве, музеі. Друкаваўся на старонках «Гродзенскай праўды». Быў зняволены па абвінавачванні ў супрацоўніцтве з нямецкімі ўладамі (1952–1956). Пасля вызвалення кароткі час працаваў у гістарычным архіве. Апошнія гады правёў у доме састарэлых. Вядомы ў горадзе філатэліст і калекцыянер кніг. Рэабілітаваны (1994). Жыў па вул. Stanisławowska, 5.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 24; Там жа Ф. 99. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 1; В. Чарапіца З роду асветнікаў Чарвякоўскіх // «Гродзенская праўда». 22.3.1994; В. Свякла Вечны вандроўнік з горада над Нёманам // Літаратура і мастацтва. 23.12.2011. Ст. 22; Е. Ермоленко, В. Черепица 400 имен: жизнеописания видных деятелей истории и культуры Гродненщины (с древнейших времен до начала XX века). Гродно, 2014. Стр. 404-405.

**Чудзіновіч Міхал** // Czudzinowicz Michał (5.7.1886, Пухавічы, Ігуменскі пав.–?), пракурор, суддзя. Яго бацька быў праваслаўным святаром. У дакументах вызначаў сябе як рускага і толькі аднойчы (у 1920) – як беларуса. Скончыў гімназію ў Мінску, юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Працаваў малодшым судовым стажорам у следчым судзе ў Мінску (1913–1914), памочнікам старшага натарыуса (1914). Здаў экзамены на старшага судовага стажора (1918). Быў мабілізаваны ў войска (1914–1918). Афіцэр запасу рускай арміі. Працаваў у судзе ў Мінску (14.4.–10.5.1918), следчым суддзёй Ігуменскага павета (10.5.–15.9.1918), міравым суддзёй у Ігумені (15.9.–9.12.1918), судовым стажорам у акруговым судзе ў Мінску (1.10.1919–23.1.1920). Выконваў абавязкі следчага суддзі Мазырскага павета (23.1.–19.2.1920), быў следчым суддзёй Мазырскага павета (19.2.–9.7.1920). Служыў добраахвотнікам у польскай арміі: у 4-м батальёне 216-га артылерыйскага палка (1.9.–8.11.1920). Следчы суддзя ў Нясвіжы (з 13.1.1921). Падпракурор акруговага суда ў Навагрудку (з 2.6.1921), падпракурор акруговага суда ў Ломжы (з 15.12.1927), падпракурор акруговага суда ў Гродна (з 15.3.1928), віцэ-пракурор там жа (з 16.7.1929). Суддзя акруговага суда ў Гродна (з 22.10.1930). Узнагароджаны медалём «Дзесяць год незалежнасці» (1929), двойчы – Крыжам Заслугі, медалём «За заслугі». Вытрымка з характарыстыкі: «Шчыры, лаяльны, з пачуццём асабістай годнасці, абсалютна бескарыслівы... У працы

амбітны, вельмі абавязковы... Стары дасведчаны суддзя... Знаходзіцца ў цяжкім матэрыяльным становішчы ў сувязі з тым, што дапамагае сям'і брата». Быў жанаты з Вольгай Далмацкай (пабраліся ў 1910).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 511.

**Чэрманскі Эдвард** // Czermański Edward (каля 1899 – 1944, Варшава), акцёр, рэжысёр. Выступаў у Пшэмыслі, Кутне, Плоцку, Варшаве і інш. Акцёр гродзенскага тэатра (1922–1923; 1924–1925). З яго ініцыятывы паўстала кабарэ «Stańczyk Grodzieński», дзе ён выступаў як спявак і аўтар тэкстаў. Рэдактар гродзенскага часопіса «Wiadomości Teatralne» (1925). Пазней выступаў у розных польскіх тэатрах. Падчас Другой сусветнай вайны – сябра АК. Загінуў падчас Варшаўскага паўстання.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1900-1980. T. II. Warszawa, 1994. Str. 137-138.

**Чырнянская Ірына** // Czyrniańska Irena, настаўніца спецыяльнай школы ў Гродна. Скончыла Варшаўскі інстытут спецыяльнай педагогікі. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Вынікі працы здавальняючыя. Як кіраўнік – не дае рады» (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8.



**Шакоўскі Аляксандр** // Szakowski Aleksander (?–22.10.1935), акцёр, рэжысёр, дырэктар тэатра. Выступаў у тэатрах Любліна, Кіева, Варшавы, Кракава. Быў дырэктарам франтавога тэатра ў Гродна (1920). Заснаваў тут акцёрскую стыпендыю імя Астэрвы. У міжваенны перыяд выступаў, галоўным чынам, у розных варшаўскіх тэатрах.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 699.

**Шалешка Уладзімір** // Szeleszko Włodzimierz (1899–?), беларускі нацыянальны дзеяч. Настаўнік. Сябра БПС-Р. Сакратар І-га і ІІ-га Беларускага настаўніцкага з'езда Гродзеншчыны (1919), Гродзенскай беларускай настаўніцкай рады, Гродзенскай Грамады беларускай моладзі. Паводле польскай дэфензівы, падчас усталявання савецкай улады працаваў у ЧК у паўднёвых гмінах Гродзенскага павета. Рэдактар гродзенскай газеты «Беларускае слова» (1920–1921). Супраць яго была ўзбуджана крымінальная справа за перадрукоўку артыкула «Адна вера, ды не адзін народ» з газеты «Наша ніва». Сябра арганізацыі Беларускіх беспартыйных актывістаў. Хаваючыся ад набору ў польскае войска, пераехаў у Вільню (1922). Сакратар Віленскай беларускай гімназіі і карэктар беларускіх газет. Пасля – у БССР (з 1924).

*Літ.:* НАРБ Ф. 604. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 33-34; ДАБВ Ф. 67. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 38; ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 110. Арк. 122; Архівы БНР Т. 1. Ч. 1. Ст. 320, 454; «Беларуская думка». 11.7.1919,. № 42; «Наша думка», 18.3.1921. № 11; «Жыцьцё Беларуса». 3.10.1925. № 8; У. Ляхоўскі. Пачатак тварэння беларускае нацыянальнае школы // «Спадчына». 2001. № 1-2. Ст. 71.

**Шалер Мар'ян Караль** // Szaller Marian Karoł (5.2.1904, Кракаў–?), футбаліст. Пачаў выступаць за кракаўскую «Urania». Затым выступаў за віленскую «Pogoń», адкуль перайшоў у гродзенскую футбольную каманду GKS «Cresovia». Дзякуючы паспяховай гульні ў чэмпіянаце класа «А», быў прыняты ў WKS «Legia» (1927–1936). Выступаў за зборную Польшчы па футболе (1930–1934).

*Літ.:* «Marian_Schaller». Режим доступа http://pl.wikipedia.org/wiki/Marian_Schaller Дата доступа 2013.01.12.

**Шалы Тадевуш** // Schally Tadeusz (12.5.1897, Стрый–?) вайсковец. Сын Андрэя і Станіславы Смяхоўскай. Скончыў школу кадравых афіцэраў у Львове. Служыў у аўстрыйскай арміі, удзельнічаў у абароне Львова. Быў паранены. Служыў у польскай арміі (да 1926). Капітан запасу. Працаваў камісарам і дырэктарам Касы хворых у Надворне, Станіслалова, Раве Рускай, Яраслаўлі; камісарам акруговага саюза Касы хворых у Вільні (komis. okr. zw. kas chor. w Wilnie). Выконваў абавязкі дырэктара грамад-

скага страхавання ў Гродна (ob. dyr. ub. społ. w Grodnie). Сябра праўлення Саюза аднаўлення Рэчы Паспалітай (Związek Odbudowy Rzeczypospolitej (Z.O.R.)), Саюза рэзервістаў (Zw. rez.), Саюза стральцоў (Zw. strz.), Саюза вайсковых асаднікаў (Zw. osadn. wosk.). Жыў па вул. Akademicka, 15.

*Літ.:* Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 271.

**Шаняўскі Станіслаў** // Szaniawski Stanisław, пракурор Гродзенскага акруговага суда (на 1924, 1932). Пазней пераведзены ў Вільню.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 36. Арк. 76; «Wieczorny kurier Grodzieński». 9.1.1933. № 8. Str. 3.

**Шапіра Хаім** // Szapiro Chaim (1872–?), яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Равін (з 1917). Жыў па вул. Wileńska, 17 (1925).

*Літ.:* В. Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 124.

**Шапіра Хаім** // Szapiro Chaim (26.11.1872, Люблін–1943), лекар. Скончыў медыцынскі факультэт Дэрпцкага ўніверсітэта (1906). Спецыялізаваўся па ўнутраных і жаночых хваробах. Меў у Гродна прыватную практыку. Гінеколаг пры першай амбулаторыі (на 1940). Загінуў падчас нямецкай акупацыі. Жыў па вул. Witoldowa, 19 (1937).

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 4. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 2011. Str. 415.

**Шарашэўскі Ёсель** // Szereszewski Josel (?–3.12.1925) , гаспадар тытунёвай фабрыкі ў Гродна. Магчыма, сябра мясцовага сіяністцкага камітэта, арганізацыі «Hechalutz» і дабрачыннай арганізацыі «ORT» (1920). Ахвяраваў пасля сваёй смерці чвэрць уласнай маёмасці на карысць Гродзенскай яўрэйскай абшчыны.

*Літ.:В.* Гончаров, О. Соболевская. Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125.

**Шафловіч Антоні** // Szafłowicz Antoni, адвакат. Сябра Грамадзянскага камітэта дапамогі ахвярам вайны ў Гродна (1941). Жыў на Pl. Batorego, 4.

*Літ.:* В. Черепица. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX–XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 178.

**Шафранскі Яцкель** // Szafrański Jachiel (?–11.1941, Гродна), фельчар. Паводле кнігі «Памяць», расстраляны ў гета. Жыў па вул. Zamkowa, 4 (1937).

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497.

**Шах Аляксей Якаўлевіч** (Фёдаравіч–?) // Szach Aleksy (1893, ці 1896 (?), в. Горна-Рута Навагрудскага пав.–?), беларускі дзеяч. Настаўнік. З праваслаўнай сялянскай сям'і. Падчас Першай сусветнай вайны быў у бежанстве ў Маскве. Скончыў Маскоўскую сярэднюю каморніцкую вучэльню. Пасля – на Гродзеншчыне (з канца 1918). Працаваў рэгентам архіерэйскага хору ў Супраслі, настаўнікам спеваў. Сакратар Гродзенскай Цэнтральнай беларускай настаўніцкай рады. Сябра Гродзенскай Грамады беларускай моладзі, пры якой узначальваў вакальную секцыю і кіраваў беларускім хорам. Жыў па вул. Mostowa, 9.

*Літ.:* У. Ляхоўскі Пасляслоўе да артыкула «Ліставаньне Янкі Станкевіча да Вацлава Ластоўскага з Прагі-Чэскае» // «Спадчына», 2001, № 3. Ст. 153.

**Шварц Марта** // Szwarc Marta (1892 –?), настаўніца. Скончыла гімназію, курсы беларускай мовы (1940). Працавала ў школе рамёстваў (з 1925), камерцыйнай школе, гімназіі, сярэдняй школе № 18 (1940). Жыла па вул. Juryzdyka // Fabryczna, 30.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127 Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 45-45 зв.

**Швейскі Акіба (Аківа)** // Szwejski Akiba (1905–?), настаўнік. Меў сярэднюю адукацыю. Праслухаў педагагічныя курсы. Працаваў настаўнікам у Зэльве (1924–1927), Пружанах (1927–1928), Лебедзеве (1928–1929), настаўнікам у школе «Яўне» ў Гродна (1929–1935), школе «Тарбут» (1939–1940), выкладаў рускую мову ў сярэдняй школе № 7 (1940). Жыў па вул. Witoldowa, 25.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 43-43 зв.

**Шкловер Фаня** // Szklover Fania (1896–?), настаўніца. Скончыла два курсы Кіеўскага педагагічнага інстытута, настаўніцкія курсы (1939, 1940). Працавала ў народнай яўрэйскай школе ў Беластоку (1919–1929), у Гродна (1929–1939), выкладала прыродазнаўства ў яўрэйскай няпоўнай сярэдняй школе № 12 (1940).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 39-39 зв.

**Шкоп Шымон** // Shkop Shimon Yehuda ha Kohen (1860–22.10.1939, Гродна), яўрэйскі рэлігійны дзеяч. Вучыўся ў ешыве ў Міры (1872), Валожыне (1875 – 1880). Настаўнік у ешыве ў Тэльзе (1885–1903), Малетаі (1903–1907), Бранску (1907–1920). Быў запрошаны ў Гродна (1920). Кіраўнік ешыва «Sha'ar HaTorah». Падравін Фарштата (з 1926). Распрацаваў асобную сістэму вывучэння Талмуда. Быў адным з найбольш аўтарытэтных талмудыстаў Польшчы. Аўтар кніг «Sha'arei Yosher» (1925), «Ma'arekhet ha-Kinyanim» (1936). Пахаваны на занёманскіх яўрэйскіх могілках.

*Літ.:* В. Гончаров, О. Соболевская Евреи гродненщины: жизнь до катастрофы. Донецк, 2005. Стр. 125; Wileński słownik biograficzny. Suplement. Opracował M. Jackiewicz. Bydgoszcz, 2012. Str. 280. http://en.wikipedia.org/wiki/Shimon_Shkop.

**Шмуэль Гарбе** // Shmuel Garbe, рэдактар яўрэйскай газеты «Grodner Leben» (1936–1939).

**Шнебелін Ірэна** // Sznebelin Irena (1864, Люблін–?), актрыса. Выступала ў камедыях, аперэтах, вадэвілях. Пазней страціла голас, але працягвала працаваць суфлёрам (1912). Працавала ў гродзенскім тэатры. Тут святкавалася саракагоддзе яе творчай працы (12.3.1925).

**Шор Бланка** // Szor Blanka (1904–?), настаўніца. Скончыла гуманістычна-філалагічны факультэт Львоўскага ўніверсітэта, курсы перападрыхтоўкі настаўнікаў (1940). Працавала настаўніцай замежных моў жаночай гімназіі (1927–1929) і жаночай семінарыі ў Яраслаўлі (1934–1935). Выкладала англійскую і нямецкія мовы ў яўрэйскай гімназіі (1935–1939) і рускай сярэдняй школе № 7 (1940) у Гродна. Жыла па вул. Listowskiego, 42 (1937).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 44-44 зв.

**Шохаль Якаў** // Szochal Jakób (каля 1891–?), настаўнік. Скончыў гімназію ў Гродна, вучыўся на медыцынскім факультэце Пражскага ўніверсітэта, у Дэрпцкім універсітэце. Працаваў у прагімназіі М. Рубінавай (1919). Жыў па вул. Policyjna, 10.

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Шпіндлер Маісей** // Szpindler Mojżesz (каля 1896–11.1942), купец. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Быў павешаны падчас нямецкай акупацыі за тое, што не данёс на сваю кватаранку, Алену Прэнскую, якая была затрымана па-за гета. (Згодна з кнігай «Памяць», яго пакаралі за тое, што ён сам знаходзіўся па-за межамі гета без адпаведных апазнавальных знакаў.) Жыў па вул. Wileńska, 13.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 18; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 417; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497.

**Шрэдэрс Вацлаў** // Schrötters Szreders Wacław (21 sierpnia 1897–?), вайсковец, палкоўнік. Кіраўнік санітарнай службы ДОК III. Арганізатар і першы старшыня праўлення вайсковага вяслярнага клуба «Нёман» («Wojskowy klub wioślarski «Niemen»). Пазней пераведзены з Гродна на іншае месца службы (1928).

**Шрэер Вітольд** // Schreyer Witold (20.12.1868, Варшава–?), суддзя. Лютэранін. Бацькі – Віктар і Юлія. Скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага ўніверсітэта. Стажор суда. Падсакратар акруговага суда ў Варшаве (1895–1899); рэферэнт Варшаўскага

губернскага праўлення; в.а. дарадчыка юрыдычнага аддзела; малодшы і старшы памочнік рэферэнта канцылярыі Варшаўскага генеральнага губернатара; бургамістр г. Пабьяніцэ; памочнік кіраўніка Бендзінскага павета; кіраўнік часовага праўлення канцылярыі губернатара ў Пётркаве; в.а старшага рэферэнта і чыноўніка Навагрудскага ваяводскага праўлення (1922–1926); міравы суддзя ў Зэльве (1926). Міравы суддзя акруговага суда ў Гродна (1927–1932). Пазней на пенсіі.

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 2669; «Wieczorny kurier Grodzieński». 14.8.1932. № 75. Str. 4.

**Штахельскі Юзаф** // Sztachelski Józef (14.8.1886, Гудзевічы–27.8.1920), суддзя. Скончыў гімназію ў Гродна, юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта. Працаваў памочнікам прысяжнага адваката ў Варшаве, у Гандлёвым банку. Падчас Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны ў армію. Пазней працаваў адвакатам. Суддзя крымінальнага аддзела акруговага суда ў Гродна. Сябра праўлення Польскай Мацежы Школьнай. Добраахвотнікам пайшоў у польскую армію (7.1920). Загінуў на фронце ад эпідэміі. Газета «Echo grodzieńskie» пісала ў некралогу: «Найлепшы сын Гродна, які па першым закліку паспяшаўся пад сцягі абаронцаў Айчыны...»

*Літ.:* «Echo grodzieńskie». 25.8.1921. № 189. Str. 1; «Echo grodzieńskie». № 191. Str. 2-3.

**Штэйнберг Аўгустын** // Sztejnberg Augustyn (каля 1850–?), адвакат. У Гродзенскім судзе разглядалася справа па абвінавачванні яго ў дзяржаўнай здрадзе за супрацоўніцтва з савецкай уладаю падчас бальшавіцкага панавання. Быў апраўданы (1921). Жыў па вул. Piłsudskiego, 17 (1924).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 98. Арк. 16; «Nowe życie». 1921. № 46. Str. 354-355.

**Шчучынская Фрыда** // Szczuczynska Fryda (1913–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, настаўніцкія курсы (1939, 1940). Выкладала ў школе «Тарбут» (1932–1939) і рускай сярэдняй школе № 7 (з 1939) у Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1н. Арк. 45-45 зв.

**Шчучынскі Гдэля** // Szczuczyński Gdela (1907–?), настаўнік. Скончыў настаўніцкую семінарыю, настаўніцкія курсы (1939, 1940). Працаваў настаўнікам у школе «Талмуд-Тора» ў Гродна (1932–1933), школе «Тарбут» у Сухаволі (1933–1935), школе «Тарбут» (1935–1939), сярэдняй школе № 7 (1939–1940), няпоўнай сярэдняй школе № 20 (1940) у Гродна.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 81-81 зв.

**Шув Ельля-Пейсах** // Szuw Elja-Pejsach (каля 1895–?), гандляр. Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Dominikańska, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1.

**Шулкес Арон** // Szulkes Aron (1884, Гродна–1943), чыноўнік, грамадскі дзеяч. Рана застаўся без бацькоў. Прымаў удзел у рэвалюцыі 1905 г., займаўся падпольнай працай і пазней быў вымушаны эміграваць з краіны. Няўдала спрабаваў адчыніць абутковае прадпрыемства ў Палесціне. Магчыма, нейкі час жыў у ЗША, дзе працаваў на швейнай фабрыцы. Пазней вяртаецца ў Гродна (у гэты самы час у яго нараджаецца старэйшы сын – Дов-Бер) (каля 1913). У якасці гандляра тэкстыльнымі вырабамі шмат падарожнічае па Расіі і Цэнтральнай Азіі. У міжваенны час быў сябрам мясцовай сіяністкай арганізацыі. Быў абраны сакратаром праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны, у складзе якой займаўся актыўнай грамадскай дзейнасцю. З’яўляўся сябрам Яўрэйскага дабрачыннага фонда

(Keren Kayemet), які збіраў ахвяраванні на развіццё яўрэйскіх пасяленняў у Палесціне. Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólnożydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). І. Салавейчык, адзін з кіраўнікоў сіянісцкага руху ў Гродна, так апісваў А. Шулкеса: «Ён быў знатаком права, жывою энцыклапедыяй Гродна». Падчас нямецкай акупацыі разам з жонкай Леай і двума дзецьмі – Рахеллю і Шмуэлем – трапіў у гета № 1, дзе яны і загінулі. Яго старэйшы сын застаўся ў жывых і пазней эміграваў у Аўстралію. Жыў па вул. Zamkowa, 7/6 (1922); Płatnerska, 25 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 54; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 1; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Encyclopedia of the Jewish Diaspora. Volume IX, Grodno, by the Grodno Association in Israel, Editor: Dov Rabin. Jerusalem, 1973; Communication with Gary Shulkes, a grandson of Aharon Shulkes. 2010, 2013.

*Р. Маркус*

**Шульц Францішак** // Szulc Franciszek, школьны інспектар у Бельску. Прызначаны гродзенскім школьным інспектарам (1924).

*Літ.:* «Nowe życie». 1924. № 5. Str. 3; «Nowe życie». 1924. № 7. Str. 3; «Nowe życie». 1924. № 34. Str. 3.

**Шумкоўскі (Шумоўскі) Стэфан** // Szumkowski Stefan (1867–?), лекар. Меў прыватную практыку. Актыўны дзеяч таварыства «Муза» (з 1907). З усталяваннем савецкай улады працаваў ларынголагам у 1-й гарадской амбулаторыі (1940). У творы «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Szumkowski, lekarz znany w elitarnym świecie, Często szpital odwiedzał, bo wszak był lekarzem, Lecz częściej jeszcze bywał na szumnym bankiecie, Bowiem głośnym zasłynął w Grodnie luminarzem». Жыў па вул. Bankowa/Witoldowa, 8.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 308. Воп. 1. Спр. 16. Арк. 59; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 47.

**Шурпа Ян** // Szurpa Jan, дзеяч беларускага руху. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Падпаручнік. Настаўнік гродзенскай беларускай школы. Сябра Цэнтральнага Беларускага настаўніцкага саюза Гродзеншчыны (1919). Вярбовачны афіцэр БВК (1920). Камандзір вучэбнай роты ў Дарагускім лагеры на Холмшчыне для інтэрнаваных слуцкіх паўстанцаў (1921). Сакратар Арганізацыі беларускіх беспартыйных актывістаў (1922). Трымаў у Гродна фірму па продажы вуглю. Узначальваў беларускі прытулак. Старшыня Беларускага дабрачыннага таварыства (1924). Працаваў у Скідзельскім камітэце партыі «Пяст» (Polskie Stronnictwo Ludowe Piast) (1926). Сябра Беларускай нацыянальнай радыкальнай партыі, кіраўнік таварыства «Еднасць» у Гродна (1927).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 267-268.

**Шушкевіч Браніслаў** // Szuszkiewicz Bronisław (1879, м. Свіслач Ваўкавыскага павета–1943 (?), Штутгаф), інжынер. Настаўнік. Сын Лявона і Монікі. Вучыўся ў Свіслачы і Гродна, Львоўскім політэхнічным інстытуце. Актыўны дзеяч Гродзенскай арганізацыі ППС, сябра яе працоўнага камітэта (1905–1906). Хаваючыся ад паліцыі, нейкі час жыў у Цэнтральнай Расіі. Пазней працаваў настаўнікам у Быдгошчы. Пасля Першай сусветнай вайны вярнуўся ў Гродна (1921). Настаўнік фізікі і хіміі ў гімназіі імя А. Міцкевіча (1925), школе № 2. Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Настаўнік добры, працавіты, аднак не мае выхаваўчага ўплыву, таму і вынікі працы толькі здавальняючыя». Паўнамоцны прадстаўнік спіса ПСЛ «Вызваленне» на выбарах у Сейм (1922). Сябра праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), прэзідыума гістарычнай бібліятэкі ў Гродна (1937). Аўтар

успамінаў «Organizacja grodzieńska PPS w latach 1898–1910». Падчас нямецкай акупацыі працаваў у гарадской упраўе (Stadtverwaltung Grodno) загадчыкам гістарычнага музея (Leiter d. Hist. Museum) (з 1.7.1941). Апекаваўся часткай калекцыі. Загінуў у нямецкім канцэнтрацыйным лагеры Штутгаф (Stutthof). Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Bronisław, Pan Szuszkiewicz, obywatel znany, Czynny udział brał w pracy twórców Pepeesu I wydał o tych pracach tomik drukowany, Lat dziesięć trwała owa praca tajemnicza, Grono wzięło w niej udział z radością niekrytą, W powstaniu gruz zakopał dziełko Szuszkiewicza, Teraz mocno zbutwiałe na jaw wydobyto». У Гродна жыў па вул. Piłsudskiego, 16 (1922); Juliussteig, 12 (1942).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 181. Арк. 22 зв.; Там жа Ф. 15. Воп. 1. Спр. 17. Арк. 10 зв.; Там жа Ф. 59. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 34; Там жа Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 8; Там жа Ф. 108. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 13-16; B. Szuszkiewicz Organizacja grodzieńska PPS w latach 1898 – 1910 // «Niepodległość». 1937. T. 16. Z. 44. Str. 513–564; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 85-86; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // «Biuletyn historii pogranicza». Białystok, 2006. № 7. Str. 59; В. Черепица. ...Не потерять связующую нить. История Гродненщины XIX-XX столетий в событиях и лицах. Гродно, 2003. Стр. 269.

**Шушкевіч Вінцэнт** // Szuszkiewicz Wincent (каля 1890–?), дзеяч беларускага руху. Старшыня Гродзенскага павятовага камітэта БСРГ. Асуджаны па «справе 56-ці» ў Вільні на шэсць год пазбаўлення волі (1928). Магчыма, пазней быў датэрмінова вызвалены.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 268-269.

**Шылінг** // Szylling, капітан. Віцэ-старшыня Таварыства прыяцеляў літаратуры і мастацтва імя Э. Ажэшкі (Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej w Grodnie).

*Літ.:* «Przegląd kresowy». 25.2.1930. № 37. Str. 4.

**Шыманоўскі-Шыманскі Станіслаў** // Szymanowski-Szymański Stanisław (1858–7.08.1935, Гродна), вайсковец, палкоўнік. Разам з іншымі былымі вайскоўцамі адчыніў у горадзе новы кааператыўны гандлёвы склад (1922). Пазней адчыніў гандлёвы дом «Палонія». Старшыня Саюза адстаўных афіцэраў (Związek oficerów zdemobilizowanych). Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Таварыства польскіх купцоў (Stowarzyszenie kupców Polaków w Grodnie) (на 1924). Пахаваны на фарных могілках у Гродна.

*Літ.:* «Dziennik Grodzieński». 2.3.1922. № 13. Str. 3; «Dziennik Grodzieński». 20.3.1922. № 29. Str. 3; «Dziennik Kresowy». 18.8.1923. Str. 4; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 111.

**Шыманская Жанна** // Szymańska Joanna (1905–?), настаўніца. Скончыла настаўніцкую семінарыю, выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве. Настаўніца гродзенскай агульнай школы № 3 (1927–1939). Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Добрая настаўніца, улюбёная ў матэматыку. Вынікі працы на адпаведным узроўні» (1934). Настаўніца фізікі і матэматыкі няпоўнай сярэдняй школы № 20 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 7; Там жа Ф. 127. Воп. 2. Спр. 1п. Арк. 65- 65 зв.; Br. Kuryłłowicz. Wspomnienie o księdzu kanoniku – Antonim Kuryłłowiczu // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001.

**Шыманскі Ян** // Szymański Jan (24.6.1890, Гутажэва–20.10.1942, в. Навумавічы, форт № 2), апошні дырэктар тытунёвай фабрыкі ў Гродна (Państwowej fabryki wyrobów tytoniowych). Унук паўстанца 1863 г. Скончыў факультэт механікі Варшаўскага політэхнічнага ўніверсітэта, аднак дыплом атрымаць не паспеў у сувязі з пачаткам Першай сусветнай вайны. Удзельнік савецка-польскай вайны (1920). Працаўнік польскай тытунёвай манаполіі (Polski monopol tytuniowy). Падчас нямецкай акупацыі – бургамістр Гродна (1941). У сваіх данясеннях на імя ня-

мецкага каменданта прадстаўнік БНК абвінавачваў яго ў арганізацыі мясцовай польскай інтэлігенцыі. Браў працаваць на фабрыку моладзь, чым ратаваў яе ад вывазу ў Нямеччыну. Акрамя таго, дапамагаў рознымі спосабамі А. Гальскай, кіраўніку АК. Расстраляны немцамі разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 1. Воп. 1. Спр. 33. Арк. 33; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 24; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993. Str. 150, 156 -157; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497.

**Шыманскі Ян** // Szymański Jan (1897, Гродна–3.05.1984, Лондан), вайсковец, палкоўнік, сапёр. Скончыў рэальную школу ў Петраградзе (1915), вайсковую школу харунжых Паўночнага фронту (1917). Удзельнік Першай сусветнай вайны. Служыў у 1-м польскім корпусе. Пазней вярнуўся ў Гродна (канец 1918). Адзін з арганізатараў Гродзенскай самаабароны. У польскім войску (з 1919). Быў рэферэнтам інжынернага ўпраўлення (szefostwo inżynierii i saperów) ДОК III у Гродна. У Другую сусветную вайну – у польскай арміі на Блізкім Усходзе. Пасля пасяліўся ў Англіі.

*Літ.:* M. Jackiewicz Wojsko i żołnierze na ziemi wileńskiej XV w.-1945. Bydgoszcz, 2010. Str. 401.

**Шыманскі Іеранім** // Szymański Hieronim, гаспадар парахода «Ягела» і баржаў на Нёмане (Włascisiel parostatku «Jagiełło» i barek).

**Шымачык Ян** // Szymaczek Jan (1904, Чанстахова–?), настаўнік. Скончыў настаўніцкую семінарыю (1927), выкацыйныя настаўніцкія курсы ў Варшаве (1935), курсы павышэння кваліфікацыі (1940). Працаваў у школе ў Млаве (1928–1929). Пазней выкладаў фізіку ў школе № 2 («Баторувка») у Гродна (1929–1939). Магчыма, аўтар барэльефа з выяваю караля Стэфана Баторыя, які ўпрыгожваў памятную дошку, усталяваную на фасадзе школы (1933). Паводле характарыстыкі павятовага школьнага інспектара: «Настаўнік здольны і працавіты. Вынікі працы вельмі здавальняючыя» (1934). Пасля ўсталявання савецкай улады выкладаў маляванне і чарчэнне ў няпоўнай сярэдняй школе № 6 (1940). Падчас нямецкай акупацыі працаваў чарцёжнікам у будаўнічым бюро. Пазней – настаўнікам школы № 3 (на 1944). Жыў па вул. Peowiacka, 13 (1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 6; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 39; Там жа Воп. 2. Спр. 1 н. Арк. 3-3 зв.

**Шыпіла Казімір** // Szypiłło Kazimierz (1912, в. Рыдзі Браслаўскага павета–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), ксёндз. Падчас Першай сусветнай вайны разам з сям'ёй быў эвакуіраваны ў Расію. Скончыў школу (1913) і Дзяржаўную гуманітарную гімназію (1931) у Свянцянах. Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. Быў пасвечаны ў святары (1937). Вікарый пры касцёле ў Заблудава. Пераведзены вікарыем у Гродна ў Фарную парафію (1928). Арыштаваны немцамі, аднак быў вызвалены праз два месяцы (1942). Зноў арыштаваны і расстраляны разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź 1993. Str. 101-102, 162; T. Krahel Zginęli 15 lipca 1943 r. przy fortach koło Naumowicz, http://www.archibial.pl/czas/nr160/art.php?artykul=naumowicze.

*Л. Міхаілік*

**Шыпоўскі Генрых** // Szypowski Henryk, вучыўся на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта. Віцэ-старшыня (1936), пазней – старшыня (1938) гуртка гродзенцаў універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні (Koło Akademików Grodnian Uniwersytetu Stefana Batorego).

*Літ.:* Z. Tomczonek. Koło Akademików Grodnian na Uniwersytecie Stefana Batorego w Wilnie (1933-1939) // «Białostocczyzna». 1993. № 4. Str. 108.

**Шыпоўскі Леанард** // Szypowski Leonard (?–1965, Гродна), гаспадар вядомай у горадзе цукерні. Першапачаткова яго кавярня знаходзілася ў доме бацькоў жонкі Леанарды-Юліі па вул. Pocztowa, 6. Пазней – па вул Orlicz-Dreszera//Pocztowa 11. Л. Шыпоўскі прымаў актыўны ўдзел у грамадскім і спартыўным руху. Заняў другое месца падчас гонак на матацыкле «Indian» (1925). Пазней заняў трэцяе месца (1935). Пахаваны на каталіцкіх могілках у Гродна. Надмагільная пліта зроблена са століка з кавярні.

*Літ.:* W. Renik Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 28-29.

**Шыфрэс Лейб** // Szyfres Lejb (каля 1905–?), настаўнік. Сябра рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (на 1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja). (1939). Жыў па вул. Zamkowa, 15 (1937); Horodniczańska, 30 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61 зв.; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1.

**Шышко Міхаіл** // Szyszko Michał (1884–?), настаўнік. Скончыў педагагічныя курсы пры Свіслацкай настаўніцкай семінарыі, настаўніцкія курсы ў Кракаве, настаўніцкія курсы ў Гродна (1940). Працаваў вясковым настаўнікам, у тым ліку ў Крынках (1900–1911), у школах у Ваўкавыску (1911–1918), Гродна (1925–1926; 1929–1934). З усталяваннем савецкай улады – настаўнік пачатковых класаў сярэдняй школы № 11 (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 29-29 зв.

**Шышкоўскі Рамуальд** // Szyszkowski Romuald (7.2.1871 –?), суддзя. Каталік, паляк. Скончыў павятовую школу ў Сакулцы. Здаў экзамен у рэальнай гімназіі ў Беластоку. Служыў у расійскай паліцыі і судзе. Пазней – міравы суддзя ў Друскеніках (каля 1925 – 1932).

*Літ.:* LCVA F. 127. Ap. 7. B. 3031.

**Шышкоўскі Ян** // Szyszkowski Jan, лекар, доктар медыцыны. Спецыяліст па дзіцячых і ўнутраных захворваннях. Узнагароджаны сярэбраным Крыжам Заслугі за даўгалетнюю службу (1938). Сябра павятовага праўлення ЛОПП. Жыў па вул. Listowskiego, 4; Rydza-Śmigłego, 16.

*Літ.:* «Reduta». № 10. Str. 8.

**Шэпсяк Ян** // Szepsiak Jan (1890–?), чыгуначнік. Увайшоў у склад Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднанага блока працоўных (Zjednoczony blok robotniczy), аднак у пасяджэнні Рады не ўдзельнічаў, бо быў адразу арыштаваны за палітычную дзейнасць (1927).

*Літ.:* «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Шэршань Уладзімір** // Szerszeń Włodzimierz (каля 1901–?), купец. Сябра Гродзенскай гарадской Рады, фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie), куды ўвайшоў замест Ф. Гедулскага (1935–1938). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Адзіны з радных, які галасаваў супраць разбору царквы Аляксандра Неўскага. Сакратар праўлення Таварыства польскіх купцоў (zarząd Stowarzyszenia kupców polskich) (на 1938). Магчыма, сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Napoleona, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Ostatnie wiadomości Groszieńskie». 10.12.1935. № 332. Str. 6; «Dziennik Kresowy». 5.10.1938. № 272. Str. 5; В. Черепица. Очерки истории Православной Церкви на Гродненщине (с древнейших времен до наших дней). Ч. II. Гр., 2005. Стр. 44.



**Эйнаровіч Станіслаў** // Ejnarowicz Stanisław (1899 (?), Дэдэркаў–каля 1937, Гродна), землеўласнік. Гаспадар маёнтка Аструвэк каля Гродна. Сябра праўлення Гродзенскага аддзялення Саюза крэсовых землеўласнікаў (Kresowy Związek Ziemian). Гродзенская гарадская Рада абмяркоўвала пытанне пра набыццё ў яго 70 га лесу, т.зв. урочышча «Сакрэт» (1936). У наступным годзе справа набыла працяг, аднак гэтым разам у якасці прадаўца выступала ўдава былога гаспадара – Марыя Эйнаровіч-Волмер. Па іншых звестках, быў забіты саветамі ці загінуў у савецкім лагеры.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1 Спр. 285. Арк. 85, 140, 145-145 зв.; K. Jasiewicz. Lista strat ziemiaństwa polskiego 1939-1956. T. 1. Warszawa, 1995. Str. 268.

**Эйсмант Тадэвуш** // Ejsymont Tadeusz, капітан, доктар. Кіраўнік Станцыі апекі над маці і дзіцём (Stacja opieki nad Matką i Dzieckiem) у Гродна (1931). Выкладаў на курсах гігіены пры гарадской Радзе (1930).

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 6.2.1930. № 20; «Wieczorny kurier Grodzieński». 8.6.1932. № 8. Str. 4.

**Элерт Вікторыя** // Elertowiczowa Wiktoria (21.7.1879–16.6.1941, Скалімаў), актрыса. Выступала ў тэатрах Варшавы, Лодзі, Масквы (1911–1917). Пазней – у гарадскім тэатры ў Быдгашчы (1920–1924), Лодзі (1924–1925), Торуні (1925–1928). Актрыса гродзенскага тэатра (1928–1931). Выконвала такія характэрныя ролі, як Гаспадыня і дарадчыца («Вяселле»), каралева Бонна і інш. Апошнія гады жыцця правяла ў прытулку для артыстаў-ветэранаў польскіх сцэн у Скалімаве.

*Літ.:* Słownik biograficzny teatru polskiego 1765-1965. T. I. Warszawa, 1973. Str. 155.

**Элізаровіч Шэйна** // Elizarowicz Szejna (каля 1897–?), настаўніца. Скончыла гімназію Вінаградава ў Вільні, яўрэйскія школьныя курсы. Працавала ў прагімназіі М. Рубінавай (1919).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 29. Арк. 34.

**Эпштэйн Алена** // Epsztejnówna Helena (?–1933), адвакат. Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930). Скончыла жыццё самагубствам. Жыла па вул. Horodniczańska, 19 (1925).

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 1933. № 330.

**Эпштэйн Зоф'я** // Epsztejn Zofia (каля 1892–?), першая загадчыца гарадской бібліятэкі. Па яе ініцыятыве група мясцовых вучняў пачала збіраць раскіданыя па горадзе кнігазборы (1918). Падчас савецкага панавання з'яўлялася яшчэ і кіраўніком гарадской школы 1-й ступені (1920).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 41; Там жа Ф. 689. Воп. 1. Спр. 57. Арк. 48.

**Эпштэйн Маісей** // Epsztejn Mojżesz, лекар. Расстраляны з сям'ёй у гета. Жыў па вул. Brygidzka, 11 (1925).

*Літ.:* Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 497.

**Эпштэйн Н.** // Epsztejn N., грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927). Сябра праўлення Саюза ўладальнікаў нерухомасці (Związek właścicieli nieruchomości) (1930) і Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933).

*Літ.:* «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4; «Przegląd Kresowy». 9.3.1930. № 48; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodna,1925. Str.10.

**Эпштэйн Хая** // Epsztejn Chaja (1910 –?), настаўніца. Скончыла гімназію ў Дзісне, педагагічны курсы ў Вільні, настаўніцкія курсы ў Гродна (1939, 1940). Працавала ў школе № 3 у Слоніме (1931–1936), школе № 9 (1936 –1939) і школе № 4 (1939–1940) у Гродна. Выкладала нямецкую мову ў рускай сярэдняй школе № 11 (1940).

*Літ.:* ДАГВ. Ф. 127. Воп. 2. Спр. 10. Арк. 30-30 зв.

**Эпштэйн Шалома** (Шлома) // Epsztejn Szoloma, грамадска-палітычны дзеяч. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса аб'яднання сацыялістычнага блока Бунд, Паалей-Цыён і аб'яднання С.С. і Я.С. (Zjednoczonego Socjalistycznego bloku Bundu, Poalej Cion i zjednoczonych S.S. i J.S.) (1919–1927). Сябра рады Яўрэйская рэлігійнай абшчыны ад гаспадарчай фракцыі (на 1931).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 79. Арк.19; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodna,1925. Str.10.

**Эфраімзон Ёсель** // Efroimzon Josel (каля 1893–?), інспектар па страхаванні. Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса Бунд, класавы прафесійны саюз рамеснікаў і працуючай інтэлігенцыі (Bund, Klasowe Związki Zawodowe Rzemieślniczy i Pracująca Inteligencja) (1939). Жыў па вул. Pereca, 25.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4.

**Эфрон Якаў** // Efron Jakub (1893 –пасля 1941), купец. Сябра яўрэйскай фракцыі Гродзенскай гарадской Рады (1927–1930; 1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Сябра спецыяльнай гарадской камісіі па пытаннях прыватных зямель на месцы пракладвання гарадской каналізацыі (1935). Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў (Związek kupców żydowskich) (1933) і праўлення Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны ў Гродна (1938–1939). Падчас нямецкай акупацыі – загадчык аддзела забеспячэння гродзенскага юдэнрата. Дзякуючы яго намаганням, стан з харчамі ў гродзенскім гета быў менш вострым, чым у іншых гета. Жыў па вул. Platerska, 4.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; Там жа Спр. 284. Арк. 26 зв.-27; Там жа Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 61; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17 зв.; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4; «Wieczorny kurier Grodzieński». 15.2.1933. № 45. Str. 4; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; Нямецкая акупацыя і лёс яўрэяў Гародні // Arche-пачатак. 2010. № 1-2. Ст. 413.



**Юдыцкі Віктар** // Judycki Wiktor (25.2.1905, Бабруйск–4.2.1955, Лондан), ксёндз, падпалкоўнік. Вучыўся ў гімназіі ў Бабруйску (1914–1916). Пазней з бацькамі пераехаў у Гродна (1920). Скончыў Віленскую духоўную семінарыю (1932). Ксёндз у Ашмянскім і Браслаўскім паветах. Ваенны капелан вайсковага шпіталя ў Гродна, пазней – ДОК III (1938–1939). Інтэрнаваны ў Літве (1939). Знаходзіўся ў савецкіх лагерах у Казельску і Гразаўцы, адкуль быў вызвалены ў сувязі з уступленнем у II-гі корпус генерала Андэрса. Пазней жыў у эміграцыі.

*Літ.:* T. Krahel Ksiądz kapelan Wiktor Judycki // «Czas Miłosierdzia». 2004. № 6; Wileński słownik biograficzny. Suplement. Opracował M. Jackiewicz. Bydgoszcz, 2012. Str. 143. Л. Міхайлік. Ваеннае душпастырства і яго традыцыі на Беларусі да 1939 г. // Studia Theologica Grodnensia. Гродна 2012. Ст. 262-263.

**Юдэйка Генрых** // Judejko Henryk, аптэкар. Вучыўся ва ўніверсітэтах у Дэрпце і Варшаве. Адчыніў прыватную аптэку (1936). Ужо праз тры гады атрымаў канцэсію ад гарадскіх улад на абслугоўванне мясцовага шпіталя. Віцэ-старшыня выбарчай камісіі № 7/2 падчас выбараў у гарадскую Раду (1939). Пазней – у эміграцыі. Жыў па вул. Grandzicka, 23.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 12. Арк. 50; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennym... – Str. 17; W. Renik. Z dziejów grodzieńskiego kupiectwa w międzywojennym dwudziestoleciu // Magazyn Polski. 2003. № 26. Str. 26; З. Цыпельт. Грандзіцкая вуліца і Дроўны рвнак ... – Ст. 28; Z. Judejko Kobierzec wspomnien. A carpet of memories. Trygon, 2011.

**Юркевіч Стэфан** // Jurkiewicz Stefan (1887–?), прамысловец. Вылучаўся на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду ад хрысціянскага польскага блока (Chrześcijańskiego bloku polskiego) (1927). Сябра фракцыі грамадскага клуба (frakcji radzieckiej klubu społecznego w Grodnie) Гродзенскай гарадской Рады (1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (на 1937). Жыў па вул. Orzeszkowej, 4 (1937); Wileńska, 4 (1939).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 15; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 15; «Głos prawdy ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 271. Str. 4.

**Юроўскі Конрад** // Jurowski Konrad (19.2.1898, Вялікі Усцюг–7.1.1944, Варшава), вайсковы лекар, капітан. Вучыўся ў польскай школе Гурскага (1909–1913), гандлёвай школе Яжэўскага ў Варшаве (1914). Пазней – у гандлёвай школе ў Ніжнім Ноўгарадзе, у Казанскім ўніверсітэце, на медыцынскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта. Атрымаў дыплом лекара (1925). Верагодна, меў у Гродна прыватную практыку. Спецыяліст па дзіцячых і ўнутраных захворваннях. Служыў у войску. Прыз-

начаны галоўным лекарам 29-га пяхотнага палка (магчыма – дывізіі) (1927). Служыў лекарам 81-га Гродзенскага палка пяхоты (1939). Трапіў у савецкі палон. Быў зняволены ў лагеры у Казельску, аднак пазней вызвалены, пасля чаго пераехаў у Варшаву. Працаваў у Варшаўскім дабрачынным таварыстве. У Гродна прымаў па адрасе вул. Wróblewskiego, 13.

*Літ.:* Słownik biograficzny lekarzy i farmaceutów – ofiar drugiej wojny światowej / red. Jan Bohdan Gliński. T. 2. Naczelna Izba Lekarska, Warszawa, 1999. Str. 203.

**Юрэчка Васіль (Базыль)** // Jureczko Wasyl (каля 1901–? ), беларускі грамадскі дзеяч. Быў вярбоўшчыкам БВК у Гродна (восень 1920). Вёў актыўную прапаганду. Па абвінавачанні ў прыналежнасці да беларускага партызанскага руху праходзіў па «справе 72-х» і быў прыгавораны да чатырох год зняволення (1925). Сядзеў у гродзенскім астрозе ў камеры № 51-102.

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 275.

**Юрэчка Пётр** // Jureczko Piotr (1882 (1888 (?))–? ), беларускі грамадскі дзеяч. У Гродна вярнуўся з бежанства (1919). Арганізаваў у сябе на кватэры кравецкую майстэрню. Пазней працаваў рэзнікам. Быў арыштаваны па абвінавачанні ў прыналежнасці да беларускай партызанскай арганізацыі (1922). Праходзіў па «справе 72-х» быў апраўданы Гродзенскім акруговым судом (1925). Вылучаўся ад беларуска-рускага блока на выбарах у Гродзенскую гарадскую Раду (1927). Жыў па вул. Brygidzka, 4 (1923); Nowa Artyleryjska, 14 (1927).

*Літ.:* Літ.: А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 275-276.

**Юшко А.** // Juszko A., кіраўнік Цэнтральнага ўкраінскага камітэта ў Гродна (1920-я).

*Літ.:* Em. Wiszka Emigracja ukraińska w Polsce 1920-1939. Toruń, 2004. Str. 567, 570-577.



**Яворская Казіміра** // Jaworska Kazimira, настаўніца фізкультуры ў школе № 5. Пасля працавала ў акруговым Упраўленні фізічнага выхавання (Okręgowy urzed wych. Fiz.) (1934).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 2. Спр. 65. Арк. 3.

**Ядкоўскі Юзаф** // Jodkowski Józef (20.12.1890, Гродна–2.01.1950, Варшава), культурны і грамадскі дзеяч. Дырэктар музея. Яго бацька, Юзаф, быў кіраўніком сталярных майстэрняў пры Упраўленні акруговых пошт і тэлеграфа. Вучыўся ў мужчынскай класічнай гімназіі. З юнацтва пачаў цікавіцца гісторыяй. Разам з сябрамі вандраваў па ваколіцах Гродна. Захапляўся маляваннем. Актыўны сябра ППС (1905–1906). Скончыў мастацкую школу і Маскоўскі археалагічны інстытут. Супрацоўнічаў з Маскоўскім археалагічным навуковым таварыствам. Кіраўнік бюро апекі над помнікамі мастацтва і культуры ў Гродна (1919). Прымаў удзел у польска-савецкай вайне (1920). Кансерватар Беластоцкага ваяводства; кіраўнік аддзела мастацтва і культуры. Першы дырэктар (кусташ) гродзенскага музея (з 1920). Аўтар манаграфіі «Гродна» (1923) і шматлікіх артыкулаў па гісторыі горада. Сябра Таварыства прыхільнікаў горада Гродна (Towarzystwo miłośników m. Grodno) (1924), Камітэта адбудовы замка (Kuratorium Zamkowe) (1928), рэдакцыйнага камітэта гістарычнай



бібліятэкі Гродна (1929), камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930), камітэта па пабудове заапарка (Komitet ogrodu przyrodniczego) (1930). Пры мясцовай настаўніцкай семінарыі праводзіў курсы экскурсаводаў па Гродна (kursy przewodników po Grodnie) (1933). Эксперт камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Адна з мясцовых газет прысвяціла яму верш: «Ranek... Muzeum... Pełno szmat, Tu stary garnek, tu jakiś grat. Tu znowóż papier z brudu się lepi... Cisza... pracuje kustosz nasz Pepi. To rozpatruje starą gitarę, To opisuje podwiązki stare, To znowóz majtki dawnych rycerzy... (Pepi nas buja, a lud

mu wierzy). Starożytności pieści on czule, Tu zapomina co troski, bóle I ze starostwa szczuplutkich ramek Wolno, wytrwale dąży na Zamek… Wszystko to rankiem. Zaś od obiadu Nie pozostaje z kustosza śladu… Zamiast antyka – młodziutka buzia Już absorbuje pięknego Józia… Zamiast starzyzny – przepiękne panie (Boski nasz Józio życie da za nie) W kąt idą dawnych wojaków spodnie, Złotej młodzieży przewodzi godnie. Ranek – prababka, lub babka stara. W obiad mamusia, gdy jeszcze jara, Wieczór z córeczką, gdy ładną ma buzię W nocy – jak wszyscy – zwyczajnie – w Muzie». Праводзіў раскопкі ў Старым замку і каля Каложы, якія выклікалі вялікі навуковы і грамадскі рэзананс. Знайшоў выключныя помнікі сярэднявечнай архітэктуры, аднак яго метадыка прац была жорстка раскрытыкавана ў навуковых археалагічных колах. Акрамя таго, праходзіў у якасці сведкі па справе фінансавых злоўжыванняў пры рэстаўрацыі Старога замка, узбуджанай супраць былога гродзенскага старасты З. Рабакевіча (1937). У выніку быў зняты з пасады кіраўніка дырэктара музея і вымушаны выехаць з Гродна (1.7.1937). Ксёндз Л. Саванеўскі надрукаваў у газеце «Nowe Życie» свой верш, прысвечаны ад'езду, а па сутнасці – выгнанню з горада Ю. Ядкоўскага: «Oj Grodnienko, oj Grodnienko. Ciebie kocha ktoś tak cienko, że nie minie pokolenie, jak zostaną z ciebie cienie. Wszystko w tobie przebudują, przefarbują, przemalują, że nie będzie ani śladu dawniejszego w tobie ładu. Twoją przeszłość i pamiątki historyczne cudne kątki, zniszczą fale nowej mody, nowych ludzi blufarody. Smutne w prasie było zdanie: pan Jodkowski na wygnanie został z Grodno przeniesiony, choć tu działał niestrudzony. Szperał, zbierał, badał, składał, przeszłość polską opowiadał… W każdym innym świata kraju jest w szlachetnym to zwyczaju, by nagrodzić takich ludzi, których praca podziw budzi. Lecz inaczej dzisiaj w Grodnie. Cenią pracę tu niegodnie, zamiast dzięki i uznania każą dzielić los wygnania». Працаваў у мастацкіх зборах Варшаўскага замка, прысвяціўшы сябе польскай нумізматыцы. Падчас Другой сусветнай вайны – эксперт па продажы старых манет, кіраўнік аддзела рэстаўрацыі старой мэблі ў адной з варшаўскіх фірм. Адначасова супрацоўнічаў з Нацыянальным музеем, дапамагаў ратаваць каштоўныя прадметы ад вывазу ў Германію. Пасля вайны Ю. Ядкоўскі атрымаў пасаду кіраўніка нумізматычнага кабінета ў Варшаўскім музеі (з 1945). Быў жанаты з Галінай Баброўскай. Меў дачку. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі ўзгадваў пра яго: «Obecnie Pan Jodkowski występuje w krasie, Jaką sobie wysłużył w nadniemeńskim grodzie. Olbrzymia jest ta postać na naszym Parnasie, Słynna bardzo tak w Grodnie, jak w całym narodzie. Pan Józef jest to mrówka wielka wśród kustoszów I niezwykły to kustosz wśród kustoszy mrówek, I żadne plagi wojen, i gwałty rokoszów Im nie mogą zaszkodzić wobec ich bokówek. Bo takiej bokóweczce wojna nie da rady, Może zniszczyć, co prawda, ale cóż to znaczy? Zostaną przecie liczne w dziełach po nich ślady I kustosze nie wpadną wcale do rozpaczy. I dalej będą grzebać, jak dawniej grzebali, I nam znowu odtworzą, co było zginęło, I znowu będą pisać, jak przedtem pisali, I nam pięknie przypomną to, co przeminęło. Jak piękny jest ten urząd, piękne stanowisko! Pan Jodkowski jest właśnie taki człek szczęśliwy, Odgrzebał bowiem stare Grodna grodowisko, Każdy szczegół pokazał takim, jak był żywy. Zdziwione mrówki grube przybiegły z Warszawki, Mrówki takie ciekawe, do niego podobne, Widziały misiki, dzbanki, kółka i zabawki, Kostki, sznurki, skorupki i szmatki ozdobne. A Jodkuś jest w humorze i tak do nich gada: Dzięki wielkie za przyjazd, cóż tam w Biskupinie? Gdy słyszą o tym mrówki, każda w tremę wpada I uciekły przed Jodką na szybkiej maszynie.

Jodkowski w taki sposób na Biskupin ruszył I nastraszył te mrówy, aby tam grzebały, I dalej swoje robił: kopał, grzebał, kruszył, W taki sposób przepiękne zbiory powstawały. Jodkowski – to historyk i to bardzo tęgi, Co odgrzebał, zapisał i w kasety schował. I w taki sposób grube powstawały księgi... Pan Jodkowski to jeszcze znany archeolog, Wiele zbiorów wydobył z najdawniejszej ery. Wszystko wpisał do księgi i wnosił na prolog. Ach, szkoda, że już znikło Muzeum Państwowe, Z takim trudem szlachetnym przez Jodkę stworzone. Lecz dajmy mu podzięki za prace wzorowe, Które nigdy nie będą dosyć nagrodzone...» У Гродна сям'я Ядкоўскіх жыла ў прыватным двухпавярховым доме па вул. Pocztowa, № 16.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 188. Арк . 33; Там жа Спр. 285. Арк. 100-100 зв.; Архіў ГДГАМ Справа № 4. Лісты 1-31; «Echo grodzieńskie». 29.7.1923. № 141. Str. 1; «Dziennik Kresowy». 1.7.1923; «Gazeta Polska ziemi Grodzieńskiej». 14.12.1929 № 46; «Przegląd kresowy». 2.2.1930. – № 17. Str. 4; «Pzegląd Kresowy». 8.3.1930. № 47; «Wieczorny kurier Grodzieński». 2.5.1933. № 118. Str. 4; «Słowo». 19.01.1936. № 18. Str. 8; «Słowo». 1937.№ 153. Str. 2; J. Jodkowski. Grodno. Wilno, 1923; St. Łoza. Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 305-306. І. Трусаў. Юзаф Ядкоўскі як збіральнік і гісторык-краязнаўца // Краязнаўчыя запіскі. Гродна, 1990. Ст. 8; A. Śnieżko. Wydobył z ziemi gród, o którym nikt nie wiedział. Białystok, 2000; M. Blombergowa. Józefa Jadkowskiego kłopoty z objęciem posady w Wilnie w świetle listów do Wandalina Szukiewicza // Acta universitatis Lodziensis. Folia Archaeologiga. T. 16. 1992. Str. 37; M. Blombergowa. Wojenne losy Józefa Jodkowskiego w świetle listów do Wandalina Szukiewicza // Acheologija Polski. T. XXXVII. 1992. Z. 1-2. Str. 43; Leonard i Ludwik Sawoniewscy. Ksiądz Ludwik Sawoniewski / Magazyn Polski. 1995. №;1 (15). Str. 24-25; L. Sawoniewski .Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 38-39.

**Язерскі Арон** // Jezierski Aron (28.2.1895, Гродна–1942 (?), Гродна), прамысловец. Адзін з гаспадароў шклозавода. Сын Лейбы і Розы Гінзбург. Скончыў гімназію ў Гродна, псіханеўралагічны інстытут у Пецярбургу. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад яўрэйскай фракцыі (1927–1930; 1934–1939). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад спіса агульнаяўрэйскага выбарчага камітэта ў Гродна (Ogólny Żydowski Komitet Wyborczy w Grodnie) (1939). Падчас дыскусіі наконт секвестру беластоцкім ваяводаю гарадскога бюджэту, прадстаўнікі яўрэйскай фракцыі рашуча выступілі супраць скарачэння выдаткаў на яўрэйскую асвету. Радны А. Язерскі заявіў, што «выдаткі на яўрэйскую асвету не з'яўляюцца нейкім дабрачынным падарункам яўрэйскаму грамадству, якое нараўне з іншымі выконвае свае абавязкі і нясе цяжкасці як адносна самой Дзяржавы, так і самаўрада» (1.6.1937). Іншым разам агучыў інтэрпеляцыю яўрэйскай фракцыі з пратэстам супраць лекцый кс. Тшэцяка (Trzeciaka), які падчас свайго публічнага выступлення «сеяў ненавісць адной часткі мясцовага насельніцтва да другой». Акрамя таго, выказаўся супраць тэндэнцыі па скарачэнні колькасці служачых-яўрэяў, што, на яго думку, знаходзілася ў «паказальнай дыспрапорцыі адносна колькасці іўдэйскага насельніцтва ў горадзе» (23.12.1937). У адказ радная С. Носціч-Яцкоўская прапанавала пазбавіць яго месца ў гарадской Радзе. На іншым пасяджэнні Рады выступіў супраць субсідыі з гарадскога бюджэту мясцоваму Антыкамуністычнаму камітэту, чым выклікаў дыскусію ў гродзенскай прэсе. Яшчэ адным інцыдэнтам стала судовая справа супраць раднага Л. Завадскага, які зняважыў А. Язерскага падчас пасяджэння, назваўшы яго прапанову «хамствам» (bezczelnością). Старшыня Рады прадпрымальнікаў (zw. przemysłowców), Саюза наймальнікаў (zw. lokatorów), касы беспрацэнтнага крэдыту (kasy kredytu bezprozentowej), яўрэйскага гімнастычна-спартыўнага клуба «Makkabi» (prezes Towarzystwa Gimnastyczno-Sportowego «Makkabi»). Сябра праўлення Саюза яўрэйскіх купцоў Гродна. Ледзь не загінуў ад рук польскай самаабароны Гродна (19.9.1939). З паказанняў А. Троп-Крынскага на працэсе па справе «пагрому»: «Пагромшчыкі шукалі Язерскага, аднак не знайшлі, у сувязі з чым пачалі

мучыць яго жонку і сына». Расстраляны ў гета. Жыў па вул. Hoovera, 2.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 18-20; Там жа Спр. 284. Арк. 20 зв.; Там жа Спр. 285. Арк. 13, 116; Там жа Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 18; «Nowy grodzieński kurier codzienny 5 groszy». 29.5.1934. № 147. Str. 6; «Głos grodzieński». 1938. № 78. Str. 4; «Dziennik kresowy». 18.3.1939. № 77. Str. 2; Czy wiesz kto to jest? Uzupełnienia i sprostowania. Warszawa, 1938. Str. 123-124; M. Gnatowski Radzieckie dokumenty o represjach za stłumienie komunistycznych rebelii w Skidlu i Grodnie we wrześniu 1939 r. // Studia Poslaskie. Białystok, 2001. T. XI. Str.299-328; Памяць: Гіст.-дакум. Хроніка Гродна. Мн.: БелЭн, 1999. Ст. 495.

**Якавюк Сямён** // Jakawiuk Szymon (23.5.1881, в. Дубіны–25.8.1973, Гродна), беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Пасол у Сейм. Паходзіў з праваслаўнай сялянскай сям'і. Скончыў Бельскае васьмікласнае павятовае вучылішча (1897). Вучыўся ў Віленскім тэхнічным вучылішчы, на чыгуначных курсах тэлеграфістаў у Беластоку. Працаваў памочнікам кіраўніка станцыі Беласток. Жыў у Гродна (з 1913). Удзельнік Першай сусветнай вайны. Магчыма, з'уляўся супрацоўнікам ЧК (з 18.9.1918). Пазней зноў у Гродна (з 1918). Займаўся гандлем. Сябра Гродзенскай губернскай беларускай управы, Гродзенскага часовага гарадскога камітэта, Гродзенскага Цэнтральнага камітэта чыгуначных, паштова-тэлеграфных і шасэйных служачых, таварыства «Бацькаўшчына», праўлення Беларускай Цэнтральнай рады Гродзеншчыны, Гродзенскага Беларускага настаўніцкага саюза і кааператыва «Беларусь» (1919), Гродзенскага БНК, Гродзенскай Беларускай школьнай рады, Саюза спажывецкіх кааператываў Гродзеншчыны. Падчас савецкага панавання быў кіраўніком тэлеграфа Гродзенскага вузла Заходняй чыгункі (1920). Адзін з арганізатараў антыпольскага партызанскага руху на Гродзеншчыне. Быў выбраны ў польскі Сейм ад блока № 16 – нацыянальных меншасцей па Бельскай выбарчай акрузе (1922). Варшаўскі акруговы суд прыгаварыў яго да чатырох год катаржных прац (1923). Нелегальна праз Гданьск пераехаў у Літву. Пасля Другой сусветнай вайны разам з сям'ёй вярнуўся ў Гродна (канец 1950-х). Жыў у Гродна па вул. Stanisławowska, 4 (1919); Północna, 11-a (1921); вул. Астроўскага, 14 (1974).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 277-281.

**Якімовіч Мікалай** // Jakimowicz Mikołaj (27.9.1896, Гродна–24.3.1929, Гродна), беларускі і камуністычны дзеяч. Скончыў мясцовую школу, гімназію ў Разані. Удзельнік Першай сусветнай вайны. Сябра РКП(б) (1919). Супрацоўнік ЧК. Быў накіраваны ў Гродна з Масквы для канспіратыўнай працы. Сябра Гродзенскага БНК (1920), Гродзенскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны (1922), Гродзенскага Беларускага дабрачыннага таварыства (1924), кіраўнік Гродзенскага павятовага сакратарыята БСРГ (1925). Асуджаны па «справе 56-ці» ў Вільні на шэсць год пазбаўлення волі (1928). Пакаранне адбываў у равічскай турме, адкуль быў вызвалены за чатыры дні да смерці. Памёр у гродзенскім сеймікавым шпіталі. У Гродна жыў па вул. Jerozolimska, 17 (1924).

*Літ.:* А. Чарнякевіч. Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909-1939: біяграфічны даведнік. Мінск, 2003. Ст. 281-284.

**Якімовіч Ян** Юзаф // Jakimowicz Jan Józef (1876–13.5.1939, Гродна), лекар. Скончыў Маскоўкі ўніверсітэт (1900). Быў лекарам Ашмянскага павета, працаваў на Слонімшчыне ва ўрачэбным аддзяленні губернскага праўлення. Падчас Першай сусветнай вайны быў камендантам вайсковага палявога шпіталя. Урач Гродзенскага павета (на 1919). Практыкаваў як гінеколаг. Грамадска-палітычны дзеяч. Падчас вучобы, з'яўляючыся ўжо студэнтам-медыкам, арганізаваў Польскае кола самаадукацыі (Koła Samokształcenia Polskiej Młodzieży) у гімназіі ў Гродна. Супрацоўнічаў з

гродзенскай арганізацыяй ТСК (1921). Сябра Гро-дзенскай гарадской Рады ад аб'яднання польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927; 1928–1930). Уваходзіў у склад розных інстытуцый пры Радзе: камісіі, якая мела сваім заданнем абарону статусу Гродна як «горада, не выдзеленага з павета» (1927); санітарнай камісіі (1928); камітэта па ахове нацыянальных помнікаў (ochroną zabytków Narodowych m. Grodna) і інш. Выступіў ў абарону прэзідэнта А. Рачашэка ад «неадпаведных паводзін сацыялістычнай фракцыі, якія падрываюць павагу да мясцовай улады» (24.4.1930). На яго думку, гарадская Рада не павінна была цярпець падобныя выступленні, бо «яе мэтаю і заданнем з'яўляецца, перш за ўсё, клопат пра гаспадарчае развіццё горада». Разам з тым радны падкрэсліў «ахвярную працу» прэзідэнта ў інтарэсах Гродна. Старшыня Апякунскай рады (Rady Opiekuńczej). Сябра праўлення Польскага дэмакратычнага камітэта (1918), таварыства «Муза» (з 1907), грамадскага камітэта Гродзенскага музея прыроды (1930), праўлення Гродзенскага аддзялення ваяводскага таварыства апекі над мастацтвам, культурай і прыроднымі каштоўнасцямі «Лехія» (zarząd oddziału grodzieńskiego wojewódzkiego Towarzystwa opieki nad sztuką, kulturą i zabytkami przyrody «Lechia») (1930), прэзідыума павятовай рады ББСУ (1931), Стральца (Strzelca), праўлення Гродзенскага аддзела Польскага гістарычнага таварыства (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935), секцыі рыбалоўнага спорту пры WKS «Grodno» і інш. З некралога : «Сябры памерлага бачаць у ім не толькі прафесіянала-лекара, які з любоўю, педантызмам і дакладнасцю выконваў свой абавязак, але перш за ўсе Гродзенца, які з самых малых гадоў закахаўся ў гэты наш Гродна і ўкладаў у яго са ўсёй адданасцю працу, здольнасці і прызначэнне... Да сфарміравання нармальнага самаўрада выконваў абавязкі першага старшыні польскага самаўрада ў Гродна. Да любой працы падыходзіў з пачуццём абавязку і ўнутранай неабходнасці, а не дзеля жадання выбіцца на ўсеагульны агляд і атрымаць адзначэнне. Гэта быў чалавек цвёрдай школы абавязкаў, высокага сумлення і шчырасці, а як Паляк і Гродзенец-чалавек несумненнай духоўнай вартасці». Пахаваны на фарных могілках.

*Літ.:* ДАБВ Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1611. Арк. 31 зв.; ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 177. Арк. 2, 5, 6; Там жа. Ф. 46. Воп. 1 Спр. 3. Арк. 64 зв.- 65; Там жа Спр. 6. Арк. 133; Там жа Спр. 18. Арк. 70 зв.; «Nowe życie». 1921. № 23. Str. 178; «Przegląd Kresowy». 11.4.1930. № 76; «Mały dziennik grodzieński». 12.2.1936. № 37. Str. 1; «Dziennik kresowy». 16.5.1939. № 134. Str. 4; J. Rozmus, J. Gordziejew. Cmentarz farny w Grodnie 1792-1939. Kraków, 1999. Str. 98; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Якубоўскі Юзаф** // Jakubowski Józef (?–1939(?)), камісар паліцыі. Служыў пры аперацынай групе Сярэдняй Літвы (1920–1922). Скончыў Вышэйшыя курсы ў Вільні (wyższy kursy dokształc. w Wilnie) (1922), курсы функцыянераў пры галоўнай паліцэйскай школе (główna szkoła policyjna) (1923). Кіраўнік I-га камісарыята паліцыі (на 1932). Сябра гарадской санітаранай камісіі (1928). Магчыма, забіты савецкімі жаўнерамі. Л. Саванеўскі пісаў пра яго: «Komisarz Jakubowski, «Jakubek» poczciwy, Straszny wąsal z wyglądu, lecz gaduła miły, Ojczyzny żołnierz wierny, a dowód: nieżywy, Poległ z synem w tym roku, gdy gromy zabiły...»

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 136. Арк. 329; Там жа. Спр. 841. Арк. 77; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 19.

**Яленская Людвіка** // Jeleńska Ludwika (17.4.1885, Варшава–1961), настаўніца, педагог, псіхолаг. Абараніла доктарскую працу па філасофіі (хутчэй за ўсе, у Фрыбургу). Выкладчыца ў жаночай настаўніцкай семінарыі імя Э. Ажэшкі ў Гродна і дырэктар настаўніцкіх курсаў пры ёй (szkoły ćwiczeń). Спалучала выкладчыцкую і навуковую

дзейнасць. Чытала шматлікія лекцыі і праводзіла семінары падчас летніх курсаў для настаўнікаў. Лаўрэатка педагагічнага конкурсу (laureatka konkursu pedagogicznego) (1930). Падчас Другой сусветнай вайны – у Варшаве, дзе выкладала ў тайных школах. Разам з В. Чапув арганізавала практычныя лекцыі для канспіратыўнага педагагічнага ліцэя. Аўтар шматлікіх публікацый па метадалогіі выкладання. Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «Jeleńskiej talent wielki był czynnikiem owym, Który szkole zapewniał szczytne rezultaty, Zdobycze wychowawcze w duchu narodowym I polskiego kodeksu etyczne dogmaty…»

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 6.2.1930. № 20; L. Jeleńska La construction du systeme philosophique de S. Thomas d'Aquin, 1915; L. Jeleńska. Metodyka arytmetyki i geometrii w pierwszych latach nauczania, Metodyka pierwszych lat nauczania, 1926; L. Jeleńska. O Janku, który umiał chcieć: dziecięctwo błogosławionego Jana Bosco, 1931; L. Jeleńska. Przygotowanie do życia przez szkołę; L. Jeleńska Wzrastanie psychiczne dziecka, 1939; L. Jeleńska. Tajemnica mszy świętej: wyjaśnienia dogmatyczne, 1936; L. Jeleńska. Szkoła kształcąca: metodyka nauczania w szkole powszechnej dla użytku nauczycieli i zakładów kształcenia nauczycieli,1945; L. Jeleńska. Zwięzła psychologia ogólna dla wychowawców, 1946; L. Jeleńska. Szkoła kształcąca: metodyka nauczania w szkole podstawowej, 1957; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok. 1999. Str. 69; W. Renikowa. Grodno w dwudziestoleciu międzywojennyn // Grodno i Wołkowysk w II Rzeczypospolitej: informator wystawy. Pelplin-Gdańsk, 2001; Historia wychowania. Słownik biograficzny, Olsztyn 1994; Zapomniani pedagodzy lat międzywojennych, Szczecin 1997; Wiktoria Czapów: 1886-1975 / oprac. Aldona Jawłowska, Teodora Cygankiewicz-Cedro, Leokadia Sap. Kielce, 2000. Str. 7; M. Kupisiewicz Ponadczasowa metodyka // «Głos Nauczycielski». 2006. № 51. Str. 30.

**Яленскі Эдвард** // Jeleński Edward, акцёр гродзенскага тэатра.

**Янаў Аляксандра** // Jannau Aleksandra (1886–8.12.1972, Беласток), настаўніца. Дачка царскага афіцэра Паўла Ляшкевіча, удава нямецкага барона фон Янаў. У маладосці шмат падарожнічала, належала да інтэлектуальнай эліты. Працавала выкладчыцай нямецкай, французскай і рускай моў у Гродзенскай жаночай гімназіі імя Э. Плятэр. Была дасканалым педагогам. Яе называлі «дамай высокага класа». Заўсёды строга апранутая і старанна прычасаная, з арыстакратычнымі манерамі, яна была ўзорам элегантнасці. Пасля вайны – у Беластоку, дзе выкладала іншаземныя мовы ў ліцэі № 2. Пахавана на беластоцкіх праваслаўных могілках. У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў ёй наступныя радкі: «… Jannau w Białymstoku Za francuskie szczepionki dla polskiej młodzieży, Dodały bowiem one błasku i uroku, Nowym pędom narodu na wschodniej rubieży…»

*Літ.:* L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 14; Л. Міхайлік. Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2012. Людзі даўняй Гародні. XV–XX стст. Гродна, 2013. Ст. 333; A. Matreńczyk Naszej Madame // http://www. Przeglądprawoslawny.pl

**Янішэўская Зоф'я** // Janiszewska Zofia, кіраўніца культурна-асветніцкай секцыі арганізацыі «Вайсковая сям'я» (kerownictwo sekcji kulturalno – oświatowej przy Rodzinie Wojskowej) (1930). Аўтар артыкула ў абарону «добрага імя горада» на старонках газеты «Wieczorny kurier Grodzieński». У сваёй нататцы пераконвала ў адметнасці Гродна і заклікала да актыўнай грамадскай працы.

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 6.2.1930. № 20. «Wieczorny kurier Grodzieński». 25.6.1932. № 25. Str. 4.

**Янішэўскі Люцыян Караль** // Janiszewski Łucjan Karol (6.6.1891, Дамбравіца–4.1940, Харкаў), вайсковец, падпалкоўнік. Скончыў Люблінскую гандлёвую школу (1910), вучыўся ў політэхнічным інстытуце ў Льежы. Сябра Саюза стральцоў (Związek Strzeleckiego) і Саюза актыўнай барацьбы (Związek Walki Czynnej). Уступіў у польскія легіёны (1914). Кіраўнік ПАВ у Калішы (1916). Скончыў Вышэйшую вайсковую школу ў Варшаве (1923). Служыў у Генеральным штабе і 80-м пяхотным палку (1923–1929). Шэф штаба ДОК III у Гродна (1929–1932). Старшыня афіцэрскага гарнізоннага клуба

(Oficerski klub garnizonowy) (1930). Пазней – намеснік камандуючага 50-м пяхотным палком у Ковелі (1932–1934); камандуючы палком КАП «Глыбокае» (1934). Прымаў удзел у абароне Львова (1939). Трапіў у савецкі палон, дзе быў забіты.

*Літ.:* «Przegląd Kresowy». 18.1.1930. № 4.

**Янкоўскі Тадэвуш** // Jankowski Tadeusz (22.09.1908, Алітус–1940, Катынь (?)), грамадскі дзеяч. Сын Пятра і Наталлі Малахоўскай. Скончыў гімназію ў Гродна (1925), гуманітарны факультэт Віленскага ўніверсітэта. Магістр філасофіі (1930). Вучыўся ў Кракаўскім універсітэце. Кіраўнік гарадской бібліятэкі ў Гродна (miejskiej bibłioteki publicznej w Grodnie). Аўтар кнігі «Śmierć Stefana Batorego w Grodnie», якая стала першай кнігай з серыі гістарычнай бібліятэкі Гродна (1930). Сябра арганізацыйнага камітэта па стварэнні аддзяленні Польскага гістарычнага таварыства ў Гродна (oddział Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie) (1935). Эксперт камісіі па ўдакладненні герба горада (1936). Паручнік рэзерву 14-га пяхотнага палка. Трапіў у савецкі лагер у Казельску (1939), дзе, верагодна, загінуў. Л. Саванеўскі, назваўшы яго Эдмундам, прысвяціў яму наступныя радкі: «I przed tym wszyscy czołem, co pracował ślicznie, Który listy Elizy Orzeszkowej badał, Fachowo opracował i filologicznie. To Pan Edmund Jankowski taki dar posiadał. Z drukarni wyszły na świat tomy te wspaniałe, Pan Jankowski w nie włożył jasne komentarze, A praca taka trudy pożera niemałe, Niechaj Saga mu za to podziękę okaże. I dzięki jemu za to, że książki nam dawał, Kiedy książką kierował w Miejskiej Oficynie, By każdy jak najlepiej kulturę poznawał, Z której nasza Ojczyzna już od dawna słynie». У Гродна жыў па вул. Napoleona, 13 (1938).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 46. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 26 зв.; Там жа Спр. 285. Арк. 100-100 зв., 114 зв.; St. Łoza Czy wiesz kto to jest? War. 1938. Str. 287; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź-Białystok, 1999. Str. 65; J.J. Milewski. Powstanie i działalność oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn historii pogranicza. Białystok, 2006. № 7. Str. 59.

**Янкоўскі Ян** // Jankowski Jan, рэдактар газеты «Głos Prawdy Ziemi Grodzieńskiej». (1927).

*Літ.:* «Głos prawdy Ziemi Grodzieńskiej». 1927. № 65. Str. 4.

**Яновіч (Яноўскі)** // Janowicz (Janowski) (?–15.7.1943, в. Навумавічы, форт № 2), магчыма, інспектар працы (на 1937). Нейкі Яновіч Пётр з'яўляўся сябрам праўлення Саюза працаўнікоў самаўрада ў Гродна (członek zarządu Związek pracowników samorzandowych w Grodnie) (1938). Па матэрыялах савецкай следчай справы, адзін з арганізатараў «пагрому» (9.1939). Расстраляны немцамі з жонкай, сынам і маці разам з іншымі заложнікамі.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 26. Арк. 5; «Dziennik Kresowy». 28.9.1938. № 265; M. Gnatowski. Radzieckie dokumenty o represjach za stłumienie komunistycznych rebelii w Skidlu i Grodnie we wrześniu 1939 r. // Studia Poslaskie. Białystok, 2001. T. XI. Str.299-328; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 159.

**Яноўскі Грыгорый** // Janowski Grzegorz (?–1926), адвакат. Працаваў каля трыццаці гадоў у мясцовай адвакатуры. Муж грамадска-палітычнай дзяячкі і пісьменніцы Яноўскай-Баразоўскай (Janowska-Borozowska). Жыў па вул. Piłsudskiego, 17 (1926).

*Літ.:* «Nadniemeński kurier polski». 5.3.1926. № 64. Str. 12.

**Яноўскі Саламон** (Шлома) // Janowski Szloma, дырэктар прыватнага яўрэйскага дзіцячага пансіёна па вул. Brygidzka, 20 (1919). Прадстаўнік ад яўрэйскага камітэта ў часовым гарадскім камітэце (1918). Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927). Быў абраны старшынёй рады Яўрэйскай рэлігійнай абшчыны, аднак адмовіўся ад пасады (1930). Віцэ-старшыня Яўрэйскай рэлігійнай

абшчыны ў Гродна (замест памерлага Пінскага), сябра нацыянальна-рэлігійнай фракцыі (з 1932).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 56. Воп. 1. Спр. 59. Арк. 20 зв.; Там жа. Спр. 75. Арк. 182; Там жа Ф. 87. Воп.1. Спр. 29. Арк.16; «Wieczorny kurier Grodzieński». 7.7.1932. № 37. Str. 4; Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10; S. Kolecki. Działalność samorządu miejskiego w Grodnie za lata 1919, 1920 i 1921 // Kronika m. Grodno. Rok 1928. Zesz. 1. Str. 18.

**Янушкевіч Павел** // Januszkiewicz Paweł (каля 1907–?), працоўны. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад ППС і класавых прафсаюзаў у Гродна (Polskiej Partii Socjalistycznej i Klasowych Związków Zawodowych w Grodnie) (1939). Жыў па вул. Tartaczna, 3.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 11; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Ярасінскі Ян** // Jarosinski Jan, камісар паліцыі. Кіраўнік следчага аддзела (Komisarz, kierownik wydz. Sledczego) (на 1932).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 17. Воп. 1. Спр. 841. Арк. 77.

**Яраш Генрык** // Jarosz Henryk (каля 1907–?), чыноўнік па фінансавых справах. Радны Гродзенскай гарадской Рады ад Польскага гаспадарчага аб'яднання (Polskie Zrzeszenie Gospodarcze w Grodnie) (1939). Сябра Службы моладзі (Służby młodych ZMP), Гродзенскай акруговай арганізацыі АЗОНа (1937). Жыў па вул. Napoleona, 16.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 1; Там жа Ф. 142. Воп. 1. Спр. 2. Арк. 11; «Dziennik kresowy». 17.5.1939. № 135. Str. 3.

**Ярашэвіч Альбін** // Jaroszewicz Albin (4.3.1879, Ясенева даліна Сакольскага павета–8.7.1946, Навасады каля Мінска), ксёндз. Паходзіў з сялянскай сям'і. Першапачаткова, магчыма, вучыўся побач з роднай вёскай, пасля – у Гродна. У сваім дзённіку ён адзначаў: «Не ведаю, як мне апісаць уласную прагу вучыцца ...З дзяцінства адчуваю нязмерную цягу да навукі...» Здаў экзамен на аптэкара ў Пецярбургу (3.3.1897). Вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі (1897–1901). Пасвечаны ў



святары (2.12.1901).Вікарый парафіі ў Крамянцы(1901–1903). Працаваў пробашчам у парафіях Каліноўка Касцельна (1903–1904), Страбла (1904–1907), Лынтупы (1907) і Алковічы (1907–1909) на тэрыторыі Віленскай дыяцэзіі. Вучыўся ва ўніверсітэце ў Фрыбургу (1909–1914). Доктар тэалогіі (1932). Пробашч парафіі Лыжкі Дзісненскага дэканата (1914–1919). Прафесар дагматычнай і маральнай тэалогіі ў Віленскай духоўнай семінарыі (з 1919). Выкладаў філасофію. З'яўляўся рэлігійным цэнзарам, прасінодскім суддзёй. Дэкан і пробашч парафіі Св. Вацлава ў Ваўкавыску (1927–1937). Настаяцель фарнага касцёла Св. Францішка Ксаверыя; гродзенскі дэкан (з 1937). Старшыня Фарнага прытулка Св. Юзафа для дзяўчат (1937–1939). Сябра Камітэта па святкаванні дваццаціголддзя Незалежнасці (Komitet wykonawczy obchodu 20-ej rocznicy odzyskania Nepodległości) (1938), Камісіі пазыкі супрацьпаветранай абароны Гродна (Komitet pożyczki obrony przeciwlotniczej w Grodnie) (1939). Пасля ўсталявання савецкай улады нелегальна працягваў дабрачынную дзейнасць, абапіраючыся на дапамогу сясцёр-шарытак (1939). Падчас нямецкай акупацыі стварыў «экуменічны» грамадзянскі камітэт дапамогі ахвярам вайны, які дзейнічаў толькі два месяцы (1941). Двойчы арыштоўваўся

нямецкімі ўладамі (1942, 1943). Арыштаваны органамі НКУС (20.7.1945). Асуджаны за «антысавецкую дзейнасць» на восем год зняволення. Памёр у турме.

*Літ.:* «Dziennik Kresowy». 26.10.1938. № 296; «Dziennik kresowy». 11.4.1939. № 99. Str. 4; Л. Міхайлік. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XVI–XX стст. Мінск: Зміцер Колас, 2012. Ст. 357-358; K. Tadeusz Ksiądz Albin Jaroszewicz, dziekan grodzieński // W służbe miłosierdzia. 2006. № 7. http://www.wsm.archibial.pl/wsm22/art.php?id_artykul=272.

**Ярмаловіч Мікалай** // Jarmołowicz Mikołaj (1893, в.Кузьмічы Ваўкавыскага павета–?), настаўнік. Беларус. Скончыў Слонімскае гарадское вучылішча (1910), двухгадовыя педагагічныя курсы ў Кобрыне (1913). Настаўнік беларускай школы ў Гродна (на 1924), сярэдняй школы № 17 (на 1941). Падчас нямецкай акупацыі займаўся агародніцтвам, працаваў у фірме «Grundstuck» (па іншых звестках – працаваў на дрэваапрацоўчай фабрыцы на станцыі Ваўкавыск); выкладаў у беларускай школе (1942–1944). Дырэктар сярэдняй школы № 5 (на 1944). Магчыма, пазней арыштаваны органамі НКУС. Жыў у Гродна па вул. Рэзніцкай, 28 (па іншых звестках – па вул. Камунальнай, 49) (на канец 1944).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 87. Воп. 1. Спр. 79. Арк. 21 зв.; Там жа Ф. 127. Воп. 1. Спр. 10. Арк. 10, 41, 114 зв.

**Ярушэвіч (Ярашэвіч)** Ян // Jaruszewicz Jan, беларускі дзеяч. Настаўнік. Капітан царскай арміі. Старшыня выканкама Беларускай Цэнтральнай вайсковай рады (1917). Сябра Гродзенскай Беларускай управы, Гродзенскага БНК, клуба «Беларуская хатка», Беларускай Цэнтральнай рады Гродзеншчыны, намеснік старшыні Таварыства беларускіх вайскоўцаў у Гродна (1919). Настаўнік гродзенскай беларускай школы (на 1924).

*Літ.:* ДАГВ ф. 87. Воп. 1. Спр. 79. Арк. 21 зв.; «Беларуская доля». 28.2.1925. № 16; «Жыцьцё Беларуса». 21.10.1925. № 13; «Народная справа». 23.11.1926. № 38.

**Ярэцкі Станіслаў** // Jarecki Stanisław (1892–1955), вайсковец, капітан. Сябра ППС (з 1910); у гады Першай сусветнай вайны – у ПАВ, Польскіх легіёнах. Кіраўнік штаба Галоўнай камендатуры народнай міліцыі (на пачатак 1919). Кіраўнік II-га аддзела штаба ДОК III у Гродна (на пачатак 1920-х). «Капітан Ярэцкі, – характарызавала яго беларуская газета «Нашае жыццё», апісваючы судовы працэс над беларускімі партызанамі («працэс 45-ці») у Беластоку, – гэта класічны экзэмпляр той тыповай для «Польшчы Пілсудскага» чалавечай пароды, якая так лёгка аб'яднала ў сабе адзнакі «сацыялізму» з актыўнай службай у «ахранцы», – «штабныя аксельбанты з чырвонай какардай»... Гэта добра выхаваны, карэктны, асабіста заслугоўваючы даверу, прадстаўнік «чыстых» вярхоў дэфензівы, які не ведае той «чорнае» працы, праз якую атрымліваюцца тыя «паведамленні агентаў», якімі ён бескрытычна аперыруе, будуючы на іх свае шаблонныя заключэнні. Трагізм яго становішча ў тым, што пры ўсім сваім асабістым недаверы, ...нават пагардзе да сваіх агентаў, ён усё ж такі астаецца цалкам у іх руках...» Кіраўнік аддзела бяспекі ў Навагрудку (1925–1928), пасля ў Торуні. Віцэ-ваявода ў Кельцах (на пачатак 1930-х). Дырэктар інспекцыйнага бюро Міністэрства ўнутраных спраў (1935–1939). Станіславоўскі ваявода (1939). Арыштаваны органамі бяспекі ПНР (1952). Памёр у турме.

*Літ.:* «Нашае жыццё». 1923. № 6. Ст. 4; Sylwester Wojewódzki przed Sądem Marszałkowskim. War., Wydawnictwo Sejmowe, 1997. Str. 258.

**Ястшэбскі Ян** // Jastrzębski Jan (?–4.1938), грамадска-палітычны дзеяч. Працаваў у дзяржаўным банку. Сябра Гродзенскай гарадской Рады ад аб'яднання польскіх грамадскіх арганізацый (1919–1927). Сябра Камітэта адбудовы Фары Вітаўта (1922); праўлення Польскага дабрачынна-

га таварыства ў Гродна (Polskie T-wo Dobroczynności) (на 1921, 1930); таварыства добраахвотнай пажарнай аховы Гродна (Stowarzyszenie ochotniczej straży pożarnej w Grodnie) (на 1937). У некралогу газета «Nad Niemnem» пісала: «Сапраўдны гродзенец, быў ён адной з тых постацей, якія надаюць нашаму гораду своеасаблівыя рысы. Горача прывязаны да кожнага закутка, жыва рэагаваў на любыя змены, якія адбываліся апошнім часам у яго бацькоўскім горадзе. Як і ўсе палякі, што яшчэ памятаюць захопнікаў на мясцовым бруку, рваўся да грамадскага жыцця, дэманструючы самыя глыбокія праявы патрыятызму і свае перакананні…» У кнізе «Saga o Grodnie» Л. Саванеўскі прысвяціў яму наступныя радкі: «Solidny Jan Jastrzębski, pracownik bankowy…» Магчыма, яго сям’я была выслана савецкімі ўладамі ў Казахстан (1940).

*Літ.:* ДАГВ Ф. 142. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 34; «Echo grodzieńskie». 14.5.1921. № 105. Str. 2; «Nowe życie». 1922. № 24. Str. 174; «Gazeta Polska Ziemi Grodzieńskiej». 1.12.1930. № 330. Str.1; «Nad Niemnem». 10.4.1938. № 1. Str. 3; C. Omiljanowicz-Szoka. Moje grodzieńskie lata 1939-1945. Łódź, 1993.Str. 139; L. Sawoniewski. Saga o Grodnie. Łódź -Białystok, 1999. Str. 52; Т. Казак. Дакументы магістрата г. Гродна 1919-1939 гг. у фондах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV-XX. Гародня, 2009. Ст. 356.

**Яўровер Яўхім-Леон** // Jawrower Joachim-Leon (каля 1900–?), настаўнік. Працаваў у школах № 1 і № 6 Гродна, у бюро школьнага інспектара; малодшых класах першай грамадскай коэдукацыйнай гуманітарнай гімназіі па вул. Bonifraterska, 7. Намеснік старшыні Гродзенскага аддзялення Саюза яўрэяў – удзельнікаў барацьбы за незалежнасць Польшчы (Związek Żydów uczestników walk o niepodległość Polski). Кандыдат на выбарах у гарадскую Раду ад гэтай жа арганізацыі (1939). Жыў па вул. Brygidzka, 13.

*Літ.:* ДАГВ Ф. 98. Воп. 1. Спр. 11. Арк. 17; «Dziennik kresowy». 20.4.1939. № 108. Str. 6.

**Яффе А.** // Jaffe A., сябра Гродзенскай гарадской Рады ад спіса яўрэйскага дэмакратычнага блока (Żydowskiego demokratycznego bloku) (1919–1927).

*Літ.:* Przegląd statystyczny m. Grodna w latach 1922 i 1923. Grodno, 1925. Str. 10.

# Спіс асоб у польскай транскрыпцыі

## A

**Abramowicz Abram** // Абрамовіч Абрам
**Abramowicz Borys** // Абрамовіч Барыс
**Abramski Leon** // Абрамскі Леон
**Adamczyk Eugeniusz** // Адамчык Яўгеній
**Adamowicz Bronisław** // Адамовіч Браніслаў
**Adamowicz Mikołaj** // Адамовіч Мікалай
**Adamowicz Wiaczysław** // Адамовіч Вячаслаў
**Adamska Józefa** // Адамска Юзэфа
**Adin Mozes** // Адзін Мозес
**Adler Henryk** // Адлер Генрык
**Akrzyński Teodor** // Акжынскі Тэадор
**Albrecht Mieczysław** // Альбрехт Мечыслаў
**Albrecht Wilhelm** // Альбрехт Вільгельм
**Aleksandrowicz Chaim** // Александровіч Хаім
**Aleksandrowicz Jan** // Александровіч Ян
**Aleksandrowska Stefania** // Александроўская Стэфанія
**Aleksandrowski Juliusz** // Александроўскі Юлій
**Aleksy / Gromadski Aleksander** // Алексій / Грамадскі Аляксандр
**Aleksy Aleksander** // Алексы Аляксандр
**Alena / Konowałowa Olga** // Алена / Канавалава Вольга
**Aluszkowa Melania** // Алюшкава Малання
**Aleksiuk (Aleksiuczanka)** Augenia // Аляксюк Аўгіння
**Aleksiuk Pawel** // Аляксюк Павел
**Ałszybaja Grzegorz** // Алшыбая Грыгорый
**Amdurski Szejma** // Амдурскі Шэйма
**Ameljanczyk Mikołaj** // Амяльянчык Мікалай
**Ananczanka Aleksander** // Ананчанка Аляксандр
**Ananczanka Zofia** // Ананчанка Зоф'я
**Anderman Józef** // Андэрман Юзаф
**Andruszewicz Mikołaj** // Андрушэвіч Мікалай
**Anichimowski Mikołaj** // Аніхімоўскі Мікалай
**Antoniuk Mikołaj** // Антанюк Мікалай
**Antoniusz /** Marczenko Aleksandr // Антоній / Марченка Аляксандр
**Antonowiczówna Halina** // Антановіч Галіна
**Antonów Jan** // Антонаў Янка
**Anzelgejm Samuel** // Анзельгейм Самуіл
**Apon Sergiusz** // Апон Сяргей
**Arciszewski Arkadiusz** // Арцішэвіч Аркадзій
**Arciszewski Józef** // Арцішэўскі Юзаф
**Arkin Oskar** // Аркін Аскар
**Arszun Aleksander** // Аршун Аляксандр
**Arwaniti Włodzimierz** // Арваніці Уладзімір
**Aszkienazy Grzegorz** // Ашкеназі Грыгорый
**Atłas Małka** // Атлас Малка
**Autuchiewicz Stanisław** // Аўтухевіч Станіслаў

## B

**Bachanowicz Aleksander** // Бахановіч Аляксандр
**Bachmiński Józef** // Бахмінскі Юзаф
**Badasz J.** // Бадаш Ю.
**Badylkies //** Бадылкес
**Badylkies Szmerel** // Бадылкес Шмерэл
**Baehr Wacław** // Баер Вацлаў
**Bajcar Adam** // Байцар Адам
**Bajdzinska Ludmila** // Байдзінская Людміла
**Bajkowski Stanisław** // Байкоўскі Станіслаў
**Bajraszewski Aleksander** // Байрашэўскі Аляксандр
**Bakun Roman** // Бакун Раман
**Balicki Józef** // Баліцкі Іосіф
**Bałamut Stefan** // Баламут Стэфан
**Bałdowski Stefan** // Балдоўскі Стэфан
**Bałłesik Józef** // Балёсік Юзаф
**Banaszak Edward** // Банашак Эдвард
**Bankowski Wasył** // Банкоўскі Васіль
**Bańkowska Marja** // Банькоўская Мар'я
**Bańkowski-Kirkor Leon** // Банькоўскі-Кіркор Леон
**Baran Samuel** // Баран Самуіл
**Baran Sergiusz** // Баран Сяргей
**Baranowski Piotr** // Бараноўскі Пётр
**Bartoszewski Stanisław** // Барташэўскі Станіслаў
**Bass Noach** // Бас Ноах
**Bassel (Basel) Adolf** // Басель Адольф
**Bejner Leon** // Бейнер Леон
**Beklemiszówna Natalia** // Бяклемішава Наталья
**Beklemiszów Kuzma** // Бяклемішаў Кузьма
**Beklemiszów Mikołaj** // Бяклемішаў Мікалай
**Bełko Tzvi** // Бялко Цві
**Benken Gustaw** // Бенкен Густав
**Berbecka Zofia** // Бярбецкая Зоф'я
**Berbecki Leon** // Бярбецкі Леон
**Berezowski Dawid** // Беразоўскі Давід
**Bergman Aleksandra** // Бергман Аляксандра
**Berman Zeev** // Берман Зееў
**Białas Stanisław** // Біалас Станіслаў
**Biegański Józef** // Бяганскі Юзаф
**Bielajew Aleksy** // Бяляеў Алексы
**Bielawski Leon** // Бяляўскі Леон
**Bielecki Konstantyn** // Бялецкі Канстанцін
**Bielecki Marian** // Бялецкі Мар'ян
**Bielicki L.** // Бяліцкі Л.
**Biełodworski Maciej** // Беладворскі Маісей
**Bieniaszówna Jadwiga** // Беняш Ядвіга
**Bieniecki Julian** // Бянецкі Юльян
**Bieniecki Tytus** // Бянецкі Тытус
**Bieńkiewicz Henrych** // Бянкевіч Генрых
**Biernacka Hanna** // Бярнацкая Ганна
**Birger H.** // Біргер Х.
**Birgier Salomon** // Біргер Саламон
**Bisping Jan** // Біспінг Ян
**Bloch Abraham** // Блох Абрахам
**Blumsztejn Chaim-Mordka** // Блюмштэйн Хаім-Мордка
**Bławdziewicz Marian** // Блаўдзевіч Мар'ян
**Bobrowski Ignacy** // Баброўскі Ігнацы
**Bochenkówna Sylwestra** // Бахенак Сільвестра
**Bodnar Edward** // Боднар Эдвард
**Bogdanowicz Stanisław** // Багдановіч Станіслаў
**Bogucki Piotr** // Багуцкі Пётр

**Bohatyrewicz Bronisław** // Багатырэвіч Браніслаў
**Bojew Wsiewołod** // Боеў Усевалад
**Bołądź Jerzy** // Боландз Ежы
**Borodicki Mordechai** // Барадыцкі Мардэхай
**Borowski Piotr** // Бароўскі Пётр
**Borsukiewicz Wacław** // Барсукевіч Вацлаў
**Bortnowski Antoni** // Бартноўскі Антоній
**Bortnowski Stanisław** // Бартноўскі Станіслаў
**Borucki Teodor** // Баруцкі Теадор
**Braude Abram** // Браўдэ Абрам
**Brawer Dawid** // Бравер Давід
**Breycha Jan** // Брэйха Ян
**Brochocka Hanna** // Брахоцкая Ганна
**Bronerwajn Chaim-Icchok//** Бранервайн Хаім-Іцхак
**Bronicka Leokadia** // Браніцкая Леакадзія
**Bronowicz Bolesław** // Брановіч Баляслаў
**Brustin Abel** // Брусцін Абель
**Bruszko A.** // Брушко А.
**Brylski Łucjan** // Брыльскі Люцыян
**Bryzman Herman** // Брызман Герман
**Buchali Kazimierz** // Бухалі Казімір
**Buda Marian** // Буда Мар'ян
**Budnik Alena** // Буднік Алена
**Budrewicz Janina** // Будрэвіч Яніна
**Budzanowski Teofil** // Будзаноўскі Тэафіл
**Bujło Stanisława** // Буйло Станіслава
**Buława Irena** // Булава Ірына
**Buława Jan** // Булава Ян
**Burakiewicz Feliks** // Буракевіч Фелікс
**Bursztyn Józef** // Бурштын Юзаф
**Busz Oktawian** // Буш Актавіян
**Buteński Lejzer** // Бутэнскі Лейзер
**Butkiewicz Otton** // Буткевіч Атон
**Butkowska Odes** // Буткоўская Адэс
**Byk Lejzer** // Бык Лейзер
**Byk Samuel** // Бык Самуэл
**Bystrzyński Adam** // Быстрынскі Адам

## C

**Celeni Antonina** // Целені Антаніна
**Cetnerski Heljodor** // Цэтнерскі Хельядор
**Chazan Samuel** // Хазан Самуэль
**Chmełewska Wanda** // Хмялеўская Ванда
**Chmełnicka //** Хмяльніцкая
**Chmielówna Antonina** // Хмялюўна Антаніна
**Chmurkowska-Fiszer Maria** // Хмуркоўска-Фішэр Марыя
**Chmurkowski Feliks** // Хмуркоўскі Фелікс
**Chodokowski //** Хадакоўскі
**Chojnowska Stanisława** // Хайноўская Станіслава
**Chojnowski Piotr** // Хайноўскі Пётр
**Choromański Zygmunt** // Хараманскі Зыгмунт
**Chwilewicki Mark** // Хвілявіцкі Марк
**Cieński Witold** // Ценскі Вітольд
**Cybulski Zygmunt** // Цыбульскі Зыгмунд
**Cydzik Stefan** // Цыдзік Стэфан
**Cylowicz Szymon** // Цыловіч Шымон
**Cytarzyński Jerzy** // Цытаржынскі Ежы
**Cywińska Stefania** // Цывінская Стэфанія
**Czajkowska Alena** // Чайкоўская Алена
**Czajkowski Bronisław** // Чайкоўскі Браніслаў
**Czaplicka Maria** // Чапліцкая Мар'я
**Czaplicki Marian** // Чапліцкі Мар'ян
**Czaporowski Łucjan** // Чапароўскі Люцыян
**Czapów (Czapówna)** Wiktoria // Чапув Вікторыя
**Czengery Władysław** // Чангеры Уладыслаў
**Czepurny Jafim** // Чапурны Яфім
**Czermański Edward** // Чэрманскі Эдвард
**Czerwiakowski Mikołaj** // Чарвякоўскі Мікалай
**Czudzinowicz Michał** // Чудзіновіч Міхал
**Czyrniańska Irena** // Чырнянская Ірына

## D

**Danewicz Sara** // Даневіч Сара
**Danilewski Roman** // Данілеўскі Роман
**Daniłłowicz Olgierd** // Даніловіч Альгерд
**Dańko Franciszek** // Данько Францішак
**Dąbrowski Czesław** // Дамброўскі Часлаў
**Dąbrowski Fryderyk** // Дамброўскі Фрыдрых
**Dąbrowski Stanisław** // Дамброўскі Станіслаў
**Dąbrowski Wojciech** // Дамброўскі Войцех
**Dąbrowska Halina** // Дамброўская Галіна
**Dąbrowska Jadwiga** // Дамброўская Ядвіга
**Dekański Władysław** // Дэканскі Уладыслаў
**Delimata Józef** // Дэлімата Юзаф
**Dem Ludwik** // Дэм Людвік
**Demowa Estra** // Дэмова Эстэра
**Derszeń Andrzej** // Дэршэнь Андрэй
**Dessin Oskar** // Дэсін Аскар
**Dobrzański Włodzimierz** // Дабжанскі Уладзімір
**Docha Antoni** // Доха Антоні
**Doerynger Filip** // Дайрынгер Філіп
**Dolinski Adolf** // Далінскі Адольф
**Domański Wiktor** // Даманскі Віктар
**Domaszewski Stanisław** // Дамашэўскі Станіслаў
**Dombrowa Józef //** Дамброва Юзаф
**Doroszkiewicz Dmitro** // Дарашкевіч Дмытро
**Dowgiałło Bronisław //** Даўгяла Браніслаў
**Draczewska Janina** // Драчэўская Яніна
**Drażnin Łazarz** // Дражнін Лазар
**Drażnin Samuel** // Дражнін Самуіл
**Drożański Józef** // Дражанскі Юзаф
**Drucki-Lubecki Jan** // Друцкі-Любецкі Ян
**Dudko Marek** // Дудко Марк
**Dudko Stefania** // Дудко Стэфанія
**Dulewicz Grzegorz** // Дулевіч Рыгор
**Dulik Edmund** // Дулік Эдмунд
**Dyjas Jerzy //** Дыяс Ежы
**Dymczak Stanisław //** Дымчак Станіслаў
**Dyonizy /** Klimczak Michał // Дыянісіі / Клімчак Міхад
**Dzekuc-Malej Lukasz //** Дзекуць-Малей Лукаш
**Dzierżanowski Adam //** Дзержаноўскі Адам
**Dzierżanowski Kazimierz //** Дзержаноўскі Казімеж
**Dziewulski Eugeniusz** // Дзявульскі Яўгеній
**Dziwak Szmuel** // Дзівак Шмуэль
**Dzwonkowski Aleksander//** Дзванкоўскі Аляксандар

## E

**Efroimzon Josel** // Эфраімзон Ёсель
**Efron Jakub** // Эфрон Якаў

**Elert (Elertowiczowa) Wiktoria** // Элерт Вікторыя
**Elizarowicz Szejna** // Элізаровіч Шэйна
**Epsztejn (Epsztejnówna) Helena** // Эпштэйн Алена
**Epsztejn Chaja** // Эпштэйн Хая
**Epsztejn Mojżesz** // Эпштэйн Маісей
**Epsztejn N.** // Эпштэйн Н.
**Epsztejn Szołoma** // Эпштэйн Шлома
**Epsztejn Zofia** // Эпштэйн Зоф'я
**Ejnarowicz Stanisław** // Эйнаровіч Станіслаў
**Ejsymont Tadeusz** // Эйсмант Тадэвуш

## F

**Fabiani Ignacy** // Фабіані Ігнацый
**Fajnsod Michał** // Файнсод Міхал
**Falewicz Wojciech** // Фалевіч Войцех
**Fedorow W.** // Фёдараў У.
**Fein Nisan** // Феін Нісан
**Fenster Malka //** Фенстэр Малка
**Ferenc Antoni** // Ферэнц Антоній
**Fidelman L.** // Фідэльман Л.
**Fiedoruk Leonid //** Федарук Леанід
**Fiedoruk Włodzimierz //** Федарук Уладзімір
**Filcer Aleksander** // Філцэр Аляксандр
**Fill Maciej** // Філ Мацей
**Fill Zofia** // Філ Зоф'я
**Fink Szmuel** // Фінк Шмуэль
**Finkiel Mojżesz** // Фінкель Маісей
**Finkiel-Jaworowska Estera** // Фінкель-Явароўская Эстэра
**Firstenberg Wincenty** // Фірстэнберг Вінцэнт
**Fiszer Marek** // Фішэр Марк
**Fołtyn //** Фолтын
**Frank M.** // Франк М.
**Frank Oswald** // Франк Освальд
**Frankowski Władysław //** Франкоўскі Уладыслаў
**Frejdovitcz Nochum** // Фрэйдовіч Нахум
**Freund-Krasicki Mikołaj** // Фрэўнд-Красіцкі Мікола
**Fromberg Dawid** // Фромберг Давід
**Fruchterman Ozjasz** // Фрухтэрман Аўсей

## G

**Gache Jerzy** // Гахе Ежы
**Gagman Borys //** Гагман Барыс Карлавіч
**Gajewski Stanisław //** Гаеўскі Станіслаў
**Galpner Mozes** // Гальпнер Мозес
**Gałska Marija** // Гальская Марыя
**Gałska Antonina** // Гальская Антаніна
**Garber Haim** // Гарбер Хаім
**Gasperski Michał** // Гасперскі Міхал
**Gawryluk Anastazja** // Гаўрылюк Анастасія
**Gelbort Abraham** // Гельборт Абрам
**Gelgor Lejba** // Гельгор Лейба
**Genadij /** Moisejew Anatol // Генадзій / Маісееў Анатолій
**Gendler Abram** // Гендлер Абрам
**Gerrutto Witołd** // Герута Вітольд
**Gershuni Racheal** // Гершуні Рахель
**Giedrojć Kazimierz** // Гедройц Казімір
**Gitler Szewel** // Гітлер Шэвель
**Gleb-Koszańska Bronisława** // Глеб-Кашанская Браніслава
**Glicensztein Szymon** // Гліцэнштэйн Шымон
**Glikfeld Mojżesz** // Глікфельд Маісей
**Godlewska Maria** // Гадлеўская Марыя
**Godzijewski Eugeniusz** // Гадзіеўскі Яўгеній
**Goldberg Berta** // Голдберг Берта
**Goldberg Szloma** // Голдберг Шлома
**Goldshmid-Gad Leibel** // Голдшміт-Гад Леібел
**Goład Luka** // Голад Лука
**Gonerka Michał** // Ганерка Міхаіл
**Gorbulska Malka** // Гарбульская Малка
**Goroszko Michał** // Гарошка Міхаіл
**Gorzechowski Jan //** Гажахоўскі Ян
**Gorzkowska Aleksandra** // Гажкоўская Аляксандра
**Gosiewski Czesław Julian //** Госіеўскі Часлаў Юльян
**Gożański Izaak** // Гажанскі Ісаак
**Gożański Michał** // Гажанскі Міхаіл
**Górnicka Anna** // Гурніцкая Ганна
**Górski Antoni** // Гурскі Антоні
**Grabowski //** Грабоўскі
**Grob Izrael** // Гроб Ізраэль
**Grochowski Stanisław** // Грахоўскі Станіслаў
**Grodnicki Józef** // Гродніцкі Юзаф
**Grykowski Aleksander //** Грыкоўскі Аляксандр
**Grzegorzewski Zenon** // Гжэгажэўскі Зянон
**Gręzdzielski Jan** // Гжэндзельскі Ян
**Grzymislawski Leon** // Гжыміслаўскі Леон
**Gula Józef** // Гула Юзаф
**Gurwicz Szmuel** // Гурвіч Шмуэль
**Gutman Karol** // Гутман Карл
**Gutowska-Rojewska Emilia** // Гутоўская-Раеўская Эмілія
**Gutowski Leon** // Гутоўскі Леон
**Guz Józef** // Гуз Юзаф

## H

**Haliezer Rachel** // Халезер Рахела
**Halpern M.** // Халперн М.
**Hałiszka Konstanty** // Халішка Канстанцін
**Hamling Zygmunt** // Хамлінг Зыгмунт
**Haniewski-Tomaszewski Aleksander** // Ханеўскі-Тамашэўскі Аляксандр
**Hanus Marian** // Ханус Мар'ян
**Heimberger Aleksander** // Хемберг Аляксандр
**Hejko Alozjy** // Хейко Алозей
**Herowski //** Хероўскі
**Herszon Alfred** // Хершон Альфрэд
**Higier Jan** // Хігер Ян
**Higier Arkadiusz //** Хігер Аркадзь
**Hiszberg //** Хішберг
**Hlebowicz Brunon** // Глябовіч Брунон
**Hochfeld Stanisław** // Хохфельд Станіслаў
**Hofbauer //** Хафбаўэр
**Horbaczewski Zygmunt** // Гарбачэўскі Зыгмунт
**Horbowy Zygmunt** // Харбовы Зыгмунт
**Horoszowski Romuald //** Харашоўскі Рамуальд
**Horwath Artur** // Хорвац Артур
**Hosselbush Jerzy** // Хасельбуш Ежы
**Hryniewicz Felicja** // Грыневіч Феліцыя
**Hryniewicz Marian** // Грыневіч Мар'ян
**Hrynkiewicz Franciszek //** Грынкевіч Францішак

# I



# J



# K

**Kopelman Szepsel** // Капелман Шэпшэль
**Korczewski Z.** // Карчэўскі З.
**Korczyński Iwan** // Карчынскі Іван
**Korkuc Wojcech** // Каркуць Войцех
**Kornowska Edwarda** // Карноўская Эдварда
**Korulska Jadwiga** // Карульская Ядвіга
**Korulski Tadeusz** // Карульскі Тадэвуш
**Korun //** Карун
**Korzeniowski Antoni** // Кажанеўскі Антоній
**Kosikowski Tadeusz** // Касікоўскі Тадэвуш
**Kosińska Janina** // Касінская Яніна
**Kosowski Aszer** // Касоўскі Ашэр
**Kossowski Jerzy** // Касоўскі Ежы
**Kostrzewska-Przanowska Teresa** // Кастшэўская-Пржаноўская Тэрэза
**Kostrzewski Józef** // Кастшэўскі Юзаф
**Koszałew Wasiłij** // Кошалеў Васілій
**Kościałkowska-Zyndram Wilhelmina** // Касцялкоўская-Зындрам Вільгельміна
**Kotłubaj Ludwik** // Катлубай Людвік
**Kotowski Józef-Napoleon** // Катоўскі Юзаф-Напалеон
**Kowalski Adam** // Кавальскі Адам
**Kowalski Józef** // Кавальскі Юзаф
**Kozakiewicz Kazimierz** // Казакевіч Казімір
**Koziński Piotr** // Казінскі Пётр
**Kozłowski //** Казлоўскі
**Kozłowski Łudosław Stanisław** // Казлоўскі Людаслаў Станіслаў
**Kozłowski Rastisław //** Казлоўскі Расціслаў
**Kozłowski Wiktor** // Казлоўскі Віктар
**Kozon Bolesław** // Козан Баляслаў
**Kraczkiewicz P. //** Крачкевіч П.
**Krajewski Łucjan** // Краеўскі Люцыян
**Krajnowicz Beniamin** // Крайновіч Беньямін
**Kramkowski Ksawery** // Крамкоўскі Ксаверы
**Krasińska Jadwiga** // Красінская Ядвіга
**Krasiński Kazimierz** // Красінскі Казімір
**Krasiński Michał** // Красінскі Міхал
**Krassowski Feliks** // Красоўскі Фелікс
**Kraszyn Piotr** // Крашын Пётр
**Kraśnik Jan** // Краснік Ян
**Krauze Leopold** // Краўзэ Леапольд
**Krauze Zofia** // Краўзэ Зоф'я
**Krawiec Abram** // Кравец Абрам
**Krawiec Janina** // Кравец Яніна
**Krechowicz Dyonizy** // Крэховіч Дыянісій
**Kreczkowski //** Крачкоўскі
**Krelman Abram** // Крэлман Абрам
**Krocin Ludwika //** Кроцін Людвіка
**Krokowski Józef** // Кракоўскі Юзаф
**Kronuk Leja** // Кронік Лея
**Krotke Tadeusz** // Кротке Тадэвуш
**Kru Hirsz** // Кру Гірш
**Krupa (Krupianka) Wanda** // Крупа Ванда
**Krysztań //** Кшыштань
**Krzywiec Jan** // Кшывец Ян
**Krzywiec Jerzy** // Кшывец Ежы
**Krzywiec Kazimierz** // Кшывец Казімір
**Krzywonosowa Eleonora** // Кшываносова Элеанора
**Kucharczuk Anna //** Кухарчук Ганна
**Kucharczuk-Andruszewicz Marja** **//** Кухарчук-Андрушэвіч Мар'я
**Kuczewski Ludwik** // Кучэўскі Людвік
**Kujawiński W.** // Куявінскі Вацлаў
**Kulczycki Stanisław** // Кульчыцкі Станіслаў
**Kulikowski Bazyli** // Кулікоўскі Базыль
**Kułakowski Dmitrij //** Кулакоўскі Дзмітрый
**Kunc Franciszek** // Кунц Францішак
**Kunda Edmund** // Кунда Эдмунд
**Kurbski-Kuzniacow Włodzimerz** // Курбскі-Кузняцоў Уладзімір
**Kurczyk //** Курчык
**Kuryłłowicz Antoni** // Курыловіч Антоні
**Kusta Józef** // Куста Юзаф
**Kuza Józef** // Куза Юзаф
**Kuzniak Bronisław** // Кузняк Браніслаў
**Kuźnicki Izaak** // Кузніцкі Ісаак
**Kwaśniewski Stanisław** // Кваснеўскі Станіслаў
**Kwieciński Julian** // Квяцінскі Юльян
**Kwiek Kazimierz** // Квіек Казімір
**Kwint Rafał** // Квінт Рафал

## L

**Labondz Łazarz** // Лабондз Лазар
**Lamaszewicz Nadzieja //** Ламашэвіч Надзея
**Landau Maksymilian** // Ландштэйн Максімільян
**Lande Izrael** // Ландэ Ізраэль
**Laure Marian** // Лаўрэ Мар'ян
**Leczycki Aleksander //** Лечыцкі Аляксандр
**Leduchowski Andryjan //** Ледухоўскі Андрыян
**Lejnsztern Piotr** // Лейнштэрн Пётр
**Lenartowicz Michał** // Ленартовіч Міхаіл
**Lensztern Wincenty** // Ленштэрн Вінцэнты
**Leonowicz Wincenty** // Леановіч Вінцэнты
**Leśniewicz //** Лясневіч
**Lew Sonia** // Лев Соня
**Lewandowicz Stanisław** // Левандовіч Станіслаў
**Lewandowski Michał** // Левандоўскі Міхал
**Lewicki Andrej //** Лявіцкі Андрэй
**Lewin David** // Левін Давід
**Lewulis Henryk** // Левуліс Генрых
**Libicka Anna //** Лібіцкая Ганна
**Lifszyc Abram //** Ліўшыц Абрам
**Lifszyc J. //** Ліўшыц Ю.
**Lifszyc Mojżesz** // Ліўшыц Маісей
**Link Julian** // Лінк Юльян
**Lipińska Grażyna** // Ліпінская Гражына
**Lipnik Chaja** // Ліпнік Хая
**Lipnik Abram** // Ліпнік Абрам
**Lipnik Juda** // Ліпнік Юда
**Lipski Bronisław** // Ліпскі Браніслаў
**Listowski Edward** // Лістоўскі Эдвард
**Litwinowicz Aleksander** // Літвіновіч Аляксандр
**Lobman Rafał** // Лобман Рафал
**Lojka Bazyli** // Лойка Васіль
**Lorenc Franciszek** // Лорэнц Францішак
**Luberadzki Józef //** Люберадзкі Юзаф
**Lubicz Abram** // Любіч Абрам
**Lubkiewicz Antoni** // Любкевіч Антоні
**Lubowski Shmuel** // Любоўскі Шмуэль

